УДК 821.161.3-3
ББК 84(4Беи)
Б24

**Бароўскі, А.**
Б24 Кузня : подступы да рамана / Анатоль Бароўскі. – Мінск : Кнігазбор, 2018. – 400 с.
ISBN 978-985-7207-05-3.

Галоўны герой рамана Антон Клімовіч трапляе ў XVI стагоддзе і становіцца летапісцам гетмана Вялікага Княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага падчас Аршанскай бітвы.

Аўтар стварае свет, у якім існуе некалькі рэальнасцяў. Касмічныя і падземныя падарожжы, анёлы-ахоўнікі ўдала спалучаюцца з падзеямі сучаснай гісторыі – фармаванне і станаўленне незалежнай Беларусі, з’яўленне і знікненне дзяржаўных сімвалаў, чарнобыльская катастрофа, абарона Курапатаў…

Кніга зацікавіць чытача любога ўзросту, але найбольш будзе карыснай для вывучэння нашага мінулага вучням і студэнтам сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7207-05-3**

# ЗВАРОТ ДА ЧЫТАЧА

Шаноўны мой і дарагі чытач! Дзякую, што зацікавіўся напісаным і трымаеш гэтую кнігу (калі напісанае стала кнігай) у руках. Папярэдзіць хачу толькі вось у чым.

Напісаў я гісторыю сваёй вёскі, дзе жыў, але падзеі, якія адбыліся, здарыліся не ў гэтых Крушніках, а ў іншых, выдуманых ці прыдуманых мною. Ці створаныя ў маім хворым уяўленні. І Мазыр, у якім я жыў, працаваў, кахаў, сумняваўся, перажыў горычныя дні (было і такое), таксама не той горад, пра які я расказваю. Іншы. Прыдуманы, населены зусім іншымі людзьмі, і простым людам, і чыноўнікамі, майстрамі, музыкамі і настаўнікамі…

Крушнікі з'явіліся не самі па сабе, узніклі не з мроіва ці сівых туманоў, не, – вёску стварылі людзі. Некалі памешчык Шумскі выйграў у карты значную частку Мазырскага Палесся. Прывёз з Варшавы братоўмалайцоў Юніцкіх – Міколу, Пятра і Адама. Яны і стварылі паасобку паселішчы – Крушнікі, Зладзееўку, Зарубанае, Засунне… З розных канцоў прыязджалі туды людзі і сяліліся, будавалі з мясцовага лесу прасторныя дамы – ні ў чым не адмаўляў людзям пан Шумскі: бяры колькі хочаш лесу і будуй што хочаш…

І пасяліліся ў вёсках Фалінскія і Равуцкія, Кашаеды і Кашэвічы, Зданевічы і Крупы, а род Юніцкіх разросся і ўмацаваўся: пабраліся браты з паляшучкамі-прыгажунямі, дзяцей нарадзілі. Аляксандр Антонавіч Юніцкі нават быў першым старшынёй калгаса…

Добра было пры панах, а вось пры савецкай уладзе ўсё стала наадварот… 1937 год для Крушнікаў стаў чорным, укрыжаваным. Быццам помсцячы Юніцкім за тое, што яны стварылі столькі паселішчаў ды з'явіліся з белапанскай Польшчы, вырашылі знішчыць іх пад корань.

Арыштавалі іх як ворагаў народа і дзясяткамі расстрэльвалі ў сутарэннях мазырскага храма, адпраўлялі ў ГУЛАГі і ГАРЛАГі… А прабабулю геніяльнага вынаходніка «Струнных дарог» і «Касмічных палётаў» Анатоля Юніцкага – Еўфрасінню – нкусавец, залыгаўшы вяроўкай за рукі, як цяля, сам седзячы на кані, цягнуў да Мазыра, да той жа царквы, на Галгофу…

Але Гасподзь не дазволіў забойцам звесці са свету ўсіх Юніцкіх, як не палову вяскоўцаў вырваў з крывавых кіпцюроў сталінскіх катаў-нкусаўцаў, збярог, збярог для таго, каб род іх доўжыўся і застаўся ў памяці і гісторыі чалавецтва. Пра Анатоля Эдуардавіча Юніцкага і яго геніяльныя ідэі сёння ведае ўвесь свет.

Таму я не мяняў гэтае прозвішча на іншае, бо яно належыць Гісторыі. А вось астатнія…

І таму калі нехта з вас сустрэне знаёмае прозвішча, не думайце, што ён існаваў ці існуе: выпадковае супадзенне. І ўсё выпадковае, як і сама кніга, сам раман. Вось узбрыло ў галаву і нехта прымусіў-надаўміў усё выкласці на паперу. Таму я здымаю з сябе ўсялякую адказнасць і віну, калі штосьці ці нешта распавёў не так, як яно было насамрэч, калі ўбачыце няпраўду ці фальш: мне прадыктавалі, а я запісаў…

Адно мяне суцешвае – а можа прыдуманае зробіцца куды цікавей, чымся рэальнае. Бо невядома яшчэ: мы жывём у прыдуманым свеце, ці то прыдуманы свет жыве ў нас. У гэтым яшчэ разабрацца трэба. Тут нашча, на галодны страўнік ды без чаркі, як казаў мой дзед Ян Фіцнер, не дакумекаеш. Таму давайце ў гэтым будзем разбірацца разам. Мо і прыйдзем да ўзаемапаразумення, а што, хіба можа быць інакш? Паляшук з палешуком паразумеюцца пры любым надвор'і, з закуссю ці без яе, абы пляшка на стале стаяла.

А мне застаецца што – пакінуць цябе сам-насам з маімі прыдумкамі і фантазіямі, выправіцца ў новую дарогу, у новыя падарожжы, прыхапіўшы з сабою жаданне адкрыць сваю планету, свой Валацужны шлях, і калі ўсё ў мяне атрымаецца добра, удасца здзейсніць задуманае, то я цябе зноў запрашу да сябе, паклічу на новую нязведаную планету. Калі, безумоўна, у цябе з'явіцца такое жаданне пасля блукання па маіх тумановых сцежках. Дзверы кузні для цябе, як і для ўсіх чытачоў, заўсёды расчыненыя і любому госцю рады. І каваль асабіста чакае кожнага з вас. Заўсёды. І ў любы час, у любое надвор'е.

А таму я кажу: будзьма!

Да сустрэчы!

# І. ЗНІКНЕННЕ

## 1

Ён выйшаў з шызага мроіва, спыніўся, азірнуўся. Пачакаў, калі следам з лагчыны выйдзе і Жуча, утробна ўздыхне, паглядзіць на яго разумнымі вачамі, – і тады яны далей пойдуць ужо ўпобачкі – ён трошкі паперадзе, яна ж – як не датыкаючыся да яго пысай.

Але Жуча нечага затрымлівалася, не выходзіла з балотца, толькі чуліся яе крокі, уздыхі. Ці то яна дапала да сакавітай травы і не магла адарвацца, мусіць, схоплівала шаршавым языком вяршкі зеляніны, ці што іншае затрымлівала яе за тым нябачным парогам… А ён і не злаваў за яе затрымку, бо характар рагуля мела ўпарты і неспакойны, цярпліва чакаў, гледзячы на наваколле. Падумаў толькі: «А дзе ж Насця? Не дачакалася, пайшла дадому? Мо збаялася чаго, а мо адпрэчыў яе сваім спудлівым вокрыкам».

Помнілася, што на гэтым месцы ўчора ляжала тоўстае бярозавае палена: ён пераступаў яго, ідучы па сцяжыне. Цяпер там ляжала амаль спарахнелая рэштка дзеравіны, ладна ўжо струхлелай, а бяроста, што абкручвала яе, нагадвала няйначай закарэлыя бінты на чыёйсьці хворай счарнелай назе. Трохметровую паляняку, якую пакінуў ці згубіў нейкі чалавек, ён не ўбачыў, нават і знаку не засталося ад яе. Побач расла маладая бярэзінка, але замест яе вымкнулася новая дзеравіна, што і ствол рукамі абхапіць нельга. Перад ім лес адкрыўся неяк з іншага боку – стаў невядомы, загадкавы, зусім іншы…

Як і да гэтага выразна патыхала ядлоўцам, жывіцай, імхом.

Падумаў няўцямна пра тое, што ён, можа, зусім і не ў гэтым месцы ўвайшоў у тое загадкавае воблака, якое схавала яго не толькі ад жонкі, а і ад усяго навакольнага свету і сусвету… Здзіўлення асаблівага не адчуваў, як не адчуваў і страху, што нешта перамянілася на зямлі. Не раз і да гэтага ён трапляў у невядомыя лясныя нетрыскі, блудзіў, а потым праз нейкі час выбіваўся на нейкую сцежку, якая і прыводзіла да нейкай дарогі. І няважна, што ён адыходзіў ад сваіх мясцінаў кіламетраў за дваццаць, галоўнае, што потым вяртаўся дадому. Людзі з далёкай вёскі, у якую ён тады трапляў, даведаўшыся, што ён зблудзіў, ахвотна тлумачылі, як яму дабрацца да яго Крушнікаў…

– Жуча, ты дзе? – паглядзеў у туман, які нізка слаўся над зямлёю, хаваючы буяшнік і ядлоўцавае кустоўе, але рагуля чамусьці не выходзіла на чысты прагалак, нечага марудзіла. – Мо цябе там дзе ваўкі задралі, што я і не чуў.

І ўсё ж яна, цяжка валюхаючы вымем, намацваючы нагамі цубкую зямлю, пачала вырывацца-выплываць з абдымкаў шэра-блакітнай наміткі. Спачатку паказаліся яе рогі, потым лоб, пыса, а потым і ўся галава, ногі ступалі на шызы мох, тапіліся ў ім, што і не відаць было капытоў, і Жуча пераступіла мяжу-парог усімі чатырма нагамі, замахала хвастом, быццам адганяла ад сябе плойму надакучлівых здрокаў…

Жуча падышла да гаспадара, спынілася, апусціла да зямлі галаву, быццам прасіла ў яго даравання за сваю затрымку.

– Нічога, нічога, я не злуюся на цябе, – пастараўся супакоіць Жучу чалавек і паклаў руку на яе галаву. – Пайшлі дадому ўжо, бо зачакаліся нас, хвалююцца, дзе гэта мы падзеліся з табой…

Жуча ўзняла галаву, уздыхнула, пайшла павольна паперадзе гаспадара.

Паспрабаваў выцерабіцца на сцежку, па якой з Насцяй ішлі да ўзболатка, да лагчынкі, якую збіраліся перайсці разам, каб падняцца па схіле наверх і дапяць да сваіх грыбных мясцінаў. Сцежкі той не ўбачыў. Тады ён рашыў пайсці напрасткі, не разбіраючы ўжо дарогі і сцежак, ведаў, што ўсё роўна выб'ецца на поле сваёй вёскі.

Ён і сам не ведаў, чаму яны надоечы пайшлі з Жучаю ў лес. Яна чамусьці заўпарцілася, не захацела ісці ў агульны статак. Калі завёў яе да іншых кароў, што ішлі па вуліцы вёскі, яна загізавала і як не бегма кінулася назад да свайго хлява. Як ні ўгаворвала яе Насця пайсці да вясковых кароў, яна стала як укапаная ў хляве і не рухалася з месца…

– Нічога не разумею, – развяла рукамі гаспадыня, гледзячы на гаспадара, як бы вінавацілася, што Жуча так сябе паводзіла, – ніколі такога з ёю не здаралася…

– Ну няхай пастаіць у хляве, раз ёй так хочацца, – рашыў гаспадар, не здзівіўшыся выбрыкам рагулі, – а мы пайшлі якіх губякаў назбіраем, ды сваю баравіковую палянку наведаем… Ажыны паспелі ўжо.

Гаспадар насунуў на ногі гумавыя боты, накінуў на плечы брызентавы дажджавік з капюшонам – у такой амуніцыі найлепш пачувацца ў лясных гушчарніках.

Дзеці – старэйшая Веранічка, якая хадзіла ўжо ў пяты клас, і Паўлік – першакласнік, – выйшлі з хаты і стаялі ў двары. Маці перад гэтым пакарміла іх, наказала нікуды далёка ад дому не адлучацца, папрасіла яшчэ пакарміць курэй і гусей.

Гром, адчуўшы, што гаспадары сабраліся ў лес, радасна вішчаў, скуголіў, нецярпліва круцячыся побач, адчуваючы, што наперадзе шчаслівыя хвіліны – набегаецца ўволю, лясных жыхароў папужае, качак балотных паганяе…

Наста, накінуўшы вочапку кашаля за плячо, першай пайшла па цубкай сцежцы да лесу. Але калі яны мінулі агароды і дайшлі да ўскрайку лесу, пачулі, як позаду іх рыкнула карова. Яны азірнуліся – Жуча стаяла воддалеч і маўкліва паглядала на іх, як прасіла дазволу пайсці разам з імі ў лясныя нетрыскі…

– Ну і наравістая ты аднак, – паўшчуваў яе для прыліку нязлосна гаспадар, усміхнуўшыся, гледзячы на жонку, – пайшлі ўжо, пайшлі… Знойдзеш травы для сябе, галоднай не будзеш…

Яны прайшлі Алёсы, потым мінулі Міколікаў брод, хутар дзеда Апанаса, дзе стаялі старыя здзічэлыя яблыні і грушы, вішні, – выбіліся на шырокую сцежку, якая і вяла да тых мясцінаў, якія прыцягвалі іх, адкуль яны не раз вярталіся з поўнымі кашалямі баравікоў і рыжыкаў…

Настрой у Антона сапсаваўся яшчэ з вечара. Разглядаючы старыя фоты ў альбоме, Наста нечакана наткнулася на агульны здымак, які выклікаў у яе нечаканы прыступ рэўнасці. Яніна, з-за якой і ўспыхнула тое полымя, на здымку, побач не стаяла, стаяла ззаду ўсіх, толькі галава выглядала з-за чыіхсьці плячэй. Антон ніколі і не гартаў старонкі таго старога альбома, не гарэў настальгіяй па тым часе і ў думках амаль ніколі не ўспамінаў, а хіба калі так, зрэдчас. А тут… Разглядала Наста той здымак, уздыхнула, а потым горычна, нават з адценнем раўнівай злосці, папракнула ўголас:

– От не можаш забыць сваёй Яніны!

Ён здзіўлена паглядзеў на яе, не разумеючы, з якой прычыны яна яго так папракнула – ніякай жа нагоды не даваў, ніколі не ўспамінаў пра той час і дзяўчыну, чаму жонцы не дае спакою тое, што ён некалі кахаў яе. Кахаў, ну і што, дужа кахаў, ды Яніна і сама не ўпусціла яго ў сваё сэрца, забараніла нават весці яму нейкія размовы пра каханне. Што яго вельмі здзівіла і пакрыўдзіла нават тады. Не ведаў, чаму дзяўчына так рэзка адпрэчыла яго. А тут, праз столькі гадоў…

Антон падышоў да жонкі. Яна сядзела на канапе, на каленях разгорнуты фотаальбом, а ў руках, выцягнуўшы асобна, трымала тую агульную фатаграфію.

– Жонка, што з табою? Я ніколі не разглядваў гэты здымак. Калі ён табе не даспадобы, парві і выкінь са свайго сэрца. Няма ніякай Яніны, можа яе і зусім не было. Ці мала мы можам закахацца ў каго ў юначым

узросце, ну і што з таго? Я і сам збіраўся фота выкінуць з альбома, ды рукі не даходзілі.

– Але ж ты кахаў яе? – пеканула жонка зноў, але кладучы ўжо фота ў альбом. – Цалаваўся-мілаваўся?

– От ты зноў за сваё. А што ж у такіх выпадках робяць – на адлегласці гавораць адно аднаму словы? Ну ці не сорамна табе варушыць мінулыя гады? Пасаромейся, Наста. Дзяцей пасаромейся, Бога пабойся.

– Пры чым тут Бог?

– Можа мне знікнуць, з'ехаць куды на час, каб ты супакоілася, га? Каб, пабыўшы адной, зразумела, што ты разбураеш тое, што існуе між намі.

Жонка як не чула яго болю, незразумелае пачуццё рэўнасці, што нечакана падступілася да яе, агнём запалала ў душы і засланіла ўсё на свеце – і розум, і пачуццё рэальнасці, і адказнасці за праяўленне сваёй безадказнасці. Нехта, злы і атрутны, зашыўся ў яе душу, у яе сэрца.

– Ды знікай, калі табе так хочацца! Мо мне хоць жыць лягчэй стане.

Голас прагучаў не яе, а нечы іншы, яна і сама здзівілася, што вымавіла іх. Як нехта ўсяліўся ў яе, паклаў тыя словы на язык, а яна іх і прамовіла. Прамовіла і спужалася, але ўжо было позна. Яна ўжо мерылася ступіць назад, жахнулася, абхапіла шчокі рукамі, хацела неяк выбачыцца, папрасіць нават даравання, але ў роце здранцвеў язык, а рот нехта замкнуў на замок.

Антон, не заўважыўшы яе ніякаватасць і нечаканую віну, пакінуў жонку, пайшоў у двор. Балюча стала на сэрцы, не ведаў, як утаймаваць той боль. То ніколі не ўспаміналa пра Яніну, а тут нечакана выбухнула. Не разумеў яе рэўнасці, не разумеў, чаму яна стараецца зрабіць яму балюча. Вунь дзеці амаль дарослыя, гаспадарка ў спраўнасці, у школе ўсё ідзе ладна, а яна як з-за вугла: «Ты ж кахаў яе…» Калі тое было, а калі і было, то сплыло. Крыўдна, вельмі крыўдна, што яна так балюча раніць яго.

Гром насіўся па лесе бы ўгарэлы, то ў адным месцы чуецца брэх, а праз хвіліну зусім у адваротным баку, а то і зусім не чуваць яго і здагадайся, дзе цюцьку нялёгкая носіць. Малады, жвавы, неспакойны… Непадобны да іншых сабак – адмецінка цікавая на ілбе ў яго ў форме сардэчка. Сам увесь чорны, а «чырва» на ілбе белая, як на карце намаляваная.

Жуча, маўкліва валюхаючыся позаду, зрэдку спынялася і зрывала з сакавітых купак яшчэ не зжоўклую траву, жавала ўжо ідучы.

## 2

Па Палессі раскашоўвалася жаўтакосая восень, скідвалі бярозы з сябе залатнікі, сыпала імі шчодра на дарогі і сцежкі, на верасоўнікі і імхі. Дыхалася вольна і лёгка, і ў блакітным мроіве ледзь заўважна гайдаліся ўдалечы дрэвы.

Ішлі, не ўспаміналі ўчарашнюю размову. Наста хацела ўсё ж павінавацца за свае неабдуманыя словы, ды падумала, што не цяпер яна іх скажа, а тады, калі вернуцца, калі прыйдуць стомленыя дадому, калі сядуць за стол, каб павячэраць. Нейкі ўнутраны сорам за нявытрымку пасяліўся ў яе сэрцы. І яна ўжо шкадавала Антона, шкадавала, што незаслужана пакрыўдзіла яго. Рашыла надалей быць мудрэйшай, не распускаць язык, а цаніць тое, што ў іх было, а было ў іх усё – і каханне, і павага, і душэўная цеплыня…

Паперадзе іх, у кроках сарака, ішоў чалавек. І не зразумець – ці то хлопец, ці дзяўчына. На сагнутай руцэ кошык. Апрануты ў шэра-зялёную куртку з капюшонам. На нагах ці то кеды, ці светлыя чаравікі.

Хацелася дагнаць, пацікавіцца, хто такі і адкуль, але не зрабіў гэтага. Прыглядалася пільна да падарожніка і Наста. Толькі сабака не звярнуў увагу на незнаёмца, як і не бачыў яго.

Як толькі адлегласць пачала скарачацца паміж імі і незнаёмцам, Антон кашлянуў, прыставіўшы кулак да рота, спадзеючыся, што ён ці яна павернецца да яго, пакажа свой твар. Той, што крочыў паперадзе, збавіў хаду, і яны падыходзілі ўсё бліжэй і бліжэй.

– Мо хто з Крушнікаў? – спытаў Антон у жонкі.

– Не ведаю, не пазнаю нікога, мо не з нашай вёскі…

Паперадзе пабег ужо трушком Гром, прабег паўз чалавека, нават не зірнуўшы на яго, не гаўкнуўшы на незнаёмца. Тое яшчэ больш здзівіла Антона.

Ужо амаль параўняліся, але незнаёмец ступіў крок улева. Хацеў нырнуць у гушчарняк.

– Шаноўны, ты адкуль? З нашай вёскі?

Той спыніўся, павярнуўся да іх, скінуў капюшон з галавы, і на плечы вываліліся кудлатыя косы. Перад імі стаяла дзяўчына. Глядзела на іх і ўсміхалася:

– Не, я не з вашай, я з суседняй…

«Божа, адкуль яна тут? – працяла Антона з ног да галавы незразумелае пачуццё. – Няўжо гэта яна?»

– Выбачайце, – прамовіў вінавата Антон, зніякавеў, не ведаў, як паводзіць сябе далей, і ці прызнавацца, што перад ім яна – Яніна Альшанская.

Яна глядзела на Антона, чамусьці нахмурылася, пераклала лазовы кошык з адной сагнутай рукі ў другую. Потым падышла да Антона. Зірнула яму ў вочы, прамовіла:

– Антон, не хадзі туды. Вам з Настай нельга далей ісці. Небяспечна.

– Чаму?

– Не хадзіце туды.

Ён нічога не разумеў. Не разумеў, чаму яна сустрэлася праз столькі гадоў на яго шляху, чаму папярэджвае пра нешта. А што тут небяспечнага можа здарыцца ў знаёмым з дзяцінства лесе? Звера якога напаткаюць? Дык яны тут такія і не водзяцца.

Дзяўчына моўчкі пайшла ад іх, пакінуўшы абодвум няўцямнасць і недаўменне, зноў накінула на галаву капюшон.

Ногі яе блыталіся ў чарнічніку, і ён заўважыў, што была яна босая.

«У кастрычніку і босая? Чаму? Ты ж ніколі ў гэтых краях не з'яўлялася, адкуль, адкуль ты прыляцела сюды, Яніна? Няўжо матэрыялізавалася пасля ўчарашняй сцэны рэўнасці Насты? Як спецыяльна рашыла пацвердзіць, што ты існуеш, што не пакідаеш мяне ў спакоі… Але ж ты нараджаеш неспакой і ў маёй душы, і ў душы Насты. Навошта? Для чаго?»

– Дык вы, выходзіць, з Янінай і любошчы ў лесе ладзіце? – паглядзела на яго Наста, і ў голасе яе пачулася ўжо лёгкая дрыготка. – А я замінаю табе…

– Якія любошчы, адумайся, – роспачна адказаў ён, – ты пра каго думаеш?

– Пра яе, пра Яніну, а пра каго ж яшчэ?

Ён ужо засмяяўся, круцячы галавой:

– Табе здалося, што гэта Яніна, ты абазналася. Яна даўно ў мінулым, і я не ведаю, дзе яна, што робіць, дзе жыве. Супакойся, прашу. А калі гэта і яна, то не можа быць такой маладой. Той было дваццаць, а праз пятнаццаць гадоў ёй пад сорак ужо. А гэта нейкае дзяўчо з'явілася, падобнае да Яніны, і ёй каля дваццаці гадоў. Нешта тут не так, і я не разумею, чаму яна не пускае мяне ці нас ісці далей. Мо вернемся, Наста? – паглядзеў ён ужо ўмольна на жонку. – Толькі супакойся, прашу.

Яна не пачула яго, яна была глухая да прамоўленых слоў і прапановы вярнуцца. Праглынула крыўду, нешта сціснула грудзі і перахапіла дыханне.

– Добра, я супакоілася. Даруй, можа я і сапраўды залішне прыдзіраюся да цябе, даруй. Вярнуцца? Навошта? Пойдзем далей.

Антон падзівіўся яе запозненаму «даруй», але ў душы ўсё роўна застаўся горкі асадак. Гэтае выбачэнне прагучала неяк не шчыра, мімаходзь, без акцэнту на канкрэтную правіну.

Далей трэба спусціцца ў нізінку, а з яе падняцца ўжо на ўзгорак, на выспачку. Нізка па зямлі слаўся-сцяліўся густы малочны туман, стаяў нерухома, да яго не датыкаўся подых ветру. Быццам агромністая снежная глыба апусцілася на зямлю, схаваўшы, увабраўшы ў сябе кустоўе і карані дрэваў, адно шчыкі бяроз і асінаў выглядвалі зверху.

Яна нагадвала яшчэ і важкае воблака, што легла на зямлю адпачыць, і было яно нейкае таямнічае, пагрозлівае, – такога яны ніколі не бачылі, не сустракалі, таму спыніліся і здзіўлена паглядалі на яго, маўчалі.

Перад імі ўзвышалася нябачная сцяна, якая перагарадзіла ім дарогу і не пускала ісці далей. Ім бы павярнуць назад, альбо абысці за сотню крокаў тую мясціну, ці найлепш перачакаць, калі згіне снежны туман, развеецца. Яны не зрабілі гэтага, нехта зацьміў ім розум, і яны ўжо не валодалі сабой, нехта кіраваў імі, штурхаў наперад…

І зазвінела напятай струной даўкая цішыня. Ні голасу птушак, ні подыху ветру, – усё знерухомела, стаілася, застыла ў гнятлівым чаканні.

Нават Гром сцішыўся, стаў на адным месцы, не круціўся. Гаўкнуў раз, другі. Брэх яго выдаваў неспакой, напружанасць. Ён загірчэў, як быццам убачыў наперадзе ляснога звера, натапырыўся, упёрся нагамі ў зямлю, прыпаў галавой да шызага імху. Пачаў адступаць назад, падціснуўшы хвост, пузам сунуўся па зямлі, вочы гарэлі, выдаючы адначасова сабачы страх… Не вытрымаў, порстка ўскочыўшы, адскочыў ад таго месца, адбегся і схаваўся за Настай, верачы, што тое невядомае і страшнае, што стаілася ў гушчары, не дацягнецца ўжо да яго.

Жуча аднак таго туману не бачыла, не адчувала і ніякай пагрозы ці трывогі, яна сотні разоў разам са сваімі таваркамі нырала ў росныя ранкі і вечаровыя тумановыя прасціРадлы, у якія заганяў іх пастух, таму і тут не спынілася разам з гаспадаром і гаспадыняй, першай пасунулася ў купчастую шэрань…

Следам за ёй падаўся і гаспадар, прагнаўшы ад сябе здранцвенне і асцярожлівасць, якія авалодалі ім, упэўнена зрабіў першы крок наперад: пераступіў прывідны парог, за якім знерухомелі тугія касмылі бела-памаранчавай купы…

І ў той жа момант, як пераступіў мяжу і другой нагой, наперадзе бліснула зыркая маланка, асляпіўшы яго дашчэнту, як не адштурхнула нябачнай энергетычнай хваляй назад. Тут жа загрымеў гром, нават не гром, а вы-

бухнуў з шыпеннем пярун, скіраваўшы сваё жоўта-белае джала ў зямлю, праменька яму пад ногі. Ногі апаліла кіпячая магма, і ён ужо не стаяў на зямлі, бо не адчуваў апірышча, а вісеў у паветры…

А потым адчуў дзікі боль у скронях – як хто абхапіў абцугамі галаву і пачаў сціскаць яе мацней і мацней, выціскаючы з яго жыццё і сілу; потым да яго прыляцелі-падбеглі нейкія невядомы істоты і працялі наскрозь вострымі дзідамі, прыўзнялі-адарвалі ад зямлі, паднялі ўверх, да вяршыняў бяроз, да самага неба… Ці то яму здавалася, што ляцеў увысь, а насамрэч праваліўся ў апраметную.

Перад тым, як адштурхнуцца ад прыцяжэння зямлі, ці наадварот, паддацца прыцягненню, здагадаўся крыкнуць-папярэдзіць жонку загаднагучным выкрыкам:

– Насця, не ідзі сюды, не ідзі-іii!.. Тут страшна!..

Не чуў, што яна крыкнула яму ў адказ, бо адразу праваліўся ў нейкую прорву, падаў і падаў ужо некуды ўніз, губляючы сябе і рэальнасць часу… Ці то свет перакуліўся перад ім, ці ён сам перакуліўся перад светам, не зразумець. І адключылася ад яго свядомасць, ён перастаў быць самім сабой і не ведаў, ці знаходзілася ў ім душа, ці вылецела з яго і паляцела ў невядомым кірунку, каб перасяліцца ў нейкую іншую істоту…

Але перад тым, як знепрытомнець, паспеў ці то прашаптаць, ці то падумаць: «Божа, уратуй!..»

**3**

Вяртаўся ён у вёску не той дарогай, якой яны выправіліся з жонкай у лес, а з іншага боку вёскі. Тры дарогі злучаліся ў Крушніках. Адна з іх цягнулася з Зімовай Буды, другая – з Зялёнага Моху (паралельна з дарогай віляла-крыўлялася вузкакалейка, якую некалі праклаў памешчык Звіртоўскі), трэцюю праклалі з Турбінкі. Ён і апынуўся на турбінскай дарозе. На самым нават пачатку яе – перад уваходам у вёску.

Уздыхнуў, вызваліўшыся ад душэўнага цяжару, выпхнуўшы з сябе трывогу, атрос з сябе рэшткі напружанасці. Да яго падступілася спакойная роўнасць, нават праблiскі ўнутранай радасці. Не цярпелася ўжо дапнуць неяк да роднага селішча, парадавацца разам з усімі сустрэчы…

Першым ішоў гаспадар, за ім не адставала Жуча.

Непакоіла хіба адно пытанне – чаму не дачакалася яго жонка? Нейкая нават крыўда сядзела ў ім. Ці напалохаў яе ягоны папераджальны вокліч пра небяспеку, ці можа прайшло ладна часу, і яна знемаглася чакаць яго,

пакуль ён выйдзе да яе з Жучай? Прыйдзе дадому, разбярэцца, распытае, разам пасмяюцца над гэтым здарэннем.

Знаёмыя гукі сустрэлі яго – брэх сабакі ў нечым двары, недзе закудахтала чубатка, праляскацелі колы пустога воза па драўляным мосце… Ды і паветра, настоенае на зяляніне агародаў, на спелай садавіне і вясковым церпкім настоі дымоў ад печаў, палыну і святаянніку, гною ад калгасных фермаў, – усё ён гэта ўспрыняў як роднае і звыклае, якое даўно злілося з яго істотай, стала неад'емным і неразрыўным… Таму ён падняў твар да сонца, што схавалася ў аблоках, прымружыў вочы і ўдыхнуў праз нос на поўныя грудзі паветра, уцягваў да тае пары, пакуль не кальнула ў скроні. Выпускаў з сябе накопленае паветра, сціснуўшы зубы, прапускаючы маленькімі порцыямі праз губы да тае пары, пакуль не выйшла ўсё да апошняй кропелькі…

Прыслухаўся: у сплецiва гукаў і пахаў упляталася ледзь чутная музыка – быццам бы гухкаў бубен, выводзіў нейкую мелодыю саксафон. Мелодыя была бадзёрая, заліхвацкая, толькі для скокаў. Падалося, што падаў голас звон у храме, але, зразумеў, што тое здалося, сярод дня ён ніколі не падаваў голас.

Да сэрца зноў, больш настойліва і порстка, падступілася радасць – ён дома, у роднай вёсцы, хутка сустрэнецца з роднымі, абдыме іх, прытуліць да сябе. І тут жа чамусьці злавіў сябе на думцы, што радасць яго незразумелая, быццам ён адсутнічаў колькі гадоў і толькі цяпер вярнуўся. Так, з ім здарылася нешта неверагоднае, незразумелае, праваліўся ў нейкую багну, але выбраўся з яе, не застаўся там, а потым доўга шукаў Жучу, заначаваў у лесе, адзін раз, здаецца, заначаваў… Знайшоў яе на Бекавым селішчы, і вось ідуць дадому, так што ён нават і не паспеў засумаваць па вёсцы, па жонцы, па дзецях…

– Ну, што, Жуча, пайшлі дахаты, твае таваркі на пашы, так што будзем карміць цябе дома…

Рагуля матлянула галавой, разумеючы гаспадара, пайшла паперадзе яго. Толькі цяпер заўважыў, што дарога пакрытая асфальтам, і што асфальт пакладзены не ўчора-заўчора, а значна раней, але не прыдаў гэтаму асаблівага значэння, іншыя думкі непакоілі яго.

Параўняўся з першай хатай – дзядзькі Зміцера, лесавода, сябра свайго бацькі, які накульгваў усё жыццё на правую нагу – некалі пашкодзіў калена сякераю. Зміцер акурат стаяў каля веснікаў, паклаўшы рукі на частаколіны, пільна ўглядаўся ў чалавека, што крочыў па вуліцы разам з кароваю. Калі падышоў бліжэй, то і не пазнаў чалавека, выглядаў ён

неяк нязвыкла, не так, як раней, і тварам змяніўся – у маршчаках, сівая барада кудлацілася…

– Вітаю вас, Зміцер Адольфавіч! – выгукнуў голасна, радуючыся, што сустрэў аднавяскоўца.

Зміцер нахмурыўся, яшчэ пільней пачаў прыглядацца да чалавека – пазнаваў і не пазнаваў аднавяскоўца, нешта замінала адказаць на вітанне. Таму ў адказ толькі кіўнуў галавой, адразу ж павярнуўся і нішком пашыўся ў двор. Падалося, што чалавек нечага ці некага спалохаўся.

«Мусіць, не пазнаў, – падумаў весела, – ведама ж, як Пііп з канапель выглядаю, ды і капюшон яшчэ накінуў на галаву… Адкуль жа Зміцеру пазнаць мяне?»

Тады ён здагадаўся скінуць з галавы капюшон, нават вызваліўся і ад самога плашча, здзівіўшыся, чаму хламіда вісела на ім – на вуліцы ні дажджу, ні слоты не было.

Крочыў далей ужо вальней, быццам вызваліўшыся ад непатрэбнага цяжару, які замінаў яму, перашкаджаў адчуваць сябе лёгка і свабодна.

Найперш захацелася зазірнуць у вясковую раду – сельсавет, дзе працавала жонка, абрадаваць яе сваім з’яўленнем. Але варотцы, аказалася, былі зачынены – на іх вісеў важкі амбарны замок. А на вільчыку верандачкі, перад уваходам, прымацаваны быў не бел-чырвона-белы, а бэсэсэраўскі сцяг. Ён не паверыў сваім вачам – няўжо час адагнаў гадзіннік назад, і краіна апынулася ва ўчарашнім савецка-бальшавіцкім мінулым?! Хіба такое можа быць?

«Мусіць, сёння выхадны дзень у іх, – падумаў, адыходзячы ад веснікаў, – а мо што іншае… Значыць, Наста ў гэты час дома».

Але чым бліжэй падыходзіў да сваёй хаты, тым галасней чулася музыка. Ці то моладзь весялілася, ці проста хто ўключыў радыёлу на ўсю моц…

Каля хаты цёткі Мацвеіхі на лаўцы сядзелі жанчыны. Тры жанчыны. Ён пазнаў іх, але не адразу, – Паліна, Зоська і Ганна. Яны яшчэ здалёк угледаліся ў чалавека, які крочыў у іх бок, недаўмявалі, хто гэта ў такі час разам з кароваю мераў крокі па вясковай вуліцы. Мацвеіха – цётка Ганна – паднесла руку да вуснаў, нечага пахітала галавой, наклала на сябе крыж.

– Вітаю вас, цётачкі! – схіліў падарожнік галаву ў паклоне, усміхаўся, гледзячы на іх. – Бог у помач!

– І табе… хай Бог па… магае, – не зганяючы з твару здранцвеласць, з цяжкасцю прамаўляючы словы, адказала цётка Ганна.

Жанчыны пераглянуліся, не ведалі, як паводзіць сябе, што казаць далей. Нечаканай была сустрэча, дужа нечаканай. Нават недарэчнай.

– Мо не пазналі мяне, цётачкі? – заўсміхаўся гаспадар Жучы, гладзячы рагулю па шыі.

– Чаму ж не, ды пазналі цябе, Антон, як не пазнаць. Хаця ты чамусьці памаладзеў за гэты час…

– За які час?

– За той час, як не бачылі цябе…

– А-а…

– Як там мае?

– Ды нічога, усё добра… Ідзі, сам пабачыш.

Ён развітаўся, пайшоў. А яны пачалі шаптацца, пераражагналіся, заўздыхалі, ніяк не маглі даўмецца, што ж гэта такое здарылася з чалавекам, што некалі прапаў нечакана, як скрозь зямлю праваліўся, а тут вынырнуў знекуль, людзей палохаючы сваім з’яўленнем…

Цётка Ганна наўздагон наклала крыж на вясковага настаўніка, уздыхнула:

– Памажы, Божа!.. Госпадзе, памілуй яго душу грэшную!

Чым бліжэй падыходзіў да сваёй сядзібы, тым больш пачынала трымцець сэрца – ці не ў яго двары раскашоўвалася, весялілася грамада, падагрэтая віном і бадзёра-узнёслай музыкай, і што ж за такое свята ці падзея наведаліся ў іх хату… Выйшлі на вуліцу хлопцы і дзяўчаты, смяяліся, нешта выкрыквалі, размахвалі рукамі. Мо віном падвесялелыя, а мо радасць нейкая выпірала вонкі, але ніхто з іх не мог і секунды пастаяць спакойна, як танцавалі ўсё роўна, плечукамі дзёргалі…

Першае, што яго здзівіла, гэта плот каля палісадніку і вялікія вароты з веснікамі. Ён такога не будаваў. Іх не было раней. Хата як быццам яго, але ўсё астатняе… Дзве легкавушкі стаялі воддалеч ад варот – такіх ён ніколі не бачыў, не айчынныя, нейкія замежныя. Юнак, адышоўшы ад сяброў, адвярнуўшыся, сам з сабою гаварыў, прыставіўшы нейкую прыладзіну да вуха, дакараў некага, што той не пералічыў некаму грошы, мацюкі гнуў…

Каля плота палісадніку, паклаўшы галаву на пярэднія лапы, ляжаў сабака. Быў ён стары, амаль нямоглы, вочы сумныя, безуважныя. Амаль і не глянуў на таго, хто падышоў да яго, толькі левае вуха ледзь уздрыгнула. І тут настаўніка паласнула па галаве пякучая здагадка – няўжо гэта Гром? Толькі ў аднаго яго магла быць такая адмецінка – белая плямінка каля вуха ў выглядзе сардэчка. Толькі чаму ён так пастарэў? За адну ноч пастарэў?

– Гром! – ціха паклікаў яго гаспадар. – Ці ты гэта, мой Гром?

Антон прысеў, пагладзіў старога цюцьку па галаве, але той не зварухнуўся, не адгукнуўся на сваё імя, нават вочы зажмурыў, – не пазнаваў…

Ды што Гром, Антону падалося, што і людзі, якіх ён сустрэў, не пазнавалі яго. І – не прызнавалі. Дзіўна адчуваць такое.

Чамусьці ён адчуў сябе чужым. Злавіў сябе нечакана на гэтай думцы і жахнуўся. Убачыў, што хата, якую яны будавалі разам з жонкаю, выглядала неяк інакш. Вунь і прыбудоўка зробленая, нават большая, чым сама хата. Хто паспеў пабудаваць яе? Калі?

Нічога не разумеў. І ісці наперад ужо нешта замінала, і адступаць не выпадала. Але ж трэба ж неяк праясніць сітуацыю, бо галава магла раскалоцца ад супярэчлівых думак, ад загадак і здагадак, ад незразумеласці свайго становішча і месца ў гэтым свеце і сусвеце…

Настаўнік абняў Жучу, паклаў галаву на яе шыю. Слёзы вось-вось гатовыя паліцца з вачэй. Ці то ён шкадаваў самога сябе, ці дакараў, што ніяк не можа зразумець самога сябе…

На яго здзіўлена паглядалі хлопцы і дзяўчаты. Нехта з дзяўчат курыў, далікатна збіваючы пальчыкам попел з цыгарэткі, адна з іх павісла на плячы ў хлопца і зазірала яму ў вочы, мусіць, чакаючы, калі ён яе абдыме і пацалуе… А спаднічка на ёй кароценькая, а грудзі бессаромна амаль вываліліся з разрэзу сукенкі. Дзе ён? Што з ім? У якім сне знаходзіцца і прачнуцца не можа? Калі ж заснуў – учора ці сто гадоў таму, чаму рэальнасць уцякла ад яго, адварочваецца і здзекуецца з яго? Ён сапраўдны на гэтым свеце ці прывід, якога не жадаюць бачыць людзі. Па якой прычыне, чаму?

Клімовіч адважыўся. Скінуў з сябе дажджавік і паклаў на плот, каб уварвацца ў вясельную грамаду і крыкнуць на ўсё горла, спытаць, што тут робяць невядомыя яму людзі? Але ўсё яшчэ стаяў у роздуме і нерашучасці, вагаючыся, якое прыняць рашэнне, як паводзіць сябе далей.

Ён нікога не пазнаваў з тых, што стаялі ля варотаў. І не было сярод іх яго вучняў. А мо то зусім прыезджыя, якіх запрасілі на гэты фэст, невядома… Але хто запрасіў іх, і адкуль яны? У галаву ўпіваліся тысячы нябачных іголак, скроні ледзьве вытрымлівалі напругу, якая выкручвала ўсю яго істоту.

Наперадзе чакала невядомасць, і яна прыгнятала, адбірала развažлівасць і розум. Адчуў, што ў яго жыцці здарылася нешта незразумелае і нечаканае, а што іменна, даўмецца не мог, бо мазгоў на асэнсаванне сітуацыі не ставала…

І ўсё ж ён, павагаўшыся нейкі момант, расчыніў насцеж веснікі, ступіў наперад. Перад ім у прасторным двары, які расшырылі без яго, аднёсшы плот далей, у сад, стаялі ўпрытык адзін да аднаго сталы, засцеленыя бе-

лымі абрусамі. На іх бачны бутэлькі з віном і гарэлкаю, поўна яды, а ў цэнтры сядзела нявеста ў белым вэлюме, шчасліва ўсміхалася.

Яна не адразу заўважыла таго, хто пераступіў парог веснікаў. Яе таўхануў лёгенька пад бок жаніх, паказаўшы позіркам на госця, што стаяў разгублены і зніякавелы, не ведаў, куды сябе падзець. Вясельнікі былі занятыя сваім, на чалавека ў гумовых ботах ніхто не звярнуў увагі, не да яго ім цяпер, не да яго – дзынкалі чаркамі, крычалі хмельна «горка», чакалі, калі лабызнуцца маладыя і можна будзе прапусціць чарговую чарачку… Госці асалавелыя, вясёлыя, на добрым падпітку.

«Па ўсёй краіне ідзе антыалкагольная кампанія, а яны тут адкрыта і смела балююць, нічога не асцерагаючыся, нікога не баючыся…»

Справа ад нявесты сядзелі мужчына і жанчына, падобныя да маці і бацькі, толькі нейкія пастарэлыя. Бацька глядзеў на яго, трымаючы ў руцэ чарку, як скамянеў – рука павісла ў паветры. Маці перакідвала позірк то на госця, то на гаспадара. Сядзелі, здаецца, леваруч ад жаніха, калі гэта яны, цешча і цесць. Перапыніўшы гамонку між сабой, маўкліва глядзелі на нечаканага госця, якога ніхто і не запрашаў на вяселле. Нехта здагадаўся выключыць музыку. Усталяваліся гнятлівае маўчанне і цішыня. Усе адчулі, што ў гэты момант адбываецца нешта важнае, неардынарнае. Толькі менавіта што, ніхто не ведаў.

Нявеста прымружыла вейкі, упілася позіркам у зніякавелага госця, выйшла з-за стала. Не верачы, не ўсведамляючы, але і не губляючы надзею, якою цешылася ўвесь час, узняўшы рукі да неба, што было сілы ўсклікнула:

– Мамка! Наш татачка прыйшоў! Ідзі сустракай!

Яна ababeгла вакол сталоў з вясельнікамі, спатыкаючыся ў туфлях з высокімі абцасамі, кінулася да бацькі. Падбегла да яго, абхапіла, абняла, прытулілася, пачала цалаваць, не раздымаючы рук, як бы баючыся страціць яго зноў, галасна заплакала. Вэлюм зляцеў з галавы і павіс на плячы. Дачка радавалася і крычала ад радасці, павярнулася да вясельнікаў, абвяшчала:

– Мой татачка вярнуўся, я верыла, што ён вернецца…

А ён нічога не разумеў: яго дачка Веранічка выходзіць замуж? Дык ёй жа ўсяго дванаццаць гадкоў, якое замуж? Што за метамарфоза адбываецца на яго вачах? Хто здзекуецца з яго, жартачкі наладжвае? Ці гэта насамрэч сон, і ён ніяк не можа прачнуцца? Дык і сон атрымліваецца нейкі задоўжаны, што ён прачнуцца ніяк не можа, і ад таго пакутуе нясцерпна…

– Мама! Мамачка! – пагукала некуды да людзей Вераніка. – Наш татачка прыйшоў да нас. Мамачка!..

Людзі здранцвела глядзелі на сцэну сустрэчы, пераглядаліся, стараючыся асэнсаваць убачанае, і ніяк не маглі даўмецца, што адбывалася на іх вачах. Адразу працверазелі, але ацаніць сітуацыю ўсё ж не маглі…

Наста пачула покліч дачкі. Трымаючы ў руках вялізную місу са смажанай рыбай, выйшла з веранды на ганак. Убачыла, што Вераніка абдымае нейкага чалавека, плача ад радасці. Нічога не разумела, бо не чула асноўных слоў, што казала дачка – занятая была на кухні, гасцей старалася накарміць свежай рыбай, па падносах раскладвала…

Антон убачыў жанчыну, што пільна ўглядалася ў яго, прымружыўшы вейкі, быццам мела кепскі зрок, нерухома стаяла на ганку, бы здранцвела… Не пазнаваў яе – выглядала мажнай і паўнатварай, непадобная была да яго Насці, – тую жанчыну ён не ведае, не сустракаў яе ніколі. Розум адмаўляўся што-небудзь асэнсаваць ці разабрацца ў гэтай сітуацыі…

– Мамка, гэта ж татачка наш вярнуўся, хіба не пазнаеш? Сустракай!

Толькі тады нешта дайшло да жанчыны, і яна войкнула, схапілася за левы бок, хапнула на поўныя грудзі паветра і выгукнула:

– Антон!.. Ты…

Металічная міса выпала з рукі і кавалкі рыбы рассыпаліся па падлозе, сама ж, знепрытомнеўшы, асунулася на падлогу.

Толькі па голасе, як яна выгукнула яго імя, пазнаў жонку, яе голас ён мог адрозніць з тысячы і тысячы жанчын, адразу кінуўся да яе. Прыпадняў, засунуў руку за шыю, прытуліў да сябе. Адчуў, што толькі яна адна звязвала яго з гэтым незразумелым светам, у якім ён апынуўся, бо з людзей ён нікога не пазнаваў, амаль не пазнаваў, нават нявесты-дачкі… Недзе тут павінен быць і сын, але і яго не пазнаў бы, хоць бы той і назваў сябе…

Жонка цяжка дыхала, старалася дацягнуцца да некага рукой, хітала ў бяспамяцтве галавой.

Нехта прынёс вады, лінуў на Насцін твар, хтосьці паднёс да носа флакончык з нашатырным спіртам, – і яна крутанула галавой, перакрывіўшыся тварам, хацела прамовіць нешта, але ціха прамычала, як Жуча, ніяк не могучы расплюшчыць вачэй…

Глыбака ўздыхнула, набраўшы ў сябе паветра, толькі пасля гэтага расплюшчыла вочы. Зірнула няўцямна на мужа, не бачачы яго, не пазнаючы яго…

– Насцечка, я вярнуўся, каханая мая, вярнуўся… Як я засумаваў па табе, па дзецях, адзін толькі Бог ведае…

– А чаго так доўга не вяртаўся?

– Як – доўга?

– Столькі гадоў…

– Гадоў? Чаму – гадоў? Я ж учора згінуў у тым д’яблавым тумане, а ты мяне не дачакалася… Мяне схапілі невядомыя…

– Божа, Божа, ты хоць ведаеш, Антон, колькі я адна без цябе жыла?

Яна заплакала, зноў знепрытомнела, адкінуўшы галаву на яго руку…

Побач стаялі Вераніка і Паўлік, але іх Антон Клімовіч не бачыў.

Нехта крануўся яго пляча і пачуўся хрыплы голас:

– То ты гэта, сын?

Антон, пазнаўшы голас, не паварочваючыся, адказаў:

– Так, бацька, я.

– Ну й дзяла, – уздыхнуў скрушна-радасна Юрый Адамавіч, не адымаючы рукі ад сынавага пляча, – з мёртвых уваскрос…

Трымаў Антона за руку з другога боку і дзед Міхась – каваль, і кавадіха, здаецца побач стаяла – Аўдолька. Але ўсе яны былі як у тумане, гайдаліся, быццам на тканіне намаляваныя, а тую тканіну гайдаў вецер…

Сын, не адрываючы позірк ад жонкі, не чуў бацькавых слоў, а калі і пачуў бы, то не зразумеў бы іх сэнс: не для яго яны прамоўленыя, не для яго прызначаліся…

На падворышчы ўсталявалася працяглая і гнятуча-незразумелая цішыня…

**4**

Яна напачатку нічога не зразумела. Ніводная жылка не ўздрыгнула, сэрца ні пра што не здагадвалася, не ўспрымала тое, што адбывалася. Напачатку падумала, што нейкім чынам Антон так жартуе, як ён любіць тое рабіць, чакала, калі ён ужо спакойна пакліча яе, разрагочацца з яе сполаху, паклічаісці далей.

Але ніякіх воклічаў больш не чулася. Толькі ззаду скавытаў, поўзаў па зямлі на пузе Гром, і скавытанне яго было нейкае жаласлівае, горычнае. Ніколі так не паводзіў сябе. Недзе ціньканула сінічка, але і яе голасу больш чуваць не было. Нават лес заціх, ніводная галінка не зварухнулася, бо і вецер схаваўся недзе ў лясных нетрысках.

Гром падпоўз да самых ног, прыціснуўся галавой да гумовікаў, хвост прыпаў да зямлі, не варушыўся, не ўздрыгваў. Ці то скватыў, ці то плакаў ужо, не зразумець.

Яна хацела сысці з таго месца, дзе стаяла, але ногі прыраслі да зямлі, як прыклеіў іх хто. Наста як здранцвела, усё цела яе скамянела, нават думкі ніякія не зварухнуліся ў галаве. Не маючы думак, яна не змагла ацаніць рэальнасць, а таму і трывога не падступалася да яе. Адбылося

нейкае тармажэнне думак і дзеянняў, хіба толькі грудзі сціснула нейкая абручына, і яна не магла глыбока ўцягнуць у сябе паветра. Хапала толькі яго шырока адкрытым ротам і не магла ўцягнуць у сябе.

Хацела паклікаць Антона, сказаць, каб спыніўся прыдурвацца, дражніцца з ёю, пацвельваць з яе, але язык не паслухаўся яе, скамянеў. Яна не магла ўжо вымавіць і слова.

Туман пакрысе пачынаў рассейвацца. Касмылі яго апускаліся ўсё ніжэй і ніжэй да зямлі, асядалі, гублялі свой колер – напачатку, як прыйшлі, туман нагадваў малочнае малодзіва, што нараджалася ў даёнцы, калі яна даіла Жучу, а цяпер ён раставаў, губляў сваю пеннасць, шарэў і клаўся слабой наміткай на зямлю.

Насця глядзела, як вымалёўваліся дрэвы, набываючы рэальныя абрысы, і ўжо шызы мох яскрава бачыўся па ўсёй лагчынцы.

А гаспадара не відаць. І Жучы нябачна. Калі б яны пайшлі далей, то яна ўбачыла б, як яны падымаліся б па выспачцы. А яны як растварыліся разам з туманам, зніклі.

Гром стаў на чатыры нагі і, задраўшы галаву, брахнуў раз, потым другі. І ў голасе ягоным не было трывогі, ён проста падаў голас свайму гаспадару, як казаў, што знаходзіцца побач, што могуць ужо рухацца далей…

І толькі цяпер жанчына адчула, як кальнула сэрца. Як маленечкая іголачка шпырнула ў нейкую артэрыю, потым яшчэ раз і яшчэ. І адкрылася ў яе дыханне, і яна набрала паветра поўныя грудзі, выдыхнула яго і ўжо потым, ачомаўшыся, паслала свой пазыўны покліч услед мужу:

– Антон, ты дзе? Хопіць хавацца, пакажыся, колькі тут стаяць можна?

Але ніхто не адгукаўся. Толькі цяпер яна пачула, што ў вяршалінах дрэў пагрозліва віхурыў вецер, гуляючы з важкімі галінамі сосен, убачыла, як знекуль наплылі шэрыя хмары, схаваўшы ранішняе сонца.

А на ўзгорку, на пясчанай выспачцы, стаяла дзяўчына Яніна. Была яна чамусьці не ў куртцы з капюшонам, а ўжо ў белым адзенні. І светлыя косы рассыпаліся па плячах. Маўчала, глядзела на Насту.

Наста адарвала позірк ад прывіду, паглядзела пад ногі.

Гром, пачуўшы, як гаспадыня кліча Антона, падтрымаў яе – тройчы брахнуў, потым азірнуўся на яе, быццам пытаўся, ці правільна робіць.

У скроні ўдарыў боль. Нейкі тупы, важкі і трывожны. Злёгку закружылася галава, і яна, каб не ўпасці, прыхінулася да асіны. Аддыхалася, чакала, калі вызваліцца галава ад нечаканага болю.

Нешта ці нехта падказваў ёй, каб яна пайшла ў тую лагчынку, пераканалася, ці сапраўды там няма яе Антона і Жучы. Хаця і так добра бачна, што іх не было. Але яе апярэдзіў Гром – ён першым кінуўся па слядах

гаспадара, шукаючы яго. Спыніўся каля сухадрэвіны, пачаў брахаць, гледзячы некуды ўверх, як клікаў да сябе жанчыну.

Насця яшчэ здалёк убачыла, што прыцягнула так увагу Грома: на суку вісела Антонава шэрая кепка. Яна купіла яму пазалетась у Петрыкаве, калі ездзіла туды, каб узяць у архіве неабходныя дакументы. На тым жа месцы і знікалі сляды Антона і Жучы. На шызым мху добра бачны адбіткі.

Недзе ўверсе падаў голас дзяцел – адчайна пачаў стукаць дзюбай па дрэве, шукаючы пад гнілой карой сабе казурак.

Насця зняла з сука, быццам з вешалкі, Антонаву кепку. Пакруціла яе ў руках, пазнала, прачытаўшы фабрычную бірачку «Петрыкаўская фабрыка верхняга адзення і галаўных убораў».

І ўсё роўна не магла даўмецца, што ж адбылося на яе вачах. Не разумела, чаму так непрывычна паводзіў сябе Гром, спужаўшыся нечага, адчуўшы нешта, як не вар'яцеў, куляючыся і прыпадаючы да зямлі.

«Чаму ён нешта пачуў, а я не, – падумала Насця, круцячы ў руках галаўны ўбор петрыкаўскай фабрыкі, – і што ён менавіта адчуў? Што яго так устрывожыла, які страх скалануў яго сэрца?..»

Разважала так: калі сляды заканчваліся на гэтым месцы, то яны нікуды далей пайсці не маглі. Тады дзе яны падзеліся? Узляцелі ў паветра? Праваліліся скрозь зямлю?

– Жуча, а Жуча… – пераключылася жанчына на пярэстую, думаючы, што яна хоць рыкне ў адказ.

Ніхто не падаў голасу.

Яна не ўсведамляла нічога, але сэрца падказвала, што адбылося нешта незвычайнае, страшнае, можа быць, і непапраўнае. Села на зямлю, на мяккі мох, дзе заканчваўся след Антона – упячатаны след ад кірзавых ботаў, пагладзіла яго рукой.

Ёй падалося, што адчула не толькі цеплыню падэшвы, а і голас Клімовіча, які нешта казаў ёй, прасіў ці ўмольваў… Яна толькі не разумела слоў, але ведала, што ён недзе побач з ёю, мо схаваўся дзе за ствaламі дрэў; прыглядзелася нават да дрэў, але нікога не ўбачыла.

І тады жанчына заплакала, у яе ўздрыгнулі плечы, – і толькі цяпер дайшло да яе свядомасці, што адбылося нешта містычнае, нешта нерэальнае, супрацьлеглае законам жыцця і быцця, што нейкія невядомыя сілы забралі чалавека да сябе, а разам з ім і Жучу, і ніхто ў свеце не можа іх знайсці, адшукаць, вярнуць…

У грудзі ткнуўся мокрым носам сабака, быццам супакойваў гаспадыню, прасіў так не ўбівацца. Яна пагладзіла цюцьку і прыхінулася да яго

галавы. Гром радасна і ціха заскуголіў, адчуўшы прыхільнасць гаспадыні. Яна нейкі час маўчала, не ведаючы, што рабіць, як паступіць у гэтым выпадку. І верыла, і не верыла, што можа здарыцца такое, ды яшчэ адбылося ўсё на яе вачах. Жах! Расказаць людзям – не паверацЬ, абсмяюць яшчэ, падумаюць, што з глузду з'ехала. ПаверацЬ – не паверацЬ, але сітуацыя складаная, невытлумачальная…

Думала так, але падспудна думка выводзіла на ранейшую дарогу: можа гэта ўсяго толькі сон, які ніяк не можа скончыцца, як і яна не можа прачнуцца. Вось прачнецца, на свет Божы зірне, а тут і Антон схіліцца над ёю, заўсміхаецца, хітра мiргане, спытае: «Што, напалохалася? Усё ніяк не можаш прывыкнуць да маіх жарцікаў?..»

Але ведала – не, гэта не сон. Але калі не сон, то тады што? Такое ж толькі ў сне можа адбыцца. І яна ўспомніла, як аднойчы з ёю здарылася такое ў сне. Зноў жа – у ягады ці ў грыбы пайшлі. Яна борздзенька збірае, збірае чарніцы цэлымі прыгаршчамі, а ягады буйныя, важкія, адна ў адну. Антон чамусьці не збіраў ягады, не любіў іх збіраць, асалоду атрымліваў, калі ў грыбы выпраўляўся. Ён і цяпер кашэль прыхапіў, невялікі, сярэдніх памераў, бо яшчэ і сезон грыбны не распачынаўся, сказаў, што мо губякаў якіх падчэпіць, ці хаця б тых лісічак… Яна збірае чарніцы, здаецца, шмат іх назбірала, але як гляне ў свой кашэль, то ягады толькі дно прыкрылі. Яна яшчэ шпарчэй рукамі нырае ў зялёныя галінкі, вылоўлівае, шморгае, зноў у кашэль кідае. Зірне – а чарніц не большае. Мо лянуецца, мо не дужа стараецца, бо заўсёды прыносіла паўнюткі кашэль, з коптурам. І ўсё рукамі, усё рукамі. Ніколі грабёнкай не карысталася, шкадавала псаваць чарнічнік. Тыя, хто збіраў на продаж, дык карысталіся адно грабёнкамі – шырачэзнымі, на дзве далоні, шмаргане, дык некалькі жменяў адразу ў драўлянай прыладзе.

Адарвалася ад чарніц, кінула позірк у бок Антона – дзе ж ён? А, вуняка, ля бярозы стаіць у роздуме, то на зямлю глядзіць, то ў неба галаву задзірае, як шукае там штосьці. Нейкі белы сабака падбег да яго, загаўкаў, быццам вітаўся, а прыгледзелася, дык то і не псіна зусім стаяла перад ім, а нейкае невядомае стварэнне, у воблака ператварыўся, ногі Антонавы абвалок, быццам пута накінуў на іх, як каня стрыножыў.

Хацела крыкнуць нешта, перасцерагчы, каб не ішоў наперад, не паддаваўся спакусе, але як хто замкнуў ёй вусны, і яна не магла вымавіць ніводнага слова. Бачыла, як ён зрабіў адзін крок, другі, а потым і сам стаў белы, як тое воблака. І яна закрычала, закрычала ў сне, ратуючы Антона, клічучы некага на дапамогу…

Вось тады і штурхнуў ён яе пад бок, вывеў з абдымкаў сну. Нават і не перапытаў, што ёй прыснілася. І раніцай не спытаў. А сама яна і не расказвала яму, баялася, каб такое не здарылася на яве…

«Хто ж папярэджваў мяне тады? – пачала ўспамінаць той даўні сон. – Нездарма ж ён прысніўся, ой нездарма. А вось цяпер той сон стаў рэальнасцю. Белы сабака – белы туман…»

Гром не адымаў галавы, туліўся да жанчыны. Ён быў спакойны, нават мудры, ведаў, што трэба забраць у гаспадыні душэўны боль, прыцішыць яго, адабраць, бо яна можа не вытрымаць, можа здарыцца няшчасце. І яна не праганяла яго, адчула, што яднанне з цюцькай прыносіць ёй нейкае аблягчэнне, і перастала ціснуць пад сэрцам, тупы боль адступіў ад скроняў… Насця адхінулася ад Грома, але не здымала рукі з яго галавы, прыхінулася патыліцай да шаршавай кары дрэва, прымружыла вочы. І тады ж яе знячэўку агарнуў сон, разняволіў усё цела, напруга спала, думкі сцішыліся і паплылі ў спакойным рэчышчы…

Прахапілася адразу, як толькі нырнула ў глыбокі сон, і падалося ёй, што яна праспала цэлую вечнасць. Але толькі расплюшчыла вочы, пачала ўглядацца ў сінечу неба. Тады да яе слыху пачалі далятаць гукі лесу, пошум галін меднастволых сосен наводзіў на нейкія ўспаміны, але яна не магла ўхапіць ніводзін, хаця і не старалася тое зрабіць. З галавы не выходзіла хіба адно – дзе ж Антон, што з ім сталася? І ці жывы хоць? На месцы не засталося ні слядоў змагання з кім-небудзь, ні крывавых слядоў… Як растварыўся чалавек, як праваліўся скрозь зямлю.

Гром ляжаў у ранейшай паставе, паклаўшы галаву на яе калена. Прымружыў вочы, як усё роўна драмаў, задаволены, мусіць, тым, што жанчыну перастаў даймаць пякучы боль, што яна сцішылася, выраўнялася дыханне, кроў не так порстка пульсавала па венах.

Закляклі ногі, і яна выраўняла іх, выдаўжыла, ад чаго Гром прыўзняў галаву, паглядзеў на гаспадыню. Не ўбачыўшы на твары нічога трывожнага і лядайкага, зноў паклаў галаву на нагу, заплюшчыў вочы.

А жанчына плакала. Плакала ціха і роспачна. З вачэй выкаціліся некалькі слязінак, паплылі па шчацэ. І слёзы былі нейкія пякучыя, гарачыя, якія паліліся самі па сабе, бо яна ў гэты момант і не думала пра Антона, думкі пераскочылі на нешта іншае, спакойнае і лагоднае. Хацелася выцерці слёзы, бо яны казыталі, абпальвалі твар, але рука не падымалася, так і засталася ляжаць на спадніцы. Зноў прымружыла вочы, як быццам старалася перакрыць слёзны канал, але ёй тое не ўдалося, і павольныя кроплі даганялі адна адну… Як з маладой бярозы ранняй вясной капалі нясмелыя слязінкі, не могучы яшчэ ўвабрацца ў сілу.

Нехта кранууся яе пляча. Не падымаючы галавы, убачыла перад сабою босыя ногі, якія прыкрывала мокрая белая сукня. Здагадалася – то была яна, Яніна. Не спужалася, не ўздрыгнула, сама здзівілася са сваёй спакойнасці. Таму ціхім голасам папыталася:

– Ты хто, добрая дзяўчына? І хто для цябе Антон?

– Я не дзяўчына. Я заўсёды побач з ім, але ніколі не яго. Я пры ім заўжды.

– Як гэта?

Усё яшчэ не падымала галавы, баялася глянуць дзяўчыне ў вочы.

– Цябе, Наста, не пакідае твая рэўнасць. Яна падточвае і з’ядае тваю душу. Гэта твая хвароба, пазбаўся яе.

Жанчына маўчала, у думках згаджалася з дзяўчынай, але не магла пабяцаць, што пазбавіцца гэтага, што пераменіцца.

Да Яніны падпоўз Гром. Заскавытаў, завіляў хвастом. Дзяўчына нахілілася, пагладзіла цюцьку па галаве. Ён як быццам ведаў лясную госцю, бо радасна завіхляў хвастом, заскуголіў.

– Як мне далей жыць, Яніна? Падкажы…

– Недавер выкінь са свайго сэрца. А з Антонам… Даруй, што не ўберагла яго, але ж я папярэджвала. Не паслухаўся. Ты ж чула, магла не пусціць, калі ён спытаў у цябе, ці ісці далей… Чаму не пусціла? Рэўнасць з душы сваёй не магла аніяк выкінуць? Цяпер мне прыйдзецца за ім адпраўляцца. Нельга яго пакідаць аднаго…

– А куды – «адпраўляцца»?

– Далёка. Да Канстанціна… Летапісец яму патрэбен. Ты ж не пойдзеш яго ратаваць.

Жанчына пільна, прымружыўшы вочы, угледзелася ў дзяўчыну:

– Чаму не пайду?

– Бо ты не ведаеш яго, – уздыхнула Яніна.

– Я не ведаю яго? – абурылася Насця. – Жонка яго – і не ведаю?! А ты яго ведаеш? Ты хто для яго?

Яніна, кісла ўсміхнуўшыся, адказала:

– Ты для яго толькі сёння. А я для яго яшчэ мінулае і будучыня.

– Як гэта? – у вачах здзіўленне, – Не разумею.

Адказу не пачула. Не перапытвала, не ўдакладняла.

Нешта падказвала жанчыне, што больш нельга ні пра што пытацца ў дзяўчыны, бо яна ахутана нейкай тайнай, містыкай, і ад яе сыходзіць незразумелае цяпло і лагоднасць. Тым часам Яніна выпрамілася, павярнулася і, не развітаўшыся, пакрочыла ў бок выспачкі. Наста ўсё яшчэ не глядзела ў яе бок, асцерагалася нечага, як баялася нешта парушыць. І таму не

бачыла, як дзяўчына лёгка ўзышла на ўзвышак, а потым павярнулася да яе, як высвецілася зырка яе белая сукенка і азарыўся таямнічым святлом твар. Пастаяўшы нейкі час, пайшла далей, растварылася сярод бяроз і сосен, злілася з лесам.

На тым месцы, дзе яна стаяла каля Насты, убачыла кошык, і быў ён паўнюткі, з коптурам, лясных дароў – баравікоў. Баравікі ў кастрычніку?

А яна ўсё ніяк не магла адысці ад здранцвення. Доўга сядзела з прымружанымі вачыма. Адчула, што да яе прыйшло ўсведамленне нечага значнага і неабходнага, зразумела, што Яніна выправіла яе ў нейкі іншы шлях, усяліўшы ў сэрца лагоду і спакой. Адчула яшчэ, што не трымае ў душы нейкую крыўду на дзяўчыну, перастала нават раўнаваць яе да Антона. Сама не зразумела ў сабе тую перамену, здзівілася нават.

І лёгка стала на сэрцы, не на столькі лёгка, каб пачувацца спакойнай і ўраўнаважанай, але адчула, што той унутраны боль, які пранізваў яе душу, сцішыўся. Нават дыханне зрабілася больш спакойным, і сэрца перастала напружана і порстка пераганяць кроў па сасудах.

«Усё, хопіць расседжвацца, – падумала Насця, сабраўшыся з сіламі, адчуўшы, што з яе выцекла нямогласць і слабасць, выясніліся думкі, прыйшло жаданне нешта рабіць, нешта прадпрымаць. – Сядзеннем нічога не даб’ешся, трэба шукаць нейкай рады, але якой?»

– Гром, забавіліся мы з табой, пайшлі дадому! – загадала самой сабе і свайму памочніку.

Стала на калені, потым, абапёршыся аб ствол бярозы, паднялася.

Борздзенька ўскочыў і Гром, чмыхнуў, праганяючы дрымоту, чакаў, што будзе рабіць жанчына.

Нейкі час паразважаўшы, абдумаўшы сваё становішча, усё ж рашыла пагукаць гаспадара, мо дзе ляжыць недалёчка, збіты невядомымі ворагамі ці нядобразычліўцамі, мо яе гукае слабым голасам, а яна і не чуе…

– Анто-ооон! – пагукала яна, прыставіўшы да рота далоні. – Антон, адгукніся! Дзе ты? Анто-оооон!..

Ніхто не азываўся, ні шэпт да яе не далятаў, ні душэўны покліч. Калі б нехта і выпадковы чалавек, пачуўшы яе голас, адгукнуўся, то яна стрымгалоў паімчала б у той бок. Ніхто, ні чужы, ні свой, а толькі слабы птушыны перазвон вітаў у паветры.

– Ого-го-го-ооооо! – паслала яна новы вокліч, як звычайна яны перагукваліся, калі адыходзілі далёка адно ад аднаго. – Го-го-гоооооо!..

Тое ж самае – ніхто яе не чуў.

«Божачка! – раптам ачомалася яна і здзівілася са сваёй нечаканай думкі: – Можа Антон з Жучаю даўно дома?! Перайшоў на той бок лагчыны,

убачыў, што нас з Громам няма, і падаўся спакойна да хаты… Ён нас шукае, а мы яго…»

І тут жа, рэзка павярнуўшы назад, рушыла той дарогай, якой і прыйшла ў лагчыну. Весялейшым стаў і Гром, як і перад гэтым, насіўся то справа, то злева, а то і зусім знікаў з вачэй. Жанчына сама сябе падвясельвала, настройвала на добрую хвалю, спадзеючыся, што ўсё пераменіцца да лепшага, што недарэчнасць, якая адбылася, будзе выпраўлена.

Яна прыспешвала і прыспешвала крок, задыхалася, але не спыняла хуткае хады. Паперадзе яе бег сабака, не так жвава, як перад гэтым, толькі часта перабіраў нагамі. Вось і канава, якую яны пераступілі-пераскочылі з Антонам, Жуча толькі нейкі час не адважвалася перайсці гэтую перашкоду, а потым асмялела, лёгка паднялася на ўзгорак. А во ўжо і поплаў з саджалкай, вунь і платы з жэрдак, якія атуляюць і аберагаюць людскія агароды, каб не зайшла ў грады гавяда ды не зрабіла патраву…

Не заўважыла, як прабегла поплаў, убілася ў баразну; спынілася, каб аддыхацца, ужо каля свайго плота. Здалёк яшчэ ўглядалася ў двор, спадзеючыся ўбачыць там сваю Жучу. Не ўбачыла – не было яе ў двары. А мо ў хляве стаіць, яе, гаспадыню, чакае.

Калі зазірнула ў расчыненыя вароты хлява, спахмурнела: не ўбачыла Жучы. Але і тое яшчэ нічога не даказвала – мо прыбілася да гурту ды засталася там, а Антон падаўся дадому.

На парозе веранды стаяла дачка, здзіўлена паглядзела на маці. Не пазнавала яе – распатланая, задыханая, як быццам што здарылася.

– Тата не прыходзіў, Веранічка? – з апошняй надзеяй выдыхнула роспачнае пытанне, чакала адказу.

– Не, ён жа з табой пайшоў, і Жуча следам за вамі падалася, – паціснула дачка плячыма. – А што здарылася, мамо?

У маці аслаблі ногі, і яна, ледзьве не ўпаўшы, села на прыступку ганка, уздыхнула, галаву рукамі абхапіла: «Сапраўды прапаў… Каб нешта такое, дык ужо вярнуўся б, дома чакаў бы мяне. Ні Жучы, ні гаспадара».

Дачка села побач, кранула матчына плячо. Не ведала, што казаць, прадчувала толькі, што здарылася нейкая непапраўная бяда, раз маці так убіваецца, месца сабе не знаходзіць.

Насця абняла дачку, моцна прыхінула да сябе, не ведаючы, як абвясціць ёй і сказаць пра страшнае здарэнне. За іх спінамі стаяў сын, маўчаў. Ён нічога не чуў, што казала маці, таму глядзеў на іх спакойна і ўсміхаўся.

Вераніка толькі цяпер заўважыла, што маці ў левай руцэ трымае бацькаву кепку, сціснула яе, як бы баючыся выпусціць з рук. Баялася рас-

пытваць, чаму яна такая стала, непадобнай да сябе, што ж магло здарыцца страшнага ў тым лесе, калі яны як не штодня адпраўляліся туды. Звер які страшны напаў на іх ды развёў іх у розныя бакі, ці Жуча, бадлівая і непаслухмяная, утварыла што…

– Бяда, дачушка, здарылася. На маіх вачах прапалі і Жуча, і бацька. Я ішла следам, за мной Гром, ды бацька грозна крыкнуў, каб не ішла да яго, бо там нешта страшнае з ім адбывалася – ці то білі яго, ці нажамі рэзалі. Потым я аглядала тое месца – ні крыві, ні слядоў нейкага змагання не было. Толькі Гром быў сам не свой – месца не знаходзіў, па зямлі поўзаў, брахаў і брахаў у той бок, куды пайшлі бацька і Жуча… Не магу зразумець, што адбылося, чаму Антон не пускаў мяне ісці далей.

Ззаду зарумзаў Паўлік. Ён не ўсё зразумеў, што казала маці, але дзіцячы розум падказваў, што нешта кепскае здарылася з бацькам. А што, дык тое маці і сама не ведае.

Маці і дачка азірнуліся, здзівіліся, убачыўшы Паўліка.

– Ты ўсё чуў, сынок?

– Чуў.

Насця пахітала галавой, скрушна вымавіла:

– Ой, якая, дзеці мае, на нас звалілася бяда… Гора якое.

Сын хоць і малалетка, на два гады маладзейшы за сястру, а расцаніў гэтую сітуацыю як дарослы, з важнасцю растлумачыў:

– А чаго гэта ты, маці, раней часу бацьку хаваеш? Ну знік раптоўна, знік на тваіх вачах. І тое нічога не гаворыць. Ніхто нічога пакуль не ведае, бо не разбіраліся, як мог прапасці чалавек – ніхто не нападаў на яго, не страляў, нежывога ніхто не бачыў.

Маці прытуліла да сябе Паўліка, кісла ўсміхнулася:

– Ох ты мой малы пракурор, супакоіў мяне. Дай Бог, каб так яно было і насамрэч. Як той казаў – раніца мудрэйшая за вечар. Пайшлі вячэраць і будзем разам чакаць бацьку. Прачнёмся – а бацька на парозе.

Маці прапусціла паперадзе дзяцей, сама пераступіла парог апошняй, зачыніла за сабой дзверы. Пастаяла ў роздуме, як што вырашаючы, потым пайшла ў пакой, які служыў спальняй, прычыніла за сабою дзверы.

Нехта падспудна кіраваў яе паводзінамі, думкамі, дзеяннямі. Яна паслухмяна падпарадкоўвалася маўкліваму загаду нябачнага дабрадзея, не супраціўлялася, не пярэчыла… І радая была нават, што так адбывалася. Наста не старалася нават вызначыць, хто б гэта мог быць – анёл-ахоўнік, яе дарадчык, душа яе, якая пакутавала ад невядомасці, ці, наадварот, патойбаковыя сілы, якія стараліся запаланіць яе душу…

Жанчына міжволі ўкленчыла, гледзячы ў куток, дзе стаяў абразок Божай Маці і Дзіця – яе Сына. Маці падаравала абраз. Калі пабраліся з Антонам. Дала меншы абраз, вялікі, у залатым акладзе, пакінула сабе, сказала: «А гэты забярэш тады, калі мяне не стане, ён яшчэ ад прабабулі Тэклі перайшоў да мяне…»

«Маці Божая Заступніца, Ісусе Хрысце, Сыне Божы! Да вас звяртаюся з малітвай сваёй, з якой ніколі не звярталася, бо і не было нагоды такой. У бяду я трапіла, Антон мой трапіў. Не ведаю, што адбылося – ці то Бог пакараў яго за нейкі грэх, ці, наадварот, паслаў яго на нейкае выпрабаванне… Як мне здаецца, злога ён нічога не зрабіў, хіба мо хто з роду яго некалі, не ведаю, але я малю вас разам з дзецьмі і прашу аб дапамозе – вярніце мне Антона жывога і здаровага…»

Не бачыла, як сын і дачка прачынілі дзверы, каб паглядзець, што робіць маці і, убачыўшы, што яна ўкленчыла і моліцца, гледзячы на абраз, ціхенька прычынілі дзверы.

«Божа літасцівы, да Цябе Адзінага звяртаюся, захавай і памілуй майго Антона, не адсылай яго ў апраметную, выпраў яго ў дарогу прамую і светлую і няхай яго аберагаюць анёлы-ахоўнікі, суправаджаюць яго ў падарожжы, якое выпала на яго долю… Ойча, дай рабу Твайму тое, што сама я прасіць не ўмею, не насмельваюся прасіць ні крыжа, ні суцяшэння: толькі прадстаю перад Табою. Сэрца маё Табе адкрыта: я выказала Табе патрэбу маю. Нізрынь і ацалі нас усіх, пакладзі і падымі нас, павярні нас да аблічча Твайго. З вялікай павагай і маўкліва стаімо перад Табою і Тваёй Святой воляй і недасягальнымі для нас Тваімі лёсамі. Прыношу, Ойча, у ахвяру Табе. Няма ў мяне іншых жаданняў і просьбаў акрамя выконваць волю Тваю. Навучы мяне маліцца, Сам ува мне маліся. За Антона будзем маліцца разам. Амінь…»

З цяжкасцю ўстала з кален, зрабіла крок да ложка, прысела і павалілася на правы бок, паспела толькі пакласці пад галаву далоні. Адчула ці то палёгку, ці абыякавасць, але як толькі прымружыла вочы, адразу ж пераступіла парог свядомасці – яе ахапіў моцны сон…

Але перад гэтым адчула прысутнасць дзяўчыны, якая, падалося, сядзела побач з ёю. І словы яе чуліся: «Летапісец яму патрэбен…»

## 5

Макар Кружноў, сагнуўшыся, пралез у агарод паміж дзвюма жэрдкамі. Агледзеўся. Не хацеў, каб хто бачыў яго, што ён, як злодзей, пракраўся на чужую тэрыторыю. Хаця чаму чужую? Ужо доўгі час ён прабіраецца гэтым маршрутам да сваёй каханкі, і яна кожны раз радая яго прыходу.

Прыходзіць ён заўжды прыцемкам, каб не патрапіць пад стрэл чужога вока. Праз дзверы, веснікі, як ходзяць усе людзі, яму прыходзіць не з рукі, забаронена. Сам сабе забараніў, і так дамовіліся з Серафімай. А ёй што – абы прыходзіў, абы лашчыў кароткімі вечарамі яе цела, абпальваў яе вусны гарачым пацалункам, сціскаў да болю маладыя, яшчэ крамяныя, грудзі.

Нішком сагнуўшыся, яшчэ раз зладзеявата азірнуўшыся, хуценька пасунуўся далей па глыбокай разорыне. Расчыніў веснікі, што вялі ў агарод, прычыніў іх: яны ледзь чутна рыпнулі, як прывячалі яго. Узышоўшы на ганак веранды, спыніўся, зноў паглядзеў вакол. Нікога не было на вуліцы, ніхто не праходзіў паўз хату. Толькі намерыўся расчыніць дзверы хаты, ужо за клямку ўзяўся, як яны самі перад ім гасцінна расчыніліся, і на яго дыхнуў такі жаданы і салодкі пах жытла, што аж закружылася галава… Белыя рукі раскінуліся ўшыркі, быццам крылы незямной і дзівоснай птушкі, чакалі, калі госць аддасца іх уладзе. А ён і не марудзіў, нырнуў у прыцемкавы рай, нецярпліва цалуючы ў яе вусны. І яны апалілі яго, абдалі гарачым агнём, нават полымем, і яны зліліся ў цэлае, у адзін палаючы шар, які напамінаў сонца поўдня…

І Макар падхапіў яе на рукі, не адрываючыся ад вуснаў, панёс на тое месца, дзе яны абодва ператвараліся ў нябесных птушак, узляталі ў неба, куляліся, падалі на зямлю, зноў порстка ўздымаліся да аблокаў… І так бясконца, і так процьму разоў, пакуль ставала сілаў, пакуль крылы кахання не апускалі іх на грэшны ложак, на грэшную зямлю…

Ён паклаў яе асцярожна і паціху на прасціну, быццам баяўся разбіць крышталёвую дарагую вазу ці нейкі іншы крохкі сасуд, пачаў похапкам распранацца. Яна ж загадзя скінула з сябе адзенне, ведала, што ён любіць, каб яна заўсёды была гатовая для любошчаў…

– Дзверы… Накінь зашчапку на дзверы, – весела загадала яму.

Ён заўсёды забываўся тое зрабіць, хаця ва ўсім праяўляў разважлівасць. А тут, калі яна абдымала яго, калі ўпіралася ў яго вострымі саскамі грудзей, ён губляў розум, губляў асцярожлівасць…

– А то хто яшчэ зойдзе да мяне ў госці.

– Чаму – зойдзе? У хаце ж цёмна, – не разумеў ён.

– Ну не ў госці, дык злодзей які…

Яна ўсё жартуе, як здзекуецца, пакусвае губы, прывыкае ў цемры да госця, хаця да яго і прывыкаць не трэба, яна і з зажмуранымі вачыма бачыць каханка лепей за відушчую. Дачакалася, калі вярнуўся ад дзвярэй, але не адсунулася да сцяны, ляжала так, як і паклаў яе… Толькі перад гэтым скінула з сябе халацік, каб не замінаў падчас іх уцехаў, вар'яцтва і жарсці…

Па хаце ледзь чутна патыхнула пахам мужчыны, да гэтага слаба прымешваўся пах саляркі і машыннага масла. Гэтым «водарам» начны госць прапітаўся даўно, з тае пары, як стаў механізатарам. Не вытравіць яго, не вымыць, якія мыючыя сродкі не прымяняй. І тое не раздражняла жанчыну, прызвычаілася, – водар такога букету быў ёй даспадобы, саладзейшы за самыя дарагія духі.

Не помнілі, колькі часу прайшло, колькі стагоддзяў, як адарваліся адно ад аднаго, пакінуўшы зямныя клопаты і трывогі, думкі і сумненні, адно жаданне блізкасці і яднання, незямной радасці і шчасця, за якія няма нічога саладзей ва ўсім свеце.

Ляжалі, маўчалі. Яна, падклаўшы пад шчаку руку, прымружыла вочы, да канца наталяючыся асалодай, якой хапіла з коптурам, працягвала адчуваць задавальненне, злілася з ім, ператварыўшыся ў іншую істоту. Жанчына яшчэ працягвала свой палёт у бязважкасці, але ўжо не махала крыламі, як перад гэтым, а толькі ў думках перамяшчалася з адной хмарыпасцелі на другую, не намагаючыся пры гэтым напруціцца ўсім целам; яна была лягчэйшя за пярынку, за пылінку, але мела сілу, якая магла яе імгненна кінуць у нябёсы ці пакласці побач з каханым. Яна, здаецца, задрамала, адчуўшы неймаверную лёгкасць і бязважкасць.

Ён жа, гледзячы ў шэрую столь, прыходзіў у сябе. Шал прайшоў, ён аддаў каханай жанчыне ўсё, што прагла вызвалення, што перашкаджала, быццам насіў на спіне і ў душы непатрэбны груз, цяжар, ад якога трэба было неадкладна вызваліцца… Цяпер думкі яго былі ўладкаваныя, спакойна плылі па рэчышчы быцця, нішто не замінала, не перашкаджала, ён упарадкаваў іх, прывёў да нейкай нормы, быццам вывеў свой човен з віхурнага акіяна на спакойную гладзь і прыстаў да берага.

Але такая спакойнасць і разважлівасць доўжыліся нядоўга. Не-не, ды маленькімі малаточкамі, бы маладыя дзятлікі, пачыналі дзяўбці дзюбкамі ў скроні: «А як жа жонка? Ведае яна пра тваё любошчы, ці толькі здагадваецца? Не можа быць, каб не ведала, не здагадвалася. Нават калі ёй і не наплёў ніхто пра ягоныя паходы да каханкі, то яна жаночым сэрцам усё чула і ведала. Ведае ды маўчыць? А што ж ёй застаецца рабіць? Яна ж не

можа даць таго, што Серафіма дае яму. Фізічна не можа. Таму і даруе ўсё, ніводнага разу не папракнула, не пакрыўдзілася за нешта, нават і выгляду не падала. Церпіць, бо ведае, што ніводзін мужчына не можа абысціся без жанчыны, як і жанчыны без мужчыны. Заканамернасць нейкая ў гэтым жыцці. Грэх займацца такім? Грэх, але вымушаны грэх, яго абысці нельга, толькі прайсці праз яго…»

У акно праз фіранкі зазірнула поўня. Зыркая, круглая, цікаўная. Ён толькі мельгам зірнуў на яе і адвёў позірк: не любіў глядзець на месячык. З дзяцінства не любіў. Бо маці, як быў малы, казала, што на месячыку бачна, як брат брата віламі забівае. Ён шукаў той малюнак, прыглядаўся і так, і гэтак, але нічога не ўбачыў. Толькі не зразумеў, ці то маці падманвала яго, ці ён такі не самавіты, што не ўгледзеў забойства.

Серафіма дыхала спакойна і роўна. Не мяняла сваёй паставы, хіба толькі адкінула ўбок нагу, вызваліўшы яе ад прасціны.

Час прабег хутка, і прыйшла яму пара пакінуць грахоўна-салодкі ложак кахання. Уздыхнуў, гледзячы на гадзіннік: стрэлкі, што свяціліся ў цемры, паказвалі позні час. Раздумваў: падняцца ды ціхенька, апрануўшыся, пакінуць хату, што было колькі разоў, ці пабудзіць яе, развітацца, пацалаваўшы яе ў шчаку.

– Табе пара ўжо? – спытала, адчуваючы настрой каханка. – Пацалуй мяне на развітанне і ідзі. Праводзіць не буду, вельмі ж добра мне пасля ўсяго, разбураць не хачу. Пойдзеш, а я правалюся ў сон і буду спаць да раніцы. Цябе сніць буду.

Павярнуўся да яе, пацалаваў у шчаку. У вусны не хацеў, каб зноў не распаліцца ды не застацца яшчэ на нейкі час, і таго дастаткова, што збіў свой шал, сваю апантанасць.

Калі апрануўся, зірнуў у яе бок. Серафіма толькі прыўзняла галаву, праказала:

– Прыходзь, Макар Селівестравіч, прыходзь. Я заўсёды цябе чакаць буду.

Нічога не адказаў.

Ціха прачыніў дзверы, пераступіў парог. Прыгледзеўся ў цемры: нікога. Толькі тады падышоў да веснікаў, адсунуў засаўку. Прыслухаўся. Ціха. Выйшаў на дарогу, вольна ўздыхнуў, упэўненай хадой падаўся ў бок сваёй хаты.

Поўня свяціла ў спіну, як штурхала, прыспешвала, каб вяртаўся хутчэй дадому.

Калі пераступіў парог хаты, пачуў голас жонкі:

– То ты, Макарко?

– Я, Анюта, я.

Скінуў куртку, павесіў на кручок ля дзвярэй, прыйшоў да яе. Найперш пацікавіўся:

– Есці хочаш? Пакарміць?

– Ды не, я даела тое, што ты пакінуў у місе. Ды і позна ўжо, каб наядацца на ноч.

Яна ні пра што не распытвала, не дапытвалася, дзе быў, чаго позна прыйшоў дадому. На твары лагода, спакойнасць. Яна прызвычаілася да свайго становішча, прымала ўсё спакойна, на лёс не крыўдавала. На грудзях ляжала тоўстая кніга ў карычневай вокладцы – Біблія. Жонка чытала яе і перачытвала сотні разоў, многія раздзелы нават ведала на памяць.

Але не толькі Святым Пісаннем захаплялася, а чытала розныя кнігі і газеты, прасіла прынесці з бібліятэкі Горкага і Шэкспіра, Дастаеўскага і Багдановіча, Караткевіча і Купалу… Кожная прачытаная кніга была для яе асалодай, духоўным напоем, светлай крынічкай. Макар не мог яе зразумець, як можна столькі перачытаць кніг і потым, праз нейкі час, прасіць зноў прынесці тыя ж кнігі. Не магла ніяк наталіць сваю духоўную смагу, напіцца з крыніцы светлай гаючай вады.

Анюта не мясцовая. З Віцебшчыны. Як скончыла навуку ў Менску, дык яе і накіравалі ў Мазырскі раён, а потым во і ў Крушнікі выпадала дарога. Тут яе ўпадабаў і першы «схапіў» віцяблянку Макар, пабраліся. Толькі дзяцей Бог не даў, і невядома, ці ён вінаваты, ці яна.

– Толькі вады мне пастаў, Макарко, свежай, халоднай, бо тая, што засталася, ужо нясмачная.

– Добра, прынясу з калодзежа.

Ён зусім забыўся, што трэба было прынесці яшчэ днём кубак вады, паставіць на тумбачку каля Анюты, каб яна ў любы час змагла прагнаць смагу. Хуценька схадзіў да калодзежа, праз дарогу, апусціў на дно калаўротам ацынкаванае вядро. Яно плюхнулася аб ваду, перакулілася, пайшло на дно. Тады Макар выцягнуў яго наверх, паставіў на лаўку. Не вытрымаў, нахіліўшыся, зрабіў некалькі доўгіх глыткоў. Потым выліў з вядра ў сваё, эмаліраванае, вярнуўся дахаты.

Набраў поўную конаўку ледзяной вады, прынёс і паставіў на тумбачку. Жонка паднесла кубак да вуснаў, маленькімі глыткамі пачала піць. Яе даймала смага, і яна не магла наталіць яе. Нават прымружыла вочы, атрымліваючы асалоду. Удыхнула і выдыхнула паветра – як стамілася, п’ючы.

Маўчала. Пра нешта думала.

– Будзем спаць? Выключаць святло?

– Ты ж не вячэраў.

– Я не галодны.

– Выключай.

Ён спаў на другім ложку, які стаяў каля акна, што выходзіла ў двор. Распрануўся, паклаў адзенне на спінку крэсла, паглядзеў на жонку – мо што захоча перад сном, але яна ляжала з зажмуранымі вачыма, – выключыў святло.

На сцяне, побач з ёю, знаходзіўся і яе «асабісты» выключальнік, магла ў любы момант уключыць начнік, каб, не замінаючы Макару, прыняцца за чытво ці проста абдумваць свае думкі пры слабым святле.

Павярнуўся на бок, заплюшчыў вочы. Але сон не ішоў да яго. Думкі пчаліным роем мітусіліся ў галаве…

## 6

Наста не спала ўсю ноч. Спачатку як правалілася, а потым… Уздрыгвала пры кожным незразумелым шамаценні ці гуку за акном. То ёй здавалася, што Антон расчыняў веснічкі і заходзіў у двор, ведучы за сабою Жучу, то быццам ён размаўляў з кімсьці на вуліцы…

Выглядвала ў акно, выходзіла ў двор і глядзела ўсцяж вуліцы, абапёршыся на веснікі, – нікога не бачыла, усё ёй падалося.

Дзеці спалі, не адчуваючы такой трывогі, як яна, і добра, што спалі, навошта ж і ім перажываць, траўміраваць дзіцячыя сэрцы. Не заўважыла, як правалілася ў сон. І быў ён такі яскравы, такі натуральны, што яна зусім і не адчула ніякай трывогі, наадварот, яе ахапіла радасць, спакой прыхінуўся да яе. Яна ляжала ў ложку, чула, як грымнулі дзверы ў сенцах, і адразу зразумела, што прыйшоў Антон. На твары весялосць, радасць, толькі падышоў да вядра з вадой, зачарпнуў вады і прагна піў яе нагбом.

– Ну, супакоілася, Наста? – прысеў на ложак скраёчку, руку на жывот яе паклаў.

– Так, спачатку перажывала, што ты знік некуды, і дзеці перажывалі, а во цяпер, як ты вярнуўся, то і спакайней стала. Жучу загнаў у хлеў?

– А як жа. Толькі ўпарцілася вельмі, не хацела заходзіць.

– Наравістая яна ў нас.

– І не кажы. Затое малако добрае дае, нікога ў вёсцы такога няма.

– Няма. О, я і забыўся, – спахапіўся гаспадар, руку адняўшы ад яе, – хлеў не зачыніў на засаўку, пайду зачыню, каб не збегла куды Жуча.

– Схадзі, Антон, схадзі. Ды прыходзь, час позні, класціся спаць пара.

– Добра, я хуценька.

І пайшоў у дзверы, не расчыняючы іх. Яна нават і не здзівілася гэтаму, не надала значэння. Значыць, і дзверы былі расчыненыя. На душы лёгка, радасна. Падумала ўсцешна: «Я ж ведала, што нічога страшнага не здарылася, што ён вернецца, а што з ім здарылася, ён сам растлумачыць… Як добра, што вярнуўся, які цяжкі груз з маіх плячэй упаў!..»

– Мам, а мам, – дакранулася да пляча Вераніка, будзіла маці. – Мы ўжо прачнуліся…

«Чаму не Антонаў голас? – не магла зразумець Наста. – Ён жа толькі на хвілінку адлучыўся».

Не хацела прачынацца, каб не згубіць Антона. Ён жа вось-вось павінен прыйсці ў хату. Вераніка ж спіць, чаму яе голас чую?

– Мама, табе на працу пара, – папярэдзіла дачка, вінавацячыся, што прыходзіцца будзіць маці, бо ніколі такога не было.

Толькі тады прахапілася, пачуўшы пра «працу», здзіўлена паглядзела на дачку, не разумела, што ад яе хоча дачка:

– Што, што здарылася? Бацька пайшоў хлеў зачыняць, вось-вось прыйдзе.

– Мама, прачніся, – скрушна прамовіла дачка, – бацька не прыходзіў. То ты яго ў сне чакала. А табе пара на працу. Сняданак я табе падрыхтавала, на стале.

Зноў радасць памянялася на скруху, зноў апякла думка сваёй горыччу: «Дык тое мне ўсё прыснілася, то ён толькі напомніў пра сябе, паведаміў, што жывы, што і Жуча з ім… І то трохі спакайней на душы. Значыць, думае пра нас, перажывае».

Аказалася, што яна і не распраналася з вечара. Верыла, што Антон сярод ночы прыйдзе ў двор, і ёй не трэба будзе похапкам апранацца, каб выйсці насустрач. Пайшла да мыцельніка, памыла рукі, спаласнула твар халоднай вадой, якую прынесла дачка з калодзежа. Прычасалася, гледзячы ў люстэрка. Здзівілася: не пазнала сябе. На дзясяткі гадоў пастарэла. Пад вачамі цёмныя кругі, у позірку скруха, твар нейкі змэнчаны, быццам працавала без пярэдыху колькі сутак. Маўчала. І дзеці не прыставалі з роспытамі, ведалі, што тварылася на душы ў маці.

Да сняданку амаль не дакранулася – відэльцам калупнула край яечні, і не данесла нават да рота: безуважная стала да яды.

– Курэй я пакарміла, парсюку намяшала ўчарашняй бульбы, – прамовіла дачка, гледзячы на маці, стараючыся адцягнуць яе ўвагу ад горычных думак, – так што можаш ісці…

Жанчына ўздыхнула, перавяла позірк на дачку, кісла ўсміхнулася:

– Добра.

Да ног як хто прывязаў гіры – не ішла, а сунулася, ледзьве перастаўляючы ногі. Дарогі перад сабой не бачыла. Нехта вітаўся з ёю, яна адказвала, але каму адказвала, не ведала, як аглухла. Грудзі апальвала пякучка, ахоплівала ўсю яе істоту, скоўвала, адбірала разуменне і адчуванне існасці.

Вось і веснічкі – металічныя варотцы з трыма кольцамі наверсе, яны ледзь чутна рыпнулі, калі яна піхнула бліскучую ручку. Калі пераступіла нябачны парог, то веснічкі самі павольна і зачыніліся – прымацаваныя былі да спружыны з нержавейкі.

На ганку стаяў Нікіфар Пятровіч – старшыня сельскай рады, глядзеў, як да яго набліжалася сакратарка Наста Клімовіч. Здалёк заўважыў, што жанчына нечым прыгнечаная, ішла, апусціўшы галаву, як глядзела сабе пад ногі і нешта шукала. Маўчаў, не спяшаўся з роспытамі, чакаў, калі падыдзе да яго. Яна ступіла на адну прыступку, пераступіла на другую. Нікіфар не саступіў ёй дарогу, так і стаяў, грудзі выставіўшы наперад. Яна і ўперлася ў іх, не бачачы свайго кіраўніка.

– Ой, – войкнула ціха, адхінуўшыся ад яго, паглядзела знізу ўверх, не разумеючы, што адбылося, старалася асэнсаваць сутыкненне, – вы, Пятровіч?

– Я, Наста, я, – адказаў, падхапіўшы яе пад рукі, бо бачыў, што яна можа пахіснуцца і ўпасці, ногі ледзьве трымалі яе, а ў вачах такія сум і горыч, што ён спужаўся за яе. – Што за бяда ў цябе? Ты да сябе непадобная. Здарылася што?

Яна ўжо і сама абаперлася на яго, баючыся, каб не зваліцца на ганак, цяжка пачала дыхаць, хапаць ротам паветра.

– Здарылася, Нікіфар Пятровіч, бяда. Вялікая.

Ён правёў яе да свайго кабінета – невялікага, на адно акно, пакойчыка, у якім стаялі яшчэ шафа і сейф у кутку, пасадзіў на крэсла. Наліў з графіна ў шклянку вады, падаў жанчыне. Яна адпіла колькі глыткоў, аддала.

Нікіфар Пятровіч чакаў, калі яна супакоіцца, калі прыйдзе ў сябе, не праспешваў з адказам. Сядзеў у крэсле за сваім сталом, глядзеў на сакратарку.

– Учора здарылася тое… У лесе. Мы з Антонам у лес выправіліся, думалі, мо губякаў якіх назбіраем ды ажынаў позніх, пайшлі на Алёсы. Карова за намі ўвязалася, не захацела чамусьці ісці разам са статкам на пашу, ды Гром не адставаў ад нас…

Голас у жанчыны ціхі, прыглушаны, нават гаварыць ёй цяжка было, не ведала, як лепш расказаць пра ўчарашняе здарэнне. Рукі трымала на каленях, сціскала пальцы, зноў раздзяляла рукі, не ведала, куды іх падзець…

– Калі спусціліся з выспачкі, у лагчыне нас сустрэў белы, бы малако, туман, ды густы-густы, што і рукой льга было пакратаць яго. Сабака натапырыўся, адчуў нешта, гаўкаць пачаў злосна, да зямлі прыпадаючы, а Жуча як ішла, так і пайшла наперад… Следам за ёю, не адстаючы, і Антон. А праз момант ён нема закрычаў: «Не ідзі сюды, тут страшна!..» Я і спынілася, не ведаючы, што адбылося. А адбылося, Нікіфар Пятровіч, страшнае…

– Што ж такое адбылося? – старшыня зноў падаў шклянку з вадой, але яна адпрэчыла, пакруціўшы адмоўна галавой. – Ну, туман, пайшлі ў туман, а потым ён развеяўся, растаў.

Яна глыбака ўздыхнула, прамовіла:

– Так, растаў, але на тым месцы не аказалася ні каровы, ні гаспадара.

– Дзе ж яны падзеліся? Схаваліся ад цябе?..

– Зніклі. Як скрозь зямлю праваліліся. Там мох, сляды адбіліся на імху, і Жучы, і Антона, але на сярэдзіне нізіны яны перапыніліся. Як быццам хто іх схаваў.

Нікіфар Пятровіч прымружыў вочы, пільна гледзячы на Насту, верыў і не верыў, пра што апавядала сакратарка. Але ж ведаў, што яна ніколі не хлусіла, не прытваралася, ніхто з вяскоўцаў не мог сказаць, што яна балаболка ці пляткарка.

– Я да вечара прасядзела там, думала, а раптам выйдзе з кустоўя іператворыць усё на жарт… Не выйшаў. Знік. Прапаў.

Уздыхнуў ужо і старшыня вясковай рады, не ведаючы, у якім кірунку весці далей размову. Такога на яго вяку не было, каб сярод белага дня знікаў чалавек і канцы пасля сябе не пакінуў. Толькі ў казках такое магло адбыцца, ды і то, калі чалавек насоўваў на галаву шапку-нябачанку.

– Вось што на тым месцы засталося, – Наста дастала з сумкі Антонаву шэрую кепку і паклала на стол, – і больш нічога.

Нікіфар узяў у рукі кепку, пакруціў яе на розныя бакі, плямкнуў губамі:

– Дзіўна. Незразумела. Што рабіць думаеш, Наста?

– Што тут рабіць… Участковаму пра тое трэба сказаць. А потым у міліцыю, напісаць трэба заяву, каб шукалі.

– Толькі пасля трох дзён могуць шукаць. Такі ў іх тэрмін, як чалавек у гэты тэрмін не аб’явіцца, тады і пададуць у вышук. Толькі так. Так што будзем чакаць.

У дзверы нехта пастукаў. Нікіфар не адказаў, і тады дзверы расчыніліся і на парозе паказалася Леакадзія Нілаўна. Нешта хацела спытаць у старшыні, ды ўбачыла заплаканую Насту, да яе прыгледзелася.

– Я не ў час?

– У час, у час, сядай, калі зайшла. Бяда ў Насты. Антон яе прапаў. На яе вачах прапаў – праваліўся скрозь зямлю. Туман яго ўкраў. Учора днём. Думаем во, што рабіць ёй…

– Ой, Божачка, ты мой Божачка, – пахітала галавой Леакадзія, яна загадвала пашпартным сталом і вайсковым улікам, – як жа такое можа быць…

– Мажа, вось і адбылося… Мы ў космас паляцелі, ракеты запусцілі і спадарожнікі, а тут такое… Хто тут ўмяшаўся – Бог ці д'ябал?

Наста маўчала. Маўчалі Нікіфар і Леакадзія. Не ведалі, як супакоіць жанчыну і ці можна чым супакоіць. Ніякія словы не памогуць. Іх маўчанне перапыніў нечаканы тэлефонны званок. Нікіфар схамянуўся, уздрыгнуў, рука падалася да слухаўкі.

– Алё, слухаю. Галеня на дроце.

На другім канцы нешта тлумачылі, старшыня слухаў, гледзячы ў акно, ківаў галавой, падтакваў. Пераводзіў позірк то на Насту, то на Леакадзію. Жанчыны маўчалі, ім было нецікава, што абмяркоўвалі па тэлефоне. Нехта гаваркі быў на другім канцы дроту, бо Нікіфар і слова не мог уставіць у яго маналог.

– Добра, добра, разбяромся, але да гэтага павінен падключыцца і старшыня калгаса, як жа без яго.

Зноў нешта даказваў суразмоўца, стараючыся пераканаць Нікіфара Пятровіча.

– Згодзен, лейтэнант, – уздыхнуў старшыня вясковай рады, зноў на жанчын паглядзеў, – але сёння звечара альбо заўтра раніцай ты павінен зазірнуць у сельсавет. Пытанне ёсць, праблема нечаканая выплыла. Якая, якая… Чалавек прапаў. Учора. На вачах жонкі. Добра, заўтра з раніцы прыедзь. Усё, бо ў мяне людзі.

Наста зразумела – участковы, брат Серафімы. Гэта ён так часта мянціць словамі, што і не разбярэш адразу, што хоча давесці.

– Ладзік званіў, па факце крадзяжу малака на ферме. Хоча прыцягнуць да адказнасці ездавога Мікіту. Ніяк хлопец за розум не возьмецца, колькі разоў пападаўся ўжо, а ўсё роўна… Вось заўтра, Наста, і будзем рашаць, як быць. А цяпер як ты – дадому пойдзеш ці на працы пабудзеш?

– Ды паперы накапіліся, трэба разабрацца. З райвыканкама патрабуюць, каб я справаздачу да панядзелка здала. Ды і да сесіі раённай паперы рыхтаваць трэба.

– Ну, глядзі, як табе лепш.

Жанчыны падняліся, пакінулі Нікіфара аднаго. Пачаўся ўжо працоўны дзень, вось-вось павінны прыйсці людзі, каб уладкаваць нейкія свае пытанні. Штораніцы яно так – ціха-ціха, а потым як найдуць людзі, загамо-

няць, заспрачаюцца, нечакана ўнясуць свае карэктывы ў працоўны рытм і графік, то і пра час забудзеш, і дзе сама знаходзішся…

Наста села за свой двухтумбавы стол, дастала з шуфляды некалькі тэчак, паклала іх перад сабой. Разгарнула шэрую вокладку, пачала чытаць першую старонку, і не ўбачыла літар, – яны расплыліся, сталі цьмянымі і невыразнымі: думкі зноў ускочылі ў галаву, і перад вачамі ўзнікла размытасць і туманнасць… Позірк быў скіраваны некуды ў глыб стала, а мо і не стала, а і зямлі зусім, і таму яна ўжо не ў пакойчыку сядзела, а паплыла некуды ва ўспаміны, ва ўчарашнія-пазаўчарашнія дні…

І адарвацца не магла ад той нябачнай і далёкай кропкі, як прывязалася да яе, прыклеілася. Як быццам тая глыбока-далёкая кропка магла вызваліць яе ад душэўнага цяжару, даць ёй упэўненасць і спадзяванне на добры сыход сітуацыі, якая склалася, у якой яна міжволі апынулася.

**7**

– Як сёння пачуваеш сябе? – Макар сеў побач з жонкаю на ложку.

Анюта стомленым ад хваробы позіркам паглядзела на гаспадара:

– Ды, дзякуй Богу, нічога. Здаецца, лепш трошкі. І сон прыходзіць да мяне, і ў грудзях не так баліць.

Макар бачыць, што жонка згасае на вачах, і парабіць нічога нельга. І ў раённай лякарні ляжала, і ў абласной – нічога не знаходзілі дактары, а жанчына гасла на вачах. І голас стаў слабы, і позірк інакшы – як бы вінаваты, што дае столькі клопатаў яму, Макару. Яна ўжо амаль і не ўставала з ложка, і ён падстаўляў ёй пасудзіну ў ложку, калі трэба было па патрэбе.

– Мо што згатаваць табе смачнага, га, Анюта? Мо прысмакаў якіх з Мазыра прывезці, ці самому згатаваць што.

Жонка кісла перакрывілася тварам, як бы паказваючы, што ёй ніякія прысмакі не жадаліся, а потым заўсміхалася, спыніўшыся на адной просьбе:

– Макарко, а схадзіў бы ты ў лес ды губякаў назбіраў. Час, праўда, позні, але знойдзеш якую лісічку ці падабабку. Вось і з’ела б, калі б ты насмажыў мне грыбоў…

– Добра, заўтра ж з раніцы і збегаю ў лес. Ведаю, дзе можна знайсці для цябе пачастунак.

– Знайдзі, Макарко, знайдзі… Чамусьці мне тыя грыбы і ноччу сняцца. І пах іх сніцца. І бабулечка мая Тэкля з таго свету кажа, каб я грыбоў паела.

Жонка прымружыла вочы, павярнулася да сцяны, як бы паказвала, што не да размоў ёй, бо з цяжкасцю выціскала з сябе кожнае слова. А мо

і сон падгарнуўся да яе, ці паляжаць у цішыні захацелася, таго не ведаў Макар. Таму, прыкрыўшы Анюту прасцірадлам – падцягнуў яго вышэй да галавы, ціха выйшаў з пакоя.

Куды цяпер? Да яе ж, безумоўна, да Серафімы, у гарачы ложак, у гарачыя пацалункі ды абдымкі. Акурат пара прыйшла – на зямлю насоўваліся вечаровыя прыцемкі, воглая пясчаная дарога пачынала абвалаквацца шызым туманком, гукі вёскі сталі чуваць выразней і грамчэй. Па гаспадарцы ён усё зрабіў, што трэба было: даў парсюкам, пакарміў і падаіў рагулю, прапаліў грубку, каб Анюта не адчувала холаду. Усё – казак ён вольны, толькі крыламі машы ды на гарышча сваё лётай, ніхто не замінае, ніхто не перашкаджае…

– Сёння трошкі прыпазніўся, – мякка папракнула Серафіма, адарваўшыся ад яго пацалунка, – я думала, што і зусім не прыйдзеш…

– Мог і не прыйсці, па гаспадарцы не ўсё ўпарадкаваў.

Яна рагатнула, ідучы ўжо ў спальню, весела прамовіла:

– Які акураціст – хто ж можа ўсё ўпарадкаваць каля хаты? Трэба круглыя суткі таптацца, варушыцца, і то не ўдасца… Праца ў вёсцы, як тая трасца, трасе і ліхаманіць, але ж і пра сябе падумаць трэба.

– А я і думаю, вось бачыш, з ланцуга сарваўся, і адразу да цябе. Я як цюцька той адданы, адно што не гаўкаю, цябе сцерагу.

Яна падышла да ложка, абярнулася:

– А што мяне сцерагчы – нікуды не ўцяку. А на шыю тваю ашыйнік не адзявала, у любы момант можаш збегчы да сваёй… будкі.

– Яно так, так…

Серафіма яшчэ нешта хацела дадаць, каб прыдаць больш пяшчотнасці свайму каханню, але каханак аблапіў яе і пачаў скідваць цёплы махровы халацік. Ды ўпіўся яшчэ ў яе вусны, як змей хітры і ненасытны, здушыў у абдымках, выказваў нецярплівасць і пажаднасць, што ёй найбольш і падабалася ў яго паводзінах.

Далей словы ім не спатрэбіліся, далей адно мілавалі адно аднаго, шапталі нешта невыразнае, унутраныя гукі асалоды і жарсці вырываліся вонкі. Здавалася, маятнік гадзінніка перастаў адлічваць секунды і хвіліны, застыў у роздуме, баючыся парушыць суладдзе сэрцаў жанчыны і мужчыны…

Нацешыўшыся, стаміўшыся ад любошчаў, паваліліся на спіны, адыхваліся. І гаварыць не хацелася, і думаць пра нешта не жадалася. Мройнасць і ўлагодлівасць ахутала іх, і яны нават баяліся дакрануцца адно да аднаго, каб не распаліць зноўку пажар жарсці, бо потым патушыць яго патрэбны будуць яшчэ большыя намаганні. Яны ведалі абодва пра тое,

што існуе ва ўсім мяжа і мера, што ў адзін пуд ніяк не ўмесціш больш за шаснаццаць кіло… Нікому яшчэ тое не ўдавалася: лепш не дасаладзіць, чым перасаладзіць. Тады новы ўсплёск у будучыні абавязкова паўторыць тыя шчаслівыя імгненні, пра якія яны будуць марыць…

Серафіма зноў задрамала, уткнуўшыся носам у падушку. Яна любіла тыя кароценькія хвіліны сну скрадзенага і грахоўнага кахання, яна, як вампір, адбірала сілы ў Кружнова і пералівала да кропелькі ў сябе. Ён таго і не адчуваў, і рады быў, што не адчуваў таго, бо для яго найважнейшым было іншае – усё гэта прытушвала той душэўны боль, які ён пастаянна адчуваў, знаходзячыся побач з жонкаю, і не могучы браць тое, што павінна даваць жонка. Ён і віну сваю адчуваў ад здрады, і сам сябе ненавідзеў за тое, але і рашучых крокаў ніякіх не рабіў – не да канца адчуваў сябе нягоднікам і падманшчыкам…

– Не спіш? – павярнулася да яго, прашаптала, быццам хто мог пачуць іх, і яна таго баялася.

– Не, думаю…

– Пра што думаеш?

– Пра тое, як я жыву, як да цябе бегаю. Пра тое, што жонцы ўжо мала жыць засталося, а я няўважлівы да яе, хлушу ёй. Хай бы ўжо Бог прыбраў яе душу, яна і сама пра тое не раз гаварыла. Мы ўсе звязаны ў адзін вузел, і расшмаргнуць яго ніяк немагчыма. Во грыбоў Анюта захацела, папрасіла, каб назбіраў у лесе ды патэльню вялікую насмажыў. Пайду заўтра ў лес, назбіраю…

Серафіма маўчала, баючыся пачаць з галоўнага, пра што яна хацела сказаць Макару. Спужнуць птушку шчасця баялася, таму цярпліва чакала, калі выблісне той шчаслівы момант, і яна развяжа той вузел, які ніяк не мог развязацца.

– Макар, не гаварыла табе раней, – настроілася жанчына на сур'ёзны лад, – а трэба сказаць… Аркадзь мой, нябожчык, у апошні свой адпачынак прывёз мне невялічкі падарунак: куфэрачак з залачонай каймой. Куфэрачак з нержавейкі, тысячу гадоў можа праляжаць у зямлі, і нічога з ім не здарыцца. А ў тым куфэрачку тры кілаграмы золата. Сказаў, што адзін душман ад яго адкупіўся, Аркадзь мог забіць яго. Аднойчы ноччу мы пайшлі ў лес. Ён у дубовым гаі выбраў малады дубок і выкапаў пад ім яму. Тайнік. Туды і схаваў той скарб. Мяне папярэдзіў, каб я ні ў якім разе нікому не гаварыла. Табе ж сказала, бо ты для мяне стаў усім і ўсё. Я ж веру, што калі не стане тваёй Анюты, ты да мяне прыйдзеш. А за тое золата мы зажывём багата і шчасліва. Мо і з'едзем адсюль, далей ад зай-

здросных вачэй і плётак. Што скажаш на гэта, мой любы Макар, Макар Селівестравіч, га? Ці мо марныя мае мары і думкі пра цябе, скажы?

Ён задумаўся. Пачуўшы пра тры кілаграмы золата, пачаў інакш асэнсоўваць і сваё становішча, і тое, якая перад ім высцілалася дарога.

– Я ж не ведаю, колькі Анюце жыць засталося. Мо год пражыве і праляжыць, а мо і дзесяць.

– З такой хваробай людзі доўга не жывуць.

Рашылася на галоўнае. Хаця з мужыкамі трэба пра галоўнае да «гэтага» гаварыць, бо яны тады больш згаворлівыя, а пасля любошчаў у іх мазгі не ў той бок круцяцца, цяжка дастукацца да тых далёкіх дзвярэй, каб яны адчыніліся і ўпусцілі да сябе. Але рызыкнула – самы момант, бо ён, сам таго не ведаючы і не падазраючы, падказаў ход вырашэння праблемы, падказаў, як рассекчы той туга звязаны вузел.

– Ты ж, Макарко, можаш паскорыць працэс, і не будзеш у тым вінаваты, ніхто і не западозрыць.

– Ты пра што, Серафіма? Мо забіць прапаноўваеш жонку? – ён насцеражыўся, напяўся, прыўзняўся на локаць, павярнуўся да яе.

– От дурненькі, – ласкава зашаптала каханка, – навошта? Гэта ж турма. А ёсць і іншы шлях, так сказаць, цывілізаваны і бяскрыўдны.

– Як гэта?

– А так, слухай. Яна прасіла цябе пайсці ў лес і назбіраць грыбоў?

– Прасіла.

– Во, правільна. А ты і назбірай іх, выканай просьбу. Толькі назбірай мухамораў. Са светлымі чырвонымі шляпкамі. Насмаж поўную патэльню, перамяшай са смятанай, каб збіць горкі смак, і дай ёй. Вось і ўсё, што ад цябе патрабуецца.

Макар не вытрымаў, устаў з ложка. Задумаўся. Такое ад каханкі ён пачуў упершыню. І пра тры кіло золата, і пра мухаморы. Перад ім дзве дарогі зліліся ў адну. І сам паверыў у тое, што ён правільна зробіць, калі насмажыць жонцы мухамораў. Хіба гэта грэх – палегчыць пакуты жонкі, якую ён некалі дужа кахаў, ён і цяпер кахае яе, па-свойму кахае, і таму не будзе вялікай віны, калі ён аблегчыць пераход з гэтага ў іншы свет. І зробіць ён па просьбе сваёй жа жонкі…

Серафіма маўчала. Яна чакала, што адкажа на яе прапанову каханы. Ведала, што ён можа не адразу, але ў нейкі момант прыме яе прапанову, пагодзіцца з яе планам. Бо золата заўсёды перамагала, хаця і не заўсёды прыносіла людзям шчасце. Але іншага козыра, іншай перавагі ці прычыны яна не мела. Таму цярпліва чакала. Яна кінула зярнятка ў раллю яго душы, верачы і чакаючы, калі яно праклюнецца і прарасце.

– М-м-м… – няўцямна прамычэў Макар, і не зразумець было, ён згаджаўся ці выказваў супрацiў. Пракашляўся, прыставiўшы кулак да рота.

Вось-вось павiнна наступiць развязка цi праясненне сiтуацыi, але ўжо без яе ўдзелу. Яна свой пробны камень кiнула ў яго бок. Цяпер застаецца толькi чакаць…

Ён выдаўжыў руку, узяў са стала бутэльку пiва, нагбом пачаў пiць. Дапiўшы да апошняй кроплi, iкнуў, уздрыгнуўшы ўсiм целам, паставiў пустую пляшку на падлогу.

У пакоi ўсталявалася маўчанне.

**8**

Наста перагарнула падшытыя старонкi тэчкi «Заявы». На кожнай была накладзена рэзалюцыя старшынi – калi трэба выканаць просьбу цi даць адказ. Нехта прасiў дровы, хтосьцi прасiў памагчы паставiць плот ад дарогi…

Да ўсiх далучыла апошнiя заявы, якiя ляжалi побач….

Пераклодзе адну паперчыну ў папку, напiша паперу, зноў задумаецца. I не адагнаць тых думак, як пчалiны рой вiюцца над ёю, непакояць, турбуюць, адно што не кусаюць сваiмi джаламi. Голас Антона прабiваецца праз тоўшчу клопатаў, перабiвае яе думкi, на сваё выводзiць, патрабуе ўвагi… I яна падпарадкоўваецца, нават радая, што ён паперадзе ўсiх думак крочыць, слухае яго, што казаць будзе.

Яна ўжо колькi разоў дакарала сябе, што не ўмее трымаць язык за зубамi, што шмат шкоды сабе нарабiла сваёй нявытрымкай, а ўсё з-за сваёй дурноты – рэўнасцi. Нiводнага разу не падаў Антон прычыны, каб яна прыраўнавала яго да каго-небудзь, а яна, дурнiца, чэпiцца да яго, таго, ранейшага, калi i з ёю не быў, i не сустракаўся нават. Ды цi мала магло быць у яго сустрэч з iншымi дзяўчатамi, асаблiва калi вучыўся ў iнстытуце, дзяўчат заўсёды больш, чымся хлопцаў, дык i што?..

Не магла сабе даравацъ той папрок, калi яна яму выказала пра Янiну, дык мала таго, дык яна яшчэ i амаль прагнала яго ад сябе, адпрэчыла, калi ён сказаў, што можа i зусiм з’ехаць ад яе. «Ну i дурнiца, ну i неразумная баба, – дакарала i дакарала запознена сябе, – мусiць жа, д’ябал падслухаў, што я плявузгала, ды i сапраўды адабраў ад мяне Антона. Язык мой – вораг мой. Каб жа вярнуць той час, каб жа ведаць, чым усё абернецца… Божачка, усялi ў мяне розум i разважлiвасць!..»

Слёзы капаюць на паперу, а Наста нiяк не магла спынiцца сцябаць сябе нябачнай пугай, дакарала i зневажала сама сябе, i нiякага жалю не адчувала, ведаючы, што заслужыла тое, да чаго iмкнулася, тое ж i атрымала…

## 9

Участковы Ладзік Гарчук зайшоў у будынак вясковай рады на наступную раніцу. З парога павітаўся, падышоў да стала, паціснуў руку Нікіфару Пятровічу, гэпнуўся на крэсла супраць яго. Зняў міліцэйскую фуражку, выцер успацелы лоб.

– Дык што будзем з крадзяжом рабіць, Пятровіч? Падсудная справа…

– Ды пачакай ты з крадзяжом, табе абы падсудную завесці, нікуды не падзенецца крадзенае, знойдзецца, а вось чалавека хто ўкраў, тут трэба разабрацца…

Ладзік нахмурыў бровы, угледзеўся ў Нікіфара:

– Каго ўкралі? Хто ўкраў?

– Вось ты і разбярыся.

– Давай па парадку.

– Што па парадку, трэба Насту паклікаць. Наста! – крыкнуў некуды ў калідор.

Жанчына з'явілася адразу, стала на парозе. Потым прайшла да стала і села на другое крэсла.

– Раскажы яму, – кіўнуў на ўчастковага Нікіфар, – пра Антона раскажы… Сёння другія суткі. Заўтра заканчваюцца трэція.

– Я ўжо расказвала, колькі можна паўтараць адно і тое ж. Пайшлі з Антонам у лес. З намі і карова пайшла, не адчапіцца было. Сабака яшчэ. Перайшлі ўзгорак, спусціліся ў нізіну, пакрытую спрэс белым туманам. Першай увайшла ў туман карова, за ёй Антон. А потым адразу ж пачуўся яго жудасны і папераджальны крык: «Не ідзі, Наста, сюды – тут страшна!..» Сабака загаўкаў, адчуўшы нешта, і мы не пайшлі следам. Калі туману не стала, я пайшла па слядах Антона і Жучы. Сляды абарваліся, быццам яны падняліся ў паветра. Да вечара прачакала, але Антон так і не з'явіўся…

– М-г… – плямкнуў губамі ўчастковы, зноў выцер лоб насоўкай, паглядзеў на Нікіфара, потым зноў перавёў позірк на жанчыну. – Ну й дзяла…Такога за мой час службы не здаралася, ды і ні ў кога, мусіць, не здаралася. Нешта трэба рабіць. Заўтра ўжо трэці дзень?

– Так, трэці, – кіўнула галавой Наста.

– Зробім вось што. Ты напішаш заяву, падрабязна апішаш, што здарылася, у колькі тое было, у якой мясціне. Месца тое ведаеш, запомніла?

– На ўсё жыццё запомніла.

– Тады так. Ты пішаш заяву, аддаеш мне. Я еду ў райаддзел, аддаю начальніку Мікіцэнку. Ён накладае рэзалюцыю, што трэба разабрацца.

Прыедзе цэлая брыгада – з фотаапаратам, з сабакам, няхай ён абнюхае тое месца, мо след возьме, мо куды падаўся Антон ды заблудзіўся, назад дарогі знайсці не можа…

– Ён ніколі ў лесе не блудзіў.

– Не скажы, вунь калі дзед Язэп з суседняй вёскі Спрымачоў, ведаючы лес як свае пяць пальцаў, па грыбы падаўся, то памарака найшла на яго – збіўся з тропу. Трое сутак блукаў па пушчы, не знаходзячы дарогі дадому. Пад трыццаць кіламетраў адышоў ад дому. Во яно як бывае, а ты «ніколі не блудзіў». Ледзьве адшукалі яго, добра, што сабака след узяў, дык і прывёў да яго… Ледзьве жывога знайшлі, знямогся чалавек, без сілаў ляжаў дзядуля пад дубам, не было ўжо сілы і перахрысціцца.

Наста нічога не казала. Яна не верыла ў тое, што Антон мог заблукаць. Нашто яму некуды ісці, калі яна была побач. Каб пайшоў, то Гром улёг бы за ім, яны як неразлучныя сябры. Не, не мог ён проста сам пайсці, не мог…

– Хай бы і тут так было, – уздыхнуў Нікіфар, счапіўшы пальцы на стале.

– Няхай бы, – не пярэчыла і Наста. – Ісці пісаць заяву?

– Ідзі, Наста, пішы, а мы з Нікіфарам Пятровічам за гэты час пагаворым. Ёсць у нас клопат.

Калі жанчына выйшла, участковы пільна паглядзеў на Нікіфара:

– Ты верыш, што яно так і адбылося?

– А чаго не верыць? Яна баба не хлуслівая, дурнога ніколі не казала. Я ёй веру, як самому сабе.

– Ну, я гаварыць нічога не буду, заўтра ўсё будзе ясна на месцы.

– Што – ясна?

– Ну… ці яна не вінавата ў знікненні чалавека. Усё ў нашым жыцці здараецца. Вунь колькі выпадкаў па краіне. Вунь чытаў пазаўчора ў расейскай газеце. Муж і жонка пайшлі ў лес, ён у багну праваліўся, а яна не памагла яму выратавацца. Загінуў чалавек. У яе палюбоўнік быў, вось і падстроіла яму пастку.

– Хто ж тое бачыў, што яна не памагла яму?

– Эксперымент правялі і ўсё даказалі. І чалавека ў багне знайшлі, выцягнулі.

Нікіфар расчапіў рукі, зірнуў за акно:

– Дурное гаворыш, таварыш участковы… Што, можа, і ў Насты ёсць які палюбоўнік, і яна ўсё падстроіла?

– А я нічога не выключаю, нічога.

– Ну ты і даеш. Можа на жанчыну яшчэ і забойства павесіш, ты умееш тое рабіць.

– Заўтра ўсё будзе бачна. Мне факты трэба, факты. Чалавек прапаў, карова прапала. Вот з імушчаства – каровы – і пачнём, а потым з чалавекам, які ці загінуў, ці яго забілі …

Прачыніліся дзверы, парог пераступіла Наста. Паклала перад участковым аркуш паперы.

Ладзік уважліва прачытаў ад першага да апошняга радка, спытаў:

– А подпіс? Пастаў подпіс. І дату.

Яна, нахіліўшыся над сталом, чырканула неабходнае.

Ён паклаў заяву ў скураную пашарпаную папку, закрыў яе.

– Заўтра пасля абеду мы прыедзем.

Наста як моўчкі зайшла, так маўкліва і выйшла. За два дні яна перамянілася з твару – як усё роўна пастарэла на дзесяць гадоў. У вачах скруха, голас ціхі і надломлены.

Яна замкнулася ў сабе, нікога ў сваю душу не пускала, і нават думкі яе былі няпэўныя, абыякавыя, і сэрца ў яе скамянела, не ўспрымала нічога, і нікому не дастукацца да яго, нікому ў свеце, хіба толькі аднаму чалавеку – яе Антону…

Міліцэйскі «газік» прыехаў па абедзе. З яго выйшаў участковы, пасля яго чалавек у цывільным – з сумкай, у якой знаходзілася фотаапаратура, пажылы старшына, трымаючы за павадок нямецкую аўчарку. Апошнім выйшаў капітан міліцыі.

Наста ведала, у колькі яны прыедуць, участковы пазваніў з раніцы і папрасіў, каб была а трэцяй гадзіне дома. Яна выйшла ў двор, глядзела, як яны выходзілі з машыны.

– Анастасія Валер'еўна? – падышоў да яе капітан. – Я – капітан міліцыі Верам'ёў, будзем праводзіць следчы эксперымент. З намі старшына Хвайніцкі, кінолаг, фатограф Адамчук. Участковага Уладзіслава Гарчука вы ведаеце. Нам усім прыйдзецца прайсці на тое месца, дзе і прапаў Антон Клімовіч з каровай. Нічога новага няма?

– Не. Нічога не змянілася. Вестак ніякіх.

Фатограф сфатаграфаваў хату, капітана і Насту, Вераніку і Паўліка, якія выйшлі на ганак веранды.

– Анастасія Валер'еўна, а ці ёсць якая рэч Антона? Ну, тая кепка, што засталася на тым месцы.

– Ёсць. Я прынясу.

Наста вынесла кепку і падала капітану. Той узяў у руку і даў панюхаць Султану, так звацца цюцька. Сабака гаўкнуў, як даў зразумець, што азнаёміўся з пахам таго, па слядах якога прыйдзецца яму бегчы.

– Віктар, ты застаешся тут з машынай, а мы выпраўляемся ў лес, – звярнуўся капітан да вадзіцеля. – Чакай нас тут. – І, агледзеўшы ўсіх, спытаў-загадаў: – Рушым?

Першай крочыла Наста. Следам за ёю ўся следчая група. Султан нюхаў дарогу, аглядваўся, як чакаў нейкай каманды. Гром не асмеліўся ісці за людзьмі, сядзеў у будцы і не вылазіў.

На яго не звярнула ніякай увагі нямецкая аўчарка. Фатограф клацнуў апаратам – зафіксаваў дарогу, па якой ішлі.

З поля ўвайшлі ў прылесак, потым мінулі малады сасоннік, перайшлі Адолькаў круг, а затым узабраліся на выспачку. Тут і спыніліся. Наста ціха праказала:

– Вось тут і адбылося тое. Вунь тая нізінка.

У лагчынцы туману не было. Яшчэ раз далі панюхаць Султану кепку, загадалі браць след. Султан, прыгнуўшы галаву да зямлі, падаўся наперад. Бег да таго месца, дзе знік Антон, і спыніўся.

Агледзеўся, паказваючы, што ўзяў след, але далей іх не чуў. Сеў на заднія лапы, высалапіўшы язык, адвярнуўся ўжо ад людзей.

Тады спусціліся ўсе ўніз. Фатограф клацаў і клацаў затворам, нахіляўся і здымаў паверхню зямлі, па якой крочылі Жуча, Антон, Наста і Гром. Капітан і ўчастковы ўкленчылі, пільна прыглядаліся да кожнай травінкі.

След левага бота Антона адпячатаўся дакладна, а правай нагой ён так і не ступіў…

Побач з адбіткам глыбокі след Жучы. Капыт рагуля ўвагнала глыбока ў шызы мох. Далей ніякіх слядоў не значылася – ні Антонавых, ні каровіных.

Зноў заклацаў фотаапарат, эксперт засведчыў на плёнку сляды. Капітан і ўчастковы падрыхтавалі гіпсавы раствор, залілі сляды. Пачакалі, калі зацвярдзее, узялі адбітак і паклалі ў брызентавую сумку.

– Анастасія Валер’еўна, калі ласка, яшчэ раз раскажыце, як усё адбывалася. Падрабязна.

Наста зноў паўтарыла тое, што расказвала Нікіфару, участковаму. Нічога не прапусціла, да драбніц успомніла – і пра Грома, як ён паводзіў сябе, і пра тое, як яна з ім праседзела да вечара пад чэзлай бярозкай, чакаючы гаспадара…

– Так, так, – хмыкнуў капітан, гледзячы ёй у вочы, быццам у яе позірку шукаў адказы на пытанні, на якія не знаходзіў адказу. – Скажыце, вы з сабой бралі сякеру ці што іншае?

– Навошта нам сякера? Мы ж не дровы збіраліся рыхтаваць. Сцізорыкі бралі, каб грыбы зразаць і ачышчаць ад зямлі. Мой дома, а другі застаўся ў Антона.

Ёй ужо стала і не даспадобы тое, што яна звярнулася да міліцыі. Дапытваюцца, як усё роўна стараюцца дамагчыся і даказаць, што гэта яна зжыла са свету Антона, бо вунь і сякеру прыплёў. А калі б і сякеру бралі з сабой, хаця Антон заўсёды, як выбіраўся ў лес – з ёю ці адзін, затыркаў за пояс маленькую сякерку. Як жа гэта ў лес ісці без сякеры? Мо звер які сустрэнецца ды нападзе, ды ўвогуле – нельга чалавеку выпраўляцца ў лес без яе, ніяк нельга. А на гэты раз, як на тое, Антон і не захапіў яе, сама не ведае, чаму.

– Так, так, зразумела. Скажыце, Анастасія Валер'еўна, а якія адносіны ў вас былі з Антонам? Мо сварыліся, мо разлад які быў у сям'і? Ці біў ён вас калі-небудзь? Мы ўсё павінны ведаць.

Наста шырака раскрыла вочы, паглядзела на капітана:

– Для чаго гэта вы пытаецеся? І куды хіліце? Ніколі мы не сварыліся, і ў сям'і заўсёды быў лад. Мы кахалі адно аднаго. І дзяцей вунь нарадзілі якіх – паслухмяных, разумных. А вы ў людзей спытайцеся, як мы жылі, яны ўсё ведаюць.

– Спытаем і ў іх, калі будзе ў тым неабходнасць.

Яна ледзьве не заплакала ад дурных пытанняў капітана, хацела абкласці яго мацюкамі, сказаць, што не хоча адказваць на яго пытанні, і што хопіць ужо наладжваць цырк з падазронасцю.

– А колькі гадоў карове? – зноў прагучала пытанне, на гэты раз Верам'ёў спытаў абыякава, мусіць, каб жанчына скінула з сябе напружанасць і трывогу, каб набыла спакойны стан.

– Што? Якой карове?

– Ну, вашай Жучы, як вы яе называеце. Гэта вашая маёмасць, мы павінны і яе ўключыць у пратакол даследавання. Праглядваецца дзве лініі – знікненне чалавека і прапажа вашага імушчаства.

– А-а… Ад нараджэння шэсць гадоў. Трое цялятак нам прывяла. Бычка аднаго. Малако добрае ў яе, па поўным вядры давала.

– Зразумела. Уладзіслаў Віктаравіч, – звярнуўся ён да ўчастковага, – трэба агледзець наваколле, мо дзе сляды якія засталіся.

Застаўся фатограф і Наста. Капітан паклікаў за сабою Султана, той рэзка ўскочыў з месца. Хадзілі доўга, нешта аглядалі, нешта шукалі.

– Мой сябра з Падмаскоўя, Віця Рашынскі, напісаў мне пяць гадоў таму ліст. Расказваў, што як быў малы, яго бацька пайшоў у лес і не вярнуўся. Не пакінуў ніякіх слядоў. Шукалі з месяц, і безвынікова…

Адамчук бачыў, як пакутуе ад эксперыменту жанчына, не знаходзіць сабе месца, таму рашыў проста пагаварыць з ёю, ды і не пытацца ў яе ні пра што. Ведаў, што тварылася ў яе на душы.

– Так і не знайшлі?

– Не-а. Крымінальную справу завялі, так і вісіць у паветры. Вось і думай, што адбылося. Ніхто не ведае, чаму знікаюць людзі. Адныя з іх ніколі не вяртаюцца, а іншыя могуць з'явіцца і праз шмат гадоў. У Бібліі нават такі факт прыводзіцца, калі людзі зніклі і вярнуліся праз пяцьдзясят гадоў. Я думаю, што і Антон ваш вернецца, толькі калі, тое невядома.

– Хай бы так і было, – скрушна прамовіла Наста, прызналася малазнаёмаму чалавеку. – Ой, як цяжка мне… Ад невядомасці цяжка. Ці жывы хоць, ці… – не даказала другую думку, як бы баючыся наклікаць яшчэ большую бяду.

– Верце, Анастасія Валер'еўна, што ён вернецца – так яно і будзе.

– Дай, Божа, каб так і было! Памажы, Госпадзе! – наклала на сябе крыж Наста, схіліла галаву. – Дзякуй вам на добрым слове!

Праз нейкі час прыйшлі капітан і ўчастковы. Нічога падазронага не знайшлі, і Султан быў ім кепскі памочнік – не было нідзе Антонавых слядоў…

– Ну, што, тут нам няма чаго больш рабіць, – прамовіў капітан Верам'ёў. – Слядоў больш не знайшлі, ніякай зачэпкі. Далей трэба аб'яўляць у саюзны пошук. Для гэтага трэба фатаграфія Антона. А вы, Анастасія Валер'еўна, паедзеце з намі ў райаддзел міліцыі.

Наста здзівілася, паглядзеўшы на яго:

– А гэта навошта? Мо мяне адразу за краты?

Капітан усміхнуўся:

– Ну навошта вы так? Нам жа трэба ўсё правесці па законе. Нам трэба ўсім сабрацца – і пракуратуры, і міліцыі, таму патрэбна вашая прысутнасць. І ўсё. Больш нічога. Слядоў злачынства з вашага боку мы не знайшлі, таму да вас не маем ніякіх прэтэнзій.

Голас у Верам'ёва перамяніўся, стаў больш мяккім, добразычлівым, і таму ён з нейкім адценнем лёгкай радасці ад сумленна праробленай працы, прамовіў, як загадаў усім:

– А цяпер пайшлі ў вёску, пара вяртацца.

## 10

Макар Кружноў пасля таго, як упарадкаваў усё па гаспадарцы, прыгатаваў снеданне для жонкі, – зрабіў яечню з доктарскай каўбасой, што і папрасіла Анюта, – тады толькі выправіўся ў лес.

Гэта ж не тыя грыбныя раніцы, калі трэба прачнуцца нацямочку і паспець на свае грыбовішчы, таму выбраўся а дзясятай гадзіне, ведаючы, што паспее назбіраць тых грыбоў. Лес усё жыццё прыцягваў яго да сябе.

Заўважыў за сабой дзіўную асаблівасць – адна нага лёгка імкнулася ісці наперад, а другая супраціўлялася, як бы ішла назад, запавольвала хаду. Зразумеў: у ім змагаліся два пачаткі. Прымушаў сам сябе зрабіць гнюсную справу, паддаўшыся каханню і глечыку з золатам, а нехта, усеўшыся на спіну, прыхінуўшыся да вуха, нашэптваў са здзекам: «Ну і чаго ты даб’ешся, выканаўшы просьбу Серафімы? Разбагацееш, прыдбаўшы тое золата? А ці прынясе яно шчасце, калі здабыта праз смерць?..»

Дык жа і на другім плячы ўсеўся вясёлы і гаваркі нехта, ды ў самае вуха пачаў як не песні спяваць: «Макар, дружа мой! То ж я цябе паслаў да Серафімы, ды зрабіў так, каб ты закахаўся ў яе, адчуў сябе чалавекам, шчаслівым чалавекам. Тваёй Анюце засталося жыць месяц-два, сама адыдзе ў іншы свет, а ты проста аблегчыш яе пакуты, яна ж і сама не раз прасіла Бога, каб забраў яе ў Валадарства нябеснае… Ты ж не забойцам станеш, а лекарам, які робіць чалавека шчаслівым. І яна будзе шчаслівай, калі пазбавіцца пакутаў і болю, адправіўшыся ў іншы свет. Не вагайся, не раздумвай, заўтрашні дзень будзе для цябе прыемны і шчаслівы! Дзейнічай!..»

Зайшоў у гай. Суцэльныя белыя свечкі акалялі яго, як быццам ён трапіў на заснежанае поле. Патыхала мхом і бяростай, даносіўся пах ядлоўцу і квітнеючага верасу. Удыхнуў на поўныя грудзі паветра. Жыццё здавалася яму поўным надзей і здзяйсненняў. Проста ад яго патрабавалася набрацца смеласці і зрабіць добрую справу. Ну і што, калі пасля будзе тачыць нейкая віна ці шкадаванне, пройдзе час, і ўсё забудзецца, хмары сплывуць з неба, і выгляне для яго светлае сонейка. Ён сам сябе абнадзейваў, падахвочваў, выкінуўшы з душы сумненні і трывогі, поўная ўпэўненасць ў правільнасці і праведнасці задуманага ўлілася ў яго…

Ён адчуў нават, як напоўніўся нейкай незразумелай радасцю, нарадзілася нейкае няўцямнае прадчуванне, нават упэўненасць, што ён лёгка пераступіць той парог вагання і боязі, набудзе новыя якасці і рысы свайго характару. Думаў: чалавек жа жыве дзеля радасці, дзеля кахання, і колькі таго часу даецца чалавеку, каб выкарыстаць тыя радасці напоўніцу, каб наталіць смагу ўцех і асалоды дарэшты.

Ужо больш ніхто не прыставаў да яго, не нашэптваў на вуха нейкія парады ці перасцярогі, ён цяпер сам прымаў рашэнні, сам сабе загадваў і падахвочваў, усё наўкола заззяла ад гэтага нейкімі новымі колерамі і адценнямі, быццам яркія промні асенняга сонца пранізвалі не толькі яшчэ не пажоўклую лістоту, але і яго самога, яго стомленую душу. Ён як бы нараджаўся нанова, скідваючы з сябе нябачнае адзенне, як тая гадзюка скідвае з сябе сваю шэрую скуру, абкруціўшыся вакол галіны маладога дубка, каб выканаць спрадвечны інстынкт – адчувала боль, цярпела яго, але інстынктыўна рабіла тое, бо ў старым «адзенні» магла памерці – скура за ноч магла скамянець і сціснуць яе жалезнымі абручамі да смерці…

Рашуча скінуў з сябе непатрэбную ўжо апранаху, шпурнуў яе за раўчук – у гушчарняк. Вольна ўздыхнуў. Нешта картава прамовілі між сабой вароны ці груганы, не разабраць, закружыліся над грыбнікам, зрабілі адзін круг, затым другі, а пасля зляцелі некуды ў бок вёскі. Але яшчэ доўга пераклікаліся між сабой, незадаволена абмяркоўваючы птушыныя праблемы.

Мухаморы мелі яркія шляпкі, яшчэ нераспушчаныя ўшыркі, як парасоны, выглядалі няйначай булавамі ў паменшаных памерах. Рэзаў, як касіў касой пад самы корань мухаморы, складаў у кашэль, каб больш улезла. А побач і белыя ўбачыў – баравікі выглядалі годна, хвалячыся сваёй крамянасцю. На цёмна-карычневых шляпках прыклеіліся сухія іголкі хвоі, а іншыя дык і зусім схаваліся пад сухімі лістамі. Але Макар акуратна вызваліў іх з палону, пры самай зямлі зрэзаў карані, адразу прытаптаўшы мохам белыя кругельчыкі. Кожны грыбнік атрымліваў асалоду і радасць ад сустрэчы з баравікамі, маліўся на іх, укленчыўшы, акуратна гладзячы лясныя дарункі, адчуваючы іх своеасаблівае халодна-таямнічае цяпло.

Баравічкі, хаця іх назбіралася і не так багата, не паклаў разам з мухаморамі, а паклаў іх асобна – у палатняны мяшэчак, які прыхапіў з сабою проста так, па звычцы, і цяпер быў рады за сябе, што як быццам ведаў, што ён спатрэбіцца. Вось і прыйшоўся дарэчы, не будуць дакранацца да атрутных мухамораў.

На гадзіннік нават не глядзеў, бо яго ніхто ў гэты момант не гнаў у спіну, ды і не спяшаўся ён нікуды. Але ў нейкі момант злавіў сябе на думцы, што ён не спяшаецца таму, што адцягвае той галоўны момант дзеяння, не надта хоча набліжаць яго… Яшчэ падумаў, што ён падобны да таго вар'ята, які, хочучы наладзіць сабе развітанне з жыццём, скочыў з высачэзнай гары, ды ў нейкі момант апамятаўся, жахнуўся, што паспяшаўся са сваім неабдуманым да канца рашэннем, захацеў усё павярнуць назад, перайначыць, змяніць ходу падзей, але ж… Але ж чалавек не

птушка, крылаў не мае, таму назад не павернеш, будзеш ляцець да той пары, пакуль не сутыкнешся з зямлёй. Яна прыме ў свае абдымкі, ды не пуховымі пярынамі абдыме, а цвёрдасцю сваёй сустрэне, каб потым лёг самазабойца ў халодны жвір…

Але галоўная жахлівая думка вынікаў і пакарання не даходзіла да яго свядомасці, яшчэ не апякала сваёй праўдай і жорсткасцю, яна яшчэ толькі спела, выплывала недзе наперадзе, каб у нечаканы момант праклюнуцца з раллі і вымкнуцца ў неба, пранізаць усяго, бы пярун сваёй вострай дзідай…

З такімі няпэўнымі думкамі Макар таптаў пакручастую дарогу між сосен і бяроз, трымаючы праз плячо вочапку ад кашаля, а ў другой руцэ палатняную торбачку з баравічкамі.

## 11

У Мазыр прыехалі пад вечар.

Усе выйшлі з легкавіка. Капітан нават падаў Насці руку, калі яна апошняй вылазіла з «газіка». Адзёрла спадніцу, агледзелася. Некалі яна была ў гэтай установе – прывозіла дакументы на хлопцаў, якія трапілі ў міліцыю: пабіліся юнакі, нешта не падзялілі. Запатрабавалі ад вясковай рады на іх паперы. Прывезла, аддала ў патрэбны аддзел, адразу ж і паехала назад.

А цяпер яна прыехала і невядома ў якой якасці, не ведала, ці падазраюць яе ў чым-небудзь, ці паклікалі як сведку.

Падняліся на другі паверх, і ўсе разам прайшлі ў расчыненыя дзверы. Паспела прачытаць таблічку на дзвярах «Намеснік начальніка раённага аддзела міліцыі Зайцаў Іван Пятровіч». Кабінет прасторны, вялікі стол, за якім ужо сядзелі незнаёмыя людзі ў міліцэйскай форме. Хто з іх быў Іван Пятровіч, Наста не ведала, за асобным сталом ніхто не сядзеў.

– Сядайце, таварышы, рассаджвайцеся, – прамовіў маёр, паказваючы рукой на вольныя месцы. – Хаця і позна, але трэба правесці нараду. З вамі, як я разумею, прыехала Анастасія Валер’еўна Клімовіч?

– Так, мы адразу, так сказаць, з карабля на баль, – пацвердзіў капітан, рассаджваючыся на вольныя месцы разам з Настай.

– Сабраліся мы не на баль, – запярэчыў вядучы, – а на адказную нараду. Анастасія Валер’еўна, мы сабраліся, каб вызначыць нейкія кірункі. Мы – гэта работнікі праваахоўных органаў, прадстаўнікі пракуратуры, камітэт дзяржаўнай бяспекі. А я – намеснік начальніка Іван Пятровіч Зайцаў.

Наста кіўнула галавой, пачуўшы словы маёра, зразумеўшы сітуацыю, больш уважліва агледзела прысутных.

– Ну, што, пачнём? – агледзеў прысутных намеснік начальніка. – Капітан Верам'ёў, далажыце, што вы ўбачылі ці знайшлі на месцы здарэння, і пра ўсё астатняе.

Верам'ёў устаў з месца, выцягнуў з тэчкі паперы.

– Мы пайшлі ўсе туды на месца здарэння, агледзелі ўважліва яр, абышлі вакол яго. Але не знайшлі ніякіх слядоў. І сабака не ўзяў нідзе след. Там, дзе яны абарваліся, тыя сляды, ён сеў і больш нікуды не ішоў. Ніякіх слядоў злачынства, ні кроплі крыві, сляды каровы і Антона ёсць, але яны не маюць свой працяг. Незразумелая гісторыя, таварыш маёр…

Капітан паглядзеў на Насту, перавёў позірк на гаспадара кабінета.

– Як гэта незразумелая? Быў чалавек – і няма яго. Дзе ж ён падзеўся?

Верам'ёў паціснуў плячыма.

– Анастасія Валер'еўна, – звярнуўся з пытаннем да крушнічанкі Зайцаў, – што вы нам самі скажаце па гэтым пытанні?

Яна адгукнулася не адразу. Уздыхнула, паклала рукі на стол, схіліла галаву. Твар пахмурны, у вачах сум і скруха. Не паднялася з крэсла, як капітан, не палічыла тое патрэбным.

– А што я магу сказаць? Я ўжо дзясяткі разоў казала пра адно і тое ж: перада мною ўсё тое было. Пайшоў Антон з Жучай у малочны туман і ўсё. Антон толькі крыкнуў мне: «Наста, не ідзі сюды, тут страшна…» Што там такога страшнага было, чаму ён так крычаў, не ведаю. Думала, што ён жартуе так, прачакала да вечара, і ён не з'явіўся…

Голас уздрыгнуў, у горле запяршыла, пракаўтнула сліну.

Пра папярэджанне Яніны жанчына змоўчала, не хапала яшчэ і дзяўчыну сюды прыплятаць – то ўжо зусім за вар'ятку яе палічаць.

Усталявалася маўчанне. Шмат нарадзілася ва ўсіх пытанняў, але не ведалі, як распачаць той допыт, каб не нашкодзіць справе сваім залішнімі недаверлівымі пытаннямі, каб лішні раз не завярэдзіць раны жанчыне. У кожнага з прысутных на языку сядзела галоўная пытанне: «А можа гэта вы забілі яго, а ў міліцыі шукаеце дапамогі? Мо падаслала каго, каб забілі і чалавека, і карову. А што слядоў няма, дык можна і не пакінуць слядоў…»

– У членаў следчай групы будуць пытанні? Задавайце. Для таго і сабраліся.

Намеснік начальніка не разумеў і сам, як такое магло здарыцца, калі на вачах прападае чалавек, і ніхто не можа растлумачыць, як тое магло адбыцца. Таму хацеў найперш даведацца пра думку астатніх, і потым ужо вынесці свой вердыкт.

У жанчыны сядзела ў душы нейкае нядобрае прадчуванне, што яе нездарма прывялі ў гэты кабінет, прывялі як быццам на агледзіны, маўляў,

во гляньце на яе, якая яна, тая жанчына, што ў лесе выправіла мужа разам з кароваю невядома куды… Але падспуднае пачуццё падказвала, што па-іншаму нельга, што існуе такі закон, такое правіла, і яна павінна прайсці праз недавер і знявагу недаверам, вытрымаць усё гэта, вытрываць, бо і сама ж належыць да ўлады, і ёй самой прыходзіцца калі-нікалі прымаць нейкія, як навучыліся гаварыць, непапулярныя рашэнні.

– Анастасія Валер’еўна, – пачуўся ціхі голас жанчыны, што сядзела поплеч з намеснікам начальніка, – у мяне, як у пракурора раёна, ёсць да вас такое пытанне: як ладзіў бацька са сваімі дзецьмі? Ці не крыўдзіў іх, ці былі калі сваркі ці спрэчкі ў вас асабіста з-за дзяцей? Ну, нешта ваш Антон не так сказаў ім, ці груба аднёсся да іх, а мо і збіваў іх…

Наста скіравала позірк на таго, ад каго пачула пытанне. Хацела паглядзець у вочы жанчыне, якая папыталася пра такое.

– Збіваў, пытаецеся? – горка ўсміхнулася, галавой хітанула, адвярнулася ад яе. – А пры чым тут гэта? Ды як бацька можа збіваць сваіх дзяцей? Ён што – алкаголік які, ці турэмшчык, які вызваліўся з-за кратаў? Ён настаўнік, настаўнік гісторыі. Як можа ўкладвацца ў адным чалавеку – быць педагогам і праяўляць жорсткасць да сваіх дзяцей?

– Я толькі спыталася ў вас, – паспрабавала неяк змякчыць абстаноўку пракурор, – а развялі цэлую анімонію.

– Я нічога не разводзіла, – пакрыўджана прамовіла Наста, – я проста не люблю, калі мне кажуць бязглуздасць… А калі ёсць пытанні да маральнага клімату ў маёй сям’і, папытайцеся ва ўчастковага, які тут прысутнічае, ён і адкажа на вашае пытанне. Я ж магу і падмануць вас…

– Ну, ведаеце, – крутанула незадаволена галавой пракурорша, – вы яшчэ, аказваецца, і агрызацца ўмееце? Ладна, тады скажыце мне, шаноўная, а за што гэта летась арыштоўвалі вашага Антона ў Менску працаўнікі правапарадку?

– Не ведаю.

– А за тое, што ён аказваў жорсткае супраціўленне міліцыі, мацюкаўся, на чым свет стаіць, кулакамі махаў на ахоўнікаў парадку. Супраціўляўся, калі яму скруцілі рукі. Абзываў іх вылюдкамі і фашыстамі.

Наста не вытрымала, засмяялася:

– Мацюкі гнуў? Вы ў сваім розуме? Настаўнік? Супраціўляўся? А што, ён павінен быў падставіць правую шчаку, калі яму саданулі па левай? Чаму ён прыехаў дадому з сінякамі? Хто яго так аблашчыў і прыгалубіў там, на Крапівенскім полі?

Прапурорша стала ўжо строгай, насупіла бровы, губкі сціснула крыўдліва:

– А таму, што ён спектакль разам з апазіцыянерамі наладзіў. Бітву пад Воршай, бачце, арганізавалі. Быццам нейкі князь Астроўскі перамог войскі расейскага цара, маючы ўтрая меншае войска. Ды яшчэ ўсе паапраналіся ў адзенне таго часу…

– Астрожскі…

– Што? Не зразумела, што вы сказалі.

– Вялікі гетман Вялікага Княства Літоўскага Канстанцін Іванавіч Астрожскі, а не Астроўскі. Як сёння міністр абароны СССР.

Па тварах прысутных прабегла ледзь заўважная ўсмешка.

– Ды якая розніца? – ускіпела ўжо пракурорша. – Мы пра вашага мужа-апазіцыянера гаворым, а вы пра Княства.

– Вось і гаварыце пра мужа, – як быццам і падтрымала Наста прадстаўніка пракуратуры.

Яна не пазнавала сама сябе. Здзіўлялася, чаму ўступіла ў спрэчку з пракурорам, стрымлівалася, каб не нагаварыць ёй якіх грубых слоў, бо тады і бяды не абярэшся. Палічыла за лепшае прамаўчаць і болей не ўступаць з ёю ў размовы. А тая, быццам адчуўшы, што жанчына перайшла на пратэстовае маўчанне, перастала падступацца да яе з пытаннямі.

У чым яе віна? Што бачыла, як знік перад ёю Антон? Дык і што? Хіба гэта злачынства? Яна незаўважна для самой сябе набыла ўпэўненасць, адчула сваю безвінаватасць, таму і не было прычын некага ці нечага баяцца. Таму і пачала паводзіць сябе смела і незалежна. Нават з нейкім выклікам паглядзела на ўсіх, хто знаходзіўся ў кабінеце.

– Хто яшчэ мае пытанні да Анастасіі Клімовіч? – папытаўся гаспадар кабінета. – Смялей, калі ласка, каб мы закрылі па магчымасці гэтае пытанне сёння.

– Я дадам колькі слоў, каб праясніць гэтае пытанне, – прыўзняўся з месца ўчастковы, – наконт Антона і Насты, Анастасіі Валер'еўны, – паправіўся адразу, – скажу, што гэта ўзорная сям'я ў Крушніках, ніхто ніколі не чуў, каб у гэтай сям'і адбываліся сваркі. Ды і на працоўным месцы яна паказвае прыклад.

І сеў. Зноў падахвочвае маёр міліцыі да размовы. Яшчэ некалькі чалавек пацікавіліся ў Насты, але не з падкавыкамі ці нейкімі намёкамі, пра іншае – як ідзе праца ў вясковай радзе, якія апошнія пытанні яна выносіла на сесію раённай рады выканкама, як узаемадзейнічаюць між сабой школа, раённая рада і калгас.

Больш ніхто не ўпікаў яе ні ў чым, не выказваў нават і цень падазрэння. Выказаліся ўсе, каго запрашалі на абмеркаванне пытання.

– Ну, што, падвядзём вынікі, таварышы, – не ўстаючы з месца, прамовіў маёр Зайцаў. – Пытанне стаіць так, што мы нічога не ведаем пра тое, што здарылася. Прымем такое рашэнне: заводзім крымінальную справу па знікненні чалавека і прапажы маёмасці гаспадароў – каровы. Справу будзе весці капітан Верам'ёў. І апошняе. Раз мы не ўстанавілі прычынную сувязь мужа і жонкі ў справе знікнення настаўніка Антона Клімовіча, неабходна ўзяць ў Анастасіі Клімовіч падпіску аб нявыездзе з роднай вёскі. Можна было б прызначыць ёй раз на тыдзень ці месяц адзначацца ў нас, але, я думаю, будзе дастаткова і таго, што кожны тыдзень ўчастковы будзе дакладваць нам пра месцазнаходжанне Анастасіі Клімовіч на месцы працы.

– Ды нікуды я не з'еду! – абурылася жанчына. – Куды я з'еду ад дзяцей і мужа, які, веру, павінен з'явіцца?

Маёр крутануў адмоўна галавой:

– Не, такі закон, і мы яго павінны выконваць. І – галоўнае. Вы нам павінны дапамагаць у вышуку вашага мужа, дапамагаць следству, калі ўзнікнуць якія пытанні. Трымаць цесную сувязь з ўчастковым. Гэта, Анастасія Валер'еўна, і ў вашых інтарэсах.

Жанчына кіўнула галавой:

– Добра. Я згодна.

– Ну, вось і вырашылі. Уладзіслаў, – паглядзеў ён на ўчастковага, – завязеш Анастасію Клімовіч дадому, вы ж так і планавалі, што на зваротным шляху возьмеце і яе?

– Планавалі.

– Ну і лады. На гэтым усё. Усім дзякую, хто прыйшоў.

## 12

Макар пераступіў парог веранды, пайшоў на кухню. Паставіў кашэль з мухаморамі каля выварківі. Пайшоў у пакой да жонкі. Яна ляжала у ложку, прымружыўшы вочы. Ведаў, што не спіць. У такі час яна старалася не спаць, бо тады ноччу будзе пакутаваць ад бяссоння.

– Ты як, Анюта? – папытаўся ціха, стоячы каля расчыненых дзвярэй.

– Ат, нічога, жывая яшчэ, – паспрабавала нават пажартаваць жанчына, не расплюшчваючы вачэй. – З лесу вярнуўся?

– Ну, назбіраў грыбоў. Буду гатаваць.

Прамаўчала. Ледзь заўважна кіўнула галавой, зразумеўшы яго.

Мухаморы высыпаў у выварку, заліў вадой. Насыпаў солі, каб з іх выпаў пясок, чакаў нейкі час. Потым узяў вялікую, літраў на восем кастру-

лю, наліў у яе ваду. Запаліў газавую пліту, чыркнуўшы сярнічкай пад каструляй. Другую каструлю ўзяў, каб нарэзаць туды грыбы. Калі закіпела, высыпаў туды здробненыя мухаморы, пачаў наразаць астатнія. Прыемны грыбны пах разлягаўся па хаце. Дарэзаўшы, высыпаў рэшту.

Зменшыў агонь, калі закіпела зноўку, паклаў наверх накрыўку.

Выбраў з усіх вялікую і важкую патэльню, паставіў на свабодную гарэлку. Нарэзаў туды цыбулі, заліў алеем. Счакаўшы мо з паўгадзіны, высыпаў звараныя мухаморы ў друшлаг. Калі сцякла поўнасцю вада, вываліў грыбы ў патэльню. Потым і астатнія дасыпаў. Толькі тады падпаліў гарэлку, крутануў на вялікі агонь.

Патэльня накалілася, засычэлі грыбы і алей разам з цыбуляю.

Узяўшы драўляную лыжку, пачаў памешваць.

Ад патэльні ўгору падымалася пара, па хаце разлягаўся яшчэ большы грыбны пах, казытаў нос, выклікаў сліну…

«А што рабіць з баравічкамі? – раптам успомніў пра прыемны здабытак. – Пасмажыць для сябе? Не… Занесці да Серафімы, каб згатавала смачны суп? Мо і так…»

Рука памешвала і памешвала мяккае змесціва, а ў галаве не было ніводнай перасцярожлівай думкі. Быццам ён рыхтаваў чарговы абед ці вячэру, і нічога лядайкага не лезла ў галаву. Мухаморы набылі адзіны шэра-карычневы колер, цыбуля змяшалася разам з імі, і нельга было вызначыць яе сярод смажаніны. Тады ён успомніў, што не пасаліў, не дадаў туды крыху перцу. Анюта любіла вострыя стравы, таму ён не баяўся нечага перабольшыць.

Каля гадзіны ён чараваў над патэльняй. Потым, адчуўшы, што грыбная страва дайшла да кандыцыі, сасмажылася, адкруціў ручку рэгулятара ў адваротны бок – да нуля. Накрыў шчыльна, счакаў, калі страва «самлее», набудзе свой смак і адметнасць.

«Цяпер пара пачаставаць Анюту. Божа, даруй, Божа, не ўскладзі толькі на мяне віну, калі жонка… Я рабіў так, як яна жадала, калі прасіла ў Цябе дапамогі, каб Ты дапамог ёй вызваліцца ад пакутаў. Даруй, Божа!..»

Наклаў грыбоў поўную вялікую місу. Наліў поўную шклянку кіслага малака. Нарэзаў хлеба. Паклаў на паднос відэлец і лыжку. Усё гэта паставіў на паднос, з якога заўсёды частавалася жонка, панёс да яе.

– Ой, як смачна пахне! – усклікнула яна, гледзячы радасна на гаспадара. – Слінай я ўся сцякла, трываць болей не магу.

Ён паставіў паднос на грудзі, якія яна накрыла перад гэтым шырокім ручніком, бліжэй паклаў лыжку і відэлец, хлеб.

– Ну, я думаю, што ты сама паясі, рэзаць жа нічога не трэба, усё пад рукамі, – прамовіў весела Макар, – а я адлучуся на некалькі хвілін і хутка вярнуся…

– Добра, добра, – згадзілася Анюта, не зірнуўшы нават на яго, каўтала толькі сліну і не магла дачакацца, калі праглыне першую лыжку, – спраўлюся сама. А табе дзякую, што такі пачастунак для мяне падрыхтаваў. Ідзі, вырашай свае клопаты.

Ён пакінуў яе адну.

Выйшаў на вуліцу. Не ведаў, куды падацца. Да Серафімы яшчэ рана, ды і дома мусіць яшчэ няма, іх час пачынаецца тады, калі на вуліцы змяркаецца. Акурат па вуліцы ішоў брыгадзір трактарнай брыгады Піліп Антончык – вясёленькі, «пад мухай», калынаючыся злёгку, на твары задаволеная ўсмешка. Падышоў, павітаўся, падаўшы руку.

– Ну, як ты, браце, як жонка?

– Я нічога, жонка не папраўляецца. Горш і горш.

– Разумею цябе, браце, разумею. Табе не пазайздросціш.

Макар паківаў няўцямна галавой, плячыма пацiснуў. Не ведаў, пра што далей гаварыць.

– Майго «зубра» яшчэ не прывезлі з рамонту?

– Ды не, браце, там у іх нейкія праблемы на заводзе. Ці то цэх пераабсталёўваюць, ці то станкі мяняюць, не ведаю. Старшыня калгаса наведваўся да іх, дык яны яму і расказалі, што да чаго. Так што ты яшчэ можаш колькі тыдняў лынды пабіць.

Макар хмыкнуў, сплюнуўшы сабе пад ногі:

– Лынды? А як запрэгчы мяне на месяцы без перадыху і сну, дык не лынды? Калі я прагуляў хоць адзін дзень? Скажы?

Піліп плямкнуў губамі, паглядзеў вінавата на механізатара, папрасіў:

– Не кіпяціся, я проста так сказаў, на язык ускочыла. Ніхто да цябе прэтэнзій не мае. Ты цяпер як у другім адпачынку, заслужаным адпачынку. Так што выкарыстоўвай з карысцю.

– Так бы і казаў, а то «лынды», «лынды».

– Вінаваты, даруй. А мо пайшлі да бабы Ганны, возьмем па кроплі. На хрэнавых карэнчыках настоеная, ачышчаная, моцная. Дзень такі сёння добры, акурат для душэўнай размовы. Дык як, га?

Іншым разам Макар згадзіўся б, і нагода добрая, што сустрэўся з брыгадзірам, і што яму ў гэты вечар неабходна адсутнічаць дома, ды нешта не адгукнулася ў сэрцы згода, не падтрымаў прапанову калгаснага брыгадзіра, прамовіў:

– Не, Піліп, іншым разам. Клопатаў шмат.

– Ну, глядзі сам, – не пакрыўдзіўся на адмову брыгадзір, – клопаты дык клопаты.

І, крутануўшыся на месцы, пакіраваў сваёй дарогай, пакінуўшы механізатара ў роздуме: усё ніяк не мог прыняць якое-небудзь рашэнне. Але яго трэба было прымаць, каб толькі далей адысці ад хаты, не чуць, што будзе тварыцца ў ёй, калі сваю справу пачнуць рабіць мухаморы – Анюта будзе заходзіцца ад дзікага болю…

## 13

Анастасія Клімовіч усё не магла супакоіцца, як з ёю абышліся ў аддзеле міліцыі. Гэта ж трэба прыдумалі – падумалі, што гэта яна адправіла Антона на той свет, быццам яна сама і вінавата ў тым, што былі нават на тое нейкія прычыны. Во прыдуркі, во дэбілы! Добра хоць што Ладзік прамовіў нейкае слова ў яе падтрымку.

А пракурорша! Во гадзюка, цішком падпаўзла да душы, хацела гадзюкай запаўзці пад самае сэрца. Ці біў Антон дзяцей сваіх, ці з ёю сварыўся…

А табе што да таго? Мо і сварыліся калі, але ж не біліся, кулакі ён ніколі не распускаў, не меў такой моды.

Работы падваліла процьма. Неабходна рыхтаваць пытанне для абласной сесіі. Чыё селішча лепшае. Перад гэтым наладзілі агляд усіх вясковых хат, вызначылі лепшых: у каго ў дварах чыста, у каго аздоблены вокны прыгожымі аканіцамі, у каго кветкі растуць у гародчыках… Вызначылі пяць сядзіб – ветэрана вайны, адмысловага майстра па дрэве Язэпа Крупы, агранома калгаса Пятра Рабянка, лесніка Уладзіка Кашаеда, механізатара Зміцера Юніцкага і даяркі ўдавы Марыны Драпезы…

Паклала перад сабой тэчку з паперамі пра правядзенне тых агледзінаў, як нехта нясмела пастукаў у дзверы. Тут жа дзверы прачыніліся і паказалася галава бабулькі.

– Васіліса Пятроўна? Заходзьце, заходзьце, – запрасіла сакратарка вясковай рады, загарнула вокладку.

Бабулька прычыніла за сабою дзверы, прайшла да стала, абапіраючыся злёгку на арэхавы кіёчак, села на крэсла. Паставіла кіёчак побач, прыхінула да сцяны. Выцерла рагом хусткі перасмяглыя вусны, паглядзела на начальніцу кабінета.

– Настачка, з чым я прыйшла да цябе… Хутка не будзе чым у печы паліць, дачачка мая. Дровы заканчваюцца ў мяне. Да Новага года мо і хо-

піць, але як быць далей, не ведаю. Ды і печ мая рамонту просіць, печніка якога мне адрадзілі б…

Бабулька не скардзілася, бабулька расказвала пра сваю бяду, расказвала спакойна, як бы вінавата, і быццам сама вінаватая была ў тым, што прыйшла з такой просьбай. Яна ўсё жыццё была некаму вінная, як быццам і цяпер яшчэ ніяк не магла выканаць сталінскі падатак і здаць нядоімкі…

– Бабуля Васіліса, мы ведаем пра гэта, – глядзела прыхільна на яе сакратарка, – у мяне запісана вашая просьба… Пячнік прыйдзе да вас у канцы месяца, з суседняй вёскі Анатоль Віктаравіч, ён дарабляе печ у пенсіянера Валадзькова. Скончыць, і тады адразу да вас. А дровы да восені вам прывязуць, так што зімой замярзаць не будзеце…

Васіліса здзіўлена глядзела на Насту, усміхалася, не чакала, што так аднясецца да яе сельсаветчыца.

– То я дарэмна, Насцечка, прыходзіла да цябе? У цябе вуняка колькі тае працы, а я прыперлася са сваёй печчу…

– Ды не, не хвалюйцеся, бабуля Васіліса, добра, што прыйшлі, я паглядзела на вас, вы на мяне… Радая бачыць вас здаровай. Праз пяць гадоў будзем ваш стагадовы юбілей адзначаць.

Бабулька як бы засаромелася, хустачку на галаве папраўіла, разбегліся зморшчынкі на твары бы праменьчыкі ад сонейка, адказала:

– Дажыць да таго юбілею яшчэ трэба, што загадзя гаварыць.

– Але ж мы рыхтавацца павінны, сто гадоў не жартачкі. У нашай вёсцы вы ды дзед Міхась набліжаецца да гэтай даты. Так што дажывяце, як жа нам без вас і вашага юбілею?

Васіліса ўсміхаецца, на сэрцы ў яе хораша ад добрых слоў, але ведае, што доўга заседжвацца не след, трэба ісці да сваіх хатніх клопатаў, а сельсаветчыцы сваю працу трэба рабіць.

– То я пайду, донька мая, дадому. Заседзелася ў цябе.

– Добра.

Наста паднялася з месца, чакала, калі бабулька падыдзе да дзвярэй, праводзіла яе.

– Так што не хвалюйцеся, бабуля Васіліса, усе вашыя просьбы выканаем.

– Ну то і дзякую, Настачка.

А потым спынілася, зірнула спачувальна ў вочы сакратарцы, спытала-прашаптала:

– Нічога не чуваць пра Антона?

Наста пахітала адмоўна галавой, уздыхнула:

– Анічога, бабуля. Не ведаю, што з ім, і дзе ён.

Васіліса падцяла вусны, пахітала галавой:

– Божа, Божа, не памятаю, каб калі такое здаралася на маім вяку. Але ўсё ў руках Госпада. Маліся да Яго, прасі помачы. Не можа быць, каб тое, што ў маіх руках нарадзілася, знікла ці згінула.

– Я і прашу – днём і ноччу.

За бабулькай зачыніліся дзверы. Чуваць было, як яна тэпала па калідоры, кіёчак цокаў па падлозе.

Сама таго не ведаючы, бабулька растрывожыла душу Насты. Кальнула ў скроні, даўкі халадок пашыўся пад грудзі. На паперу ўпала некалькі слязінак, быццам сняжынкі апусціліся на шэрую вокладку і раставалі, пакінуўшы сляды. Быццам зоркі ў небе свяціліся, утварыўшы Вялікі Воз.

«Божа, Божа, навошта Ты мне пасылаеш такое выпрабаванне? Для чаго? Выпрабаваць хочаш мяне, Божа? Пераканацца, ці кахаю я Антона? Мы і не задумваліся над тым, ці кахаем адно аднаго, не да таго было, не было калі і падумаць пра гэта з-за штодзённых клопатаў. Жылі побач, нарадзілі дзяцей, ды якіх цудоўных дзяцей! Без кахання такія не атрымліваюцца. Ды толькі цяпер я зразумела, Божа, як я яго кахаю. Сплю, а чую дыханне побач, іду па вуліцы, а чую, як ён кліча мяне… Абарочваюся на голас, а яго няма. Усюды ён побач, а не бачу яго. Адчуваю прысутнасць яго, што ён побач з намі, з дзецьмі, а не бачым. Няўжо трэба, Госпадзе, для таго, каб зразумець і адчуць каханне між намі, трэба знаходзіцца ў такім становішчы, жыць без яго, Антона? Што маем, не цэнім, а чаго не маем, без таго і жыць немажліва… Божачка мілы, я вытрымаю ўсё, але Ты толькі скажы мне, калі скончыцца гэтая невядомасць. І ці ўвогуле скончыцца. Усё, Госпадзе, ва ўладзе Тваёй, Ты адзіны ведаеш, што з ім і што з намі будзе. Госпадзе, памілуй мяне грэшную, памілуй і памажы!..»

На падваконне з вуліцы ўскочыў верабей. Распусціў крылы, запырхаў, быццам хацеў узляцець, потым пачаў кляваць нябачныя парушынкі. Побач з ім сінічка села, зацiлiўкала пра нешта. Павярнулася і па шыбіне колькі разоў дзюбкай застукала. Наста ведала, што сінічка падае ёй нейкі знак, толькі які, не ведала. Не адчувала. Мо то душа Антона хацела дастукацца да яе сэрца і пра нешта паведаміць, ці сінічка проста так рашыла атабарыцца на акне, як і верабейка.

Не ведала Наста, як ставіцца да такіх намёкаў ці паведамленняў, але тое, што тычылася яе, была ўпэўнена. І таму пастаралася спакойна аднесціся да гэтай з'явы, неяк асэнсаваць яе, разабрацца ў ёй. Але ж сама сябе і абсекла: як разабрацца, хто растлумачыць ёй, што тут і да чаго. Ніхто не растлумачыць, бо гэта не паддаецца ніякаму аналізу і тлумачэнню.

Усё ж разгарнула тэчку, пачала праглядаць падшытыя паперы.

Кожная патрабавала свайго вырашэння. Ці то была скарга на нешта, ці просьба нешта выдзеліць, памагчы, аплаціць. У адной падшыты дакументы аб рэгістрацыі шлюбу, у другой – скасаванне шлюбу; у трэцяй выдачы даведак аб складзе сям'і, аб выдзяленні зямельных участкаў, пытанні спадчыны, судовыя справы… Усё справаводства на ёй, а гэта не паперкі перакладаць з месца на месца, тут трэба ой як пакруціцца, ой як напруціцца!..

Спачатку, калі яна прыступіла да гэтай пасады, калі прапрацавала з паўгода, пашкадавала, што пакінула настаўніцтва. Хаця і там быў не мёд, праверка сшыткаў, пазакласныя мерапрыемствы, дадатковыя заняткі, – і сутак не хапіла, каб справіцца з усімі нагрузкамі. Думала, што ў вясковай радзе будзе лягчэй.

Пасаду сакратара прапанавала ёй загадчыца арганізацыйнага аддзела райвыканкама Паліна Верасова, калі прыязджала ў школу па нейкіх педагагічных пытаннях. Родам сама з суседняй вёскі, з Каменя. Наста і раней яе ведала, таксама настаўніцкі інстытут заканчвала, як і Наста. І яе забралі са школы на працу ў райвыканкам. Вяла актыўна прафсаюзную работу ў сваёй школе, і яе заўважылі, прапанавалі памяняць прафесію.

Наста калі агледзелася на новай працы, убачыла, колькі звалілася на яе галаву, той жа Паліне і сказала: «Не спраўляюся я з працай. За адно вазьмуся, як другое і трэцяе на плечы сядае… Мо вярні мяне ў маю школу, га, Паліна?» Тая толькі ўсміхнулася, адказала: «То толькі па першым часе табе цяжка. Бо яшчэ не ўмееш арганізаваць свой працоўны дзень. Пройдзе яшчэ паўгода, і ты пабачыш, што твае страхі былі дарэмнымі…»

Прайшло ўжо і два гады, а яна той палёгкі не адчула. Уцягнулася, навучылася ўсё раскладаць па палічках, ды і старшыня вясковай рады чалавек ніштаваты, не перанагружаў яе ніколі. Але здаралася, што і прасіў у выхадныя дні пасядзець над паперамі. Але то ўжо ў рэдкіх выпадках.

Ды яно б нічога, ды вось гэтая бяда, што нечакана абрынулася на яе. Яна легла каменем на душу, на сэрца, абвіла горам, ад якога невядома ці калі і пазбавіцца.

Зірнула за акно – па вуліцы спяшаўся, амаль бег, яе брат Макар. Выгляд у яго заклапочаны, глядзеў пад ногі, быццам баяўся за нешта зачапіцца. Напачатку памкнулася ўстаць ды выйсці на ганак, паклікаць брата, пацікавіцца, куды гэта ён шлях трымае, ды перадумала: пакуль выйдзе на той ганак, то Макар ужо далёка будзе ад яе і не пачуе яе вокліч.

«Дзіўна, што гэта з ім? Можа, на аўтобус спяшаецца, які хутка падыдзе з Мазыра. А што яму ў Мазыры рабіць – з якой нагоды мог выбрацца туды?.. Без сумкі, з пустымі рукамі. Незразумела».

Зноў паглыбілася ў свае паперы.

## 14

Як толькі яго пакінуў брыгадзір Піліп Антончык, яшчэ раз зірнуў на вокны сваёй хаты. Белыя аканіцы, белыя фіранкі ў хаце. Каб ведаў, што Серафіма знаходзілася дома, падаўся б да яе. Яна дастала б пляшачку беленькай, і ён бы апаражняў бы яе паціхеньку, наліваючы ў шкалікі горкую вадкасць, глушыў бы, заліваў бы гарэлкаю свой душэўны боль, сваю вінаватасць. Серафіма яго зразумела б, ведала ж, на які крок рашыўся, з яе ж падачы ўсё і пачалося.

І Макар знайшоў выйсце. У яго быў куточак, куды ён іншы раз завітваў, калі хацеў схавацца хоць на момант і ад людзей, і ад душэўных клопатаў. Сярод густога асінніку, які не праглядваўся ні з аднаго боку, знаходзіўся дубовы пень. На ім льга было сядзець, абапёршыся аб другі, нязрэзаны, ствол «брата» дубка, якога пашкадавала нечая піла.

Узрадаваўся, усеўшыся на зручнае месца, што адгарадзіўся ад усяго свету, што ні з кім не давядзецца размаўляць, пра нешта гаварыць. Ён прыхінуўся да шаршавай кары, адчуў сілу і магутнасць маладога дуба, пачаў паціху прыходзіць у сябе, пакрысе набываў душэўную раўнавагу. Здаецца, ад яго адсталі і тыя, хто падахвочваў да рашучых дзеянняў, і тыя, хто пярэчыў, не згаджаўся з яго рашэннем, балючымі словамі папікаў яго, рабіў балюча. Ды яшчэ і не шкадаваў, біў пад самы дых. Добра, што адстаў, добра, што некуды знік, а мо і стаміўся здзекавацца з яго, іншымі клопатамі ці людзьмі заняўся…

– Ты чаго тут схаваўся, Макарко? – прагучаў за спінай голас.

«Анюта? – здзівіўся і напалохаўся нават Макар, не спяшаючыся азірнуцца, паглядзець на яе. – Устала з ложка? Ды як яна ўведала, што я тут схаваўся? Не можа таго быць, каб паднялася. Прыкідвалася ўвесь час? А насамрэч яна здаровая і бадзёрая…»

– Ды сяджу, адпачываю, думы думаю, Анютка. А навошта я табе? Што хацела сказаць?

– Анічога, – спакойна прамовіла жонка. – І я тут любіла сядзець, не раз прыходзіла.

Маўчанне. Макар памкнуўся ўсё ж азірнуцца, ды нейкая сіла ашчаперыла галаву, сціснула яе быццам абцугамі, і ён не мог ужо варухнуцца.

На плечы леглі Анютчыны рукі, цёплыя, даверлівыя, чуваць было, як яна роўна і ціха дыхае.

– Як жыць далей думаеш, Макар?

– Не ведаю, а што?

– Анічога. Так проста спытала. Калі чалавек здзейсніць нейкі ўчынак, то пасля гэтага ён ніяк не можа вярнуцца да далейшага жыцця: пакутуе, перажывае, сумняваецца.

– Гледзячы які ўчынак.

– Праўда, Макарко, праўда. Гледзячы які. Помніш, як ты служыў у арміі, калі не дапамог свайму таварышу, радавому Сташкевічу, выпаўзці з дрыгвы, калі ён праваліўся і ішоў паперадзе цябе? Ты яму не падаў руку. Ён загінуў, а ты і цяпер караеш сябе за тое.

– Адкуль ты ведаеш пра тое, Анюта? Я ж табе пра тое ніколі не расказваў.

– Той жа Сташкевіч Пятрусь і расказаў мне.

– Ты ж яго не ведала?

– Я ўсіх тваіх сяброў ведаю.

– Я сам следам за ім праваліўся ў багну. Не мог у той час падаць яму руку – абаіх бы засмактала балотная твань. А калі выпаўз, то ён знік, над ім толькі бурбалкі пухкалі…

– Я здагадвалася, што ты палахлівец, але не ўпэўненая была ў гэтым.

– Даруй, Анюта…

– Ды не ў мяне даравання прасі, а ў Петруся. А што са мной, дык што тут паробіш. Яе каханне перамагло маё. Але навошта было такім шляхам ісці, я і сама праз колькі месяцаў выправілася б у вечнае падарожжа. Навошта ўсклаў на сябе і гэтыя пакуты. Хіба ж можа вытрымаць тваё сэрца ўспамінаў? Не шкадуеш ты сябе, не шкадуеш.

Макар нічога больш не казаў. Брала толькі здзіўленне, як гэта Анюта, такая хворая, што і з ложка ўстаць не магла, прыйшла да яго, да яго схованкі. Ды не толькі прыйшла, а вывернула яму ўсе шлункі сваімі папрокамі і ўспамінамі пра яго юначыя гады.

«З’ела ці не з’ела яна грыбы?..»

Яна дакранулася вуснамі да яго галавы, ці то пацалавала, ці дакранулася да цемечка, доўга не адрывалася, хукнула злёгку, быццам здзьмухвала з валасоў пыл ці павуцінкі бабінага лета.

– Жыві. Я не ў крыўдзе на цябе.

І тут жа знікла яго здранцвенне, зноў пачала пульсаваць па венах кроў, галава стала паслухмянай, ён ужо мог варочаць ёю, як і шавяліць рукамі і нагамі. Але ўсё яшчэ асцерагаўся азірнуцца. Быццам баяўся ўбачыць ззаду нешта такое, што магло прывесці яго да нечаканага вялікага патрасення. Тады ён пачуў, як над дрэвамі закаркалі вароны, як тугі вецер прайшоўся па галінах дрэў і яны загулі, зашамацелі яшчэ не апалым лісцем. Ён вярнуўся да быцця, да натуральнага свайго стану.

Але ён ужо не быў тым чалавекам, якім пачуваўся да гэтага. Нешта ў ім перамянілася, падмяніліся паняцці і думкі нечым іншым, больш зразумелым, асэнсаваным. Не мог растлумачыць перамену, але адчуў, што тое яму даспадобы. Сэрца білася гулка, але не трывожна, прапаў некуды страх, а замест яго ўсяліўся папрок да самога сябе: «Як далей жыць з "гэтым"? Хто надаўміў мяне на "такое"? Д'ябал? Серафіма? І не пабаялася Бога, такое мне прапанаваць? Каханне і ў прыдачу гаршчэчак з золатам… Ды на які хрэн мне тое золата і яе каханне? З Петрусём я можа і невінаваты, Бог тое бачыў, але ж рукі не падаў, як папракнула жонка. А раз не падаў, то вінаваты перад сябрам і перад Богам. Каб падаў, то разам бы пайшлі на дно багны, і засталіся б сябрамі, а так… Падаў жа ён мне руку, калі разам сарваліся з гары? Не пабаяўся, што следам за мной шусне. А я…»

Дзіўна, але перад ім навакольны свет увачавідкі набыў нейкія новыя фарбы і адценні. Ён іх адкрываў нанова. Быццам бы да гэтага быў сляпы, невідушчы. Можа толькі сонца і бачыў, якое і асляпіла яго, асляпіла яго душу. І ён схамянуўся, уздрыгнуў, як скінуў з сябе нябачны груз, расправіў плечы і выдыхнуў з сябе паветра, якое ніяк не магло вырвацца вонкі.

«Чаму паддаўся? Чаму ніхто не расплюшчыў мне вочы? Нават Анютка не пакрыўдзілася на мяне, сказаўшы, каб жыў, што не крыўдуе на мяне. Яна мне ўсё даравала? А я сабе? Божа, Ты зняў намітку з вачэй маіх, здымі яе і з сэрца майго, з душы маёй, не прашу даравання ў Цябе, бо грэх забойства ніколі не даруецца, ведаю пра тое…»

Ён асмеліўся і азірнуўся. Ведаў, што цяпер яму дазволена азірнуцца, з яго скінута скаванасць і нерухомасць.

На самай тоўстай асіне, на ніжняй яе галінцы, вісеў, завязаны свабодным вузлом, пасачак. Анютчын пасачак. Быццам яна паказала яму, што была з ім побач, што яму іх размова не прымроілася, а была на яве. Пасачак быў адмысловы, падораны некалі яе бабулькай Варварай. То быў слуцкі пасачак, пояс, якім апярэзвалася заўсёды Анюта. «Беражы, унучка, гэты даруначак, – казала ёй Варварка, – то абярэг твой, я вымаліла ў Госпада табе доўгае жыццё. Не губляй яго, не прадавай ні за якія грошы, ні за горы залатыя, ні даліны срэбныя…»

Даведаўшыся, прыязджалі да Анюты працаўнікі самага галоўнага музея з Менску, давалі вялікія грошы. Не паквапілася. З Амерыкі прыязджаў Васілько Бойка, багацей, заводы свае там трымаў, родам з Мазыршчыны. Скупляў карціны і старыя рэчы для сваёй прыватнай калекцыі. Такую плату прызначыў, што і паверыць не магла. Хаты за яго можна было паставіць новыя ўсёй вёсцы. Пры ім, Макару, была тая размова. Анютка

толькі ўсміхнулася, адказала: «Не, Васілько, не магу, бо забараніла мне Варварка прадаваць пасачак ні за якія грошы. Сказала, калі згублю ці аддам у чужыя рукі за грошы, то і смерць мяне напаткае… Не, даруй, не магу, – я жыць хачу…»

Так ні з чым і пайшоў з хаты беларус-амерыканец. Здзіўлены і нахмураны пайшоў: першы раз сустрэўся з такім, а лічыў, што за любыя грошы мог купіць любую рэч ці антыкварыят.

Макар зняў з галінкі пасачак, усунуў яго ў кішэню.

Пайшоў да сваёй хаты. І тут зноў падкралася да яго трывожнае прадчуванне: ён ішоў, каб пераканацца, што жонкі няма ўжо ў жывых. Ішоў, а не ведаў, што будзе з гэтым рабіць. У галаве не было ніякіх рашэнняў. Падняўся на ганак веранды, расчыніў дзверы, зайшоў у пакой. У хаце было ціха. Пайшоў, прасцярожліва ступаючы па падлозе, у спальню, да Анюты.

Яна ляжала на спіне, адвярнуўшыся да сцяны. Казалі людзі, што калі чалавек памірае, ён заўсёды адварочваецца ад людзей, як быццам не хоча, каб бачылі яго спакутаваны твар.

На грудзях ляжала разгорнутая кніга – Біблія. Правая рука апусцілася амаль да падлогі. Ён узяў яе, паклаў на грудзі, адчуў, што рука халодная і безжыццёвая. Але не верыў чамусьці, што жонка памерла, таму, каб пераканацца ў тым, спытаў напаўголаса:

– Анюта, ты жывая хоць?

Ні адказу, ні ўздыху.

– Даруй мне, Анютка, даруй.

На вочы набеглі слёзы. Ён двума пальцамі націснуў на свае вачніцы, каб сцішыць боль і зняць пячайку ад слёз.

– Дурань я, і няма мне ніякага даравання. Таму і павінен панесці за свой грэх пакаранне. Не сярод людзей мне месца, а за кратамі… Ды нават не за кратамі, а заслужыў найвышэйшую меру пакарання. Я сам сабе прысудзіў такую кару.

Ён з усяе сілы пляснуў сябе па ілбе, аж бліснулі іскры ў вачах.

Першае, што ён зрабіў, накінуў прасцірадла на вялізнае люстра, што стаяла ў кутку спальні. Ён як быццам працверазеў пасля доўгай п’янкі, пачаў асэнсоўваць сітуацыю, і ўжо далей выходзіла не падсвядома, хаатычна, а асэнсавана, зразумеўшы абсурднасць свайго становішча. Горкага і бруднага становішча.

Кружноў выскачыў у двор. Яго ўжо не хвалявала, ці накормлены куры і свінні ў хлеўчуку, ці ўсё ён уладкаваў па гаспадарцы. Іншае займала яго думкі. Выбег на вуліцу, паглядзеў у адзін бок, у другі: вуліца ўсцяж пуставала. Паглядзеў на наручны гадзіннік: да адпраўкі маршрутнага аў-

тобуса «Мазыр–Крушнікі» заставалася паўгадзіны. Паспее. Яму нельга было спазняцца, бо тады ўсё страціць свой сэнс, і сітуацыя для яго павернецца ў іншы бок.

Але найперш ён павінен пра ўсё сказаць участковаму. Прызнацца ў злачынстве, а потым ужо дзейнічаць далей. Ён падаўся да Гарчукоў. Ускочыў у двор. Убачыў бацьку, падбег да яго.

– Ладзік дома?

Гаспадар глядзеў здзіўлена на мітуслівага Макара, не пазнаючы ў ім раней спакойнага і лагоднага, адказаў здзіўлена:

– Ды ў раён паехаў. Нарада там у іх нейкая. А што здарылася?

Макар скрыгатнуў зубамі, нічога не сказаў. У душы мацюгнуўся, нішком пакінуў двор.

Ён амаль пабег па вуліцы, хаця да прыпынку ён мог спакойна дайсці хвілін за дзесяць. Але ён не мог спакойна стаяць на адным месцы, яго круціла, ламала ўсяго, як падчас грыпу з высокай тэмпературай, якую нічым нельга было збіць, ніякімі лекамі. Скрыгатаў зубамі, часта дыхаў, і толькі адно жаданне было ў яго: каб ніхто не бачыў яго стану, каб ніхто не здагадаўся, што тварылася ў яго душы…

Але здарылася неверагоднае. Чаго-чаго, а ў гэты момант ён ніяк не чакаў сустрэчы з жанчынай, якая ішла насустрач, нават усміхалася прыветна, што сустрэла яго, Кружнова. Знекуль, а не было ж наперадзе перад гэтым нікога, вынырнула Серафіма, яго каханка. Здалёк відаць, што яна радая іх сустрэчы, што вось так напаткала палюбоўніка, які, як толькі сцямнее на вуліцы, прыйдзе да яе, іх абодвух чакае ложак кахання.

– Добры дзень, Макарчык, куды ты гэта так спяшаешся? – какетліва здалёк нахіліла галаву, язычок на губу прытуліла, вочкамі блудліва павяла, жарсць сваю і адданасць паказвала.

Але як толькі параўняліся, як сутыкнулася іх позіркі, ён нахмурыўся, скрыгатнуў зноў зубамі, прашыпеў злосна і зняважліва, уклаўшы ў кожнае слова ўсю сваю нянавісць, якая нарадзілася тут жа, як толькі ўбачыў яе юрлівы позірк:

– Ды пшла ты адсюль, сучка драная, дачка сатаны, вочы мае цябе не бачылі б!

Амаль адштурхнуў яе ад сябе, бо яна гатовая была ўжо кінуцца ў абдымкі, не асцерагаючыся чужога вока, рашуча пашыбаваў наперад, не азірнуўшыся, не ведаючы, у якім стане пакінуў яе.

Яна ж стаяла з шырока расплюшчанымі вачыма, нічога не разумеючы, ні пра што не здагадваючыся. Паціснула недаўменна плячыма, яшчэ доўга

гледзячы яму ўслед, аж пакуль ён не знік за паваротка́й, за хатай Мікіты Давідовіча.

Серафіма нават не адчула, што ў гэты момант храснула і парвалася вяроўка, якая звязвала іх, нават і слабой нітачкі ўжо не праглядалася. Знікла, растварылася ў паветры. Адчула, як запякло ў вачах, сэрца найперш адчула, што дом, палац, замак, які збудавала ў сваіх думках, у хворым сваім ўяўленні прывіднага кахання, распаўся, знік у шэрым тумане…

**15**

Ладзік Гарчук прачнуўся рана, раней як звычайна. То а шостай гадзіне ўставаў, а тут гадзіннік пяць паказваў. Прачнуўся, але не ўставаў, рашыў яшчэ трохі паляжаць, прывесці свае думкі ў парадак, раскласці па палічках.

А разбудзіў яго настаўнік Антон Клімовіч. Прысніўся. Быццам ідуць яны па вёсцы, нешта абмяркоўваюць, а потым Антон, развітваючыся, прамовіў: «Дзякуй табе, Ладзік, што жонку маю падтрымаў…» Ладзік хацеў нешта адказаць, запярэчыць, што ніякай падтрымкі ён не аказваў, проста сказаў тое, што падумалася. Але Антон павярнуўся і пайшоў ад яго, нават і не агляну́ўся…

Нязначны эпізод, не трывожны, але Антон сваім з'яўленнем перапыніў сон, і яшчэ чуліся яго словы «дзякуй табе, што жонку падтрымаў…»

Сапраўды, што сталася з ім? У галаве не ўкладалася, розум адмаўляўся нешта разумець. Ды і ніхто не разумеў, як такое магло стацца – пайшоў у белае мроіва і растварыўся. Як драбок цукру, апушчаны ў гарбату. Але ж чалавек не цукар, не штучнае стварэнне. Колькі вунь па тых туманах людзі ходзяць, і нічога, нават і ўвагі не звяртаюць на яго. А тут…

Шкада было Насту, прыгнечаная горам, счарнела бы тая сопуха, змарнела. У вачах ні радасці, ні весялосці. І дзеці, гледзячы на яе, сталі іншымі. Вераніка раней і спявала, і танцавала, калі ладзілі нейкія вечарыны ў школе, а то зусім адмовілася ўдзельнічаць у святах ды пастаноўках. Настаўнікі разумелі яе, не прымушалі, не прасілі нават. А Паўлік дык той нахмураны заўжды ходзіць, таксама развучыўся ўсміхацца. Да бацькі падобны, калі хмурыцца, калі думае пра нешта.

Антонавы бацькі – Юрый Адамавіч і Станіслава Фёдараўна – падыходзілі не раз да яго, пыталіся, ці няма навінаў у расследаванні знікнення іх сына. У вачах скруха, спадзяванне на добрую навіну. Але ён адмоўна круціў галавой, адказваў: «Нічога новага…» І Насціным бацькам – Валерыю Мікітавічу і Валянціне Міхайлаўне Кружновым – тое ж адказваў. Ва ўсіх

гора, усе перажываюць. Але ніхто не думаў з іх, ды і не верыў, калі ўжо на тое, што Антон Клімовіч мог загінуць. Не на вайне ж, не на фронце, а ў ціхім лесе знік, у родным лесе, слядоў не пакінуўшы.

Сам не ведае, як улез у размову, абараняючы Насту ад падазрэнняў. Смешна ў нечым падазраваць яе, таму і не вытрымаў, абурыўся, чым выклікаў незадаволенасць начальства, той жа пракуроршы, вунь як вачыма нядобра бліснула, аж пранізала ўсяго.

Гэта галоўная праблема ў Ладзіка. Службовая, так бы мовіць, рабочая. А ёсць дзясяткі і іншых, прыватных і грамадскіх, але ўсе яны датычаць службы ўчастковага. Ён павінен адказваць за ўсё, сачыць за жыццём людзей на тэрыторыі, якую яму абазначылі па інструкцыі. Той жа Макар. Нічога чалавек, кепскага сказаць пра яго нельга, але ж… Тое, што старшыня калгаса яго хваліць, ставіць у прыклад іншым, гэта добра, але Ладзіку не падабаюцца яго паводзіны і прыватнае жыццё. Гэта ж трэба, прысмактаўся так да сястрыцы Серафімы, што і не адарваць. Пры жывой жонцы, якая хварэе незразумела якой хваробай. А тут і Серафіма падвярнулася, атуліла сваёй ласкай і пяшчотай. Макар думае, што ніхто не ведае, як ён прыцемкамі пад плот нырае, а потым і пад коўдру да Серафімы… Ну, калі шчыра, калі як на духу, то і ён, Ладзік, не бязгрэшны. Яшчэ больш грэшны, чым Макар. У кожнай вёсцы, якая знаходзіцца на яго тэрыторыі, ёсць каханка. Бацькі не раз казалі яму, каб ажаніўся, каб «асцяпяніўся», каб яны ўнукаў гадавалі, а ён заўсёды аджартоўваўся: «Рана мне яшчэ жаніцца, пачакайце трошкі…» Бацькі не разумелі яго: «Як гэта “пачакайце”, табе ж вось-вось сорак набяжыць, а ты…» Ну навошта ж і сапраўды жаніцца, калі кожным разам новыя жаночыя рукі абдымаюць, мілуюць. А жэніцца, дык і прападзе такая лафа. Мо і не прападзе, але жонка будзе мець поўнае права патрабаваць ад яго адданасці і вернасці…

Таму разумеў і сваю сястру, і таго ж Макара. Так ужо зладкаваны, мусіць, чалавек, што не можа адмовіцца ад уцех і кахання. Не можа…

Ладзік пачуў, як паднялася маці, следам за ёй і бацька. Зірнуў на гадзіннік: абедзве стрэлкі нацэлены ўніз. Устаў, заслаў ложак. Расчыніў дзверы са свайго пакоя, выйшаў у залу.

Убачыўшы бацькоў, бадзёра выгукнуў:

– Вітаю вас! Добрага ранку!

## 16

Макар Кружноў прабег паўз будынак вясковай рады, спыніўся, хацеў забегчы да сястры, сказаць, што «едзе здавацца», але перадумаў, махнуў рукой, пашыбаваў далей.

На прыпынку пачалі збірацца людзі. Ён стаў воддалеч, каб не зачапілі яго з размовамі. Яму вельмі не хацелася з кім-небудзь гаварыць, слухаць і адказваць на пытанні. Ён у гэты момант быў падобны да глухога і сляпога. У галаве віўся рой думак, але адна пякуча даставала да сэрца: «Як, як я мог рашыцца на такое?!» Аднекуль вынырнуў брыгадзір Піліп, падышоў да Макара, спытаў, што за клопат у яго ў Мазыры, але Макар адмахнуўся ад яго, адвярнуўся, не хочучы ўстраваць у размову, адышоў на колькі крокаў ад прыпынку.

А людзі, іх было мо чалавек з дзесяць-дванаццаць, гаварылі пра нешта між сабой, нехта рагатаў, жартуючы, нехта казаў пра кепскае надвор'е, якое перашкаджае выкапаць бульбу, і ўсе галасы гучалі глуха і далёка, як быццам з-пад зямлі. Макар чамусьці адчуў сябе чужым сярод натоўпу, сярод вяскоўцаў, бо ведаў, што яго чакае ганьба і людская нянавісць. Ён заслужыў яе, з-за сваёй дурной галавы заслужыў, так яму і трэба. За ўсё трэба адказваць.

Вельмі ж не хацелася, каб хто падсеў да яго і распачаў з ім размову. Не да размоў было. У яго анямеў язык, і не мог ён вымавіць ніводнага слова.

Пад'ехаў аўтобус. Развярнуўся на прасторнай пляцоўцы, падкаціў да людзей. Усе рынуліся наперад, каб заняць лепшыя месцы. Калі ўсе зайшлі і расселіся, зайшоў у заднія дзверы. І дужа абрадаваўся, убачыўшы, што адно задняе месца – у куточку – было вольнае. Як бы падрыхтаванае для яго. Ён моўчкі прасунуўся да яго, гэпнуўся на сядзенне. Мелькам зірнуў на людзей і адзначыў, што сядзелі людзі не з яго вёскі, а, мусіць, з суседняй, куды заязджаў, згодна маршруту, кіроўца аўтобуса.

Але ён усё роўна нізка апусціў галаву, глядзеў на свае калені, баючыся сустрэцца з чым-небудзь позіркам. Не хацелася нават слухаць, пра што гаварылі людзі, з чаго смяяліся, хто з вастрасловаў жартаваў ці падколваў сваімі калюкамі.

– Адстань, Мікола, надакучыў ты мне сваімі гундосвамі… Вушы ад цябе баляць.

– А ты не слухай, заткні ватай свае вушы.

– Ды хоць бы што людскае казаў, а то ні ў задніцу, ні ў чырвоную армію…

– Тады ты скажы што людскае, каб пачулі людзі.

– А, балабол ён і ёсць балабол…

І не жартуюць, і не сварацца, абы пачасаць языкамі. Цётка спераду пачала расказваць пра ўнукаў, якія яны ў яе разумныя і працавітыя. А перад імі пырскалі смехам дзяўчаткі, расказваючы, як на занятках па фізкультуры выкладчык паслізнуўся ды ляснуўся на зямлю…

Праехалі Зімовішча, Турбінку, Заляддзе, а потым і гравійка пачалася, менш трэсці пачало. Макар нішком паглядваў за акно, за якім праплывалі краявіды, яны змяняліся лесам, хатамі наступнай вёскі. На душы трошкі палегчала, стала спакайней дыхаць.

«Вось прыеду, прызнаюся, і стане мне зусім лёгка, – разважаў, не адрываючыся ад акна Макар Кружноў, – бо перастане гнясці невядомасць і вінаватасць. Злачынца я, жонказабойца… Хутчэй бы ўжо прыехалі ў Мазыр, ды надзелі на мяне кайданкі. А як жа там адна Анюта, не ведае ніхто, што яна адышла ў іншы свет…»

Аўтобус нырнуў у нізіну, на нейкай выбоіне страсянуўся, падкінуўшы пасажыраў на сядзеннях. Потым, натужна равучы рухавіком, ЛАЗ падымаўся на ўзгорак. Пад’ехалі да нейкай вёскі, аўтобус спыніўся. Зайшлі зноў людзі, набілася ўжо з коптурам, стаялі на праходзе.

Уехалі ў Антонаўку, найбліжэйшую вёску каля Мазыра.

Аўтобус доўга каціўся з гары і павярнуў направа – на мост праз Прыпяць. Убіўся ў доўгую чаргу легкавушак і грузавых машын, павольі сунуўся па роўнай дарозе моста.

Аўтобус спыніўся каля аўтавакзала, кіроўца выгукнуў весела:

– Усё, прыехалі. Не забывайце, калі ласка, свае хатулі. Асабліва мяшкі з грашыма.

– Дзе ты бачыў, Гена, у нас мяшкі з грашыма?

– Ды вас, калі добра патрэсці, то не толькі мяшкі, а і скрыні, забітыя рублямі, знойдуцца…

– Табе б столькі грошай, як ты думаеш пра нас.

І выходзіў Макар з аўтобуса апошні. Ступіў на асфальт, агледзеўся. Каб дабрацца да раённага аддзялення міліцыі, трэба сесці на сорак пяты аўтобус, даехаць да плошчы, а ад яе прайсці з кіламетр на Кімбараўку. Там, у засені дрэў, і знаходзіцца двухпавярховы цагляны будынак.

Рэчаў з сабой не было, таму ішлося лёгка, хаця і неахвотна. Адзін, нехта маўклівы, піхаў у спіну, а другі адцягваў тыя хвіліны, якія доўжыліся, але якія павінны былі скончыцца і прывесці да фіналу гісторыі.

На ганку міліцыі, гледзячы некуды ў бок дарогі, стаяў маёр. Маёр Зайцаў. Росту невысокага, маладжавы, нечым заклапочаны. На чалавека,

што падышоў да яго ці ішоў паўз яго, ён не звярнуў увагі, нейкія пільныя думкі поўнасцю завалодалі ім.

– Таварыш маёр, дазвольце звярнуцца… – гледзячы знізу ўверх, прамовіў ніякавата крушнічанін.

– Звяртайся, што ў цябе?

– Арыштуйце мяне, таварыш маёр.

– За што цябе арыштоўваць, што ты злачыннага зрабіў?

Макар падняўся на адну прыступку вышэй, амаль параўняўся з прадстаўніком праваахоўных органаў. Той пільна прыгледзеўся да незнаёмага чалавека.

– Я жонку забіў. Ляжыць мёртвая дома. А я сюды да вас прыехаў, каб прызнацца. Каб арыштавалі мяне.

Маёр яшчэ пільней прыгледзеўся да вяскоўца, хацеў пераканацца, ці не жартуе чалавек, ці не прыдурваецца, удакладніў толькі:

– Ты адкуль?

– З Крушнікаў. Механізатар я. На трактары працую.

– З Крушнікаў? Што за храновіна атрымліваецца – то чалавек у лесе прападае, то трактарыст жонку забівае. Адкуль вы на маю галаву? Вы ж мне паказчыкі па ахове грамадскага парадку псуяце і ўзровень злачыннасці падымаеце.

– Прозвішча.

– Чыё?

– Ну не маё ж. Я – начальнік следчага аддзела маёр Іван Зайцаў. А ты?

– Макар я. Кружноў Макар. Калгасны механізатар.

– Чым ты, Макар Кружноў, жонку сваю забіў? Сякераю ці нажом у сэрца пырнуў?

– Не. Грыбамі забіў. Мухаморамі.

Зайцаў, мусіць, падумаў, што ў чалавека не ўсе дома, таму хмыкнуў, пачасаў пераноссе, усміхнуўся. Першы раз такое адбылося, калі чалавек прыходзіць у райаддзел і прызнаецца, што мухаморамі жонку на той свет адправіў. Лухта нейкая, няйначай.

– Не разумею, як гэта грыбамі можна забіць чалавека.

– Ды палюбоўніца падбіла мяне на гэтую гнюсную справу. Жонка ляжыць у мяне цяжкахворая, з ложка не ўстае. Папрасіла мяне грыбоў прынесці ды насмажыць. А Серафіма, дышла ёй у зад, і кажа, ты назбірай мухамораў, ды насмаж іх ёй, хутчэй на той свет адыдзе. І зажывём мы з табой шчасліва і багата.

Хацеў прыплесці яшчэ і пра гаршчэчак з золатам, ды перадумаў. То ўжо да гэтай справы не падшыеш, ды і Серафіму ў турму загоніш. За золата і за падбухторванне. Таму змоўчаў, не дадаў нічога.

– Так, калгасны механізатар Кружноў, пайшлі ў аддзяленне, дасі паказанні. Трэба скласці пратакол дазнання. А ты павінен напісаць сваё прызнанне – так, маўляў, і так, я накарміў жонку мухаморамі, і яна памерла. Ты хоць пераканаўся, што яна нежывая?

– Так, я дакрануўся да рукі, а яна халодная, як лёд. І не дыхае зусім. Скамянела.

– Калі аформіце справы, следчыя выедуць на месца. З імі будзе судовы медэксперт, каб засведчыць факт смерці. Сіманенка! – выгукнуў маёр, гледзячы на акно дзяжурнай часткі. Калі ж той прыбег, маёр Зайцаў, паказаўшы на Макара, загадаў: – З чыстасардэчным прызнаннем прыйшоў механізатар з Крушнікаў, прызнаўся, што адправіў жонку на той свет. Аформіце ўсё хутка, і адразу ж на Крушнікі з групай – засведчыце факт смерці. А потым арыштуйце яго і ў СІЗА. Хаця не, лепш адразу надзеньце на яго «браслет». Зразумеў мяне?

– Так точна таварыш маёр! Усё аформім, як след.

І паглядзеўшы строга на злачынцу, узяў яго за локаць:

– Пайшлі, Кружноў!

**17**

Насця Клімовіч сядзіць за сваім сталом, перабірае паперы.

За акном шэрань, імжыць дождж. З самай раніцы Нікіфар Пятровіч прынёс паперы, якія прыйшлі з Мазыра, наклаў сваю рэзалюцыю. Пацікавіўся, як ідзе праца. І пра навіны спытаў. Паціснула плячыма: «Аніякіх…»

А з галавы не выходзіла думка: «Куды ж гэта падаўся мой браток Макарка? Відаць было, што ўсхваляваны, устрывожаны». Яна ведала яго характар: калі ў яго ўсё ладзіцца, то ходзіць спаважна, як бы ляніва, а калі што здараецца, то лётае бы метэор. Быццам абагнаць час хоча…»

Нехта пратупаў у калідоры, потым спыніўся, быццам вагаўся, у якія дзверы пастукацца. Стаяў, раздумваў, не рухаўся з месца. Чалавек пракашляўся, быццам збіраўся нешта сказаць, кашлянуў раз і другі. Насця прыслухалася – хто б гэта мог быць? Але наведвальнік больш не падаваў голасу. Яна ўжо і забылася пра яго, пачала пісаць справаздачу для сесіі, паглыбілася ў свае думкі.

– Насця, да братавай бяжы, з Анютай бяда…

Яна ўздрыгнула, насцярожылася, але не краталася з месца.

Яе нават скаланула, здагадка ўдарыла балюча ў скроні. Голас належаў Антону. Але чаго ён стаяў у калідоры, а не зайшоў да яе?

Асцярожна, каб не грукнуць крэслам, каб нешта не парушыць, пакрысе паднялася з крэсла. Ціхенька падышла да дзвярэй, прасцярожліва адчыніла іх, высунула галаву. Нікога не было на калідоры. Не магло ёй падацца тое, не прымроілася, бо выразна чула тупат ног, кашаль і словы Антона. Яго голас яна не магла зблытаць ні з якім іншым…

Не напалохалася, не здзівілася, толькі недаўменна пацiснула плячыма. «Папярэджваеш мяне? Аб чым? Што з Анютай нешта здарылася? Мо то Макар і пабег да прыпынку, каб даць рады… Мо хуткую бег сустракаць?»

Рашыла не адкладваць, не марудзіць. Загарнуўшы паперы, склаўшы ўсё у стосік, каб быў пусты і акуратны стол, зазбіралася. А што ёй збірацца. Партфель-сумку ў руку – і ўсе зборы.

Ужо ідучы па вуліцы, адчула, як яе дагнаў незразумелы страх, недаўменне, трывожнае прадчуванне нечага. А чаго, сама не магла даўмецца. Думкі і развагі нейкія разбэрсаныя, раскіданыя ў розныя бакі. Тое ж прадчуванне і штурхала яе ў спіну, падганяла, прыспешвала.

Сэрца адчайна грукала ў грудзях, адбівала паскораны тэмп: «Хут-чэй, хут-чэй!..» Ужо і дыханне забіла, калі адчыніла веснікі, але не спыняла хады, па прыступках на веранду паднялася. Але ўжо тут перавяла дух, набрала поўныя грудзі паветра, бо не магла ўжо адчыніць дзверы хаты, выдыхнула.

Ведала, дзе знаходзіўся пакой Анюты. Пакіравала туды.

Дзверы былі прачыненыя, і яна іх раскрыла насцеж.

І ўбачыла, убачыла і жахнулася: Анюта, счарнелая і з перакошаным ад неймавернага болю тварам, курчылася, седзячы на ложку. Вочы заплюшчаныя, твар падняты ўгору, рукамі абаперлася аб ложак. Раскрыты рот, натужліва вырываўся працяжны голас:

– А-аааа!… Ы-ыыыыы! …ы-ы-ыыыыыыы!…

Наста не разумела, што адбываецца, чаму так сіліцца-намагаецца братавая. Чаму яе так душаць ваніты, але ніяк не можа вырыгаць з сябе нешта чужароднае.

Падышла, узяла кубак з вадой, хацела падаць, каб зрабіла колькі глыткоў, але Анюта, не бачачы, хто крануўся яе пляча, груба адпіхнула яе, адпрэчыла ад сябе…

– Ы-ыыыы!… ы-ыыыыыыыыыыыыыыы-ыыы!..

Анюта нахілілася, апусціла галаву, а потым падняла яе, страсянулася ўся, і… З яе рота вырваўся клубок шэра-карычневага месіва, якое паляцела далёка ад яе, зачапіла і Насту, выпацкала край белай кофты. Другі фантан вылецеў з рота, паляцеў і ўдарыўся аб сцяну, на шпалерах адзначыўся, пыркі разляцеліся ў бакі.

– Ы-ыыы!.. А-ааа!..

Пасля гэтага Наста ўбачыла, як з роту Анюты пачала выпаўзаць нейкая пачвара, нешта накшталт гадзючынай галавы, з маленькімі вочкамі, слізкая, бліскучая, агідная… Наста адскочыла ад страху, ад страшнага відовішча, якога ніколі не бачыла, нават рукамі засланілася, ратуючыся, каб пачвара не закранула яе… Вужака выпаўзала і выпаўзала, як са сваёй патаемнай нары, імкнулася некуды зашыцца, нырнуць, схавацца, знайсці сабе новую схованку. Ужо і адзін метр выпаўз, і другі, а канца, здавалася, і не было. Па падлозе пачала паўзці, выгінаючыся змейкай, чуўся яе піск, быццам балюча было ёй паўзці па падлозе.

Не дачакаўшыся, калі незразумелае стварэнне пакажа свой хвост, Наста, сама ад сябе не чакаючы такога, схапіла табурэтку, што стаяла каля ложка, і, перавярнуўшы яе, плашмя ўдарыла… Толькі пыркі разляцеліся ўбакі, распаўзліся сукравіцамі па маснічынах.

Хвост упаў на падлогу. Наста расплюшчыла ўсю «вяроўку», некалькі разоў ударыўшы па ёй, прыплюшчыла нават, пакінуўшы табурэт на падлозе.

Анюта хапала ротам паветра, махала рукамі. І тады Наста здагадалася паднесці да яе рота кубак з вадой. Братавая піла, наталяючы смагу, а потым зноў вылецела з яе шэрае месіва, фантанам пырснула наўздагон папярэдняму …

Калі дала новую порцыю вады, то Анюта выпіла ўсё да рэшты, вусны рукой выцерла, а потым і ручніком, што вісеў на металічнай парэнчы. І ўпала зняможана на падушку. Вочы прымружыла, нечакана заўсміхалася.

Наста стаяла збянтэжаная побач, не магла вымавіць і слова, толькі дыхала ўзбуджана, чакаючы, калі прыйдзе ў сябе братавая.

– То ты, Насцечка? – прашаптала жанчына, падаўшы руку, быццам прасіла падняць яе з ложка. – Падыдзі бліжэй, не бойся.

– А я і не баюся, – прамовіла Наста, узяўшы Макараву жонку за руку. – Устаць хочаш?

– Хачу. Памажы мне толькі.

Села, спусціўшы ногі, паглядзела на бруд, які займаў як не цэлы пакой, здзівілася:

– Што гэта было са мной, Насцечка? Адкуль такія агіднасці тут з’явіліся?

– То з цябе, братавая, выпаўзла ўсё. Са страху можна было памерці, гледзячы, як ты вызвалялася ад гэтай пачвары. У руку таўшчынёй. Гэта ўсё жыло ў табе столькі гадоў. Мусіць, саліцёр. Чула я пра такое. Ад людзей чула.

Анюта маўчала. Старалася зразумець, што адбылося. Усё яшчэ не магла прыйсці ў сябе.

– Нездарма мне сёння гадзюка снілася. Быццам я з’ела яе, а потым яна выпаўзла з мяне. І была яна доўгая-доўгая, адзін канец быў на вуліцы, а хвост яшчэ ўва мне сядзеў…

– Вось і спраўдзіўся, Анюта, твой сон.

– А ты сама прыйшла да мяне, ці Макар папрасіў?

– Антон, не Макар.

– Як гэта?

– У калідоры сельсавета пачула яго голас. Загадаў, каб хутчэй да цябе бегла. Выглянула, а на калідоры нікога. А голас яго быў, яго.

– Жывы, значыць, твой Антон, раз памагае, да другіх на помач адсылае цябе.

– Дай Бог, дай Бог!

Маўчалі. Ведалі абедзве, што з гэтага моманту ад Анюты адстала тая злая хвароба, якую ніяк не маглі вызначыць дактары. Таму і не маглі вылечыць, не ведаючы, якія для гэтага існуюць лекі.

– Слухай, Анюта, – спахапілася Наста, – табе пакуль нельга ўставаць, пасядзі. А я прыбяру тут, памыю ў хаце. Змыць гэта ўсё трэба. Каб і слядоў не засталося. Пасядзі, пасядзі…

Хуценька збегала да студні, прынесла адно вядро вады, другое. Паставіла на пліту чыгун з вадой, каб накіпяціць ды кіпнем усё вымыць. Анюта глядзела, як завіхаецца братавая, радасна ўсміхалася. Ёй стала лепш, так стала хораша, што захацелася ад радасці заспяваць… Не вытрымала, ціхенька зацягнула:

Ой ляцелі над рэчкаю качкі,
А следам за імі шэрыя гусі…
А я, маладая, не ведала,
У каго я заўтра ўлюблюся…

Наста, трымаючы ў руках мокрую анучку, здзіўлена-радасна глядзела на братавую, адзначаючы пра сябе, што ў яе пачалося новае жыццё.

Жыццё здаровай, вясёлай жанчыны, якая вернецца да працы, будзе вучыць у школе дзяцей…

– Ой як здорава, што ты заспявала! Значыць, жыццё працягваецца.

Яна хуценька дамыла падлогу, вышаравала нават дзеркачом, каб і следу не засталося ад ванітаў і таго саліцёра, які столькі гадоў мучыў жанчыну. Парасчыняла ўсе вокны, дзверы насцеж. Выліла цэлы флакон дарагога адэкалону на падлогу, па хаце папырскала, каб і духу не засталося ад бруду. Адшукала ў шафе Анюціны кофты, скінула з сябе брудную, у новую апранулася.

– Ну а цяпер, Анютка-Ганулька, можна пакінуць ложак. Прайдзіся па хаце. Зможаш?

– Змагу. Цяпер змагу. Сілы вярнуліся.

Але падымалася асцярожна, трымаючыся за спінку ложка. Выпрасталася, адняла руку ад апірышча. Наста хацела падысці да яе, але братавая рухам рукі забараніла ёй падыходзіць – адчула ў сабе сілу і перакананая была, што і без дапамогі Насты зможа прайсці колькі крокаў.

– Ура! – усклікнула Наста, ускінуўшы рукі. – Мы пайшлі! Дзякуй Богу, мы зноў на нагах. Ты на нагах!

Ганна зрабіла адзін крок, другі, а потым упэўнена зрабіла трэці. І не хісталася. І не асцерагалася, што пахітнецца і ўпадзе, – ногі трымалі яе ўпэўнена і моцна.

Жанчына прайшла ў расчыненыя дзверы яе пакойчыка, пайшла далей. Дайшла да веранды, пачала спускацца па прыступках. Ступіла на зямлю, азірнулася. Наста, стоячы ў дзвярах, шчасліва ўсміхалася, падахвочвала ісці далей.

Тады яна пайшла да веснікаў, раскрыла іх, пераступіла. Паглядзела ўздоўж вуліцы. Павярнулася, пайшла назад.

Дрыжэлі ногі, але яна не звяртала на тое ўвагі. Нічога, расходзяцца, супакояцца ногі, набяруць сілу.

Паднялася па прыступках зноў, прычыніла за сабою дзверы.

Зайшла на кухню, села на табурэт. Пагледзела на братавую, прапанавала:

– А ведаеш, што мы з табой зробім? Наладзім святочную вячэру. Сёння свята. Свята выздараўлення. Гарэлачкі з табой вып’ем, заспяваем песню нашай маладосці. Добра?

– Згодна, Анютка!

– Макар прыйдзе, а ў нас святочны стол. З прысмакамі, з выпіўкай. Раскрывай лядоўню, што знойдзем, тое і на стол выставім. Так?

І запанавала ў хаце радасць.

І засквірчэла яечня, даварвалася на пліце бульба. Слоік марынаваных гуркоў і памідораў, што рыхтаваў Макар, выклалі ў місы. Анюта зусім акрыяла, стаяла каля пліты і памагала братавай.

Пляшка «Зуброўкі» стаяла ў цэнтры стала. Крышталёвыя чарачкі, што некалі дастала па вялікім блаце Ганна, паставіла каля пляшкі.

– Цяпер можна за стол! – бадзёра прамовіла гаспадыня. – Табе прадстаўляецца ганаровае права адкаркаваць бутэльку. Ну і намажамся мы сёння, як любіць казаць Макар. Дарэчы, ты яго не бачыла сёння?

– Бачыла, бег да аўтобуснага прыпынку. Я падумала, што гэта ты яго адправіла ў Мазыр – мо па лекі, а мо па што яшчэ…

– Не, я не адпраўляла. Ён нешта казаў мне, але я была ў бяспамяцтве, нічога не чула, не бачыла. Помню толькі, што за руку мяне ўзяў, папытаўся, ці жывая я хоць… А я і сапраўды была на тым свеце, ад зямлі аддзялілася, лунала ў аблоках. Ну, не будзем пра тое. Напоўніла чарачкі? Тады вып’ем за нашае здароўе. З Богам!..

– За выздараўленне!

## 18

Як ехалі ў Крушнікі, Макар Кружноў усю дарогу маўчаў. Рэзалі балюча запясці рукі кайданкі, але ён цярпеў, нічога пра тое не казаў. У газіку з надпісам на баку «Міліцыя», знаходзіліся вадзіцель Генка, лейтэнант Птушакоў з паталагаанатамам Глушковай, маладжавай жанчынай з медыцынскай сумкай, і ўчастковы Гарчук – сядзеў побач з Макарам.

Ладзік рашыў парушыць маўчанне, спытаў:

– І няўжо гэта мая сястрыца надаўміла цябе атруціць Анюту? Яна гэта ўмее, ведаю. Мо яна табе і пра гаршэчак золата гаварыла, га? Умее яна фантазіраваць, умее.

Макар маўчаў, не азываўся. Падумаў толькі: «Дык і Ладзік пра яе фантазіі ведае? Значыць, напляла, нагарадзіла сто бочак арыштантаў, ну і гадзюка, ну і падлюка! І як гэта я ўскочыў у такую багну?..»

– А што сам прыйшоў у міліцыю з прызнаннем, гэта добра. На гадоў пяць табе зрэжуць тэрмін. Чаго ж адразу да мяне не прыйшоў?

– Я быў у цябе, ды бацька сказаў, што ты на нараду паехаў у раён.

– А-а, правільна. Была ў нас нарада сёння. Мне падзяку начальнік аб’явіў за добрую службу.

– Віншую.

– Ты не крыўдуй, што кайданкі на цябе надзелі, такі парадак. Раз ты прызнаўся ў забойстве, то ты цяпер арыштаваны.

– Ды ведаю, заслужыў. Так, то сястра твая падгаварыла. Горы залатыя паабяцала. Ды я і сам дурань, цяпер во… Перад людзьмі сорамна, лепш скрозь зямлю праваліцца, чым ісці па крушніцкай вуліцы з вашымі «браслетамі». Не думаў, што траплю ў такое гаўно.

На выбоіне машыну падкінула і ўчастковы плячом шчыльна датыкнуўся да Кружнова. Адсунуўся да шкла, трымаўся ўжо за парэнчу, прымацаваную да дзверцаў.

Вёску ўжо ахутаў змрок, і тое радавала Кружнова – мо ніхто не ўбачыць, што ён прыехаў у родную хату закаваны ў «нарукаўнікі». Участковы ведаў, куды пад'язджаць, да якой хаты. Папрасіў кіроўцу развярнуцца, каб потым, аформіўшы ўсе працэдуры, мазыране адправіліся зноў назад.

– Тут жыве Кружноў, – паказаў на хату ўчастковы.

У хаце, на кухні, гарэла святло.

«Чаго на кухні? – падумаў Макар здзіўлена, – а як жа нябожчыца?»

– Ну, вядзі, паказвай, Кружноў, што ты там натварыў, – прапусціў наперад Макара лейтэнант Птушакоў, але перад гэтым адкрыў дзверы веснікаў.

Калі зайшлі ў двор, пачулі ўсе, як з хаты даносілася песня.

Спявалі жанчыны. Ніхто нічога не разумеў, тым больш Макар Кружноў.

«Нябожчыца на ложку, а яны песні разводзяць, – з унутранай крыўдай падумаў Макар, – бязбожнікі…» І тут жа злавіў сябе на думцы, што ён не мае ніякага права дакараць людзей, якія спявалі на кухні, бо ён і ёсць найпершы і сапраўдны бязбожнік, забойца.

Кружноў уключыў святло ў хаце, каб прыезджыя бачылі, куды ісці. Да нябожчыцы не пайшоў, найперш на кухню пакіраваў. Расчыніў дзверы. Стаў на парозе. Не паверыў сваім вачам: за сталом сядзела Наста, трымала ў руцэ кілішак, а побач з ёю… Побач з ёю сядзела яго Анюта. Убачыўшы мужа, абрадавалася:

– Во і Макар мой прыехаў! Ды і гасцей з сабой прывёз. Заходзьце, госцейкі, дарагія, пачастуйцеся.

І, убачыўшы, што ён стаіць разгублены і на яго руках кайданкі, шчыра падзівілася:

– Макарко, а чаго гэта ты ў кайданках? Забіў каго? Цябе арыштавалі?

Усе здзіўлена пераглядваліся, нічога не разумеючы, што адбывалася. Яны прыехалі, каб пераканацца ў забойстве, а тут песні гучаць. Ладзік адзін з іх ведаў, што за сталом сядзіць «нябожчыца», усміхаецца і здзіўляецца прыходу гасцей. Толькі ніяк не мог зразумець: Макар сцвярджаў, што яна мёртвая ляжыць на ложку, што сам пераканаўся ў яе смерці, а яна жывая, бадзёрая, сядзіць за сталом і з Настай гарэлку п'е…

Маўчанне і недаўменне доўжылася ці не хвіліну. Прыйшла пара і Анюце выказаць здзіўленне.

– Людзі, а што здарылася? Бачу, міліцыя тут, доктарка і Ладзік… Дык вы не ў госці? Макар, растлумач мне, што адбываецца? Ладзік, ты адкажы, што вы за спектакль тут наладзілі?

Макар ступіў крок наперад, укленчыў перад жонкаю. Узяў яе за рукі.

– То я ва ўсім вінаваты. З-за мяне ўсё. Даруй, хаця няма мне ніякага даравання.

Жонка села на табурэтку, але зноў жа – нічагуські не разумела. Глядзела на мужа, які ўсё яшчэ стаяў на каленях, з яго вачэй ліліся слёзы, слёзы вінаватасці і радасці, што так яно павярнулася ўсё нечаканым бокам, шчаслівым бокам.

Лейтэнант міліцыі і судмедэксперт, зразумеўшы нешта, пераканаўшыся, што ніякага забойства не адбылося, пайшлі ў залу і селі на канапу. Следам за імі выйшаў і Ладзік. Але не сеў побач з імі, а стаяў ля дзвярэй, слухаў, пра што гаварылі між сабой муж і жонка.

– Ты прасіла мяне знайсці якой атруты і даць табе, – вінаваціўся Макар Кружноў, – ты казала, што стамілася ад сваёй хваробы, што жыць не хочаш… Я не атруты даў табе, а насмажыў мухамораў. Думаў такім чынам палегчыць твае пакуты… Забойца я. Даруй, Анюта, даруй.

Ганна ж усміхнулася, паклала руку яму на галаву:

– Ну і дзякуй табе, што мухаморамі накарміў мяне. Гэта ж была не атрута, а лекі. Ты саліцёра з мяне выгнаў, і быў ён каля трох метраў. Яго раструшчыла табурэткай Наста, якая і прыйшла да мяне па загадзе Антона, які загадаў ёй бегчы да мяне…

– Антона? – перапытаў Макар і паглядзеў на сястру.

Яна моўчкі кіўнула галавой.

– А што – ён вярнуўся?

Наста моўчкі пахітала адмоўна галавой.

Ад’язджаючы, медэксперт адышла з Настай у другі пакой. Пакапалася ў сваёй сумцы, падала ёй паперчыну, прамовіла:

– Прачытайце… Гэта што тычыцца хваробы, якой хварэла вашая браціха. – Гэта так, для інфармацыі. Каб людзі ведалі, што гэта такое і як лячыцца, калі напаткае такая бяда…

– Дзякую вам…

…Кайданкі знялі з рук Макара Кружнова, але дома не пакінулі, павезлі зноў у Мазыр, каб змясціць у КПЗ.

Завялі справу: замах на забойства.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не паказвала і не чытала Анюце тое, што было напісана на паперы. Хапіла брацісе і таго, што яна вярнулася ў гэты вечар з таго свету. Таму і не прызналася, што ёй дала жанчына з раённага аддзела міліцыі.

Гэта ўжо дома, упарадкаваўшы ўсё па хаце, паклаўшы дзяцей спаць, прынялася за чытво.

«Як выгнаць з чалавека саліцёра.

Саліцёр – гэта вялікі членісты гліст у выглядзе стужкі. Ён вельмі хутка расце і таму спажывае шмат жыццёвых сокаў чалавечага арганізма. Па гэтай прычыне чалавек можа пакутаваць на самыя розныя захворванні і расстройствы…»

Наста адклала ўбок аркуш. Агідна нават было чытаць. Адчуванне такое, што і яна падхапіла таго паразіта. Таму, паклаўшы на стол аркуш, пайшла на кухню. Заварыла сабе гарбаты, наліла ў кубак. Трохі сцішыўшыся, рашыла дачытаць. Раз жанчына параіла прачытаць, то і трэба тое зрабіць.

«Цела іх складаецца з асобных членікаў: спелыя членікі, якія маюць яйкі, адрываюцца і выходзяць зусім. Бычыны цэпень выходзіць з задняга праходу, а членікі свінога толькі з калам. Далей ужо яйкі трапляюць у арганізм жывёлы, якія служаць “правадніком-гаспадаром”. Развіццё лічынак трыхінелы адбываецца ў мышцах прамежкавага гаспадара і ў кішэчніку чалавека, які з’еў заражанае і кепска праваранае мяса…

Заражаецца чалавек ад мяса жывёлы, якое можа ўтрымліваць фіны – пухіркі з зародкамі: лічынкамі саліцёра. Трапляючы ў страўнік чалавека, ажываюць, і з іх вырастаюць вялікія саліцёры. Для чалавека вельмі небяспечны цыстыцэрк, таму што акрамя дарослых паразітаў у арганізме могуць паразітаваць і яго лічынкі (цыстыцэркі). А яны ўжо нападаюць на мозг, вочы і тканкі ўсяго арганізма…»

На другой старонцы былі прыведзены падрабязныя парады як пазбавіцца ад гэтага паразіта, але тое ўжо не чытала Наста. Галоўнае яна зразумела. Паўлік з Веранікай ніколі не «цалаваліся» з Громам, ён і сам таго не любіў, не лашчыўся да гаспадароў, а трымаўся годна і незалежна.

«Тады ж адкуль падчапіла тую пачвару Анюта? Хіба цалавалася з катом ці сабакам? Ці з’ела мяса, якое было заражана тым паразітам? Хто цяпер знойдзе прычыну, і ці трэба яе шукаць? Галоўнае, што яна пазбавілася той “рэптыліі”, што выпаўзла з яе…» Успомніла, як яна табурэткай знішчала тую пачварыну, уздрыгнула ўсім целам ад агіднасці. «Але як пра тое ўведаў Антон? Ці ён тут жыве, нябачны, ці і, жывучы ці знаходзячыся далёка ад нас, бачыць і ведае ўсё пра нас? Значыць, трэба чакаць, трэба спадзявацца, што ўсё адбудзецца найлепшым чынам…»

Яна доўга мылася ў самаробнай ваннай, якую Антон некалі прымудрыў у прыбудоўцы. Шаравала цела калюча-шорсткай мачалкай, намыльваючы галаву і ўсю сябе, каб змыць з сябе не толькі нейкія аскалёпкі ці мікробы пачварнай істоты, а і ўспаміны пра тое, што здарылася ў той вечар…

Доўга не вылазіла з ванны, палівала і палівала сябе вадой, якой нагатавала ўдосталь.

І, суцешаная і разамлелая, легла ў ложак. І падалося ёй, што ўкрываў яе коўдрай Антон. Яна не спужалася яго, наадварот, спакойна-мройна правалілася ў сон, цешачы сябе тым, што ён будзе ахоўваць яе, ахоўваць і аберагаць да тае пары, пакуль сам не з'явіцца перад ёю жывы і здаровы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калі Наста прыйшла дадому, у паштовай скрынцы акрамя абласной газеты і раённай «брахалаўкі», як называлі яе крушнічане, знайшла канверт. Нехта пісаў Антону. Прачытала адваротны адрас – «Менск, Жудро, 25–16, Антон Кулон».

«Хто б гэта мог быць? – падзівілася яна, бо не памятала, каб калі хто з гэтых адрасатаў дасылаў яму лісты. – Мо што цікавае паведамляе невядомы Антон?» Не вытрымала, тут жа разарвала прадаўгаваты канверт. На канверце злева фота Язэпа Драздовіча і яго марсіянскі малюнак.

«Дарагі дружа! Дарагі мой цёзка! Дарагі Летапісец! Мы з Кімам засумавалі па табе. Даўно бачыліся. Чамусьці цюкнула нам у галаву такая правакацыйная думка: "А што калі мы ўдвух прыедзем да цябе на дзянёчак-два?" Пабачымся, па грыбы сходзім, успомнім пра нашыя гутаркі, вясёлае застолле наладзім (без ніякіх спіртных напояў, само-сабой), песню пра касінераў наладзім…

Але без папярэджвання з'явіцца ў тваёй хаце шляхетны гонар не дазваляе: незапрошны госць – горш ці лепш за татарына. Таму і пытаем у цябе дазволу праведаць цябе. Мы пастараемся не надакучыць, бо памятаем, як ты нам расказваў, што першы дзень – госць золата, другі – срэбра, а трэці – медзь, дадому едзь! А на чацвёрты дзень – госць гаўно, трэба быць дома даўно. Таму, каб не аказацца гаўнянымі гасцямі, мы пастараемся знікнуць "меднымі".

Чыркані, дружа, пару слоў. Задыхаемся тут у сталіцы ад куродымных дымоў, ад бездухоўнасці, паветра чыстага хочацца паспытаць, дыхнуць яго на поўныя грудзі, абняць цябе, прытуліць да сваіх грудзей.

Вось і ўсё, з чым мы звяртаемся да цябе. Даруй, калі адарвалі ад сямейных клопатаў. Напішаш – добра, не – як кажуць, яшчэ лепш, будзем ведаць, што ты па самае горла ў вясковым жыцці і да нас, горкіх п'яніцаў, табе няма аніякага клопату. Жартуем, жартуем…

Твае харошыя сябры – Антон Кулон і Кім Хадзееў.

Менск. 1990 год. На поўню пісалі табе, пры светлых зорках.

Абдымаем. Шчырае вітанне тваёй сям'і – жонцы Настассі і дзецям тваім – Паўліку і Вераніцы…»

Яна ўспомніла, што Антон запрашаў іх на вяселле, ды нешта здарылася ў іх – ці то хворыя былі, ці ў замежнай камандзіроўцы, так і не дачакаліся.

І тут жа падумала: «Напісаць ім пра Антона ці не? А як жа растлумачыць, як ён знік, як прапаў. Не павераць сябры, галаву ламаць будуць, як такое магло здарыцца…»

Хораша стала ад думкі, што ў Антона такія добрыя сябры, што праведаць хочуць, у госці напрошваюцца.

Не прыняўшы ніякага рашэння, пайшла ў хату.

# II ВЫТОКІ

## 1

Антон Клімовіч у пакоі адзін. Хлопцы параз’язджаліся па сваіх вёсках і мястэчках, пакінуўшы яго аднаго. Усіх хлопцаў з ім чацвёра. Адзін з іх – Толік Кутаў – з Віцебшчыны, які ўсіх называе «мальцы» а не хлопцы, як на Палессі, другі – з Лунінца, Віцька Бойка, які любіць часта паўтараць «вось так», трэці, як і Антон, з Мазыршчыны, Юрка Герасіменка, з вёскі Мерабеля, старэйшы за ўсіх, і мудрэйшы за ўсіх, які заўсёды казаў: «Не спяшайся ніколі перад тым, як нешта зрабіць. Не спяшайся ніколі, не падумаўшы, гарадзіць ерунду, бо ніводзін чалавек не пашкадаваў пасля, калі прамаўчаў і не папаў у прасак…» Такі ж быў і разважлівы, і памяркоўны і ў рухах: хадзіў, як бы намацваючы перад сабой тонкі лёд, пакуль не пераканаецца, што пад ім не правальваецца зямля ці не трэскаецца той жа лёд, другі крок не зробіць…

А як добра, што ён адзін. Паехаў бы і ён, Антон, у свае Крушнікі, ды падвярнуў нагу, расцягнуў жылы, і таму ўніверсітэцкі доктар параіў у час кароткіх вакацый паляжаць у пакоі. Ён і не супраціўляўся, раз так трэба, то заўтрашні дзень у руках Паўла Генадзьевіча, добрага і ціхага чалавека. Здаецца, ён ніколі і нікому не адмаўляў, калі нехта прыходзіў узяць у яго «вызваленне ад вучобы на два-тры дні». На большае нашчадак Гіпакрата не згаджаўся, які б яму не прапаноўвалі хабар ці падарунак. «Не маю права, дарагі, не магу», – тлумачыў, зіркаючы на студэнта скрозь шкельцы акуляраў, і ўсміхаўся адначасова, паказваючы, што пераступіць цераз самога сябе не можа.

У Антона ёсць тоўсты агульны сшытак. У яго ён запісвае ўспаміны, уражанні, сумненні, дае ацэнку тым ці іншым падзеям. Вёў, так бы мовіць, дзённік. Дзённік свайго жыцця. І не толькі свайго жыцця, а і ўсяго, што акаляла яго. Блізкія сябры ведалі пра яго захапленне, ці хобі, што ён усё занатоўвае ў свой кандуіт, нават празвалі яго між сабой «летапісец». І ніколі не прасілі яго, каб прачытаў ім што з яго, дзённіка, ці даў ім прачытаць. Ведалі: у душу чалавека лезці нельга, нікому і ніколі.

Антон уладкаваўся лаўчэй на сваім ложку, а стаяў ён каля акна, каля падваконня, на якім ляжаў стос яго кніг, сшыткаў і розных папер. Узяў у

зубы канец асадкі, задумаўся. Не заўважаючы, пачаў злёгку грызці яго, настройваючыся на патрэбную хвалю сваіх успамінаў.

З чаго пачалося яго свядомае жыццё? Так, мусіць з таго і тады, калі дзед Міхась запрасіў яго ў сваю кузню. І было тады Антону каля шасці гадоў.

Дзед вясёлы, гаваркі, з пракуранымі даўгімі вусамі і барадой, аднойчы спытаў у яго:

– Ці не хочаш ты, Тонік, да мяне ў кузню завітаць? Шмат чаго цікавага пакажу табе. Раней не запрашаў, а цяпер, бачу, прыйшла пара. Узрост такі прыйшоў.

Хлопчык не здзівіўся запрашэнню, чакаў даўно гэтага моманту, толькі ўдакладніў:

– А калі, дзед, можна прыйсці да цябе?

– Калі-калі, дроў мне накалі, заўтра і прыходзь. У любы час прыходзь. Я заўтра цэлы дзень тут буду.

– Добра, дзядуля. Прыйду.

Дзеду Міхасю пад сто гадоў. А можна даць і шэсцьдзясят. А мо і ўсе сорак. Гэта не Тонік вызначаў яго узрост, а бацька. Ды не вызначаў, а дакладна ведаў пра яго пражытыя гады. Бабуля Аўдоля маладзейшая за дзеда, але не нашмат. Антон не ведае, наведвалася калі каваліха да Міхася ці не.

Кузня яго стаяла ў нізінцы, на беразе Балацянкі. Пахілая, старая, абкураная за многія гады часам і дымам. Дзед і не абнаўляў яе, не перабудоўваў. Яна не мяняла ніколі свой выгляд. Як і памятае, такой яна заставалася і ўсе гады. І задоўга да гэтага была такой. А калі яе пабудавалі і хто, не ведаў ніхто, як і не ведаў сам каваль.

Балацянка нешырокая, перайсці можна, але вясной, калі раставалі снягі, паказвала свой нораў – разлівалася так, што і да вялікай ракі рабілася падобнай. Але што дзіўна, ніколі не затоплівала дзедаву кузню. Як быццам стары Міхась ставіў нейкую нябачную загароду-перашкоду, і далей вада не насмельвалася шырыцца-падымацца.

Ніжэй па цячэнні біла-струменіла крынічка. У ёй заўсёды булькацела празрыста-чыстая вада. Кожны раз, калі Міхась прыходзіў на працу ў кузню, зачэрпваў медзяны кадаўбец вады, прыносіў у кузню. Абавязкова спалоскваў твар, змочваючы бараду і валасы.

У кутку кузні, як і памятае Антон, знаходзіўся прымацаваны абраз Божай Маці і Ісуса Хрыста. Дзед заўсёды маліўся, стоячы перад абразамі, а на святы ўкленчваў, узносячы доўгую-доўгую малітву.

Над кузняй узвышаўся шматвекавы дуб. Магутнымі галінамі як бы ахінаў кузню, укрываў яе густой лістотай. А жалудоў на дубе штогод нараджалася процьма. І дзед любіў асабліва той час, калі буйныя і спелыя

жалуды гахкалі па даху і, падскокваючы, каціліся ўніз. Для яго гэта была музыка, сімфонія, араторыя часу, якая нагадвала дзеду пра зямное існаванне, пра прызначэнне чалавека на зямлі.

Людзі ў той час, калі святкаваў свае дні жалудапад, прыходзілі да дуба, але найперш да Міхася, у яго пыталіся дазволу набраць тых жалудоў. Як быццам ён быў гаспадар гэтаму волату, быццам ён яго пасадзіў і прарасціў, выгадаваў да такога ўзросту. Дзед, усміхаючыся і радуючыся, што ў ім прызнавалі «начальніка» над дубам, заўсёды адказваў:

– Дазваляю, дазваляю, бярыце, колькі панясеце. Во кабанчыку наедак будзе. Салам не забудзьцеся потым пачаставаць.

– Абавязкова, дзядуля. На Вялікдзень.

– А на Вялікдзень я не працую. Вялікае свята.

– Значыць, пасля свята.

І жарт заўсёды меў свой працяг. Людзі прыносілі ўсё-ткі дзеду пачастунак. Але не з-за жалудоў, безумоўна, а таму, што не раз звярталіся да майстра жалезных спраў, каб вырабіў капаніцу, сякач ці іншую прыладу, без якой у гаспадарцы не абысціся. І ён ніколі нікому не адмаўляў… Любілі крушнічане свайго каваля, паважалі, ганарыліся ім. Бо слава пра яго працу разлягалася далёка за межы вёскі.

Тонік задумваецца, перастае грызці кончык асадкі, дакранаецца да паперы і выводзіць на чыстай старонцы першы сказ у нататніку:

«Вельмі добра памятаю, як упершыню пераступіў парог дзедавай кузні…

У маёй душы чамусьці жыла пастаянна радасць і адчуваў я нейкі гонар, што дзядуля мой – каваль, Каваль з вялікай літары. Гэта таямнічая прафесія, даўняя і загадкавая. Навукоўцы сцвярджаюць, што гэты персанаж надзелены звышстваральнай сілай, бо звязаны з агнём. Міфалагічны Каваль увасабляе нябесны агонь і таму жыве ў нябёсах. Ён нават можа быць Агнём-Грымотнікам, альбо яго памагатым.

Яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя ўвагу навукоўцаў прыцягнуў вобраз кульгавага каваля-чараўніка – такі грэчаскі Гефест і скандынаўскі Велунд. І ён быў супастаўлены з іншым грэчаскім цудоўным майстрам – Дэдалам. Іх абодвух увязнілі на выспе пасярод мора. Абодвух прымусілі працаваць, а потым яны, зрабіўшы сабе крылы, узляцелі, вызваліліся з палону.

Вобраз кульгавага каваля існуе і ў іншых міфах.

У кабардзінскім эпасе сустракаецца Боскі Каваль Тлепш, якому пärарэзалі ногі, і ён зрабіў сабе жалезныя.

Матыў уразлівых ног каваля звязаны і з вобразам грэчаскага Талоса, суперніка Дэдала па рамястве. У целе Талоса была адзіная вена, заткну-

тая на пятцы цвіком. Калі ж гэты цвік прымусова выцягнулі, то каваль адразу памёр.

Можна з цікавасцю разглядаць і вобразы кавалёў у цюркскіх і мангольскіх народаў, дзе яны параўноўваліся з шаманамі, бо мелі магічную сілу.

У старажытнай Вільні кавалі працавалі па суседстве з культавым цэнтрам Пяркунас. Высокі аўтарытэт і статус каваля ў фальклоры можа падкрэсліваецца тым, што ў яго "спераду ззяе сонейка, а ззаду месячык". Дэміургічныя функцыі героя ў гэтых казках-паданнях выяўляюцца ў тым, што ён сваёй "булавой" расшчапляе гару, у нетрах якой месцілася царства Кашчэя Несмяротнага, і дзе той трымаў за сямю замкамі царэўну.

А ў казцы "Каваль-Волат" цудоўным дзіцянём бяздзетных каваля з кавяліхай аказваецца аскалёпачак знічкі.

А вось для беларускай міфалогіі характэрныя паданні пра каваля Кузьму і Дзям'яна, якія змагаліся са Змеем. З гэтага і нарадзіліся цудоўныя беларускія казкі. У іх каваль выкоўвае цудоўную булаву, якой ён сам, альбо іншы персанаж, змагаецца супраць Цмока. "Дванаццаць кавалёў" з "дванаццацьма абцугамі і дванаццацьма малатамі" заклікаюцца для змагання змеяў у замовах. У замовах жа "святы Міхаіл-архаіл" збірае ўсіх гадаў і перадае ў кузню Кузьму і Дзям'яну для пакарання жалезам. Таксама ў казках кавалі перакоўваюць змяю ў цуда-каня, прыгажуню жонку для галоўнага героя.

Яшчэ. Кавальская праца звязана з рудамі, якія здабываюцца з-пад зямлі, і таму яна асацыюецца з падземным агнём альбо наогул з ніжнім (падземным ці водным) светам. На гэта паказвае і сувязь каваля з жалезам – самы нізкі ў іерархіі металаў. Гэтае спалучэнне падкрэсліваецца і тым, у што ў каваля дом ці хата зробленыя з чыгуну, у ім няма нават "дзенніка" – акна, і таму ў хату ніколі не трапляе сонечнае святло. Пра тое ёсць і ў казцы "Іскарка-парубак дзевічы сын". На пачатковую хтанічную прыроду каваля можа паказваць і тое, што ў яго з каваліхай нараджаецца бязногі сын – казка "Бязногі багатыр", якога потым цудоўным чынам ацалілі і ён становіцца змеезмагаром.

Спасылаючыся на народныя павер'і, можна сцвярджаць, што каваль мог валодаць і яшчэ адным цудоўным дарам – ён умеў варажыць і чараваць, нават прарочыць. Але найбольшая яго здольнасць магла праяўляцца ў адносінах да вады, якой ён супрацьстаіць. У кавалёўстве з пакалення ў пакаленне перадаецца "кавальская замова" – "Каваль сталь прыкаваў і прамаўляў, а Мікалай адмаўляў і яму, Дзям'яну ці Міхалу, на здароўе даваў". І выслоўе да гэтага можна далучыць – "Ад каваліхі ўсё ліха", ці – "Быў бы каваль ды каваліха, будзець гэтага ліха".

Адметна тут і яшчэ адна акалічнасць. Каваль не мог ажаніцца з простай жанчынай, якая яму прыглянулася. Яна павінна быць – абавязкова – гаршэчніцай. Тады гэтая сямейная пара аўтаматычна ператваралася ў святароў. Нават у чараўнікоў. Бо ім пад сілу было і іншае – "кіраваць" зямлёй, утаймоўваць яе, калі яна "не слухалася" селяніна. Каваль і каваліха маглі і былі пакліканы забяспечыць урадлівасць зямлі, каб праца селяніна не прапала дарма, а ён сабраў добры ўраджай.

Таму і нарадзілася Свята Каваля, як падзяка людства гэтай прафесіі і яе прадстаўнікам, і адзначаецца яно 14 лістапада – Дзень святых Кузьмы і Дзям'яна».

Антон адклаў убок асадку, загарнуў сшытак.

**2**

«…Ноччу хлапчуку снілася нешта незразумелае. То ён ідзе па жоўтым полі, на якім даспявае збажына ў яго рост, з васількамі па ўзмежку, то пераступае луг, спрэс аздоблены рамонкамі і званочкамі, а то і зусім сягнуў праз рэчку на другі бераг. І сам не заўважыў, як тое адбылося… А пасля гэтага перад ім раскрылася зноў поле, але ўжо без зеляніны і збажыны, а чыстая ўтрамбаваная пляцоўка, як ток у адрынцы дзеда Міхася, на якім цапамі малацілі жыта…

Потым з неба апускаецца нейкая вялізная бліскучая труба, сталёвага колеру, кладзецца на той пляц. Ні грукату, ні пылоты, цішыня і зумканне пчол за спінай. Труба вышынёй у гарадскі дом-гмах, а мо і вышэй. З аднаго боку прыўзняліся дзверы, высунулася доўгая лесвіца. Успыхнула ў сярэдзіне трубы зыркае святло, што Тонік адвярнуўся, каб, гледзячы на яго, не аслепнуць. З той зыркасці нехта выйшаў. І быў ён у нейкім кужэльным адзенні, з сіне-жоўтым пералівам, галава белая-белая, акурат як у дзеда Міхася, толькі яшчэ бялейшая, як сонца, мо і за сонца ярчэйшая. Ён павольна спускаўся па прыступках усё ніжэй і ніжэй. Ступіўшы на зямлю, зірнуў на Тоніка, выдаўжыў у яго бок руку, быццам запрашаў да сябе. Але Тонік ад нечаканасці не мог ступіць і крок, толькі руку злёгку прыўзняў, хацеў нешта прамовіць – і… прачнуўся.

Харошы сон, лёгкі сон. То прысніцца Тоніку, што ён у аблоках лётае, з вышыні на зямлю глядзіць, усіх людзей і хаты бачыць, а тут нешта іншае, такога яшчэ ніводнага разу не снілася.

Бацькі прачнуліся. Маці на кухні корпаецца, рыхтуе сняданак як для сябе, так і да жыўнасці, якую трымаюць. Бацька недзе падаўся па сваіх клопатах. Тоніку гэтым ранкам падымацца рана не трэба, маці заўсёды

ў нядзельку яго не чапае. Ён можа спаць колькі захочацца ці займацца сваімі хлапечымі гульнямі.

Ён яшчэ звечара сказаў маці, што дзед Міхась запрашае яго да сябе ў кузню, хоча паказаць, як ён вырабляе капаніцы і секачы, хоча адкрыць яму сакрэты кавальскай прафесіі…

– Ідзі, сынок, калі дзед запрашае, – не пярэчыла маці, – мо ў чым і паможаш яму. Сёння ты вольны, ідзі куды хочаш і займайся чым хочаш. Па дарозе хіба зазірні да маіх бацькоў – Валяр'яна ды Варвары, спытай, мо трэба ім што…

– Добра, зайду.

Ляжаць надакучыла, усё роўна больш не ішоў да яго сон, таму падняўся і пайшоў на кухню. Павітаўся з маці. Потым пайшоў у двор – спаласнуў твар пад мыцельнікам.

А маці ўжо і аладак з бульбы нагатавала, пара ад іх ідзе, патэльня са шкваркамі ў печы даспявае.

– А ў які час дзед запрашаў?

– Сказаў, як паснедаю, так і да яго.

– Ну, то і добра, – адарвалася маці ад печы, – тады і яму дранікаў у горшчыку занясеш, так?

– Занясу, – пагаджаецца Тонік. – Дзед любіць дранікі.

Доўга за сталом не заседжваўся: схапіў тры дранікі, абліў іх смятанаю, шкварак туды дабавіў і пачаў са смакам снедаць. Кіслым малаком запіваць. Тым часам маці горшчычак наладавала, шкваркамі аздобіўшы, бутэльку малака ў торбачку паклала.

Ідзе Тонік па дарозе асцярожна, каб на зачапіцца за якую патырчаку ці ў выбоінцы не спатыкнуцца: сняданак дзеду трэба несці асцярожна. На вуліцы нікога не сустрэў, збочыў з дарогі, выбіўся на сцяжынку, якая вяла да дуба, рэчкі, дзедавай кузні. Здалёк убачыў, дымок шызы падымаецца ўгору, самой кузні не відаць, а ўжо зразумела, што дзед Мікіта там завіхаецца, горан раздзьмухвае, парэнчу нейкую да белі разаграе, каб потым яе, мяккую, молатам на кавадле расплюшчыць…

Па дарозе настаўніцу сустрэў – Ганну Паўлаўну, павітаўся.

– Ты куды гэта, Тонік, шлях трымаеш?

– Да дзеда Міхася, запрасіў да сябе.

– Пасабляць будзеш?

– Не ведаю, сказаў, што нешта цікавае мне пакажа.

– Ну то і добра. Потым і нам раскажаш, усяму класу, што ў цябе там такога цікавага было. Згода?

– Добра, Ганна Паўлаўна, – паабяцаў весела хлапчук, – ды што там у кузні можа быць цікавага. Пакажа дзед, як молат трымаць у руках, як разаграваць у горане метал.

– Во пра тое і раскажаш.

Спускаўся з горкі асцярожна, каб не паслізнуцца, каб не ўпасці.

Не дайшоўшы да будыніны, спыніўся. Падалося, што кузня пачала хістацца, калыхацца. Быццам перад ёю касцёр гарэў, полымя языкі пускала, а над ім "ажывала" кузня, плавала ў паветры. Быццам кузня была намаляваная на тканіне, а тканіна ад ветру гайдалася. Ды ўбачыў перад сабой слабае мроіва, якое таксама калыхалася, быццам хто перад ім павесіў празрыстае прасціradла, марлю, такі ж жывы туман пачаў сцяліцца перад яго нагамі. Рукой паспрабаваў нават дакрануцца да шызай празрыстай сцяны, што аддзяляла яго ад кузні. Адчуў цеплыню. Быццам стаяў побач з вогнішчам, але агонь не апякаў яго, а, наадварот, ахутваў мройнай цеплынёй. Хацелася нават пагукаць каваля, але перадумаў, паддаўся ўладзе відовішча, бо ў яго істоце не нарадзілася ні страху, ні здзіўлення.

І – ступіў у шызасць, у марлевую намітку, у невядомасць. Дзіўна: адчуў, што ён і не хлапчук зусім, а дарослы чалавек, няхай не дарослы, але што меў юначы ўзрост, у тым быў перакананы. І таму ўжо не па-дзіцячы падумаў: "То дзед Міхась мне так усё падстроіў, ці тут што іншае? Нездарма ж мяне запрасіў да сябе. Мне нічога не застаецца, як ісці смела наперад. Калі што, дык закрычу, паклічу яго на дапамогу, ён абавязкова мне паможа…"

Чым бліжэй падыходзіў да кузні, тым гусцей перад нагамі слаўся туман: аж зямлі ўжо не было відаць. Быццам папоўз па зямлі дым ад нябачнага велізарнага вогнішча, а мо то ён выпаўзаў белымі касмылямі са шчылін кузні, нарадзіўшыся пад горанам, які раздзімаў агонь. Але ён не выядаў вочы, а быў рахманы, прыцягальны, даверлівы, нават у ногі падшурхоўваў, каб крочыў наперад.

Дакрануўшыся да дзвярной ручкі, не вытрымаў, папытаў з вуліцы:

– Дзядуля, ты тут?

– Тут, унучак, тут, цябе чакаю, заходзь!..»

**3**

Антон адклаў асадку. Перапыніў свае ўспаміны. Перад тым, як прадоўжыць зноў расказваць пра сябе і пра дзеда Міхася, ён павінен перапыніцца, падумаць. Бо тое, што адбылося далей, не ўкладвалася ні ў якія

рамкі ці паняцці існасці, не паддавалася ніякім законам ні фізікі, ні хіміі, ні чалавечага быцця.

Тое выглядала няйнакш фантастыкай, казкай, але не дзіцячай казкай накшталт «Жылі-былі дзед і баба», а выглядала больш значным, глыбейшым, што не паддаецца чалавечаму розуму і ўспрыманню навакольнага і патойбаковага свету.

«Дзверы расчыніліся лёгка, без скрыпу.

І як толькі ён пераступіў нябачны парог, у вочы ўдарыла зыркае святло: быццам сонца знаходзілася ў дзедавай кузні. Хацеў засланіцца рукамі, каб не аслепнуць, але рукі не паслухаліся яго, як знерухомелі. Святло і сапраўды асляпіла яго, і ён нічога не бачыў перад сабой, так і стаяў на месцы, нічога не разумеючы. Нават не клікаў на дапамогу каваля, чамусьці ўпэўнены быў, што не было ў тым патрэбы. Нешта ці нехта падказваў яму, што з усім ён павінен справіцца сам. Авалодаўшы сабой, ён, не міргаючы вейкамі, не адводзячы позірк, глядзеў наперад. Тады ў вачах стала цёмна. Быццам трапіў у ноч. Стаяў, чакаў развязкі.

І тут жа з вачэй спала прасцірадла ночы, дакладней, не ночы, а цемры.

Тое, што адкрылася перад яго вачыма, не ўразіла, не здзівіла, не ашаламіла. Ён знаходзіўся не ў кузні, а ў нейкім іншым месцы. А мо і ў кузні, але яна выглядала неяк інакш. І каваль выглядаў па-іншаму. Быў ён спрэс у кужэльным адзенні, светлым, амаль белым, канцы рукавоў аздоблены арнаментам з чырвоных нітак, такім жа ўзорам быў і ўпрыгожаны каўнер прасторнай кашулі. Падпаясаны быў дзед шырокім пасам з тым жа арнаментам. Стаяў, усміхаўся, гледзячы на ўнука.

– Дзед, а дзе мы знаходзімся? – пераводзячы дух, шчыра спытаў Антон, аглядваючы сцены і столь, нейкія шафы, развешанае адзенне па жэрдках-парэнчах.

– Як дзе? У мяне ў гасцях. Не пазнаеш? А ты ж колькі разоў прыходзіў да мяне, хіба не так усё выглядала раней?

Дзед яшчэ і здзекаваўся з яго, жартаваў, вяртаючы яго да свядомасці, да натуральнага стану. Падышоў бліжэй, паклаў важкую руку на плячо. Вясёлымі вачыма глядзеў на госця.

– Не, дзед, ты жартуеш. Раней кузня твая выглядала маленькай хаткай, цемнаватай, без святла, а цяпер вунь як – усё зіхаціць, пераліваецца. Ды і не цесна тут, прасторна, як у палацы нейкім дзівосным знаходзімся. Быццам у нейкім іншым свеце апынуліся, казачным, незразумелым.

– Правільна, у іншым свеце. І ў іншым вымярэнні.

– Як гэта, растлумач?

Дзед пасур'ёзнеў, адышоў ад унука. Заклаўшы рукі за спіну, прайшоў колькі крокаў у адзін бок, потым вярнуўся. На грудзях рукі скрыжаваў.

– Сядай. Вось тваё месца. Так, Антон, Тонік, Антоній, Антоніан, – і яшчэ з дзясяткаў маеш імёнаў, прыйшла пара табе ведаць пра ўсё.

Гаспадар кузні паказаў хлопцу на крэсла з высокай спінкай, якое стаяла збоч прасторнага стала з паліраванай паверхняй. Крэсла зручнае, не цвёрдае, але і не мяккае. Ногі даставалі да падлогі. Абапёрся аб спінку, абабітую аксамітам блакітнага колеру. Сеў і адчуў зноў у сабе перамену, а якую, яшчэ не вызначыў. Мусіць, перамену ва ўзросце. Перамену ў думках. Думкі яго былі не дзіцячыя, а дарослага і спрактыкаванага ў жыццёвых праявах чалавека.

Дзед не сядаў, хаця побач з ім стаяла такое ж крэсла. Пра нешта думаў, нечага чакаў, не спяшаўся весці асноўную і важную размову.

– Ведаць пра ўсё… – паўтарыў каваль апошнія сказаныя словы. – А пачалося ўсё з таго часу, калі ты быў на мяжы жыцця і смерці. Ці хто сурочыў цябе, ці нешта парушылася ў тваёй душы, ты плакаў суткамі і не мог спыніцца. Твая маці і да дактароў вазіла, прасіла памагчы. Але і яны, бачачы, як ты сінееш ад перанапругі, безнадзейна адмоўчваліся. Карацей, прадраклі табе… І ты захліпнуўся, нешта лопнула ў цябе ўсярэдзіне, замоўк. Усе зразумелі, што гэта канец. І тады нечакана і ніадкуль вынырнула бабуля Васіліса, што жыла на хутары, – распіхваючы ўсіх, памкнулася да цябе. Яна была ў старой паношанай куфайцы, распатланая, устрывожаная, да сябе непадобная. Яе хацелі не пусціць, але галоўурач Маркевіч абыякава махнуў рукой. Яна падбегла да цябе, падхапіла на рукі, прыціснула да галавы, пачала нешта шаптаць, малітву шаптаць, звярталася да Госпада, каб вярнуў табе жыццё. І ты ўздрыгнуў, закрычаў, здзівіўшы ўсіх. Яна перадала цябе тваёй маці, сказала:

– Цяпер будзе жыць!

Яе дагналі ўжо на вуліцы, спыталі, чаму ж раней не прыйшла да Тоніка. З нейкай злосцю адказала:

– А калі б не памаглі мае лекі і хлопчык пасля гэтага памёр, што б пра мяне падумалі? Сказалі б, што я вінаватая ва ўсім. А так, а так дайшла малітва да Вышняга, вярнуў Ён хлапцу жыццё…

Антон маўчаў. Ён не ведаў пра тое. Ніхто яму не казаў. І бабуля Аўдоля ніколі не расказвала, хаця ён не раз быў у яе хаце. Яго тады здзіўляла, што яна да яго звяртала не інакш, як “нябожка”. “О, нябожка прыйшоў да мяне, мой нябожка…”

– Бацькі мне не расказвалі пра тое. І нават бабуля Аўдоля.

– А пра тое нельга было і расказваць. Такое павер’е існуе. Бо нашкодзіць можна чалавеку, які нарадзіўся, атрымаў другое жыццё.

– Але ж ты расказаў мне, табе хіба дазволена?

– Так, мне дазволена. І то я расказваю табе не там, у кузні, а тут, у іншай кузні, дзе ўсё можна і не існуе ніякіх тайнаў, дзе ўсё зразумела, усё падпарадкавана Ісціне, Волі Вышняга…

Антон ні ў чым не сумняваўся, быццам ведаў задоўга да таго, што прыйдзе вось такі час, і перад ім адкрыецца панарама нейкага іншага жыцця, іншага вымярэння, іншага светаадчування. Таму ўсё тое, што гаварыў яму дзед Міхась, ён успрымаў без здзіўлення ці недаверу, бо гаварыў яму ўсё тое самы блізкі чалавек, мудры і дзіўны, загадкавы і добры, таленавіты і дасціпны…

– А ты, дарагі мой унуча, ці гатовы сам падпарадкавацца Яго Волі? – каваль задаў пытанне і паглядзеў на свайго госця. Не свідраваў яго позіркам, не дабіваўся мусова яго згоды, а толькі ўдакладніў, бо ведаў загадзя адказ.

– Я, здаецца, увесь час падпарадкаваны Вышэйшай ісціне, бо нездарма мяне бабуля Аўдоля разам з маці з дзяцінства навучыла маліцца, звяртацца да Бога з малітвай, каб дапамагаў мне, каб даў розум і сілу – духоўную і фізічную.

– То і правільна. І пры табе заўсёды быў анёл, твой ахоўнік і памочнік. Ты адчуваў тое, ведаў пра тое?

– Толькі здагадваўся, дзед Міхась.

– А цяпер…

– А цяпер я перакананы ў тым.

Што адбывалася далей, зноў жа, не здзівіла і не ўразіла яго, не ашаламіла. Здаецца, даўным-даўно, можа яшчэ ў час нараджэння свайго, а мо і задоўга да гэтага, ён адчуў, зразумеў, што з ім творыцца нешта неверагоднае, незразумелае, але ўсё тое ён павінен прыняць усёй душой і паверыць, што ад таго новага адчування ён набудзе нейкія новыя якасці і магчымасці, што тое будзе жывіць яго ўсё жыццё. Ён не адчуваў ніякага прымусу, і адбывалася тое толькі па яго волі і жаданні, хаця ў яго тады і жаданняў ніякіх не было. Былі, але ён пра іх не ведаў. Час не прыйшоў. Толькі ведаў, што прыйдзе, абавязкова прыйдзе.

Зноў бліснула святло, заміргала. Там, дзе бачылася суцэльная высокая белая сцяна, успыхнула полымя. Быццам нейкі вялізны экран кінатэатра. І далей адбывалася тое, што Антон бачыў у сне. Вялізная труба ці бочка, якая адсвечвала таямніча-загадкавым святлом, павярнулася бокам, нават наблізілася да Антона, і з яе бакавіны прачыніліся дзверы. Правільней, рассунуліся, а на парозе з’явіўся той чалавек, які паказаўся ў сне. Ён

пачаў павольна ступаць па нябачных прыступках, спускаючыся ніжэй і ніжэй. Прыступкі нябачнай лесвіцы скіраваныя ў бок Антона, і чалавек ішоў па паветры.

Антон зірнуў на каваля. Ён жа, не адрываючыся, глядзеў на таго, хто спускаўся да іх.

Спачатку, як толькі выйшаў невядомы з "трубы", падаўся нават і не чалавекам – незразумелым свячэннем, сатканым спрэс з розных колераў, бясформенны нават, бы воблака. Але з кожным крокам ён набываў нейкія рысы жывой істоты і ператвараўся ў чалавека. Здалёк нават можна было заўважыць, што мае ён загарэлы твар, валасы звісалі і ляжалі на плячах. А сам ён, ідучы, не гледзячы пад ногі, усміхаўся, стараючыся выклікаць да сябе давер і прыхільнасць.

За той час, як спускаўся чалавек, ён "пераапрануўся" ў новае адзенне. На ім ужо быў ладны белы гарнітур, белая з чырвоным арнаментам на грудзях і каўняры кашуля, толькі абутак быў чорнага колеру. Ступаў па прыступках нячутна, як бы не дакранаючыся да іх.

З кожным крокам набліжаўся да Антона. Праз нейкі момант ён стане перад ім, і тады падумалася хлопцу, што яму трэба ўстаць з крэсла, нельга ж паказваць непавагу да таго, хто набліжаецца. Зноў зірнуў на дзеда Міхася: той, прыклаўшы руку да грудзіны, схіліўся ў паклоне. Толькі галаву нахіліў, а сам стаяў прама, чакаў. Такую ж позу прыняў і Клімовіч. Зразумеў, што каваль такім чынам выказваў павагу і вітаў госця.

І вось зроблены апошні крок, ногі ступілі на зямлю. Ужо чуваць ледзь чутная хада таго, хто ішоў, хто набліжаўся. Міжволі Антон схіліў галаву, адчуўшы, што нельга пакуль што сустракаць яго вочы ў вочы.

Калі іх раздзяляў усяго адзін толькі крок, не вытрымаў, падняў голаў, паглядзеў, хто стаяў перад ім».

**4**

Ціха ў пакоі, і на душы ў Антона спакойна. Ён перапыніў свае ўспаміны-запісы, адклаў убок. Прылёг на ложак з панцырнай сеткай, і ложак зарыпеў, прагнуўся, спружыны расцягнуліся і супакоіліся.

З вуліцы прабіваліся слабыя промні асенняга сонца, адбіваліся на столі. Вецер гуляў з яшчэ не апалымі лісцямі, яны трымцелі, і гэтак жа адбіваліся на столі – быццам жывыя былі. Паляжаўшы з якую гадзіну, нават трохі прыдрамнуўшы, рашыў больш не залежвацца: ноч наперадзе, што ж рабіць будзе, калі сон не наведае яго. Пакутаваць будзе, а пад раніцу прачнецца позна і разбіты.

Накінуўшы на плечы плашчык, выйшаў у калідор. У дальнім канцы хадзілі інтэрнатаўцы, голасна размаўлялі, смяяліся. Далятаў пах смажанай бульбы – нехта гатаваў на агульнай кухні.

Спусціўшыся на першы паверх, ідучы паўз цётку Аўдоццю, папярэдзіў, быццам тое было абавязкова:

– Еўдакія Паўлаўна, пайду прагуляюся. Сумна аднаму, хлопцы мае раз’ехаліся, а я адзін.

– Правільна, Тонік, праветрыся па менскім паветры. Як нага твая?

– Ды нічога, хадзіць можна.

– Ну то і добра. Ідзі, хлопча, гуляй. Ды не заначуй толькі ў якой мінчанкі, вы, маладыя, на ўсё здатныя, – жартуе жанчына, прыхільна паглядае на хлопца, усміхаецца.

Аказваецца, на вуліцы прайшоў дождж. На мокрым асфальце там-сям ляжалі апалыя залатнікі – першае лісце, што заўчасна апала. Выйшаў на Даўгабродскую, зноў збочыў, каб пайсці ўбок парку Чалюскінцаў.

На высокай круглай тумбе віселі розныя аб’явы, запрашэнні на канцэрты; гаспадыні запрашалі на кватэру студэнтаў і студэнтак; нехта прадаваў канапу, нехта шчанюка… Адна аб’яўка, што вісела паверх усіх, кінулася ў вочы. Па ўсім белым аркушы паперы чырвоная паласа і тэкст вялікімі літарамі. Учытаўся. “30 кастрычніка 1988 года запрашаем усіх неабыякавых людзей прыняць удзел у шэсці «Дзяды-88».

Дык ідземце ж у Курапаты і пабудуем там Беларускі Храм, дзе будзе гучаць вечны рэквіем тым, якіх забілі, тым, што маўчалі й вечна маўчаць. Збіраемся каля Акадэміі навук. БНФ”.

Падумалася: “Толькі не падвяла б нага, абавязкова прыму ўдзел”.

Нехта падышоў збоку і спыніўся. Не паварочваў галавы, ці мала хто мог цікавіцца аб’явамі.

– Ну і чым зацікавіўся шаноўны Антон? – прагучаў побач весела дзявочы голас, падаўся нават нейкім знаёмым.

Павярнуўся да дзяўчыны, здзіўлена паглядаў у яе жалудова-каштанавыя вочы:

– Вы мяне ведаеце?

Дзяўчына ўжо засмяялася, нахіліўшыся ўбок, як бы страціўшы раўнавагу ад смеху:

– Не, вы паглядзіце на яго! Сам жа прызнаваўся ў каханні, кляўся, што на ўсё жыццё, а як толькі я падышла, у яго памяць нехта выбіў з галавы. Хіба ж можна так, спадар Клімовіч?

Антон нахмурыўся, жарт не зразумеў: “Хто яна? Адкуль узялася? Чаму ведае, як мяне завуць?” Стаяў ніякавата, чакаў развязкі, не любіў недасказанасці і загадак.

Дзяўчына пасур'ёзнела, глядзела ўжо не ў вочы яму, а некуды ўбок. Разважала, мусіць, як растлумачыць яму сітуацыю.

– Ты, мусіць, у дзяцінстве з каня падаў, ці не так, Тонік?

– Ну няхай так, і што?

– Здараецца такое, калі галавой ударающца аб зямлю. Не крыўдуй. Ці то ў тваіх снах, ці на самай яве, я існую ў тваім жыцці. Ды мы з табой у адной групе вучымся, гісторыю роднага краю вывучаем. Толькі нам падсоўваюць гісторыю не сапраўдную, а падманную. І ты ад гэтага, як і я, пакутуеш, ці не так? Так. То ж пры табе я здавала экзамен па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, і экзаменатар закідаў мяне пытаннямі. Я адказала яму на ўсе падрабязна. Ён, здзіўлены, закідваў мяне пытаннямі, але якіх і ў падручніках не было. А потым і кажа: "Я вам, Яніна Альшанская, не магу паставіць адзнаку". Спытала, чаму. Ён і адказаў: "Вашыя веды вышэйшыя за ўсе падручнікі, таму не паддаяцеся ніякай экзаменоўцы". Памятаеш той экзамен, Антон?

Ён чамусьці, нават не асэнсаваўшы пытанне, адказаў:

– Памятаю… Сам тады здзівіўся тваёй эрудыцыі. І не толькі я. А я паказаў не вельмі добрыя веды. Слабая ў мяне падрыхтоўка, вясковая школа, ды і настаўнікі выпадковыя людзі, якіх з Масковіі прыслалі… Ведаю. Дык ты, значыць, Яніна? Яніна Альшанская?

– Значыць, значыць, Антоне. Дык як ты пражывеш заўтрашні дзень? Пойдзеш на Курапаты?

– Як нага дазволіць.

– То бывай, хлопча, які назваў мяне каханай. Мо і сустрэнемся заўтра. Будзьма!

Яніна як нечакана з'явілася, так раптоўна і знікла. Як растварылася ў паветры. Хацеў правесці позіркам, ды не ўгледзеў яе, і людзей няшмат было, не магла ж растварыцца сярод іх.

Блукаў па парку, а думкі сягалі ў нядаўнія дні. Ашаломлены і здзіўлены быў, калі прачытаў у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» артыкул Зянона Пазняка пра Курапаты, які называўся «Курапаты – дарога смерці». Пад Менскам тысячаў беларусаў пазбавілі жыцця не хто-небудзь, не фашысты ці іншыя ворагі, а свае ж – нкусаўцы! Сталінская каса выкошвала дзялянкі з людзей, наганы стралялі ў патыліцы мужчын і жанчын, дзяцей і падлеткаў… За што? Што яны беларусы? За што? Што яны хацелі жыць і ненавідзелі тое прыгоннае савецка-бальшавіцкае права і прыгон, у якім не жадалі адчуваць сябе палоннымі сістэмы?

Каваль не здзівіўся, калі Антон чытаў яму той артыкул. Задумліва глядзеў у маленькі агеньчык, маўчаў.

– Гэтыя катаванні і я прайшоў, – уздыхнуў каваль, – сталінскі бізун прайшоўся па маёй душы і целе. Там ляжаць нашыя родзічы.

– Ты не расказваў пра тое, дзед.

– Не расказваў, а цяпер раскажу. Толькі не сёння. Не маю ніякай сілы. Але і ты пройдзеш Курапаты. Няхай не фізічна, а толькі духоўна.

– Як гэта, дзед?

– У хуткім часе даведаешся пра ўсё.

“Можа гэты час і настаў, – падумалася Антону, – можа, дзед Міхась прадчуваў, што наперадзе барацьба, наперадзе змаганне… Заўтрашні дзень пакажа”.

Ранічкай хуценька падняўся з ложка. Памыўся, адрэзаў кусман сала, з’еў з хлебам, запіў гарбатай. Ноччу сніліся нейкія незразумелыя сны, нехта даганяў яго, а некага даганяў ён. Усё пераблыталася, змяшалася.

Але адбылася дзіўная рэч: прачнуўся ён нейкім іншым чалавекам. Тым чалавекам, якому нечакана стала балюча за сваю краіну, у якой ён нарадзіўся. Чамусьці адчуў на сваіх руках кайданкі, якія накінулі яму тыя людзі, якія тысячамі расстрэльвалі і кідалі ў ямы. Кідалі без пахавання, кідалі як друз, як смецце, як непатрэбшчыну…

“Гэтыя катаванні і я прайшоў” – словы дзеда зрушылі ў ім свядомасць, прымусілі прачнуцца, зірнуць на свет іншымі вачыма. Хто ён у гэтым сусвеце? Куды ідзе? Да чаго імкнецца? Чамусьці ўсе гады – як вучыўся ў школе, а потым вучыўся на гісторыка, калі прысутнічаў на камсамольскіх сходах, – лавіў сябе на думцы, што яму нехта зашыў суровай іголкай рот, а на мазгі накінуў кайданкі: каб не думаў, каб не задумваўся, што і да чаго і ад чаго, каб не задаваў нікому дурных пытанняў, якія смылелі ў душы, уздымаліся вулканам у мазгах… Яго, і не толькі яго, прывязалі да нейкага чоўна і пусцілі ў нейкі перакулены свет, і загадалі, каб маўчалі, і плылі туды, куды паказаў нехта адзін, і нельга было вярнуцца назад, паспрабаваць плысці супраць цячэння: ім не пакінулі ніякага вясла, ды і рукі звязалі жалезнай вяроўчынай, а паверх усяго (для пэўнасці і гарантыі) сашчапілі бліскучымі кольцамі…

На практычных занятках ва ўніверсітэце спытаўся ў гісторыка, партыйнага лідара факультэта Сямёна Гульдэнавіча пра той час, калі вялікі гетман Вялікага Княства Літоўскага Канстанцін Астрожскі даў добрай прыкуркі маскоўцам. Той прыўзняў акуляры на худым носе, прыгледзеўся да студэнта, быццам бачыў яго ўпершыню, перапытаў: “А адкуль вы тое ўзялі? Хто такі Астрожскі?” І расхацелася ўступаць у нейкую дыскусію ці спрэчку з кандыдатам гістарычных навук, нават і не сказаў нічога, замоўк,

ведаючы, што выкладчык нічога яму не скажа: альбо гэта не прадугледжана праграмай ці яго поглядамі, альбо ён сапраўды нічога не чуў пра тое. Ці – не хацеў чуць, хаця гэта адно і тое ж. Ён жа вучыўся па гісторыі, якую і стварылі сталінскія ідэолагі, а яны спрэс усе былі расейцамі…»

Пазней, перачытаўшы свае запісы, Антон здзівіцца: знекуль з'явіліся падрабязнасці, пра якія ён не ведаў, але яны леглі ў тканіну яго ўспамінаў так дакладна і так грунтоўна, так праўдзіва і спакойна, што ніхто не мог сказаць, што ён пакрывіў душой, ідучы супраць праўды…

«Камуністы, страціўшы свой уплыў і сілу над апазіцыйнымі выступоўцамі, раззлаваліся не на жарт. Не прызнаючы сваю тупасць і паразу ў вядзенні палітыкі апошняга часу, намерыліся адпомсціць апазіцыйным актывістам. Рашылі параіцца з Яфрэмам Сакаловым. Той, скрыгатнуўшы зубамі, паказваючы сваю злосць і непрымірымыя адносіны да праўдалюбцаў, разануў, як адсек:

– Волі хочуць? Дайце яе так, каб не ўсталі! Каб больш не хацелася яе здабываць… Трэба стварыць баявы штаб, распрацаваць усё хітра і разумна.

– А хто ўзначаліць гэты штаб? – дапытваліся найбольш злыя і адданыя партыі камуністы.

– Хто? – абвёў ён прысутных, хадакоў, што прыйшлі да яго за парадай. – Найлепшая кандыдатура – сакратар цэка па ідэалогіі Валерый Пячэннікаў. Клічце яго сюды.

Пячэннікаву доўга не тлумачылі – адразу ўцяміў, што ад яго патрабуецца. Задача лёгкая, тым больш неабходная, своечасовая. Адразу ж даў згоду, хаця Сакалоў і не ўпрошваў яго, а строга загадаў узначаліць штаб і правесці бездакорна аперацыю па знішчэнні антыдзяржаўных і антыкамуністычных лідараў.

Сакалоў баяўся пусціць справу на самацёк, таму асабіста правёў "інструктаж":

– Заўтра, трыццатага кастрычніка, як вядома, бэнээфаўцы рашылі правесці маніфестацыю пад выглядам адзначэння Дзядоў. Накіраваць у шэрагі мітынгоўцаў пад выглядам простага народа міліцыянтаў і кэдэбістаў, баксёраў і барцоў. Для гарантыі. Карацей, дужых малайцоў, каб білі ў морды тым, хто будзе крычаць "Жыве Беларусь". Жанчыны павінны таксама прыняць удзел, як і камсамолкі. Трэба справакаваць і наладзіць бойку, некаму з камуністаў пусціць юшку, каб было бачна, якія жорсткія меры прымаюць апазіцыянеры. Калі пачнецца бойка, павінны ўмяшацца ўнутраныя войскі і добра аддубасіць бэнээфаўцаў. Адказнасць за ахвя-

ры і кроў людзей панясём не мы, а нацыянал-фашысты, якіх і стварыў народны фронт. Граміце ўсё, што можна, біце ўсіх, хто будзе агрызацца і адказваць на бойку. Я Маскве сёння далажу, што бэнээф мы задушым у зародку, яны, члены ЦК, нас падтрымаюць. Усё зразумела? Задача зразумелая? Дзейнічайце! І трымайце мяне ў курсе.

І не таму, што шчыры беларус афіцэр міліцыі Тамковіч перадаў Зянону Пазняку копію таго плана дзеянняў па знішчэнні шэсця раённаму аддзелу ўнутраных спраў, і не таму, што над усімі вітаў крывава-трывожны дух і людзі насцярожыліся, а толькі таму, што адначасова ў людзях прачнуўся інстынкт самазахавання, інстынкт еднасці і прага змагацца за сябе, за праўду, за будучае жыццё.

Зянон, прачытаўшы тую інструкцыю, паслаў у арганізаваны натоўп-масу усяго адзін загад-просьбу: “Перадаць адно аднаму: ні ў якім разе не паддавацца на правакацыі з боку ўладаў. Толькі так мы выйграем!”.

То потым ужо, калі падводзілі вынікі сапраўднай перамогі, стала вядома да падрабязнасцяў, на якую гнюсную справу адважыліся камуністы і ўладнікі. Яны ўсё разлічылі правільна, верачы, што правучаць закалотчыкаў. Міліцыя без ніводнага слова і выкрыку, стаўшы і счапіўшыся ў адну шарэнгу-ланцуг, паступова адцясніць людзей ад месца збору да Усходніх могілак, дзе знаходзіўся стары сад. І плошча яго была на сто гектараў. Потым “клінам” расчляніць грамаду на некалькі частак, каб з імі лягчэй было распраўляцца. А распраўляцца яны меркавалі па ўсіх правілах савецка-бальшавіцкай сістэмы: збіць кожнага міліцэйскімі дубінкамі да паўсмерці, каб назаўсёды змагары за праўду забыліся на свае намеры, каб кроўю рыгалі, па зямлі поўзаючы…

Даведаліся і пра іншае. З усёй шматпакутнай Беларусі сцягнулі атрады міліцыі, узброіўшы іх да зубоў, як рыцараў Сярэднявечча ўзброілі, ды не для змагання са знешнім ворагам, а супраць сваіх жа – бацькі і матулі, сястры і брата, родзіча і сябра… Ды мала таго. Мабілізавалі ўсе аддзелы АМАПу, унутраныя войскі, ДАІ і разам з імі пажарныя часткі, каб яны памаглі брандспойтамі з халоднай вадой. Далучалі сюды і курсантаў міліцэйскіх навучальных устаноў, работнікаў райкамаў партыі разам з адданымі ёй камсамолачкамі і камсамольцамі. Многім выдалі аўтаматы. Работнікі КДБ не спалі ноч, таксама рыхтаваліся. Пракуратура і суды, хаця і быў выхадны дзень, рыхтавалі крэслы для падсудных. Праявілі і “гуманнасць”. Калі ўсіх будуць збіваць да крыві, калі будуць патрушчаны галовы і рэбры, то трэба ж некаму аказваць дапамогу: у поўным баявым працавалі паліклінікі, медпункты і лякарні. Пагэтаму збоч “Кулікова поля” стаялі машыны з чырвонымі крыжамі па баках.

Ніхто не мог праехаць па дарогах вакол Менска – усе яны былі перакрыты даішнікамі і міліцыянтамі.

Курапаты акружылі ўнутраныя войскі, а дарогі, якія вялі да таго месца, наглуха заблакавалі. Так бы мовіць, стварылі “кацёл”, у якім мерыліся ўтапіць у крыві свой народ. Тэхнікі і прылад для задушэння ў іх было больш чым дастаткова. Здавалася, закалот, арганізаваны лепшымі людзьмі краіны, павінен быў з самага пачатку пацярпець паразу…

Нас каля Усходніх могілак сабралася вельмі шмат. Нехта, хто стаяў побач, дакрануўся да майго пляча, прамовіў: “Дзесяць тысяч, не меней. Мы – грамада!”

Ды і тых, хто хацеў здушыць нас, было не менш. Тое відаць няўзброеным вокам: хмара, чорная маўклівая хмара набрынывала злосцю і жорсткасцю, і выліць яна мерылася на нас не дождж, а вымыць у рабоча-сялянскай і інтэлігенцкай крыві, пусціўшы кожнаму чырвоную юшку. Кружыліся ў небе груганы, таксама ствараючы чорнае воблака, акурат як над тым жа Кулікоўскім полі, калі яны прадчувалі пах крыві і першых забітых…

Недзе непадалёк стаіць Пазняк, і ён зноў пасылае ў натоўп свой кліч:

– Не паддавацца на правакацыі!

Да мяне падбегла дзяўчына з камсамольскім значком на лацкане курткі, спынілася, паглядзела зневажальна мне ў вочы, нешта прашыпела зларадна, а потым кулаком мне саданула ў твар. Я не чакаў ад яе такога выпаду, не мог і падумаць, што дзяўчо здатнае на такое. Інстынктыўна ў мяне засвярбелі рукі, каб даць здачы, але нехта сціснуў яе вышэй локця, не дазволіў. “Калі цябе ўдарылі ў правую шчаку, ты павінен падставіць і левую”, – успомніўся мне выраз з Бібліі, якую мне падаравала бабуля Аўдоля. Так і адбылося: хаця я і не падстаўляў сам шчаку, але атрымаў другі кухталь, так бы мовіць, па поўнай праграме. Адчуў, як салёная кроў пацякла да падбароддзя. І яшчэ мацней сціснуў маю руку невядомы хлопец, прашаптаўшы: “Маўчы…”

Камсамолачка, бачачы, што я не адрэагаваў на яе ўдар, пайшла далей шукаць сабе ахвяру. Падлетку, мо школьніку яшчэ, з усяго размаху ўдарыла ў нос, і ён заліўся кроўю. Абхапіў твар рукой, але не кінуўся ў бойку.

– Не паддавацца на правакацыі! – зноў гучыць заклік, і мы зноў перадаём адно аднаму патрабаванне, якое толькі і можа выратаваць нас.

Мы падышлі да магіл Курапатаў, каб паставіць свечкі нябожчыкам, ахвярам сталінскага рэжыму, памаліцца за іх душы… Але нас збілі з ног невядомыя, і былі яны ў масках, другія мелі пластыкавыя шлемы.

Збілі з ног бабульку, сыны якой ляжалі ў курапацкай зямлі, выбілі з яе рукі некалькі свечак.

Яна, стоячы на каленях, узняўшы галаву да тых, хто пляснуў яе вобзем, плачучы, спытала:

– Сынкі, што гэта вы робіце? Вы ж самі сябе збіваеце і шляце на сябе Боскую кару і знявагу народа! Аду…

Бабулька не дагаварыла, важкая дубінка амапаўца апусцілася ёй на галаву. Я пазбіраў на зямлі яе свечкі, сеў побач, думаў, што яна ад удару грамілы аддала Богу душу. Прыўзняў яе, прытуліў да сябе. Нечым яна напамінала маю бабулю. Бабулечка, набраўшы ў грудзі паветра, заплакала, шаптала: "Вылюдкі, горш за фашыстаў… Забілі маіх сыноў, хочуць забіць і мяне…"

Калі мы ўсталі, да мяне падбег міліцыянт, паднёс да твару флакончык з духамі, пырснуў раз-другі. Ад тых духоў у мяне запякло ў вачах, перабіла дыханне. Падкасіліся ногі, і я паваліўся на зямлю. Потым зразумеў, што за духі былі ў міліцыянтаў. То газавыя балончыкі, і назвалі іх "Чаромха". Спецыяльна для такіх мэтаў выробленыя.

Нехта памог мне падняцца, абняў, каб я зноў не ўпаў на зямлю. Калі працёр вочы, скрозь слёзы бачыў, як міліцыянты і пераапранутыя ў цывільнае адзенне, пачалі напіраць на нас, некуды цясніць. Тут жа хапалі хлопцаў і дзяўчат, закручвалі ім назад рукі, накідвалі кайданкі.

Пераапранутыя вёрткія малойцы паказвалі моўчкі пальцам на некага, і тады тыя, хто ішоў следам за імі, хапалі жорстка чалавека і не прапускалі магчымасці, каб не ткнуць кулаком у твар. Чырвоную юшку пускалі амаль кожнаму, каго арыштоўвалі. Хапалі найбольш народафронтаўцаў і актывістаў мартыралогу. І адкуль яны толькі маглі ведаць, хто належыць да той ці іншай групоўкі, толькі здагадвацца можна: недарэмна хлеб ядуць прадстаўнікі ўлады.

А што было далей, пісаць ці расказваць немагчыма, гэта нешта несусветнае, агіднае, пачварнае… Пад'ехалі да нас пажарныя машыны, каб патушыць пажар народнага гневу. У іх, аказваецца, для гэтага ёсць вадзяныя гарматы – страляюць, і чалавек падае дагары нагамі. Так і забіць няцяжка. Але тое нікога не хвалявала – "біць дык біць, каб ніхто і не ўстаў".

З другога боку прыпаўзлі велізарныя фургоны, а ў іх закрачаны вокны, спыніліся, быццам чакалі, калі пачнуць запіхваць у прасторнае чэрава першых арыштаваных.

– Я прыехаў з Лельчыц, Кашаед маё прозвішча, Ігнатам завуць.

– А я з Мазыршчыны, Антон Клімовіч. Трымаймася, дружа!

– Памажы нам Бог, – Ігнат наклаў на сябе крыж, паглядзеў у шэрасвінцовае неба.

Да мяне падбег жаўнер у пластыкавым шлеме, прызадраўшы галаву, цэлячыся мне ў твар, выкінуў кулак. Ды ўдалося вывернуцца, удар прайшоў паўз мяне, скалануў паветра. Але другі ўдар нанеслі мне ззаду, у патыліцу. Закружылася ўсё перад вачыма, я зашыўся носам у сшэрхлую траву. Новы ўдар абцасам, але цяпер прыцэльна – па той назе, якая не зажывала, якая садніла і патрабавала лячэння…

Гэта ўжо была не дэманстрацыя сілы, гэта была ўжо дэманстрацыя воўча-звярынага аскалу камуністычнай пачвары, якая як пры агоніі сваёй старалася як найбольш нанесці смяротных udaраў.

Ужо не чуваць голасу важака, мо схапілі, а мо заткнулі рот, бо ён найбольш вылучаўся з усёй грамады. Зноў малойцы, якія невядома адкуль вынырвалі, пырскалі ў твар “чаромхай”, перабягалі ад аднаго да другога чалавека і, зрабіўшы сваю гнюсную справу, адскоквалі як мячыкі.

Зноў тая камсамолачка ў скураным паліто бегала між нас, да Ігната нечакана падбегла, аплявуху яму падаравала. Чакала, калі ён агрызнецца і ёй дасць па твары, але Ігнат стаяў і па-дурному ўсміхаўся, нахабна гледзячы ёй ў твар. Здаецца, яна была трошкі пад мухай, бо выглядала вельмі заведзенай і смелай, ды, мусіць, для храбрасці ёй, як на фронце перад боем, як і астатнім, выдалі “баявыя пяцьдзясят грамаў”.

Цяпер усе ведалі, тут і дурню зразумела, што адбываецца самая што ні на ёсць правакацыя. Толькі дай здачы, толькі ткні ў морду міліцыянту, як усчнецца вэрхал, і даказана будзе потым, што гэта дэманстранты першымі напалі на ахоўнікаў парадку. Бо здымалі ўсё кінакамеры, каб запомніць твары тых, хто ўдзельнічаў у закалоце.

Як быццам пранёсся па душах агульны, без слоў, загад, каб не адказвалі на паказаную сілу сваёй сілай. Ні ў якім разе. Больш за тое, мы схапілі адзін аднаго за рукі, паклаўшы на плечы суседу, змацаваліся, сцэментаваліся, і тады ўжо, здавалася наш жывы ланцуг не можа разарваць ніякая сіла. Але ў моц нашага пратэстнага кола не паверыла міліцыя. Нехта зычна падаў каманду, і згрупаваны атрад міліцыянтаў, трымаючы папераду шчыты, паспрабаваў уклініцца ў наш замкнуты ланцуг. Клін увайшоў у нашыя рады, але міліцыянтам не ўдалося разарваць нас, расчляніць. І тады яны, агледзеўшыся наўкола, зразумелі, што не дабіліся свайго, разгубіліся, як і разгубіліся тыя, хто аддаваў ім каманды раструшчыць натоўп, паставіць яго на калені.

– Ты як? – падняў мяне з зямлі Ігнат.

– Нічога, трымаюся.

З другога боку мяне нехта падхапіў, дапамог падняцца. Павярнуў галаву, каб паглядзець, хто б гэта мог быць.

– Ты, Яніна? – падзівіўся я. – І ты прыйшла?

– Прыйшла, як жа цябе пакінуць аднаго? Трымайся. На насоўку, вытры кроў, табе рассеклі брыво і шчаку распаласавалі. Сапраўды распаясаліся, размахаліся дубінкамі і кайданкамі.

Не зважаючы на моцны ўціск, вялікая частка людзей, мо іх было больш за тры тысячы, адпачкавалася ад асноўнай масы і пайшла ў кірунку Курапатаў. І ў той жа момант пачуўся жудасны роў машын. На іх сядзелі амапаўцы ў сваёй пачварнай амуніцыі і са зброяй, слухаліся нейкіх новых камандаў. Машыны абагналі людзей, якія ішлі са свечкамі і крыжамі, стараліся праехаць далей і перагарадзіць дарогу да Курапатаў. Стваралiся, так бы мовіць, баявыя пазіцыі.

Але і тут нешта пайшло не па іх плане. Людзі, як пачуўшы каманду, не пайшлі на Курапаты, а звярнулі направа, у поле, дзе яшчэ ніхто не перашкаджаў ім крочыць грамадой. І тут жа ўспаміналася: “А хто там ідзе, а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?” “Беларусы”. Мы ішлі агромністай грамадой, ішлі насустрач здзекам і насустрач праўдзе. Схіл пачаў служыць трыбунай, і ўсе аднačасова сталі на калені, каб кожнаму было бачна, як будуць выступаць прамоўцы.

Побач з першым прамоўцам нечакана ўзляцеў у неба бел-чырвона-белы штандар. У гэты ж самы момант, як пачуўшы волю людзей, усчаўся вецер і падняў тканіну штандара да самага неба. Я бачыў, якая радасць успыхнула на тварах. Кожны ў гэты момант адчуваў сябе шчаслівым. Бо лунаў над намі не прыдуманы бальшавікамі “балотны сцяг”, а сімвал нашага яднання, моц Вялікага Княства Літоўскага бел-чырвона-белы сцяг…

Ды і снег нечакана пайшоў, падалі на нашыя галовы сняжынкі, убельвалі нашыя валасы. А мы слухалі прамоўцаў. Іх словы ўзляталі ў марознае паветра як і сцяг, які трапятаў на вятры. “Пазбавімся камуністычнай навалы”, “Хопіць цярпець здзекі”, “Жыве Беларусь” – іншыя гучалі заклікі. І гулкім уздыхам і воклічам гучала ў адказ: “Жы-ве Бела-русь!..”

– Паглянь, – шапнуў мне Ігнат і паказаў позіркам направа.

Да нас набліжаўся батальён унутраных войск і чорная хмара міліцыянтаў. Божа! І гэта яны супраць свайго ж народа? Нелюдзі! Яны абышлі з другога боку, з-за ўзгорка ўжо рухаліся на нас. Там паставілі курсанцікаў і падбухторвалі іх таптаць людзей, якія сядзелі. Таптаць нас. Ісці па нашых целах і галовах.

Курсантам такое ўпершыню, і яны ніяк не маглі выканаць загад, круцілі адмоўна галавой. Мусіць, разумелі, што адбываецца нешта бесчалавечнае і агіднае.

– Маць вашу! – мацюгаўся маёр, скрыгочучы зубамі. – Пад суд пойдзеце за невыкананне загаду. Ну, тапчыце гэты зброд, марш, наперад!

Але ніхто з іх не варухнуўся.

Бачачы тое, маёр, увесь успацелы і знерваваны, загадаў перайсці на бакавы, левы фронт. Замест іх паставілі атрад афіцэраў, якія выканаюць любы загад, нават калі тое будзе тычыцца забіць родную маці. Яны і кінуліся па першым воклічы на маніфестантаў, пачалі збіваць нас, малаціць дубінкамі па галовах. Біць з усяго размаху, не шкадуючы, быццам перад імі былі злейшыя ворагі, страшней за якіх ужо нікога не было…

І тут нечакана прагучала каманда ад нашага гурта. Нехта ўзяў ініцыятыву ў свае рукі і загадаў усім падняцца.

– Стварыць клубок! Узяцца ўсім за рукі!

Мы ўскочылі з зямлі, схапілі адзін аднаго за рукі, шчыльна прыціснуліся адно да аднаго: злева я абхапіў Яніну, справа – Ігната. Мы ўсе зрабіліся сапраўды цэлым клубком, народным фронтам. “Жыць альбо памерці!” – зноў прагучаў загад.

Памерці альбо жыць! Магутная сіла была ў міліцыянтаў, але нашмат магутнейшай была людская сіла, і таму яе не ўдалося разарваць, раструшчыць людзей. Толькі аўтаматныя чэргі маглі пакласці нас на зямлю альбо ў зямлю. На шчасце, хапіла розуму правакатарам не прымяняць зброю.

Мяне тады здзіўляла, і здзіўляў нашмат пазней адзін факт: ніхто людзей не трэніраваў, не праводзіў ніякіх рэпетыцый, не было ніякіх падпольных пасяджэнняў, а людзі, зразумеўшы намеры міліцэйскага войска, самаарганізаваліся, узялі сябе ў рукі, і таму не было ніякай стыхійнасці, панікі, разладу. Людзі сталі людзьмі, не звярынай масай. У гэтым ёсць вялікая загадка беларуса.

Перад намі стаялі падлеткі, мо студэнты, мо пэтэвушнікі, і калі іх жорстка збілі жаўнеры, схапіліся за камяні, што былі пад нагамі. І тады ж іх равеснікі, падбегшы да іх, здзіўлена крычалі: “Вы што, хлопцы? Яны толькі і чакаюць, каб кінулі ў іх камянюкай. Выкідайце, загадана ж не кідаць, то ж правакацыя!..”

Падумалася: адкуль ведаў дзед Міхась, што я буду разам з тысячамі людзей апырсканы “чаромхай”, што па нашых спінах пройдуцца “лукашэнкаўкі”, што амаль усім пусцяць чырвоную юшку, і што мы пераможам у той зацятай барацьбе? Мудры ў мяне дзед, нездарма дзясяткі гадоў махаў кавальскім молатам, выкоўваючы дзіўныя рэчы.

Толькі для чаго ён мне выштукаваў-выкаваў рыцарскія даспехі? Хіба ж я ў іх ваяваць буду? Сёння ж не тая тэхніка, што сотні гадоў таму. Але нешта падказвала мне: раз каваль вырабіў іх, то яны для нечага ж трэба.

І чаго прыйшла сюды Яніна Альшанская? Яна ж “слабая палавіна”, тут павінны змагацца моцныя фізічна. Хаця ў нашым батальёне было нямала

жанчынаў і дзяўчатаў. Дык няўжо яна прыйшла толькі дзеля мяне і дзеля ідэі? Таксама загадка…»

## 5

Калі паміж тым, хто ішоў і Антонам адлегласць скарацілася ўсяго толькі на адзін крок, не вытрымаў, падняў голаў, паглядзеў, хто стаяў перад ім.

Вочы светлыя, празрыстыя, бы ледзяшы на веснавым сонцы. Чалавек усміхаўся, глядзеў прыхільна і добразычліва, быццам стары знаёмы, быццам блізкі сябра ці родзіч. На ім саламяны капялюх з шырокімі брылямі, апрануты ў кужэльную апратку, перапаясаны чырвоным шырокім поясам. На нагах, паспеў заўважыць найперш, скураныя боты карычневага колеру. Падумаў яшчэ, што чалавек, пакуль спускаўся па нябачных прыступках нябачнай лесвіцы, ці не тры-чатыры разы паспеў пераапрануцца ў рознае адзенне. І прадстаў перад Антонам ці то мудрым і вясёлым Несцеркам, ці то памяркоўным і талерантным Браткам-Беларусам, ці зусім дзедам Міхасём, які стаяў воддалеч…

– Ну вось і пабачыліся, – прамовіў госць, паклаўшы Антону на плечы рукі. – Не чакаў?

– Прызнацца, не, – адказаў спакойна дзедаў унук, гледзячы ў блакіт вачэй, не адчуваючы ні трывогі, ні здзіўлення.

– І не ведаеш, хто я, так?

– Не ведаю, хто ж мне пра тое гаварыў?

– А на Дзядах хіба ж мы не бачыліся?

– На Дзядах? Не.

– А хто з табою побач быў? Ці не Ігнат з Лельчыцаў?

– Ты? І завуць цябе Ігнат сапраўды?

– Так, як цябе Антонам.

Антон паклаў і яму рукі на плечы, усхвалявана прамовіў:

– Не чакаў, браце, што яно ўсё так узаемазвязана.

Прытулілі адзін аднаго да сябе, некаторы час не адрываліся, чулі, як гулка б’юцца сэрцы, і біліся яны сінхронна, у такт, як быццам сэрца было адно на дваіх. А мо яно і сапраўды ў іх было адзінае, толькі палавінкі раздзеленыя і жылі ў паасобку? Антон пра тое не ведаў.

– Давай прысядзем. Міхась Дзям’янавіч падрыхтаваў для нас адмысловыя крэслы.

Паказаў Ігнат куды сесці. У крэслаў высокія спінкі, абабітыя светлай кужэльнай тканінай, з чырвонага дрэва – паляшуцкай вольхі, выкрунтасныя, старадаўнія, на іх, мусіць, сядзелі вялікія валадары і князі.

– Так, на тым крэсле, што ты сядзіш, сам Канстанцін Астрожскі сядзеў – вялікі гетман Княства Літоўскага, – патлумачыў Ігнат, прымацаваўшы капялюх на спінку крэсла, – для каваля прызначана тое крэсла, на якім сядзеў Вялікі Вітаўт, а я на крэсле князёўны Еўфрасінні Полацкай… Так што міласці прашу, уладкоўвайцеся, мае шаноўныя сябры.

Мы расселіся. Але дзед Міхась перад гэтым паставіў на стол вялікую гладышку і тры гліняныя кубкі, паразліваў па іх бярозавік. Ён заўсёды рыхтаваў такі цудоўны напой, частаваў усіх, хто да яго прыходзіў і ў кузню, і дадому… Першым узяў кубак Ігнат, адпіў колькі глыткоў, крактануў ад задавальнення. Паспытаў і я, паставіў посуд побач, выцер губы.

– А стол, за якім мы сядзім, – тлумачыў далей Ігнат, – гістарычны. На ім была падпісана дамова на перамір'е і дружбу паміж Масковіяй і Вялікім Княствам Літоўскім. Подпісы свае паставілі маскоўскі цар Васіль і вялікі князь Вітаўт.

– А ў нас што, перамір'е ці?.. – уставіў, асмялеўшы, свае тры грошыкі і я.

– Мірыцца нам няма чаго, бо мы і не сварыліся, а вось пагадненне на супрацоўніцтва мы прымем. Умоўнае, ніякіх папер у нас на стале няма. І таму распісвацца ні пад якімі дамовамі мы не будзем.

Каваль усеўся на сваё крэсла, задаволена ўсміхаўся, гледзячы на мяне, як бы правяраючы мой настрой. А мне і не трэба было прызвычайвацца, агойтвацца, калі б быў замест Ігната хто іншы, то невядома як бы паводзіў сябе, а тут свой чалавек, аднадумец, разам падстаўлялі на Курапацкім полі свае спіны і твары пад міліцэйскія дубінкі. Так бы мовіць, хрышчоныя разам на тым закалоце, які наладзілі лепшыя людзі краіны. Для мяне то было своеасаблівае хрышчэнне – я стаў Грамадзянінам сваёй краіны, а не чалавекам, які пражываў на тэрыторыі Беларусі… А гэта нешта ды азначала.

«Ігнат неяк затоена і загадкава паглядаў на мяне. Як быццам збіраўся сказаць нешта важнае і сакрэтнае, ды не асмельваўся, ці не хацеў мяне знянацку агаломшыць. Я ж трымаўся годна, не адчуваючы ніякай неспадзяванкі, нейкай падкавыкі, знаходзіўся ва ўладзе некага, хто валодаў незвычайнай сілай ці ведаў мяне дасканала і наскрозь, да кожнай жылкі ці сасуда, па якіх мкнула да сэрца кроў…

Не ўтрымаўся, зноў узяў за вушка конаўку, паднёс да рота, зрабіў некалькі глыткоў. Прыемная вадкасць улілася ў мяне, наталіўшы не толькі смагу, а і яшчэ больш супакоіла.

– Ты не здзівіўся, Антон, што апынуўся тут? – папытаўся ў мяне лельчычанін.

– Ды як сказаць, – пацiснуў я плячыма. – Мяне запрасiў дзед Мiхась, паабяцаўшы паказаць нешта цiкавае. Вось я i тут.

– Але не зразумеў, як дзедава кузня ператварылася ў iншае памяшканне, прыняўшы новы выгляд, iншае вымярэнне? Цi не так? Думаю, што так. Дзедава кузня – своеасаблiвыя вароты ў патойбаковы свет. I кузня гэтая стаiць не адно стагоддзе, i нiхто з людзей не ведае, калi яна была пабудавана, хто яе пабудаваў i для чаго. Кузню нiводнага разу нiхто не рамантаваў, бо яна ўвесь час заставалася такой, якой i была ўсе стагоддзi. Быццам бы i старая, пашарпаная, абмытая дажджамi i снягамi, але нiводная дошчачка не згнiла, не састарэла. Цiкавая ў дзеда кузня. Ды i каваль ён адмысловы, таленавiты…

– Так яно i ёсць, дружа!»

**6**

Гартаю свой жа дзённiк. Дата стаiць 25 траўня 1989 года.

«Асобная старonачка пра яе, пра Янiну Альшанскую. Загадкавую i чароўную, прывiдную i ўяўную, прыцягальную i недасягальную…

Сядзiм разам на занятках, слухаем тлумачэннi гiсторыка Мiхаiла Гетманскага, запiсваем у сшыткi. Падручнiкаў няма, а ёсць толькi нашыя канспекты, па якiх мы будзем вывучаць тэму i потым на практычных занятках паказваць, як мы засвоiлi тэму таго цi iншага стагоддзя.

Я нешта праслухаў i таму зазiраю ў канспект Янiны, каб перапiсаць. Але – дзiва! – у яе нiчога не напiсана, хаця яна водзiць па старонцы шарыкавай асадкай. Яна перахоплiвае мой здзiўлены i недаўменны погляд, усмiхаецца з маёй недасведчанасцi.

– Чаго не канспектуеш? – шэптам дапытваюся я, паказваючы на сшытак.

– А хто табе тое сказаў? – пранiзвае мяне сваiм таямнiчым позiркам. – Я пiшу нябачнымi чарнiламi. Каб нiхто не змог прачытаць тое, што я пiшу. Не верыш?

I, каб пацвердзiць сказанае, падносiць да сакаўных вуснаў старонку i хукае на яе, быццам я некалi ў дзяцiнстве хукаў на змерзлае, у лiсцяных карунках, шкло. На маiх вачах пачалi праяўляцца радкi, акуратны почырк, быццам ён быў напiсаны не зараз, похапкам, а загадзя, спакойна i роўна выводзячы кожную лiтарку. Потым радкi згасалi, быццам напiсаны былi на пясчаным беразе i iх змывала чарговая марская хваля…

– Нiякага сакрэту, – зноў усмiхаецца мая суседка па парце, зноў паказвае рад белых, бы пялёсткi квiтнеючай акацыi, зубоў. – Хочаш, табе падарую сваю асадку?

– Не, – адмоўна пахітаў галавой, – я не змагу прывыкнуць да такога. Не буду ж я кожны раз хукаць на старонкі, каб прачытаць тэкст.

– Можна дзьмухнуць на вокладку сшытка, і тады цэлыя суткі не будзе знікаць тэкст.

– Але ж потым ён усё роўна знікне. Не, Яніна, дзякую, я ўжо буду сваім метадам, дзедаўскім.

Я зноў праслухаў, што дыктаваў ці гаварыў выкладчык, зноў напружваю слых і занатоўваю ў свой кандуіт. Мне нельга прапускаць сказы, мне трэба акуратна весці канспект, бо гісторык, як заўсёды, потым будзе прыдзірацца і дапытвацца нават пра тое, пра што і не расказваў. Я ж не Яніна, якая ведае пра ўсе падзеі кожнага стагоддзя, быццам яна пражывала ў іх і прысутнічала пры тых з'явах і падзеях, – мне б ведаць хаця б тое, што прапаноўвае праграма…

Гісторык пачаў нешта пісаць на чорнай дошцы, каб мы перапісалі ў канспекты. Пакуль ён быў заняты гэтым, я зноў павярнуўся да Яніны:

– Што вечарам сёння робіш?

– У кіно іду. Гістарычны фільм паказваюць – пра Еўфрасінню Полацкую і паўстанне Каліноўскага.

– Вазьмі і мяне з сабой.

– Пайшлі. Я не супраць. Пачатак а дваццатай гадзіне. Кінатэатр "Вітаўт".

Выкладчык павярнуўся зноў да залы, прамовіў:

– Перапішыце, калі ласка, даты, што я запісаў на дошцы. Іх вы павінны ведаць на памяць, калі ж хто спытае нечакана пра іх, вы павінны без затрымкі адказаць хоць ноччу, хоць днём… Пішыце.

Сам жа падышоў да акна, маўчаў.

Я ведаў, куды ён глядзеў. З гары добра праглядалася панарама лугоў і палёў, у засмужанай далечы блакітнеў зялёны лес, а ў падножжы гары, на якой і стаяў універсітэт, цякла няўрымслівая Прыпяць. На яе і глядзеў Генадзь Паўлавіч, як быццам купаўся ў яе хвалях. Калі ў аўдыторыі нікога не было, я падыходзіў да таго акна. Мне карцела даведацца, што прыцягвала позірк выкладчыка, чаму ён так пільна ўглядаўся ўдалеч, чаму прыцягвалі яго хвалі Прыпяці. І зразумеў: таямнічасць ракі заключалася ў тым, што яна, як маці, ахутвала кожнага сваім цяплом, наталяла пяшчотай і ласкай, дарыла мудрасць і розум, адданасць роднаму краю…

А потым да майго розуму даходзіла: якая Прыпяць? Наша альмаматар знаходзіцца не ў Мазыры, хаця і там ёсць педагагічны інстытут, а ў Менску. Як магла бачыцца палеская рака праз акно нашай ВНУ? Ці гэта толькі я бачыў Прыпяць, а Генадзь Паўлавіч бачыў зусім іншую рэчку,

якая працякала па цэнтры сталіцы і зусім была непадобнай да мазырскай ракі. А можа тое акно было чароўным і казачным, і магло яно паказаць усё што заўгодна?

Бакавым зрокам бачыў, што суседка старанна запісвала лекцыю гісторыка, не зіркала па баках, а яе ўвага скіравана толькі на старонку, а слых чуйна лавіў тое, што казаў Генадзь Паўлавіч.

Калі выкладчык на момант замоўк, збіраючыся з думкамі ці проста рабіў сабе кароценькі перапынак, каб зазірнуць у свае запісы і весці далей лагічна свой аповед, не ўтрымаўся, пацікавіўся:

– А скуль ты родам, так і не спытаўся ў цябе?

– Петрыкоўка я – вёска Лучыцы, што раскінулася на беразе Прыпяці. Чуў пра такую?

– Не толькі чуў, але разы са тры бываў у ёй. Там мой сябра жыве – Мікола Фядосік. Разам у войску служылі – у Нямеччыне.

– Ён амаль сусед мой. У іх найлепшыя яблыкі ды грушы. І мяне гаспадар не раз частаваў лепшымі гатункамі. А што ты занатаваў у сваім канспекце, пакажы?

Падаў ёй тоўсты агульны сшытак. Пагартала яго, прачытала колькі радкоў, а потым узяла са свайго канспекта складзены ўчацвёра аркушык паперы і паклала між старонак у мой, загарнула, сціснула вокладкі рукамі, моўчкі аддала назад.

Выкладчык кашлянуў колькі разоў, як заклікаў да ўвагі, працягваў:

– А пра вялікага гетмана князя Вялікага Княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага размова асобная. Пра яго жыццё і слаўныя справы абыходзяць як расейскія гісторыкі, так і савецкія беларускія. Не даспадобы ён і тым, і другім. А слава яго разляцелася па ўсім зямным шары, яго досвед у ваеннай справе вывучалі амерыканцы і французы, немцы і шведы, украінцы ды і самі расейцы. Па праграме і ў нас няма гэтай тэмы, але, калі хто жадае даведацца пра слаўную старонку нашай гісторыі, прашу прыйсці на дадатковыя заняткі, якія будуць праходзіць у суботу. І на экзамене не будуць стаяць пытанні гэтай тэмы. Таму запрашаю толькі тых, хто хоча прачыніць заслону таямнічасці таго часу і гераічнай біяграфіі палкаводца. А на сёння ўсё, да наступных сустрэч…

І тут пасля яго апошніх слоў і зазвінеў меладычны электразванок, абвяшчаючы перапынак.

…Яніна чакала мяне – стаяла каля шапіка, разглядала вітрыну з газетамі і часопісамі.

Дакрануўся да пляча, і яна азірнулася. Зноў у вачах убачыў гарэзлівыя агеньчыкі, непрыхаваную радасць, што мы ўбачыліся. Я ўзяў яе за руку і

адчуў, як яе гарачыня кальнула мяне нябачнымі іголкамі. Нейкае імгненне стаялі, гледзячы адно аднаму ў вочы, маўчалі, усміхаліся.

– Рушым? – спытала яна.

– Пайшлі, – адказаў, не адымаючы сваёй рукі ад яе.

Вельмі было цікава тое, што адбывалася на экране, але не менш цікава было трымаць Янінчыну руку ў сваёй, гладзіць яе і адчуваць, як па маім целе разліваецца цяпло замілаванасці і пяшчоты, думалася: так бы і сядзеў стагоддзі, не выпускаючы яе са сваіх рук, так бы і грэўся цяплом яе кахання…

Тады я паднёс яе далонь да сваіх губ, пацалаваў. Рука ледзь заўважна ўздрыгнула, але яна не адняла яе, пакінула ў маёй.

Змагаліся на экране касінеры Кастуся Каліноўскага, то перамагалі, то цярпелі паразу, Джузепэ Гарыбальдзі ведаў пра вызвольнае паўстанне, жадаў яму перамогі… Хораша сыграла акцёрка ролю нарачонай Кастуся – чарнабрыўку Марыну. Паказалі нам стваральнікі стужкі, як па-сапраўднаму трэба кахаць, ахвяраваць сваім жыццём дзеля жыцця Айчыны… У нас было ўражанне, што то і не фільм быў зусім, а ў нашае жыццё ўмяшалася тагачасная рэчаіснасць, і мы самі жылі ў тым часе, і гэта ў нас было такое вялікае каханне, і мы змагаліся з царскімі жаўнерамі.

– Зайздрошчу я іх каханню, – пасля доўгага маўчання, калі мы выйшлі на вуліцу і ішлі праспектам Пераможцаў, прамовіла дзяўчына. – Іх каханне дабраславіў Вышні, і яно будзе жыць вечна. Ці не так, Антон?

Яна ўмольна паглядзела на мяне, яе голас уздрыгнуў, пацішэў, і яна чакала ад мяне адказу. Не ведаў, што адказаць. Яна ж ведала, што я кахаю яе, кахаю ўсім сэрцам, дык чаму ж яна спытала ў мяне пра каханне рэвалюцыянераў? Адчуў у яе пытанні боль, скруху, шкадаванне пра нешта страчанае і няздзейсненае, і ў мяне сэрца разрывалася на дробненькія аскалёпачкі. Абняў, прытуліў да сябе. Паспрабаваў дакрануцца да яе вуснаў, нават не пацалаваць, а толькі дакрануцца, каб не зліцца ў адзінае цэлае, ператварыцца ў агромністы зямны шар…

Яніна адвярнулася. Ёй было цяжка дыхаць, яе грудзі ўпіраліся ў маю грудзіну.

– Што з табою? Табе кепска?

– Не. Мне вельмі добра, дужа добра, дзякуй, што ты цяпер побач.

Зноў паспрабаваў адшукаць яе вусны: “крочыў” па яе шчацэ ўсё ніжэй і ніжэй. І калі я амаль дакрануўся да яе вуснаў, яна зноў адвярнулася, выдыхнула з сябе боль.

– Але…

– Што “але”? – дапытваўся ў дзяўчыны аб прычыне адпрэчвання мяне. – Я ж кахаю цябе, і мілей няма нікога ў свеце.

– У тым і бяда, браце Антоне.

– Чаму – бяда? Чаму? Сама ж казала толькі што, што ты зайздросціш каханню Кастуся і Марысі.

– Казала. Калі б мы былі проста сябрамі, холадна адносілі адно да аднаго, а тое цяпер немагчыма, бо мы пераступілі тую нябачную і недазволеную мяжу, за якой мы будзем не тыя, хто мы ёсць цяпер.

– Не разумею.

– І не трэба тое разумець. Не трэба. Зразумеўшы ўсё, адчуўшы вялікае гарэнне адно да аднаго, мы парушым суладдзе нашых сэрцаў. Яны не могуць зліцца, бо я існую асобна ад цябе, але неаддзельная ад цябе.

Нічога не разумеў. Гаварыла нейкімі загадкамі і намёкамі. Быццам бы і разумеў яе, але ж і бачыў перад сабою невядомасць, што найбольш і прычыняла мне душэўны боль. Калі нас атуліла Божае пачуццё – каханне, то чаму ж мы не можам з'яднацца? Чаму? У чым мы грашым, што робім, што можа не спадабацца Вышняму.

– Даруй, даруй, Тонік-Антоній, што сустрэлася на тваім шляху. Я не хацела, каб так яно скончылася. Хаця і не скончылася. Нельга нам быць разам. Нельга. Ты некалі тое зразумееш. Але не цяпер. Ведаю, табе цяпер балюча, як і мне. І наш агульны боль нічога памяняць не зможа. Мы – ахвяры кахання, яго палоннікі.

Пасля некаторага маўчання ўсё ж спытаў:

– Яніна, хто ты? Адкуль ты? Чаму ўвайшла ў маё жыццё? Сама ці нехта паслаў? Загадкавая ты і недасягальная…

Усміхаецца, весела глядзіць ужо на мяне, як усё роўна радуецца, што так усё атрымалася. А мне не да весялосці.

– Каханы мой, Антон, не трэба так адносіцца да праяваў жыцця. На ўсё трэба глядзець весела і не абурацца. Сум і маркота народзяць новыя пакуты і перажыванні, а яны нам і не трэба зусім. Уяві, што мы не існуем, што нас прыдумалі, улілі жыццё, а мы ўжо нарадзілі ў сабе сэрца і імкнемся дапытвацца ў Вышняга, нават думкава дакараць, чаму Ён нам не дадаў лагоднасці і разумення адно аднаго, а толькі падараваў пакуты і выпрабаванні… Прасцей трэба глядзець на жыццё, тады і яно будзе да нас адносіцца інакш.

– Ты гаворыш не як чалавек, а нехта іншы, які жыве сярод нас, але не такі, як мы. Хто ты ўсё ж?

– Ты сам мяне некалі адкрыеш і зразумееш.

– Калі – адкрыю?

– Калі адчуеш холад, калі рукі не змогуць трымаць асадку.

– Загадкава гаворыш зноў. І не разгадаць мне цябе ніколі.

– Ды ніякай загадкі, Антон. Ніякай разгадкі. Пад мелодыі завірухі ты адчуеш мяне, і я прыйду да цябе. На імгненне прыйду ў твае ўспаміны. Усё.

Я выпусціў яе са сваіх рук. Выпусціў як птушку, якую злавіў на нашым квітнеючым лузе, а мо то яна сама пажадала быць у маёй руцэ, не ведаю. Яна не пырхнула крыламі, не ўзляцела ў паветра, у блакіт неба, у сонечныя промні, – проста пайшла па нябачнай сцяжынцы, падымаючыся вышэй і вышэй. Не азірнуўшыся, не памахаўшы мне рукой на развітанне. Я ж, не адрываючыся, глядзеў і глядзеў ёй услед, глядзеў да тае пары, пакуль яна не знікла, не растварылася ў шэрым мроіве дрыготкага паветра… Замест яе ўзнікла светла-шэрае воблачка, якое пакрысе плыло ў мой бок, плыло нада мною, плыло ў той бок, адкуль мы прыйшлі. А сінеча неба з памаранчавымі сполахамі разрасталася ўсё больш і больш.

Раніцай, калі прыйшоў на заняткі, калі сеў на сваё месца і не ўбачыў суседкі, а замест яе сядзела бяляначка Алеся – косы спрэс белыя, бы сатканыя з аблакоў, спытаў у яе:

– Скажы, побач са мной сядзела Яніна Альшанская. Чаму няма яе на лекцыі? Захварэла?

Яна паглядзела на мяне са здзіўленнем:

– Яніна Альшанская? Не ведаю такой. Я ўвесь час тут сяджу, і не было побач са мною ніякай Яніны. Прымроілася табе, хлопча. Марыш заўсёды пра нешта недасягальнае.

“Вось табе і маеш, – горычна падумаў, нахмурыўшы лоб, потым пацёр яго далонню, – за вар’ята могуць прыняць. Не піў жа ўчора, адкуль галёнікі наведваюць мяне?”.

Каб да канца пераканацца ў сваіх падазрэннях ці думках, я падаўся ў дэканат. Там, пачуўшы маё пытанне, удакладнілі:

– Яніна Альшанская? У тваёй групе? З-пад Петрыкава? Нешта не было такой.

Але ў журнале знайшлі маю групу 15-гб:

– Не, Антон Клімовіч, не бачу. А хто табе сказаў пра такую студэнтку?

– Ніхто, сядзеў з ёю побач на лекцыі. У кіно разам хадзілі.

Выйшаў з кабінета з нейкім незразумелым пачуццём. Тое, што я быў пры сваім розуме, і тое было, так бы мовіць, і казе зразумела, але адкуль з’яўляюцца ўсе гэтыя фантасмагорыі, уцяміць не магу. І ніхто мне растлумачыць тое не зможа.

У той жа вечар, успомніўшы, што Яніна паклала мне ў сшытак аркушык паперы, ліхаманкава пачаў гартаць яго, спадзеючыся, што яна пакінула мне развітальную запісачку, усё растлумачыўшы пісьмова. Разоў з дзесяць перагартаў туды-сюды, не знайшоў паперчыны. Роспачна ў сяброў спытаў, мо хто з іх, гартаючы мой канспект, выпадкова выкінуў.

– Не, Антон, мы яго і ў рукі не бралі, – пацiскалі сябры плячыма, – мо ты дзе па дарозе згубіў.

– Не мог я згубіць, нідзе не разгортваў яго, у тэчцы трымаў…

– Ну, не ведаем. Дакладна не бралі.

То я ўжо праз год сустрэў у парку Чалюскінцаў сваю аднавяскоўку Анастасію Кружнову, і як быццам упершыню ўбачыў, здзівіўся нават:

– То і ты, Наста, тут – Менску? Мо вучышся ці працуеш?

– А хіба не ведаеш? На філалагічным вучуся, сам жа некалі параіў мне паступаць ва ўніверсітэт, калі прачытаў мае школьныя сачыненні.

– А-а, і праўда, – успомніў я і, здаецца, пачырванеў, – але пасля таго мы з табой і не бачыліся.

– Не бачыліся. Столькі дзяўчат у Менску, што і вочы разбягаюцца, не дзіўна, што мог у якую і закахацца, ці не так?

Тут яна і падлавіла мяне, адчуў, як па твары шыбанула пякучая чырвань, і яна тое заўважыла, як не ў ладкі запляскала:

– Во, сам і выдаў сябе, пачырванеў, як школьнік. І хто ж яна? Адкуль?

Прыйшлося прызнацца.

– Разам вучыліся. У адной групе. З-пад Петрыкава яна родам. Калі ж мы гатовыя былі прызнацца ў каханні, дык яна і пакінула мяне. Сказала, што нельга нам быць разам.

– Так і сказала? – здзівілася крушнічанка. – Адмовілася ад кахання? Цяжка ў тое паверыць.

– Так. Але аказалася, што яе і зусім не было. Не было такой студэнткі ў групе. У дэканаце запытваўся, адказалі, што няма ў спісах. А мы ж у кіно хадзілі, на танцах раз былі, у Курапатах яна мяне ратавала, калі збілі міліцыянты, раны перавязвала…

– І што – сапраўды ты больш не бачыў яе?

– Не бачыў, – горычна ўздыхнуў я, – не сустракаў. Назаўсёды знікла.

Яна здзіўлена паглядзела на мяне, не верачы, што я ёй расказваў, пераканаша была, што здзекуюся з яе, нясу ахінею, каб толькі адчапіцца ад яе.

– І як жа яе звалі ці завуць, Антон? – прыгледзелася зноў пільна да мяне, чакала адказу, каб вызначыць, хлушу ёй ці праўду кажу.

– Яніна. Яніна Альшанская. А мо і Гальшанская. Ганна. Ганулька. Яня. Столькі імён у яе.

– І як жа ты яе называў?

– Па рознаму. Найчасцей Янінай. Жартоўна – Ганулькай.

– Во яно як бывае. І што – сядзіць і цяпер у сэрцы?

– Ды як сказаць. Знікае паціху з маёй памяці. А трэба, мусіць, зусім забыць. Бо навошта ж тое, калі яго няма, калі яе няма, а мо і зусім нічога не было, мо прыдумаў сам усё, намроіў.

Наста маўчала. Не ведала, пра што пытацца ў мяне болей, не хацела ўводзіць, мусіць, мяне ў няёмкасць, баялася, што можа неабдуманымі пытаннямі адпрэчыць ад сябе.

– Дадому даўно ездзіла? – перавёў я размову ў іншае рэчышча.

– На мінулыя выхадныя ездзіла. Бацька трохі прыхварэў, дык завезла лекаў яму. А ты?

– Месяцы два не быў. Ніяк не магу вырвацца. У архівах трэба было пасядзець, а падчас вучобы тое не зробіш. Вось і зашываўся ў пыльныя паперы, шукаў патрэбнае…

Неўпрыкмет выйшлі на дарогу, што вяла да парку Чалюскінцаў. Не згаворваючыся, селі на лаўку, афарбаваную ў сіні колер. Дзеці насіліся па апалых лісцях, збіралі жоўтыя «аладкі» ў букеты, даганялі адно аднаго, падалі, зноў падымаліся. Маці і не сварыліся на іх, дазвалялі падурэць, парадавацца восені і светлым асеннім дням.

– А ты дзе жывеш, Антон? У якім інтэрнаце?

– Па Змітрака Бядулі. Побач са скверам, непадалёк ад нас стадыён.

– А я па вуліцы Каліноўскага. Чацвёра ў пакоі. Жывём дружна, самі сабе гатуем, балазе пліты газавыя ёсць на кухні.

Мы сядзім з ёю аддзеленыя ад усяго свету, а ўражанне такое, што мы і не ў Менску зусім, а ў сваіх Крушніках. Праўда, у вёсцы, як мне помніцца, мы ніводнага разу так і не былі на адзіноце, не было такой нагоды. Не сказаць, што я не заўважаў Насту, не прыкмячаў яе, не, дзяўчына яна паглядная, прыцягвала хлапечыя позіркі, але, мусіць, нам абодвум было не да праводзінаў і сустрэчаў. Не спяшаўся я з гэтым, і яна таксама больш улягала ў вучобу. У школе яна вучылася на чатыры класы ніжэй, таму і не перасякаліся нашыя сцяжынкі ў вёсцы. Лічыў я, мусіць, яе малалеткай, а сябе дарослым хлопцам. А яна і не выпіналася, не траплялася мне на вочы, пазбягала нават мяне…

– Ну, што, забавіліся мы з табой, – апамяталася першай дзяўчына, – неяк хутка час праляцеў. Пара мне, Тонік, да экзаменаў рыхтавацца трэба.

– І мне. Правесці цябе?

– Да аўтобуса правядзі, а там да самага канца ён ідзе і спыняецца супраць майго інтэрната.

Падышоў аўтобус, Наста адразу ўскочыла ў яго. Стаўшы ў праходзе, памахала мне рукой на развітанне. Памахаў ёй у адказ. І потым ужо, як ад’ехаў аўтобус, запозненa падумаў, што не абмяняліся тэлефонамі. Мо

калі трэба будзе пазваніць адно аднаму – ці ўбачыцца, ці перадаць што ў вёску. Але ж сказала, што яе інтэрнат на Каліноўскага. Так што і па даведцы можна даведацца, толькі сказаць, дзе знаходзіцца інтэрнат філолагаў…»

Я загарнуў старонку сшытка. Не хацелася болей чытаць, успамінаць тую восень, калі мы з Настай выйшлі адно на аднаго. Нехта звёў нас, адправіў у нейкае падарожжа, нічога не абяцаўшы, адно напомніўшы, што мы ўсяго толькі землякі. І што ведаем адно пра аднаго шмат, бо жылі навідавоку шмат гадоў, ведаючы пра нашае існаванне, але ніколі не зрабілі адно аднаму крок насустрач.

Той крок мы зрабілі ў той дзень, калі выпадкова сустрэліся каля парку Чалюскінцаў…

**7**

Ігнат зноў адпіў ад кубка колькі глыткоў, паклаў рукі на стол.

– Мы з дзедавай кузні назіраем за сусветам, – працягваў Ігнат Кашаед, – тут мы змайстравалі самы сучасны тэлескоп. На месяцы мы можам разгледзець кожную пясчынку, кожны каменьчык. Але асноўны тэлескоп знаходзіцца не тут, а выведзены на арбіту. Але то ўчарашні дзень, сёння мы можам і без тэлескопаў бачыць космас і ўсе планеты. Хочаш прагуляцца па прасторах Неабсяжнасці?

Хто ж можа адказацца ад такой прапановы? Ды і не кожнаму такая прапанова выпадзе, гэта ўжо як нешта з той казкі, у якую нырнуў, якая паглынула напоўніцу, і з яе самому ніяк не выбрацца…

– Як гэта – пешшу?

Ігнат засмяяўся, прыхільна гледзячы на мяне:

– А як прапануеш, так і зробім. А ты, дзед Міхась, не хочаш з намі?

Каваль адмоўна пакруціў галавой:

– Не, сябры мае. Мне і часу няма. Трэба капаніцу вырабіць для бабы Васіліхі, усё абяцаю, ды неяк часу бракуе. Вы ўжо як-небудзь без мяне, бо я ведаю Сусвет, не адзін раз выпраўляўся ў такое падарожжа.

«Дзед у космасе быў? А мне ж нічога не казаў пра тое. Не казаў, значыць, так трэба было…» – тут жа і абсек сябе.

– Добра, Міхась Дзям’янавіч. А ў цябе, Антон, дарэчы, як справы ў школе? Добра вучышся?

– Троек няма. Але і не ўсе пяцёркі. Дакладней, вышэй за сярэдняе.

– І то добра.

Я думаў, што мы пойдзем па той лесвіцы, па якой спусціўся да нас Ігнат, а ён працягваў сядзець у сваім крэсле. Калі падарожнічаць па Сусвеце,

то для гэтага трэба нейкі незвычайны касмічны карабель, ракета ці што іншае. На чым жа мы паляцім?

Але ўсё яно выглядала зусім інакш…

«… Ну і насіла ж нас па Галактыцы!

Мы як сядзелі, так і працягвалі сядзець на сваіх месцах. Але некуды знікла кузня, дзед Міхась, і ўсё, што было вакол нас. Мы знаходзіліся на вялікай пляцоўцы, над намі не было ніякага купала ці даху. Не адчуваў я сілы прыцягнення, не ціснула ў скроні, як некалі пакутавалі касманаўты, ніякай гравітацыі…

Мы знаходзіліся ў нейкім дзівосным садзе і сядзелі за бяседным сталом, хаця на тым стале акрамя дзедавага бярозавіку нічога і не знаходзілася.

Усё, што было перад вачыма, за намі, над намі, нават пад намі, пераліваласся рознымі колерамі – блакітнымі і чырвонымі, памаранчавымі і жоўтымі, чорнымі і ружовымі. А потым і стол некуды знік, і мы сядзелі ў сваіх крэслах непадалёк адзін ад аднаго і бачылі вакол сябе на ўсе трыста шэсцьдзясят градусаў. У мяне акрамя сваіх вачэй з’явілася магчымасць бачыць адначасова па ўсім радыусе агляду. І тое мяне не здзіўляла, а толькі радавала, усяляла ўпэўненасць, што тое ўсё натуральна, прывычна, то я сам вінаваты, што раней не адкрыў такую ў сабе здольнасць і магчымасць: колькі яшчэ таямніц чалавек не раскрыў у самім сабе!

– Бачыш вунь там цемнаватую туманнасць?

– Бачу.

– Яна знаходзіцца побач са Змеяносцам, а ад зямлі мае адлегласць каля чатырохсот светлавых гадоў. Як сцвярджаюць астраномы і вучоныя, туманнасць лічыцца самым блізкім да Сонечнай сістэмы рэгіёнам актыўнага зоркаўтварэння. А мы з табой знаходзімся зусім побач, праз паўхвіліны можам даляцець да яе.

Удалечы я ўбачыў прыгожы малюнак нешта накшталт капелюха з вялікімі брылямі.

– І што гэта?

– Так, выглядае капелюшом, то галактыка Самбрэра. А яна знаходзіцца ад Зямлі на адлегласці дваццаць восем мільёнаў светлавых гадоў. Яе адносяць да класу спіральных галактык. А вунь збоку добра бачна цэнтральная частка Валацужнага Шляху. Дваццаць шэсць тысячаў гадоў яна мае адлегласць ад зямлі. Усе бачныя аб’екты, што перад тваімі вачыма – зоркі, туманнасці – знаходзяцца паблізу цэнтра нашай галактыкі. Можна вызначыць нават і аб’ём усяго відовішча – каля двух з паловай тысяч

светлавых гадоў па гарызанталі і каля паўтары тысячы па вертыкалі… Пра гэта ты будзеш вывучаць у старэйшых класах.

– Ігнат, а чаму нас не хістае ўбакі, як у самалёце? Мы ж пераадольваем мільёны кіламетраў.

Ігнат усміхнуўся. Не адрываўся ад таго відовішча, што паўставала перад намі, быццам не я, а ён упершыню бачыў тое.

– Наступная перад намі туманнасць – Улітка, Смоўж, – не адказаў на маё пытанне мой павадыр ці экскурсавод. – Гэта ўжо планетарная туманнасць у сузор'і Вадалея – мае адлегласць ад Зямлі 650 светлавых гадоў ад Сонца. Лічыцца адной з самых блізкіх планетарных туманнасцяў. І ведаеш, якую назву атрымала?

– Не.

– Вока Бога. Мусіць, адтуль нас бачыць Бог, і мы ўсе перад ім навідавоку. Калі добра прыгледзецца, то "зрэнка" не з'яўляецца зоркай, а толькі воблака пылу, якое атуляе белага карліка. Ён утварыўся пасля таго, як зорка скінула з сябе мантыю асноўнага рэчыва. Тая скінутая абалонка свяціла бачыцца ў форме зялёнага воблака…

Як цудоўна вакол! Вачэй не адвесці, позірк сягае то ў адзін канец, то ў другі. Такога не ўбачыш ні на якай мастацкай выстаўцы, бо ніводзін творца не падбярэ такія фарбы, якія мае галактыка. У ёй мільёны і мільярды колераў, яшчэ больш розных адценняў. Ігнат расказваў мне пра рэгіён актыўнага зоркаўтварэння, які знаходзіцца ў сузор'і Касіяпеі, выдзяляецца халодны пыл і больш нагрэтыя маладымі зоркамі ўчасткі; шмат цікавага расказаў пра галактыку ўтварэння Скульптар, альбо Манета, якая мае адлегласць каля васьмі мільёнаў светлавых гадоў ад Зямлі. Добра бачна перамычка ці інакш – бар. Такія ўтварэнні, на думку астрафізікаў, з'яўляюцца месцамі інтэнсіўнага зоркаўтварэння…

Якую цудоўную экскурсію наладзіў мне Ігнат. Здзіўляўся: я вельмі добра разумеў яго, хаця па ўзросце і ўзроўні розуму свайго быў яшчэ падлеткам. Няўжо я ў тыя хвіліны, як лётаў па неабсяжных прасторах Уладанняў Вышняга, стаў дарослым, змог разабрацца ў пачутым і ўбачаным? Няўжо Бог даў мне такую магчымасць? Што зрабіў я такога значнага, што Ён падараваў мне такую радасць?

– А гэта ўжо Вялікае Магеланавае Воблака – спадарожнік Валацужнага Шляху, – тлумачыў далей мой экскурсавод, – бо вунь як яскрава відаць унутраная структура аб'екта. Звышновая зорка Ціхо. Гэта ў гонар Ціхо Браге назвалі яе, бо яна ўдала расказала і апісала яе. Рознымі колерамі пераліваецца інфрачырвонае выпраменьванне ў двух дыяпазонах і яшчэ рэнтгенаўскія прамяні. А рэнтген дапамог убачыць плазму з вельмі высокай тэмпературай…

Мы ляцім і ляцім, а мо і стаім на месцы, а вакол нас кружыцца Сусвет і Галактыка, і няма здзіўлення, а ёсць толькі радасць адкрыцця і спазнання Наваколля, і чуецца мелодыя Вечнасці і Пяшчоты, струны Нябеснай Арфы пранізваюць мяне і маю душу Боскай Ласкаю і Замілаванасцю, і толькі тады разумееш, што сам з'яўляешся не пясчынкай ў вялізным акіяне, а вялізнай глыбай і каменем у фундаменце Храма Бога…

А далей, праз колькі хвілінаў, мы падлятаем да Магеланавага Воблака. Гэтая вобласць мае адметныя рысы – у ёй ідзе актыўнае фарміраванне зорак, якія адрозніваюцца ад іншых тым, што валодаюць жорсткім выпраменьваннем.

– Ау-ууу! – крычу я ў Сусвет, і чую, як рэха ваганняў майго голасу перакатваецца з зоркі на зорку, падскоквае, адлятае далей і далей на мільёны светлавых гадоў. – А-ууу-ууу! Я тут, сярод зорак, і сам раблюся зоркай, выпраменьваю дабрыню і цяпло, накіроўваю ўсё гэта туды, у кірунку роднай зямлі, дзе жыву, дзе нарадзіўся, дзе вымушаны буду змагацца з невядомымі і нябачнымі ворагамі.

– А-ууу!

Ігнат глядзіць на мяне, радуецца, што прыйшліся мне даспадобы яго дарогі, яго зоркі, яго Валацужны Шлях.

А далей працягваецца спіральная галактыка Час – мае адлегласць ад зямлі ў дванаццаць мільёнаў светлавых гадоў. Вызначана ў чатырох дыяпазонах. Доўгія хвалі. І чым даўжэйшая хваля, тым меншая тэмпература цела, якое выпраменьвае тыя хвалі…

Мне здаецца, што я па адукацыі астрафізік, вучоны, ведаю дасканала Сусвет. Бо адкуль жа я ведаю Дзету Змяяносца – зорку на адлегласці каля чатырохсот светлавых гадоў ад Зямлі? Цікава, што яна ў шэсць разоў гарачэйшая за Сонца, у дваццаць разоў цяжэйшая і ў восемдзесят тысяч разоў ярчэйшая. Чаму я ведаю ўсе гэтыя дадзеныя, хто мне растлумачыў пра іх уласцівасці? Я бачу, як ільюцца магутныя хвалі плазмы з паверхні, а пры сутыкненні з міжзорным рэчывам ствараюць добрабачную ў інфрачырвоным дыяпазоне ўдарную хвалю. Бачу і кадзіраванне колераў. Яны адрозніваюцца ад таго малюнка, што бачылі перад гэтым, а іменна – максімальная даўжыня хвалі, а яна бачыцца чырвонай, роўная дваццаці чатыром мікраметрам. 3,6 і 5 мікраметра – сінім, а 8,0 – зялёным…

Якія разнастайныя зоркі! Цэлае шаравае скапленне, незвычайная разнастайнасць зорак. Большасць іншых падобных скапленняў складаецца са старых зорак, але Амега Цэнтаўра ўключае ў свае шэрагі і маладыя, і старыя… І раён Трапецыя змясціўся на абсягах, і частка туманнасці

Арыёна – усім хапае месца, і нікому не цесна, наадварот, прасторна і ўтульна адначасова.

А калі прасвяціць рэнтгенам, то ўбачым Чандру – з густымі патокамі рэчыва, выкінутага маладымі і вельмі гарачымі зоркамі, а аптычныя і інфрачырвоныя бачыны праявілі структуру газапылавых воблакаў…

– Антон, звярні ўвагу на сутыкненне галактык. Зялёная і блакітная частка, мы бачым інфрачырвоныя плыні, закадзіраваныя чырвоным колерам. Сутыкненне працягваецца, і доўжыцца яно ўжо звыш сарака мільёнаў гадоў…

Я пільна ўглядаюся ў галактыку, адкрываю і адкрываю для сябе таямніцы і загадкі нараджэння новых сусветаў і зорак, якія падміргваюць мне як даўняму знаёмаму, як свайму сябру. У цэнтры туманнасці Эты Кіля бачу адну з буйнейшых зорак галактыкі, альбо як яе называюць яшчэ – Эта Кіля.

Яна прыкладна ў сотні разоў больш за масу Сонца, і за кошт гэтага тэрмаядзерныя рэакцыі ідуць у ёй нашмат хутчэй. Зыркасць зоркі ў мільён разоў перавышае яркасць Сонца.

Я ведаю: у хуткім часе Эта Кіля можа стаць звышновай, а яе выпраменьванне і патокі зорнага ветру на маіх вачах фарміруюць бачныя воблакі газа і пылу…

– Божа, хто можа абняць гэты Сусвет, створаны Табой? Толькі Ты, ніхто іншы. Бо не спасцігнуць Твае думкі і магчымасці, нават і ўявіць цяжка, наколькі Ты вялікі і Усемагутны, бо Ты – Сусвет, Галактыка, Мінулае і Будучыня, Сіла, якой мацней за Тваю нідзе няма і не будзе…

Я ўзносіў малітву да Госпада, накладаў на сябе крыж, і разам са мною тое рабіў і Ігнат. Ён знаёміў мяне з Месяцам і Юпітэрам, Венерай і Марсам, і мы прагульваліся з ім па Валацужнай сцяжыне быццам хадзілі па росных лугах нашага Палесся.

А зоркі, быццам светлякі, зырка асвятлялі нам шлях. Карагод таямнічых зорак то ўспыхваў, то хаваўся за нябачным мроівам сінечы, колеры пераміргваліся, зліваліся ў адно, утвараючы новы незямны каларыт, ператвараючыся ў нейкую новую субстанцыю, і тыя колеры праз мой позірк уліваліся ў душу, ачышчалі яе, падпітвалі новай энергіяй, хаця яна ў тым і не мела патрэбу, – то яна мяне ачышчала і сваім дзівосным унутраным святлом азарала мяне знутры, запальваючы свечку новага адраджэння і нараджэння…

Ды якое зноў дзіва: мы ўжо не бачым адзін аднаго, а толькі адчуваем саміх сябе.

Нас няма. Але мы ёсць. Вочы мае сталі падобныя на дзве паловы нейкага шарыка, і кожная палавінка бачыць усё, што на сто восемдзесят градусаў.

Тое ж бачыць і другая палова. Яны зліліся, палавінкі, сталі адным шарам і маюць магчымасць бачыць адначасова ўвесь Сусвет. Не трохмернае, не пяцімернае, а мільёнмерная магчымасць бачыць і фіксаваць усё наўкола.

Ці можа такое быць? Значыць, чалавек і створаны такім, каб бачыць і спераду, і ззаду, і што наперадзе.

Мы такімі створаныя, але не адкрылі тое ў сабе…

– Ты дзе, Ігнат?

– Я на Вялікім Возе, а ты?

– Я на Малым. Купаюся ў моры асалоды, дажджы мілоты абмываюць мяне, і я кропелькай туманнасці ападаю на гарачую паверхню. Можа такое быць?

– Можа, Антон, таму я і паклікаў цябе ў такое падарожжа, каб ты адчуў неабсяжнасць Сусвету і сваё прызначэнне на нашай маленькай зямлі.

– Тады нашая Зямля – пясчынка ў Часе і Сусвеце, а мы хто ў ёй, Ігнат?

– Людзі. Мы – людзі сваёй краіны. І таму павінны берагчы яе, шанаваць і любіць.

– Мы стараемся тое рабіць, але нейкія дэманскія сілы перашкаджаюць зрабіць яе краінай вольнай і магутнай, магутнай настолькі, каб ніякі сусед не паланіў нас, не зневажаў…

– Праўду кажаш. Вось на вялікай адлегласці ты яшчэ больш адчуеш сваю місію змагара, стойкага ваяра, і тое дасць табе яшчэ большыя сілы.

– Я адчуваю, як яны ўліваюцца ў мяне.

– То і добра. І няхай яны ніколі не пакідаюць цябе.

– Няхай!..»

**8**

Каваль здзіўляў Антона не толькі сваімі паводзінамі, не толькі гумарам і дасціпнасцю, а яшчэ і таямнічасцю. Дзед ніколі нічога не расказваў пра сябе, а калі нешта і баяў, то мовай казкі. Бо як жа можна было яго зразумець, калі ён, хітра ўсміхаючыся, прыставіўшы даланю да скроняў, апавядаў:

– Ото паслухай, нябожко, казку маю, якую нідзе не прачытаеш…

– Ты сам іх складаеш, дзядуля? – не ўтрымаўся і перабіў старога на паўслове. Каваль не пакрыўдзіўся, рады быў, што ўнук уважліва яго слухае.

– Ото ж, а хто замест мяне іх складае?.. Я жыву кожны дзень побач з агнём, і ён дае мне сілу – фізічную і духоўную. А Першы Каваль, скажу табе, жыве на небе, там, дзе Бог жыве, але не побач з Ім, а далёка ад Яго, на другой планеце. Гэта ён грыміць на ўсё неба, калі б’е молатам па

кавадле, Громавержац. І брат ў яго ёсць родны, блізнюкі яны, і завуць іх Кузьма і Дзям'ян. Запрашалі не раз яны мяне ў госці, ну я і наведваўся да іх. Вучылі мяне кавальскай справе. Яны паказвалі мне булаву, што яны змайстравалі, пры дапамозе якой перамаглі цмока з пяццю галовамі. Далі патрымаць яе ў руках, дык я не здолеў падняць яе.

– Дзядуля, а цмок – гэта што?

– Страшыдла. Змей, дракон, лятучы яшчар. Над нашымі вёскамі і гарадамі лётаў, выцікоўваў прыгожых дзяўчат і хапаў іх сваімі кіпцюрамі, у сваё логава заносіў іх. Што ён з імі рабіў, ніхто не ведае. Але дзяўчаты ніколі не вярталіся дадому. Вось людзі і папрасілі братоў, каб пазбавілі іх ад ненавіснага цмока, бо акрамя іх ніхто не мог людзям памагчы… Ох і бойка тады была! Некалькі дзён змагаліся браты. Стомяцца, пад зямлю хаваліся, нepiscopalралі ў яе, як у мора. Потым зноў выклікалі на бой цмока. Махае Кузьма стопудовай булавой, стоміцца, перадае яе Дзям'яну, кідае і той ловіць у палёце, нападае зноў на цмока. У таго з пашчы агонь вылятае, каваля спаліць хоча, а Дзям'яну агонь браце родны, не баіцца страшыдлу… Людзі назіралі за іх змаганнем, ужо думалі, што загінуць волаты-блізняты. І выйшлі яны на апошні, галоўны бой. Злаўчыўся Кузьма, ды як трэсне цмока па галоўнай галаве, той і распластаўся на зямлі, выпусціў з сябе дух, – з яго выцекла столькі чорна-зялёнага бруду, што ўвесь глыбокі роў напоўніўся…

Дзед замоўк, паглядзеў на Антона, убачыў яго зацікаўлены позірк, што ён чакае працягу, не асмельваецца перабіць пытаннем, зноў пачаў плесці карункі сваёй ці то казкі, ці то выдумкі:

– Не заснуў яшчэ ад маёй хлусні? Не, ну то слухай далей, калі цікава. Каваль не мог ажаніцца абы з кім. Нават з самай прыгожай дзяўчынай. Мог, але яна павінна была ўмець гаршкі вырабляць. Гаршчэчніца, адным словам. А ў тых гаршчэчках яна павінна зёлкі варыць цудадзейныя, каб людзей лячыць ад розных хваробаў, няшчасці ад іх адводзіць. Мой прадзед Максім меў за жонку гаршэчніцу Варвару. А яна ўжо служыла людзям і святаром, і траўніцай, і варажбіткай. Яе чароўнасці падпарадкоўвалася нават зямля. І неба. Прыйдзе засуха на зямлю, дажджоў няма колькі тыдняў, вось-вось усё пагарыць пад няшчадным сонцам. Тады людзі да Варвары ішлі, прасілі дождж паслаць на зямлю. І слухалася яе неба, воблакі напаўзалі адно на адно, і тады ж маланкі пачалі жыхаць, дождж абрыньваўся на зямлю… А Варвара пасля таго з ложка не магла ўстаць, сілы пакідалі яе, тыдні два-тры ляжала, чакала, калі зноў сіла ў яе ўвальецца. Тады ўжо дзед Максім лячыў яе тымі зёлкамі і малітвай, звяртаючыся да Бога, просячы ў яго даравання, што гаршэчніца пераступіла парог Яго ўладанняў.

Максім найбольш працаваў начамі, калі людзі спалі. Таму і спяваюць пра кавалёў: «А каваў ён уначы, нат не палячы свячы».

– І ты ж, дзед, кажуць людзі, працуеш начамі?

– Працую, а як жа інакш. Ноччу метал робіцца мяккім, як воск. Размінай яго, як хочаш. Каваль – прафесія магічная і міфічная. Людзі шануюць святых Кузьму і Дзям'яна, ушаноўваюць іх памяць чатырнаццатага лістапада. Вось яно як.

– Дзед, а прозвішча тваё – Кавальчык – адкуль узялося?

– З неба, адтуль усе кавалі. Бо там шмат металу…

Слухаў бы і слухаў казкі дзядулі, ды якія, калі разабрацца, казкі? Аддзялі праўду ад выдумкі пра кавалёў, і што застанецца? Антон ведаў, што сапраўды ў народзе адзначаюць дзень Кузьмы і Дзям'яна. Дык, выходзіць, што яны яшчэ і святымі былі? Не хлусіць, значыць, дзед, праўду расказвае…

Антон думае пра тое, што можа ўдакладніць пра дзедавы «байкі» ў класнай, у настаўніцы, якая шмат чаго ведае, але ён не ўпэўнены, што яна сур'ёзна паставіцца да яго пытання. Тое, што не па школьнай праграме, Лідзія Пятроўна ніколі не будзе апавядаць яму, што яна думае і ведае. Бо аднойчы спытаў у яе, ці можа чалавек лётаць, дык яна ледзьве не пакруціла пальцам каля скроні, пільна гледзячы на яго. Не, ён у яе пытацца не будзе, спытае лепш у каго іншага, але ў каго?

А карцела пацікавіцца, ці сапраўды дзед Міхась належыць да прадстаўнікоў фантастычных і казачных, ці не брэшуць паданні і міфы, што каваль можа знаходзіцца паміж гэтым светам і патойбаковым, ці можа ён быць чараўніком і лекарам, добрым і злым, ці валодае ён дзівосным дарам празарліўца і прадказальнікам будучых падзей, ці… Шмат накапілася ў хлопца пытанняў, ды ці кожны разумны і адукаваны чалавек мог адказаць на іх як знаўца, як мудры і дасведчаны, пры гэтым не ўбачыць у ім таго, у каго не ў парадку «з розумам і галавой». Бо адразу могуць запісаць у разрад тых, каго трэба лячыць і аддаць на лячэнне ў «дурдом»…

І палічыў за лепшае пакуль маўчаць, дачакацца таго часу, калі можна будзе смела выказаць свае думкі ці пацікавіцца ў чалавецтва, адкуль у яго галаве нараджаюцца такія меркаванні.

Каваль сеў у сваё крэсла, сашчапіў пальцы рук на жываце. Прымружыў вейкі, прызадраў галаву, паклаў яе на спінку крэсла. Уздыхнуў, як быццам скінуў з сябе нейкі цяжар.

Антон, бачачы, што каваль не мае ахвоты больш расказваць казкі, паглядзеў па баках. Падалося, што нехта хадзіў за яго спінай. Крокі ціхія, быццам чалавек хадзіў па дыване ці ногі былі ўсунуты ў пантофлі. Калі

азірнуўся, нікога не ўбачыў. Недзе рыпнулі дзверы, хаця ведаў, што ў кузні акрамя іх нікога не было. Здзівіла тое, што ў хаціне было светла, хаця ніякага асвятлення не было, акрамя таго агеньчыка, што цепліўся пад горнам. І з двара не прасочвалася сонечнае святло, хаця зноў жа ведаў, што дзень быў пахмурны: як ішоў да дзеда, то злёгку імжэла, з неба церусіўся нябачны дождж. Але тое яго асабліва і не хвалявала, ведаў, што дзедава кузня чароўная, у ёй могуць быць любыя дзівосы. Яны проста не раскрываліся перад ім цяпер, значыць, не прыйшла яшчэ тая пара.

Клімовіч падышоў да горна. Крануўся злёгку рычага, што быў прымацаваны да меха, таргануў канец палкі ўніз. Тут жа ўспыхнуў агеньчык, загарэўся жоўтым полымем. Зноў пусціў паветра з горна, успыхнуў яшчэ больш.

Зразумеўшы, што на гэтым сустрэча з кавалём скончана, адышоў ад горна, падышоў да дзвярэй. Узяўся за металічную дужку, прачыніў асцярожна, баючыся, каб не рыпнулі завесы і не пачуў таго гаспадар кузні. Нячутна пераступіў парог, прычыніў за сабою варотцы.

Выдыхнуў з сябе паветра, быццам нешта перашкаджала зрабіць тое раней.

Узышоўшы на выспачку, азірнуўся: каваль не выйшаў з кузні, значыць, драмаў у сваім царскім крэсле.

Заспяшаўся дадому. Не ведаў, колькі бавіўся ў дзедавай кузні, мо ўжо і час позні, маці пачне хвалявацца. Нешта прыцягнула яго ўвагу, і ён зірнуў на неба. Узмахвала крыламі нейкая вялізная чорная птушка. Прыгледзеўся: у птаха была загнутая дзюба, як у арла, але то быў не арол, а нейкае невядомае стварэнне. Падалося, што ў яе блішчэлі жоўта-чырвоным агнём вочы і яна паглядала на яго. Уздрыгнуўшы ад страху, сцепануўшы плячом, амаль подбегам пашыбаваў па вуліцы.

Маці, трымаючы ў руцэ вядро з вадой, ішла ад студні, спыніўшыся, неадрыўна глядзела ў неба, дзівячыся, мусіць з таго дзіўнага птаха, што плыў у шэрым сутонні. Не гледзячы на сына, папыталася ці то здзіўлена, ці абыякава:

– То ты прыйшоў ужо?

Антон не глядзеў ужо на неба. Чамусьці не хацелася бачыць таго птаха. Ён пасяліў у ім незразумелую трывогу, нават страх. І ён нішком, апусціўшы вочы долу, пайшоў да дзвярэй сенцаў, расчыніў іх і пераступіў парог.

Маці яшчэ нейкі час стаяла на вуліцы. А калі зайшла ў хату, то была нейкая задумлівая, унураная. Сын ведаў пра яе стан і пра тое, чаму яна так перамянілася. Але ні пра што не спытаў, маўчаў. Яна паставіла вядро

на табурэтку каля дзвярэй, потым зачэрпнула кубкам вады, зрабіла колькі глыткоў. Як і не бачыла, што за сталом сядзеў Антон.

Жанчына села на лаўку, глядзела некуды ў падлогу, пра нешта думала. Сын не схацеў парушыць яе думкі, ведаў, што ў яе вачах стаяла тая дзівосная птушка. Толькі невядома было: яна сеяла па зямлі зярняты дабрыні, ці… Можа, пра тое ж самае думала і маці.

Нехта адчыніў дзверы сенцаў, загрукацеў нагамі па падлозе.

– Во і бацька прыйшоў, – спахапілася гаспадыня, – хутка будзем вячэраць…

**9**

Антон схадзіў у сталоўку, папрасіў маладжавую кабеціну, каб наліла яму паўміскі капусты з буракамі, а ў суседкі яе, зусім маладзенькай дзяўчынкі, папрасіў на другое катлету з грэчкай. Яна падала яму талеркі, паставіўшы на бліскучы металічны бардзюр, зірканула на яго блакітнымі вачыма, усміхнулася, пажадала весела:

– Смачна есці!

– Дзякую, – цёпла адказаў ёй, не адрываючы ад яе позірк.

Каб не Яніна, якая ніяк не выходзіла з галавы, закахаўся б у прыгажуню, тут жа прызначыў бы ёй спатканне на вечар.

Не прапанаваў, не асмеліўся, вельмі ж свежая была рана на сэрцы, калі б і сустрэліся з дзяўчынаю, то не ведаў бы і пра што гаварыць з ёю, слоў бы патрэбных не знайшоў, рассмяшыў бы яе сваёй нехлямяжасцю…

Сёрбаў капусту, а не-не ды і кіне позірк у яе бок, як бы правяраючы свае пачуцці, ды і хацелася яшчэ раз сустрэцца з яе позіркам. Не перакрыжаваліся, вельмі ж занятая была дзяўчына наведвальнікамі, не хацела збівацца з рытму ў сваёй працы…

Што ёй да яго, у яе вунь тысячы мільгаюць перад вачыма, і калі кожны пачне да яе заляцацца, хаця б нават позіркам, то яна і зрок можа сапсаваць. Думаў так, жартаваў сам сабе, шкадаваў адно, што не ў спрыяльны момант яна яму сустрэлася, не ў спрыяльны.

Дапіў мутны кампот, паставіў пусты посуд на паднос, панёс да стала, што стаяў каля калоны. Туды зносілі посуд пасля яды. Ідучы, пачуў, як нехта выгукнуў як не на ўсю сталоўку:

– Вераніка, цябе да тэлефона!

– Іду! – адгукнулася дзяўчына, і ён убачыў, што гэта яна, тая, што падавала яму катлету з грэчкай. – А хто, не ведаеш?

– Не назвалася, мо сяброўка твая ці хто іншы…

«Во, значыць, яе Веранікай завуць, буду ведаць…»

А хацелася кінуць развітальны позірк. Прайсці назад і зірнуць у яе бок. Яна доўга не вярталася. А яму не выпадала больш стаяць і чакаць яе.

«Мо іншым разам прыйду, тады і звярнуся да яе: “Вераніка, мне калі ласка, вашыя катлеты з грэчкай – яны дужа смачныя…”».

А ў пакоі яшчэ згатаваў сабе гарбаты, у тумбачцы адшукаў пачак пячэння. Глытаў гарачы ўзвар, хрумстаў пячэнне, а з галавы не выходзіла думка пра Вераніку.

Лёг спаць і адразу заснуў. Прыснілася сярод ночы нешта трывожнае, і Антон прахапіўся. Зірнуў на гадзіннік, што ляжаў на ўскрайку стала і свяціўся стрэлкамі, – стрэлкі напаўзлі адна на адну над лічбай «3». Зноў прымружыў вочы, стараўся зноў кінуцца ў сон, але ён не ішоў да яго. Думкі перакідвалі з аднаго ўспаміну на другі, а потым Вераніка паўстала перад ім, яе позірк і ўсмешка. Замест яе Яніна ўсплыла, нешта сілілася яму сказаць. Ведаў, калі думкі сягаюць адна за адной, то дарэмна спрабаваць вярнуцца ў сон, так і будзеш пераварочвацца з боку на бок, скакаць ад адных успамінаў і перакатвацца на другія…

Зразумеўшы, што ў бліжэйшыя тры-чатыры гадзіны не засне, пстрыкнуў уключальнікам, што знаходзіўся над галавой. Святло заліло палову пакоя. Гэта толькі напачатку яно падалося зыркім, што прыйшлося прымружыць вочы, а потым, прызвычаіўшыся, з вачэй спала напруга. Ужо льга было чытаць, але ён на гэты раз не ўзяў у рукі кнігу Уладзіміра Караткевіча, з ім трэба сустракацца не ноччу, а днём, калі галава чыстая і гатовая прыняць радкі вялікага творцы.

Прачытаўшы колькі радкоў з «Дэмана» –

> Позняю ноччу з бяссілымі зорамі стылымі,
> Калі ў глыбокіх дварах паміраюць вятры, –
> Сеў на акно чалавек з кажановымі крыламі,
> Месяц і зоры гусцеючым ценем закрыў… –

загарнуў кнігу.

Узяў газету «Чырвоная змена», што адклаў вечарам для чытання, і яе не з’явілася жаданне праглядаць. Зноў перад вачыма ўзнік твар раздатчыцы ежы, але і ён знік, замест яго прамаўляла ўжо развітальным голасам Яніна: «Не можам мы быць разам, даруй…»

Нейкая каша атрымлівалася, мешаніна. Ні на чым не мог засяродзіцца, скіраваць свае думкі ў спакойнае рэчышча: быццам нейкі віхор узняў яго ў паветра і перакідваў з месца на месца, люляў у сваёй нябачнай калысцы,

кідаў-перакідваў з аднаго берага ці месца ў другі. І не было ніякай трывогі ці неспакою на душы, а нечага кідала-падкідвала яго ў паднябессе, быццам нехта падштурхоўваў яго да дзеяння, але да якога? Устаць ды ісці паблукаць па начным Менску? Для чаго? Які сэнс? Начная прагулка карысная для здароўя? Дык на здароўе, дзякуй Богу, ён не скардзіўся. Значыць, адпадае. Нешта іншае, але што?

Выдаўжыў руку, яна дацягнулася да палічкі, прымацаванай да сцяны. Не глядзеў нават туды, і рука намацала шурпатую вокладку агульнага сшытка, які ён разгортваў амаль кожны дзень. Для чаго цяпер разгарнуў? Перачытаць напісанае ці дадаць туды новыя радкі? Напісанага набралася ўжо больш за палову сшытка.

Далей і сам не разумеў – ці то чытаў напісанае раней, ці дадаваў новыя радкі да ўсяго напісанага, але на душы палягчэла, быццам ён спрычыніўся да таго, што яму і належала рабіць у гэты час…

«На вуліцы сустрэўся Ігнат. Паручкаліся, папыталіся адзін у аднаго, як праходзіць жыццё. Ігнат прапанаваў:

– Слухай, браце Антоне, клопат да цябе маю, просьба ёсць.

– Слухаю цябе.

– Ты калі збіраешся на Гомельшчыну? У свае Крушнікі?

– Ды як нага загоіцца, так адразу і магу з’ездзіць. А што?

Селі ў скверы на лаўку. Ігнат быў нейкі ўзбуджаны, ці тое мне толькі падалося, але я ведаў, што калі ён заразіцца нейкай ідэяй, то не адстане ад яе да тае пары, пакуль не здзейсніць яе.

– Мы збіраемся правесці фэст на Крапівенскім полі, што пад Воршай. Чуў пра такое поле?

– Адным вухам.

– Там восьмага верасня 1514 года адбылася гістарычная бітва. Мы хочам правесці тэатралізаванае дзейства ці імпрэзу. Правесці ўгодкі бітвы, падчас якой войска на чале з вялікім гетманам Вялікага Княства Літоўскага Канстанцінам Астрожскім перамагло войска Маскоўскага княства, якое было большае за нашых ваяроў утрая. Вось гэты дзень і можа стаць, ды не, ён і стаіць у гісторыі як Дзень беларускай вайсковай славы. Не дваццаць трэцяга лютага, як прыдумалі бальшавікі разам са Сталіным, а менавіта ў гэты дзень – 8 верасня.

– Цікава! Ігнат, скажы, а што ад мяне патрабуецца?

– Вось мы і падышлі да галоўнага пытання, дзеля якога я хацеў і пабачыць цябе. У Гомелі ёсць рыцарскі клуб “Пагоня”. Ім кіруе выдатны хлопец Лявон Муштэнка. Ён паэт, піша цудоўныя вершы. Мае каля

пятнаццаці рабочых спецыяльнасцей: тынкоўшчык і маляр, зваршчык і чаканшчык. Вучыўся на юрыста, працаваў следчым. Але што галоўнае, выдатна працуе з металам, вырабляе з яго кальчугі і арбалеты, нажы і шаблі. Як і дзед твой, дарэчы, Міхась, які ў сваёй кузні вырабляе зброю розных стагоддзяў. Ён і табе "касцюмчык" вырабіў, які чакае свайго часу.

– Адкуль ведаеш пра дзеда Міхася? – насцярожыўся я. – Ты ж ніводнага разу не быў у яго.

– Ну і што? Ён затое быў у мяне.

– У Лельчыцах?

– І не толькі. Дык вось. Ты адшукаеш Лявона ў Навабеліцы, ён акурат свой дом дабудоўвае на два паверхі. Не дом будзе, а цэлы музей. Ты з ім павінен пазнаёміцца, а для гэтага перадаць ад мяне прывітанне. Сказаць яму, што ў наступным годзе на Крапівенскім полі будзе праводзіцца тэатралізаванае свята "Перамога літвінаў над маскоўскім войскам". Ад яго павінны выступіць ваяры ў кальчугах, неабходна вырабіць даспехі Вялікаму Гетману Канстанціну Астрожскаму. І ты будзеш удзельнічаць у гэтым свяце, і я, і шмат яшчэ якіх хлопцаў і дзяўчат, актывістаў і адраджэнцаў.

Я маўчаў. Адчуў, што Ігнат далучае мяне да важнай імпрэзы, а праз мяне павінен далучыцца і Лявон Муштэнка, іншыя людзі. Я не выказваў сваёй радасці, але падзякаваў Ігнату, што давярае мне такую адказную ролю ў жыцці адраджэння мінулага.

– Я гатоў уключыцца ў адраджэнцкі рух.

– Іншага адказу я і не чакаў, – моцна пацiснуў мне руку Ігнат. – Будзем на сувязі.

– Будзем.

Праз тыдзень, як перастаў адчуваць боль у назе, выправіўся я ў дарогу. Паехаў спецыяльна позна вечарам, каб раніцай прыбыць у Гомель. Сеў на тралейбус і даехаў да прыпынку хімічнага завода.

Лявон быў дома. Ён правёў мяне ў свае пакоі, дзе сцены былі спрэс увешаны рыцарскай зброяй, у кутку стаяла кальчуга з дзідай, якая ўпіралася ў падлогу. На сцяне вісела рысь з вышчаранай пашчай і мядзведзь, які чамусьці ўсміхаўся. "Няўжо ўсё натуральнае? – падзівіўся я. – Лявон рысі і мядзведзі забівае і вешае чучалы на сцены? Быць таго не можа…"

Гаварылі мы як даўнія знаёмыя. Але найперш я перадаў прывітанне ад Ігната, якому ён вельмі ўзрадаваўся. Ён паіў мяне гарбатай, яблычным і грушавым сокам, моцныя напоі і не прапаноўваў, тое было мне даспадобы.

Перадаў яму просьбу Ігната.

– Гэта вельмі цікава, Антон! Мы з хлопцамі з радасцю прымем такое запрашэнне. У мяне трыццаць юнакоў, якія выдатна валодаюць зброяй, могуць змагацца да першай крыві, а не проста паказваць і імітаваць бой.

Удакладніў з недаверам:

– А гэта не рызыкоўна – да першай крыві?

– А як жа тады паказаць натуральнасць бою? Хлопцы ў мяне прафесіяналы, да вялікіх траўмаў бой не дойдзе.

– То і добра.

Прыехаў раніцай, а прагаварылі мы з ім аж да абеду. І абедам смачным пачаставаў. Правільней, жонка, Марыя. А грыбы якія адменныя ў яго, і баравічкі, і рыжыкі – цуд!

Потым Лявон правёў мяне да вакзала, дзе я сеў на дызель і праз дзве гадзіны выйшаў з вагона ў Калінкавічах. Потым аўтобус завёз мяне да Мазыра, а адтуль ужо аўтобусам я дабраўся да сваіх Крушнікаў. Адразу дадому не пайшоў, а падаўся ў кузню.

Каваль, як Праметэй, стаяў каля горна, раздзьмухваў агонь, разаграваў дабяла металічны прэнт, збіраўся расплясваць яго на канцы, закруціць адмыслова…

– Прыехаў? – не адрываючыся ад агню, папытаў у мяне каваль. – Надоўга?

– Ды не, на пару дзён. Мог і раней прыехаць, ды нагу пашкодзіў, адлежваўся ў інтэрнаце.

– Прыехаў бы, дык я цябе адразу вылечыў бы… Ну ды ладна, маю працу дактары зрабілі. Да мяне чаго завітаў? Праведаць ці патрэбу якую маеш?

– Маю, дзед, маю.

– Ды ведаю, ведаю. Спытаць хочаш, ці кальчуга твая цэлая?

“Адкуль ведае? Угадвае думкі ці загадзя ведае, што і як адбудзецца?”

– Так, дзед, так.

– Значыць, пара прыйшла. Стаіць твая кальчуга і меч разам з ёю, вунь у кутку – схаваны за лістом бляхі. Спатрэбілася?

– Не цяпер. Наступнай восенню. Пад Оршу мне трэба з гэтым касцюмам.

– На Крапівенскае поле? Пад Канстанцінам Астрожскім пабыць хочаце?

– Так, з табою нават і гаварыць нецікава – ты пра ўсё ведаеш.

– Служба такая кавальская ў мяне, пра ўсё агонь расказвае і вада, якая працякае пад маімі нагамі.

Здзіўлена паглядзеў на яго:

– Пад кузняй рака цячэ, дзед? Не хлусіш?

– Не хлушу. І не толькі рака, а і тайны ход пад тую раку. Там я здабываю жалеза і руду. Бо хто ж мне дае тыя матэрыялы? Сам здабываю.

З дзедам размаўляў, як ведаючы яго не адно стагоддзе. Мы як быццам разумелі адзін аднаго з паўслова, і прадмет размовы нам быў даўно вядомы і прадказальны.

– Мне пакажаш, дзед, свае руднікі?

– Чаму не паказаць, пакажу. І не толькі магу паказаць табе падзямелле, а і сёмае неба. Я ўсё магу.

– Добра, дзед, толькі калі?

– Калі прыйдзе час.

– Табе памагчы што цяпер?

– Ды не, не трэба, тое, што я буду рабіць, трэба быць аднаму. Паміж металам і мной нікога не павінна быць.

– Добра. Можна я заўтра прыйду і прымеру свае даспехі?

– Мерай. Але я падагнаў твой памер на ўсё тваё жыццё.

– Добра, тады я пабег. Маці не ведае, што я прыехаў.

– Бяжы. Абрадуй бацькоў сваёй пабыўкай.

Я падышоў да каваля, абняў яго за плечы:

– Да заўтра!

– Будзьма! – прамовіў каваль, працягваючы раздзьмухваць агонь. – Прыходзь».

## 10

А мы лёталі і лёталі, і лёталі… Мо і не лёталі, але насіліся па бязмежжы апантана, весела і ўзнёсла. Пабывалі нават на планеце кавалёў – Дзям’яна і Кузьмы. Яны паказалі нам, якія дзіўныя рэчы вырабляюць на сваіх кавадлах. Падалося мне, што яны абодва былі падобныя да дзеда Міхася, іхняга вучня. Гэтак жа ўсміхаліся, махаючы цяжкімі молатамі, і гэтак жа высякалі залатыя іскры з тоўстага металу, і яны ўзляталі ў тканіну неба, завісалі там і рабіліся зоркамі. Дык вось адкуль бяруцца зоркі ў небе! То Кузьма і Дзям’ян выбіваюць іх з разагрэтага металу. Цяпер буду ведаць.

– А цяпер куды? – пытаюся я ў свайго спадарожніка Ігната, не бачачы яго, а толькі адчуваючы яго прысутнасць.

– Куды хочаш. Ты цяпер кіруеш сусветам?

– Я? Хіба ж ён падпарадкоўваецца мне? Слухаецца мяне?

– Слухаецца. Ты пракладваеш свае дарогі і крочыш па іх, то цяпер гэта твае маршруты і дарогі. Прыватныя, пракладзеныя табой, як сцяжынка ў глухой мазырскай пушчы.

Мы пацiскаем рукi братам-кавалям, жадаем iм поспехаў i, узмахнуўшы крыламi-рукамi, адштурхнуўшыся ад кавальскай планеты, узмываем у нябачны сусвет, не маючы пры сабе нi компаса, нi якога iншага арыенцiра i прылады.

Нас рухаюць толькi думкi, толькi iмкненне ляцець наперад, у нязведаныя i таямнiчыя далi i асяроддзi, у новыя сонечныя сiстэмы; абмiнаем аграмаднiстыя астэроiды i метэарыты, а, даведаўшыся, што яны iмкнуцца ў бок нашай планеты Зямля, збiваем iх з курсу, ламаем iм траекторыю, а то i зусiм вяртаем назад.

Аказваецца, мы аберагаем ад метэарытаў нашу Зямлю, як i Месяц са сваiмi прыборамi i прыладамi, будуем для яе абарончы шчыт, цi паляндру, так бы мовiць, касмiчны парасон, латаем дзiркi ў азонавым прасцiрадле, зашываем тую тканiну нябачнымi срэбнымi нiткамi. I нiхто на зямлi не будзе ведаць, чаму перастала Сонца пасылаць на паверхню Зямлi свае гарачыя промнi, чаму не пранiкае праз тоўсты слой атмасферы радыяцыя, чаму льюць дажджы тады, калi яны патрэбны зялянiне, а не тады, калi жнуць i косяць, чаго людзi не просяць…

Я адкрываю i адкрываю для сябе сусветы i планеты, i нiякая касмiчная радыяцыя не пранiзвае мяне, бо перад гэтым Iгнат i дзед Мiхась апранулi мяне ў адмысловае адзенне – надзьмулi «мыльны пухiр» i абцягнулi i абматалi iм мяне з ног да галавы. I мне нiчога не шкодзiць, не замiнае, не турбуе.

Я абаронены ад вонкавага ўздзеяння цi ўплыву, нават не абмiнаю тыя промнi, а пранiзваю iх, як быццам рукою б'ю па сонечных струнах. Дзiўна мне ўсё гэта i нязвыкла, але тое не ўзрушвае мяне, не абцяжарвае сваёй небяспекай.

А вунь i шарык Зямлi вiдаць, злева намiтка бляклага Месяца, бы акраец ледзянога агрызка. Кiруемся ў напрамку блакiтна-зялёнай зямлi, запавольваем сваё iмкненне i палёт: хочацца глядзець i глядзець на гэтае вiдовiшча, радасна адчуваць, што нас прыцягвае Зямля сваёй пяшчотай, сваёй цнатлiвасцю.

Недзе там, за прасцiрадлам сiнечы i блакiту знаходзiцца мая Мазыршчына, дзесьцi нашае адлюстраванне цi адбiтак хаваецца ў глыбiнi Прыпяцi i Сажа, Убарцi i Дняпра, – i мы наблiжаемся адно да аднаго, каб злiцца i растварыцца ў мроiве i туманах, якiмi засцелена планета, якiя ахутваюць яе i засцерагаюць ад знешняга ўздзеяння…

– Як пачуваешся, браце Антоне? – гучыць ля вуха цiхае пытанне, як быццам я ўставiў у вуха гарошынку дынамiчка.

– Узнёсла i незвычайна!

– Ці спадабалася табе такое падарожжа?

– Слова такога не магу падабраць, каб адказаць на тваё пытанне. Гэта і не падарожжа зусім. Гэта імгненне незвычайнага жыцця, невядомага жыцця, ператварэнне ў іншую істоту, незямную істоту. Няўжо нехта да нас меў такія здольнасці – лётаць?

– Людзі ўмелі не толькі лётаць над зямлёю і дабірацца ў далёкія галактыкі, але і ныраць у сваю зямлю, ныраць у моры і рэкі, горы і акіяны. Гэтую здольнасць падараваў чалавеку Бог. Даўно падараваў, тады, калі на зямлі не было зла і жорсткасці, калі чалавек не хварэў на ганарлівасць і пыху, калі адчуваў сябе не гаспадаром зямлі і неба, а падданым Бога. Ніхто нікому не зайздросціў, не імкнуўся скарыць ці падпарадкаваць сабе другога, такога ж, як і ён. І яны мелі сілу не пускаць на сваю Зямлю прышэльцаў іншых планет, іншых сузор'яў і галактык. А потым чалавек перастаў быць чалавекам, бо падумаў, што ён сам па сабе стаў такім магутным і ўладарным, а не даў такую магчымасць Бог. Таму і засялілі нашую зямлю іншыя, чужыя, растварыліся ў людской грамадзе, зліліся, і не адрозніць іх ад зямлян.

– А што, у іх злыя намеры, чаго яны хочуць?

– Хочуць быць гаспадарамі зямлі. Яны па ўсёй зямлі, ва ўсіх краінах і дзяржавах. То ад іх пайшлі зайздрасць і пыха, жаданне развязваць войны, сеяць у душах людзей недавер да Бога…

– А як распазнаць іх, каб не папасці ў мярэжы іхняга ўздзеяння?

– Гэтаму трэба навучыцца.

– А як, Ігнат, скажы?

– Трэба прайсці праз выпрабаванні, якія пасылае на кожнага Бог, ты і цяпер кінуты ў вір падзей, мінулага і будучыні. Ты тое зразумееш сам, табе не трэба ніякія падказкі і пачуванні. А цяпер падрыхтуйся – да Зямлі засталося некалькі хвілінаў. Ні пра што не думай, і ні пра што не гавары.

– Добра.

І стала ціха, і зрабілася вусцішна. Я нічога не бачыў перад сабой: нас ахутала ноч, чорная цемра, якая падалася мне гнятлівай і адначасна таямнічай. І ў гэтай таямнічасці і цемры мы адраджаліся нанова, рабіліся зноў зямлянамі.

Ногі нашыя сталі на цвёрдае апірышча; мы нырнулі ў малочную сцяну, і з нас зляцела бы пушынка засцерагальнае адзенне; выйшлі ў тыя ж дзверы, з якіх выходзіў да мяне Ігнат, сталі на тыя ж нябачныя прыступкі і няспешна спускаліся ўніз; бачылі, як дзед Міхась чараваў каля горна, раздзімаючы яго, а потым нёс кавалак металу і паклаў на кавадла, пачаў махаць цяжкім молатам.

На нас ён не звяртаў увагі, быў заняты сваім.
Нічога ў кузні не перамянілася за час нашай адсутнасці.
І мы сталі ранейшымі, тымі, якімі і выправіліся да сваіх і іншых зорак.
Яны яшчэ і цяпер стаялі перад вачыма.

**11**

«– Ну ты, дзед, і даеш! – здзівіўся я, убачыўшы збройны арсенал, што знаходзіўся за шэрай сценкай. – Адкуль гэта ўсё ў цябе?

Каваль усміхаўся, гледзячы на мяне:

– Падарыў.

– Хто падарыў?

– Вялікі гетман Канстанцін Астрожскі.

– Астрожскі?! Не можа таго быць! Ён жа калі жыў, а ты…

– "Ты-ты" – падарвалі жываты! – дзед быў у гуморы, жартаваў, вясёлы быў, барадой сівой трос, ваяра з сябе вытвараў. – Ты ж павінен пра ўсё ведаць, чаму вас толькі ў школе вучылі?

Я прачыніў дзедаў тайнік. Чаго там толькі ні было! З самага краю знаходзіліся даспехі, якія дзед адмыслова вырабіў для мяне.

Спачатку я апрануўся ў шэрую кальчугу, потым зверху надзеў панцырную лёгкую "світку". Абвязаў ногі мяккімі шлейкамі, надзеў надкаленнікі, замацаваў усё гэта на сабе. На галаву надзеў як сённяшні матацыклетны шлем з вузкай адтулінай каля вачэй. Дзед падаў мне важкі, на паўпуда, мо і больш, у похвах меч, прывязаў збоку ланцугом.

– Во, цяпер ты сапраўдны рыцар, змагар і ваяр войска вялікага гетмана.

Прайшоўся па кузні, памахаў мячом. Думаў, што не скрануся з месца з-за цяжару мяча, але, на дзіва, у тым убранні пачуваўся годна і нязмушана, хоць цяпер адразу станавіся ў рады Астрожскага і руш разам з усімі на маскоўскія палкі.

Цяпер я падрыхтаваны да тэатральнага дзейства, на якое мяне паклікалі хлопцы, і ўвальюся, як годны змагар, у харугву Леаніда Муштэнкі, будзем стаяць у першых радах велікакняжацкіх ваяроў…

Скінуў з сябе даспехі, падзякаваў кавалю за яго цудоўныя вырабы, склаў іх у адмысловую скрынку, якую таксама вырабіў дзед Міхась. Паставіў яе асобна. Забяру тады, калі прыйдзе пара, калі пакліча горан Крапівенскага поля.

Не ўтрымаўся, каб не разгледзець усіх даспехаў Вялікага Гетмана і яго ваяроў. Зграбная зброя, прыгожая нават, выраблена з густам і талентам.

– Дзед, патлумач, я не такі дасведчаны, як ты…

Дзед узяў першую рэч, што ляжала на паліцы, патлумачыў:

– Гэта алебарда – пятнаццатае стагоддзе, а побач – шаснаццатае стагоддзе. Далей – сякеры, бердышы пятнаццатага стагоддзя, суліцы, пікі і герб “Калюмны”. Сальнічка, перачніца, што стаялі на стале Канстанціна.

– А што азначае герб “Калюмны”. Не чуў пра такое.

Дзед узяў герб у рукі, пакруціў яго так і гэтак, патлумачыў:

– Гэта каштоўная рэч. Ён адзін з дзяржаўных сімвалаў Вялікага Княства Літоўскага. Звярні ўвагу – у чырвоным полі тры белыя слупы, злучаныя знізу. Як сведчыць паданне, гэты герб прывезлі з Рымскай імперыі. “Калюмны” мы можам убачыць на манетах чатырнаццатага стагоддзя. Калі правіў Гедымін, герб атрымаў таксама назву “Слупы Гедыміна”. “Калюмны” нельга аддзяліць ад “Пагоні” – яны заўсёды выкарыстоўваліся побач. Калі адбылася Грунвальдская бітва ў 1410 годзе, то з сарака харугваў Княства дзесяць былі з выявай “Калюмнаў”.

Ніяк не мог адарваць позірку ад гістарычнай рэчы, трымаў у руках.

– А гэта, зразумела, сякера? – паглядзеў на каваля.

– Так, сякера, але незвычайная сякера, адмысловая і загадкавая.

– Чаму?

– Калі ты зазірнеш у кнігу “Зброя ВКЛ”, то прачытаеш такія радкі: “Сякера – востры металічны прадмет, найбольш распаўсюджаны від абуховай зброі ў часы позняга сярэднявечча”. Скажу табе, унучак, што папулярнасць сякеры была ў значнай ступені звязана з тым, што сякеру можна было знайсці ў любой хаце. Рознага памеру. Ад маленькай, якой можна рассякаць косткі жывёлы ці птушкі, да вялізнай, якой калолі дровы, забівалі сваі ў зямлю. А ў часы, калі навісала пагроза над краінай, людзі, узяўшы сякеры ў рукі, станавіліся абаронцамі Айчыны.

– А калі яе вынайшлі, ну, навучыліся вырабляць?

Дзед трымаў у руках сякеру, спрабаваў пальцам вастрыню ляза. Зразумела, што ад даўнасці часу, яна перастала мець тыя ваяўнічы якасці.

– Абух, абуховая зброя… Старажытны чалавек як толькі навучыўся выплаўляць жалеза, найперш і зрабіў сабе сякеру. Як зброю, так і памочніцу ў хатніх клопатах. Я магу сцвярджаць, што цывілізацыя і пачалася з вырабу першай сякеры. Калі ёю білі па метале, то яна высякала іскры. Іскры – гэта агонь. А агонь (іскра нябесная) – маланка – падпарадкоўваўся магутнаму богу Перуну. Як ты бачыў на малюнках старажытнасці, Перуна малявалі з сякерай і мячом. Адсюль і нараджаліся міфы і паданні пра Перуна, пра ахоўную магію, людзі нават верылі, што сякера дапамагае ўратаваць ураджай ад засухі і залевы, чалавека можа засцерагчы ад нячыстай сілы…

Я слухаў дзеда і здзіўляўся з яго дасведчанасці, не мог паверыць, што ён каваль. Не, ён не быў кавалём, а прыпадабняўся да волатаў-гісторыкаў з вялікімі званнямі і ўзнагародамі. Ды што ім да каваля, не дацягнуцца, ні абагнаць. Волат дзед, Усёвед, пра ўсё, што спытаеш, адкажа, растлумачыць.

– Акрамя гэтага, Антон, сякера валодала і іншымі ўласцівасцямі, у якія верылі людзі. Яна прымала, упітвала, забірала ў сябе злое і жорсткае, агіднае і горычнае, а пры ўмелым абыходжанні і шанаванні гэтага прадмета, перадавала чалавеку і хатняй жывёле, нават рэчам чалавека, сваю "трываласць і жалезнасць". Сякера не толькі дапамагала па гаспадарцы, але і мела абарончыя ўласцівасці. З ёю абыходзілі статак, кажучы просьбу-заклінанне: "Сякера, сякера, ахавай каровак маіх цяпера!" А калі надараліся эпідэміі на вёскі, чырылі падчас абворвання вёскі па зямлі вакол яе ахоўную рысу, зноў жа прасілі-прыгаворвалі: "Адгарадзі нас, сякерка, ад хваробаў і недаверкаў!" Сякеру клалі нават у першую шлюбную ноч маладым, каб у іх нарадзіўся сынок моцным і здаровым…

– Ты, дзед, мне чытаеш цэлую гісторыю пра наша мінулае.

– Так, і гісторыя багатая, насычаная падзеямі і здарэннямі, войнамі і светлымі старонкамі. Але цяпер мы гаворым толькі пра змаганне, пра веліч нашай радзімы ў мінулым. Ні адзін бой тады не мог абысціся без алебарды. У ёй спалучаліся кап'ё, сякера і крук. Гэта самы папулярны і неабходны від колюча-сякучай дрэўкавай зброі. У Княстве ваяры карысталіся выключна пешыя. Гэтая простая, на першы погляд, зброя прызначалася для сцягвання вершніка з каня. Тады ён рабіўся безабаронным, і меч ці кап'ё алебарды не давалі ворагу ўстаць з зямлі.

Я ўзяў у рукі загадкавую зброю, уявіў, як перада мною ўздыбіўся вершнік на кані, адскочыў убок і ўжо з нечаканага боку ўчапіўся ў ворага, сцягнуў яго на зямлю. Але чамусьці дабіваць не стаў, прыставіў толькі да шыі вастрыё кап'я…

– А гэта, дзед, бярдыш, – узяў я з процілеглай паліцы сякеру з адным лязом у форме маладзіка – яна была прымацавана на доўгім драўляным дрэўку. – Пра яго прачытаў у кнізе па гісторыі. Да нас, у Вялікае Княства, ён прыйшоў са Старажытнага Усходу. Ну і з таго ж пятнаццатага да васямнаццатага стагоддзя выкарыстоўваўся паўсюдна, і ім карысталіся гараджане і сяляне-паўстанцы, гарадская варта і брамнікі. Бярдыш з укарочаным і патоўшчаным дрэўкам выкарыстоўваўся як звычайная сякера, пры дапамозе якой будавалі агароджы ваеннага лагера, пабудоў лясных загародаў і засекаў, завалаў і іншых перашкодаў для ворага. Калі з'явіла-

ся агнястрэльная зброя, то ён спраўна служыў падстаўкай-фаркетам для вядзення стральбы…

Потым каваль пазнаёміў мяне з суліцай – кароткая кідальна-дрэўкавая зброя, накшталт стралы ці дзіды. Дзед паказаў мне наканечнік у дваццаць сантыметраў, а дрэўка дасягала да паўтара метры. Растлумачыў мне, што паміж чатырнаццатым і пятнаццатым стагоддзямі суліца была настолькі неад’емнай і пашыранай зброяй у Вялікім Княстве Літоўскім, што калі распачалася ў 1410 годзе Грунвальдская бітва, дык палякі прынялі крыжацкія войскі за літоўскія атрады, – і яны карысталіся суліцай…

– Ну і апошняе, што ў мяне захоўваецца, – падсумоўваў мой лектар, падыходзячы да апошняй рэліквіі, – гэта піка. Пра яе ўсе ведаюць, нават дзеці. Адносіцца да халоднай зброі, бо гэта разнавіднасць доўгай дзіды. Яна прызначалася ў асноўным для таго, каб прабіць наскрозь металічныя даспехі ворага. Піка, трэба адзначыць, са старажытных часоў была на ўзбраенні пяхоты і кавалерыі. Пікамі, можна сказаць, і здабылі ваяры перамогу на палях Грунвальдскай бітвы. Ды будзе табе вядома, кавалерысты Чырвонай арміі выкарыстоўвалі пікі аж да 1930 года…

Мы адышлі ад арсенала, каваль зноў прыкрыў драўляным шчытом закуток, і яго не магло ўжо ўбачыць чужое вока – усё злілося, ператварылася ў шэрую сцяну. Дзед Міхась нікому не дазваляў ступаць далей пляцоўкі ля парога, там “вёў прыём” вяскоўцаў, калі хто прыходзіў да яго з якой просьбай.

– Як ідзе вучоба, Антон?

– Ды нічога, не ў выдатніках, але і не ў апошніх. Шмат задаюць вучыць, але яно не супадае з маімі думкамі. Шмат хлусні ў падручніках пра гісторыю нашага краю, аднабока ўсё. Усё падагнана пад расейскі бок, з іх вежы ўсе правіцелі-каты апраўданы і ўзведзены ў ранг амаль што святых.

– Добра, што разумееш тое, – каваль падышоў да горна, крануў жэрдку, апусціў яе, каб праверыць, ці не згас агеньчык на камінку. – Таму табе цяжка прыйдзецца і ў вучобе, і жыцці.

– Ведаю, дзед Міхась. І ведаю нават, што мяне чакае наперадзе. Але раз, абраўшы дарогу, не звярну з яе ніколі.

– Рады за цябе, – хітнуў галавой у знак згоды каваль, – таму і хачу, каб ты выстаяў, выцерпеў усё, Бог табе ў гэтым дапаможа.

Выходзіў я з дзедавай кузні акрыленым, упэўненым у сабе, узрадаваны яго падтрымкай. А яго дабраслаўленне для мяне было найважнейшым у маім жыцці, бо я верыў яму, як верыў яго мудрасці і дасведчанасці: “Значыць, я іду правільным кірункам, абранай дарогай, якая не гладкая і роўная, а з перашкодамі і бар’ерамі, шыпамі і калючкамі, праз якія прадзі-

рацца трэба з вялікай настойлівасцю і ўпартасцю. Таму будуць і гузакі на ілбе, раны на целе, але душу сваю зберагу чыстай і незаплямленай. Калі мяне мой дзед дабраславіў, то атрымаю дабраслаўленне і ад Вышняга".

Атрымлівалася так: дзед Міхась загадкавы чалавек. Калі ён знаходзіцца ў кузні, то ператвараецца зусім у іншага чалавека. Тады ён, не мяняючы аблічча, можа стаць і выкладчыкам, аперыруючы высокімі катэгорыямі навукі, і чараўніком, дэманструючы на маіх вачах дзівосы і цуды, і ўладаром падзямелля… Спытаешся ў яго пра што заўгодна, і ён адкажа, не задумваючыся. У ім зніталваліся ўсе навукі і веды. Ён аднолькава ведаў гісторыю і фізіку, астраномію і геалогію, хімію і археалогію. І ў яго вачах заўсёды гарэла таямнічае святло, якое пранізвала суразмоўцу, высвечвала ў ім тыя грані, пра якія ніхто да гэтага не ведаў… Ніколі не пытаўся пра такую метамарфозу пераўвасаблення, для мяне яно выглядала натуральна і звыкла.

Калі ж дзед пакідаў кузню, то, адразу ж, пераступіўшы яе парог, рабіўся тым звычайным і простым чалавекам, да якога прывыклі крушнічане, бачылі ў ім свайго цікавага аднавяскоўца. Але, праўда, не звычайнага крушнічаніна, а які адрозніваўся ад астатніх людзей. Але тое адрозненне не выпірала вонкі.

Ён мог лячыць людзей нейкімі сваімі сродкамі, нешта мог параіць не рабіць альбо прыслухацца да свайго сэрца. Дык такіх людзей у кожнай вёсцы можна было сустрэць.

Таму для крушнічанаў каваль быў асобай незвычайнай, неардынарнай, і не больш за тое. Больш нічога не кідалася ў вочы. Адно – мудрасць яго і разважлівасць.

Увушшу звінела бадзёрая прыпеўка, якую пачуў некалі на фальклорным свяце:

Кавалёк-кавалёк,
Падаруй мне вугалёк, –
Я агеньчык распалю,
І скажу: цябе люблю!

Невядомы гарманіст на сваім гармоніку выкідваў такія каленцы, што хацелася кінуцца ў скокі».

## 12

Вераніка, падаўшы шніцаль і глянуўшы на мяне, бліснула белазубай усмешкай, прамовіла:

– А даўнавата вас не было, здарылася што?

Я здзівіўся, падумаў, што, значыць, прыкмеціла мяне, запомніла, адказаў:

– Ды не, нічога не здарылася. Дадому ездзіў у вёску. А там бацькам памагаў па гаспадарцы. Вакацыі ў нас, вучобы не было.

– Вучыцеся? Студэнт?

– Так. Гісторыкам хачу быць.

– Зразумела. Смачна есці! Вам што падаць? – звярнулася яна ўжо да дзяўчыны, што стаяла ў чарзе за мной.

І на гэтым размова скончылася.

Адышоў ад амбразуры, на якой стаялі сподкі і міскі, пайшоў да касіркі. Тая, не гледзячы на мяне, а на паднос са стравамі, хутка падлічыла, колькі мне трэба было заплаціць за абед. Грошы я трымаў напагатове, таму выклаў адразу рублі ў пластмасавы сподак, забраў рэшту.

Выбраў стол у самым кутку, адвярнуўшыся нават ад чаргі, якую абслугоўвала Вераніка. Жаваў без смаку, абдумваючы свае далейшыя дзеянні. За квадратным сталом сядзеў адзін, ніхто мне не замінаў, не прыставаў з пытаннямі. Тое мяне радавала. Але калі амаль даеў шніцэль з бульбай, нехта падсеў да мяне. Я нават не падымаў вачэй, так унурыўся, быў заняты сваімі думкамі.

– Ці смачна кормяць пана студэнта ў нашай сталоўцы?

Пытанне прагучала амаль жартоўна, і дзявочы голас падаўся знаёмым. Калі адарваў позірк ад талерак з ядой, зірнуў на… Перада мной сядзела Вераніка, усміхалася. І была яна не ў белым халаце, як абслугоўвала наведвальнікаў, а ў белым шарсцяным світарку, косы рассыпаліся па плячах. Доўгія косы, шыкоўныя. У вачах усмешка, у куточках вуснаў хітрынка, глядзіць весела на мяне, чакае адказу.

Я дажаваў тое, што паклаў у рот, здзіўлена глядзеў на Вераніку. Праглынуў, запіў кампотам.

– Калі прыходжу часта сюды, то гэта азначае, што вашыя стравы мне даспадобы. Але ж іх гатуеш не ты, ты толькі раздаеш.

– Так.

– І стравы смачныя, Вераніка, і жыву я тут непадалёку – у інтэрнаце, – растлумачыў дзяўчыне, чаму я ў іх сталы наведвальнік. – А ў цябе перапынак ці проста адлучылася?

– Ты ведаеш, як мяне завуць? – без асаблівага здзіўлення пацікавілася яна.

– Усе клічуць цябе да тэлефона, гучна называюць тваё імя, дык хіба яго цяжка запомніць? Хто ж табе так часта звоніць, адрывае ад працы?

Дапіў кампот, адставіў шклянку ўбок.

– Ды ці мала хто звоніць – і сяброўкі, і сябры, і проста знаёмыя. Ты ведаеш, як мяне завуць, а сам не назваўся.

– Сапраўды, Вераніка. Ахламон я некультурны. Антон я, Антон Клімовіч. З Мазыршчыны. А вучуся ва ўніверсітэце – на гістарычным факультэце.

– І я на гістарычным, – сцепанула яна плечуком, – толькі на завочным аддзяленні. А сама я з Турава, каля Прыпяці мая вёска, на прытоку яе знаходзіцца – на Мастве. Закахалася ў Тураўшчыну, вось і хачу даследаваць свой край, а для гэтага веды трэба. Вось і паступіла на гістфак. З першага разу не прайшла на стацыянар, тады я вырашыла ісці на завочнае. Працы не знайшла, дык я сюды падалася. Тут мая родзічка працуе, вось і параіла мне ісці да яе на працу.

– Ну і як – падабаецца?

– Праца як праца. Не перагружаюся, дзень адпрацавала, дзень вольная. Тое, што мне трэба.

Мы сядзелі насупраць адно аднаго, нязмушана размаўлялі, і ў мяне стварылася ўражанне, што мы даўно знаёмы, што бачыліся не раз, сустракаліся.

– Дык цяпер ты вольная, Вераніка?

– Вольная.

– А жывеш дзе?

– У родзічкі і жыву. Другі год ужо. А працаваць тут стала зусім нядаўна. А ты чым цяпер заняты?

– Анічым, вольны.

Вераніка накінула на сябе тонкі светла-карычневы плашчык, прышчапіла на патыліцы косы, каб не матляліся, і мы выйшлі на вуліцу.

Дзень стаяў пагодлівы, свяціла сонца. Зрэдзь пад нагамі шамацела першае апалае лісце, а мы бязмэтна ішлі па скверы, перакідваліся словамі, смяяліся з нечага, дурэлі, і адчулі абодва, што нашыя душы прынялі адно аднаго, што нам добра ісці вось так па асенняй вуліцы, што ў нас нічога яшчэ не нараджалася, але магло нарадзіцца…

Мы пра тое не задумваліся, а радаваліся, што сустрэліся па-зямляцку, што Мазыр ад Турава знаходзіцца на дзесяці адлегласці палёту стралы, і што мы «хворыя» на смагу дакопвацца да старонак гісторыі сівых гадоў,

і што нашыя дарогі супадаюць, і што аднолькава на ёй нам сустрэнуцца і радасныя хвіліны адкрыцця, і горкія хвіліны расчаравання. Верыў, што і думкі нашыя супадалі ў той момант, як мы ішлі і таптали пажоўклае лісце…

– Я нешта спрабую пісаць, але саромеюся паказваць каму, каб не паднялі на смех, – прызналася дзяўчына, прысела, падняла некалькі кляновых лістоў, якія яшчэ не паспелі зжоўкнуць, склала з іх букет.

– А мне пакажаш?

– Табе? – выпрамілася, пільна паглядзела мне ў вочы. – Не ведаю, чаму, але табе паказала б. Калі ты, Антон, не будзеш вельмі здзекавацца з мяне, і не навядзеш злосную крытыку.

– Вераніка, для чаго я магу навесці, як ты кажаш, крытыку? Прачытаю, разам і абмяркуем напісанае. А што не спадабаецца, разам і разбяром. Толькі не ведаю, ці дам я табе кваліфікаваную рэцэнзію.

– А мне і не трэба кваліфікаваная, мне трэба, каб хто толькі прачытаў і сказаў, ці ёсць што карыснае ў напісаным. Гэта мае першыя спробы, таму і не судзі мяне строга, Антон.

– Абяцаю, Вераніка, што праяўлю лагоднасць і лаяльнасць.

Яна паднесла букет да твару, прамовіла:

– Дзякуй, Антон. Тады я згодна падзяліцца тым, што ў мяне на душы. Як-небудзь пакажу. Хочацца яшчэ раз усё перагледзець, паправіць, пачысціць. А калі ўбачымся, не ведаю. Мо праз месяц. Мо праз два.

Я пагадзіўся. І нават не спытаў, дзе сустрэнемся, зразумела, тады, калі прыйду абедаць у сталоўку. У нейкі выхадны дзень, калі нашая ўніверсітэцкая ядальня не працуе.

Развіталіся пад вечар. Ёй трэ было ехаць на ўскраіну Менска. Недзе на вуліцу Пушкіна, дзе жыла яе родзічка. Не пытаўся ў яе больш ні пра што, не хацелася паказацца прыставалай, хапіла і таго, што думалі мы абодва аднолькава: калі наканавана сустрэцца, то Бог і наладзіць нам тую сустрэчу.

– Бывай! – падала руку.

– Будзьма! – адказаў тым жа спакойным тонам, пацісну́ўшы злёгку яе далонню, адчуў гарачыню і цвёрдасць – не ў цяпле песціліся яе рукі, зведалі рознай сялянскай працы.

Падышоў аўтобус. Яна спружыніста ступіла на першую прыступку, паднялася вышэй і стала ззаду салона каля шкла. Калі ад’язджаў аўтобус, убачыў, як яна скрозь шкло глядзела на мяне. На развітанне памахала мне рукой.

Я памахаў у адказ…

## 13

У прызначаны час прыехаў у вёску аўтобус.

Мы вынеслі ў двор ваенную амуніцыю, кораб з маімі даспехамі. Прыехаў толькі адзін Лявон Муштэнка. Я пазнаёміў яго з дзедам, паказаў, якія ён адмысловыя рэчы выкоўвае і вырабляе. Лявон трымаў у руках то адну рэч, то другую, цокаў ад здзіўлення языком, нахвальваў:

– Ім месца ў музеях, а не тут, у глухім месцы!

– Адкуль ты ўзяў, што тут глухое месца? Можа, тут пуп зямлі.

– Не спрачаюся, – не адрываўся позіркам ад бліскучай паліцы, – я працую з металам, ведаю шмат таямніцаў, але тут… Тут нешта іншае, такой апрацоўкі нідзе не сустракаў. Яна можа была гадоў чатырыста-пяцьсот назад. Мо раскрыеце тайну, Міхась Дзям'янавіч?

Каваль хмыкнуў, крутануў плячом, зірнуў у вочы госцю:

– Раскрыю. Тут аніякай тайны няма. Але ёсць маленькі-маленькі сакрэцік. Прыедзеш у наступны раз, пагаворым.

Лявон заківаў сцвярджальна галавой:

– Прыеду. Абавязкова.

Мы адразу ж і паехалі. Дзед стаяў на парозе, праводзіў нас.

Здаецца, ён наўздагон наклаў на нас у паветры крыж, пажадаў нам не толькі добрай дарогі, а і плёну ў тым дзействе, якое задумалі.

Прыехалі ў Гомель пад вечар. У прасторным двары Лявонавага селішча хлопцы, апранутыя ў даспехі, махалі мячамі і пікамі, размахвалі булавой і дзідамі, – трэніраваліся. Праз два дні яны павінны прыбыць на Крапівенскае поле і паказаць сваё майстэрства і спрыт. Яны часта з'язджалі ў лес, выбіралі спрыяльную для бою мясціну і да сотага поту змагаліся адзін з адным. І тыя баі былі нялёгкія, не абыходзілася без крыві, праўда, лёгкай, але як інакш навучыцца змагацца з праціўнікам, як вывучыць тактыку бою, асвоіць прыёмы рукапашнай і збройнай барацьбы…

– Крыжак ззаду! – засцерагае камандзір групы і ваяр тут жа абарочваецца і выстаўляе перад сабою меч і дзіду: падступіся, вораг, наткнешся на вастрыё дзіды ці лязо мяча… – Стаць у абарону!

Я залюбаваўся дзействам, ніколі не бачыў на свае вочы амаль сапраўдны бой. Бачыў, праўда, на здымачных пляцоўкай, калі замест акцёраў змагаліся прафесіяналы бою – дублёр, але і іх здымалі дублямі, буйным планам узмах мяча, і то пераздымалі па некалькі разоў адно і тое ж. А тут… Тут ні кінакамеры, ні дублёраў, ні дубляў, усё ў жывую, адзін толькі раз, і без «паддаўкоў», без паказнога імпэту…

Звіняць дзіды, звіняць мячы, пагрозліва бразгаюць аб металічныя даспехі сякеры і паліцы; хлопцы ўвайшлі ў азарт, мусіць, забыўшыся, што яны не на сапраўдным полі бою, а ўсяго толькі ў сяброўскім змаганні.

– Досыць! – падае гучна каманду ўжо Лявон. – Пераапрануцца, памыцца, і праз гадзіну будзем вячэраць.

Калі скінулі з сябе даспехі, убачылі, усе мокрыя і стомленыя, ледзьве пераводзяць дух, але ўсміхаюцца задаволеныя і радасныя: рэпетыцыя ўдалася, пакрысе прыходзіць да іх майстэрства.

Потым кожны з іх падыходзіць да мяне, вітаецца за руку, называе сваё імя:

– Алесь я – Куцэнка, па мянушцы Артыст.

– Ваяр іншаземнага легіёна Алег Цітарэнка, – падае руку наступны, і рука ў яго жалезная, і сам увесь спружыністы, цела налітае сілай.

– Павел Карповіч…

– Валодзя Абухаў…

– А я – Віця Зайцаў.

Адарваўшыся ад размовы з Муштэнкам, падышоў невысокага росту, каржакаваты хлапец, у яго звісалі вусы на ўкраінскі манер.

– Толік Сікорскі, нашчадак таго Сікорскага, які праславіўся як выдатны вынаходнік лятальных апаратаў…

Два дні і дзве ночы мы жылі ў Лявона. Месца хапіла ўсім, харомы ў яго адменныя – сам узводзіў сцены па сваім праекце, сам рабіў мэблю – ложкі, крэслы, канапы… Сам вырабляў ваенныя прылады – арбалеты, сякеры, нажы, шчыты з выявай «Пагоні», шыў бел-чырвона-белыя штандары і прымацоўваў іх на доўгія дрэўкі…

І сярод ночы, каб раніцай прыехаць на месца, выправіліся мы ў дарогу. Амаль палову аўтобуса заняў груз з амуніцыяй.

На ўзлеску выпаўз з кустоўя густы туман, пачаў распаўзацца па прасторным полі, па ўзбярэжжы ракі Крапівенкі. Далей ён пачаў расцякацца і нізка слацца па зямлі да самай вёскі Гацькаўшчына. Мы прыехалі амаль першымі.

Калі сабраліся амаль усе прадстаўнікі раёнаў і абласцей, мы хросным ходам пайшлі ў царкву Аляксандра Неўскага, што знаходзілася ў вёсцы Крапіўна. Святар адслужыў літургію, успомніў тых, хто загінуў у смяротным баі пад вёскай.

Храм не новы, а адбудаваны нанова, бо стары, узведзены паўтысячы гадоў таму ў гонар пераможнай бітвы пад Оршай. Мы ж цяпер убачылі рэшткі яе – пацвілыя камяні падмуркаў.

Тым часам уніяцкая суполка малілася за тых, хто аддаў жыцці за свабоду краіны пад Воршай у аршанскім касцёле святога Язэпа.

Потым мы ўсклалі кветкі да помніка-каменя, на якім высечаны словы «Вечная слава героям Аршанскай перамогі». А хлопцы, што прыехалі з Магілёва, пасадзілі каля валуна прыгожыя вялікія рамонкі.

І тым жа хросным ходам мы ўсе падняліся на ўзгорак. На самым высокім месцы ўзгорка ўстаноўлены драўляны высокі крыж як памяць пра памятную бітву. Не адна сотня суайчыннікаў палегла тут ў баі. І ў памяць пра іх мы ўзнялі ў неба не адну сотню бел-чырвона-белых палотнішчаў. Уражанне – незабыўнае, да гучнага стукату ў грудзях усхваляваных сэрцаў.

– Людзі, услухайцеся! – пачуўся голас Алеся Пушкіна. – Памаўчым, і мы нешта пачуем.

Сапраўды, мы пачулі тупаценне конскіх капытоў, потым зазвінелі мячы і дзіды, нейкія крыкі і стогны. Мы моўчкі пераглядаліся між сабой, не верылі ў такую фантасмагорыю і прывід, не маглі паверыць, што ў нашыя душы пастукалася шаснаццатае стагоддзе і менавіта той дзень, калі тут разгарэлася бітва… Ваяры нагадвалі нам пра сябе, пра той час, пра свае подзвігі, як быццам казалі нам: «Беражыце Радзіму, не аддавайце яе на здзек чужынцам!..»

Галасныя воклічы паляцелі па прасторах Аршаншчыны:

– Жыве Беларусь! Жыве Беларусь! Жыве Беларусь!..

А потым… А потым… Наверсе гары засталіся тыя, хто хацеў пабачыць змаганне вояў вялікага гетмана Канстанціна Астрожскага з маскоўскім войскам. А мы спусціліся ўніз, у даліну, на роўнае поле. Размясціліся лагеры маскоўскага войска і Вялікага Княства Літоўскага на значнай адлегласці.

Маскоўцы апрануліся ў строі і даспехі таго часу, як і вялікага гетмана Астрожскага. Дзіўна, але рыхтаваліся да бою расейскія харугвы Смаленшчыны. Суполка беларусаў «Радзіма» стала на гэты час «ворагамі» велікакняжацкіх фарміраванняў, стала тымі ваярамі, якія стаялі пад харугвамі расейскага цара… З вялікай ахвотай прынялі ўдзел у «гістарычным змаганні»… Бо гэта і не змаганне было насамрэч, а просты экскурс у гісторыю. Тым больш, што смаленская зямля належала Вялікаму Княству Літоўскаму…

Перад тым, як выправіцца ў дарогу на Крапівенскае поле, я па вечарах заглядаў у галоўную бібліятэку краіны, шукаў звесткі, што тычыліся Смаленска. І вось што мне ўдалося адшукаць:

«Смаленск з 1404 да 1514 год уваходзіў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Смаленскія палкі разам з польскімі і літоўскімі войскамі

прымалі непасрэдны ўдзел у Грунвальдскай бітве 1410 года супраць Тэўтонскага ордэна. Перад смалянамі стаяла, акрамя галоўнай мэты, задача вяртання ў склад Маскоўскай дзяржавы. Ім удалося вясной 1440 года прагнаць літоўскіх стаўленнікаў, але ў наступным годзе літоўскаму князю ўдалося вярнуць горад, падпарадкаваць яго. Але праз нейкі час, а менавіта ў 1514 годзе, зноў узяты маскоўцамі. Гэта ўдалося падчас некалькіх паходаў расейскіх войскаў, якія працягваліся на працягу амаль пятнаццаці гадоў. Васіль III, узяўшы Смаленск, каб паказаць народу, што ён "цар добры", дараваў, дакладней, захаваў купцам прывілеі, якія ўстанавілі літоўскія князі.

А канец чатырнаццатага стагоддзя для Смаленскага княства стаў вельмі складаным, яно аказалася ў вельмі цяжкім становішчы. Доўгія міжусобіцы, якія пачаліся яшчэ з часу распаду Кіеўскай Русі, разам з імі эпідэміі, якія спустошвалі людскія і матэрыяльныя рэсурсы, нанеслі непапраўную шкоду смаленскай зямлі. Край ужо не мог гарантаваць сваю незалежнасць, і было ўжо зразумела, што позна ці рана іх зваююць дзяржавы, якія імкліва набіралі сілу – ці то Літоўская, ці Маскоўская…

Не сілай, а хітрасцю. Так вырашыў дзейнічаць Вялікі князь Літвы Вітаўт. Ён пусціў усе хітраспляценні і абяцанні, каб толькі падпарадкаваць сабе Смаленск, які не даваў спакою яго апантанай натуры.

У 1395 годзе напрыканцы верасня адправіў на княжанне Глеба Святаслававіча ў горад Палоннае, што знаходзіўся ў Літве. А ў Смаленск накіраваў свайго намесніка – князя Яманта. Здавалася б, усё атрымалася. Вітаўт супакоіўся, здаволіўшы свой амбіцыйны сверб. Нават спакойна і ўпэўнена адправіўся праз чатыры гады, у жніўні, у самую спякоту, на бітву з татара-мангольскім войскам. Яго асабісты "чытальнік зорак" Артанон запэўніў Вітаўта, што перамога будзе належаць яму, ды і Глеб Святаслававіч падтрымаў Вітаўта, сказаў, што яго воі "касцямі лягуць", а здабудуць перамогу. Ніхто не ведаў, чаму Глеб так быў упэўнены ў сабе.

Сышліся на рэчцы Ворскле. Памыліўся з зоркамі параднік, не адчуў небяспеку з боку ворага і Глеб Святаслававіч: параза напаткала вояў Вітаўта ў першыя хвіліны бою. Загінуў Глеб, засталіся ляжаць вечна на полі і другія рускія князі. Скарыстаўшы паразу Вітаўта, Юры Святаслававіч сабраў войска, узброіў яго, і ў 1401 годзе лёгка вярнуў Смаленск. Вітаўт не мог сцярпець абразу і паразу, прыкладаў усе намаганні, каб захапіць горад, – штурмавалі яго не адзін раз, кідалі новыя і новыя сілы, нават артылерыю прымянілі для дасягнення мэты, але беспаспяхова – удача адвярнулася ад яго. Ён ужо болей не ўзгадняў свае рашэнні з зоркамі, рашыў даверыцца сваёй інтуіцыі.

Наступіла зацішша. Стаміліся ад вайны і літоўцы, і смаленчукі. Але аб перамір'і не магло быць і размовы. Даведаўшыся, што Юры Святаслававіч тайна выправіўся ў Маскву прасіць дапамогі (былі ў Вітаўта тайныя даносчыкі ў лагеры праціўніка), папрасіўшы заступніцтва ў Вышняга, а не ў зорак, Вітаўт прыняў сваё рашэнне, сказаўшы сам сабе: "Альбо цяпер, альбо ніколі!" Той жа даносчык паведаміў і другую навіну: Масква адмовіла ў дапамозе, пакрыўдзіўшыся.

1404 год прынёс поспех Вітаўту. Нечакана, сярод ночы, нанёс сакрушальны ўдар па Смаленску. Юры яшчэ здалёк убачыў, як гарыць горад, і ўсё зразумеў, загадаў павярнуць коней назад…

Запабягаючы наперад, гісторыя распарадзілася так, што Смаленск на стагоддзе і дзесяць гадоў яшчэ знаходзіўся пад уладай князёў Вялікага Княства Літоўскага. І не было ўжо вялікага змагання, калі да смаленскай зямлі далучылі Вяземскае княства, якое было захоплена літвінамі яшчэ аж у 1359 годзе. Далучылі і Тарапецкую акругу і шэраг асобных уладанняў з цэнтрамі ў гарадах Адоеўск, Варатынск, Масальск, Мязэцк і Перамышль. І Вітаўт не хацеў, каб у памяці людзей ён застаўся жорсткім і няшчадным заваёўнікам: праявіў міласэрнасць у адносінах да непакорных смаленчукоў, не стаў іх караць за супраціў, наадварот, увёў у Смаленску магдэбургскае права, што давала гораду шэраг ільготаў і прывілеяў, паслабленняў пры выплаце падаткаў.

Ды не толькі з гэтых прычынаў ён так адносіўся да смаленчукоў.

Жонка Вітаўта – Ганна – з'яўлялася дачкой князя Святаслава Іванавіча. Ды зноў жа – не гэта галоўная прычына, а іншая: некалі, шмат гадоў таму, дзве жанчыны са Смаленска вырвалі яго з лап смерці. Ці мог ён праявіць жорсткасць да людзей гэтага краю? Безумоўна, не…»

Мы разам з воямі Лявона Муштэнкі стварылі асобны атрад, «падпарадкаваны» непасрэдна вялікаму гетману, кіраўніку змагання. Ужо і Канстанцінам Астрожскім нехта стаў, і нам не пазнаць, хто з нашых адраджэнцаў надзеў на сябе яго вайсковую амуніцыю. А мо ён і сапраўды ператварыўся ў адважнага воіна і мудрага стратэга?

– О, як ты файна выглядаеш! – усклікнула нейкая дзяўчына, што стаяла непадалёк ад мяне.

Дык гэта ж Вераніка! І яна, аказваецца, тут! Разам з усімі прыехала?

– Вераніка?! Ты ж не казала, што будзеш тут.

– А ты і не пытаўся! – адпарыравала дзяўчына, какетліва дзерганула плечуком, засмяялася.

Яна была ў іншым адзенні, на галаве хусцінка, канцы якой завязаны на шыі – для зручнасці? З заплечнікам, у кедах, як спартсменка якая. Сярод іншых і не пазнаў бы яе, так перамяніла знешні выгляд.

Затрубіў горан, нас паклікалі да бітвы.
– Выбачай, – усміхнуўся я, – шыхтавацца трэба.
– Выбачаю, Антон! Толькі вярніся з перамогай, добра?
– Абяцаю!
Яна не засталася на месцы, а спрытна паднялася вышэй на ўзгорак – да сваіх сяброўак, ужо адтуль махала мне рукой. Разам з ёю махалі мне бел-чырвона-белымі сцяжкамі і яе сяброўкі.
І пачалося…
Рынуліся наперад вoі з дзідамі і мячамі, суліцамі і бердышамі… Праз момант пачуўся лязгат металу, пагрозлівыя крыкі і воклічы, яны перакатваліся з месца на месца, быццам грамавыя перакаты на небе; вoі ўрэзаліся ў гушчу праціўніка, акуратна і дакладна збівалі «ворага» з ног…
Мы не чулі, як на ўзвышшы, гледзячы на нас, гледачы пляскалі ў далоні. Подых часу і ветру даляцеў да іх, абвалок кожнага сваімі пялюшкамі, прымусіў задумацца над тым часам, які ўпісаў у кнігу памяці свае светлыя старонкі. Гонар і павага ахапілі кожнага, і ўся грамада суправаджала наш бой воклічамі:
– Жыве Беларусь! Слава вялікаму гетману Астрожскаму! Жыве Беларусь!
– Вайсковай славе – жыць вечна!
– Жыве Беларусь!..
Толькі пад вечар скончылася вялікая бітва.
Пераможцы і пераможаныя пасля ўсяго «брataліся», абдымалі адзін аднаго ў радасным парыве і ганарыліся, радаваліся, што наладзілі такое відовішча, што яно застанецца ў памяці гледачоў.
Мо і мала іх было, тых, хтоназіраў за намі, але здымалі нас на відэакамеры, каб потым паказаць людзям, што адбывалася на Крапівенскім полі, каб паболей люду ўцягнуць у гэта, і ўсё для таго, каб дастукацца да кожнага сэрца, абудзіць павагу і гонар да айчыннай гісторыі. Бо яна багатая і разнастайная, мо і нашмат багацейшая за гісторыю ўсходняга суседа, які ўсё жыццё набіваўся нам «у родзічы» – хацеў кроўю і сілаю скарыць нас, падмяць пад сябе і потым казаць, што гэта мы самі стараліся «аб’яднацца» з імі…
Скінуўшы з сябе вайсковую амуніцыю, склаўшы ўсе прылады ў скрыню, пераапрануўшыся ў цывільнае, пашукаў поглядам Вераніку. Нават падняўся на ўзгорак – яе не было. А думаў жа, што яна сама падыдзе да мяне, нешта скажа, парадуецца разам са мною цікаваму дню… Не ўбачыў ні яе, ні яе сяброўак. «Мо не было калі сустрэцца са мною? Мо спяшалася на аўтобус, які прывёз іх на Крапівенскае поле, а мо што іншае…»

Калі выехалі на асфальтаванку, нас змарыла стома. І мы, прыхінуўшыся адзін да аднаго, здаецца, задрамалі. І сніўся нам бой у чыстым полі, і ў вушах стаяў лязгат зброі, крыкі вершнікаў, якіх сцягвалі баграмі з сядла літвінскія пехацінцы…

Мне ж чуўся голас тураўчанкі, якая перад боем пажадала нам перамогі.

**14**

Мы спускаліся з Ігнатам, маім гідам па Сусвеце, па лесвіцы, якую нельга было ўбачыць.

Каваль, апошні раз выдзьмухнуўшы паветра на белы агонь, павярнуўся да нас, усклікнуў:

– З вяртаннем вас на родную зямлю! Як гасцявалася, панове? – дзед гаварыў у сваёй манеры – жартаваў, ішоў ужо да свайго крэсла, адарваўся ад працы.

– У гасцях добра, але дома куды лепш! – адказаў яму Ігнат. – Ці не так, спадар Антон?

– Так, так, нагасцяваліся мы ўволю. А табе прывітанне ад тваіх братоў па агні – Дзям’яна і Кузьмы.

– Дзякую, дзякую, як яны там?

– Куюць жалеза, пакуль белае. Падковы для коней выкоўваюць, ды ўсё залатыя, якія ніколі не сціраюцца.

– О, гэта яны ўмеюць, чую штодзённа, як яны б’юць цяжкім молатам па кавадлу.

Гаворка працягваецца, а мы ўсё спускаемся і спускаемся. Ногі ўпіраюцца ў прыступкі, а саміх прыступак і не відаць. Нябесная лесвіца. Але мы ідзем па ёй упэўнена, быццам ведаем, куды трэба ступіць назе.

Мы зноў займаем свае месцы за сталом,наліваем у кубкі гарбату, абдымаем іх далонямі, быццам грэемся, быццам змерзлі, лётаючы па арбітах сусвету. Але цяпло прыемнае, зямное цяпло, якое пераліваецца ў нашае цела, саграваe не толькі сэрца, а і душу. Пах багуну і ядлоўцу расцякаецца па кузні. Ад асалоды мы прымружваем вочы, удыхаем жыватворны пах.

Чуем, як каваль усаджваецца на сваё месца, крэсла ледзь чутна рыпнула і сціхла. Ведаем, што гаспадар кузні глядзіць на нас, радуецца, чакае, калі мы апрытомнеем, калі скінем з сябе рэшткі падарожжа, калі пазбавімся інерцыі палёту, калі канчаткова прыме нас у свае абдымкі і прылашчыць сваёй пяшчотай кузня. Мы быццам спусціліся на бераг з карабля, які ўвесь час гайдала на высокіх хвалях, і ў нас закружыліся галовы, нават падступала млосць, а цяпер нас яшчэ водзіць з боку ў бок, быццам

мы не можам забыць гайданне пасудзіны на хвалях і стараемся знайсці раўнавагу, пазбавіцца непрыемнага адчування знаходжання на караблі…

Ды не, не было ў нас такога адчування, нам жадалася перайсці са стану «добра» у стан «вельмі добра». Быццам невялікая розніца, але яна нам была неабходная і патрэбная. Невялічкае здранцвенне прападала, на змену яму у нас усялялася добры настрой, упэўненасць і жаданне нешта рабіць, дзейнічаць, але не сядзець на месцы. Незразумелы спакойна-ураўнаважаны стан, зямная бязважкасць. Быццам нябачны гіпнатызёр шаптаў нам на вуха: «Вам добра, вам вельмі добра. Вы знаходзіцеся на беразе вялізнага акіяна, вы ляжыце на цёплым пяску, а да вашых ног падкатваецца лёгкая і цёплая хваля. Прыемная цеплыня расплываецца па ўсім вашым целе, і вы ўзлятаеце ў паветра, не мяняеце сваёй паставы, на мяккіх падушках-воблаках вы плывяце і плывяце ў бязважкасці, вы лёгкія, як пушынкі, і слабы подых ветру нясе вас некуды ў зялёныя нетрыскі, дзе чуваць шчабятанне птушак, і вас ахоўвае сон зямлі. Вы ніхто ў сусвеце, але вы адчуваеце, што вам вельмі хораша і прыемна плыць паміж небам і зямлёю… Вы…»

Шэпт працягваўся, здымаў з нас рэшткі адчування ўзнёсласці і разумення саміх сябе. Гэта была ўжо касматэрапія, наталення нашых сасудаў невядомай да гэтага энергіяй, якая распаўсюджваецца на ўсіх людзей, але не ўсе яе могуць прымаць, бо не ведаюць, калі яна пасылаецца Вышнім Лекарам на зямлю, у які час сутак, і пасля якой малітвы да Бога яна аказвае цудадзейны ўплыў на душы людзей. Чалавек лянівы і не задумваецца над тым, калі ён здаровы, а калі ахопліваюць яго хваробы, адумваецца і хоча пачуць параду ад Бога, ды вушы яго чамусьці не чуюць, вочы чамусьці не бачаць перад сабою Таго, хто стварыў Сусвет, стварыў чалавека моцнага і паслухмянага Яго волі.

Такія думкі прыходзілі да мяне, калі я грэўся кубкам гарбаты, а то і не гарбата была зусім, а нябесны эліксір, настоены на гуках і пахах, на мелодыі космасу і шэпце дрэў і траў, на спевах птушак і посвісту вятроў, на патаемнай музыцы зямлі. Такі напой падрыхтаваў для нас чараўнік і уладар агню Міхась, Богам абраны каваль і казачнік, гісторык і выкладчык, загадкавы і цікавы чалавек.

– Нагуляліся, панове? – выводзіць нас каваль з таго дрымотліва-мройнага стану, ведаючы, што мы прыйшлі ў норму, што маўчаць нам больш нельга, бо яно, маўчанне, зацягнулася. – Вы мне зорак, выпадкова, не назбіралі? Бо ў мяне метал заканчваецца, а з зорак я вырабіў бы такія шыкоўныя рэчы. Ці зоркі гэта не метал?

Мы маўчым, не адказваем. Нам шкада развітвацца з тым станам, у якім мы знаходзіліся. Наш карабель мройнасці і спакою ляжаў у дрэйфе, ніводная хваля не кранулася борта карабля, не калыхнуўся ад выпадковага ветру сцяжок на дрэўку. Поўны штыль, поўная бязгучнасць і звонкая цішыня. І таму голас дзеда Міхася прагучаў аддалена і ціха, як быццам зорка праляцела паўз нас, і пачуўся яе ўздых.

У стане нашага спакою быў не космас вінаваты, не бязважкасць, якую мы пераадолелі, ні перагрузкі, а зусім іншае. Той стан быў падобны да дрымотнасці, калі і не спіш, і не адданы бадзёрасці, але ніяк не хочацца, каб цябе выводзілі ў іншую плоскасць. То, мусіць, была простая лянота і бяздзейнасць…

Першым ставіць кубак на стол Ігнат, адрывае ад яго далоні, адказвае:

– Мы маглі табе назбіраць процьму зорак, Міхась Дзям'янавіч, але яны такія прыгожыя, як жывыя, яны як светлячкі ў лесе, як святлафоры ў горадзе, указвалі нам шлях нашага падарожжа. Мы, калі выправімся ў наступнае падарожжа, метэарыт зловім, які ляціць у бок зямлі, ды не просты метэарыт, а з чыстага золата. Яны адрываюцца ад Залатой планеты і кіруюцца да нас. Хочаш вырабляць свае цуды з золата?

Каваль падумаў, адказаў:

– Не, золата мне трэба. Праблемы будуць з-за яго. Калі даведаюцца, што я нават пярсцёнак залаты адштукую, то не адаб'юся я ад прадстаўнікоў улады, міліцыі і пракуратуры, бандытаў і зладзеяў. Навошта мне такі клопат.

– А і хітры ты, дзед! – устаўляю я і сваё меркаванне, падтрымліваючы вясёлую балбатню, якая называлася разрадкай, словаблудствам, і яшчэ сотні сінонімаў можна падабраць. – Метэарыты табе не трэба, золата не трэба, што ж табе трэба, нашчадак Дзям'яна і Кузьмы?

– Анічога! – дзед ужо згортваў тэму, ведаў, што мы гатовы да сур'ёзнай размовы, што гульня ў перакідку слоў скончылася. – У маіх сховішчах гэтага дабра браць не перабраць, таму я і не карыстаюся імі. А агонь з руды здабудзе любы метал, а потым я з ім раблю ўсё, што захачу, – ён тады робіцца падатлівы, мяккі, бы воск, і я ўжо размінаю яго не молатам, а пальцамі. Накшталт таго, як дзіця размінае ў руках кавалак гліны ці пластылін і вырабляе з яго звяроў і птушак, завушніцы і пярсцёнкі…

Я ачнуўся ад мройнасці, туд-сюд пакруціў галавой. Толькі цяпер убачыў каваля, што сядзеў непадалёк ад Ігната, які абапёрся на спінку крэсла і глядзеў у столь, сцены кузні, і тое ж святло, якое сыходзіла ад невядомага апарата ці галактычнага карабля, з якога мы выйшлі.

Невядомае, але прыемнае пераpаджэнне адчуў, калі агледзеўся вакол. Не быў ранейшым, калі адправіўся ў падарожжа, але і новым яшчэ не стаў, толькі нараджаўся, нараджаўся паступова і ўпэўнена, як быццам апранаўся ў нейкае нябачнае адзенне, якое шчыльна аблягала маё цела, але не прыліпала, а злівалася з ім.

Новым было не толькі маё цела, але і ўсё, што жыло ўва мне. І не толькі гэта. Думкі мае рабіліся іншымі, бо і сасуды мозгу майго прапускалі праз сябе па-іншаму кроў, якую рэгулявалі клапаны сэрца.

З нейкіх ужо іншых катэгорый і вымярэнняў падыходзіў да ацэнкі і разумення свайго жыцця. Памяняліся і азначэнні, і меры вагі, меры ўспрымання навакольнага свету, і нават адлегласць часу і кіламетражу перастала існаваць для мяне.

– Дзед, а ты змог бы паказаць нам свае падземныя ўладанні? – падступаюся да яго з пытаннем. – З нябеснымі прасторамі мы азнаёмлены, Ігнат мяне пазнаёміў з імі, а з падземнай краінай не даводзілася. Дык як, дзядуля?

– Дуля, дуля… – падкінуў у паветра канчатак слова каваль, засмяяўся, падняўся са свайго крэсла. – Бач, які цікаўны. Але я не пакажу табе дулю, наадварот, завяду ў свае цянёты, раскрыю перад вамі свае багацці, пакажу, што я самы багаты ў свеце чалавек.

Ігнат як бы і не праяўляў цікавасці да размовы, да маёй прапановы, да багацця каваля. Мусіць, для яго не існавала ніякіх сакрэтаў ні ў нябёсах, ні пад зямлёй. Ён зноў глынуў з кубка напой, але ўжо не абдымаў яго далонямі, а трымаў пальцам за вушка, адставіў убок.

– Пакажы, дзед, пакажы. Здзіві мяне, хаця ці можа быць большым дзіва тое, што ў бязмежным сусвеце. А калі, скажы, ты правядзеш для нас экскурсію?

– Калі? А хоць цяпер, не адкладаючы, так бы мовіць, у доўгую скрыню.

Тут ужо ўмяшаўся ў размову Ігнат:

– Не, толькі не цяпер. Нельга перанасычацца эмоцыямі і відовішчамі. Гэта пагражае дэградацыяй і абыякавасцю. Перанясем, Міхась Дзям’янавіч, паход у твае рудніковыя глыбіні. Няхай Антон астыне ад Космасу, прызабудзе пра яго, бо ён цяпер падобны да гарбатніка, у якім кіпіць вада, а ён пра тое не ведае.

Прыйшлося сарамліва апусціць галаву. Ігнат меў рацыю. І падобны я быў у той момант да безразважлівага вучня, які, перабольшваючы свае магчымасці, і не ведаючы пра тое, нават не здагадваючыся, узяўся за пакарэнне вышэйшай матэматыкі. Няўжо мяне падвяло пачуццё рэальнасці?

Я ж перарадзіўся, стаў іншым, недзе і новым чалавекам. Ці такое можа здарацца і ў наноў народжаных людзей?

Адагнаў ад сябе такія думкі, за іх я прымуся некалі пазней, а цяпер трэба слухацца таго, хто ў гэтым разбіраецца, хто ведае, што гэта такое.

– Сапраўды, дзед, рана мне яшчэ ў руднікі і залатнікі, Ігнат кажа праўду. Даруй, не падумаў над сваёй прапановай. Але яна застаецца, прыйдзе пара для яе рэалізацыі.

Каваль на маё перадумванне адрэагаваў спакойна, як і ведаў, што яно так і будзе. А мо яны згаварыліся думкава з Ігнатам, а я і не заўважыў тое. Ды тое ўжо і няважна, нікуды ад мяне падзямелле не падзенецца, абы дзед не перадумаў.

– Няхай будзе так, – адказаў Кавальчык. – І ператакваць не будзем. Так што дуля і абярнулася дуляй, інакш і не магло быць. Антоній, паслухай мяне. Для таго, каб ты быў падрыхтаваны да падарожжа па падзямеллі, табе неабходна вывучыць не толькі табліцу Мендзялеева, а і разабрацца, што такое каштоўныя металы і камяні. Пра гэта ёсць шмат літаратуры, і ў цябе пад бокам галоўная бібліятэка краіны.

Зразумеў, што ён адносіцца да падарожжа больш чым сур’ёзна. Хоча наладзіць не проста прагулачку экскурсійную, а нешта больш значнае і павучальнае.

– Зразумеў. З гэтай сферай я мала знаёмы. І таму стала цікава, знайду час абавязкова і пасяджу ў чытальнай зале.

– Пасядзі, унуча, пасядзі.

Ігнат прыхільна паглядзеў на мяне, што я не пярэчыў, пагадзіўся, прамовіў:

– Ну і добра. Цяпер мы давай лепш абмяркуем твае планы на бліжэйшы час. Неабходна ўзгадніць шмат якіх пытанняў. Ты згодны?

– Згодны.

– Тады сядай бліжэй, нам патрэбны папера, асадка. Будзем рабіць макет твайго жыцця, будаваць твой дом, пракладваць шляхі ў заўтра.

Падсеў да яго бліжэй, расклаў на стале чыстыя аркушы паперы.

## 15

На нейкім адрэзку свайго жыццёвага шляху Антон Клімовіч зразумеў і адчуў, што ён «памяняў скуру». І не толькі скуру. Нехта падмяніў яму яго ўнутраныя органы. Нехта замяніў яму сэрца. Нехта памяняў яму душу. Нехта яго перавёў з адной калейкі на другую. Але што дзіўна, гэтыя перамены не адбіліся на яго ўнутраным стане. Ён глядзеў на свет нейкімі

іншымі вачыма, прызнаючы, што і позірк у яго перамяніўся. Дыяпазон ці шырыня агляду прасторы павялічылася: пад дзевяноста адсоткаў асяроддзя ён бачыў перад сабою. Быццам замест вачэй яму ўставілі аб'ектыў фотаапарата невядомай маркі, які фіксаваў панараму. Кепска тое было ці добра, ён не ведаў, бо нейкай нязручнасці не адчуваў, наадварот, усё, што было перад вачыма, бачылася дакладна і з выдатнай рэзкасцю, – мо на мільёны, нават дзесяткі мільёнаў пікселяў.

Бачыліся пражылкі на лісцях, якія аддалены на дзясяткі метраў; мурашы і казуркі, якія снавалі туд-сюд, і да іх такая ж адлегласць; за сотню метраў шыльды ці плакаты, на якіх былі нейкія тэксты – вялікімі і маленькімі літаркамі… Ды што шыльды, надрукаваныя старонкі самым маленькім кеглем – васьмёркай, а то і шасцёркай, бачыліся выразна і рэзка. А ён падумваў ужо пра акуляры хаця б самымі малымі дыёптрыямі.

Дзіўна і не дзіўна займець такую метамарфозу.

Тое адбылося, мусіць, пасля таго, як з Ігнатам насіліся па Сусвеце.

Дакладней, пасля таго, як Клімовіч выйшаў з дзедавай кузні. Тады, адышоўшы ад дзвярэй, зірнуўшы пад ногі, убачыў, што зрок выхапіў не кавалак зямлі, а пясчынкі, якія і ўтваралі зямлю. Зірнуў на неба – наблізіліся воблакі, птушкі, і заўважыў, як яны ляцелі і аглядаліся на яго. Вочы іх цікаўныя ўбачыў, пер'е, іх размову пачуў, але яшчэ не разумеў, пра што яны перагаворваліся між сабой.

Зразумеў, што прыйдзецца прызвычаіцца да новага жыцця, прыняць як належнае і неабходнае, як дадатак да свайго новага нараджэння. Ці – перараджэння? Ды, можа, тое і няважна, галоўнае, што ён разумеў тое і не здзіўляўся з таго, спакойна адносіўся да адкрыцця самога сябе. Ці кожнаму чалавеку ўдаецца адкрываць самога сябе? Мусіць, не.

«Можа, тое дзіва і не на ўсё жыццё, можа ўсё яно часова адкрылася ўва мне, ці будзе прыходзіць толькі ў нейкія моманты, а потым знікне? – дапытваўся ў самога сябе Антон Клімовіч, не радуючыся, але і не засмучаючыся ад свайго адкрыцця. – А калі будзе знікаць, то яго трэба вяртаць самому ці яно вернецца само па сабе? Толькі для чаго тое мне ўсё? Які ў гэтым сэнс?..»

Недзе нават і смешна было Антону, весела: перад ім адкрыўся няхай не іншы, але перафарбаваны, нейкі перайначаны свет, з невядомымі да гэтага адценнямі і рысамі.

Неяк жа яно будзе, неяк наладзіцца, быць таго не можа, каб не наладзілася. Гэта ж не хвароба, гэта не пакаранне за нешта, гэта проста дадзенасць, існасць, да якой трэба аднесціся разумна і з толкам.

Такія думкі прыходзілі да студэнта гістарычнага факультэта дзяржаўнага ўніверсітэта Антона Клімовіча. Ён абыякава праводзіў позіркам людзей, стараўся ўгадаць іх думкі, угадаць іх мары і жаданні, іх настрой. Вунь бабулька, што трымала ў руцэ паўпустую сумку, – хто яна? Былая настаўніца ці былая доктарка? Яна не спяшалася, а крочыла спакойна, горда трымала галаву, не звяртаючы на натоўп ніякай увагі. Ішла і думала пра сваё, гледзячы прама перад сабою. Мусіць, падышоўшы да яе, спытаўшы пра нешта, можна атрымаць годны адказ. У яе вачах люстраваўся розум, мудрасць і ўпэўненасць. Не тое, што жанчына, якая ішла ззаду. Яна глядзела пад ногі, на асфальт, быццам баючыся не спатыкнуцца, а нейкія думкі неадступна трывожылі яе. Яе прыгняталі жыццёвыя неўладкаванасці, клопат пра ўнукаў, якія не давалі ёй спакойна жыць і радавацца жыццю, і ёй шкада было іх, а не ведала, як памагчы, як навучыць розуму і самастойнасці…

А дзяўчатам, што купкай збіліся каля газетнага шапіка, усё ні па чым – смяяліся з нечага, расказваючы пра нейкія выпадкі свайго жыцця, адкідвалі коскі з плячэй, за вушы чаплялі іх… Гэтым гарэзам нічога не пагражала, у іх наперадзе цэлае жыццё, неабдымны свет. Скажы ім, што і іх чакае расчараванне ў жыцці, што не ўсе з іх дасягнуць той мэты, пра якую яны мараць, засмяюць цябе, яшчэ і пальцам каля скроні пакруцяць. І правільна зробяць, хто дазваляў пераступаць поле іх жыцця, парушаць іх наладжаны рытм, казаць ім глупствы… Яны і самі маюць розум, а падказка ім спатрэбіцца толькі тады, калі першы раз апякуць свае крыльцы і не будуць ведаць, як выправіць становішча, у якое трапілі… У адной з іх сумныя вочы, яна не падтрымлівала смех сваіх сябровак, у думках знаходзілася далёка ад іх: у сваёй далёкай вёсцы на Піншчыне, і думкі яе былі пра мамку, якая цяжка захварэла і дактары не ведалі, якой даць рады. Дачушцы застацца б на дзён колькі, пасядзець каля маці, а трэба ехаць на заняткі, бо за некалькі пропускаў яе могуць выключыць з інстытута…

Менск жыў сваім жыццём, у горада быў свой рытм, свая мелодыя жыцця. Гэта не ў Антонавых Крушніках, дзе ніхто не пройдзе моўчкі міма вяскоўца, абавязкова павітаецца, а будзе час, то і пра здароўе спытае, навіны, а тут… Ніхто нікога не ведае, адзін аднаго абганяюць, быццам бягуць навыперадкі, а сутыкнецца з чыім плячом, то забудзе нават і папрасіць даравання, – няма калі, не да таго, ён мо і не адчуе, і не зразумее, што некага амаль збіў з ног. Мурашнік, але чалавечы, у мурашоў наладжаны рытм жыцця, кожны з іх ведае свае абавязкі, ведае, куды спяшаецца, якую працу трэба рабіць. Тут жа ўсё наадварот, кожны пра сябе, а ніхто

не падпарадкаваны агульнаму клопату ці абавязку, хіба што ўсе прымалі «актыўны ўдзел у будаванні светлай будучыні – камунізму». Але калі той камунізм будзе пабудаваны, што ён дасць простаму люду, ніхто толкам не ведаў, але народ усё роўна «будаваў». Для яго нават бальшавіцкія ідэолагі прыдумалі «маральны кодэкс будаўніка камунізму», хаця ж самі ніколі яго не выконвалі, мусіць, не належалі да будаўнікоў, а да тых, для каго тая светлая будучыня будавалася.

– Дык вось, Антоній, дзе ты хаваешся! – на яго плечы леглі нечыя рукі, а па голасе адразу пазнаў Вераніку. – Я абабегла ўвесь Менск, наведала ўсе станцыі і вакзалы, ўсе сутарэнні, кінатэатры і піўнухі, а ён тут дрэмле на лаўцы. Чаго хаваешся ад мяне, пазбягаеш?

Вераніка жартоўна-дакорліва выліла свой гнеў на хлопца, не адымаючы рук, стаяла ззаду.

– Трэба яшчэ разабрацца, хто ад каго хаваецца. У сталоўцы няма, колькі разоў хадзіў, каб пабачыцца. Так што здымай з мяне віну.

Яна абышла шырокую лаўку, села побач. На ёй светла-карычневы плашчык, косы ляжаць на плячах. Глядзела на Антона, усміхалася.

– А ў сталоўцы я ўжо не працую, – паведаміла дзяўчына.

– Звольнілі за прагулы? – і ён рашыў трошкі яе падкалоць, каб патрапіць у тон распачатай ёю размовы. – Загуляла?

– Няма ў цябе ні на грамчык фантазіі, будучы гісторык. Ну абсалютна няма. У Акадэміі навук цяпер працую.

– Ого! – шчыра падзівіўся Антон. – І кім жа – дырэктарам Акадэміі?

– Ды не, самым звычайным супрацоўнікам. Аднойчы завітала да іх у аддзел, пацікавілася, ці магу я недзе знайсці матэрыялы па шаснаццатым стагоддзі. Жанчына адказала мне, а потым і перапытала, для чаго мне тыя матэрыялы патрэбны. Калі ж даведалася, што я студэнтка гістарычнага факультэта, тут жа адразу прапанавала мне працу.

– Дык гэта ж выдатна! Віншую! – пахваліў яе выбар хлопец. – Бліжэй да тваёй асноўнай прафесіі, ці не так?

– Так, Антон. Толькі тут заробак ніжэйшы, ды і кожны дзень трэба прыходзіць на працу. Але прывыкаю паціху.

Ужо ўдваіх глядзелі на прахожых, маўчалі. Прыемна, што адбылася такая сустрэча, выпадковая сустрэча (і ці выпадковая?), прыемна, што дзяўчына сядзіць побач, што нязмушана размаўляюць.

– Ты кажаш, што шукала мяне, для чаго?

– Мы ж, здаецца, дамовіліся, што ты зможаш прачытаць тое, што я напісала, хіба ж не памятаеш?

Яна паклала на лаўку, паміж імі, шэрую тэчку з рукапісам.

– Памятаю. Таму і прыходзіў у сталоўку колькі разоў. Не пытаўся пра цябе, думаў, што калі на месцы, то пабачымся. Я ж казаў, у якім інтэрнаце жыву і па якой вуліцы.

– Ды я была ў вас. Разы тры была. Вахцёрка адказвала, што з’ехаў дадому на тыдзень, а потым ты з сябрамі з’ехаў да некага гасцяваць.

– Усё так. А гасцявалі мы ў Петруся Кіпеня, пад Полацак ездзілі. Запрасіў ён усіх хлопцаў пакоя да сябе. Ракаў лавілі, варылі іх. Ніколі столькі ракаў не еў, як у яго. Там азёраў процьма. І прыгожа. Дарэчы, а чаго ты з Крапівенскага поля ўцякла? Я бегаў усюды, шукаў, а твой і след прапаў.

Дзяўчына адчула сябе вінаватай. Схіліла галаву, уздыхнула:

– Даруй, што не папярэдзіла. Вадзіцель аўтобуса крыкнуў, што не мае ніводнай хвіліны, што калі хто хоча ехаць, каб адразу зайшлі ў салон. Ну мы і ўскочылі з сяброўкамі адразу ж, не марудзячы.

Крыху памаўчаўшы, пацікавіўся:

– Ну і як, спадабалася табе імпрэза?

– Гэта было вельмі файна. Я сачыла за табой, як ты змагаўся, перажывала, каб вы не скалечылі адзін аднаго. Вы не жартам змагаліся, каб паказаць сам бой, а і сталі часткай таго бою. Добра паказаў сябе і Канстанцін Астрожскі. Усё было відовішчна, праўдападобна, захапляльна.

Ён узяў тэчку, паклаў на калені, але не расшморгваў матузкі.

– Дзякую. Вераніка, а калі вярнуць табе рукапіс? Калі паведаміць табе, што я прачытаў і гатовы выказаць свае думкі?

– Калі прачытаеш. Ведаю, што і ў цябе бракуе часу. Таму і не прыспешваю.

– Добра, зразумеў. Праз два тыдні заканчваюцца заняткі, ідзем на вакацыі. Потым трэба завітаць у бібліятэку, разабрацца з высакароднымі металамі – дзед Міхась, перад тым, як пусціць мяне ў свае лёхі, параіў вывучыць гэтую тэму. Каб я не выглядаў дылетантам, калі буду сузіраць іх у яго засеках.

– Ён – багацей? – ускінула броўкі дзяўчына.

– Думаю, што багацейшага за яго няма нікога ў свеце.

– Нават так?

– Думаю, што так. Хачу так думаць.

Дзяўчына стала сур’ёзнай, сціснула вусны, нахмурылася.

– Калі не паспею прачытаць за гэты час, то толькі ў верасні дам адказ. Ужо дома прачытаю, без спешкі, спакойна і разважліва – там часу будзе дастаткова. Тут жа не дзесяць старонак, а некалькі соцень.

– То і добра. Мяне ж ніхто не падганяе ў спіну. Можа за гэты час я пра штонебудзь новае напішу. Так што не спяшайся, давай да верасня. Згодна.

– А як цябе знайсці, як прыеду?

Дзяўчына задумалася, пальцам дакранулася да носа, зморшчыла лоб.

– Тэлефон я яшчэ і сама не ведаю, які. Увесь аддзел без тэлефона. Мяняюць нейкі кабель, таму і нумары будуць новыя. Калі згублюся, то прыйдзі ў Акадэмію навук – у гістарычны аддзел, мы на другім паверсе.

Ён у знак згоды кіўнуў галавой. Партфеля ці сумкі ў яго не было, таму тэчку ўзяў пад пашку. Не згаворваючыся, разам падняліся з лаўкі. Не згаворваючыся, у які бок пайсці, пакіравалі ў бок Дома друку.

Потым гулялі па горадзе. Блукалі па Батанічным садзе. Зайшлі ў кавярню, выпілі па кубачку кавы з марозівам. Гаварылі пра align рознае, асабліва не скіроўваючыся на нешта канкрэтнае. Было хараша абодвум, бо нязмушана цякла гамонка, ужо звыкла глядзелі адно аднаму ў вочы, прыязна ўсміхаліся.

Антон нават ніводнага разу не дакрануўся да яе рукі, не паспрабаваў зрабіць хаця б адзін крок да бліжэйшых, больш цёплых адносінаў. Паміж ім і Веранікай нябачна стаяла Яніна. Ведаў, што яна не дакарала яго ні ў чым, не імкнулася перашкодзіць іх адносінам, але хлопец сам паставіў уяўны шлагбаум паміж ёю і сабой. Успаміны былі свежымі і балючымі, таму баяўся зноў апынуцца ў такім становішчы, як з Янінай.

І з боку Веранікі не было ніякага заігрывання, не падахвочвала да нейкіх пераменаў, ні на што не намякала, нічога не дамагалася. Тое і падабалася яму. Хацелася трымацца на нейкай дыстанцыі, на нейкай мяжы, і старацца не пераступіць яе, не парушыць тое суладдзе, якое нарадзілася між імі. Ці – суладдзе? Ці можна такія адносіны назваць суладдзем? Мо як інакш? Сяброўствам, неабходнасцю наладзіць кантакт паміж аднадумцамі, якія вышэй за ўсё ставяць перад сабой мэты стаць глыбокімі даследчыкамі сваёй гісторыі, свайго мінулага? Ці не завялікім пафасам патыхае ад такога апраўдання ці аргументацыі, што яны знаходзяцца на такім этапе?

Збоку, калі хто паглядзіць на іх, то можа падумаць, што студэнты збеглі з лекцый і бавяць час за кубкам кавы. У іх вачах не выпраменьвалася закаханасць і радасць сустрэчы, бо гавораць спакойна і нават абыякава, не клапоцячыся пра тое, які вынік будзе мець размова.

А яно было так і насамрэч. Ён неўпрыкмет разглядаў яе твар, і адзначаў пра сябе, што яна належыць да прыгожых дзяўчатаў. Яшчэ – да разумных і ўраўнаважаных. Не смяецца беспрычынна, не выпытвае нейкія падрабязнасці з яго жыцця, не вяжа мярэжы, каб наблізіць яго да сябе, закахаць у сябе. Сапраўды, яны былі падобныя да сяброў, і былі яны

абодва як бы мужчынамі. Толькі мужчыны могуць так размаўляць між сабой – ціха, памяркоўна, без эмоцый, бавячы час за размовай, якая праз колькі хвілін забудзецца.

– А ты выпадкова вершы не пішаш, Вераніка? – спытаў абыякава, каб нечым падтрымаць размову.

– Выпадкова – не. Бог тут абышоўся са мною прыстойна, за што Яму ўдзячна.

– Растлумач, чаму.

– Бо адзін французскі паэт неяк сказаў, што ад паэзіі да вар'яцтва – адзін крок.

Антон усміхнуўся, адзначыўшы, што дзяўчына мае рацыю. Ведаў некалькі паэтэс, якія лічылі сябе геніяльнымі, нават не выдаўшы яшчэ ніводнай кніжачкі. Паспрабаваў аднойчы, сказаць, што яны не маюць аніякага таленту, што зрыфмаваць «жыць-даражыць, паехаў-прыехаў» вялікага таленту не патрабуецца. Дык яны з ім перасталі нават вітацца.

– Баялася паэтычна звар'яцець? – кісла ўсміхнуўся.

– Кожны павінен займацца тым, да чаго схільны. І рабіць сваю працу выдатна і бездакорна. Калі чалавек нарадзіўся, то ён прызначаны для нейкай місіі. Тут важна вызначыцца, знайсці свой шлях, а не стаць на нейкі іншы, не для цябе прызначаны. Сам ведаеш, што здараецца з тымі, хто…

– Згодзен, Вераніка. Ну, што, пойдзем, бо загуляліся мы з табой?

– Сапраўды, пара. Як хутка ляціць час.

Ён давёў яе да аўтобуснага прыпынку – да таго ж, на якім яны развіталіся апошні раз. Вераніка падала яму руку, ён пацiснуў яе. Яна гэтак жа лёгка ўскочыла ў аўтобус у заднія дзверы, стала каля акна і памахала яму рукой. Усміхалася.

Антон адказаў ёй тым жа.

## 16

Я замовіў кнігі па высакародных металах і пра камяні.

Бібліятэкарка прамовіла:

– Сядайце за дваццаты столік, праз пятнаццаць хвілінаў вам прынясуць замоўленую літаратуру.

Праз нейкі час, павітаўшыся, перада мной на стол дзяўчына паклала некалькі кніжак. Пажадала поспеху ў вывучэнні тэмы.

Мусіць, іх не так часта заказвалі, бо ў параўнанні з іншымі, пацёртымі і чытанымі-перачытанымі, гэтыя выглядалі амаль новымі. З нейкім асаблівым хваляваннем адгарнуў першую старонку. Нешта тарганулася ўсярэ-

дзіне, вочы ўпіліся ў радкі, мяне ахапіла незразумелае хваляванне. Металы і камяні – мёртвыя, чаму ж яны аказваюць такое ўздзеянне на маю душу?

Сапраўды, аказаўся я вялікім прафанам у галіне падземных багаццяў. І тое зразумеў толькі тады, калі разгарнуў кнігі па гэтай спецыфіцы і паглыбіўся ў чытанне.

Разгарнуў тоўсты агульны сшытак, пачаў занатоўваць радкі.

«Золата, срэбра, плаціна, осмій, ірыдый, паладый, радый, рутэній – складаюць групу высакародных металаў. Маючы ўласцівасць стойкасці, яны з'яўляюцца вечнымі, могуць знаходзіцца на зямлі і ў зямлі тысячагоддзі, мільёны гадоў. Археолагі пры раскопках знаходзілі залатыя вырабы шэсць і больш тысяч гадоў таму, і яны праз тоўшчу часу не страцілі сваёй прываблівасці і прыгажосці.

Невыпадкова золата – цар зямных металаў. Веліч яго і слава настолькі велізарная і таямнічая, што хіба толькі магутныя бібліятэкі свету – Лондана і Вашынгтона, Варшавы і Вільні – у мільён тамоў могуць хаця б часткова расказаць нам пра падарожжы і прыгоды, лёсе не толькі гэтага металу, а і людзей, якія зносіліся з ім. Усё звязана з ім – радасці і няшчасці, падзенні і ўзлёты, багацці і разарэнні, жабрацтва і валоданне душамі іншых людзей, пакланенне… І гора таму, хто маліўся на яго, спадзеючыся, што валоданне ім прынясе магутнасць і здароўе. Нездарма Бог і караў тых, хто пакланяўся залатому цяльцу…

Золата, золата… Залаты чалавек, залатыя словы, залатая ты мая… Але – залатая ліхаманка. Іншы сэнс.

Золата так прыцягвала людскія позіркі, што рабілася чароўным, магічным, з-за яго людзі гублялі розум, а ў душы чорнай гадзюкай запаўзалі зайздрасць і сквапнасць, прага разбагацець, узнесціся на вяршыню славы. Ева, убачыўшы, як прыгожа блішчыць і пераліваецца пад промнямі сонца золата, просіць Адама зрабіць ёй упрыгожанні. Мусіць, то быў першы грэх – палюбіць жоўты метал, а другі, калі з'ела забаронены яблык, трэці…

У сховішчах егіпецкіх фараонаў, індыйскіх правіцеляў, кітайскіх і рымскіх імператараў, а яшчэ – скіфскіх правадыроў, абавязкова меліся залатыя бранзалеты, завушніцы, пярсцёнкі, грабянцы, скіпетры, дыядэмы, – перад тым, як пахаваць нябожчыка, абавязкова накладалі на твар залатую маску, – і тое было задоўга да нашай эры…

Залатыя вырабы і статуэткі распаўсюджваліся і ў Амерыцы ў індзейцаў майя і ацтэкаў, якія стварылі сваю ўнікальную і загадкавую культуру. Тое не тычылася хіба Аўстраліі. Але не ад таго, што яно магло прыйсціся ім не па душы, а проста ад таго, што ніхто з аўстралійцаў не адшукаў яго.

Чатыры тысячы гадоў таму з’явіліся першыя манеты ў Старажытнай Грэцыі і Малой Азіі, і вырабілі іх з золата.

Здавён лічылася, той, хто мае золата, багаты. Золата – сімвал вечнасці і вернасці. Скажыце, які паэт таго часу абыходзіў гэтую тэму? Яны складалі паданні, паэмы і аповеды. Залатое руно – залатая скура чароўнага барана, якую ў старажытнай Калхідзе ахоўваў дракон. Гэтае паданне – адно са звёнаў грэчаскай міфалогіі і паэтычная жамчужына «Адысея» несмяротнага Гамера. А паэта натхніў рэальны жыццёвы факт: мясцовыя жыхары з дна ракі здабывалі золата з дапамогай авечых скур. Іх прымацоўвалі да дна, а воўна затрымлівала цяжкія залацінкі, а лёгкія часцінкі кварцу, палявога шпату і іншых металаў хуткія воды Рыоні зносілі ніжэй па цячэнні…

Але як паказаў час, золата – гэта не толькі багацце і радасць, яно – галоўная прычына звадак, раздраяў, войнаў паміж людзьмі і краінамі, прычына шматлікіх няшчасцяў, варажнечы і зла. Таму і другая назва прыліпла да жоўтага металу – жоўты д’ябал. То з-за яго на працягу пятнаццатага і шаснаццатага стагоддзяў іспанцы заваявалі Лацінскую Амерыку, а карэнных жыхароў – індзейцаў – жорстка вынішчалі, палілі іх гарады, зруйноўвалі ўшчэнт старажытную культуру.

На залатую ліхаманку захварэлі людзі ў дзевятнаццатым стагоддзі, і метастазы разрасліся па краінах і кантынентах. Тысячы людзей, пакінуўшы свае аселыя месцы, кінуліся ў пошукі золата, марачы пра хуткае ўзбагачэнне. То д’ябал іх падштурхнуў да гэтага. А што д’яблава, тое шчасця не прыносіць. Не пазбеглі потым гэтай ліхаманкі ў пяцідзясятых гадах Аўстралія, пазней, у дзевяностыя Сібір, паўночна-заходняя Канада, Каліфорнія ў ЗША.

1839 год… Аўстралійскі карабель ішоў па намечаным курсе. Каманда матросаў вопытных і смелых, не баялася ніякіх марскіх перашкодаў. І здарылася непрадбачанае – карабель як камень пайшоў на дно. А ў трумах вялізныя куфры з аўстралійскім золатам. Ніхто не выратаваўся. У той жа Аўстраліі жыў Холтэрман. Ён нечакана для сябе самога стаў уладальнікам самага буйнога ў свеце залатога злітка, які важыў каля васьмідзесяці кілаграмаў. Ён уклаў усё сваё багацце ў камерцыйную справу. Мог быць самым багатым чалавекам на зямлі, а ў выніку – разарэнне, беднасць і чалавек памёр жабраком.

Алхімікі стагоддзямі імкнуліся знайсці “філасофскі камень” – рэчыва, з дапамогай якога быццам бы можна было пераўтварыць звычайны метал у золата. Яго не адшукалі, але алхімікі вынайшлі іншае – навучылі людзей атрымліваць эмалі, шкло, кіслоты і солі.

Золата не трэба было выплаўляць, як тое ж жалеза ці медзь з розных мінералаў, яно амаль заўсёды сустракаецца ў самародным выглядзе. Золата блішчыць і адрозніваецца ад іншых мінеральных зярнятаў жоўтым колерам і вагой. Яно лёгка выкоўваецца ў тоненькія нітачкі ці пласцінкі, ім можна пакрываць вырабы з іншых металаў, дрэва ці каменя. А як прыгожа глядзяцца купалы праваслаўных храмаў – стагоддзямі яны адлюстроўваюць промні сонца і зіхацяць у любое надвор’е.

Так, золата сапраўды вечны метал. Залатыя манеты не могуць выцерціся аб тысячы рук: прыйшоўшы да нас з мінулых стагоддзяў, яны захоўваюць прыгажосць і якасць праз трыста, пяцьсот гадоў, а то і тысячагоддзяў.

Дзяржаўны залаты запас – гэта зліткі ачышчанага, так бы мовіць, афінажнага золата і залатыя манеты. Велічыня гэтага запасу – рэальны паказчык дабрабыту дзяржавы і надзейнасці яе фінансавай сістэмы. У гады Вялікай Айчыннай вайны СССР разлічвалася за ваенную дапамогу з боку ЗША і Англіі толькі золатам…»

Рука стамілася перапісваць. Захацелася выйсці на свежае паветра, пераключыць думкі на нешта іншае, а потым зноў вярнуцца да жоўтага металу. У дворыку, што знаходзіўся каля бібліятэкі, людзей было няшмат. Хто чытаў кнігу, разгарнуўшы на каленях, а хто проста бавіў час, аглядаючы наваколле. Пахадзіўшы па алеі, удыхнуўшы вясново-летняга паветра, падаўся зноў у «чыталку».

«Золата ў прыродзе. Кароткая даведка: “Золата – хімічны элемент першай групы табліцы Д. Мендзялеева. Атамны нумар 79. Атамная маса 196,96. Высакародны метал жоўтага колеру, коўкі. Шчыльнасць 19,32 г/см$^3$. Тэмпература плаўлення 1064°С. Хімічна інертны, на паветры не змяняецца. Выкарыстоўваецца ў выглядзе сплаваў з іншымі металамі. Са сплаваў золата з плацінай робяць хімічна стойкую апаратуру, са срэбрам – электрычныя кантакты для прыбораў у радыятэхніцы. Золата і яго сплавы выкарыстоўваюць для залачэння, ювелірных вырабаў і зубных пратэзаў. Змест золата ў ювелірных вырабах, манетах, медалях паказвае проба. Выкарыстоўваюць золата ў розных сферах, таму яно яшчэ доўгі час будзе насіць карону цара ўсіх металаў.

Асобная тэма – самародкі. Яны маюць вагу звыш аднаго грама. Самы вядомы буйны самародак “Вялікі трохкутнік” важыць больш за трыццаць шэсць кілаграмаў: знайшлі яго ў 1842 годзе на Паўднёвым Урале. Захоўваецца ён у Алмазным фондзе Расеі, на тэрыторыі Маскоўскага Крамля.

Колькі можа захоўвацца ці хавацца запасаў золата ў глыбінях планеты ў карэнных радовішчах і россыпах? Спецыялісты ў гэтай вобласці адказваюць на пытанне: больш як сто тысяч тон.

Родная сястра золата – плаціна. Свабодны метал. Можа сустракацца крупінкамі, радзей – буйныя самаробкі. Колер іх – срэбна-белы ці серасталёвы. Плаціна добра куецца, цвёрдасць яе невялікая, але ўсё ж большая, чым у золата. Яна і цяжэй за золата. Яе шчыльнасць – ад 15 да 21 г/см$^2$ (у золата – 15,5–19,3). Каб расплавіць яе, неабходная тэмпература 1773°С».

Шмат чаго карыснага пачарпнуў я з кніг.

Напрыклад тое, што золата і плаціна не нарадзіліся на зямлі, а трапілі ў зямную кару разам з метэарытамі, якія больш як чатыры мільярды гадоў таму атакавалі маладую Зямлю. Пра гэта заявілі вучоныя, параўнаўшы ізатопы вальфраму ў сучасных пародах і ў старадаўніх, якія сфарміраваліся задоўга да метэарытнага нашэсця.

Група вучоных пад кіраўніцтвам доктара Маціяса Вілболда з Брыстальскага ўніверсітэта (Вялікабрытанія) знайшла доказы на карысць гіпотэзы пра тое, што каштоўныя металы – плаціна і золата – трапілі ў зямную кару разам з метэарытамі падчас позняй метэарытнай атакі, якая здарылася каля чатырох мільярдаў гадоў таму. А на пытанне, адкуль у кары з’явіліся высакародныя металы, адказаў: «Наша праца паказвае, што большасць высакародных металаў, на якіх будуецца сучасная эканоміка і сусветная прамысловасць, з’явіліся на нашай планеце па шчаслівай выпадковасці: тое здарылася тады, калі на Зямлю абрынулася каля дваццаці эксатонаў (1018 тон) матэрыялу астэроідаў».

Пазнейшае метэарытнае бамбаванне насыціла зямную кару не толькі золатам і плацінай. Абапіраючыся на адну з гіпотэз, яно ж напоўніла Сусветны акіян вадой. Гіпотэза заснавана на аналізе месяцавай паверхні, а таксама канцэнтрацыі ірыдыю ў зямной кары і на месяцы. Згодна дадзеных прыхільнікаў гэтай тэорыі, «падчас позняга бамбавання на Зямлю прыляцела столькі камет, што іх колькасці акурат і хапіла для таго, каб запоўніць вадой асноўныя земляныя нізіны…»

Усяго прачытаць і перапісаць не ўдалося. Фізічна тое зрабіць немагчыма. Асноўныя тэзы я выпісаў, каб яны былі заўсёды пад рукой, а больш грунтоўныя даследаванні і звесткі пакінуў да лепшага часу. Могуць узнікнуць пытанні пасля наведвання руднікоў каваля, тады я зноў вярнуся да гэтай тэмы.

Вяртаўся ў інтэрнат, калі да мяне ў аўтобусе падсеў дзядок з сівенькай бародкай, у акулярах. Рэдкія валасы на яго галаве такія ж попельныя, але акуратна прыгладжаныя, быццам чалавек спецыяльна прывёў сябе ў парадак, каб сесці ў грамадскі транспарт.

– Малады чалавек, – зірнуў ён на мяне праніклівa скрозь шкельцы акуляраў, – я ведаю, што вы цікавіцеся высакароднымі металамі, гэта па-

хвальна, а ці ведаеце вы пра жыццё падзямелляў, дзе знаходзяцца некранутымі тыя металы? Пра цывілізацыю падзямелля?

Павярнуўся да яго, не ведаючы, што адказаць. Адкуль ён ведае, што я браў кнігі пра золата і плаціну? У чытальнай зале яго не бачыў. Як ён падглядзеў ці даведаўся?

– Не, шаноўны, не ведаю. А хіба ёсць такое паняцце – падземная цывілізацыя?

Дзядок усміхнуўся, ужо гледзячы перад сабою, адарваўшы ад мяне позірк, кіўнуў галавой:

– Ёсць, ёсць. А вы, як будучы гісторык, павінны пра тое ведаць.

«І тут ён здзіўляе. Адкуль ведае, што вучуся на гістарычным? І адкуль ён з'явіўся, як з-пад зямлі вынырнуў. Мо ён і родам адтуль – з падзямелля? Мо гном які?»

У якасці апраўдання прамовіў:

– А нам і не гавораць пра тое. Няма такога прадмета «Падземная цывілізацыя».

Дзед захіхікаў, затрос, як малады козлік, барадой.

– Ды нідзе ў свеце няма. Але падзямеллі ёсць.

Не адстаць ад выпадковага спадарожніка. І не навязлівы, але нечым чапляе, прымушае задумацца над існаваннем сусвету. Відаць, былы выкладчык, мо прафесар, а цяпер не працуе. Гаворыць складна, лагічна.

– Скажу больш, малады чалавек. Нідзе ў свеце нельга знайсці народ, у якога не было б паданняў і міфаў пра тых, хто жыве ў цемры падзямелляў. Хаця там той цемры і няма, там светла, як і ў нас. Тыя людзі, істоты, прадстаўнікі таго свету – як хочаце называйце, нашмат старэйшыя нас, чалавечага роду. А нарадзіліся яны ад карлікаў, якія жылі на паверхні зямлі, дзе мы з вамі жывём. Карлікі пакінулі зямлю, перабраліся жыць у яе нетры. Яны валодалі тайнымі ведамі і рамёствамі, маглі лётаць і знаходзіцца глыбока пад вадой акіяна, маглі перасоўвацца ў часе – будучым і мінулым, маглі пераносіць з месца на месца грузы ў тысячы тон, будаваць піраміды і засяляць туды будучую цывілізацыю…

Маё вуха настроілася на яго словы, як быццам я круціў калёсіка «Спідолы» і наткнуўся на цікавага субяседніка. Маўчаў, не пытаўся ў яго ні пра што, не хацеў перабіваць.

– Дзіўна, але адносіліся яны да людзей, да той расы, да якой належым мы з вамі, вельмі дружалюбна. Памагалі нам, адводзілі бяду, калі яна насоўвалася. І ў казках пра тое, і ў міфах гаворыцца. Але хто сёння пацвердзіць, што тыя міфы не чыстая праўда, рэальнасць, што і сёння існуе падземны свет? Час чакае свайго пацвярджэння.

Ён паклаў на калені звязаную матузкамі тэчку. Акурат такую, як і падрыхтавала для мяне Вераніка. Яны што, працуюць у адным ведамстве? Удакладняць не выпадала, выглядала б тое смешна.

– Ваш рукапіс?

– Так, вязу ў выдавецтва «Навука і тэхніка». Пазваніў мне дырэктар Масарэнка, прасіў, каб прывёз яму. Паабяцаў прагледзець і па магчымасці выдаць кнігу. Зацікавіў яго сваёй прапановай па тэлефоне. А я ўсё жыццё працую над гэтай тэмай. Не раз спускаўся ў тыя падзямеллі, так што шмат чаго цікавага магу распавесці.

Калі пад'ехалі да прыпынку «Палац спорту», дзе і знаходзіліся ўсе выдавецтвы, дзядок, прамовіўшы «я прыехаў», борздзенька выкаціўся з аўтобуса. Ён, адвярнуўшыся ад мяне, няспешна пакрочыў па вуліцы. Але чамусьці не ў той бок, дзе была высотка з выдавецтвамі, а ў адваротны – да Нямігі.

На сядзенні, дзе толькі што сядзеў «прафесар», ляжала тэчка з рукапісам, на вокладцы якой вялізнымі літарамі ад рукі было напісана «Цывілізацыя падзямелля». «Забыўся ўзяць ці спецыяльна пакінуў для мяне?» Калі ж зноў глянуў за акно, каб убачыць аўтара рукапісу, у натоўпе яго не ўбачыў.

Рашыў так: ёсць у мяне адзін рукапіс – Веранікі, няхай будзе і другі. Прачытаю, а потым завязу ў «Навуку і тэхніку», аддам рэдактару. Няхай не перажывае чалавек, што згубіў, забыўся ў тралейбусе, – вернецца да яго шматгадовая праца.

## 17

З радасным настроем ехаў Антон у родную вёску. Не адарваўся ад яе, у думках пастаянна прысутнічала, сны сніліся пра Крушнікі, пра людзей яе, і сны спакойныя, без трывог і турботаў прыходзілі да яго. Хаця, здаралася, у тыя сны ўрываліся тыя людзі, якія не жылі цяпер у вёсцы, яны жылі раней, калі ён, Антон, яшчэ і не нарадзіўся. Ён нават не ведаў іх імёнаў, з якога крушніцкага калена і роду, але яны, прыйшоўшы ў снабачанні, прасілі пра нешта, трымаючы ў руках паперы… На іх вачах былі слёзы, бачна было, што яны і на тым свеце пакутуюць і не знаходзяць суцяшэння…

Ведаў, што не прыйшла яшчэ пара пачуць іх голас, пачуць іх просьбы, нечага не хапала, каб сэрца адгукнулася на іх покліч. Ён некалі зразумее іх, даможацца таго, каб наладзілася паміж імі і ім духоўная сувязь. Хаця і

нельга наладжваць сувязі з душамі нябожчыкаў, нельга турбаваць іх спакой, але гэта толькі тады, калі сам намагаешся дастукацца да іх, патурбаваць іх сваім поклічам. Тут жа іншае. Яны з небыцця хочуць напомніць пра сябе, нагадаць пра нешта, папрасіць, а то і папярэдзіць пра небяспеку. Антон не адпрэчваў ад сябе іх памкненні, разумеў, яны з добрымі намерамі турбуюць яго, а таму чакаў таго часу, калі сувязь тая наладзіцца…

І таму ён цяпер з унутраным хваляваннем глядзеў за акно аўтобуса, стараўся вокам ахапіць усё тое, што мільгала перад вачыма. Калі аўтобус каціў з хуткасцю па лясной шашы, ні на чым спыніцца нельга было, а калі ўязджалі ў нейкую вёску, то ён цікаўна разглядаў кожную хату, прыглядаўся да людзей, якія праходзілі паўз аўтобус, гадаў пра сябе – хто мог жыць у той ці іншай хаце, пра што мог думаць дзядок, які з кавенькаю сядзеў на лавачцы каля сваіх веснікаў… Калі каля калодзежа размаўлялі жанчыны, то стараўся паслухаць, пра што яны гаварылі. Зразумела, не чуў іх галасоў, але чамусьці падстаўляў ім галасы тых людзей, якія жылі ў яго вёсцы. І тады прыходзіў да яго сэнс: пра дзяцей сваіх гаварылі, пра ўнукаў, пра ўраджай, пра свае хваробы… Хіба ж маглі людзі гаварыць пра нешта іншае? Не. Не пра космас жа ім гаварыць, той космас для іх, як у полі вецер.

Зноў кранаецца аўтобус, выехаўшы на бальшак, пакрысе набірае хуткасць. Закалыхвае слабая гайданка, люляе… І ўжо ніякіх думак у галаве, адзін мройны туман, нейкая аднастайная музыка чуецца ў вушах, як суправаджэнне дрымоты…

І перад вачыма ўжо дзед Міхась, трымае молат у руцэ, запрашае яго, Антона, падысці бліжэй да горана, просіць даць сілы агеньчыку… А потым малодшыя браты падыходзяць да яго – Зміцер і Андрусь, абдымаюцца, радуюцца сустрэчы. Старэйшы з братоў, ужо лічыць сябе дарослым, трымаецца годна, незалежна, – пацiснуў руку і адышоў, не хоча абдымацца ды прыціскаць брата да сябе. Затое Пятро, а разам з ім і Зоська з Наталляй, абдымаюць яго, шчабечуць радасна, прыгаворваюць: «Во і наш брацік старэйшы прыехаў, весялей нам будзе!..» А потым Антон падыходзіць да маці, якая прыйшла ўжо з фермы, памыла рукі і выцірае іх ручніком, абдымае яе, цалуе ў шчаку. Ну а бацька самы апошні – стаіць ля шафы, глядзіць на ўсіх, сам радуецца, чакае, калі сын і да яго падыдзе…

У грудзях шчымлівая радасць, сэрца гулка б'ецца ў грудзях, як быццам падтаквае яго думкам: «Я дома, я дома…»

Бацька лесніком працуе. Юрась Адамавіч любіць сваю працу, а дрэвы ў лесе для яго як родныя сыны і дочкі, да кожнага дрэва падыход мае, словы патаемныя ім гаворыць. Маці Станіслава Фёдараўна – даярка. Ужо

шмат гадоў ходзіць на ферму, дзве групы кароў у яе. І для яеароўкі як родныя дзеці. Яна і не называе іх інакш, як «родненькія мае», «галубкі мае», «зорачкі»…

Зноў у вёску прыехалі – Замошша. Тут не раз бываў, з людзьмі сустракаўся. Запісваў успаміны людзей пра даўнія часы. Запомніў з усіх дзеда Цімоха, якому было крыху больш за дзевяноста гадоў. Во памяць ў яго, во апавядальнік геніяльны! Бяры яго словы і ўстаўляй у любую кнігу, а ў кнізе той набярэцца пад тысячу старонак. Шкадаваў, што не меў дыктафона, тым больш партатыўнага, каб запісаць яго аповеды. Казаў на развітанне: «Не думай, Антон, што час аддаляецца ад нас, і падзеі тыя адыходзяць у мінулае. Яны набліжаюцца да нас, уліваюцца ў нас, і мы ўжо неаддзельныя ад іх, зліваемся з імі…» То быў былы настаўнік, і таму гаварыў як настаўнік, і словы ў яго былі вывераныя, як з памяці сваёй чытаў кнігу.

Хацелася Антону быць падобным і да Васіля Паўлавіча, так звалі настаўніка гісторыі, па-добраму зайздросціў яго ўменню размаўляць з людзьмі, апавядаць пра сябе, выказваць думкі… Ён заслугоўваў не толькі звання заслужанага настаўніка, не толькі таленавітага педагога, а і яшчэ вышэй, для такіх яшчэ і званняў не прыдумалі. А пра яго педагагічныя чыноўнікі забыліся, ніводнага разу не ўспомнілі, нават на Дзень настаўніка хаця б якую паштовачку даслалі. Адзіная радасць у яго, калі праведваюць былыя вучні, якія пайшлі па яго сцежцы, але і не толькі паслядоўнікі, а хто проста любіў і паважаў яго…

Ну а далей за Замошшам яшчэ адна вёсачка – Турбінка, і за ёй яго родныя Крушнікі. Ужо не драмалася, разамлеласць пакінула яго, і ён пільна ўглядаўся ў дарогу, адзначаючы пра сябе, што памятае тут кожную выбоінку, кожнае дрэва, што суправаджала яго ў шляху і махала прывітальна сваімі голлямі.

Тут, перад вёскай, і пахі своеасаблівыя, родныя, незабыўныя. Як пах кос маці, якія любіў, дакранаючыся ілбом да галавы матулі, як пах роднай рачулкі Балацянкі, па берагах якой расла асака і рагоз, як пах тых уюноў і ментузоў, якіх ён натоптваў у кломлі… Гэта не зблытаеш ні з чым, як не зблытаеш родных і бацькоў з іншымі людзьмі.

А вось і паваротка, і дуб, якому пад пяцьсот гадоў, а вось і масток, праз Балацянку, перад якім стаяла стандартная шыльда з надпісам «Крушнікі». Аўтобус пад’едзе да крамы, зробіць круг і спыніцца каля самага клуба. І ўсе людзі выйдуць на ўтаптаную зямлю, вынесуць свае клункі і валізкі, уздыхнуць з палёгкай, што прыехалі дадому.

Клімовіч выходзіў апошні, бо і сядзеў на заднім сядзенні. Чакаў, калі людзі, стаўшы адзін за адным паміж высокіх спінак крэслаў, павольна пасоўваліся да выхаду.

– Дзякую за прыемную паездку! – павярнуўшыся да кіроўцы, прамовіў Антон.

– І табе ніколі не хварэць! – адказаў весела хлопец, заглядаючы ў салон, ці не застаўся хто ў ім, заснуўшы па дарозе. – Добрага дня табе!

– Узаемна!

У двары нікога. На дзвярах веранды вісеў замок.

Антон паставіў чамадан каля парога, сам сеў на сухія прыступкі. У чамадан ён сабраў усе свае рэчы, што былі пры ім у інтэрнаце – адзенне, бялізна, чаравікі, кнігі, сшыткі. Там жа ляжала і тэчка з рукапісам, што аддала яму Вераніка.

Хораша вось так сядзець на ганку роднай хаты! Здадзены залікі, экзамены, яшчэ адзін вучэбны год ззаду, наперадзе новыя задачы, новыя адкрыцці. А там ужо недалёчка і да дыпломнай, і да самога дыплома. Шмат хто з сяброў хваляваўся, яшчэ не скончыўшы вучобу, куды накіруюць працаваць, для Антона ж тут ніякай праблемы ці загадкі не існавала: толькі сюды, у Крушнікі, у родную вёску.

Знаёмыя гукі вёскі, знаёмы пах роднага двара.

Нехта недзе гухкаў калуном, разбіваючы тоўстыя камлі дроў, і тыя гукі даляталі аднекуль зблізку, мо дзе праз хату. Мо Ладзік ці Антон нарыхтоўваюць сабе дровы, а мо хто і далей, не вызначыць. Потым дрыўнік спыніў сваю працу – мо стаміўся і адпачыць сабраўся, а мо і іншыя клопаты паклікалі.

З-за вугла хлява выйшаў Пятрусь, трымаючы на плячы сякерышча. Убачыў брата, здзіўлена спыніўся, выгукнуў:

– Ты? Прыехаў?

Антон падняўся, глядзеў радасна на хлопца:

– А я думаў, што нікога няма. Замок на дзвярах. Чуў, што нехта калоў дровы, а не мог здагадацца, што гэта ты.

Абняліся, пацiскалі адзін аднаго, адарваўшы ад зямлі.

– Даўно сядзіш тут?

– Ды не, колькі хвілінаў.

Пятрусь выцер ручніком з твару пот, паставіў у закутак калун. Зняў замок з прабоя, адчыніў дзверы:

– Ты ідзі ў хату, а я памыюся.

– А дзе бацька, сястрычкі?

– Бацька яшчэ з лесу не прыйшоў. Маці на ферме. А Зося з Наталкай ёй памагаюць, каб раней дадому прыйшла.

Пятрусь застаўся ў двары, а Антон, узяўшы ў рукі чамадан і сумку, пераступіў парог хаты. Адразу ў твар ўдарыў знаёмы пах – ішоў дух ад

печы, аддавала кіслым вараная бульба з цэбрыка, пах даносіўся і ад вазонаў, што стаялі на вокнах.

Антон зноў выйшаў у двор – самому трэба спаласнуцца з дарогі, змыць з твару дарожную пылоту. Пятрусь распрануўся да пояса, ужо выціраўся ручніком, накінуўшы яго на плечы. Антон даліў у мыцельнік вады, каб быў поўны, набраўшы ў прыгаршчы вады, спаласнуў твар. А потым, намыліўшы твар, шыю і грудзі, пачаў палівацьсябе вадой, змываць пену.

Фыркаў, расплёскваючы ваду, радаваўся, што бадзёрасць падступае да яго. І потым ужо, ўзяўшы другі ручнік, пачаў выцірацца.

– Аўтобусам прыехаў?

– Ага. З Калінкавічаў дабраўся да аўтавакзала Мазыра, а адтуль ужо сюды. Што тут новага? Як ты? Як маці?

– Выцірайся, ды ў хату пайшлі, там і пагамонім.

Павесіўшы ручнікі на жэрдачку, каб прасыхалі, падаліся ў хату.

На правах гаспадара ці гаспадыні Пятрусь адкрыў засланку ў печы, дастаў адтуль гаршчык з капустаю, патэльню з вялікім дранікам, на якім ляжала кольца хатняй каўбасы. Паразліваў капусту па місках, а патэльню, прыкрытую накрыўкай, паставіў на стол. Па хаце паплыў смакотны пах, адразу выклікаўшы сліну.

– Мо па кроплі? – прапанаваў Пятрусь. – Віно ёсць хатняе з парэчкі, наліўка. Што табе даспадобы?

– Віна.

Бурштынавы напой спадабаўся, такое віно рабілі заўсёды. Гэта было нешта паміж сокам і віном, добра наталяла смагу.

– Надумаўся, куды паступаць будзеш? Дарэчы, як атэстат?

– Атэстат нічога, не выдатнік, але і не з траякамі скончыў школу. А паступаць? Цвёрдага рашэння яшчэ не прыняў. Разам з табой паразважаем.

– Добра.

Даўно Антон не еў такога смакоцця. Менскія сталоўкі кармілі прэсным наедкам, стандартнымі катлетамі ды шніцалямі, у якіх было больш хлеба, чым мяса. Добра, што бацькі давалі з сабою добры кавалак сала ды родзічы, выбіраючыся ў сталіцу, падвозілі які мех бульбы, то можна было самому згатаваць на студэнцкай кухні…

Сёрбалі браты капусту, маўчалі, прытрымліваючыся правіла «калі ясі, язык на замок». Не заўважыў, як апусцела міска, ад дабаўкі адмовіўся. Прыняўся за дранік. Адрэзаў кавалак каўбасы, аддзяліў сабе ладны кавалак. Наліў сабе і брату «парэчкавай», пачаў смакаваць каўбасу.

У двары пачуліся размовы, а потым загрымелі дзверы веранды. Расчыніліся дзверы ў хату, і Наталка амаль не крыкнула з парога:

– Антон прыехаў!

Зайшлі ўтрох у хату і кінуліся абдымаць Антона. Маці прытулілася да галавы, прамовіла:

– Ну, з прыездам, сын!

І тут жа распарадзілася:

– Так, дзеці, мыць рукі і адразу за стол!

А потым і бацька прыйшоў. Павітаўся з сынам, пайшоў у двор да мыцельніка, памыўся і падсеў да агульнай кампаніі. І пацякла сямейная гамонка, і ўсім прыемна і радасна, што сям’я ў зборы. Бацька сур’ёзны і, як паказалася Антону, крыху стомлены. Але схадзіў да шафкі, дастаў пляшку «карчоўкі», паставіў на стол. Не пытаючыся ў Антона дазволу, наліў яму і сабе, гаспадыні. Петрусю не прапаноўваў, лічыў, што таму рана яшчэ заглядаць у чарку. Віно не забараняў.

Прыйшлі з вуліцы Зміцер і Андрусь, узрадаваліся прыезду брата, падышлі, паручкаліся, абняліся. Цяпер усе ў зборы. Цяпер уся сям’я за сталом.

Хораша Антону ў роднай хаце. Лагоднасць і шчасце апанавала ім. Ён глядзеў на сваіх сямейнікаў, радаваўся, што ён побач з імі, сярод іх. Неадрыўна глядзіць на яго малодшая сястрычка Наталля, радуецца, што брацік дома. Гэтак жа глядзіць на Антона і Зоська, яна ўжо ўбіраецца ў сілу, вунь як выпінаюцца кулачкі грудзей.

– Даўно прыехаў, сын? – адрываецца бацька ад яды, глядзіць на сына.

– Ды не, з гадзіну таму.

– Як там сталіца?

– Ды стаіць сталіца, нічога з ёю не зробіцца.

Юрась Адамавіч зноў наліў у чаркі – па палове, прапанаваў выпіць за прыезд Антона. Маці падтрымала кампанію, і тут жа адставіла чарачку, паказваючы, што больш не будзе.

Зоська не вытрымала, села побач з Антонам, прытуліла галаву да яго пляча, і млявае цяпло радасці разлілося па целе хлопца. Абняў сястрычку, прытуліў да сябе. І тады Зоська пацалавала брата ў шчаку, засаромелася, схіліла галаву.

– На лета, сын, прыехаў, вакацыі ў цябе?

– Так, маці, да верасня.

– Хутка сенакос пачынаецца, паможаш, – прамовіў бацька.

– З вялікай радасцю памагу, бацька. Засумаваў па працы. А сенакос з дзяцінства люблю. Ды пасплю потым на вышках, надыхаюся лекавых зёлак, самае лепшае лякарства ад суму і гультайства.

– Так, сын, так. Як там вучоба ў цябе?

– Ды ўсё добра. Ні «хвастоў», ні пераздач. Чысценькі, як кропля расы. Так што адпачываць буду напоўніцу.

– Я рады за цябе. Толькі Пятрусь яшчэ не ведае, куды паступаць будзе.

– Разбяромся, бацька, і з гэтым.

Пятрусь усміхаецца, згаджаецца з яго словамі. Ён то, мусіць, вызначыўся, ды хоча праверыць свае планы і намеры з братам. Заўсёды раіцца з ім, і як са старэйшым, і як з будучым гісторыкам.

– Як дзед Міхась? – пацікавіўся Антон у маці, пакідаючы разам з усімі стол.

– Ды ўчора заходзіў да нас, пытаўся, калі прыедзеш. Сказаў, калі ў цябе будзе час, то можаш праведаць яго.

– Добра.

Селі на канапу. З аднаго боку Зоська, з другога – Наталка. Здаецца ж, і не так даўно быў дома, але сястрычкі замаркоціліся за ім. Шчабечуць, распытваюць, як жыццё ў Менску, ці не закахаўся там у якую дзяўчыну.

– Няма мне калі закахацца, – смяецца брат, – раніцай на занядкі, а толькі вечарам прыходжу ў інтэрнат.

– Так ужо і няма калі? – дзівіцца Зоська. – Так можна і халасцяком застацца. Ты не баішся ім стаць?

Туліцца, жартуе, грэецца братавым цяплом, радуецца і ганарыцца, што вунь які ён у яе разумны – у такой установе вучыцца. І кожны раз, калі прыязджае, то для яе радасць вялікая, як, дарэчы, і для ўсіх.

Ён спахопліваецца, ідзе да чамадана. Раскрывае, дастае адтуль падарункі – Зосьцы калькулятар і блакнот, Наталцы – фламастары. І братоў не пакрыўдзіў – ім таксама сувеніры выдзеліў.

Бацька пайшоў у двор, да кабылы Машкі. Пакорміць яе, паставіць у стойла. Машка паслухмяная і рахманая, любяць дзеці катацца на ёй, насіцца па ваколіцы. Маці з сястрычкамі зноў падалася на ферму. І ў кожнага з братоў свой клопат, свая дзялка ў дапамозе старэйшым.

– Ты не ўсе дровы, Пятрусь, пакалоў?

– Ды не, і на тваю долю яшчэ хопіць.

– Вось я і хачу памахаць калуном, размяць косці.

– Саступаю месца. А я да сяброў пайду, аднакласнікаў, мы штовечара збіраемся, ёсць тэмы для размовы.

– Ну, давай, а я на дрывотню…

Дрывотня знаходзілася за хлявом, дзе было прасторна і ціха. Агледзеў гару дроў, здзівіўся: «Ого, тут і за паўгода не пераколеш!..» Бярозавыя паленцы, пракідвалася і сасна, асіна. Калі браўся за бярозавыя чурбакі, яны адскоквалі ад сякеры, як арэшкі, а вось з хваёвымі прыйшлося паваландзіцца. Устроміць лязо ў сярэдзіну, падыме над галавой, з усяе сілы

гахне па тоўстым дубовым камлі, зноў падыме… І так да тае пары, пакуль не пераможа, пакуль не разляціцца жылістае палена ў розныя бакі.

Узмакрэў, намахаўшыся, але не спыняў работу. Скінуў з сябе і сарочку, і майку, выціраў раз-пораз з твару пот, а ён усё роўна ліўся з яго раўчакамі.

Захацелася адпачыць. Зірнуў на гадзіннік: «Ого! Дзве гадзіны працаваў». Сеў на калодку, што стаяла пад паветкай, аддыхваўся, чакаў, калі аціхне сэрца, калі ўвойдзе ў свой звыклы рытм. Стома прыемная, замешаная на асалодзе, на задавальненні. Засумаваў па такой працы, нялёгкай працы. Акрамя мазгавой нагрузкі неабходна было нагружаць сябе і фізічнай. Адно дапаўняла другое, і ні адно з іх не выключала паралельную. Усё ўзаемазвязанае, зніставанае, неразрыўнае.

Ведаў, што не след перагружаць моцна сябе, тады заўтра будуць балець спіна і рукі, і такой асалоды ўжо не атрымаеш. Перабор ніколі не ішоў на карысць. Памыўшыся, ён пайшоў у хату, лёг у свой ложак. І не чуў, як прыйшлі дамашнікі, як селі вячэраць.

Маці паўшэптам прамовіла:

– З дарогі хай паспіць, ды і намахаўся, мусіць, добра сякерай.

– Добрую гару накалоў, – пацвердзіў Пятрусь.

– Ну, во, і хапіла.

Праз гадзін колькі ўсе леглі спаць. Толькі маці яшчэ дамывала на кухні посуд, расстаўляла яго на паліцы, злёгку бразгаючы аб металічныя драціны.

Але тыя гукі не даляталі да Антона.

**18**

Раніца, росная летняя раніца.

Яшчэ зранку падняўся бацька, пасля яго Антон і Пятрусь.

Яшчэ з вечара Юры Адамавіч паставіў перад сынамі задачу: скасіць заўтра дзялянку травы, якую яму выдзелілі для нарыхтоўкі сена для хатняй жывёлы. Штогод старшы ляснічы Ануфрыеў размяркоўваў для леснікоў надзелы.

Запрог Машку, уселіся ў вазку. Надзел каля Бронькі, і пехам туды дабірацца каля гадзіны. Машка павінна даставіць іх да месца хутчэй.

Вечарам Антон узяўся накляпаць тры касы. Любіў гэта рабіць. Убіў бабку ў дубовы чурбан, які невядома колькі гадоў знаходзіўся на адным і тым жа месцы, і пачаў чараваць. Левай рукой трымаў касу, прытуліўшы яе да «бабкі», у правай трымаў малаток. Вострай дзюбкай малатка пачаў адцягваць-адбіваць лязо касы. Трэба стукаць так, каб не зрабіць лапатуху – калі дэфармуецца метал і робіцца непатрэбны выгіб. Тут майстэрства

трэба, акуратнасць, дакладнасць. Адзін неасцярожны ўдар, мацнейшы за папярэднія, і ўсё пойдзе наўскасяк. Таму раўнамерна вёў кляпанне, міліметр за міліметрам доўжыў канаўку па вастрыні палатна. Рука ўспомніла рухі, і таму далей праца пайшла спорна і бездакорна.

Тры касы, заматаныя ў старыя коўдры, прыкрытыя леташнім сенам, ляжалі на возе.

– Но, Машка! – падае голас бацька, седзячы наперадзе воза. – Разленавалася ты, спіш на хаду.

Злёгку шлёгае пугай па азадку, каб раскатурхаць кабылку, зноў маўчыць.

А вакол цішыня, чуваць хіба, як звіняць сосны, як з лісцяў бяроз ападаюць на зямлю слязінкі расы ды колы воза чвякаюць, уехаўшы ў калюжыну. Паветра, празрыстае і чыстае, як сляза радасці; патыхае вогласцю і цнатлівасцю пяшчотных іголак сасны; лісце, амытае дажджом і абласканае летнім ветрам, спала цнатлівым сном, не ўздрыгне, не закалываецца; толькі недзе над галавой, дзяцел адбіваў на сваім тэлеграфе віншавальную тэлеграму касцам, якія кіраваліся на пакос…

У Антона ў грудзях шчымлівая радасць, і хораша ад таго, што ехалі моўчкі, што не парушалі маўклівага суладдзя і нерушы ляснога сну і немаіы. Як не хапала яго душы вось гэтага водару, лясной фантазіі і казкі, якія запалі ў сэрца з самага дзяцінства, і кожны раз грэлі ўспаміны пра той час. Праплывалі перад вачыма кусты алешніку і вербалозу, яны змяняліся бярозамі, соснамі.

Наперадзе сустрэлася новая перашкода – узболатак, заліты карычневай вадой, цягнуўся ён на сотню крокаў. І вада была вышэй за восі, і плыў воз як які казачны карабель, ад якога ў абодва бакі разбягаліся хвалі.

– Но, Машка, не спыняйся! – парушае маўклівасць бацька. – Мо піць хочаш? Тады пастаім, пачакаем.

А кабылка і сапраўды схіліла галаву, пачала піць ваду, чуваць было, як ікаў яе кадык. Доўга не піла, узняла галаву, паказваючы, што здаволіла смагу. Бацька, зразумеўшы, шлёгнуў пугай па спіне:

– Пайшла!

І зноў паплыў карабель па моры Герадота, разганяючы марскія хвалі, і ў ветразі яго білі павевы часу, ранак і – касавіца.

… Спыніліся на ўзгорку каля высозных сосен.

Пакуль бацька распрагаў Машку, Антон і Пятрусь дасталі косы з загорнутай коўдры, прымацавалі да касся, загнаўшы малатком дубовы клінок у металічнае кольца.

Спусціліся ўніз, дзе і знаходзілася паляна з травой.

Бацька, пераступіўшы неглыбокую канаву з вадой, выйшаў на прасторны прагалак. Агледзеў плошчу, думаў, як лепш правесці касавіцу.

– Зробім так. Пачнём з сярэдзіны. І будзем кругам ісці ад цэнтра. Мы з Антонам пагонім пракос, а ты, Пятрусь, паабкошвай траву вакол кустоўя.

– Чах-чах! – падала голас мянташка ў бацькі. – Чах-чах-чах!…

– Чах-чах! – адгукнуўся праз нейкі час і Антон, прыціснуўшы да пляча кассё.

А праз нейкі час з кустоўя, пачуўшы гэтыя галасы, азвалася сойка, потым заверашчала, быццам напаў на яе каршун.

– Ча-ча-чах! – злавалася ці паддаквала ім са свайго схові шча і сарока, не разумеючы, чаму пачаўся такі пярэпалах ў лясной цішыні. – Ча-чах? Ча-чах?

Антон адзначыў, што толькі цяпер пачалася раніца, што толькі цяпер абудзіліся птушкі, наседжваючы ў гнёздах яйкі, і вецярок прачнуўся ў лагчыне, вось-вось пачне гуляць па прасторы і сваіх уладаннях.

– Го-го-го! – не вытрымаў, падтрымаў Антон ранішняе рознагалоссе, паслаў у прастору кліч, што касцы прыняліся за працу, і цяпер іх не трэба адрываць да самага абеду.

– Го-го-го! – прыскакала да касцоў рэха, адскочыўшы порстка ад лясных нетрыскаў, потым лётала ўсё цішэй і цішэй, аж пакуль не зглухла зусім і не ўпала ў высокія спелыя травы…

– Шах, шах, – рэзала порстка каса зеляніну, і яна адкладвалася ў высокім валку, тым часам доўжыўся валок следам за бацькам. – Шаах-шаах! – адгуквалася і бацькава каса.

На спіне бацькі шырылася потная пляма, разрасталася, ужо і ўся спіна мокрая, але касец не звяртае на тое ўвагі, кладзе і кладзе высокі валок. Па твары Антона цякуць салёныя раўчакі, зрываюцца і адлятаюць на зямлю, і мокрыя ўжо грудзі, салёны пот расцякаецца па целе…

Пятрусь здагадаўся і схадзіў да воза, узяў дубовае барыльца і гладыш, прынёс да касцоў. Напоўніўшы гладышку з напоем – бярозавым сокам, настоеным на грушах-дзічках, прапанаваў:

– Эй, касцы, хто піць хоча?

Дагнаўшы да канца пракос, паклаўшы на плячо апірку кассяя, бацька падышоў да сына. Уваткнуў вострым канцом у зямлю кассё, узяў з рук гладыш. Доўга піў, не адрываючыся, толькі кадык уздрыгваў на шыі. Крактануў, аддаў назад. А потым і Антон падышоў, прыклаўся да гладыша. Бярозавік кіслы, рэзкі, халаднаваты, ад яго не адарвацца, піў бы і піў, атрымліваючы асалоду.

Кароткі перапынак скончыўся, касцы зноў прыняліся за працу. Круг за кругам пашыралася скошаная плошча, валкі ўзвышаліся да пояса і амаль

хавалі касцоў, толькі спіны мокрыя віднеліся. Пятрусь абкасіў кусты, далучыўся да бацькі і брата. Не заўважылі, як заружавеў усход, абвяшчаючы сонечны ранак, абяцаючы гожы дзень…

Рукі ўпэўнена трымалі касу, ногі цвёрда ўпіраліся ў мяккую зямлю. Даўно Антон не атрымліваў такой асалоды, такога шчасця яднання з працай. Сакаўная трава, пакладзеная вострай касой, мела своеасаблівы пах, які ні з чым не зблытаеш, нічым не заменіш.

Пот засцілае вочы, але нельга спыняцца, каб не збіцца з рытму, трэба аднастайна махаць і махаць касой, павольна пасоўваючыся нагамі наперад. Размераны рытм ашчаджае сілы, размяркоўвае іх, каб стома як найдаўжэй не прыходзіла да касца.

Пасля застаюцца сляды ад ног, быццам лыжня па зялёным пракосе.

Такі стан вельмі падабаўся Антону: у час касьбы ніякія думкі не прыляталі да яго – ні дадатныя, ні адмоўныя, уся воля і сіла скіраваны на тое, каб роўна весці пракос, каб трымаць цвёрда ў руках касу, каб рука ўпэўнена вадзіла ёю на аднолькавай вышыні ад зямлі. Тады мазгавыя клеткі адключаны ад стомы, яны толькі скіраваны да мышцаў рук і спіны. На іх асноўная нагрузка.

– Усё – перакур! – абвяшчае бацька. – Пара, хлопцы, і паабедаць.

Пакінуўшы косы, ідуць да выспачкі. Конь, наеўшыся травы, стаіць пад вярбой, трасе галавой, быццам адганяе ад сябе мух, не звяртае на іх увагі. З ім побач раўчак, так што ён не ведаў смагі.

Бацька нарэзаў хлеба, накроіў лусты сала, парэзаў каўбасы. Сыны рэзалі гуркі, цыбулю, раскладвалі пучкі пятрушкі. Сядзелі на зямлі, разаслаўшы перад сабою шырокі абрус. Жавалі моўчкі, думаючы пра сваё.

Першым наеўся Пятрусь, запіў бярозавікам, лёг на зямлю, раскінуўшы рукі, выдаўжыў ногі.

– Ну і дзянёчак сёння, – прамовіў, гледзячы некуды ў неба, на галіны хвоі. – Як добра ляжаць, і ні пра што не думаць. Праўда, Антон?

Брат усміхнуўся, гледзячы на яго:

– А што, ты думаеш толькі тады, калі стаіш ці – сядзіш?

– Я пра тое, што калі вось так натомішся, намахаешся касой, тады ні да якіх думак. Я зразумела сказаў?

– Цяпер зразумела. Ляжы, а мы з бацькам будзем думаць.

Пятрусь сеў, паглядзеў на брата. Жарт яму не спадабаўся, таму ўдакладніў:

– Чаму з бацькам?

– Бо індык думаў, ды ў суп трапіў.

Бацька засмяяўся, дажоўваў сала з хлебам, адкусіў зялёнае пер’е цыбулі. Глядзеў на сыноў, радаваўся за іх. Дужыя, ніякай працы не цураюцца.

Вось і цяпер, на касавіцы, папрацавалі ў ахвотку, патаміліся, а выгляду не паказваюць.

– Антон, ты да чаго мне пра індыка і пра суп? На што намякаеш?

– А ні на што? Бо як адзін філосаф казаў – думаць багата: урэдна. На трасянцы казаў. Так што я табе арыгінал паўтараю.

– Еш сам свой суп, – лёг зноў Пятрусь на спіну, зразумеўшы, што гэта простая балбатня, якая нічога не азначае, ні на што брат не намякае…

– Дзякую. Супакоіў.

– На здароўе.

Лёг і бацька, і яму захацелася адпачыць. Антон сеў і пачаў углядацца ў прагалак, туды, дзе стаялі ўтыркнутыя ў зямлю косы, дзе ляжалі высокія валкі травы. Скасілі, як казаў бацька, больш за палову, так што яшчэ на гадзіны тры працы, гэты час яшчэ будзе трымацца на траве раса.

…Дадому прыехалі пад абед. Ужо і маці са сваімі памочніцамі прыйшла з фермы. Зміцер і Андрэй, як малыя, выканалі і сваю працу – прапалолі грады.

Праз тры дні ўсёй сям'ёй рынуліся на сенакос, за якую гадзіну, як стаяла сонца ў зеніце, раскідалі сена, падварушылі яго. Бацька ўсё паглядаў на неба, хваляваўся, каб не пайшоў дождж і не змарнаваў усю працу. Ён і час спрыяльны падабраў для касавіцы: дачакаўся поўні і па ёй вызначыў надвор'е. Дажджу на поўню не было. Значыць, на зыходзе колькі днёў павінна быць суха. Гэтаму яшчэ дзед Адам навучыў, які ведаў пра норавы надвор'я.

Не пайшлі дажджы, не перашкодзілі высушыць, згрэбці і прывезці дадому пахкае сена. Адразу ж яго закідалі ў адрынку, да самага вільчыка запіхалі. Антон сабе вымасціў лежбішча, каб начаваць.

Каля самага акенца выбраў месца, каб льга было і пачытаць. А калі ноччу прыйдзецца чытаць, то ёсць доўгі кабель, ёсць начнічок. Антон пра гэта марыў яшчэ ў Менску. Марыў пра пах сена, пра адрынку, пра начное адзіноцтва на духмяным сене.

І вось прыйшоў той час, калі ён, упарадкаваўшы клопаты па хаце, прыхапіўшы з сабою адну з тэчак, падаўся ў адрынку.

Шчабечуць побач ластаўкі, прылятаючы да гнязда з птушанятамі, пакарміўшы іх, адразу ныраюць ў шчыліну за новымі пошукамі корму. Недзе на вёсцы працуе трактар, завывае бензапіла.

У вясковыя гукі ўрываецца голас царкоўнага звона – працяжны і мажорны. Царква то працуе, то не працуе. Айцу Андрэю то дазваляюць праводзіць богаслужэнні, то забараняюць тое рабіць. Антон прыходзіў колькі разоў у храм, – дзед Міхась яго прыводзіў. Разам маліліся, стоячы

каля абразоў. То дзед і расказаў яму пра абразы, падводзіў да святых лікаў, тлумачыў:

– Гэта – Ісус Хрыстос, Бог наш, побач з ім – Божая маці, з Малым Хрыстом на руках… Святыя апосталы Пятро і Павел, пакутнік і ацаляльнік Панцейлямон, а на левай сцяне Святая Тройца, якую некалі намаляваў прападобны манах Андрэй Рублёў…

Тады, помніцца, у Антона нешта затрымцела ў душы, быццам прачнулася жылка, па якой пачала пульсаваць кроў. Ён адчуў незвычайнасць моманту, нейкага адкрыцця другога, іншага жыцця, пра якое не казалі ў школе. Яно было, існавала, але чамусьці пра яго забаранялі гаварыць, маліцца, чытаць Святыя кнігі. Дзед казаў, што Бог на небе, а настаўнікі сцвярджалі, што Бога няма, што гэта ўсё казкі, бо Бога ніхто не бачыў… Гэтая супярэчлівасць пасялілася ў душы хлопца, і ён не ведаў, каму верыць, хто казаў праўду.

Амаль у кожнай хаце, у куточку, было адведзена месца для абразоў. І абавязкова вышываны ручнік накрываў іх. І свечка абавязкова пры абразах, абгорнутая кудзеляю.

У хаце Клімовічаў таксама абразы ў кутку, і маці, не раз бачыў Антон, малілася, шаптала сваю малітву да Госпада… То ад бабулі Аўдолі і дзеда Міхася.

Зразумеў галоўнае: свае супярэчлівасці неабходна трымаць у душы, а на людзях не паказваць сваіх адносінаў да рэлігіі. Нешта падказвала яму быць разважлівым, недзе і хітрым, бо свой жыццёвы шлях можна сапсаваць адным неабдуманым учынкам. Галоўнае – не хлусіць, каб не забрудзіць душу хлуснёй, захаваць яе чыстай, ніколі не сцвярджаць таго, у чым не ўпэўнены, чаго не ведаеш, не кажы. І ён ніколі нічога не казаў супраць Бога.

З нейкім унутраным хваляваннем адгарнуў першую старонку стоса папераў складзеных у тэчцы. Здзівіла тое, што не ўбачыў прозвішча аўтара ні на вокладцы, ні на першай старонцы рукапісу, як і патрэбна. Загаловак абазначаны – «Цывілізацыя падзямелля». Успамінаўся той чалавек, што сядзеў побач, з сівой бародкай і з усмешлівым позіркам. Не назваўся тады, не прызнаўся, ад чыйго імя рукапіс.

Першыя радкі здзівілі. У іх невядомы аўтар звяртаўся да яго, Антона, быццам ведаў яго даўно, быццам выкладаў у яго свой прадмет і па-сяброўску перадаў ці аддаў свае даследаванні. Але кожная праца мае свайго аўтара, гэта бясспрэчна. Адклаўшы ўбок свае сумненні і развагі, усё ж узяўся за прачытанне…

«Дарагі Антон! Ты здзіўлены, безумоўна, што я звяртаюся непасрэдна да цябе. Не здзіўляйся, ты даўно, як я ведаю, не здзіўляешся ў гэтым жы-

цці. Не ламай асабліва галаву над гэтымі даследаваннямі, тое, пра што я табе выклаў на паперы, можаш верыць ці не верыць, але ведаю, што ты сам у тым у хуткім часе пераканаешся. Я проста падрыхтаваў для цябе сцежку, па якой ты павінен прайсці, каб выйсці на асноўную дарогу. І няхай напаткае цябе поспех!

Цывілізацыя падзямелля. Здзівішся, упэўнены, якая можа быць цывілізацыя пад зямлёю? Не здзіўляйся, а прайдзіся па маіх радках. Буду рады, калі ты нешта новае адкрыеш для сябе. Ты ніколі не спускаўся пад зямлю? Не як шахцёр, які здабывае каменны вугаль ці працуе ў калійных залежах, а як даследчык, гісторык, навуковец, у рэшце рэшт. Не? І ў школе, і ў сваім ўніверсітэце ты чытаў дзясяткі і сотні паданняў і міфаў пра тых, хто жыве пад зямлёй. Як ты думаеш, расейскі пісьменнік Павел Бажоў адкуль чэрпаў свае “падземныя” творы? Выдумляў усё і чытачоў стараўся пераканаць, што гэта байкі ці міфы. “Малахітавую шкатулку” ён выдумаў? Прыдумаў? А нідзе ж не сказана, што ён падарожнічаў пад зямлёю, хадзіў па лабірынтах, нават сустракаўся з жывымі істотамі падзямелля. Калі б ён пра тое прызнаўся, расказаў у сваіх лістах, то яго палічылі б за вар’ята. Ён і бацьку свайму, Пятру, не прызнаўся, адводзячы ад яго бяду. А бацька працаваў горназаводскім майстрам, чалавек адукаваны. Размовы былі паміж людзьмі, што спускаліся пад зямлю, пра людзей, з якімі яны там сустракаліся, але ім ніхто не верыў. У “Сказе пра каменную кветку” ён прыўзняў заслону недасказанасці, але ніхто не змог раскрыць яго намёкаў і адкрыццяў. Як і Міхайла Булгакаў ладзіў шабашы разам з ведзьмакамі, а потым пісаў пра тое, так і Бажоў вадзіў сяброўства з жыхарамі падзямелля…

Дык вось – паданні і міфы. Маўляў, усё тое выдумкі, каб павесяліць чытача, адвесці яго ад сапраўднага жыцця. Я цябе, Антон, правяду сваімі сцежкамі, па якіх хадзіў мноства разоў, агінаў не раз і не сто зямны шар, і не прамінуў ніводнага куточка падземнага свету.

Пра тое чамусьці замоўчваецца, але з кожным годам усё больш людзей – проста цікаўных людзей, гарнякоў, спелеолагаў – імкнуцца пранікнуць у глыбіні зямлі, адшукаць нешта там цікавае і невядомае, пра што ніколі і нідзе ніхто не гаварыў, ні пісаў. Як тыя ж гарнякі, якія падштурхнулі Бажова да напісання яго твораў. Шукалі яны адно, а напаткалі зусім іншае. Здзівіліся, што такое можа быць. Убачыўшы, сустрэўшыся з прадстаўнікамі таго свету, усклікнулі: “Не, такога не можа быць!” Самі сабе не верылі. Як і не вераць сённяшнія аматары прыгод і раскрыцця тайнаў другой цывілізацыі.

Сустрэчы адбываліся радзей і радзей, і наведвальнікі толькі бачылі сляды дзейнасці таямнічых падземных жыхароў. Аказваецца, што міфы

для нас існавалі толькі дзеля таго, каб папярэдзіць, засцерагчы ад няправільных вывадаў і заключэнняў, калі мы сутыкнёмся з цудам, убачым мноства тунэляў, якія створаны мільёны гадоў таму. Неверагодна, праўда? Але ты павінен паверыць, што тыя тунэлі цягнуцца пад зямлёю на тысячы і тысячы кіламетраў. Тунэлі не самі па сабе, а яны з'яўляюцца злучэннямі паміж цэлымі паселішчамі – гарадамі і прамысловымі аб'ектамі, фабрыкамі і заводамі, на якіх вырабляюцца звышсучасныя і звышхуткасныя надземныя і міжпланетныя апараты.

Я буду табе расказваць не пра мае асабістыя назіранні, а вазьму ў сведкі іншых людзей, вядомых вучоных, падарожнікаў і даследчыкаў. Пачалося ўсё з аповедаў людзей пра таямнічыя паўднёваамерыканскія тунэлі. Шмат разоў наведваў Паўднёвую Амерыку вядомы англійскі падарожнік і вучоны Персі Фасет. Шмат напісаў кніг пра загадкавыя і неверагодныя з'явы ў свеце. Не абышоў увагай і тэму пячораў, якія знаходзяцца непадалёк ад вулканаў Попакатэпель і Інлакуатль, у раёне гары Шаста. Не толькі яму, а і іншым даследчыкам удалося на свае вочы пабачыць фрагменты гэтай загадкавай цывілізацыі.

Звярну тваю ўвагу да такіх фактаў. У нашы дні ва ўніверсітэцкай бібліятэцы горада Куска, што ў Андах, археолагі нечакана сутыкнуліся з дакументам – справаздачай катастрофы, якая адбылася ў 1952 годзе. Загінула група даследчыкаў з Францыі і Амерыкі. Каб праверыць факт, даследчыкі выправіліся на месца катастрофы. Адзін з даследчыкаў – француз Філіп Ламанцьер – выпадкова наткнуўся на расшчэліну ў скале. Расчысціўшы яе ад друзу, убачыў перад сабой шырэйшую адтуліну, якая напамінала ўваход. Але ісці далей не рашыўся, паклікаў астатніх.

– Хто са мной адважыцца пайсці далей? – спытаў ён. – Аднаму ісці туды рызыкоўна. Нехта павінен застацца тут.

– Я згодны, – падышоў да яго намеснік кіраўніка групы.

– І я, – згадзіўся яшчэ адзін.

– І я, – падаў голас трэці.

Назбіралася сямёра.

– Дзякую. Для тых, хто застаўся тут, скажу так. Мы доўга там не будзем. Бяром з сабою яду, вяроўкі, ліхтарык. Вы ж з гэтага месца нікуды не сыходзьце, магчыма мы можам паклікаць на дапамогу.

Спускаліся асцярожна, трымаючыся адзін за аднаго. Спачатку іх сустрэла цемра, але потым, як яны пачалі спускацца ніжэй і ніжэй, вочы пачалі адрозніваць выпукласць сцяны, прыступкі, столь невядомага тунэля. А потым яны выйшлі на пляцоўку, якая была асветлена з усіх бакоў, адчуваўся павеў ветру, значыць, існавала вентыляцыя.

Добра, што ўзялі фотаапарат, здымалі на плёнку дзівосныя малюнкі, якія бачыліся скрозь на сценах, а калі зайшлі ў другія праходы, там сустрэліся прасторныя памяшканні.

– Трымаемся разам, не адыходзім адзін ад аднаго, – зноў папрасіў-папярэдзіў Філіп, аглядаючы ўсіх, не губляючы нікога з поля зроку. – Не забывайцеся, што мы ў чужых уладаннях, і невядома, ці даспадобы ім наш прыход сюды…

Але цікаўнасць брала верх. З таго памяшкання ў розныя бакі вялі другія тунэлі. Нехта трапіў у новае памяшканне, больш светлае і прасторнае, нехта зайшоў у карцінную галерэю – у ёй спрэс па сценах бачыліся малюнкі невядомых звяроў, птушак і іншых істот…

З апошніх сілаў дагукаўся Філіп да сваіх спадарожнікаў. Насварыўся на іх, папярэдзіў, што іх непаслухмянасць можа ім дорага каштаваць.

– Даруй, Філіпе, мы так больш не будзем, – паклаў руку на яму на плячо самы малады даследчык.

І – адбылося неверагоднае…

Ніхто не пачуў новы покліч, ніхто не зрабіў кроку назад, адкуль пачалося іх падарожжа. А потым у іх прапаў голас, перасталі бачыць вочы, яны страцілі арыенцір і час, ішлі наперад вобмацкам, чапляючыся рукамі за гладкія і слізкія сцены…

Праз нейкі час Філіп дагнаў іх, загадаў вярнуцца назад, але… наперадзе яго, праз крокаў дзесяць, правалілася зямля і ўсе даследчыкі шуснулі ў прорву. І не было чуваць ніякага грукату камянёў і крыкаў людзей, усё адбылося ціха, быццам то і не камяні былі, і не людзі нават, а простая пылота. Яна і сапраўды ўзнялася слабым воблакам, а потым і асела. Філіп закрычаў, што было сілы, стаў на калені, нахіліў ад роспачы галаву да самай зямлі…

– Памажыце! – крыкнуў ён некуды ў бяздонную прастору. – Памажыце!..

Але голас не адляцеў далей ад яго губ, падземная атмасфера не адрэагавала на яго покліч.

Наверсе чакалі групу пяць дзён, наколькі бралі з сабой яды, і дзесяць, і дванаццаць, Толькі на пятнаццатыя суткі на паверхню выбраўся адзін чалавек. Ён ледзьве стаяў на нагах, хістаўся, сілы амаль пакінулі яго. З цяжкасцю пазналі ў ім француза Філіпа.

Ён нешта сіліўся сказаць, паказваў на гару, плакаў.

Яго адразу ж завезлі ў шпіталь. Калі прыйшоў да свядомасці, спыталіся ў яго, што адбылося там, у падзямеллі. Філіп не пазнаваў нікога, як і нічога не помніў, што з ім здарылася.

Але потым, калі другі раз прыйшоў у сябе, прашаптаў:

– Я ўспомніў. Яны праваліліся ў бездань… Усе шасцёра…

А медыкі вызначылі потым у яго прызнакі бубоннай чумы.

Мясцовыя ўлады, даведаўшыся пра гэты факт, не адкладваючы, замуравалі той праход жалезабетоннай тоўстай плітой. Філіпа неўзабаве не стала, засталася яго сумка. Калі ж яе раскрылі, то ўбачылі незвычайную рэч – кукурузны пачатак. Але не ў тым дзіва было, а ў тым, што пачатак той быў выраблены… з чыстага золата».

Антон загарнуў рукапіс на саракавой старонцы. Перагарнуў прачытаныя аркушы, паклаў іх знізу, каб не пераблытаць. Ён так заўсёды чытаў рукапісы. Тады, дайшоўшы да апошняй старонкі, перавярнуўшы, і атрымаецца, што рукапіс застаўся ў такім выглядзе, якім і быў напачатку – пачынаўся з першай старонкі.

Пра падземныя тунэлі ён не чуў. І не чытаў ніколі. Мо дзе ў замежных бібліятэках і можна было пачытаць пра такія дзівосы, але толькі не ў айчынных. Такія рукапісы, хоць і маглі з'явіцца, то іх хавалі, мусіць, пад грыфам «звышсакрэтна».

Выбраўся са сваёй хованкі. Сонца ўдарыла ў вочы, ён аж зажмурыўся, быццам выйшаў на волю разам з Філіпам. Адчуванне такое, што і ён пабываў у тым падзямеллі, глядзеў насценныя малюнкі, фатаграфаваў іх.

Рашыў не ісці ў хату, а трохі прайсціся ляснымі сцежкамі, якімі хадзіў з дзяцінства. Па іх мог ісці з завязанымі вачыма. Падняўся на выспачку, спусціўся з яе, сцежка нырнула ў верасоўнік, потым пайшла праз багун. Злева кусты ядлоўцу, як і памятае, яны стаялі як арыенціры яго падарожжа, не раслі вышэй, а заставаліся такімі ж нізкарослымі, як і пяць, дзесяць гадоў таму. У тым раўчаку ён лавіў уюноў, нават зімой, прабіўшы пельку: яны выпаўзалі на лёд, каб глынуць паветра. І Антон іх толькі зграбаў у кош, не прыкладаючы ніякіх намаганняў. А потым маці з іх гатавала смачную вячэру – з морквай, цыбуляй – смачнейшага наедку ён і не памятае.

Адышоў ладна ад хаты, таму рашыў павярнуць назад.

Патыхала жывіцай, багуном, недзе пракрычала сварлівая сойка, не ўступаючы другой у нейкай спрэчцы. Знаёмыя гукі, знаёмыя пахі. Яны сагравалі яго там, у горадзе, падчас вучобы, калі заставаўся адзін.

…Усе некуды разышліся, і таму ён, знайшоўшы яду ў лядоўні і ў печы, паабедаў. Злавіў сябе на думцы, што яго зноў цягне на сена, у адрынку, што там яго чакае цікавае і займальнае. Прыхапіў з сабою скрутак кабелю з вілкай, уваткнуў ў разетку, а другі канец з настольнай лямпай занёс на сваё лежбішча.

«Тая гісторыя не засталася без увагі. Яна абраслася новымі падрабязнасцямі і фактамі, прасачылася ў прэсу. Апантаны даследчык і вучоны

доктар Рауль Рыяс Сянтэна, адшукаўшы астатніх чальцоў той групы, пагутарыў з кожным з іх. І яшчэ больш зацікавіўся тым здарэннем.

– Вы мне можаце паказаць, якім маршрутам вы ішлі да той гары? – спытаў у аднаго з іх доктар Рауль. – Я даўно займаюся даследаваннем цывілізацыі інкаў.

– Калі вы хочаце даследаваць тое, што нам не ўдалося, то я з задавальненнем пакажу вам тую дарогу, – пачуў адказ.

– Дзякую. Але ў мяне другое пытанне: вы не змаглі б падабраць групу з такіх жа энтузіястаў, як вы, каб мы маглі, падрыхтаваныя ўжо як след, адправіцца ў падзямелле.

Даследчык памаўчаў крыху, падумаў, а потым адказаў:

– Адказ я вам дам праз тыдзень. За гэты час пашукаю ахвотных.

Праз дзесяць дзён група, набыўшы ўсё неабходнае абсталяванне і прыборы, выправілася на пошукі цывілізацыі мінулага. Яны не разбуралі той уваход, які замуравалі, а пайшлі іншым шляхам. У некалькіх кіламетрах ад Куска знаходзілася пахавальня. Побач з ёю знаходзіўся храм – амаль разбураны, ён не дзейнічаў, і ніхто да яго не прыходзіў: ён не прыцягваў да сябе ўвагу ні даследчыкаў, ні дзяцей, якія любілі наладжваць хованкі. Рауль прапанаваў старанна даследаваць падлогу магільні. Прастуквалі малатком кожны сантыметр, чакалі, калі адгукнецца пад ёю пустэча. Удар малатка – адгукнулася глухое рэха.

– Так, гэта тут, – абрадаваўся Рауль. – Мае разлікі не падвялі мяне. Ну, што, ніхто не перадумаў ісці за мной?

Усе адмоўна пахіталі галавой.

– Тады – наперад, і хай нам дапаможа Вышні!

Доктар спачатку вёў энтузіястаў доўгім калідорам. Ён паступова звужаўся, рабіўся падобны на трубу вялізнай вентыляцыйнай сістэмы. Шлях пракладалі пры дапамозе прыбора, які выпраменьваў інфрачырвоныя прамяні. Яны адлюстроўваліся на гладкіх сценах. А потым праз некалькі крокаў промні перасталі адбівацца.

– Спыняемся, адпачываем, – прапаноўвае Рауль. – Рыхтуем новыя прыборы. У каго спектрограф?

– У мяне, – азваўся першы памочнік, які набіраў групу даследчыкаў.

Наладзілі прыбор, навялі яго на сцены.

– Не можа такога быць, – здзівіўся Рауль, гледзячы на экран спектрографа. – Сцяна выраблена з суцэльнага алюмінію. Адкуль ён тут узяўся?

– Трэба ўзяць хоць кавалачак для даследавання.

Калі ж паспрабавалі саскрэбці са сцяны хоць пясчынку, нічога не атрымалася. Абшыўка тунэля аказалася настолькі моцнай, што яе не мог узяць ніводзін інструмент.

– Рушылі далей, мо што яшчэ адкрыецца нам.

Але тунэль пачаў звужацца і шырыня яго стала менш за метр.

Даследчыкі і сам кіраўнік групы не асмеліліся ісці далей. Рашылі перанесці сваё падарожжа. Рауль не хацеў рызыкаваць людзьмі, і сам не жадаў ісці ў невядомае, памятаючы, што здарылася з французам…»

## 19

Адпачывалася і працавалася студэнту добра. Адаспаўся за ўсе дні, што не даспаў у інтэрнаце, калі спяшаўся на лекцыі, дадатковыя заняткі, праседжваў да глыбокай ночы над кнігамі ці сядзеў у чытальнай зале бібліятэкі.

Да каваля ісці не спяшаўся, не ўсё яшчэ прачытаў, што хацелася і прыцягвала яго.

На адзін дзень напрасіўся ў бацькі, каб узяў яго з сабою ў лес. Правёў з ім цэлы дзень, назіраючы і за яго працай, і за жыццём лесу. Бацька завёў яго ў патайныя месцы, дзе паказаў яму насельнікаў – жытло барсука, селішча чорнага бусла, нават дзівосную птушку фенікс.

– А што, яна сапраўды існуе? – падзівіўся Антон, не паверыўшы ў тое, што бачыў.

– Існуе. З даўніх часоў існуе. Яшчэ да нашай эры нарадзілася. Яна рэдка вылятае адсюль. Калі нейкая небяспека на зямлі, калі людзям пагражае нейкая бяда, а то і ў бой кідаецца з ворагам… Гэта бусел і не бусел, арол і не арол, проста фенікс, спалучэнне некалькі нябесных істот.

Птушку цяжка было разгледзець. Дакладней кажучы, не кожны чалавек мог яе заўважыць. Не ва ўсіх было тое права – бачыць яе і назіраць за ёю. Яна знаходзілася ў сваёй схованцы, злілася з шэрымі галінамі старажытнага дуба, і нічым не выдавала сябе. А неўздалёк ад яе, у балотных нетрысках, жыла калонія чорных буслоў – асцярожных і прыгожых, таямнічых і загадкавых. Яны цудоўна суіснавалі, перагаворваліся на сваёй мове, і нікому не дадзена зразумець, пра што яны казалі, што гаварылі адно аднаму.

Так патлумачыў бацька пра жыццё крылатых істот.

– Ты ж мне ніколі не расказваў пра гэта.

– Вось цяпер расказаў. Бо прыйшла пара, і ты павінен ведаць пра гэтую чароўную птушку.

– Цяпер буду ведаць.

Калі зайшлі ў лес, на пляча бацькі ўскочыла вавёрка, зацокала, нешта запатрабавала. Ляснік ведаў, што яна хоча: дастаў з кішэні некалькі арэхаўлузанцоў, выдаўжыў руку, спыніўся. Лясная прыгажуня села на далонь,

ухапіла адзін арэх, тут жа раструшчыла яго, потым другі, трэці паклала за шчаку і шуснула жоўтай маланкай некуды ўверх, у спляценне галінаў.

Бацька вадзіў сына па сваіх сцежках, расказваў пра дрэвы, пра іх жыццё. І выходзіла так, што ён адносіўся да іх як да жывых істот, бо ведаў, чым хварэюць дрэвы, якія ім трэба лекі. Антон дзівіўся з бацькі. Гэта нешта напамінала метамарфозу з дзедам Міхасём. На людзях дзед як дзед, а ў сваёй кузні чараўнік і вучоны. Так і з бацькам. Дома ён гаспадар, бацька, муж, а тут у лесе… Не пазнаць яго. Ён як у сваёй звычайнай стыхіі, ён тут пачуваецца як рыба ў вадзе, ведае пра лес болей за любога вучонага з навуковымі ступенямі. А тут найвышэйшы знаўца прыроды, флоры і фаўны, хіба толькі не меў званняў. Ведаў сын, што яму не патрэбны ніякія званні і прызнанні, яго прызнае лес, прызнаюць звяры і птушкі, дзівосны фенікс, – якое яшчэ большае шчасце мог ён адчуваць?

Дадому прыйшлі пад вечар. Павячэраўшы, падаўся на сенавал. Гудзелі ногі ад доўгай хадзьбы.

Да яго слыху данёсся гул звона, працяжны, мажорны. То звон храма склікаў вернікаў да вячэрняга богаслужэння. Царква знаходзілася ў другім канцы вёскі, каля возера, каля кладоў, на ўзвышку.

– Бу-ууу-ммммм!… м-мммммм-ммммм…

– М-мммм-мммм!.. – падскоквала рэха да нябёсаў, ударалася аб воблакі і зноў злятала. – М-ммммм-ммм! – голас пранікаў у душу, трывожыў, прымушаў задумацца над нейкімі вечнымі рэчамі, над уласным жыццём. Разам з гулам у душу ўскочыла вінаватасць. Вінаватасць, што ён не адгукаўся на заклік, ігнараваў яго. Мусіць жа, ён і раней чуў голас звона, ды не пранізваў чамусьці яго сэрца, а мо і не чуў, зачытаўшыся старонкамі рукапісу. А цяпер як хто штурхануў яго пад бок, запытаўся нават: «І да каго ты падобны, хлопча? То ж і праз тваё сэрца праходзяць промні звона, то да цябе звяртаецца Бог, не дакарае, але здзіўляецца з тваёй неразумнасці, запрашае ў свой Дом, у сваю Хату, а ты… Мо не чуеш хіба? І не адчуваеш дакору сваёй душы, якая штодзённа дакарае цябе за тое, што ты абыходзіш храм, ігнаруеш яго…»

Чамусьці толькі цяпер адчуў, як яго твар апаліў пякучы сорам.

Ніколі не задумваўся над тым, ці правільна робіць, абыходзячы храм. Аднойчы ўзнікла ў яго думка і жаданне пераступіць парог мясцовай Усясвяцкай царквы, ды… Ступіў крок да яе, ды не змог зрабіць другі – нехта прывязаў на ногі важкія камяні, стрыножыў як стаенніка тоўстым путам, і зразумеў у той жа час, што яго нехта не пускае ісці туды, забараняе нават. Здзівіўся гэтаму адкрыццю, не рухаўся з месца, бы ногі засмактала ў чорную смалу, не адарваць іх, не зрабіць крок наперад… Тады ён ступіў

крок назад. І – дзіва – ногі вызваліліся з палону, тады ён крута развярнуўся і пайшоў у адваротны бок.

Але цяпер звон гучаў неяк інакш, быццам прызначаны толькі для яго, Антона Клімовіча. Тое падалося дзіўным, але тое здзіўленне падалося нейкім прыемным, быццам ён нечакана знайшоў нешта такое, пра што марыў і не мог наблізіць да сябе.

На ўсё свой час, казалі мудрацы. Мусіць, і тут так адбылося, не інакш. Сам прыйшоў ці прыплыў да свайго берага, здзівіўшыся, што ён, аказваецца, і ніколі не адплываў ад яго, толькі не бачыў яго ў тумане.

Туман той засціў вочы не толькі яму, і не толькі яго пакаленню.

Лозунг, кінуты апантанымі атэістамі, быў кароткі – «рэлігія – опіум для народа». І таму нельга было хадзіць у царкву, маліцца, вянчацца, дзяцей хрысціць… Тое, праўда, рабілі заўсёды, хаця і ўпотай ад тых бальшавіцкіх наглядчыкаў, але ж – употай, крадучыся, хаваючыся, не прызнаючыся ў тым.. Бо… бо можаш страціць усё – пасаду, вучобу, працу, перспектыву жыцця.

Яго агарнуў сон. Але сярод ночы прачнуўся, як хто штурхнуў яго пад бок. Рука міжволі падалася да тэчкі з рукапісам…

«Заходняя Еўропа… Мяжа паміж Славеніяй і Польшчай. Горны масіў Татры Бяскіды. Гэта там вымкнулася ў неба Каралева Бяскід – гара вышынёй каля 1800 метраў. Празвалі яе мясцовыя ласкава – Бабуля.

З пакалення ў пакаленне на працягу тысячы гадоў перадаецца паданне пра тое, што гара таямнічая, загадкавая, і ніхто не можа раскрыць яе тайну. Зацікавіўся я, Антон, гэтай “каралевай”. Прыкінуўся звычайным турыстам, які цікавіцца гісторыяй гэтага краю, завітаў у мясцовую кавярню. Да мяне падсеў гадоў пад восемдзесят задумлівы чалавек, акінуў поглядам, спытаў:

– Бабуляй цікавіцеся?

– Ага.

– Не раю з ёю звязвацца.

– Чаму?

Ён папрасіў сабе двайную порцыю кавы. Доўга перамешваў лыжачкай, гледзячы ў кубак.

– Бацька ў мяне памешаны быў на той Бабулі. Недзе ў шасцідзясятыя гады тое было. Наважыўся ён абследаваць яе. Паклікаў мяне з сабою, папрасіў, каб я быў яму памагатым. Я пагадзіўся, хаця вялікай цікавасці да гары не было. Доўга мы падымаліся па схіле. Падняліся мы на вышыню каля сямісот метраў. Спыніліся каля вострага выступу, селі адпачыць

пасля цяжкага пад'ёму. Потым мы ссунулі з месца скальны выступ, які зліўся з гарой і нічым не вылучаўся. Адкуль бацька ведаў пра гэта, і сёння адказаць не магу. Перад намі адкрыўся вялікі ўваход. Ён быў шырокі, па ім мы маглі з бацькам пракаціцца на возе, нават нагрузіўшы на яго гару сена. А далей, калі мы пайшлі, убачылі, што тунэль нам здаўся авальнай формы і быў прамым, як у метро. Мы ішлі доўга, але не стамляліся. Бацька напомніў яшчэ, што мы павінны запомніць наш шлях, каб ведаць, як вярнуцца.

Мой субяседнік зрабіў некалькі глыткоў, прымружыў вочы, быццам ныраў у той час, які запаў у яго памяць:

– Мы спускаліся і спускаліся, здавалася, канца таму спуску не будзе. І нечакана ўвайшлі ў вялізнае і прасторнае памяшканне – акруглае і высокае, быццам мы знаходзіліся ў вялізнай бочцы. З гэтага памяшкання як промні ад сонца разыходзіліся тунэлі ў розныя бакі. Бацька патлумачыў мне: "Антуан, тут знаходзіцца вузлавая станцыя. Па гэтых тунэлях можна трапіць у розныя краіны і кантыненты. Той тунэль, што злева, вядзе ў Нямеччыну, пасля ў Англію, а адтуль ужо на амерыканскі кантынент. А правы – шлях на Расею, на Каўказ, адтуль – кірунак на Кітай і Японію, далей – у Амерыку, ён злучаецца ўжо з левым"».

Мне прынеслі новую порцыю кавы – гарачай, пахкай, смачнай. Вельмі ж хацелася даслухаць да канца цікавую гісторыю.

«Шляхі да Амерыкі вялі не толькі па гэтых тунэлях. Яны яшчэ пракладзены пад Паўночным і Паўднёвым полюсамі Зямлі. На шляху кожнага тунэля пабудаваны вузлавыя станцыі, як гэтая. Казаў яшчэ, што тунэлі жывыя, што па іх рухаюцца невядомыя лятальныя аб'екты. Бацькавы калегі і сябры з Англіі расказвалі, што шахцёры, якія пракладвалі тунэль метро, чулі, як з-пад зямлі даносілася гудзенне невядомых механізмаў. Калі ж яны прабілі тоўшчу зямлі, наткнуліся на лесвіцу, якая вяла ўніз, а зусім побач працавалі рухавікі і чуваць было, як уздрыгвала зямля…»

– Вось такая гісторыя.

Ён замоўк, больш нічога не хацеў расказваць.

– Дык чаму ж вы не раіце дабівацца мне спаткання з Бабуляй? – папытаўся я пра галоўнае.

– А таму, што калі мы пайшлі ў другі раз па тых тунэлях, то праявіўся гнеў Бабулі – калі пакрочылі далей, нечакана пад бацькам правалілася зямля, і ён паляцеў у бяздонную яму. А я ледзьве выбраўся адтуль, увесь час здавалася, што за мной нехта гоніцца.

Ці паслухаўся я яго, спытаеш ты ў мяне, Антон?

Не быў бы я даследчыкам і вучоным, калі б збаяўся далей займацца гэтай тэмай.

Наадварот, ува мне нарадзілася яшчэ большае жаданне ісці насустрач рызыцы і небяспецы.

У шэсцьдзясят пятым годзе нечакана для самога сябе я апынуўся ў Аргенціне. Калі трапіў у правінцыю Марона-Сант'яга, гэта на тэрыторыі, якую абазначылі контурам гарады Галаквіза – Сан-Антоніа – Ёпі, пашчасціла сустрэцца з цікавым чалавекам Хуанам Морыцам. Ён аказаўся даследчыкам менавіта той галіны, якой займаўся і я.

Паказаў яму свае даследаванні, якія правёў у розных кропках зямнога шара, а ён разгарнуў перада мной сваю мапу, на якой падрабязна нанёс нікому раней невядомыя сістэмы падземных тунэляў і вентыляцыйных шахтаў. Яны цягнуліся на сотні і сотні кіламетраў. Паказаў і фатаграфіі, каб дакументальна засведчыць ўбачанае. Уваход у сістэму тунэляў выглядаў як акуратны выраз у скальных пародах, як амбарныя вароты. Спускаўся Хуан па прыступках павольна і асцярожна, калі ж дасягнуў гарызантальных платформаў, прыбор паказаў, што ён спусціўся на глыбіню каля трохсот метраў.

– Ведаеш, дружа, – прызнаваўся мой новы сябар, – там я ўбачыў тунэлі прамавугольнага сячэння, шырыня іх мянялася, калі сустракаўся паварот на дзевяноста градусаў. Сцены пакрытыя лазурам і без швоў. Суцэльныя. Калі я ішоў далей, то на аднолькавай адлегласці знаходзіліся шырокія, у метр па дыяметры, вентыляцыйныя шахты. Перада мною адкрываліся дзівосы адзін за адным. Спачатку я зайшоў у вялізнае памяшканне, якое нагадвала канцэртную залу. Дзіўна, але я чуў незямную і дзівосную музыку. А ў цэнтры ўбачыў шырокі стол і троннае месца. Калі ж прыгледзеўся, то ўбачыў, што падлога спрэс застаўлена вылітымі з золата фігурамі жывёлін. А ля сценкі ўбачыў тыя фігуры ў натуральную велічыню. Стаялі маўкліва сланы, вярблюды, дыназаўры, бізоны, мядзведзі, ваўкі, ягуары. А пад іх нагамі знаходзіліся кракадзілы, крабы, слімакі.

– Фатаграфіі рабіў, Хуан?

– Рабіў, дзясяткі фотаплёнак патраціў. А калі іх пачаў праяўляць у лабараторыі, ніводнага кадра не ўбачыў – суцэльная засветка.

– Дзіўна.

– А якім было маё здзіўленне і шкадаванне! Я плакаў, трымаючы сапсаваныя плёнкі. Я потым ужо па памяці маляваў тых звяроў і птушак. Але найбольшым маім здзіўленне было… Трапіў я, дружа, у бібліятэку. Так, так, самую звычайную бібліятэку. Толькі не кнігі былі на паліцах, а тысячы і тысячы ціснёных металічных пласцін з чыстага золата. А памер іх, запісаў дакладна, без чатырох сантыметраў – метр – у вышыню, і без двух сантыметраў – паўметра – у шырыню. На кожнай значкі, іерогліфы,

геаметрычныя знакі. Кожная пласціна памечана нейкім асаблівым знакам, як быццам строгі бібліятэкар-архівіст прывёў усё ў парадак. Я там убачыў каменны амулет з выявай чалавека, які стаіць на глобусе, невялічкі, усяго адзінаццаць сантыметраў у вышыню.

– Узяў што-небудзь сабе?

– Ды ты што, сябра дарагі, нельга з падземнага царства нічога выносіць. Бо там і застанешся навечна… Я мог бы вынесці залатыя пярсцёнкі і бранзалеты, тыя ж залатыя пласціны, каб разам з вучонымі разгадаць надпісы ці пасланні да нас, але, але… Нас яны не запрашалі да сябе, таму мы, убачыўшы тое багацце, не павінны быць варварамі і зладзеямі.

Я пагадзіўся з ім. І стала для мяне галоўным правілам – глядзець можна, нават дакранацца, і то не голымі рукамі, а надзеўшы на рукі адмысловыя пальчаткі, а нешта браць і выносіць – жыццё даражэйшае, чым дарагія артэфакты…»

Ужо раніца прабівалася ў шчыліны адрынкі.

Прачытаў больш за палову рукапісу. Зноў паклаў на ніз, перавярнуўшы, аркушы з прачытаным тэкстам. Прачытанае ўразіла. І то былі не фантазіі нейкага аднаго чалавека, які хацеў здзівіць свет сваімі смелымі прапановамі і высновамі. Тут іншае. Цэлая плеяда вучоных і дапытлівых даследчыкаў уключылася ў вывучэнне глыбіняў зямлі…

Антона пачаў закалыхваць човен гісторыі, у яго прымружыліся вейкі, разлілася па целе млявая цеплыня… І ён нырнуў у абдымкі сну, аддаўся яго ўладзе. І паплыў у сне па тым тунэлі, які пачаў клікаць да сябе, абяцаючы новыя і цікавыя адкрыцці.

## 20

Ужо і месяц, і другі на вакацыях Антон Клімовіч у родных Крушніках.

Уліўся ў жыццё вёскі, у яе побыт, у яе праблемы. Размаўляў з людзьмі, адчуваў, што яны нешта не дагаворваюць, штосьці хаваюць глыбока ў душы, не хочуць дзяліцца ўнутраным болем.

Пасля таго, як у вёску даставілі вайскоўцы дзве цынкавых труны, людзі здранцвелі: хто паслаў хлопцаў некуды ў далёкую краіну Афганістан, каб яны ваявалі невядома з кім, невядома для чаго і з-за чаго. Тыя, хто прывёз нябожчыкаў, забаранілі нават ускрываць труны. Такога не было ў жыцці крушнічанаў, каб перад тым, як пахаваць чалавека, не дазволілі ні паглядзець на твар ягоны, ні пацалаваць на развітанне… Забаранілі нават пісаць нейкія словы на мармуровых помніках.

Палову вёскі вынішчылі нкусаўцы ў трыццаць сёмым, невінаватых адпраўлялі на той свет, паслаўшы ў патыліцу кулю з савецкага нагана. Значыць, вынішчэнне людзей працягвалася і да апошняга часу. Толькі ніхто не ведаў, у чым і перад кім былі вінаватыя маладыя крушнічане?

Прайшло столькі часу, а Антон так і не завітаў да дзеда ў кузню. Недзе ўжо і сорамна стала. З тыдзень назад Антон бачыў яго здалёку, у краму прыходзіў, мо хлеб купляў. Ён і не затрымаўся ў краме, тут жа выйшаў і падаўся па сваіх клопатах. Так і не паспеў падысці да яго, перакінуцца словам.

І толькі тады ўжо, калі прыйшла нядзелька, калі перапыніліся працоўныя клопаты, наважыўся Антон завітаць у кузню.

– О, мой унучак-праўнучак рашыў праведаць мяне! – усклікнуў каваль, узняўшы радасна рукі. – Столькі часу ў вёсцы, а толькі цяпер рашыўся завітаць.

Антон вінавата ўсміхаўся, падыходзячы да дзеда, абняў яго, прытуліў да сябе.

– Вінаваты, дзядуля, вінаваты. Ды часу ўсё неяк бракавала. Памагаў бацькам.

– Ды ведаю, ведаю, малайчына, што памагаў, а не біў лынды.

– Я заходзіў да цябе ў хату, але там усё зачынена. Нават і бабуля Аўдоля некуды сышла.

– Так, я рэдка дома бываю. Усё тут. І начую тут. У краму калі збегаю за хлебам, а так… А Аўдоля па лесе блукае, лекавыя травы збірае, на гарышчы сушыць.

Каваль у заўсёдным сваім адзенні – брызентавы фартушок, матузкі якога завязаны ззаду. Такі ж разважлівы, не мітусіўся, павольна раскладаў свае прылады. Пасачак прыціскаў па ўсёй галаве сівыя валасы, у вачах свяцілася задаволенасць, яшчэ – радасць, што да яго прыйшоў унук.

– Дапамога твая трэба, нябож. Корд мне трэба вырабіць. Адзін чалавек папрасіў.

– Што павінен рабіць?

– Вось гэтую металічную рэч трэба распляскаць. Ты павінен пад горанам распаліць дабяла і пакласці на кавадла. А я молатам буду прыдаваць патрэбную форму. Толькі і ты накінь фартух.

Каваль усунуў у вугаль тоўстую металічную пласціну і пачаў разаграваць агонь. Калі пласціна стала белай, загадаў памочніку:

– Хапай абцугамі і кладзі перада мной.

Унук хуценька выканаў загад, паклаў на кавадла белы метал, трымаў моцна.

Стары занёс над галавой молат, апусціў на разагрэты метал. Адляцелі іскры, упалі на зямлю, некалькі ўдарылася аб брызент Антона. Адна іскрына пеканула ўсё ж у руку, упілася ў цела, да касці прайшла… Не звярнуў увагі, хаця цярпеў з усіх сіл…

Адзін удар, другі, трэці…

– Пераварочвай! – гучыць новая каманда.

Зноў удар, другі…

– У агонь кладзі!

Антон занёс і паклаў пад сапло горана, пачаў пампаваць паветра. Дачакаўся, калі метал зноў стаў белым, хуценька панёс на кавадла.

А каваль б'е і б'е молатам, зноў загадвае перавярнуць. Ужо і блішчаць кроплі на ілбе дзеда, але ён зноў і зноў падае новыя каманды. Толькі праз гадзіну недзе каваль апусціў молат на зямлю. Потым узяў абцугамі расплясканы кавалак, панёс да бочкі і апусціў у ваду. Пачулася шыпенне, і ўзляцела пара.

Даставаць з вады не спяшаўся. Скінуў фартух, павесіў на вялікі цвік, прымацаваны ў сцяне. Туды ж павесіў сваю амуніцыю і памочнік. І тады толькі зірнуў на руку – яна крывяніла.

– Дзед, у цябе ёд ёсць?

– Навошта?

– Паглянь…

Дзед узяў руку ўнука, прыгледзеўся да раны:

– Ого! Калі ж ты паспеў атрымаць рану?

– Вось цяпер і атрымаў.

Каваль, пільна прыгледзеўшыся да ранкі, учапіў пазногцямі вострую драбінку металу, рэзка вырваў яе з цела. Не адчуў болю, не скрывіўся. Ёд знайшоўся, і бінт знайшоўся. У каваля на ўсялякі выпадак была аптэчка, куфэрачак прымацаваны да сцяны. Апрацаваў рану, перавязаў бінтам.

– Ну, во, пакуль жаніцца, то і загаіцца.

– Дзякую, дзядуля.

Каваль узяў з тумбачкі кітайскі тэрмас, адкруціў закрутку, паналіваў у кубкі гарбаты. Сядзелі, маўчалі, адхлёбвалі пахкі напой маленькімі глыткамі. Ніхто не робіць такую гарбату, як дзядуля. Ніхто не ведае, з якіх зёлак ён робіць свой адмысловы напой, рэцэпт нікому не раскрываў.

– Кашаед дзе?

– Тут. Ён цябе чакае. Ты ж сказаў, што ў наступнае тваё наведванне мы ўсе разам выправімся падарожнічаць. Вунь ён сядзіць, дзе ты яго і пакінуў падчас апошняга развітання.

Ігнат як быццам пачуў, пра што гаварылі ўнук з дзедам, павярнуўшыся ў іх бок, прывітальна памахаў рукой. Усміхаўся, гледзячы на іх.

«Дык што, ён тут столькі часу праседзеў, як мы развіталіся? Мы ж не бачыліся некалькі месяцаў? Што, ён тут за вартавога ў дзеда?»

У адказ Клімовіч таксама памахаў рукой, выставіўшы пяцярню.

– Дык ты, дзед, прапаноўваеш адправіцца з табою ў твае руднікі?

– І не толькі ў мае. Ты прачытаў рукапіс?

– А ты адкуль ведаеш пра рукапіс? Я яго нікому не паказваў.

Каваль усміхнуўся, заківаў галавой:

– Хіба ж існуюць такія тайны, пра якія б я не ведаў? Ведаю, што тэчку ты не ўкраў, ты яе знайшоў на сядзенні ў аўтобусе.

«Няйначай, ён усё бачыць, нават і не знаходзячыся на тым месцы. Сапраўды, ад яго нельга нічога схаваць, і не схлусіш яму, бо адразу адчуе няпраўду…»

– Так, знайшоў. Трэба аддаць. У выдавецтва занесці.

Каваль паглядзеў на ўнука, пацікавіўся:

– А ён прасіў цябе аб гэтым?

– Не. Але ж ён забыўся на яе…

– Не забыўся, ён падараваў яе табе. Каб ты шмат часу не траціў, шукаючы інфармацыю. Бо ўсё роўна ты не знайшоў бы ў бібліятэках, бо яе, гэтай тэмы, не існуе.

«Адкуль ты, дзед, ведаеш пра тое? – думкава дапытваўся ў каваля будучы гісторык. – Як быццам ты адзін валодаеш тымі сакрэтамі».

Не чуў, як падышоў Ігнат, трымаючы ў руцэ сшытак. Падаў руку.

– Мы тут з Міхалам Дзям’янавічам зачакаліся цябе, і ўсе чаканкі паелі.

– Не гатовы быў. Прачытаць трэба было шмат неабходнай літаратуры.

– Прачытаў?

– Усё прачытаць немагчыма, але галоўнай інфармацыяй я валодаю, – адказаў Клімовіч, адпіваючы гарбату.

– То і цудоўна! – усклікнуў ён. – Так што экіпаж у складзе трох чалавек гатовы адправіцца ў таямнічыя дарогі Міхася Дзям’янавіча. Ён у нас будзе за капітана і за камандзіра. Слухацца яго мы павінны ў вуха.

Антон дапіў гарбату, паставіў кубак на паднос.

– Дзед, што з сабою браць? Мо фотаапарат захапіць? Купіў нядаўна.

– Не, нябож, там ён не спатрэбіцца, бо ніводнага кадра ты не атрымаеш – засвечваецца плёнка. Там і ўзровень радыяцыі высокі, выпраменьваюць руднікі.

– Зразумеў.

«Шкада, а там жа такія відовішчы можна зазняць, напісаць артыкул пра падзямелле, ды далучыць унікальныя фоты. Ці там нешта зусім іншае, чым апавядаецца ў рукапісе? Але як бы яно ні было, найлепш на свае вочы пабачыць тое, што сустрэнецца».

– Калі вы гатовы, то пачынаем. Пачынаем з малітвы, якая і будзе дазволам на нашае падарожжа: «Ойча наш, існы ў нябёсах, Тваімі найсвяцейшымі вуснамі сказана, што без цябе нічога не можа быць распачата, нічога не можа быць завершана. Божа, дай нам плён у нашым падарожжы, і мы нічога не парушым з Тваіх запаветаў, з чыстай душой і светлымі помысламі адпраўляемся ў Твае ўладанні, бо гэта Ты стварыў Неба і зямлю… Вярні, Божа, нас назад жывымі і здаровымі, захавай нашы душы. Амінь».

Паўтаралі словы малітвы за дзедам, шчыра вымаўляючы кожнае слова. Стары падняўся першы. Следам падняліся і яго госці. Ён раскрыў дзверы, сам першы пераступіў парог. Перад ім закалыхалася празрыстая тканіна, і ён увайшоў у яе. Яна тут жа абхапіла яго, агарнула з ног да галавы, і ён ужо бачыўся ў іншым адзенні, а твар апынуўся ў бліскучым скафандры.

Наступным зрабіў крок Антон. І перад ім заблішчэла цэлафанавая тканіна, абвіла яго ўсяго, быццам пялюшкамі абгарнула. За ім пайшоў і Ігнат.

Камандзір падышоў да стэлажа, дзе на вешалцы віселі такія ж празрыстыя, быццам надзьмутыя, пальчаткі. Ён падняў дзве рукі, усунуў іх у адну пару, і яны, рэзка зменшыўшыся ў памерах, абляпілі рукі. Тое ж паўтарылі за ім і хлопцы.

«Цікава, Ігнат першы раз ідзе ў сутарэнні дзеда, ці наведваў іх раней?»

Дзед, паглядзеўшы на «турыстаў», пачаў спускацца па прыступках. Яны крочылі следам. Каваль ішоў павольна, крокі яго размераныя і ўпэўненыя. Ім не перашкаджалі касцюмы, якія насунулі на сябе, быццам іх і зусім не было на іх. Толькі нейкая лёгкасць адчувалася ў целе, спружыністасць, і чым больш мы спускаліся, адчувалі, што ідзем глыбей і глыбей, адначасова страчваючы вагу, – здавалася, адштурхніся ад зямлі і паляціш некуды наперад ці ўвысь.

Не патыхала ні вільгаццю, ні затхласцю, нас суправаджаў павеў ветру, і быў ён чысты і свежы. А ніякіх вентылятараў нідзе не відаць, незразумела, хто падаваў у той грот паветра.

Клімовіч акінуў вокам столь і сцены. Падалося, што знаходзіцца на нейкай станцыі метро, апускаецца ў такі ж тунэль. Толькі там людзей падымаў і апускаў эскалатар, а тут ніякай тэхнікі. Столь – высокая, бачна ці то цагляная кладка, ці накшталт яе. Дакрануўся да сцен: ніякай шурпатасці, быццам пакрытыя палівай, гладкія, рукі ні за што не чапляліся.

Унізе, падалося, стала ярчэйшым святло.

Каваль азірнуўся, паглядзеў на спадарожнікаў:

– Не стаміліся?

Унук адмоўна пакруціў галавой. Ігнат не адказаў.

– Ужо хутка. Праз кіламетр будзем на месцы.

«Праз кіламетр? – здзівіўся Антон, гледзячы ў прадонне. – А здаецца, што да святла крокаў дзвесце…»

Далей ішлі моўчкі, перастаўляючы лёгка ногі. Слабае рэха ўзлятала пад столь, адразу ж глухла.

Нарэшце ступілі на апошнюю прыступку і сышлі на паверхню. Яна была роўнай і гладкай, як шкло. І не слізкай. Так што пасля трох-чатырох крокаў Клімовіч пайшоў упэўнена, не гледзячы ўжо пад ногі.

– Тлумачу, – спыніўся дзед, – гэта вузлавая станцыя. Адсюль, звярніце ўвагу, разыходзяцца тунэлі ў розныя бакі – на ўсход і захад, поўдзень і поўнач. На чым ці на якім транспарце перасоўваліся жыхары падземкі, раскажу і пакажу пазней. А пакуль пайшлі ў мае руднікі.

Экскурсавод пайшоў першым. Дайшоўшы да першага тунэля, які рэзка паварочваў на дзевяноста градусаў леваруч, спыніўся. Паказаў моўчкі, што трэба было ісці следам, паскорыў крок. А потым ад гэтага тунэля зноў адгалінаванне – ужо ў правы бок. Не было ценяў, але нейкае нябачнае святло асвятляла дарогу.

Пайшлі следам, і перад імі раскрылася прасторная і шырокая пляцоўка. У цэнтры яе зіхацеў, слаба пераліваючыся таямнічым агнём, жоўта-чырвоны валун. Вышыня грота дасягала недзе метраў дваццаць, і верх валуна як не ўпіраўся ў столь.

«Хто і як змаглі зацягнуць яго сюды? – адразу ж узнікла пытанне. – Валун не мог прасунуцца ў тунэль…»

– Я ў вас пытаўся, ці не даставілі б вы мне залаты метэарыт, – прамовіў экскурсавод, не адрываючы позірк ад глыбы, – але я жартаваў. Перад вамі і ёсць залаты прышэлец з космасу – адкалоўся ад вялізнага метэарыта і ўпаў на зямлю. Тое здарылася дзвесце мільярдаў гадоў таму. Скажыце, сапраўды цуд космасу?

Будучы гісторык не паверыў сваім вачам. Ніхто ў свеце не бачыў такі самародак. Ніводнай краіне не ўдавалася авалодаць ім. Бо калі б тое здарылася, свет бы перавярнуўся і перакуліўся.

Недзе ў дальнім кутку, завалочаным цёмнай шэранню, пачуўся незразумелы шолах, быццам церліся адно аб адно лускою ці то рыбіны, ці нейкія жывёліны.

Убачыўшы трывожны і насцярожаны пагляд унука, каваль супакоіў:

– То ахоўнікі залатой глыбы. Калі хто дабярэцца сюды са злымі жаданнямі і паспрабуе адшчыкнуць хаця б грам залатога маналіта, яны праглынуць яго. Мы ж выпрасілі дазвол прыйсці сюды, і ў нас няма злых намераў, таму яны, ахоўнікі, і не набліжаюцца да нас.

– А хто яны – ахоўнікі?

– Змеі з чалавечымі галовамі, маюць яны крылы, лётаюць ў небе. Але не пра іх сёння гаворка.

Цяжка было адарвацца ад жоўтага метэарыта, ён быў нейкі загадкавы, прыцягальны, таямнічы. Ён як бы прывязваў падарожнікаў да сябе, як быццам нешта шаптаў магічна-чароўнае, наводзіў сон, каб прышэльцы, страціўшы пільнасць, засталіся тут назаўсёды…

– Так, хопіць любавацца, доўга тут заставацца нельга, рызыкоўна, пайшлі адсюль! – як не загадаў экскурсавод. – Кругом!

Выйшлі з грота і выдыхнулі. Нейкі цяжар спаў з іх вачэй, пасвятлелі вочы.

– А вось тут мае руднікі, – правёў далей каваль сваіх гасцей. – Тут я бяру метал для сваёй працы. Мне дазваляюць тое рабіць.

Зноў спусціліся па прыступках. Тут была іншая атмасфера, іншае асвятленне. Тут быццам бы існаваў беспарадак, але беспарадак дзіўны, незразумелы. Нехта адбіваў ад сцяны кавалкі плаціны і нефрыту, зіхацелі таямнічым святлом сапфіры і срэбра, ірыдый і осмій, паладый і рутэній… У адным месцы ўсё складзена ў акуратную горку, а праз колькі дзясяткаў метраў іншыя высакародныя металы рассыпаны ў беспарадку.

– І ты адзін, дзед, валодаеш гэтым багаццем? – здзівіўся студэнт, не адрываючыся позіркам ад зіхоткай гары.

– Чаму – валодаю? Я проста маю доступ да гэтага, але не маю права выносіць нічога адсюль. Гэта залатое правіла, якога прытрымліваюцца кавалі. І Дзям’ян з Ігнатам – злата-кавалі – не парушаюць запавет тых, хто стварыў усё гэта.

– Дык і ты, дзед, злата-каваль?

– Пакуль не, – усміхаецца экскурсавод, – а вось калі я выкую нешта цудоўнае і фантастычнае, калі яны пахваляць мяне, то і я, можа быць, буду мець такое званне.

Старшы групы, убачыўшы, што прайшло ўзрушанне ў яго турыстаў, павярнуўся і пайшоў да выхаду. Далей у глыбіні сваіх руднікоў ён падарожнікаў не павёў, дастаткова было і таго, што яны ўбачылі, і будуць мець уяўленне пра яго шахты.

Клімовіч ішоў следам, ззаду ўсіх, не адстаючы крочыў Ігнат. Не ведаў, пра што ён думаў, не пытаўся нават, ці прыходзіў ён калі сюды, трэба будзе, раскажа, а пакуль не праяўляў такой цікавасці.

Дзед завёў іх у новы, яшчэ больш прасторны грот, з яшчэ больш высокай столлю.

– Тут знаходзіцца актавая зала, – патлумачыў ціха. – Тут я калі-нікалі бываю, магу суткамі знаходзіцца. Тут добра думаецца, светла мроіцца.

Сапраўды актавая зала. Сядзенняў мо з некалькі тысяч, а мо і больш. Зроблены яны ці то з нейкага невядомага дрэва, ці з адмысловага бетону пад дрэва. Калі селі на іх, ад крэсла не сыходзіў холад.

– Тут знаходзіцца і бібліятэка, і архіў, і карцінная галерэя.

– Дзед, каб мы не выглядалі невукамі, я ў крайнім выпадку, не ведаю, як Ігнат, каб я не выглядаў невукам, раскажы мне пра сваё царства-валадарства.

– Добра, – пагадзіўся экскурсавод, падняўся з крэсла, пайшоў на сцэну, стаў за кафедру-трыбуну, там ужо дасказаў: – Абавязкова трэба расказаць, хаця ты і без майго тлумачэння што-кольвечы пачарпнуў з рукапісу невядомага вучонага-даследчыка…

Тое, пра што гаварыў каваль, і як гаварыў, мне здалося, што ён працягваў чытаць той рукапіс пра падземныя цывілізацыі.

«Ці не ты сам мне падсунуў той рукапіс? – варухнулася ў мяне падазрэнне. – Але як ты мог ператварыцца ў зусім іншага чалавека?!»

І гаварыў ён пра тое, што загадка старажытных падземных тунэляў як і загадка рукатворных збудаванняў, яшчэ не раскрыта. Але іх, як ні дзіўна, знаходзяць на ўсіх кантынентах зямлі. Хто і калі, з якой мэтай іх стварыў, спецыялісты і вучоныя ніяк не могуць прыйсці да агульнага высновы.

Міхал Дзям’янавіч сустракаўся з польскім даследчыкам Янам Піенкам, дык той упэўнена сцвярджаў і пераканаңы ў тым, што старажытныя хады-тунэлі апаясалі ўсю Зямлю, яны праходзяць нават пад акіянамі. Тыя тунэлі выпалены нейкім звышмагутным агнём у некалькі тысячаў градусаў, таму сценкі і аказаліся такімі аплаўленымі. Праз іх не можа прасачыцца ніводная кропля вільгаці. Расплаў горных пародаў з цягам часу зацвярдзеў, і стаў падобны на шкло. Ніхто ў свеце са спецыялістаў горнага праходжання не валодае такой звышвысокай тэхналогіяй.

Этнолаг з Аргенціны Хуан Морыц сказаў, што ўзрост самых старажытных тунэляў можа дасягаць мільёны гадоў, нават і больш. Гэтую заяву ён зрабіў пасля таго, як узначаліў экспедыцыю і спецыялісты даследавалі правінцыю Марона-Сант’яга ў Эквадоры. Яны склалі мапу тунэляў, якія знаходзяцца на глыбіні зямлі каля двухсот пяцідзесяці метраў.

Не пярэчыць ім і амерыканскі спецыяліст Эндру Томас. Ён сцвярджае, што старажытныя падземныя тунэлі пракладзены праз Паўночнаамерыканскі кантынент, а пасля злучае яго з Еўропай і Усходняй Азіяй. Як правіла, па шляху тунэляў, праз нейкую адлегласць, сустракаюцца «перакрыжоўкі», як вуліцы ў гарадах, толькі няма там святлафораў. Іх можна назваць вузламі, станцыямі ці злучэннямі шляхоў. На адной з такіх вузлавых станцый, якая знаходзіцца пад гарой Шаста ў Каліфорніі, пабываў Эндру. Ён і вызначыў, што з таго месца адна галіна кіруецца ў

вялікую пустэчу, якая вядзе яшчэ глыбей – пад дно Ціхага акіяна, зноў жа – непадалёк ад Каліфорніі.

Але галоўным вузлом усіх дарог-тунэляў з'яўляецца Тыбет. Ад яго разыходзяцца тысячы падземных тунэляў, у якіх ідэальна гладкія сценкі.

– Я сустракаўся з будыйскімі манахамі, – працягваў свой аповед экскурсавод, – дык яны мне сказалі, што там, у глыбінях гор і зямлі, і знаходзіцца славутая Шамбала. І ў ёй жывуць незвычайныя і загадкавыя людзі – пасвячоныя. Яны сядзяць у дрымоце, і ў такім стане знаходзяцца некалькі мільёнаў гадоў. Розныя па памерах – маленькія, як ліліпуты, і людзі-волаты, пад тры метры вышынёй. Калі здарыцца, што на паверхні зямлі непапраўнае, то яны і стануць новым генафондам чалавецтва. А тыя, пасвячоныя, якія не знаходзяцца ў летаргічным сне, жывуць сваім жыццём і займаюцца сваёй працай – перасоўваюцца па тунэлях на апаратах, у якіх хуткасць нашмат большая за светлавую. На такім прыстасаванні я і вас пракачу…

Міхась Дзям'янавіч сышоў па прыступках, сеў побач. Ён бачыў здзіўленне і ўзрушанасць сваіх спадарожнікаў, усміхаўся. Мусіць, даваў магчымасць пераварыць пачутае. Ігнат задумлівы, глядзеў некуды наперад, быццам яго не ўсхвалявала пачутае, не ўзрушыла.

– Ігнат, ты ўвесь час маўчыш, – ці табе нецікава, ці ты тут свой чалавек? Ці гэта вы з дзедам, як дасведчаныя гаспадары падземнага царства, пасвячаеце мяне ў яго тайны?

– Пасвячаем, пасвячаем, – пачуўся адказ. – Няўжо табе не падабаецца?

– Наадварот, я не магу выраўняць свой душэўны стан да нормы. І не марыў, і не сніў пра такое…

– Ну во, а то прыстаеш са сваімі пытаннямі. Не тут пытайся, а там, у дзедавай кузні, як вернемся.

– Даруй, мусіць, ад высокай радыяцыі ў мяне дах паехаў.

– Вучыся стрымліваць свае эмоцыі.

– Добра.

Усталявалася маўчанне. Хаця і ўзнікла процьма пытанняў, студэнт пастараўся не высоўвацца з імі, як і раіў Ігнат. Але на дапамогу, як адчуваючы маю прагу, прыйшоў дзед.

– Пра тунэлі нельга нічога сказаць грунтоўнае. Што цікава, чым старэйшыя і глыбейшыя, тым больш яны ўдасканалены і дакладней арыентаваны. Калі ўзяць узрост дванаццаць тысячаў гадоў, якія знойдзеныя ў Заходняй Еўропе, то яны самыя «маладыя» і канструктыўна вельмі недасканалыя з усіх знойдзеных старажытных падземных збудаванняў. Але нават і яны, пра якія можна сказаць, зроблены груба і «неахайна», не ма-

глі быць зроблены першабытнымі людзьмі, якія ў далёкія часы насялялі нашую планету. А калі наша ўяўленне сігане ў дасканалыя хады-выхады, якім дзясяткі тысяч і мільёны гадоў, то што мы можам падумаць? А думка ці адказ адзін: некалі, у далёкія-далёкія-далёкія часы на планеце Зямля сапраўды існавала нейкая высокаразвітая цывілізацыя! Толькі па незразумелых прычынах яна знікла з паверхні Зямлі, пакінуўшы на ёй нашых продкаў – нецывілізаваных, без адукацыі, без ведаў новых тэхналогій і збудаванняў. Розуму ў нашых продкаў хапіла на тое, каб вырабіць… каменную сякеру. І доўга не маглі навучыцца здабываць агонь і плавіць метал. Мусіць, тое ўменне дасталося Адаму, які ўпершыню зрабіў залатыя дрындушкі і пацеркі для сваёй жонкі Евы…

Ці шмат яшчэ дзівосаў адкрыецца будучаму гісторыку?

**21**

– Пайшлі далей, – прапанаваў гаспадар падзямелля. – Сходзім у бібліятэку.

Прайшлі па тунэлі, які адгаліноўваўся ў правы бок. Праз крокаў дваццаць перад імі адкрылася новае гротавае памяшканне шырынёй і вышынёй у трыццаць-сорак метраў. Леваруч стаяла празрыстая ці то шафа, ці доўгі «пенал». Ад зямлі да верху на тоненькіх жэрдачках прымацаваны залатыя пласцінкі. Адзін рад – аднаго памеру, вышэй – другога.

Антон узяў у рукі адну з іх, пачаў углядацца. На паверхні выціснуты нейкія значкі, іерогліфы, літары і лічбы. Што яны азначалі, невядома.

Да іх падышоў каваль, патлумачыў:

– Гэта змест кніг, лістоў да нас. Тут мільёны і мільярды карысных звестак, тут сабрана ўся інфармацыя пра жыццё людзей з высокай цывілізацыі. Мы знаходзімся на самым верхнім узроўні іх жыцця. А пад намі другі, трэці і чацвёрты ўзроўні. Мо і глыбей. Мы можам апусціцца да іх ніжэй, сустрэцца з імі, пабачыць іх гарады і паселішчы, фабрыкі і заводы з высокімі тэхналогіямі, – але толькі пасля таго, як прачытаем пісьмёны, скіраваныя да нашага розуму… А мы іх пакуль не прачыталі.

Пласцінкі мелі адбіткі з двух бакоў. Мусіць жа сам чалавек не здольны іх прачытаць, гэта пад сілу нейкай машыне, нейкай ЭВМ ці больш дасканалай тэхніцы, бо вунь і зазубрынкі на кожнай, круглыя адтулінкі, якія накладаюцца на нейкі штыр ці выступ і замацоўваюцца. І ўзяць хаця б адну з іх, каб паспрабаваць расшыфраваць, нельга – прымацаваныя да жэрдачкі.

Міхал Дзям’янавіч завёў турыстаў і яшчэ ў адзін грот. Маўчаў, нічога не тлумачыў. Процьма стэлажоў, як у нейкім музеі ці архіве.

Ваенная амуніцыя – такая ж, як і ў кузні. Корды, дзіды, шчыты. Нейкі маленькі куфэрачак, каля яго подпіс «Пячатка Вітаўта». А на суседнім стэлажы, кожны можа пазнаць, у поўнай сваёй красе ляжаў крыж, які вырабіў для прападобнай Еўфрасінні Лазар Богша. Біблія Францішка Скарыны. Божа, адкуль гэтае багацце прыйшло сюды?

– Нічога не разумею, – уздыхнуў Антон, усе ж лічылі, што гэтыя рарытэты згублены!

– У гісторыі нічога не губляецца. Усе каштоўнасці знаходзяцца тут. І пячаткі, і пярсцёнкі з дыяментамі, і каралі князёўнаў і каралёў. Тут нічога ніколі не прападзе, тут жывуць надзейныя ахоўнікі, такія ж, як і ахоўваюць залаты метэарыт.

– Дык можа тут захоўваецца і царскі бурштынавы пакой?

– Можа.

– І напалеонаўскія клады, золата Калчака, золата скіфаў?

– А чаму б і не.

– Знікаюць цывілізацыі, знікаюць людзі, а пасля іх застаюцца такія рарытэты. Чаму ж знікаюць цывілізацыі, а пасля іх мяняецца жыццё на зямлі, і не заўсёды ў лепшы бок.

Антон прамовіў ні да каго канкрэтна, ён проста выказаў сваё шкадаванне, што час няўмольна бяжыць наперад, а нешта застаецца нязменным і мільёны гадоў застаецца ў ранейшым выглядзе. Як той жа Сфінкс, які глядзіць у вечнасць, у будучыню і ў мінулае, як бы папярэджвае тых, хто спыняецца каля яго, пра тое, што яны на гэтай зямлі жывуць мільённыя долі секунды, расцягнутыя ў часе, і самі не заўважаюць пра тое.

А на асобным месцы, асветленым таямнічым святлом, аднекуль знізу, стаяла дзіда – пікай уніз.

Падалося, што з яе сцякала кроў.

Турыст перавёў позірк на Міхася Дзям'янавіча, маўкліва папытаўся, баючыся памыліцца.

– Так, гэта тое кап'ё, дзіда, якім рымскі жаўнер пракалоў жывот Госпаду.

– Я ж чуў, што яно знаходзіцца дзесьці ў музеі Еўропы, і Адольф Гітлер імкнуўся завалодаць ім…

– То копія, падробка. Сапраўднае знаходзіцца тут – перад табой.

Унук нахіліўся і пільна прыгледзеўся да дзіды: кроў пульсавала, выцякаючы аднекуль з дрэўка, потым прасочвалася праз падстаўку і знікала. Сцякала раўнамернымі штуршкамі, быццам білася сэрца Хрыста і штурхала кроў па нябачнай вене…

Каваль нічога не гаварыў, але, узяўшы ўнука за локаць, ціхенька адцягнуў яго ад шклянога куба, у якім не было ніякай дзверцы ці акенца, і таму не зразумець, як паставілі туды дзіду.

Наступны грот і не выглядаў гротам. То была бясконцая прастора, на пярэднім плане, за крокаў трыста перад імі, узвышалася гара. На ёй, на самым версе, стаялі тры крыжы.

Клімовіч ад няяснага прадчування прашаптаў:

– Гэта – Галгофа, дзед?!

Замест адказу каваль наклаў на сябе крыж. За ім зрабілі тое ж яго спадарожнікі. Плылі па небе воблакі, здавалася, церусіў дробны дождж, неба і да гэтага часу аплаквала тысячагадовую трагедыю.

Здавалася, што нехта хадзіў каля тых крыжоў, унізе стаялі рымскія легіянеры і людзі. З іх не сышло яшчэ здранцвенне, і яны не адрывалі позірку ад крыжоў. Нехта плакаў, нехта галасіў, і ўдалечы грозна перакатваўся па гарызонце гром.

Антон памкнуўся ісці ў той бок, але яго пляча крануўся каваль:

– Нельга нам туды… Нельга.

Экскурсавод павярнуўся і павёў сваіх спадарожнікаў у адваротны бок.

– Як ты прачытаў у рукапісе паважанага вучонага, – паглядзеў на студэнта дзед, – то мог запомніць яго здагадкі ці пацвярджэнні: прычыны знікнення той цывілізацыі, якая пайшла пад зямлю, крыюцца ў іх уменні прадчуваць бяду, а канкрэтней, ядзерную вайну. Даследчыкі розных краін указвалі на мноства варонак-ямін на паверхні зямлі. Прыйшлі да высновы, пасля грунтоўнага даследавання глебы, што яны ўтварыліся ў выніку ядзерных выбухаў. Узрост ямін каля трыццаці тысяч гадоў. Самая глыбокая з іх знаходзіцца ў Паўднёвай Афрыцы. Яна ўтварылася ад ядзернага ўдару магутнасцю больш пяцісот тысяч у тратылавым эквіваленце, на Хірасіму амерыканцы скінулі бомбу ў дваццаць тысяч тон…

Як маглі людзі таго часу ведаць, што адбудзецца неўзабаве ядзернае бамбаванне? А раз маглі, то і зрабілі загадзя для сябе жытло пад зямлёй. Але і задоўга да іх жыла ж нейкая цывілізацыя, і тады не было ядзернай пагрозы. Тады для чаго яны і з якой мэтай былі пабудаваны?

– А цяпер пайшлі далей… У падарожжа выправімся. У Егіпет. Да пірамід. Даўно марылі пабыць там, ці не праўда? – запытаўся экскурсавод.

Клімовіч пацісгнуў плячыма – у Егіпет, дык у Егіпет.

Пайшлі назад, праз бібліятэку выйшлі на галоўны шлях. І дзед Міхась павёў іх далей. Павярнулі налева і зайшлі ў прасторны грот. У ім стаяла некалькі ці то аўтобусаў, ці празрыстых, быццам вырабленых са шкла, цыліндраў. Усе яны былі прыплюснутыя зверху, як тыя, пра якіх зямляне

кажуць – «талеркі». Не было і колаў, і не вядома, на чым яны трымаліся на грунце. Каваль падышоў да «цыліндра», перад ім рассунуліся дзверы. Зайшлі ў яго, селі на мяккія крэслы. За імі нячутна зачыніліся дзверы.

– Як той казаў – «Паехалі!». Рушым і мы.

Кіроўцы ў транспартным сродку не было, і невядома, па якім прынцыпе павінен ён рухацца. Дзед сядзеў наперадзе, але не дакранаўся ні да якіх рычагоў і не націскаў ніякія кнопкі. Сродак сам выруліў у галоўны тунэль, спыніўся. Праз момант вакол яго утварылася полымя, якое абпальвала сцены і столь, прыўзнялося трохі над падлогай, і нечакана рушыла наперад. Ніякіх гукаў, ніякага прыцяжэння не адчувалі, адчувалі сябе хіба як у звычайным легкавіку, які рухаўся наперад з сярэдняй хуткасцю. А ў гэтай істоты ці апарата хуткасць раўнялася светлавой. Вакол тэмпература ў тысячы градусаў, а ў салоне лёгкая прахалода.

Клімовіч не заўважаў, як апарат лёгка падлятаў да скрыжавання і далей імчаў наперад, зноў запавольваў ход і невядомая сіла несла яго далей з яшчэ большай хуткасцю.

– Харошае таксі, – адобрыў будучы гісторык, – але хто будзе расплачвацца за дастаўку?

– Ты і будзеш расплачвацца, – абазваўся Ігнат.

– А якімі грашыма?

– Тымі, па чыёй тэрыторыі мы імчым – грыўнамі, шэкелямі, рупіямі… – адказаў весела каваль.

– У мяне такой валюты няма, я толькі савецкімі магу, добра?

Але кіраўнік падарожжа прамовіў:

– Усё, панове, мы на месцы. Колькі прайшло часу? Чатыры хвіліны. Выходзім.

«Таксі» заехала ў такі ж «гараж», з якога выляталі. Само павярнулася да сцяны, апусцілася на падлогу. Камандзір групы першы рушыў да выхаду, за ім выйшлі і яго спадарожнікі. Потым каваль падвёў іх да варот без дзвярэй, дзе пачаліся прыступкі, якія вялі некуды ўверх. Стаўшы ў адзін рад, пачалі паступова падымацца.

– І дзе мы цяпер знаходзімся? – упершыню папытаўся жыхар Лельчыцаў.

– Пад пірамідай Хеопса. Яе лакатары наладжваюць сувязь з іншымі планетамі і цывілізацыямі. Нябачны прамень з вяршыні гэтай піраміды сягае на мільярды кіламетраў да другіх пірамід, збудаваных на далёкіх планетах. Нехта ж наладзіў такое адзінства, прадстаўнікі планет абменьваюцца штохвілінна інфармацыяй аб стане жыцця на кожнай планеце.

Антон удзячна зірнуў на сябра – і яму хацелася папытацца ў дзеда пра тое ж. Камандзір нічога не гаварыў, маўчаў. Падышлі да металічных

дзвярэй. Каваль сагнутым пальцам тры разы пастукаў па бліскучай паверхні. Дзверы адчыніліся, і на парозе паказаўся невысокага росту чалавек. Твару яго не відаць – хаваў насунуты на вочы капюшон.

– Я чакаў цябе, Міхаэль, – ціха прамовіў невядомы, – праходзь.

– Са мной госці.

– І госці няхай праходзяць, рады гасцям.

Чалавек павёў іх некуды па светлым калідоры, расчыніў перад імі наступныя дзверы, яшчэ вышэйшыя, чым перад гэтым. Прайшлі ў залу з высокімі вокнамі, праз якія люстравалася зыркае сонечнае святло.

– Сядайце, – запрасіў, паказаўшы на крэслы, гаспадар. – Частуйцеся.

У вялізнай місе высілася горка яблыкаў і груш, у другой – вінаград. Наліў у кубкі апельсінавага соку, паставіў перад кожным.

Сам сеў у крэсла. Толькі тады скінуў з галавы капюшон, паглядзеў адкрыта на іх. Добразычліва ўсміхаўся, гледзячы, як яны пачалі частавацца садавіной і цытрусавымі.

– Як жыццё там, на зямлі, Міхаэль – сын Дзям'яна? Даўнавата ты не праведваў мяне.

– Так, Сірыус, даўнавата. Клопатаў шмат, не магу разарвацца.

Сірыус уздыхнуў:

– Клопаты, клопаты, у каго іх, дружа, няма? Рашыў проста праведаць мяне, ці якая дапамога трэба?

– Ды не, вось рашыў сябрам паказаць лабірынты дарог, да цябе на гадзінку завітаць. А ты раскажы ім пра піраміду, у якой ты служыш тысячы гадоў.

Сірыус скінуў балахон, паклаў на спінку крэсла. Падышоў да акна, рассунуў блакітныя шторы, паглядзеў на наваколле.

– Калі цікава, раскажу. Вы цяпер вынайшлі спадарожнікавыя антэны. А піраміды і з'яўляюцца імі, гэта цэлы комплекс міжпланетнай сістэмы сувязі. Хеопс прызначаны для прыёму і перадачы паведамленняў з далёкага космасу, а форма і арыентацыя для вас незразумелая. Наша антэна зроблена лепш, чым вашая «талерка». Чаму? А таму, што мой Хеопс працуе бездакорна: адбываецца пераламленне промняў, накшталт аптычнай лінзы вашага фотапарата, а фокус цалкам супадае з месцам у пахавальнай камеры, дзе стаіць вялізны гранітны саркафаг.

– Мы лёталі з маім сябрам у галактыках, бачылі тыя піраміды на іншых планетах, – асцярожна перабіў Сірыуса Ігнат. – Значыць, усё звязана ў адзін вузел?

– Так, дарагі мой госць, звязана. Такія піраміды ёсць на Месяцы і Марсе, а выхады з шахтаў Хеопса дакладна скіраваны на сузор'і Арыёна

і Сірыуса, Вялікага і Малога Воза… Піраміда Хеопса гэта толькі айсберг у акіяне часу. Вы ведаеце, колькі кіламетраў гэтага збудавання схавана ў зямлі? Каля ста сарака кіламетраў. Такіх «высотак» нідзе ў свеце няма.

Сябры пераглянуліся, не паверыўшы. Для кіраўніка падарожжа, мусіць, тое навіной не з'яўлялася.

Сірыус падышоў да сцяны, лёгкім рухам рукі падняў заслону, якая раздзяляла пакоі, і госці ўбачылі, як на трох сценах, ад падлогі да столі, мігалі лямпачкі і ўспыхвалі слабымі агеньчыкамі акенцы экрана.

– Гэта пульт кіравання, – патлумачыў гаспадар, – і сувязі з іншымі планетамі. Мы прымаем інфармацыю і перадаём людзям пятага ўзроўню. Хто такія? Вы прыляцелі да нас па тунэлях першага узроўню, ніжэй – другі ўзровень, пад імі – трэці, а далей ужо чацвёрты і пяты. Там і жывуць прадстаўнікі дагістарычнай цывілізацыі. Для іх і трэба тая інфармацыя, якую перадаюць сусветы.

Зноў апусцілася перагародка, схаваўшы «мазгавы цэнтр» тэлевізійнай сувязі.

За акном, удалечы, віднелася выява магутнага Сфінкса. А мо то птушка фенікс, родам з Палесся, ператварылася ў такую істоту, мільёны гадоў чакае, калі яе разбудзяць, адгоняць ад яе сон, і тады яна вымкне ў неба, распластаўшы над вялізнай пустыняй свае магутныя крылы?

Сфінкс глядзеў на іх. Пранізваў сваім позіркам. Але не канкрэтна кожнага з іх, а скрозь іх – праз мільярды гадоў, не заўважаючы нават іх, не бачачы іх, прасвечваў іх душы і сэрцы. Дзіўнае стварэнне – напамінае льва, а галава чалавечая. І мудрая галава, разумная, і нехта ж уставіў у галаву звышмагутны мозг, звышмагутную апаратуру. І, мусіць, той жа Сфінкс кіраваў Сусветам, даваў яму жыццё, аберагаў чалавецтва ад землятрусаў і навадненняў, ад завірух, вятроў, ад памылак і няправільных дзеянняў…

Сірыус адышоў ад акна. Заклапочана падумаў пра нешта. Паглядзеў на сваіх гасцей.

– Раз вы ў мяне ў гасцях, то я павінен пазнаёміць і з іншымі маімі пакоямі. Ідзіце, калі ласка, за мной. Цябе, Антон, сябры празвалі летапісцам? Будзеш ім. І сваё падарожжа можаш апісаць у сваіх кнігах.

– Дзякую, Сірыус!

Гаспадар павёў іх праз адныя дзверы, праз другія, апусціліся ніжэй на адзін паверх, спыніліся перад высокімі і шырокімі, ці то з плаціны зробленыя, ці іншага каштоўнага металу. Па ўсёй плоскасці, па перыметры, выявы жывёл і птушак, у цэнтры круглае сонца, а ад яго адыходзяць промні і дакранаюцца да галоваў людзей, да іх грудзей.

Яны нячутна расчыніліся перад гасцямі, раз'ехаўшыся ўправа і ўлева.

Зноў першым пайшоў Сірыус, позіркам паказаў, каб ішлі следам. Апошнім ішоў каваль. Антон не ведаў, ці быў тут ён калі, мусіць жа, быў, раз у сябрах ходзіць у Сірыуса. Але не пытаўся пра тое. І па позірку яго здагадацца нельга: як быццам безуважны да ўсяго, не праяўляе вялікай цікавасці да ўсяго, што трапляецца на шляху…

Зайшлі ў прасторны пакой з высокімі вокнамі. Але за імі не бачылася пустыня, а віднелася суцэльная зяляніна. Звісалі галіны смоквы, выстрuніліся ў неба кіпарысы і пальмы. Густая трава, дарожкі, па якіх хадзілі людзі ў даўгіх белых апранахах. Размаўлялі, пра нешта гаварылі між сабою, трымаючы ў руках бліскучыя крышталёвыя каралі, перабіралі пальцамі кожны крышталік. Вокны зачынены, але не было патрэбы пускаць у памяшканне свежае паветра – яно і так адчувалася: кранапася твару, халадзіла ў меру спіны.

– Сюды заходзілі фараоны і жрацы, астролагі і празорцы, – тлумачыў гаспадар, – бо на гэтым паверсе людзі атрымлівалі другое нараджэнне, новае здароўе, пазбаўляліся сваіх хваробаў. Ва ўсіх мянялася група крыві, умацоўваліся косці і розум.

Падышоўшы да летапісца, узяў за руку, папытаўся:

– Ты, шаноўны студэнт, прыйшоў сюды з ранай на руцэ. Пакажы мне параненае месца.

Хлопец закасаў рукаў сарочкі – раны на руцэ не было. Знікла і марлевая павязка, якую наклаў на руку дзед Міхась. Паглядзеў удзячна на гаспадара піраміды, схіліў галаву:

– Дзякую, Сірыус!

– Калі ласка. Ты хварэў не раз ангінай, і таму ўсё адбівалася на сэрцы. Не будзеш больш хварэць ангінай, як і грыпам. Міхаэль, пасля таго, як гасцяваў у мяне, не ведае гэтых хваробаў. І гадоў сваіх не ведае.

Той у знак пацвярджэння кіўнуў галавой.

– І яшчэ адзін пакой чакае вас.

Сышлі па прыступках яшчэ ніжэй. Гэтак жа расчыніліся перад імі дзверы. Зала нашмат прасторнейшая, але з такімі ж вокнамі. Толькі за акном іншы відарыс – бераг мора ці акіяна, а ўдалечы пад белымі ветразямі плылі караблі.

– Цяпер мы знаходзімся на беразе акіяна, – патлумачыў Сірыус, перахапіўшы позірк летапісца, – і сонца знаходзіцца ў зеніце. І гэты пакой наведалі тыя, хто хацеў мець болей ведаў, мець чысты розум, размаўляць на мовах свету… Нябесныя промні прасвечваюць наш мозг, нашую свядомасць. Больш за дзевяць хвілін тут знаходзіцца нельга. Таму вяртаемся ў першы пакой, адкуль вы прадоўжыце свой шлях далей.

Будучы гісторык заўважыў, што нечым перамяніўся яго фізічны і духоўны стан. Думкі сталі роўныя, як быццам перад ім выраўнялася дарога і на ёй не было калдобінаў і ямін. Думкі не пераскаквалі з аднаго на другое, як раней, а выстройваліся ў адзін шэраг, кожная чакала сваёй чаргі для асэнсавання і ажыццяўлення. Як быццам у ім запрацаваў нейкі механізм, які рэгуляваў яго эмоцыі і жаданні. Як быццам за спінай меўся багаты вопыт і багаж жыцця, набыў мудрасць і разважлівасць. І яму падабаўся яго стан.

Вярнуліся зноў у першае памяшканне.

Доўга заседжвацца не выпадала, таму дзед, падняўшыся з крэсла першым, паглядзеў на Сірыуса:

– Дзякую, дарагі дружа, за гасцінны прыём! Нам пара.

– Куды цяпер?

Паглядзеў на сваіх спадарожнікаў:

– Мо ў Парыж, а мо і ў Нью-Ёрк, паглядзім, як пажадаюць мае сябры.

Гаспадар падышоў да суцэльнай сценкі каля акна, высунуў шуфляду, нешта дастаў з яе, зноў засунуў на месца. Падышоў да гасцей, падаў ім сувеніры – бліскучыя залатыя ручкі.

– Гэта на памяць пра мяне, пра піраміду Хеопса. Ручка запраўлена чарнілам на тысячу гадоў. Яшчэ – яна антэна, у любы час можна звязацца са мой, калі ўзнікнуць пытанні па пірамідах ці па падземных тунэлях.

– Дзякуем, Сірыус! – схіліў галаву ў паклоне Антон, прымаючы, у поўным сэнсе гэтага слова залаты падарунак, следам за ім і Ігнат. – Да сустрэчы.

Вочы Сірыуса выпраменьвалі цяпло, яны злёгку ўсміхаліся. У іх хацелася глядзець і глядзець, а не апускаць вочы долу. Таямнічы позірк, загадкавы, прыцягальны.

Сябры пакіравалі да выхаду, а Міхась Дзям'янавіч яшчэ на нейкі час затрымаўся: з Сірыусам пра нешта гаварылі, штосьці ўдакладнялі. Не аглядваліся, ішлі павольна па шкляной, у квадратах, падлозе. Пачалі спускацца па прыступках, па якіх перад гэтым падымаліся да тэлекамунікацый. Над імі, весела чырыкаючы, насіліся шустрыя ластаўкі. Да столі, убачыў Антон, ластаўкі прымацавалі свае гняздзечкі. Падалося, што знаходзіцца ў бацькавай адрынцы, нават патыхнула свежым сенам.

Экскурсавод дагнаў іх тады, калі яны ступілі на падлогу цэнтральнага тунэля. Абняў іх за плечы, радасна спытаўся:

– Што, мо прадоўжым нашае падарожжа?

## 22

Ляснік прыбег з лесу ўзбуджаны і нечым усхваляваны. Уварваўся ў хату як віхор, убачыўшы, што дома толькі Станіслава, папытаўся:

– Антон дома?

Жонка паглядзела на яго, узмакрэлага і мітуслівага, адказала:

– Няма. Сказаў, што пойдзе да дзеда Міхася. А што здарылася?

– От ёлкі-маталкі, – роспачна прамовіў ляснік, – мне памочнік трэба. Лоша ў бяду трапіла, у караняці нагу ўсунула, выцягнуць не можа. А там недзе шэры блукае, каб не загрыз…

У хату зайшоў Пятрусь.

– О, акурат ты мне і патрэбны! – усклікнуў радасна гаспадар. – Пабеглі, сын, у лес, вызваліць лошу з палону трэба. Самому мне не пад сілу.

Ляснік узяў не стрэльбу, ён узяў арбалет, які вырабіў быццам бы для забавы хлопцам дзед Міхась. А ён спатрэбіўся, ды не для забавы. Вось яго і ўхапіў са сцяны, похвы са стрэламі даў сыну. Яшчэ вяроўчыну прыхапіў, сякерку за пояс засунуў.

– Пабеглі, Пятрусь, каб хаця запозна не было.

Бацька спяшаўся першым, не адставаў ад яго і сын. Перакідваліся словамі па дарозе, спяшаліся, баяліся спазніцца.

– Бацька, а дзе тое здарылася?

– Адразу за Адолькавым кругам. На схіле выспы, дзе карнявішчы тырчаць. Вось і ўскочыла дурное ў пятлю – нагу ў карэннях ўблытала…

Пераскочылі канаву з раўчаком, узбеглі на пагорак, спрэс пакрыты верасоўнікам і папараццю, абышлі ўзболатак з лазовым кустоўем і ажыннікам па краі… Ляснік, здавалася, нічога не чуў і не заўважаў, з усіх сілаў імкнуўся на дапамогу жывой істоце…

Яшчэ з вясны ляснік убачыў, што ласіха нарадзіла цяля, і з бацькам ахоўвалі яго, як маглі. Сахаты меў вялізныя рогі, горда ўздымаў галаву да неба, рыкаў, як пагражаў усё роўна таму, хто мог асмеліцца напасці на іх дзіцёнка. Юрась Адамавіч быў спакойны за малое – у яго была надзейная ахова. За лета лоша падрасце і ўжо як і бацькі будзе бегаць па лясных гушчарах і дубравах, разам з імі згрызаць маладую кару з дрэваў, напоўніцу хапаць маладую сакавітую траву на лугах. А потым, пазней ужо, недзе пад канец красавіка, убачыў іх за Алёсамі, у ліпавых зарасніках, дзе яны ласаваліся салодкай карой… Малое не адбягалася далёка ад іх, а гарэзліва падскоквала, як бы імкнулася ўзляцець на нябачных крылах, потым рабіла круг за кругам вакол бацькоў, як бы паказвала, што яно, ласянё, мае сілу і хуткасць у нагах, што ім, бацькам, няма чаго хваляваціца ці баяцца за яе лёс… Бацькі ж думалі інакш – і вока не зводзілі з малой…

Ляснік блізка да іх не падыходзіў, хаця і ведаў, што не напалохае, але і не хацеў, каб яны нейкім чынам прывыкалі да чалавека, да яго. Ніхто са звяроў не баяўся лесніка. Бо ён заўсёды хадзіў без стрэльбы, ніводнага разу не навёў рулю стрэльбы на жывую істоту, няхай і злосную, крыважэрную, як і таго ж ваўка. І яму жыць хочацца. Хіба ж ён вінаваты, што, каб пракарміць сябе і выжыць у гэтым свеце, яму трэба задраць ці авечку ці каня, трава – корм не для яго. Не адстаў ад яго і чалавек. Таксама без мяса не можа. Дык ён і гадуе для сябе свіней і авечак, курэй і гусей. А воўк гэтым займацца не ўмее, таму і робіцца агрэсарам-злодзеем – крадзе ў чалавека яго працу. А ў лесе ён гаспадар. Можа напасці на маладога лася, аленя збіць з ног і перагрызці горла…

З такімі думкамі жыў ляснік, так ён думаў, калі бег на дапамогу да ласёў. Сын здзіўляўся з бацькі – ногі неслі спраўней, чым яго, Пятрусь ужо задыхаўся ад бегу, час і адпачыць, аддыхацца, а бацьку хоць бы што – порстка перабіраў нагамі, як усё роўна ратаваў уласнае жыццё…

Яшчэ здалёк ляснік адчуў нядобрае. Сахаты роў і матляў галавой. З ім змагаўся шэры (усё ж адчуў, ці, можа, напаткаў выпадкова), грозна нападаючы ці адбіваючыся ад вострых іклаў драпежніка… Сахаты абараняў і самку, і дзіцёнка, якое знаходзілася ў смяротнай пастцы…

Воўк агрызаўся, воўк шчэрыў зубы, воўк спадзяваўся на тое, што дамажацца свайго – стоміцца абаронца і адступіць.

– Сын, дастань мне тую стралу, што суцішыць шэрага.

– Дваццаць пятую?

– Ага.

Бацька, не зводзячы вачэй з шэрага, узяў у руку арбалет, выкруціў руку назад. Сын уклаў у яе стралу, стаяў ззаду. Стралок падвёў апярэнне стралы да цецівы, нацягнуў да канца, счакаў, калі шэры павярнуўся да яго бокам, адпусціў.

Страла ўпілася ў сцягно ваўка, і ён узвыў ад болю, сеў на заднія лапы. Не зразумеў, што здарылася. Калі падбеглі да яго, звер няўцямна пазіраў на лесніка, а потым упаў на правы бок. Юрась паляпаў яго па загрыўку, прамовіў:

– Ты паспі, шэры, паспі. А мы тут зоймемся…

І тады яны падступіліся да цяляці. Лоша ўжо стамілася і ад болю, і ад таго, што доўга знаходзілася ў палоне. Спачатку сын з бацькам счакалі, калі супакоіцца сахаты, калі разам з самкай адыдзе ўбок, даўшы магчымасць выканаць людзям сваю работу…

Сахаты ўжо не хваляваўся, не матляў галавой, зразумеў, што сітуацыя перамянілася і лашыцы нічога больш не пагражала, чмыхаў, прызадзі-

раючы галаву, супакойваўся. На ім перастала дыбіцца карычнева-шызая поўсць і ўздрыгваць цела.

– Ой як добра, што мы ў час дабеглі, – радаваўся лясны гаспадар, глядзячы на сына, – цяпер давай зоймемся вызваленнем лашыцы…

А ласяня глядзела на людзей і не адчувала ніякага страху. Толькі ў вачах застылі, як замерзлі, слязіны. Бацька падсунуў пад жывот вяроўчыну, працягнуў яе далей, папрасіў сына стаць з другога боку. Пятрусь аглядаўся на сахатага, асцерагаючыся, каб той не напаў на яго, узяўся за вяроўчыну.

– Не бойся, сын, яны з намі біцца не будуць. Сахаты ведае, што мы памочнікі, а не драпежнікі. Давай падымем ласяня, каб вызваліць нагу, каб не паламаць яе.

Упіраліся з усіх сіл нагамі ў жвір, выжыльваліся, але за першым разам не атрымалася. Памяняліся месцамі, зноў пацягнулі за канцы вяроўчыны. І тады Юрась здагадаўся адпіхнуць ласяня ўбок, каб не паламаць нагі. Добра, што здагадаўся прыхапіць з сабою сякеру: пачаў адсякаць карані, якія заціснулі нагу. Тое ўжо рабіў Пятрусь, бачачы, што бацька стаміўся. Карэнні цвёрдыя бы камень, але Пятрусь настойліва і апантана махаў сякеркаю, не марудзіў. Бацька тым часам трымаў вяроўчыну і не даваў, каб палонніца нахілялася ў яго бок… Вось і апошні ўзмах, караняка як тая цеціва арбалета напружана адхіснулася ўбок, расшчапіўшы пашчу капкана…

Сын стаў на калені, выдыхнуў з сябе паветра:

– Усё, здаецца, атрымалася.

Палонніца не магла ўстаць. Яна ўжо звыклася амаль са сваім становішчам, не прадпрымала ніякіх спробаў устаць на ногі. Вось тады бацька і сын зноў узяліся за вяроўку. Паспрабавалі каб хоць неяк прыпадняць жывёліну, зрушыць з месца. Бацька паляпаў па азадку, як усё роўна папрасіў:

– Ну, давай, лоша, уставай, бацькі чакаюць…

Зноў тарганулі вяроўкай, падахвочваючы ўстаць.

І тады, уздрыгнуўшы, напруціўшыся, прызадраўшы галаву, жывёліна паспрабавала ўстаць. Ёй памагалі бацька і сын. І ўстала на пярэднія ногі лоша, не верачы яшчэ, што можа стаць на ўсе чатыры, паспрабавала адарваць ад зямлі азадак. І – атрымалася. Страсянулася ўсім целам, як скідала рэшткі грузу і друзу, але не асмельвалася пакуль што ступіць крок наперад.

Яе ўжо не падганялі, чакалі, калі сама адчуе ў сабе сілу і жаданне ісці наперад. Непадалёк з іх стаялі бацькі, неспакойна назіралі за тым, як людзі памагалі выбавіцца ад бяды іх нашчадку. Сахаты круціў неспакойна галавой, але ні на адзін крок не наблізіўся да вызваліцеляў, баючыся напалохаць ці параніць іх.

Лоша асцярожна зрабіла крок наперад. Потым другі. Калі ж ступіла на тую нагу, якая ўшчамілася ў пастку, кульганула, ледзьве не ўпала. Бацька паспеў стаць побач, прытуліў руку да сцягна. Пятрусь памацаў нагу, пацiскаў там, дзе была садраная скура. Нага ўздрыгнула, мусіць, яе працяў боль.

– Здаецца, пералому няма, – прамовіў сын.

– Ну і дзякуй Богу.

Лоша як бы баялася ісці далей, асцерагалася зноў адчуць боль. Юрась злёгку паляпаў яе па азадку:

– Ну, смялей, смялей, родненькая. Няма чаго цяпер баяцца, шэры спіць, і да вечара спаць будзе, хай адпачне пасля сваіх доўгіх вандровак, а за гэты час вы далёка адыдзецеся. Калі ж нага ў цябе пашкоджана, завядзём дадому, у нас жыць будзеш да восені. Але ты ў нас прывыкнеш, што і ў лес не захочаш ісці. Дык што цяпер, выбірай, што для цябе лепш…

Лясная жыхарка нібыта слухала, пра што казаў ляснік, нават і павярнула галаву да яго. А сахаты капытом успорваў зямлю, далёка кідаючы яе ад сябе. Непакоіўся, перажываў за сваю дачку.

Асмелілася, стала і на хворую нагу лоша, пераступіўшы здаровымі нагамі, зноў на яе абаперлася. Заўважыў Юрась, што перастала ўжо кульгаць, перастала асцерагацца станавіцца на пашкоджаную нагу. Ну то цяпер ужо нічога, цяпер зразумела, што бяда абмінула, не прыйшлося змагацца з шэрым, выцягваючы малое з капкана, які паставіла прырода. Прырода не хацела таго, як і хвоя, якая распусціла карэнне па схіле, чапляючыся за кожны сантыметр прасторы і зямлі.

Тады ляснік размахнуўся і ўдарыў лошу вяроўчынай па азадку. Яна не спужалася, не пакрыўдзілася за такое абыходжанне з ёю, няспешна пайшла да бацькоў.

Пра нешта абвяшчаў дзяцел у вільчыку сасны, мо адбіваў тэлеграму жыхарам лесу, што ніякай бяды не адбылося, а драпежнік, які рабіў замах на жыццё дзіцяці, спіць праведным сном, атрымаўшы добрую дозу сонных лекаў праз стралу арбалета. Жыццё лесу працягвала па сваіх законах, па сваім рытме…

Цяпер ляснік быў спакойны, цяпер не будзе ў яго балець душа за тое, што нешта непапраўнае адбылося ў яго гаспадарстве.

Калі ж сямейная тройца знікла ў густым гушчары, бацька прамовіў да сына:

– Ну, што, Пятрусь, пайшлі дадому. Што нам належала, мы зрабілі, а ласям трэба гадаваць малое.

Але перад тым, як рушыць у дарогу, ляснік падышоў да драпежніка. Паклаў яму на галаву руку, паляпаў, прамовіў:

– А ты ўжо даруй, воўча, што цябе спаць паклалі. Тут жа мякка, мох паўсюль, так што ты скардзіцца на нас не будзеш…

Воўк ляжаў з вышчаранымі зубамі, як усё роўна смяяўся са слоў ляснога гаспадара. Ляснік вырваў са сцягна стралу, паклаў яе ў калчан.

– Пайшлі, сын, няхай спіць… Яму тут нічога не пагражае.

Вярталіся ўжо спакойным крокам. Пятрусь запіхнуў за папругу сякерку, праз плячо павесіў калчан са стрэламі. Арбалет – не забаўка для малых. Папярэджваў каваль, каб асцярожна абыходзіліся з гэтай зброяй. Страла, выпушчаная з арбалета, ляцела з паўкіламетра, і не толькі ляцела, а магла прабіць дрэва навылёт: мела магутную сілу ў чатырыста тон. Ды дзед прыдумаў (ці хто падказаў яму), у наканечнік стралы ўставіў гільзачку з порахам: таму, ўпіваючыся ў дрэва ці ў што іншае цвёрдае, наканечнік узрываўся, робячы адтуліну для праходжання стралы далей.

…Падыходзілі да вёскі пад вечар, калі сонца набліжалася да гарызонту.

Ляснік адчуваў вялікую задаволенасць, што зрабілі з сынам такі добры клопат – выратавалі жыццё малому насельніку вялікай планеты Лес.

**23**

– Сапраўды, куды цяпер? – перапытаў Міхаэль-Міхась. – Жаданне ёсць наведаць іншыя кантыненты?

Сябры пераглянуліся. Нічога адзін аднаму не сказалі, і не адказалі на пытанне каваля.

– Ну і маўчыце, – заўсміхаўся экскурсавод, – камандзіраў нам не трэба, капітанам буду я. Да прэзідэнта Злучаных Штатаў наведаемся. А што? Хай даложыць нам, чаго гэта капіталізм загнівае, але ніяк згніць не можа.

Дзед быў у гуморы, яму хацелася жартаваць. Ён неяк памаладзеў, расправіліся плечы, голас памяняўся, стаў бадзёрым і жвавым. Ды і Антон адчуваў сябе не горш – хацелася блазнаваць, жартаваць.

Тым часам кіроўца вывеў апарат на магістральную лінію лабірынтаў, выбіраў толькі азімут, куды адправіць у падарожжа падземную пасудзіну. Выбраў курс, ускінуў рукі:

– Пад акіян нырнём, а потым падляцім да самага месца прызначэння!

За шклом успыхнула ці то полымя, ці жоўта-чырвонае святло, міжкантынентальны амнібус прыўзняўся над падлогай, адштурхнуўся ад сцяны, злёгку адплыў ад яе… З жоўта-чырвонага полымя ператварылася ў белае, быццам падарожнікі трапілі ў туман і нічога ўжо не бачна ні спераду, ні з бакоў, ні з верху… Быццам апарат спыніўся, перастаў рухацца. Але летапісец ведаў, якая хуткасць руху ў «талеркі».

– Прыбылі! – абвясціў кіроўца. – Над намі Нью-Ёрк. Будзем запісвацца на прыём да прэзідэнта, ці ён і так нас прыме?

– Пабачым па абстаноўцы, – адгукнуўся прадстаўнік Лельчыцаў, – можа ён і зусім не захоча гаварыць з прадстаўнікамі краіны, якая будуе камунізм.

Экскурсавод як усё роўна ўсё ведаў загадзя, куды ісці, дзе і ў які бок паварочваць. Мусіць жа, і сапраўды ведаў усе куточкі падземных лабірынтаў і хады, якія вялі наверх. Ён быў валадаром падзямелля і яе цывілізацыі. І не толькі.

Доўга і не падымаліся, якіх-небудзь прыступак сто, і падарожнікі падышлі да рашотчатых варотаў. На іх вісеў замок. Пераблытаў кавалёк дарогі? Але ён прасунуў руку праз рашотку, дакрануўся да замка. Нешта шчоўкнула і замок упаў на зямлю.

Выйшлі ў двор. Клімовіч агледзеўся і пазнаў будынак Белага дома, у якім знаходзіліся прэзідэнты ЗША. Дарожкі, пасыпаныя гравіем, вялізныя клумбы з рознымі кветкамі, асобная града з высокімі пахкімі ружамі. Далей, за агароджай, легкавікі на вялікай хуткасці несліся наперад. Нейкія незнаёмыя машыны, розных колераў і памераў. Антон бачыў толькі «Волгі» і «Жыгулі», а тут імі і не пахла. Дарэчы, і пах нейкі асаблівы, пах асалоды і спакою, суладдзя і мройнасці.

Толькі цяпер студэнт гістфака заўважыў, што справа, у кроках дваццаці, стаяла трыбунка-кафедра з мікрафонам. Драўляная, лёгкая, не грувасткая. Падстаўка каля яе, мусіць, для таго, хто прыйдзе і будзе выступаць. Але перад кім? Нікога не было каля трыбункі…

Будучы гісторык цікавіўся гэтым перыядам жыцця Амерыкі. Ведаў, што на выбарах у 1980 годзе перамог рэспубліканец Рональд Рэйган. Гэта яму належыць перыяд гісторыі краіны, які назвалі «кансерватыўная рэвалюцыя» (хваля). Праводзячы ўнутраную палітыку, Рэйган прапанаваў курс, які атрымае пазней назву «рэйганоміка». У яе аснову пакладзена праграма абмежавання ролі дзяржавы ў эканамічным і сацыяльным рэгуляванні – манетарызму. Вось тады і адбыўся пераход ад прамога да больш ускоснага ўмяшання дзяржавы ў эканоміку. Пачала зладжана працаваць падатковая рэформа, уводзіліся значныя палёгкі энергетычным карпарацыям. І ў той жа час адбылася ліквідацыя кантролю за коштамі на нафту. Рэйган праводзіў сваю палітыку так, што пачала ўводзіцца цвёрдая антыінфляцыйная палітыка, пры гэтым скарачаліся выдаткі на дзяржаўны апарат і сацыяльныя праграмы…

Тады ж спынілася і інфляцыя, і ў 1983 годзе пачаўся нечаканы эканамічны ўздым. Амерыканцы паверылі свайму прэзідэнту, бо ўбачылі, як узнялася эканоміка, укараняліся найноўшыя дасягненні навукова-тэхніч-

нага прагрэсу. Еўрапейскія краіны і Японія пачалі ўкладваць інвестыцыі, што спрыяла пад'ёму і пераўтварэнням у амерыканскай гаспадарцы…

Ведаў Антон Клімовіч і другое. Паралельна з гэтымі дасягненнямі і сваёй дзейнасцю Рэйган праводзіў антыкамуністычную і антысавецкую прапаганду. Гэта ён аб'явіў, што краіна СССР з'яўляецца «імперыяй зла», і што супраць яе неабходна пачаць «крыжовы паход». Гэта ён зрабіў, каб набыць яшчэ большую вагу сярод простых амерыканцаў. Але ён яшчэ быў хітрым і мудрым палітыкам. Таму калі новым савецкім лідарам стаў Міхаіл Гарбачоў, ён прапанаваў правесці з ім перамовы. Гарбачоў згадзіўся. Такім чынам, у сусветнай палітыцы адкрылася новая старонка ўзаемаадносінаў, што паклала канец «халоднай вайне».

Расчыніліся белыя дзверы Белага дома. У суправаджэнні світы на ганак выйшаў Рональд Рэйган. Ён кінуў позірк налева і направа, усміхнуўся, спусціўся.

Падышоў да трыбуны, нахіліўшыся да мікрафона, прамовіў:

– Дамы і панове! Я з радасцю канстатую, што сёння адбылася значная падзея – сёння мы ўступаем у новую фазу нашага жыцця…

Антона здзівіла тое, што прэзідэнт выступаў перад пустой аўдыторыяй. Каму ж ён гаварыў свае словы, каму адрасаваў сваё пасланне? Побач не стаялі людзі, трымаючы ў руках блакноты, каб нешта ў іх занатоўваць.

Каваль паказаў позіркам на аддаленую пляцоўку, за якой тоўпіліся людзі, дзе стаяла відэакамера, шчоўкалі фотаапараты.

– Вельмі ж вялікая адлегласць паміж прэзідэнтам і журналістамі.

– У іх такая апаратура, што ім няцяжка наблізіць яго да сябе, здымаць буйным планам, як быццам знаходзіцца побач.

– Я пра тое не падумаў.

Рэйган гаварыў не вельмі доўга, але грунтоўна, не збіўшыся ніводнага разу, не заглядаючы ў паперкі. Дзіўна, але Антон разумеў, пра што ён гаварыў. У яго з'явілася здольнасць разумець мову прэзідэнта. Значыць, падзейнічала піраміда Хеопса, як і абяцаў Сірыус?

– А мы не трапім у кадры кінахронікі? – падумаў уголас Антон. – Нас жа потым могуць пазнаць, калі ў нас пакажуць.

– Не хвалюйся, хлопча, нас ніхто не бачыць, – супакоіў дзед. – Мы ж з другога вымярэння прыбылі. Калі б заўважылі, што невядомыя людзі побач з прэзідэнтам, мы жывымі адсюль не выйшлі б…

– Дык мы, выходзіць, нябачныя? – яшчэ больш падзівіўся хлопец.

– Аўжэ ж, аўжэ ж, – адказаў каваль на крушніцкі манер, не зводзячы погляду з прэзідэнта.

Уважліва слухаў Рэйгана і Ігнат, быццам для яго тая прамова была найважнейшай у жыцці.

– Ну, што, хлопцы, загуляліся мы ў загніваючым капіталізме, – прамовіў старэйшына групы, – пара, так бы мовіць, і гонар ведаць. І каб не здарылася міжнароднага канфлікту з-за нашага ўварвання ў межы чужой дзяржавы без візы і дазволу органаў, прапаноўваю вярнуцца на нашыя дарогі.

– А па крамах прайсціся, паглядзець, як капіталісты жывуць, культурныя дасягненні паглядзець, – прытворна жаласлівым голасам спытаў Антон, на дзеда ўмольна паглядзеў. – Сувенір бы які прыдбаць на памяць аб Амерыцы…

Дзед паківаў галавой, як бы пасміхаўся з неразумнага дзіцяці, падаў каманду:

– Кругом! Ніякіх размоў! Вяртаемся!

Ды ведаў усё Клімовіч, ведаў, што не толькі нічога нельга браць з сабою, але і затрымлівацца на чужой тэрыторыі нельга, бо падарожжа можа паламацца і абярнуцца для іх непажаданым бокам. Пагэтаму трэба прытрымлівацца строгай дысцыпліны ва ўсім – і ў жаданнях, і ў дзеяннях сваіх…

Выступленне Рэйгана перад журналістамі яшчэ не закончылася, а падарожнікі, адчыніўшы і замкнуўшы за сабою патаемныя дзверы Белага дома, пачалі спускацца па бетонных крутых прыступках.

Перад імі нячутна расчыніліся дзверы «летуна». Перад тым, як ступіць следам за кавалём і Ігнатам, хлопец азірнуўся. Быццам хацеў запомніць, зафіксаваць падзею, дзе яны спыніліся. Чамусьці не хацелася пакідаць гэтае месца, быццам яно нешта азначала ў яго жыцці. Як бы хто яго ўтрымліваў за крысо, прасіў-умольваў застацца, абяцаючы шчаслівае жыццё, уладу над усімі працэсамі і дзеяннямі.

«Праўду казаў дзед, што нельга тут заставацца залішне, – падумаў ён ужо разважліва і спакойна, – бо дурныя думкі лезуць у галаву, і ніяк нельга, каб яны рэалізаваліся… Усё, хопіць, назад, назад… Карэту мне, карэту!»

І ён хуценька ўскочыў ў салон карабля, сеў побач з дзедам.

Тады ж і зачыніліся за ім дзверы.

– Панове-спадарове! Куды цяпер? Дадому?

– Дадому, дзядуля, дадому, у кузню тваю!

Ігнат не пярэчыў, згодна кіўнуў галавой.

Жаданне Антона прагучала як каманда «летаку» на рух.

І…

# III. ДА СУСВЕТУ

## 1

«Божа, Божа, адкуль гэта ўва мне? У мяне ж ніколі не нараджаліся такія думкі… Хто мне дыктуе, хто прымушае пісаць такія думкі? Мне ж яны ніколі не прыходзілі ў галаву».

Летапісец адклаў убок сшытак, зірнуў у акенца, якое выходзіла ў поле і сад. Пад яблынямі хадзіў спаважна бусел, апусціўшы галаву, шукаў у траве спажыву. Пад яблынямі заўсёды было шмат жаб. Яны выпаўзалі з неглыбокай саджалкі, распаўзаліся па траве. Бацян, значыць, тое ведаў і не раз прылятаў у сад.

Учарашняе падарожжа наклала свой адбітак. Клімовіч пачаў глядзець на навакольны свет і гісторыю людства неяк па-іншаму, у новым адлюстраванні і пераламленні, як быццам ён пражыў тысячы гадоў і цяпер з вышыні пражытага часу ацэньваў існасць. Нехта падказаў яму, што ён павінен запісваць тыя думкі, якія сыходзілі на яго аднекуль з космасу, як некалі сыходзілі на Алену Рэрых і Блавацкую.

«…Чалавек, з'явіўшыся на зямлі, павінен валодаць галоўнымі якасцямі свайго характару – любіць Вышняга і суродзічаў, любіць прыроду, мець высокую духоўнасць, валодаць уменнем падпарадкоўваць сабе і кантраляваць свае жаданні, думкі і пачуцці. Таму што ўсё, пра што мы не падумалі б і пажадалі, можа імгненна матэрыялізавацца. Таму трэба думаць і жадаць толькі добрае, каб не пашкодзіць самому сабе і жыццю планеты.

Трэба ведаць яшчэ і пра змену полюсаў Зямлі. З-за іх мянялася жыццё мінулых цывілізацый, можа змяніцца і нашае. Будзем памятаць пра тое. Таму перад тым, як зменяцца полюсы (трэці раз па ліку), нам неабходна навучыцца думаць толькі пра Вышняга і пра Яго запаветы – дабрыню і каханне, прыгажосць і гармонію, жаданне дапамагаць слабым і хворым, не наносіць шкоду прыродзе, любіць тую зямлю, на якой нарадзіўся, ніколі і нічога не баяцца, выгнаць са сваёй душы страх. Таму што тады, як здарыцца пераход (змены полюсаў), усе нашыя страхі стануць рэальнасцю. Вам падасца, што нехта злы напаў на вас, хоча адабраць жыццё. Страх таго нападу пяройдзе за вамі ў чатырохмерную прастору, і вы міжволі сутыкнецеся твар у твар са сваімі жахамі ў вобразе забойцы, які гоніцца за вамі. Як толькі вы падумаеце пра абарону, у вашых руках узнікне зброя, з

якой вы можаце стрэліць у ворага. І як толькі вы стрэліце, тут жа правалі-цеся ў трохмерную прастору – вы вернецеся на сваю трохмерную Зямлю. Чаму так здарыцца? Таму што вы будзеце цяпер валодаць сукупнасцю вібрацый вашай свядомасці нізкай частаты. А яна суадносна адпавядае трэцяму абертону трохмернай прасторы. Тады чалавек, які будзе мець у сваёй астральнай аўры негатыўныя праграмы сквапнасці, гневу, агрэсіі, гвалту, разбэшчанасці, страху і іншых заганаў, будзе адкінуты (выкінуты) назад у трохмерную прастору. Ён народзіцца на фізічнай планеце, якая будзе падобнай да Зямлі, апынецца сярод дэградаванага чалавецтва, і будзе вымушаны нанова праходзіць сваю эвалюцыю…»

Рука стамілася пісаць, але той, хто дыктаваў, не ведаў пра тое. Голас дыктара ліўся спакойна і няспешна, даючы магчымасць таму, хто слухаў, слова ў слова запісваць ці то трактат, ці накіды будучай кандыдацкай або доктарскай, а мо і кнігі… Ручка, падораная Сірыусам, сапраўды лёгенька бегала па паперы, але ўсё роўна хацелася зрабіць перапынак.

«…Трохмерная прастора планеты Зямля як найлепш падыходзіць для стварэння абмежаванняў сапсаванаму чалавеку, для выпрацоўкі ахвярнай свядомасці, якая развіваецца ў непазбежнай ахвяры. І тады чалавек прыходзіць да ўсведамлення рэальнасці: гэта ж ён, і толькі ён сам творыць сваю рэальнасць, творыць сваімі думкамі, жаданнямі, пачынае бачыць, што ўсё ў свеце творыцца па яго волі, якой кіруе толькі Бог. Па законе кармы непасрэдна сам чалавек сваімі жаданнямі і марамі, сваімі думкамі, словамі і ўчынкамі стварае свой лёс. А гэта – і свой рай, і сваё пекла. Толькі ў трохмернай прасторы матэрыялізацыя думак адбываецца з затрымкай на некалькі гадоў, а ў чатырохмернай – адразу ж. Таму якасць думак і жаданняў чалавека і з'яўляецца пропускам-квітком на эфірную Зямлю…»

Зноў адрываецца Антон ад запісаў, збольшага не разумее, пра што ідзе дыктоўка, толькі здагадваецца, і яму ўжо робіцца цікава, адчувае, што гэта пакуль мосціцца аснова, грунт, фундамент нечага будучага, якое спатрэбіцца, якое можа аказаць у будучыні дапамогу ў подступах да нечага новага і цікавага.

«…Пераход ад аднаго вымярэння і прасторы ў другое адбываецца кожныя трынаццаць тысячаў гадоў. Менавіта ў той час, калі планета Зямля дасягае крытычнай кропкі прэцэсіі, у якой і адбываюцца змяненні, калі ўсё пачынае гінуць: узрывацца, гарэць, правальвацца скрозь зямлю, усё падпарадкавана хаосу. Прычына ўсяго гэтага – знікненне магнітнага полюсу зямлі. Магнітнае поле – гэта і ёсць сховішча нашай інфармацыі, нашай памяці, нашага генафонду і ДНК. І ў гэтым сэнсе жыхары Зямлі, кажучы ўмоўна, ператвараюцца ў камп'ютары. Каб нам апрацаваць ін-

фармацыю і дадзеныя, што атрымалі, захаваць іх у блоку памяці, нам неабходна магнітнае поле. Нават пры часовым, імгненным, адключэнні электрасілкавання ўся яго аператыўная памяць знікае, бо яе перастае падтрымліваць электрамагнітнае поле. Гэта накшталт таго, як мы пстрыкаем выключальнікам каля камп'ютара, і ён гасне, так прыкладна адбываецца і сціранне памяці з мозгу чалавека пры змене полюсаў…

Каля адзінаццаці тысячаў гадоў яшчэ да нашай эры памяць былых жыхароў Атлантыды была сцёртая з-за ссоўвання полюсаў. Зямляне засталіся жыць, але яны страцілі ўменне быць цывілізаванымі людзьмі, вярнуліся ў першабытны стан. А гэта азначала, што яны павінны вярнуцца да сваіх жывёльных інстынктаў – да інстынкту выжывання. А выжыць можна было толькі тады, калі чалавек заб'е звера і з'есць яго мяса. У іх да гэтага было іншае харчаванне – не трэба было нікога забіваць. Усе веды і ўменні жыць быць страчаны, згублены, сцёртыя з памяці. Хаця ж да сусветнага патопу цывілізацыя была на найвышэйшым узроўні развіцця – нашмат вышэй, чым цывілізацыя сённяшняя.

Прайшло шмат часу, калі зямныя людзі з дапамогаю людзей ці прадстаўнікоў з іншых планет, тых жа людзей з Шамбалы набылі здольнасць і ўменне развіваць сваю свядомасць. Калі б не знешняя дапамога, чалавецтва загінула б. І тое, мусіць, не было ў інтарэсах ці планах прадстаўнікоў Вышэйшага розуму.

Толькі ў чацвёртым тысячагоддзі да нашай эры на тэрыторыі цяперашняга Ірака прадстаўнікамі вышэйшых цывілізацый з Сірыуса і нефілімамі з Нібіру зямлянам літасціва была вернута інфармацыя, якую людзі згубілі падчас апошняй змены полюсаў. За асвету здзічэлага народа ўзялося Белае брацтва Шамбалы, на чале якога быў Тот. Падчас Пасейдоніса да змены полюсаў планета Зямля зрабіла поўны абарот вакол Сонца за 360 дзён. Сёння, як вядома, Зямля робіць поўны абарот за 365,25 дня. Калі зменяцца полюсы ў бліжэйшы час (адвядзі, Божа, ад нас гэтую бяду!), Зямля зробіць такі абарот за 371 дзень…»

– Антон, ты тут? – падняўся па драбіне Пятрусь, зазірнуў у прадонне.

– А дзе ж я магу быць? Тут, – адгукнуўся брат, – а што здарылася?

– Ды нічога. Маці гукае цябе, а ты маўчыш. Не чуеш?

– Не чуў, зачытаўся ці заснуў, не ведаю.

– Ладна, кідай свой занятак, вячэраць пара.

– Добра, хутка прыйду, – паабяцаў Антон, – вячэру прапускаць нельга…

Праз колькі хвілінаў ён спусціўся на земляны ток.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## 2

Лета пралятала хутка, не заўважыў, як і палова яго мінула, і восень дыхала ў патыліцу, праўда, нясмела, зрэдзь часу.

Хораша Антону ў роднай хаце, на душы спакойна. Радаваўся ўсяму – роснаму ранку з чырвоным сланечнікам сонца, паходам з бацькам у яго лясныя ўладанні, добраму сну, які прыходзіў да яго, калі спаў у адрынцы на пахкім сене… Жніво падаспела, дык старшыня калгаса Мікола Жаўтоўскі, сустрэўшы хлопца на вуліцы, прапанаваў:

– Калі часу трохі маеш, пасобіў бы трохі, Антон, га? Ці то снапы вазіць на ток, ці памочнікам камбайнера. Ты ж не раз памагаў калгасу. І капейчыну нейкую заробіш.

– Добра, час маю, заўтра і прыйду да брыгадзіра.

– Ну і лады, – абрадаваўся Мікола Апанасавіч, – пабег я, спяшаюся…

Чаму ж не памагчы роднаму калгасу. Зранння і пайшоў да брыгадзіра Піліпа Антончыка, папрасіў на які ўчастак паставіць. Антончык да ездавых накіраваў – снапы вазіць. Потым тыя снапы на ток адвозіць, каб прапусціць праз малатарню.

І станавіўся ўпобачкі з цёткаю Ганусяй, паштаркай, падаваў ёй снапы, а яна ўжо іх запускала ў барабан са шнэкам. Праца пыльная, асцюкоўская. Асцюкі залязаюць за шыю казычуць, раздражняюць, а цётка Ганўся не звяртае на тое ўвагі, падганяе хлопца, каб не зяваў, хутчэй падаваў. Здзіўляўся: няўжо не чуе, як асцюкі ўпіваюцца ў цела, джаляць, як восы. Узмакрэла ўся, але безупынку і без змены засоўвае і засоўвае ў шнэк жытнія снапы, паспеўшы яшчэ перад гэтым і перавяслы развязаць…

Антон пасля таго, вечарам, доўга адмываўся ад пылу, намыльваючыся з ног да галавы. Хаваўся за хату, у прыбудоўку, над якой замацавана бочка з вадою. За дзень яе сонца награвала як не да кіпеню…

Калі спала напруга ў калгасе, адпрацаваўшы два тыдні, сказаў брыгадзіру, каб вызваліў ад працы – сваіх клопатаў процьма. Антончык, разумеючы яго, кіўнуў галавой.

Раніцай летапісец зноўку адправіўся ў адрынку.

«Наша жыццё – суцэльная піраміда. Тысячы гадоў вучоныя губляюцца ў здагадках: “З якой мэтай далёкія продкі на ўсіх мацерыках будавалі піраміды? Для чаго, навошта?” А адказ вельмі просты. Першая па важнасці задача дванаццаці комплексаў пірамід Зямлі – яны пабудаваны для абароны нашай планеты Зямля ад разбуральнага ўздзеяння Нібіру. Другая задача комплексаў – падчас перапалюсоўкі перасунуць зямныя магнітныя полюсы ў асаблівыя кропкі, спецыяльна падрыхтаваныя для Паўднёвага

і Паўночнага полюсаў. Калі хто не ведае, дык для інфармацыі – на нашай планеце існуе цыкл змены полюсаў. Яны перасоўваюцца двойчы на працягу 25920 гадоў. Пры гэтым не заўсёды адбываецца перасоўванне на 180 градусаў. Але такое здараецца рэдка. Звычайна полюсы ссоўваюцца праз кожныя 12 тысяч з паловай гадоў на шэсцьдзясят градусаў. У чарговы раз, калі здарыцца такое, Паўночны полюс можа перасунуцца прыблізна на 6000 кіламетраў на Тыбет у раён гары-піраміды Кайлас, а полюс Поўдня перасунецца ў раён вострава Пасхі. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што зямная вось ссунецца на 6666 кіламетраў. Можа, і яны маюць рацыю, невядома.

Дык вось, менавіта для забеспячэння дакладнага і прадказальнага зруху полюсаў Зямлі атлантамі і лемурыйцамі і была пабудавана сусветная сістэма пірамід.

Самыя высокія піраміды са сваёй энергетыкай выконваюць ролю абмежавальнікаў, нейкага энергетычнага плоту, для таго каб полюсы не пасунуліся ў непажаданы бок падчас "падарожжа" да сваіх будучых кропак дыслакацыі.

Але акрамя гэтых найважнейшых задач у пірамід ёсць шмат і іншых, не меней важных. Дакладна вядома, што Вялікая Піраміда Гізы працавала, як апарат па "ўзнясенні ў целе" людзей пятай расы, калі ў ёй стаялі крышталы стажарцаў. Калі пералічваць асноўныя задачы і мэты яе будаўніцтва, то іх можна налічваць сотні, але калі зрабіць выняткі, то вылучыць можна такія: яна была пабудавана для таго, каб чалавек пятай расы з 46 храмасомамі мог узнесціся з царскага пакоя разам са сваім целам ў райскія сусветы; яна з'яўлялася своеасаблівым радыёмаяком для арыентацыі і заходу на пасадку касмічных караблёў са Стажараў, Сірыуса, Арыёна, Вегі і іншых зорак; зрэзаная вяршыня піраміды прызначалася як пасадачная пляцоўка для прызямлення некаторых узораў караблёў і НЛА дыскападобнай формы; эфірная энергія піраміды акумулявалася касмічным караблём і выкарыстоўвалася для палётаў тых жа чаўнакоў і НЛА.

Яна працавала ў якасці "тэлефоннай станцыі" для імгненнай "галасавой" сувязі вопытнага аператара з цывілізацыямі далёкіх зорак, служыла магутнейшым лакаратам па выяўленні любых аб'ектаў у атмасферы і стратасферы Зямлі.

Калі ж здараліся ваенныя канфлікты, піраміда промнямі ахоўвала тэрыторыю ў тысячы кіламетраў вакол сябе і над сабой. Калі ж патрабавалася адбіць атаку ворага, то тут жа падмянялі розначастотныя крышталы на "баявыя", і тады ўжо хваляводы піраміды пасылалі прамень разбуральнай сілы і магутнасці ў патрэбную кропку і знішчалі яе.

Піраміды "ўмелі" ўтаймоўваць сейсмічныя хвалі далёкіх землятрусаў на подступах да Егіпта, "супакойвалі" бураны і навадненні, не давалі магчымасці прыродным стыхіям і геалагічным катаклізмам прымаць разбуральную сілу, сцішвалі іх.

Праз яе, Вялікую Піраміду, вышэйшыя цывілізацыі Сірыуса і Стажараў падсілкоўвалі эфірнай энергіяй народ Старажытнага Егіпта, абаранялі ад розных хваробаў, псіхічных захворванняў і вірусных эпідэмій.

На ўсёй планеце ў тыя часы было пабудавана сто сорак чатыры тысячы пірамід. Праз іх вышэйшыя цывілізацыі з тонкага свету кіравалі тэрмаядзернымі працэсамі зямнога шара, рэгулявалі тэмпературу зямной кары і акіянаў.

Наступала ноч, і любая піраміда класічнай формы прымала высокачастотную касмічную энергію як антэна, потым зніжае вібрацыю эфірных хваляў і дасылае трансфармаваную энергію да ядра планеты, падтрымліваючы тым самым тэрмаядзерны сінтэз. А днём піраміда прымала нізкачастотныя хвалі з тэрмаядзернага ядра Зямлі, пераўтварала іх у высокачастотнае выпраменьванне і выпраменьвала залішнюю энергію зямнога ядра ў космас. Піраміда падсілкоўвае сваімі промнямі эфірную крышталічную рашотку Зямлі, якая засцерагае ўсё жывое на планеце і не дазваляе ссоўвацца восі вярчэння планеты.

Так што можна вызначыць галоўную мэту пірамід – абарона людзей і ўсяго жывога ад разбуральных фактараў, якія могуць здарыцца ад перыядычнага праходжання Нібіру паблізу Зямлі і забеспячэнне дакладнай перапалюсоўкі…»

Антон спусціўся, набраў у падвале гладыш халоднага бярозавіку, настоенага на грушах-дзічках, зноў падаўся ў сваё сховішча. Ён ужо зацягнуў на гарышча прамавугольную пліту ад старога стала – так зручней пісаць, можна раскласці паперы.

Нейкі час не браўся за ручку, даў адпачыць руцэ. Праз нейкі час зноў узяў чароўную пісалку. Літаркі клаліся на паперы роўна, збіваліся ў словы і сказы, у абзацы…

«…З кожным годам нашая планета ўсё больш і больш запавольвае сваё вярчэнне – Зямля як бы "завісае", збіваецца з рытму, быццам чалавек, які пакутуе ад артэрыяльнага ціску. Гэтыя "правалы" і "завісанні" планеты выклікаюць неймаверныя разломы зямной кары, ад чаго ўзнікаюць землятрусы, бураны і патопы.

Як бы зверху нам падказваюць: калі вы не пабудуеце правільныя чатырохгранныя піраміды ў бліжэйшыя гады ў энергетычных кропках планеты, ці якім-небудзь іншым метадам не ўзмацніце вузлы эфірнай кры-

шталічнай рашоткі над Еўропай, Афрыкай і Амерыкай, то ў бліжэйшыя гады адбудзецца рэзкая змена полюсаў.

Ад чаго многія землі праваляцца ў водную апраметную, а акіянская вада ўзляціць у разраджанае паветра. Такое ўжо, на жаль, было, яшчэ ў часы Лемурыі і Антлатыды.

Атланты, валодаючы высокай тэхналогіяй, дакладна ведалі пра цыклічнасць планетарных і касмічных катаклізмаў. Таму, каб зберагчы планету, на якой яны жылі, ад сусветных патопаў і разбурэнняў, яны пабудавалі сто сорак чатыры вялізныя піраміды і 143 865 малых пірамід у розных кропках Зямлі, на лініях магнітных мерыдыянаў.

Піраміды атлантаў працавалі ў адзінай энергетычнай сістэме, таму яны стварылі эфірнае абарончае поле, якое ратавала планету ад касмічных катаклізмаў.

Калі адбылася вайна паміж Антлантыдай і Пракітайскай імперыяй, шмат вялікіх пірамід былі пашкоджаны альбо знішчаны зусім. Ад гэтага аслабілася эфірная засцерагальная сетка над Зямлёй, і адбыўся пераварот тых жа полюсаў.

Перапалюсоўка адбылася не хаатычна, сумбурна, а па строгай сістэме, якая і была закладзена ў той жа сістэме пірамід. Ад таго полюсы пры раптоўным і нечаканым перамяшчэнні да свайго месца дыслакацыі заўсёды рухаюцца па электрамагнітных мерыдыянах, якія пабудаваны глабальнай сістэмай пірамід атлантаў.

Што мы маем сёння? Амаль палова пірамід атлантаў ці разбурана, ці ссунулася на дно акіянаў і мораў, а што яшчэ горш – знаходзіцца не на магнітных мерыдыянах. Піраміды не працуюць, а калі якія і працуюць, то няправільна, альбо са слабай сілай.

Які выхад з гэтай сітуацыі? Каб пазбегнуць сусветных катаклізмаў і рэзкай змены полюсаў, неабходна – першае: ці пабудаваць 72 вялікія піраміды на лініях магнітных мерыдыянаў і ўключыць іх энергію ў працу агульнага абарончага поля Зямлі, ці – другое: стварыць новыя крыніцы нейтрыннай энергіі ўзамен страчаных пірамід атлантаў.

І што атрымліваецца. Мы лічым сябе цывілізаваным народам, маем дасягненні ў навуцы і тэхніцы, адправіліся ў космас, нават на Месяцы пабывалі, а не можам зрабіць самай простай рэчы – пабудаваць хаця б адну піраміду, накшталт піраміды Хеопса. Тут чакае нас тупік, бо і мазгоў нам не хапае, і ўмення.

А ці ёсць іншы шлях? Здаецца, ёсць. Зноў жа нам, неразумным, падказка з космасу. Каб займець страчаную энергію абарончай эфірнай сеткі, неабходна звярнуцца за дапамогай да «натуральных пірамідаў». Што гэта

такое? Неабходна паспрабаваць уключыць у працу конусападобныя горы і высокія ўзгоркі.

Нам прапаноўваюць адшукаць найбольш слабыя месцы, найбольш слабыя вузлы ў крышталічнай рашотцы планеты, якая служыць эфірнай абаронай сеткі. Знайсці ў тых месцах горы і ўзгоркі, якія знаходзяцца на магнітных мерыдыянах. На вяршынях тых гор скласці з камянёў малую пірамідку, так бы мовіць, паменшаную копію піраміды Хеопса, усяго да трох метраў у вышыню.

І гэты каменны пірамідыён скіраваць гранямі па компасе, па восі поўнач–поўдзень. І гэта яшчэ не ўсё. Новая падказка: унутры пірамідкі трэба схаваць заражаны горны крышталь, які павінен вылучаць частату “Х” і знаходзіцца на адлегласці адной траціны вышыні ад асновы канструкцыі пірамідыёна.

Затым неабходна актывізаваць каранёвую чакру гары – муладхару, прымусіць яе працаваць. А пад гарой неабходна пабудаваць дальмен «галавой» на поўнач у прапорцыі Фі = 1,618. Пакой трэба скласці з гранітных ці вапнавых пліт. Дальмен паставіць над цячэннем паземных вод ці падземных газаў.

У паўднёвай частцы дальмена закласці заражаны крышталь абсідыяну ці заражаную на частату “Х” пірамідку з шунгіту. Зусім усё проста. Як і проста пры дапамозе мантры ўключыць дальмен, запусціць яго, як рухавік.

А далей дальмен актывізуе каранёвую чакру гары, і тады ўжо энергія з цэнтру Зямлі пачне паступаць у вялікай колькасці на верхні крышталь. А далей ужо гара-піраміда сама ўключыцца ў агульнапланетарны засцерагальны ланцуг.

Такім жа чынам можна актывізаваць 72 гары ў розных канцах зямнога шара. І тады мы будзем цвёрда ведаць: на бліжэйшыя 3600 гадоў нам не будуць пагражаць патопы, астэроіды і метэарыты, сусветныя розныя катаклізмы… Людзі, выратуем нашую Планету! Выратуем сябе і жыццё на нашай прыгожай Зямлі! Амінь!»

Летапісец паставіў кропку і цяжка ўздыхнуў.

Ён як бы стэнаграфаваў данясенне з космасу, баючыся збіцца, памыліцца. Пералічыў спісаныя старонкі, – іх сабралася каля сотні.

Голас з космасу сціх.

Антон Клімовіч паваліўся на спіну, прымружыў вочы.

Перад вачыма стаяла піраміда Хеопса, і нешта гаварыў гаспадар яе – Сірыус, усміхаўся, узмахваў рукамі, як дырыжыраваў вялікім аркестрам.

Хлопец ведаў: ён дырыжыраваў Сусветам, ведаючы, што было, што ёсць і што яшчэ будзе.

З'явілася жаданне паслаць данясенне Сірыусу, ды нешта не пусціла, перанёс сваю задумку на далей, пад лепшы настрой…

Што будзе, тое ўжо было, а што было, паўторыцца зноў. З заканамернай перыядычнасцю.

Толькі не перавярнулася б усё з ног на галаву, бо тое азначала канец усяму.

Касмічныя думкі не адпускалі яго, непакоілі, прымушалі задумвацца, аналізаваць сваё жыццё і жыццё планеты.

**3**

– Да цябе падняцца можна? – пачуўся знізу голас Петруся.

– Ты як да міністра звяртаешся, – адказаў зверху брат, – дазволу на сустрэчу просіш… Які культурны ў мяне брат.

Пятрусь падняўся па лесвіцы, падпоўз да лежбішча, сеў побач:

– А хто цябе ведае, мо ты і ёсць будучы міністр. Пагэтаму з павагай трэба звяртацца, вучыцца быць ветлівым.

– Ну, давай, давай, вучыся.

Пятрусь агледзеў месца адпачынку брата, убачыў «стол», паперы на ім, разгорнутая тэчка з надрукаванымі тэкстамі.

– Па вучобе? – паказаў позіркам на паперы.

– І па вучобе, і так, паралельна.

Адчуў, што брат прыйшоў не проста так, нешта пільнае прывяло яго. Але не пытаўся ні пра што, сам выкладзе свае праблемы ці што іншае.

– Паеду заўтра ў Менск, павязу дакументы.

«Вось яно што, – падумаў Антон, – значыць, сам усё вырашыў… Ну і правільна, якія тут могуць быць парады».

– І куды ж? Мо да мяне?

– Не, брат, не да цябе. Думаў раней, але пераважыла другое. Па бацькавай дарозе пайду – у тэхналагічны паступаць буду. З лесам свой лёс звяжу. Лясгас нават накіраванне даў. Як глядзіш на мой выбар?

– Бацьку сказаў?

– Сказаў.

– Ён як аднёсся?

– Нічога. Адобрыў. Нават ухваліў, сказаў, што дынастыя лесавікоў працягнецца.

– То і я рады, што ты абраў такі шлях.

– Дзякую, што разумееш мяне. Так што калі атрымаецца паступіць, то будзем разам у Менску.

– Так, весялей абодвум будзе.

Пацяплела на душы ў Антона. Так, брат ужо дарослы чалавек. З бацькам у лесе з дзяцінства, ведае ўсё пра лес. Вунь для школы які гербарый зрабіў, у Гомель на выстаўку-конкурс вазілі, дыплом выдалі і Пахвальны ліст.

– Дык потым неўзабаве выклічуць на іспыты?

– Так. А пакуль узмоцнена рыхтуюся.

Памаўчалі. Кожны падумаў пра сваё. Недзе на вуліцы завуркатаў трактар, завішчэла, уеўшыся зуб'ямі ў цвёрдую дзеравіну, бензапіла.

– Маці заканчвае рыхтаваць сняданак, кліча цябе да стала, – падняўся малодшы брат, адпоўз да драбіны.

– Добра, паскладаю свае паперы і прыйду.

Пятрусь спусціўся, а Антон сядзеў нерухома на сеннай пасцелі. Глядзеў на тэчку, якую дала яму Вераніка. «Загадка Вітаўта». Так і не даходзілі рукі да яе, а вось цяпер прыйшоў час перагарнуць старонкі рукапісу. Загадка была і ў тым, што за такую тэму ўзялася дзяўчына. Чаго яе зацікавіў той перыяд, Вітаўт – асоба супярэчлівая і непрадказальная. Пакінуў след у гісторыі, але з розным адценнем, з розным колерам…

Загадзя не настройваў сябе на нейкі лад, бо Вераніка прасіла падысці да напісанага без усялякай скідкі, аднесціся строга і крытычна. Вось сходзіць паснедае, і, калі няма якой пільнай працы каля хаты, прыйдзе і нырне ў тую эпоху, сам стане Вітаўтам, авалодае ягонымі думкамі і жаданнямі, адкрые сваю душу, паспавядаецца…

«Загадка Вітаўта…

Я даўно падбіралася да гэтай тэмы, да выдатнай асобы, да гэтага загадкавага чалавека, які спрычыніўся да таго, каб наша краіна пайшла па тым кірунку, які вызначыў ён, а яму выбраў дарогу Той, хто ў нябёсах…

…Вітаўт спаў і не спаў.

Ужо двойчы падляталі да яго белыя анёлы, бралі пад пашкі, сілячыся адарваць ад ложа, узняцца ўвысь. Але Вітаўт неяк вылузваўся з іх абдымкаў, неяк выпрошваў іх перанесці яго ўзнясенне на дзень-два, не больш. Бажыўся нават, што больш не будзе ніякага супраціву, поўнасцю аддасца іх ўладзе і загадам.

Ён быў і не жывы, але і не мёртвы. Ён быў ніякі. Нават сэрца ўжо не білася ў яго грудзях, адно хіба душа зачапілася за нейкі нерв і не магла адчапіцца, сама не ведала, чаго так атрымалася.

Перад вачыма Вітаўта бегалі-мітусіліся нейкія здані, прывіды, усе ў белым адзенні – лёгкім і празрыстым, матляліся-развіваліся па нячутным ветры, быццам з зямлі выштурхоўвалася нейкая энергія і кідала белыя сполахі да столі… Нехта яго гладзіў па валасах і твары, шаптаў ласкавыя словы, а нехта злосна гадзючыным голасам шыпеў на вуха, абяцаючы хуткі яго скон. Ён ужо не рэагаваў ні на тых, хто галубіў яго, тым больш на тых, хто падштурхоўваў да пагібелі…

За вузкім акенцам, з якога прабівалася цьмянае святло, чуваць, як каркаюць неспакойна вароны ці груганы, чакаючы нечага. "Мо маёй смерці чакаюць, каб пажывіцца маёй крывёю? – горка падумалася яму. – Груганнё заўсёды чуе нечую смерць… Пачакайце, яшчэ не прыйшла тая хвіліна, не прыйшла. Калі што якое, вы першымі даведаецеся пра тое…"

Перавярнуўся на другі бок, каб вока не прыцягвалася да цьмянага святла. Зусім прымружыў вочы, і вушы прыкрыў далонню, каб не чуць картавы розгалас чорных хцівых птушак. Ложак цвёрды і мулкі, мусіць, не адзін пролежань утварыўся на целе, але ён не адчувае іх, як і не адчувае ўсяго цела. Адзінае, што памяць яшчэ порсткай крынічкай пульсуе ў мазгах, прымушае вяртацца і вяртацца да тых сполахаў і імгненняў жыцця, якое працякала раней. Адчуваў ён тады сябе маладым арланам з тугімі крыламі, калі ён мог узляцець на любую вяршыню, мог важкім каменем абрынуцца ўніз і пацэліць акурат на сваю ахвяру… Ён мог быць бездапаможнай птушкай, якой перабілі крыло, і яна ўжо ніяк не магла падняцца ў паднябессе… Кім ён толькі ні быў у сваім папярэднім жыцці, ці то ўзлятаючы ўвысь на крылах славы, ці падаючы ўніз з падбітымі крыламі, балюча выцінаючыся на цвердзі зямлі… Слава і бясслаўе заўсёды хадзілі побач, як смерць і жыццё, радасць і гора.

Калі перагортваць старонкі кнігі свайго жыцця, колькі цікавых і загадкавых момантаў і імгненняў выпала на яго долю! Вітаўту тое і застаецца, што ўспамінаць. Бо не конь баявы пад ім, не дзяржаўныя паперы на стале, не дрыжаць перад ім падданыя і памагатыя ў яго справе… Думай, вялікі князь, думай, успамінай, узважвай, радуйся перамогам, але і ўмей прызнаць свае пралікі, паразы, памылкі…

"Божа! Дай мне сілы перанесці ўсё, вытрымаць нечалавечыя пакуты! – звяртаецца Вітаўт да Вышняга, умольвае Яго памілаваць, дараваць яму грахі яго – са злымі намерамі і выпадковыя. – Няўжо мая віна такая вялізная, што Ты адбярэш ад мяне жыццё? Карай судом Сваім, але не пазбаўляй мяне жыцця, я яшчэ саслужу добрую службу сваёй краіне, слова даю, клянуся нават, хаця Ты і не любіш клятваў! Госпадзе, памілуй!.."

…Амаль стагоддзе мінула з таго часу, як на прасторах Наваградчыны і Літвы нарадзілася, узнікла амаль з нічога, магутная дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае. Літвінскія землі сабраліся ў адзін кулак. Рупіліся ўладары княства, пачынаючы ад Міндоўга і аж да Альгерда, каб не аддаць чужынцу ніводнага лапіка зямлі, з мячом у руках баранілі яе, не ведаючы стомы. Дзе не ўдавалася мячом, хітрасцю бралі, мудрасцю, дыпламатыяй. Таму і раскінулася яно ўшыркі – ад Балтыйскага да Чорнага мора, ад Берасця да ракі Угры. Не проста краіна, а імперыя!

Як хто пракляцце наклаў на бацькаў род – на сям'ю Кейстута. Князя задушылі Ягайлавы слугі, жонку ўтапілі ў рэчцы. Сына Войдата, які быў на княскім пасадзе ў Ноўгарадзе, крыжакі паланілі яшчэ ў 1362 годзе. Пазбавілі жыцця сыноў Патрыкія і Таўцівіла, юнакоў, Бутаўта збілі да паўсмерці, а самага малодшага, амаль падлетка, забілі ўжо прыдворныя.

Хапіў гора і ён, Вітаўт. Ды так хапіў, што і свет стаў нямілы, ледзьве не дайшоў да магілы. Маці, а пазней і прыдворныя, раскрылі тайну.

Яшчэ ў юнацтве Кейстут быў улагоджаны і пашанай, і славай, і прыхільнасцю князёў. Ніхто лепш за яго не валодаў мячом, таму нават у сяброўскіх турнірах ніхто не жадаў з ім змагацца, бо ведалі, калі ім апануе злосць ці гнеў, то ён забудзецца на ўсё на свеце і можа нават і забіць суперніка. Хоць тым супернікам мог быць і родны брат.

Скачучы аднойчы на сваім кані па беразе Балтыйскага мора, сустрэў Кейстут незямную прыгажуню. З каня саскочыў, падышоў бліжэй да незнаёмкі. Яна бурштын шукала на ўзбярэжжы. Зірнуў на яе і – аслеп, і – страціў розум. Спытаў, як завуць дзяўчыну.

А яна ведала, хто перад ёю стаіць, іншая перапалохалася б, схіліла галаву ў паклоне, баючыся сказаць не тое слова, што патрабавалася, а яна, горда ўзняўшы галаву, доўгую касу за плечы закінула, горда адказала:

– Мой светлы князь! Я – жрыца паганскай багіні Праўрмі, і маці назвала мяне Бірутай.

– Ці ты з неба апусцілася і стала багіняй, ці простая дзяўчына, але з божай прыгажосцю, не ведаю. Ты ведаеш, хто я?

– Хто ж цябе не ведае – жамойцкага князя? Кейстут ты, удалы хлапец.

– Так, князь я. Мне слугуюць прыдворныя, а я сам слугою хачу у цябе быць. Будзь мне за жонку, Біруta!

Яна нахмурылася, вусны пульхныя падціснула, горычна паглядзела на Кейстута:

– О, мой князь! Нават калі я і закахалася б у цябе, то наш шлюб не можа адбыцца.

– Гэта ж чаму, Біруta? – зніякавеў Кейстут, пачуўшы такое.

– Таму што я – вайдалотка, і дала клятву Перкуну ніколі не мець мужа.

Як ні ўгаворваў потым паганскіх жрацоў Кейстут, каб далі дзяўчыну яму ў жонкі, тыя не пагадзіліся. Нават папярэдзілі: “Не трэба, князь, дабівацца шлюбу з Бірутай, гнеў багоў нашлеш на сябе”.

– Ды што мне вашыя багі! – закрычаў гнеўна князь, рукі ўзняўшы ўгару, як быццам і пагражаў ужо тым багам, трасучы рукамі. – Усё роўна яна будзе маёй жонкай!

Ноччу з памагатымі пракраўся Кейстут у свяцілішча, заціснуў рот Біруты далонню, каб не закрычала, выкраў яе. Ускочыў на каня, яму падалі звязаную дзяўчыну, і ён паскакаў у Трокі.

– Угнявіў ты, княжа, нашых багоў, – уздыхнулі жрацы, гледзячы ўслед вершнікам. – Таму мы не вінаваты, што далей здарыцца з табой…

Такую гісторыю потым расказвала Бірута маломý Вітаўту.

У Вітаўта чатыры сястры і пяць братоў. Імя далі яму Віт, а маці ператварыла ў Вітаўт. Так і астатнім дала Бірута свае – паганскія – імёны. Патрыкій стаў Пацяргам, Вой – Войдатам, Феафл – Таўцівілам, Бут – Бутаўтам…

Балцкія землі для хлапчука Вітаўта сталі роднымі, неадрыўнымі, ён зліўся з яе лугамі і лясамі, з паветрам зліўся, прыродай, ветрам і даждажамі. Як і з мовай, якая была для яго старабеларуская. Ухвальвалі тое дарослыя, а вясёлы літвін Андрэй дык жартоўна забараняў яму хаўрусаваць з маскавітамі і размаўляць на іх мове. У “Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай” летапісец нават падрабязна расказаў пра тое. Андрэй ужо гаварыў выслоўямі: “Не міры Вітаўта, не міры!..” Таму і празваў Вітаўт свайго сябрука Нямірам.

І потым ужо, як узышоў Вітаўт на велікакняжацкі пасад, павёў сябе не як яго папярэднікі, якія падлабуньваліся пад мову маскавітаў, а размаўляў толькі на роднай, мілагучнай яго сэрцу. Што, дарэчы, ухваляла і яго маці.

“Божа літасцівы! – моліцца Вітаўт, заплюшчыўшы вочы, успамінаючы тыя дзіцячыя гады, якія запалі ў памяць. – Ты бачыш, што я ні ў чым не вінен, што не трымаю ў сэрцы зла на ворагаў маіх, што рабіў усё па запаветах Тваіх, чаму так лёс абышоўся са мною?.. Бацька мой, мудры і добры Кейстут, вучыў мяне дабрыні і лагоднасці, уменню разбірацца ў чужых душах, маці – Бірута – таксама вучыла цаніць болей за ўсё ў людзях спагаду і любоў… Вучылі, але іх парады і ўменне абярнуліся супраць іх жа…”

Рыпнулі дзверы, у цямніцу зайшоў ахоўнік. Моўчкі паставіў на каменны стол паднос з місаю мяса і глечыкам нейкага напою. Ні слова не прамовіў, толькі схіліў галаву, не глядзеў на Вітаўта, як бы баяўся сустрэцца з ім позіркам. Гэтак жа моўчкі і пакінуў вязня.

Да яды не дакрануўся – яда магла быць атручанай. Але тут жа злавіў сябе на думцы: калі б хацелі яго забіць, то даўно зрабілі б тое. Ды і есці не хацелася, прапала такое жаданне, і смага не падступалася да яго.

“Божа, Божа, адвядзі ад мяне бяду, усялі ў маю душу ўпэўненасць, што ўсё пераменіцца, што маё зняволенне – вялікая памылка, і яно часовае. Пасля ж ночы заўсёды пачынаецца раніца…”

Лёг на спіну. Сашчэпленыя рукі паклаў за галаву. Прымружыў вейкі. І адразу апынуўся на возеры каля Трокскага замку. Любіў ён адплысці ад замка да процілеглага берага і, лежачы бокам у чоўне, неадрыўна назіраць за высокімі збудаваннямі. Калі доўга глядзець, то замак пачынаў гайдацца на вадзе, быццам жывы, плыў некуды ўдалеч. Быццам у яго былі ветразі і ў іх біў пругкі вецер… Бацька расказваў, што некалі Яраслаў Мудры, зваяваўшы літвінскія землі аж да Нёмана, заснаваў горад Трокі. Тут была яго рэзідэнцыя, кіраванне над балцкімі землямі. Жыў у Троках Гедымін, гэта калі ён служыў Віценевым намеснікам ў Аўкштайціі. З Гедыміна і пачалося будаванне каменных муроў замка. Як яго не стала, на пасад узышоў Кейстут і зрабіў месца сталіцай княства.

Бацька пабудаваў на беразе яшчэ і драўляны замак, а вакол яго ўзнёс каменную сцяну, на ёй усталяваў вежы, з якіх льга было бачыць наваколле. Акрамя гэтага Кейстут пабудаваў на тэрыторыі замка яшчэ і праваслаўны манастыр. Да манахаў часта прыходзіў малы Вітаўт. Яны расказвалі яму шмат цікавага пра Хрыста, Галгофу, вучылі маліцца. На тэрыторыі замка жылі аўкштайты і літвіны. Літвінаў было найбольш, яны і складалі большасць двара Кейстута. Самым адданым і верным слугою ў бацькі, як памятае Вітаўт, з’яўляўся літвін Рыгор Амуліч. За князя гатовы быў аддаць жыццё. Кейстут любіў яго гэтак жа, як і Вітаўта. Той жа Рыгор і навучыў княжыча славянскай грамаце.

А як хараша ўспамінаецца яго настаўнік – былы ордэнскі рыцар Гано фон Віндэнгейм! Цікавы і мудры чалавек! Некалі бацька паланіў яго ў баі, пасяліў пры сваім двары, а з цягам часу нават пасябравалі. А для хлопчыка Вітаўта стаў незаменным настаўнікам. Былы рыцар вучыў княжыча не толькі нямецкай мове, а і, што галоўнае, вайсковым навукам. Спачатку Вітаўт узненавідзеў яго, калі ён “здзекаваўся” з яго, прымушаў да дваццатага поту махаць мячом, бегаць па канавах, уздымацца па крутых лесвіцах на верх замка… А потым і ўдзячны быў яму – ніхто не мог перамагчы яго ў спаборніцтве, а на полі бітвы праціўніка сек як капусту…

Яшчэ адно захапленне паланіла княжыча – паляванне. Спалі на свежым паветры, засыналі пад спеў птушак. А раніцай будзіў паляўнічы ражок, чуўся брэх сабак… Падчас палявання рыкалі звяры. Вітаўт, трымаючы

дзіду ў руцэ, гнаўся за зубрам альбо сустракаў яго, раз'юшанага, выставіўшы яе наперад. У душы непрыемны холад і страх, і жаданне перамагчы, адвага замешаная на мудрасці і спрыце. Гэтаму ўсяму будзе пазней вучыць Вітаўт сваіх вояў…

Але самым галоўным настаўнікам для Вітаўта быў сам бацька. Бо ён навучаў яго высакароднасці і мужнасці, доблесці і жыццёвай мудрасці. Крыжакі нават гаварылі пра яго – болей за ўсё ён любіў вайну і праўду.

Калі Вітаўту споўнілася васямнаццаць, і было тое ў 1368 годзе, упершыню яго імя з'яўляецца ў хроніцы. Бацька і вялікі князь Альгерд бяруць яго ў паход на Маскву. А ўжо праз два гады княжыч бярэ ўдзел у змаганні, якое адбылося каля рэчкі Руданы. Зноў з бацькам і Альгердам у 1372 годзе княжыч змагаецца супраць маскавітаў. А ўжо праз чатыры гады, стаўшы гарадзенскім князем, разам з воямі бацькі, Ягайлы і Юрыя Белзскага "ваюе польскія землі". Праз год, калі крыжакі напалі на Трокскае княства, ён узначаліў гарадзенскую дружыну ў паўтысячы вершнікаў і парабаваў склады крыжацкага правіянту. Вораг вымушаны быў вярнуцца ў Прусію. Во калі пачала даваць свае плады вучоба ордэнскага рыцара Гано фон Віндэнгейма! Як быў удзячны Вітаўт за тую навуку! Тады, падчас вучобы, было неймаверна цяжка, а цяпер ён здабываў перамогу, так бы мовіць, гуляючы.

Кейстут, абдымаючы сына, радаваўся бязмежна яго поспехам, спадзеючыся, што некалі перадасць яму велікакняжацкі пасад. І Рыгор Амуліч не меней за Кейстута радаваўся за княжыча, казаў: "Да славы цябе, княжа, Бог абавяжа!" Калі ж у Трокі наведваўся Ягайла, састарэлы князь, бачачы, як стрыечныя браты любасна глядзелі адзін аднаму ў вочы, марыў пра тое, што яны будуць жыць пасля яго ў любові і згодзе, разам уздымаць да вяршыняў славу роднай зямлі.

Як хутка праляцелі тыя гады! Адно ўспаміны засталіся ад таго часу, светлага і добрага часу.

Злая гадзюка запаўзла ў душу Вітаўтавага стрыечнага брата – Ягайлы. Калі палітычныя дзеі змяшаліся з прыдбаннем пасадаў, то ў ход былі пушчаны хітрасць і спрытнасць, скнарнасць і прага ўлады. Калі не стала Альгерда, Кейстут, выконваючы перадсмяротную волю брата, прызнаў вялікім князем літоўскім і рускім Ягайлу. Андрэй Полацкі, старэйшы брат, не прызнаў яго ўладаром Вялікага княства. Альгердава карона дасталася не яму, таму ён пакінуў Полацк і апынуўся ў Пскове, дзе раней княжыў. Падданыя не захацелі яму памагаць у барацьбе з Ягайлам. Ён адпраўляецца ў Маскву да князя Дзмітрыя Іванавіча. І праз год ужо Андрэй Полацкі, кіруючы маскоўскімі воямі, пайшоў вайной на княства Літоўскае.

Ягайла меў бацькаў характар – валодаў палітычнай мудрасцю, хутка прымаў дзяржаўныя рашэнні як ваявода. Спела ў яго душы авантурная мара. Яму хацелася, каб у будучыні ён уладарыў над тымі землямі, якія былі пад рукой Гедымінавічаў: Валынь і Трокскае княства. Марыў аслабіць Маскоўскую Русь, а Ордэн зрабіць сваім саюзнікам.

Стары Альгерд, адчуваючы свой блізкі апошні парог, папрасіў сустрэчы з братам – Кейстутам. Вялікі князь ужо і гаварыў ціха, як бы стомлена вяла ўзмахваў рукой, а калі абдымаў, то і зусім брат не пачуў тых абдымкаў.

– Просьба ў мяне ёсць да цябе, браце Кейстут. Доўга я вагаўся, каму перадаць велікакняжацкі пасад, разважаў. Напачатку думаў – старэйшы Уладзімір, князь кіеўскі. Яму на шосты дзясятак пераваліла, а на пасадзе павінен быць малады, вёрткі, шустры… Падышоў бы Андрэй Полацкі, у баявых паходах разам з бацькам браў удзел. На крыжаках свой меч адточваў, татарам крыві папсаваў, маскавітаў біў. Адважны вой, за дзяржаву перажывае. Полацк трымае, а тое нялёгка. Ды вось бяда якая – ласкава глядзіць у бок Масквы. І адкуль у яго любоў тая? Насуперак маёй волі ваяваў цвярскія гарады Хорвач і Родню, а пазней ужо, у 1372 годзе зноў разарэнне ўчыніў цвярскім землям…

– Дык што, братове, ты вырашыў?

Альгерд адказаў не адразу, як вырашаў, адкрываць яму сваю тайну і мару ці змоўчаць. Але ж паклікаў брата, што цяпер…

– Да старэйшага сына хінуся, да Альгерда, што нарадзіла другая жонка Ульяна Цвярская. Малады – хутка трыццаць гадоў будзе. Вецер у яго галаве прыстанішча не знайшоў. Хітры, прызнаюся табе, калі ж што задумаў, робіць без аглядкі. Гаварыў з ім не раз. Прызнаўся, што ў яго запаветная мара аб’яднаць пад адной уладай тры княствы – Трокскае, Валынь, і Вялікае княства. Яшчэ – аб’яднаць сілы і разбіць у рэшце рэшт пракляты Ордэн, а і перамагчы Маскву, якая нам шмат паскудства чыніць.

– Гэта ж добра, брат мой.

– Добра то добра, але ёсць у ім адна загана, а мо і не загана, – для дасягнення сваёй мэты ён не спыніцца ні перад чым. Яго метады – падман і здрада, подкуп і забойствы, жорсткасць і настойлівасць. А інакш, мусіць, нельга. Ягайла, як ты ведаеш, з’яўляецца братанічам цвярскому князю Міхайлу. І гэта яму на руку. Дык як, ты згодзен з маім выбарам, Кейстут?

Вялікі князь адпіў з залачонага кубка салодка-кіслы настой – грушавы сок з журавінамі, паглядзеў на брата.

– Жорсткасць і настойлівасць? Мо і трэба, мой брат, мець такія рысы будучаму вялікаму князю. Толькі б на карысць усё, толькі дзеля дзяржаўных інтарэсаў. Калі так, то я згодзен, і тваю волю, Альгерд, выканаю.

Брат у знак падзякі дакрануўся да рукі Кейстута.

Рука была халодная, амаль безжыццёвая.

– Дзякую, Кейстут. Іншага я і не чакаў.

Перад самай ужо смерцю да яго прыйшлі жонка Ульяна і яе духоўнік, пячэрскі архімандрыт Давыд. Прапанавалі яму прыняць схіму – вышэйшы царкоўны сан у манастве, – згадзіўся. Памёр хрысціянінам, але па старажытным паганскім звычаі яго спалілі на вогнішчы. Прах пахавалі ў царкве Прасвятой Божай Маці, якую сам і пабудаваў. У свой час ён жорстка змагаўся з хрысціянствам, а цяпер прымірыўся з ім.

То ўжо нашмат пазней прачытаюць словы летапісца пра дзеі слаўнага князя: “Гэты Альгерд вельмі разумны быў і многімі языкамі размаўляў, і пераўзышоў санам і ўладай усіх; і сустрыманне меў вялікае, ад усякай мітусні адвяртаўся, на забавы, гульбішчы і падобнае не зважаў, але клапаціўся дзень і ноч пра дзяржаву сваю; і ад п’янства адвяртаўся: віна і піва, і мёду, і ўсялякага напою хмельнага не піў, бо ненавідзеў п’янства, і вельмі сустрыманы быў ва ўсім: і ад гэтага вялікі розум і развагу набыў, і дасціпнасць прыдбаў, і гэтым многія землі і дзяржавы павяваў, і грады, і княствы ўзяў за сябе, і трымаў уладу вялікую, і прымнажалася княства яго болей за ўсіх, чым за бацьку, чым за дзеда, такі быў. Бо звычай Альгерда такі, ніхто не ведаў яго, куды думаў раццю выступіць, або навошта збірае шмат воінства, як і самыя тыя вайсковыя чыны і раць уся не ведалі, куды ідуць: ні свае, ні чужыя, ні госці-прышэльцы: у таямніцы ўсё тварыў разумна, каб не дайшла вестка ў зямлю, на якую хацеў ісці раццю; і такой хітрасцю забраў многія землі, узяў многія гарады і дзяржавы зняволіў; не столькі сілай, як дасціпнасцю. І быў ад яго жах на ўсіх, і пераўзышоў княжаннем і багаццем…”

Таму і адобрыў Кейстут рашэнне свайго брата. Сам спрыяў, каб Ягайла ўступіў на той пасад. Супраць волі Альгерда ісці не мог…

…Былі ў Ягайлы ворагі, але самым небяспечным для сябе ён палічыў не каго-небудзь з чужынцаў, а свайго роднага дзядзьку – Кейстута, ад якога заўсёды меў падтрымку і бацькоўскае дабраславенне.

Жамойція дажывала апошнія дні, яна канала. Ордэнскі маршал Куна Гатэнштэйн пераступіў яе межы без супраціву. Хаты вёсак зноў запалалі агнём. Тым часам крыжацкія воі падышлі да Коўна. Яны ўжо ведалі, што да замка падыходзіць авангард войскаў Трокскага ваяводства. Крыжакі не баяліся яго, бо былі добра падрыхтаваны і ўзброены. Кейстут не кінуўся ў бой, праявіў абачлівасць і асцярожнасць – прапанаваў маршалу сустрэцца. Каля ракі Нярыс і адбылася сустрэча ордэнскага маршала і

троцкага князя Кейстута. Вынікам той сустрэчы была дамова абмяняцца палоннымі, а пазней заключыць і мір…

Пакуль яшчэ не была падпісана мірнае пагадненне, крыжакі праявілі нахабства: напалі на Трокскае княства. Паспрабавалі штурмам узяць Мельнікі, але ў іх нічога не атрымалася, тады яны спалілі і абрабавалі Камянецкую зямлю. Спалілі яшчэ і Берасце. Замак выстаяў, не паддаўся наступу. Напрыканцы месяца ў замак Іаганісбург са сваімі саноўнікамі прыехаў вялікі магістр. Туды ж з’явіліся Кейстут з Вітаўтам, за імі прыбыў і Ягайла.

Але па прапанове Кейстута перамовы вырашылі прадоўжыць у Троках, там і падпісалі мірнае пагадненне. Мір заключылі на дзесяць гадоў. Пазней, як данеслі Вітаўту, Ягайла таемна сустракаўся з саноўнікамі ордэна, ён і прапанаваў заключыць сепаратную дамову супраць Кейстута. Ён яшчэ меў зносіны з уладаром Залатой Арды Мамаем, і паабяцаў таму, калі той пойдзе заваёўваць Маскву, падтрымае яго… Каб накінуць путы на Кейстута, неабходна было заключыць дамову з Ордэнам. Не меў даверу Ягайла да свайго дзядзькі, і таму страшэнна баяўся, каб той не захапіў уладу ў Вялікім княстве.

Ягайла пайшоў на хітры крок. Пасля таго, як падпісалі граматы ў Троках, прапанаваў крыжацкім паслам паехаць і затрымацца ў Вільні. Там, па сведчанні Віганда Марбургскага, хранікёра, “яны затрымаліся на тры дні і тры ночы, дамаўляючыся пра таемныя справы з каралём” Пасля таго, як крыжакі напісалі хлуслівы ліст да Ягайлавай маці князёўны Ульяны Цвярской, у якім сцвярджалі, што “нягодны чалавек Кейстут збіраецца авалодаць усёй літоўскай дзяржаваю і загубіць вашага вельмі слаўнага сына Ягайлу”, – Ягайла вырашае расправіцца з Кейстутам і Вітаўтам, а іх землі далучыць да Вялікага княства. Сам тую гнюсную расправу ўчыніць не рашаецца, а даручае гэта лідскаму баярыну Вайдылу.

Да гэтага баярын служыў у Альгерда пекарам, пасля даверылі яму пасаду “засцілаць ложкі” і падаваць перад сном ваду. Парабак так падлабуніўся пад князя, што той прыблізіў яго да сябе і нават аддаў яму Ліду. Вялікі князь ідзе яшчэ далей – аддае за былога свайго парабка сястру сваю – Марыю, удаву, калі загінуў князь Давід Гарадзенскі. Паабяцаў Вайдыле аддаць яму і Трокскае княства. Такой абразы Кейстут сцярпець не мог. А Ягайла пасылае ўжо Вайдылу ў Рыгу, каб той падпісаў ад яго імя грамату, па якой лівонскія рыцары маглі зваяваць Жамойцію. У Мальбургу сустрэўся з вялікімі магістрам, з якім дамовіліся, што тыя прыедуць на паляванне ў Давідзішкі. Туды прыбудзе ўжо і Ягайла, каб заключыць з Ордэнам канчатковае пагадненне.

Хітрая інтрыга плялася далей. Ягайла спрактыкавана і дальнабачна расстаўляў мярэжы перад бацькам і сынам, каб адвесці падазрэнні і не выклікаць у Кейстута недаверу, Ягайла запрашае на перамовы і Вітаўта.

Вітаўт, як дзіця радуецца паляўнічым спаборніцтвам, сам прымае ў іх удзел, і забываецца на ўсё на свеце – пра асцярожнасць, губляе прадбачлівасць і палітычную мудрасць. Не ведае, што за яго спінай Вайдыла з Ордэнам склаў грамату, у якой гаварылася: "Вялікі князь абяцае Тэўтонскаму ордэну ў Прусіі і Лівоніі поўны спакой і бяспеку як землям, так і людзям; калі ж Ордэн пойдзе вайною на Кейстута або яго дзяцей, а вялікі князь рушыць у поле свае войскі, дык мір праз гэта ніяк не парушыцца, таму што вялікі князь не будзе дапускаць ніякіх вайсковых сутычак з Ордэнам…"

"Ох, якім я аказаўся дурнем, – стагнаў у роспачы Вітаўт, варочаючыся-круцячыся на сваім мулкім ложку, за галаву хапаўся, гатовы быў біцца галавой аб сценку, дакараў і дакараў сябе за неабачлівасць, за прастадушнасць, што не адчуваў тады страшэннай небяспекі. Паляванні табе трэба, баляванні, прыгожыя паненкі… Думаў, што вялікі гонар табе зрабіў Ягайла, калі запрасіў на такія ловы, уважыў, узвысіў цябе да нябёсаў? Цьфу! Дурань і яшчэ раз дурань! Спакойна тады адправіўся да сябе ў Гародню, акрылены, улагоджаны. А Ягайла тады таксама быў задаволены, калі паехаў у Вільню. Бо ён заручыўся падтрымкай Ордэна…

Мне ж казалі, і не раз, што Ягайла замыслівае нешта нядобрае, што рыхтуецца да паходу на Маскву. Спадзяваўся на зброю туменаў Мамая, яны павінны былі расправіцца з Масквою і пазбавіць падтрымкі Андрэя Полацкага і Дзмітрыя Трубчэўскага. Той дзень, 8 верасня 1380 года, запомніцца Ягайлу, дзень стаў ганьбай і расчараваннем для яго – князь Дзімітрый Іванавіч ушчэнт разбіў татарскую дружыну. Ягайла пасля паразы саюзніка з сорамам павярнуў назад…

Бацька раней за мяне пераканаўся ў Ягайлавай здрадзе, таму і казаў: «Сыне, мой сыне, хіба ж не бачыш, як Ягайла сарамаціць мяне перад усім светам? За каго, за Вайдылу, пустадомка, аддаў маю сястру, з немцамі замыслівае на мяне ліха. Мы ваюем з імі, а ён з Ордэнам Полацак скарае…» А я, бацька мой родненькі, усё роўна не верыў, патрабаваў ад цябе доказаў здрады. Я сказаў табе, што я яшчэ давяраю Ягайлу. І ты рашыў дзейнічаць інакш, тым больш адзін. Як толькі я выехаў з Трокаў у Драгічын, ты з войскам нечакана напаў на Вільню. Ягайла аказаўся ў палоне. Ты, перавярнуўшы ўсё дагары нагамі ў вялікакняжацкай канцылярыі, адшукаў усё ж патаемныя граматы-дамовы з Ордэнам. Мне амаль

пад нос падсунуў іх, гнеўна спытаў: «Што, і цяпер, можа, не верыш, што ён хацеў пазбавіць нас жыцця?!»

Лепш было б не ведаць мне пра братаву здраду. Міжволі слёзы паліліся па маім твары – ад крыўды, ад падману, ад жорсткасці брата. Я адвярнуўся ад цябе, каб ты не бачыў маіх слёз. Але ты абняў мяне, супакоіў: «Усё, сын, здараецца ў нашым жыцці, і да ўсяго мы павінны быць гатовы». Эх, бацька, бацька, ты быў Кейстутам, ім і застаўся… Дараваў Кейстут здраду Ягайлу, думаў, што памяняецца чалавек, адумаецца і не будзе плесці мярэжы супраць родных. Дарэмна дараваў…"

Ноч на дварэ, а Вітаўт усё лупцуе і лупцуе сябе няшчадным бізуном, перабірае ў памяці мінулыя падзеі, разбірае свае памылкі, няўдачы, паразы… Вось каб гэта цяперашні розум ды тады, не здарылася б такога, не здарылася.

Зноў думкі перакідваюцца да Кейстута – вялікага князя літоўскага. Што тварылася ў яго душы, адзін Бог ведае, але дзяржаўныя клопаты не выпускаў з-пад сваёй увагі ні на хвілінку. Яны яго паглынулі цалкам.

Ну навошта было пазбаўляць жыцця Вайдылу? Каб жа ён жыў адзін, без сям'і, а то ж Марыя нарадзіла дзяцей, упусціла ў сэрца свайго мужа, хаця і не жаданага напачатку. Дзеці сіротамі засталіся. На таго, хто вінаваты быў у тым, крыўду затаіла, помстай уся гарэла.

Вітаўт з бацькам з крыжакамі змагаюцца, а Ягайла тым часам брата свайго Свідрыгайлу ў Крэва з граматамі адпраўляе – да лівонскага магістра Вільгельма. Але адна з грамат чыстая, як незасеянае поле, толькі пячатка Ягайлава прымацаваная ўнізе. На чыстым полі збіраліся пасеяць чорныя зярняты-словы, з якіх Ордэн павінен запісаць свае ўмовы, калі ён, Ордэн, дапаможа Ягайлу знішчыць Кейстута.

Свідрыгайла ў Рызе сустракаецца са Скіргайлам, і той уключаецца ў выкананне задуманага. Падключаецца да гэтага і вялікі камандор Ордэна, канцылярыя якога знаходзіцца ў Кёнігсбергу. Адной з умоў дапамогі Ягайлу была і такая: на працягу чатырох гадоў Вялікае княства павінна прыняць каталіцтва і саступіць Ордэну Жамойцію. Умовы прымаліся. Чакалі толькі зручнага моманту, калі можна будзе напасці на Кейстута.

Кейстут, параіўшыся з Вітаўтам, адправіўся ў Ноўгарад-Северскі да князя Дзмітрыя-Карыбута Альгердавіча, хаця той і не прызнаваў яго ўладу, а Вітаўт, сабраўшы гарадзенскую дружыну, стаў лагерам каля Вільні. У яго задачу ўваходзіла ахоўваць сталіцу, не падпусціць да яе крыжакоў.

А Ягайла не на Ноўгарад-Северскі пайшоў, следам за Кейстутам, а на Вільню падаўся. Выступілі не адкрыта, а тайна рухаліся, ноччу, ціха прабіраліся па патайных сцежках. А Вітаўт і не здагадваўся пра тое, і ўявіць не

мог, што Ягайла пойдзе на такое. Таму і не чакаў нападу. Ягайла раптоўна напаў на яго, ушчэнт разбіў дружыну. А начальнік віленскага гарнізона Гануль, які служыў Ягайлу, здаў сталіцу пераможцам. Тады і абвясціў Ягайла сябе вялікім князем Літоўскім і Рускім. Расправіўся з Вітаўтам, пачаў рыхтаваць войскі, каб зваяваць Кейстута.

Вітаўту ўдалося не трапіць у палон, вылузаўся, дзякуючы спрыту і храбрасці, з дзясяткам сяброў сваёй дружыны адступіў у Трокі.

“Божа! Які ўдар нанёс мне Ягайла! – скрыгоча зубамі палоннік. – Ён аказаўся хітрэйшым за мяне, больш жорсткі і абачлівы, у ім не было ні кропелькі дабрыні і сардэчнасці. Дзеля дасягнення мэты і маці родную мог прадаць. А тут не маці, а бацьку роднага… Вось калі я зразумеў, хто ты, Ягайла, стрый мой! А бацька ж даўно ведаў, казаў мне пра тваю гнілую душу.

Як жа я пасля той паразы мог заставацца ў Троках? Разам з маці мне прыйшлося ўцякаць з гэтай любай мясціны. Добра, што ў дзяржаўнай скарбніцы яшчэ было трохі грошай. Мы падаліся на Гародню. Пасля нашага ад’езду мой былы сябар разам з крэўскай, віцебскай дружынамі ды і крыжакамі ў дадатак прыбыў у Трокі. Адразу стаў і троцкім князем. Сумненняў у мяне ўжо не было – у планах стрыя стаяла расправа нада мной і Кейстутам…”

**4**

“Сем сыноў было ў вялікага князя літоўскага Гедыміна. Старэйшы з іх – Мантывід, пасля яго – Нарымонт, за ім – Альгерд, бацька караля Ягайлы, затым Яўнут, потым Кейстут, якія будзе потым бацькам вялікага князя Вітаўта, Карыят потым, а сёмым ужо нарадзіўся Любарт. Мо і назвалі яго так, што любілі дужа, як апошняга.

Бацька аддаў Мантывіду Карачаў і Слонім, Нарымонту – Пінск, бацьку караля – Крэва, апроч усяго князь віцебскі сыноў не меў, і таму да сваёй дачкі ў Віцебск узяў Альгерда. Яўнута пасадзіў Гедымін у Вільні на вялікае княжанне. Кейстуту дасталіся Трокі, Карыяту – Ноўгарадак. Любарт прычыніўся да ўладзімірскага князя – да дачкі ва Уладзімір і ў Луцк на ўсю зямлю Валынскую.

Бацька караля Ягайлы Альгерд і Кейстут, бацька вялікага князя Вітаўта, як адзначалі сучаснікі, жылі ў добрай любові і зладжанасці, шанавалі адзін аднаго. І аднойчы не даспадобы ім стала тое, што вялікі князь Яўнут узнёсся да нябёсаў сваёй магутнасцю і справядлівасцю.

Не любілі яны дужа, калі нехта вылучаўся, трымаліся сваёй даўняй традыцыі ці дамоўленасці – быць на роўных, не ўзвышацца адзін над адным, знаходзіцца ў святой роўнасці, тады і спрэчак не будзе, злыбяда не напаткае.

А тут… Забыўся ці што, пра клятву і пра сяброўства?

Браты – князь вялікі Альгерд і князь вялікі Кейстут – разважалі так:

– Калі ж ён пачне і вышэй узносіцца, узвышацца, аддаляючыся ад нас, то што з таго атрымаецца? Раўнавага парушыцца. Гэта як усё роўна вада над гарамі стане…

– Што рабіць маем, Альгердзе, браце мой родны? Як усё на месца паставіць, парай.

Доўга думаў Кейстут, бровы хмурыў, уздыхаў цяжка, нялёгка было вынайсці нешта адзінае, што б задавальняла абодва бакі.

– А мы так зробім, – пачуўся адказ. – Трэба яго вытурыць з Вільні… А замест яго пасадзіць больш памяркоўнага і спакойнага, які не любіць уладу, а свой народ.

Час абралі такі, каб спрыяла ўсё ім. Усё сыходзілася на тым, што трэба рушыць на Вільню і заняць горад.

Але гісторыя свае коскі і кропкі расстаўляе, ды і зоркі на небе не шыхтуюцца ў той рад, які абмалявалі браты. Альгерд з Віцебска ў дамоўлены час не прыбыў у Вільню. А вялікі князь Кейстут дапяў да горада раней часу і ўвайшоў у яго. Яўнут, адчуўшы небяспеку, паспеў уцячы з горада, уцёк у гарыстую мясцовасць, каб схавацца там. Ды як на тое, вялікі мароз гуляў па зямлі, а ён не падумаў, каб захапіць з сабою цёплы абутак і апранаху. Таму адмарозіў ногі. Яго высачылі і схапілі, амаль безабароннага, прывезлі да брата – вялікага князя Кейстута.

– Ну, што, брат мой любы, – звярнуўся да яго Кейстут, – ці ведаеш ты хоць, чаму цябе паланілі?

– Не, віны за сабой не адчуваю, скажы, у чым мая правіна?

– А ў тым, што дужа ты заганарыўся, нашых парад не слухаеш, ідзеш насуперак нашым дамоўленасцям і клятвам.

Маўчыць Яўнут, галаву схіліўшы.

– Летапісец, – звярнуўся Кейстут да свайго сакратара, – напішы нашаму брату Альгерду, што Яўнут цяпер ужо не ў Вільні, што ён цяпер пад вартаю знаходзіцца, што трон у Вільні чакае свайго гаспадара. Пашлі насустрач брату, вялікаму князю Альгерду, вестку, што Яўнут у нас, што ён больш ніколі не будзе ўзвышацца над намі, і стаў роўным сярод нас…

Ганец сустрэў брата ў Крэве, аддаў яму пасланне. Прачытаўшы радасную вестку, тут жа, не марудзячы, выправіўся ў дарогу.

На парозе яшчэ сустрэў брата Кейстут, тут жа абняў, расцалаваў, моцна прытуліў да сябе, прамовіўшы:

– Ты брат мне старэйшы, таму табе і належыць быць вялікім князем у Вільні. А я з табою заадно зажыву. Скажы мне, браце, ці прымаеш ты маю прапанову.

Адарваўшыся ад Кейстута, Альгерд, паклаўшы руку на грудзі, адказаў:

– Прымаю і дзякую! І нас ніхто не разлучыць, і верныя мы будзем клятве нашай – роўнымі быць сярод роўных.

Абодва адзін аднаму пакланіліся, звязалі братэрскі саюз.

– А што з ім рабіць будзем? – паказаў пальцам Кейстут на Яўнута, які сядзеў з апушчанай галавой, адчуваючы, што вінаваты перад братамі.

– А ці прызнаеш ты віну сваю, Яўнут? – спытаў Кейстут.

– Прызнаю, браты мае, забыўся я на клятву нашую. Таму няма мне даравання.

– Даруем табе грэх твой, Яўнут, таму ты будзеш сядзець у Заслаўі.

І новую ўмову спарадзілі між сабою вялікі князь Кейстут і вялікі князь Альгерд:

– Першая ўмова – усе браты павінны слухацца і падпарадкоўвацца толькі вялікаму князю Альгерду.

– Буду слухацца, – цвёрда паддакнуў паланёны, а цяпер ужо вызвалены з-пад варты Яўнут.

– Другая ўмова: усе гарады ці воласці, якія будуць здабыты, дзяліць пароўну, па ўзаемнай згодзе, каб ніхто не быў абдзелены.

– Усё пароўну, – пацвердзіў Яўнут.

– Трэцяя, і апошняя, умова: да канца нашага жыцця мець паміж сабой любоў і дружбу, і ніколі – ніколі! – не замысліваць благога і ліхога супраць кожнага з нас. Паклянёмся, братове!

Кейстут і Альгерд змацавалі клятву поціскам рукі.

Да іх падышоў Яўнут, паклаў сваю зверху, выгукнуў:

– Клянуся! Клянуся! Клянуся!

Да канца свайго жыцця яны засталіся вернымі сваёй клятве.

А ў вялікага князя Альгерда сыноў было аж дванаццаць, і ўсе дужыя, прыгожыя і разумныя. І восем дачок было ў яго. Ад першай жонкі, Марыі віцебскай (памерла ў 1346 годзе): Андрэй, Дзімітрый, Канстанцін, Уладзімір, Фёдар і тры дачкі. Ад другой жонкі – Ульяны Цвярской (памерла ў 1392 годзе): Ягайла-Уладзіслаў, Скіргайла-Іван, Карыбут-Дзімітры, Лінгвен (Лугвеній, Лугвен)-Сямён, Карыгайла-Казімір, Вігунт-Аляксандр, Свідрыгайла-Баляслаў і пяцёра дачок.

Ад першай жонкі сыны нарадзіліся на Беларусі, таму адразу былі ахрышчаны па праваслаўным абрадзе. А сыны ад Ульяны нарадзіліся ў той час, калі Альгерд ужо быў вялікім князем у Вільні, дакладней, у паганскай Літве, таму спачатку атрымалі літоўскія імёны. То пазней ужо, пры хрышчэнні, яны набылі другія, хрысціянскія імёны.

А ў вялікага князя Кейстута нарадзілася шасцёра дзяцей. Кейстут фактычна быў пасля вялікага князя Альгерда другою асобай у беларускалітоўскай дзяржаве. Летапісы сцвярджаюць пра шасцёра сыноў: Пасцірг (Патрыкей), Войдат, Бутаў, Вітаўт-Аляксандр, Таўцівіл і Жыгімонт. Яшчэ мог быць у Кейстута і сёмы сын – Вайшвіл. А ў яго было чатыры дачкі – Марыя, Данута – пабралася потым шлюбам з Янушам, князем мазавецкім, Ганна і Рынгала. Усплыло пазней і імя адной з дзвюх жонак Кейстута – Бірута. Яна, дарэчы, адыграла значную ролю ў жыцці князя Вітаўта…

І так ужо сталася, што паміж сыноў сваіх найбольш палюбіў князя вялікага Ягайлу. А Кейстут гарэў найбольш сэрцам князя вялікага Вітаўта. І яшчэ пры жыцці сваім Альгерд і Кейстут вызначылі лёс і дарогу сыноў: Ягайлу і Вітаўту знаходзіцца на сваіх месцах – на вялікіх княжаннях. І, як сведчыць летапісец, яны, вялікі князь Ягайла і князь вялікі Вітаўт, вельмі зладжана і дружалюбна жылі пры сваіх бацьках… Клятва, дадзеная імі на іх дружбу, трымала моц і іх дзяцей…

Нечакана памірае вялікі князь Альгерд. Але перад сваёй смерцю, прадчуваючы яе, папрасіў брата свайго князя вялікага Кейстута трымаць і надалей князем вялікім у Вільні сына – князя Ягайлу. Кейстут пасля смерці брата працягвае прыязджаць у Вільню, як і раней прыязджаў да брата свайго, на даўнія рады.

І зноў жа звернемся да радкоў, што пакінуў летапісец. У Альгерда з'явіўся парабак – паланёны ў бітвах, чужынец. І звалі яго халоп Вайдыла. Адмысловым майстрам аказаўся – і ў пякарскай справе вызначыўся, у цяслярскай, у земляробчай. Ды так лісліва падкаціўся да князя, так пастараўся дагадзіць яму ва ўсіх справах, што прыйшоўся да душы Альгерду. Ды так упадабаў яго, што даверыў нават пасцель яму сцяліць, ваду падаваць, гісторыі на ноч цікавыя расказваць са свайго жыцця. А ён вызначыўся яшчэ як і адмысловы фантазёр, мог выдумаць з дробязі цэлую гісторыю з бітвамі і паразамі, перамогамі і паданнямі…

Калі ж аднойчы халоп расказаў пра прыгожую паненку Ліду, і яна спадабалася князю, ён і прамовіў:

– А ты і бяры яе сабе за жонку!

Халоп вочы вырачыў, здзівіўся ад парады Альгерда, бо ведаў, што яна прыдуманая, галавой адмоўна пахітаў.

– Я табе Ліду аддаю!

Зноў нічога не разумеў Вайдыла, глядзеў няўцямна на князя.

– Горад Ліду табе аддаю! Гаспадаром у ёй будзеш.

Не паверыў свайму шчасцю прыгонны нявольнік, укленчыў перад Альгердам, галавой крануўся падлогі. І ўсеўся ён у крэсла кіравання горадам, ганарлівым стаў, але пры сваім розуме.

Каля трох гадоў пасля смерці Альгерда мінула, і князь вялікі Ягайла, трымаючыся павагі Альгерда, пайшоў яшчэ далей. Калі Вайдыла сабраўся жаніцца і падбіраў нявесту, то і прапанаваў яму сваю сястру родную – князёўну Марыю.

І яшчэ больш прылашчыўся хітры Вайдыла да вялікага князя Ягайлы. Хітрым змеем запоўз ў яго душу. Жыў як за каменнымі мурамі, адчуваючы моцную ахову князя.

Бачачы, што мае такога ўплывовага "бацьку", замахнуўся на тое, каб і яшчэ больш узвысіцца над усімі. Пачаў удзельнічаць разам з немцамі ў сойміках, граматы складаць супраць… вялікага князя Кейстута. І быў нехта астродскі коптур, які меў імя Гунстын, – кіраўнік горада Астрода ў Прусіі.

А ён з'яўляўся кумам князю вялікаму Кейстуту – хрысціў князёўну Янушаву, дачку яго.

Прыехаў аднойчы Гунстын да Кейстута ў госці, як быццам бы ў госці, ды за вячэрай, пакаштаваўшы дарагога віна за сустрэчу, і выклаў таму свае падазрэнні.

– Куме мой ласкавы і добры, – знізіўшы голас амаль да шэпту, – ці ведаеш ты, дарагі Кейстут, што супраць цябе нядобрае замысліваецца?

Князь насцярожыўся, паглядзеў на свайго кума, яшчэ цішэй удакладніў:

– Не, куме, не ведаю, не здагадваюся нават. Падзяліся сваімі думкамі ці падазрэннямі, будзь так ласкавы.

– Ты, мусіць, куме, не ведаеш, што князь вялікі Ягайла дужа часта пасылае да нас твайго былога, а мо і не былога, улюбёнца?

– Гэта ж каго?

– Вайдылу, куме, яго. І ўжо ёсць пісьмовая змова з намі, каб цябе пазбавіць тых уладанняў. А яму, праныру гэтаму і маці яго, яны дасталіся.

Кейстут нахмурыўся, унурыўся, пачуўшы такое. Не ведаў, верыць ці не свайму куму. З другога ж берага ён, з іншай дзяржавы, можа і прыплесці чаго. Не ведаў, што адказаць Гунстыну. І пакрыўдзіць не хацеў сваім недаверам яго паведамленню, але ж і прычын не давяраць яму не было.

На раздарожжы стаяў князь, пакутаваў ад невядомасці.

Развітваючыся, Кейстут абняў горача кума, прытуліў да сябе:

– Дзякую, дарагі Гунстын! Буду думаць, як мне быць. Шчасця табе і жоначцы тваёй любай! З Богам!

Князь вялікі Кейстут, прыняўшы словы кума да ўвагі, падумаў пра другое – Вітаўт жыве ў добрай згодзе з князем вялікім Ягайлам, і паміж імі не было ніводнага разу нейкага непаразумення, таму не да канца верыў куму.

Пры сустрэчы з сынам не вытрымаў, паскардзіўся:

– Сыне Вітаўт. Жыву ў горкіх прадчуваннях. І таму не магу трымаць у тайне тое, пра што даведаўся. Ягайла хоча адабраць ад мяне мае ўладанні. Ведаю, што ты з ім жывеш у любові і лагодзе, але…

– Што "але", бацька? – Вітаўт усміхаўся, ведаючы, што з боку Ягайлы ніякай пагрозы не сыходзіць. – Расказвай…

– Ягайла за нашай спінай вядзе перамовы з Ордэнам, таму не будзь даверлівы, асцерагайся яго.

– Не вер гэтаму, бацька, гэта ўсё няпраўда. Ён са мною шчыры і добры. Ды мяне і папярэдзілі ўжо, калі дойдуць да мяне такія чуткі, то каб я ім не верыў. Дарэмна ты так думаеш кепска пра Ягайлу.

Кейстут цяжка ўздыхнуў, апусціў галаву. Не чакаў такога адказу ад сына. Нават не насцярожыўся, не перапытаў, адкуль такія чуткі дайшлі да бацькі, недзе нават і пасміхаўся з бацькавага недаверу, адпрэчыў падазрэнні Кейстута і здраду.

– Глядзі, сын, баюся вельмі, каб цябе не падвяла твая даверлівасць і наіўнасць, – з цяжкасцю выціснуў з сябе словы Вялікі князь Кейстут. – Гісторыя нам таго не даруе…

Дорага абышоўся той недавер Вітаўту, не раз ён пасля пашкадуе пра тое, не раз, але тады…»

## 5

І прысніўся Антону сярод ночы дзіўны сон. Бабулечка прыснілася яму – Аўдоля. Вочы празрыста-сінія, як аскалёпкі неба, зморшчынкі разбягаюцца па твары бы праменьчыкі сонца, і сама свеціцца бы тое сонейка, натоленая нейкай радасцю, знутры лучыцца святло і робіць яе незямною, а нябеснаю…

Сядзіць каля стала, спінай да стала, склаўшы спрацаваныя рукі на каленях, не зводзіць вачэй з яго, Тоніка. Тонік малы, прыйшоў да бабулі ў госці, чакае, калі яна дасць яму сушаных грушак і гарбузікаў з арэхамі… Дужа любіў Тонік тыя грушкі і гарбузікі таксама. У бабулі стаяў цэлы мяшэчак за печчу гэтага пачастунку.

А дзед Міхась на ўслончыку сядзіць, у роце цвічкі трымае, хітра падміргвае ўнуку, як бы гаворыць: «Ну, што, унуча, хораша ў бабулі ў гасцях, ці не так?» Потым бярэ цвічок, прыстаўляе да падэшвы, і адным узмахам заганяе яго ў падэшву чаравіка. Чаравік Тонікаў, таму ён прыйшоў да дзеда, каб той падладзіў чаравік, які ўжо кашы просіць. Бо на вуліцы ўжо зіма, снег забіваецца ў разяўлены абутак, ногі мерзнуць.

Потым бабуля Аўдоля ідзе да абразоў і моліцца. Просіць, каб і ён, Тонік, стаў побач, і таксама маліўся разам з ёю. Ён глядзіць на засяроджаную бабулю, потым позірк пераводзіць на абраз, на якім выява Багародзіцы і Сына Яе, а Тоніку бачыцца, што на ім намалявана яго маці і трымае на руках малога браціка… Адчувае ўрачыстасць моманту, але не разумее, адкуль ён узяўся, з-за чаго ў сэрцы пасяліўся трывожны і незразумелы халадок.

– Мы молімся Хрысту і Яго Маці, – амаль шэпча Аўдоля, – і ты павінен кожны дзень маліцца, тады будзеш разумны і здаровы…

– Як дзед Міхась? – удакладняе хлапчук і азіраецца на дзядулю.

– І як ён, і як другія людзі, – кажа бабуля і тут жа ласкава папракае яго. – Калі моляцца, то нельга ні з кім размаўляць.

Тонік ківае галавой, згаджаючыся з бабуляй, слухаецца яе.

А ззаду дзядуля лоўка б’е малатком, забівае цвічкі ў падэшву. Перад дзедам «лапа», якая ў яго заўсёды пад рукой. Ён яе зрабіў сам, ён многа чаго робіць сам, бо ён каваль, а каваль гэта і чараўнік, і казачнік…

Не хочацца пакідаць бабулю і дзядулю, але маці наказала, каб да цемры вярнуўся дахаты. Аўдоля ўсміхаецца, радуецца, што іх адведаў унук, а дзед тым часам паставіў каля сябе два чаравікі, кажа:

– Ну, Тонік, памерай, мо і добра будзе!

Босыя ногі ўсунуў у халяўкі чаравікаў – любата! Дзед яшчэ і ўсцілачку цёплую падклаў, файна як! Прытупнуў аб падлогу нагамі, усклікнуў:

– Дзякуй табе, дзеду! Цяпер мне любы мароз не страшны!

І падышоў да шаўца, абняў яго, прытуліўся да няголенай шчакі як да дратвы, удзячны вельмі яму. Як добра, што ў яго ёсць такі дзед! Тата – ляснік, ён з лесам сябруе, а вось бот ці чаравік падбіць не можа, да каваля прыходзіць па дапамогу.

– То бяжы ўжо, Тонік, – прыспешвае бабуля, – бо маці хвалявацца будзе. Ды не забывай маліцца.

– Не забудуся, – абяцае хлопчык, дакранаючыся да клямкі, – не забудуся.

Прахапіўся Антон, а ўвушшу і яшчэ голас бабульчын стаіць: «Не забывай маліцца…» І ў гэты ж момант зазваніў звон у царкве. Рука міжволі

наклала на грудзі крыж. «Божа, то ж бабуля напомніла мне, каб я ў царкву ішоў, – успомніў Антон пра сон, – падахвоціла мяне, чакаючы доўгі час, калі сам тое зраблю…»

Похапкам памыўся, у хату не заглядваў, хаця чуў, як маці тапталася і звінела посудам на кухні.

На гэты раз ніхто да ног камянюкі не прывязваў, ішлося лёгка і шпарка. І людзі ішлі ў той бок, у асноўным бабулькі з завязанымі на галаве хусцінкамі. Ён і не абганяў іх, але і не адставаў, а ў галаву прыходзілі тыя малітвы, якія вучыла некалі баба Аўдоля: «Ойча наш, існы ў нябёсах! Няхай свяціцца імя Тваё як на небе, так і на зямлі. Хлеба штодзённага дай нам і даруй нам грахі нашыя, як і мы даруем вінаватым…»

Пераступіў парог з вялікім хваляваннем. Яго як агарнула што, нябачнай палярынай ахутала, нехта павёў яго за руку далей. І ён не ўпарціўся, не супраціўляўся. Пахла васковымі свечкамі і ладанам, чытальнік чытаў гадзіны, стоячы перад падстаўкай з царкоўнай кнігай:

– …Табе, Госпадзе Божа сілаў, мы прыносім падзяку, што даў нам і сёння стаяць перад святым тваім ахвярнікам і прыпасці да шчодрасці Тваёй за правіны нашыя і за людскую блудлівасць. Прымі, Божа, просьбы нашыя, учыні нас годнымі ўзносіць Табе малітвы, просьбы і бяскроўныя ахвяры за ўсіх Тваіх людзей і памажы нам, якіх ты паставіў на гэтую Тваю службу, сілаю Духа Святога, бязвінна і беззаганна ў чыстым сведчанні нашага сумлення, прызываць Цябе ў кожным часе і на ўсялякім месцы, каб, выслухаўшы нас, і дзеля вялікае дабрыні Свае, быў міласцівы да нас, грэшных…

Хор падхапіў чароўныя словы малітвы:

– Госпадзе, памілуй, Госпадзе памілуй, Госпадзе памілу-уууй!..

Антон з нейкім унутраным хваляваннем паглядзеў на сцены храма. Наперадзе ўзвышаўся іканастас з абразамі. Па правы і левы бакі выявы святых апосталаў – Паўла і Пятра. Убачыў і здзівіўся, што ў храме ёсць абраз Еўфрасінні Полацкай. Антон пазнаў яе, не раз бачыў у шкоўных кнігах па мастацтве. Але там паказаны як партрэт яе, фрэска, у храме ж намаляваны абраз, якому пакланяюцца людзі, моляцца, просяць заступніцтва і дапамогі. Побач з ёю абраз і князёўны Вольгі.

Шкада толькі, што богаслужэнне вялося на чужой мове, на мове суседняй дзяржавы, тую мову дыктавала Расейская Праваслаўная царква. То пра яе казаў Мураўёў-Вешальнік, пазбавіўшы жыцця слыннага Кастуся Каліноўскага, што «тое, што не зрабіў расейскі штых, даробяць расейскія папы». Мелася на ўвазе пазбавіць беларусаў усяго нацыянальнага – культуры і мовы, нават звяртацца ў малітвах да Вышняга – на мове ўсходняй

дзяржавы. Тое, мусіць, і стрымлівала Антона Клімовіча, прыходзіць у царкву. Не мог ён змірыцца з такім становішчам. Сэрца не прымала, душа супраціўлялася.

Таму, здушыўшы ў сабе непрыняцце і супраціў, верачы толькі ў тое, што некалі і малітвы будуць перакладзены на родную мову, што і святары будуць толькі свае, а не прысланыя з маскоўскіх вучэльняў, і будуць весці літургію на мове Купалы і Коласа…

– Госпадзе, памілуй, Госпадзе, памілуй, Госпадзе памілу-ууу-ууй!..

Побач з ім стаялі вяскоўцы, якіх ён добра ведаў, а тут не пазнаваў іх: твары засяроджаныя, лагодныя, сцішаныя, позіркі скіраваныя некуды ў паднябессе, у бяздонную далеч, і яны там, мусіць, пачуваюцца сваімі, бо вымалілі тое права, і водзяць карагоды разам з анёламі…

Ніколі не было ў Антона такога адчування, узнёслага і дабраслаўлёнага, душэўнага ўзлёту і духоўнай моцы. Нават асалода і радасць ад ранейшага праслухоўвання мелодый класічнай музыкі, кантатаў і араторый, прагляду карцін геніяльных мастакоў і прыгожага пісьменства, – ніштo ў параўнанні з гэтым нечаканым пачуццём і духоўнай асалодай. Усё астатняе згасла, перастала зіхацець прывідным святлом і напаўненнем, як і ўсе кнігі свету найлепшых творцаў пабляклі супраць сілы і духу Святога Пісання – Старога і Новага запаветаў.

Гэтую ісціну Антон Клімовіч адкрыў тут, у храме Пятра і Паўла, перад царскімі варотамі, перад іх абразамі і перад абразам святой Еўфрасінні Полацкай. І Божая мудрасць адкрылася перад ім, і дарога высвецілася перад ім, і заўтрашні дзень высвеціўся перад ім… Цуд адбыўся на яго вачах, сэрца з зачарсцвелага органа цела ўвачавідкі ператварылася ў маленькі храм яго душы.

Дык вось чаму баба Аўдоля загадвала яму пераступіць парог Петрапаўлаўскага храма, – прыйшоў час, калі паклікаў яго Гасподзь, каб паставіць яго на шлях праведны і правільны…

Калі скончылася літургія, святар выстаўляў перад усімі срэбны крыж і ўсе прыкладаліся вуснамі да яго.

Клімовіч стаяў пасярэдзіне храма, не могучы скрануцца з месца. Убачыўшы тое, да яго падышоў святар – айцец Максім. Паднёс да яго вуснаў крыж – і Антон схамянуўся, адышоў ад свайго здранцвення.

– Першы раз у храме?

– Можна сказаць і так, айцец Максім.

– Ну і як, Антон, адчуванне?

– Незвычайнае, адчуў палёгку на душы.

– Чаму ж ніводнага разу не зайшоў ні ў храм, ні да мяне? Я ж не чужы табе, родзіч нават, – гэтыя словы святар прамовіў не як прадстаўнік цар-

квы, а як аднавясковец, родзіч, з адценнем ці то крыўды, ці папроку, але не ўшчування. – Ці замінае што табе, Антон?

Пытанні айца Максіма прагучалі для яго нечакана. Ён не ведаў, што адказаць, як апраўдацца, бо адчуваў за сабой падсвядомую віну.

– Ды не, нічога не замінае, але я проста думаў… Ну, не ведаю. З дзедам Міхасём усё проста, а з вамі… Нейкая дыстанцыя, нябачная сцяна, сам не ведаю, адкуль яна з'явілася. Я ніколі не меў гутаркі з прадстаўніком царквы, хаця меў такое жаданне, бо мяне мучыць шмат якіх пытанняў, на якія я ў жыцці не магу знайсці адказу.

– Вось бачыш, – усміхнуўся добразычліва святар, – як яно атрымліваецца. А ўсе адказы на твае пытанні знаходзяцца тут, у Божым храме. Кожны чалавек рана ці позна прыходзіць да Бога. Ці табе, як камсамольцу і студэнту, бальшавіцкая ідэалогія перакрыла дарогу? Ты ж вывучаеш навуковы атэізм, экзамены здаеш па гэтым прадмеце.

– І гэта таксама, айцец Максім, адна з прычынаў, чаму не шукаў сустрэчы з вамі. А потым адкладваў, адкладваў… Сёння бабуля Аўдоля прыснілася, то яна мне загадала прыйсці ў храм. Я заўсёды слухаўся яе.

З царквы выйшлі амаль усе людзі, толькі некалькі чалавек стаялі каля абразоў Божай маці і святых апосталаў. Яны хрысціліся перад імі, прыкладаліся да шкла.

– Антон, калі час маеш, то можам пасядзець на беразе возера, пагамонім?

– Маю.

Яны выйшлі з храма. Айцец Максім кіраваўся па сцежцы, якая вяла да ўзбярэжжа, на якім здалёк бачылася лаўка з высокай спінкай. Мусіць, святар не аднойчы сядзеў на ёй, гледзячы на водную гладзь. Ён першым і сеў на шырокую лаўку. Лаўка афарбаваная ў сіні колер, як і драўляная царква, шырокая, чалавек пяць могуць на ёй змясціцца…

– Дык як жывеш, студэнт Антон Клімовіч? Ты хоць ведаеш, што мне ты даводзішся пляменнікам?

– Ведаю, айцец Максім. Вы родны брат маёй маці.

– А мірскае імя ведаеш?

– Так, – Рыгор Дзям'янавіч. Вас пасадзілі на Вялікдзень, гадоў з дзесяць.

– А за што, ведаеш?

– Ведаю. Бо на Вялікдзень улады аб'явілі суботнік, каб усе выйшлі ў поле, а вы на літургію народ склікалі. Ну і вас адразу пасля службы ў «варанок» запрасілі. На дзесяць гадоў на Калыму загналі.

– На дванаццаць, – паправіў Антона святар. – На дванаццаць з паловай гадоў. Ні пры Сталіне, ні пры Хрушчове, тым больш пры Брэжневе ні-

якіх зменаў у рэлігійным жыцці не адбылося. Андропаў і Чарненка дбалі зусім пра іншае. А вось пры Гарбачове… За год да яго ўзыходжання на сакратарскі прастол мяне выпусцілі з турмы.

Рыгор Валер'евіч замоўк. Знекуль прыляцеў вецер, страсянуў сівыя кудлатыя валасы святара, і яны закрылі твар, узмахам рукі ён адкінуў іх. Задумліва глядзеў, збіраўся з думкамі.

– Са мной сядзелі людзі розных нацыянальнасцяў – і ўкраінцы, і рускія, і беларусы, і балты… Са мной былі і трое святароў. З-пад Вільні, Валыні і Ноўгарада. Хаця нам і забаранялі прапаведаваць слова Божае, але мы стараліся рабіць тое, як маглі.

– Цяжка было, айцец Максім?

– Ды не тое слова – цяжка. Невыносна. Але сілу нашага духа мацаваў Бог, і мы выстаялі. Будзе жаданне, некалі раскажу пра гэты перыяд, для цябе, як для гісторыка, гэта будзе цікава.

– Быў бы рад паслухаць ваш аповед.

– Добра, некалі пазней. Мо на зімовых вакацыях.

– Хай будзе так.

– Святое Пісанне маеш?

– Адзін баптыст падараваў. Новы Запавет. Але я хачу на роднай мове.

– Я дам табе і Стары, і Новы Запавет, малітоўнікі. Будзеш у Менску, зайдзі абавязкова ў храм Пятра і Паўла, падыдзі да айца Нікадзіма, перадай ад мяне вітанне. Цікавы чалавек. Таксама сядзеў, але раней за мяне. З Салжаніцыным сябраваў.

Зноў маўчанне. На возеры плавала некалькі чаўноў – рыбакі лавілі рыбу. Па беразе бегала ўстрывожаная кнігаўка, раз-пораз падавала голас, мусіць, клікала птушанят, якія згубіліся ці стаіліся недзе ў траве, баючыся адгукнуцца. Мо іх напужаў сабака ці каршун, які лётаў у небе.

– Што ў тваёй душы сёння, Антон? Спакой ці разлад, ці ўсё зразумела ў гэтым жыцці?

Замест адказу пачуўся глыбокі ўздых. Не ведаў, як адказаць і растлумачыць свой стан, сваю раздвоенасць, разлад душы і цела. Ці зразумее яго Рыгор Дзям'янавіч?

– Ува мне жыве клубок супрацьлегласцяў і недаўменняў. Я лётаю ў космасе разам з Ігнатам, лётаю ў лабірынтах падзямелля разам з дзедам Міхасём, прасвечваюся мудрасцю егіпецкіх пірамід, а ўсё роўна не ведаю, для чаго я на гэтай зямлі, што раблю, што павінен пакінуць пасля сябе.

Айцец Максім маўчаў, не пытаўся ні пра што, чакаў, калі сам яго субяседнік скажа пра сябе. Адчуваў, як у яго наструнена душа – як напятая цеціва лука, як гулка б'ецца ад унутранага неспакою сэрца.

– Сёння, як пабыў у храме, адчуў, чаго мне не хапае. Нешта ж існуе іншае, што дапамагае чалавеку жыць і выжываць. Чытаю тую Біблію, што падараваў мне сябар. Ён запрашае да сябе, у іх грамаду, але я душой адчуваю, што не там я павінен быць. Сёння зразумеў, што ў праваслаўі я павінен жыць, што далей дарогу мне пакажа Ісус Хрыстос. Але і тут процілегласць. Ведаю, што ўніяцкая рэлігія захоўвала беларускую мову і культуру. Праваслаўная расейская царква заглушае беларушчыну, і ўсё пераведзена на царкоўнаславянскі грунт. Мне цяжка маліцца на чужой, не маёй, мове.

Святар дакрануўся да крыжа, што вісеў на грудзях, паправіў яго, бо ссунуўся на бок. Маўчаў. Прызнанне пляменніка гучала нешта накшталт споведзі. Ён быццам трапіў у склеп без вокан і дзвярэй, намагаўся вырвацца з цемры, тыцкаўся ў адну сцяну, у другую, а выйсця ці паратунку не знаходзіў.

– Некалі прыводзіла мяне бабуля Аўдоля ў гэтую царкву, але тое так было даўно.

– Я памятаю цябе тым нясмелым хлапчуком. І цяпер ты падобны да таго хлопчыка Тоніка з віхрастай галавой.

Святар з усмешкай паглядзеў на хлопца, сустрэўся з яго позіркам. Клімовіч адчуў, як яго істоту пранізаў нябачны прамень, прайшоў праз сэрца, дакрануўся да душы. І яшчэ большую адчуў палёгку, як быццам вырваўся з абдымкаў невядомай шэрай істоты. Выдыхнуў з сябе цяжар, нахмурыўся.

– А ці ведаеш ты, Антоній, сын Божы, хто выдаў першы на нашай зямлі Біблію? – звярнуўся да яго святар, як быццам адышоў ад галоўнага пытання, кранаючыся іншай тэмы.

– Здаецца, Францішак Скарына, але магу памыліцца.

– Не, не памыляешся. А другая належыць Астрожскаму.

Айцец Максім не пытаўся ў яго, ці ведае ён такую асобу, працягваў ціхім і аднастайным голасам:

– Князь Канстанцін Астрожкі, у хрышчэнні Васіль, атрымаў ад бацькі найвышэйшага гетмана не толькі багацце, доблесць ваяра, але і гарачую любоў да праваслаўнай веры і свайго народа. Нарадзіўся ў святым месцы Тураве. Пасля смерці бацькі маладога княжыча выхоўвала маці – Аляксандра Сямёнаўна. Яна была з роду князёў Слуцкіх Алелькавічаў. А як выйшаў у поўныя леты, княжыч пабраўся з княжной Сафіяй, дачкой галіцкага магната графа Тарноўскага. Не было княжычу і трыццаці гадоў як ён займаў пасаду ўладзімірскага старасты, а ў трыццаць два стаў кіеўскім ваяводам. Канстанцінопальскі патрыярх Ерамія II высока ацэнь-

ваў яго набожныя памкненні і старанні ў адносінах да царквы. У сваіх граматах называў яго «захавальнікам і пабoрнікам ладу ў царкве на ўсіх паўднёва-заходніх землях Вялікага Княства Літоўскага». У сваіх уладаннях ён заснаваў больш як 600 цэркваў і 20 манастыроў і пры многіх з іх дзейнічалі шпіталі і школы. На землях Беларусі князь фундаваў і апякаў храмы ў Тураве, Слуцку, Дзятлаве, пры Віленскім Свята-Духавым манастыры ўзвёў мураваную званіцу, якая, на шчасце, захавалася і сёння. Ахвяраваў даходы свайго маёнтка на будаўніцтва мураванага храма Віленскага Свята-Духава манастыра – у 1604 годзе…

Неўздалёк ад іх спынілася жанчына. Маўклівa стаяла, чакаючы, калі айцец Максім заўважыць яе. Можа, яе і ўбачыў святар, але не перарываў сваіх слоў да таго часу, калі рашыў зрабіць нейкі перапынак. Толькі тады звярнуў на яе ўвагу, позіркам паклікаў яе да сябе.

– Слухаю цябе, раба Божая Васіліса! Што ў цябе за клопат?

Яна ўзрадавалася, падышла да святара, склаўшы рукі адна на адну, нахілілася:

– Дабраславіце, айцец Максім!

Ён паклаў ёй далонь на галаву, потым дакрануўся да рук. Яна тут жа пацалавала яго руку, прамовіла:

– Уратуй, Гасподзь!

І тут жа адышла, павярнулася і пакрочыла няспешна па сцежцы, якая вяла да возера. Не падымала галавы, глядзела сабе пад ногі.

– Князь разумеў, – працягваў айцец Максім, не адрываючы позірку ад жанчыны, якая спускалася па схіле, – што самая надзённая патрэба для праваслаўнага люду Вялікага Княства Літоўскага – духоўная асвета, веданне Бібліі. Канстанцін Канстанцінавіч прыклаў неймаверныя намаганні для таго, каб зрабіць славянскі тэкст Бібліі поўным і агульнадаступным. Больш за тое – распаўсюдзіць яго ў друкаваным выглядзе па вёсках і гарадах краіны. Ён цвёрда верыў, што Біблія прывядзе людзей да набожнасці і духоўнай маральнасці, таму душой загарэўся выдаць Біблію. Ён меў высокую адукацыю, уважліва прачытаў і Скарынаўскую Біблію, але прыйшоў да высновы, што трэба выдаць больш дасканалы тэкст. Рыхтуючы Біблію, князь не аднойчы звяртаўся да Патрыярха Канстанцінопальскага Іераміі з просьбай даслаць «добре іправленыя і беспорочные греческія і словенскіе рукопісі» і накіраваць да яго «людей способных». З цягам часу князь атрымаў копію Генадзіеўскай Бібліі з Масквы, а людзей давераных адправіў у грэчаскія, сербскія і балгарскія манастыры для таго, каб яны сабралі спіскі Бібліі. Скарыстаўшы славянскія пераклады, а найбольш тыя, якія зрабіў Францішак Скарына, складальнікі Бібліі зрабілі параўнальны

аналіз і рэдагаванне розных тэкстаў. Нават у цывілізаванай Еўропе, дзе філалогія была на высокім узроўні, такой працы ніхто і ніколі не выконваў.

– Цікава, – асцярожна ўставіў сваё здзіўленне будучы гісторык, – нам пра тое на лекцыях ніхто не гаварыў.

– Не гаварыў, але ты павінен ведаць пра тое. Дасць Бог, ты сам вывучыш гэтую тэму, даследуеш яе, як след. Адкрыеш новыя, невядомыя дасюль, старонкі.

– Абавязкова вазьмуся, айцец Максім, – паабяцаў шчыра летапісец.

– Ну і дадам да гэтага наступнае. Астрожская Біблія, а ў падрыхтоўцы і рэдагаванні якой прымаў непасрэдны ўдзел сам Астрожскі, стала першым друкаваным выданнем поўнага біблейскага зводу на тэрыторыі княства і Рэчы Паспалітай. Святое Пісанне было афіцыйна прызнана Маскоўскім Патрыярхатам і забяспечвала літургічныя патрэбы праваслаўнага славянства яшчэ цэлыя чатыры стагоддзі. У Маскве ў 1663 годзе пабачыла свет першае выданне Бібліі, а гэта ўжо быў перадрук, копія Астрожскай Бібліі, яно і было пакладзена ў аснову стварэння Елізавецінскага выдання 1751 года. Вось адкуль бяруць пачатак друкі маскоўскіх выданняў Бібліі. З таго накладу ў паўтары тысячы асобнікаў да нашага часу дайшлі больш чым 260 экзэмпляраў Астрожскай Бібліі. А яны захоўваюцца ў музеях, бібліятэках і архівах Беларусі і Украіны, Расеі і Польшчы, Літвы і Румыніі, Ватыкана і Грэцыі, Сербіі і Балгарыі…

– Дык беларусы выдалі Біблію раней за расейцаў. Так, айцец Максім?

– Так, дзякуючы Божаму промыслу князя Канстанціна Канстанцінавіча. У мяне ёсць адзін асобнік найкаштоўнейшай Бібліі Астрожскага. Я яе завяшчаю, Антон, табе. Пасля таго, як мяне не стане, як пакліча да сябе Госпад. Як талісман, як крыніцу твайго натхнення, жыцця і служэння на карысць Бацькаўшчыны.

Антон не ведаў, што адказаць святару, і дзякаваць неяк не выпадала, і казаць нейкія словы. За такі падарунак хіба дзякуюць? І як ён будзе служыць Бацькаўшчыне – ён жа не святар, як айцец Максім, а праца хіба будзе з’яўляцца служэннем? Але нічога не сказаў, толькі схіліў пакорліва галаву, дзякаваў за давер да яго, Антона.

– Але, браце Антоній, Астрожскі – не адна слынная асоба, а тры. Тры князі Астрожскія – Фёдар, Канстанцін Іванавіч і Канстанцін (ён жа і Васіль) Канстанцінавіч. Калі ўкраінцы вераць у тое, што толькі дзякуючы малітвам князёў Астрожскіх яны атрымалі свабоду, то ў нас, на Беларусі… Амаль не ведаюць пра Астрожскіх. Мы, святары, зрэдзь часу ўзгадваем пра Святога Фёдара Астрожскага, які адышоў у іншы свет у 1438 годзе, а пра Канстанціна Іванавіча (1460–1530) ведаюць хіба гісторыкі-пісьмен-

нікі. Бо яны не раз звяртаюцца да факта перамогі беларускага войска над масквітамі, якое адбылося 8 верасня 1514 года. А вось пра асобу Канстанціна Канстанцінавіча Астрожскага (1527–1608) вядома, што ён абараняў праваслаўе і змагаўся супраць уніі. Але я не буду стамляць цябе гістарычнымі звесткамі, зацікавішся, сам дакапаешся да ўсяго. А калі што будзе незразумела, то звяртайся да мяне.

Субяседнік удзячна ў знак згоды кіўнуў галавой.

Непадалёк ад іх, злева, з гігіканнем і крыкамі імчала да возера купка хлапчукоў. Сонца ўжо стаяла ў зеніце, спякота набірала сілу, і дзеці рашылі паплёхацца ў возеры, ахаладзіцца. На хаду распранаючыся, кідаючы куды папала сваё адзенне, не спыняючыся, кідаліся ў ваду. Пачалі ўжо абдаваць адзін аднаго пырскамі вады, падымаючы яшчэ большы лямант і крыкі. Вясёлы час, бесклапотны час.

– Ну, што, дарагі мой пляменнік, пара мне, – падняўся першым айцец Максім, – рады, што мы з табой паразумеліся, што знайшлі агульную мову. Думаю, далей будуць новыя сустрэчы і размовы, так што не мінай мяне, не мінай царквы.

– Дзякую, што адчынілі перада мною дзверы храма, што адкрылі мне многія рэчы. Цяпер я па-іншаму буду будаваць сваё жыццё, але найперш пачну вывучаць Біблію. І калі спатыкнуся недзе, прыйду за парадай да вас.

Антон схіліў галаву, чакаючы дабраслаўлення.

І ён яго атрымаў.

– З Богам, Антоній!

**6**

«Не праехаў Кейстут і паловы дарогі да Ноўгарад-Северскага, як яго дагнаў пасланец-вершнік ад Вітаўта. Рэзка спыніў каня, што той стаў на заднія ногі.

– Бяда, вялікі князь! Ягайла паўстаў! Вітаўт дапамогі просіць!

Прыйшлося Кейстуту развярнуць войска і кіравацца да Горадні.

Сустрэча адбылася нярадаснай. Вітаўт бачыў, як асунуўся бацькаў твар, пакрыўся глыбокімі маршчакамі, у вачах ці то сум, ці то адчай. Абняліся, прыціскаючы адзін аднаго да грудзей, паселі ў крэслы.

Ведаў, што тварылася ў душы бацькі. Усё жыццё паклаў на алтар змагання за родныя землі, не шкадаваў сябе, у самую сечу накіроўваўся, рызыкуючы жыццём, а тут… Не кроў крыжакам спускаць, а сваім жа, кроўнікам… Што можа быць горш за гэта?

– Што рабіць, сыне, будзем? – глуха ўздыхае стары Кейстут. – Як Ягайлу, стрыя твайго, перамагчы?

– Змаганне з ім не абыдзеш, не аб'едзеш. Ён мацнейшы за нас, жорсткі, непрымірымы. Ды за ім Вялікае княства, і крыжакі з ім. Абклаў нас, як ваўкоў перад ловам. А мы што маем, бацька?

Кейстут цяжка ўздыхнуў, схіліўшы галаву ў скрусе:

– У нас спустошаная Жамойція. І Аўкштайція такая ж. Хіба што Гарадзейшчына ды Берасце маюць нейкую моц. Ды мо яшчэ зяць – князь Януш Мазавецкі – неяк дапаможа.

Вітаўт спакойным голасам прамовіў:

– З Полаччыны ўчора неблагія весткі прыйшлі. Скіргайла спрабаваў з лівонскай раццю скарыць Полацк, ды паламаў аб сцены свае зубы: не пусцілі палачане яго ў горад.

– Значыць, не ў лепшы бок кіруюцца і Ягайлавы замыслы, не ўсё па яго выходзіць.

Доўга гаварылі яшчэ бацька з сынам. Грунтоўна абмяркоўвалі сваё становішча. Цяпер Вітаўт поўнасцю паклаўся на розум вялікага князя.

Перад тым, як класціся спаць, Кейстут, як даўно вырашанае, абвясціў сыну:

– Мой любы сын, паслухай мяне. Абставіны вымагаюць, каб мы зрабілі вось што.

Перайшоў на шэпт, асцерагаючыся, каб не пачула шпіёнскае вуха, пасунуўся да Вітаўта бліжэй, нават да вуха нахіліўся:

– Ты застаешся ў Гародні. Збірай дружыны з Падляшша, падымай Берасцейшчыну і Гарадзеншчыну. А я адпраўлюся з Божай ласкі на Жамойцію.

У адказ сын кіўнуў галавой.

Каб не напаткала якая нечаканасць, Кейстут адправіў Біруту ў Берасце.

Спадзяванні Кейстута, што Януш дапаможа сваяку, не спраўдзіліся. Даведаўшыся, што цесць трапіў у бяду, з войскам адправіўся на Берасце, ведаючы, што берасцейскія воі па загадзе Вітаўта размясціліся ў Гародні. Лёгка захапіў Драгічын, Сураж, Бельскую цвержу. А вось Белай вежай авалодаць не ўдалося.

Узяў кірунак на Берасце. Але Бірута ведала пра яго намеры, змагла падняць берасцейцаў, каб даць яму адпор. Некалькі разоў паспяхова адбіваліся ад Януша. Адступіў толькі тады, калі даведаўся, што на дапамогу Біруце рухаюцца воі Любарта. Дык каб займець хоць нейкую выгаду, аддаў амаль ні за што заваяваныя землі роднаму брату Земавіту. Земавіт

рыхтаваўся да паходу за польскай каронай, ды грошы былі патрэбны, таму прадаў іх крыжакам за сем тысяч угорскіх талераў.

Не падтрымалі Кейстута і на Жамойціі. І ўсё роўна Кейстут рушыў на Трокі. Дружына ў князя невялікая, але кожны вой каштаваў дзесяцёх.

У Троках сядзеў Скіргайла, залізваў раны пасля паразы ад Полацка. Калі ж князь падыходзіў да Коўна, то туды падаспеў ужо і Вітаўт, маючы войска ў пяць тысяч вояў.

Следам рухаліся крыжакі. А з другога боку насоўваліся лівонцы. А з Вільні ўжо рушыла войска Ягайлы.

Кейстут апынуўся ў аблозе…

"Дарагі мой бацька Кейстут! – зноў скаланалася сэрца мужнага воя Вітаўта. – То я вінаваты ва ўсім… Гэта я паверыў шчырым памкненням стрыя свайго, і цябе паддурыў, каб і ты паверыў Ягайлу. Да мяне тады ад Ягайлы пасланы прыехалі, у адзін голас заявілі, што «каб я памірыў бацьку і Ягайлу», кляліся, што не будуць нам чыніць зла. Я паддаўся на абяцанні і добрыя намеры брата, прыехаў нават у стан яго. Ён плакаў, абняўшыся са мною, раскайваўся ў сваіх дурных дзеях, прасіў, каб я і цябе ўгаварыў прыехаць да яго і мы заключым кроўны мір і прымірэнне… Я нават са Скіргайлам прыехаў да цябе, пакляліся табе ад імя Ягайлы і ад свайго імя, што перамовы пройдуць у бяспецы, пройдуць у радасці. І ты, мой мудры і добры княжа, паверыў нам, дурням, паверыў мне, бо і сам не жадаў распачынаць міжусобную вайну… Я воўкам гатовы завыць ад болю, ад горычы, што прыехаў тады да цябе… Трэба было прагнаць мяне, змясіць на горкі яблык, што я паддаўся на ўгаворы д'ябла, але ты добры і літасцівы, і таму крыві бязвіннай праліваць не хацеў…"

Перад тым, як выправіцца ў дарогу, прыняць запрашэнне, верны слуга Рыгорка ў ногі ўпаў перад князем:

– Княжа мой любы! Просьба адна ёсць да цябе. Адпусці развітацца з маёй нявестай Аленай, мо болей ніколі не ўбачымся.

– Цыц! Не кажы так! – сурова загадаў князь. – Вернемся мы, і тваё вяселле згуляем. Лепшае вяселле будзе ў Княстве літоўскім.

– Адпусці, князь, – прапусціў Рыгор Амуліч міма вушэй словы князя, умольна глядзеў на Кейстута, не ўстаючы з кален.

Той толькі вяла махнуў рукой:

– Бяжы ўжо, бяжы! Расцалуй сваю нарачоную.

Бацька і сын, ні пра што ні падазраючы, ды іх жа суправаджаў Скіргайла, прыехалі ў стан Ягайлы. Як толькі саскочылі з коней, іх шчыльным колам акружылі воі. І яшчэ нічога не прадчуваючы, Кейстут нядо-

бра бліснуў вачыма на Вітаўта, задаў нямое пытанне: “Што за непавага да нас? Нас палоняць?”.

– Вялікі князь! – падышоў да бацькі Ягайла, абняў яго, а потым і брата. – Як добра, што вы прыехалі. Але што мы ў полі будзем весці перамовы. Паехалі ў Вільню, там і сталы дубовыя стаяць, і стравы смачныя падрыхтаваны. Там будзе зручна весці гамонку.

Стары князь пацiснуў плячыма, згаджаючыся на прапанову.

Але не-не ды кіне позірк то ўлева, то ўправа. Мусіць жа, у мудрага Кейстута запознена спрацавала пачуццё небяспекі, бо Ягайлавыя воі ехалі моўчкі, панурыя і ні на кога не глядзелі, і кожны быў пры зброі. Ды здзівіла хіба адно – Ягайла ехаў далёка паперадзе, як быццам і не было ззаду бацькі і брата.

– Я ж казаў табе, княжа, што не трэба было адпраўляцца ў гэтае падарожжа, – едучы ўпобачкі прамовіў горычна верны слуга Кейстута Рыгор Амуліч. – Не вернемся мы з табой да родных мясцінаў…

– Памаўчы, Рыгорка, не ўсё яшчэ страчана.

– На смерць мы едзем, княжа, на згубу…

Перад перамоўшчыкамі расчынілася брама замка, усе заехалі ў двор. Зачынілася зноў брама. І ў той жа момант раптоўна накінуліся Ягайлавыя воі на Кейстута і Вітаўта, скінулі іх з коней, адразу звязалі рукі.

Капкан спрацаваў. Бацька і сын сталі нявольнікамі.

Па загадзе Ягайлы Кейстута са звязанымі рукамі павезлі ў Крэва. Старога князя закавалі ў кайданы, пасадзілі ў склеп. Склеп знаходзіўся пад вежай.

Вітаўт апынуўся ў вязніцы.

Кейстут у склепе чацвёра сутак. Ноччу дзверы расчыніліся, у вязніцу пры святле паходняў уварваліся Ягайлавы каморнікі – Прокша, які перад гэтым падаваў вязню ваду, браты Жыбянцяі, Кучук і Лісіца, рыцар Ордэна – худы і высокі.

Ускочыў з месца Рыгор Амуліч, засланіў свайго гаспадара. Ды нечыя рука апусціла на галаву меч. Адкінуўшы ўбок скрываўленае цела, кінуліся на старога князя. Прокша накінуў на шыю шнурок, а браты Жыбянцяі, узяўшы яго за абодва канцы, зашмаргнулі на шыі вялікага князя.

Вялікая помста праявілася Ягайлава, бо так звычайна адбіралі жыццё ў халопаў, а тут… бацькавага брата зняважыў, на свой род праклящце наслаў.

**7**

Цяжка, невыносна цяжка яму ў цямніцы. Адарваны ад свету, ад людзей, не ведае, што ў свеце творыцца. Ці не загінула княства ад мяча ордэна, ці выстаялі палачане, гарадзенцы ды берасцейцы…

Нехта пачаў шаптаць яму на вуха ласкавыя словы, называць ласкава “княжочак мой”. Так магла называць яго толькі Марыя, Марыя Лукомская. Дык жа няма яе, не стала, нараджала дачку Софію ды сцякла кроўю.

“Дык гэта ты мяне паклікала да сябе, Марыйка? То я ў цябе ўжо ў гасцях, то ты мяне забрала да сябе? І куды ж мы трапілі з табой – у пекла ці ў рай. Ты гладзіш мяне па галаве, перабіраеш валасы мае, грабянцом расчэсваеш. Не мыў я галаву колькі дзён, не дае мне вады брат мой…”

Стала цёпла на душы ад дотыку жаночай рукі, хацелася адчуваць і адчуваць такую асалоду яднання, жадаць, каб яна не скончылася, доўжылася вякі і вякі…

– Мой любы князь, – чуваць ужо грамчэй голас, – ці то так ты знясіліўся, ці такі сон ахапіў цябе. Ніяк дабудзіцца не можам, ці жывы ты хоць, княжа? Прачніся!

Ціхі і пяшчотны голас прагучаў як загад. І Вітаўт прахапіўся, расплюшчыў вочы, здзіўлена і спалохана глядзеў на жанчыну, якая сядзела побач на яго ляжанцы. Доўга не мог уцяміць, дзе ён і што з ім, і хто гэтая жанчына каля яго.

– Прачнуўся, мой любы Вітаўт? – перапытала, дакранулася ілбом да яго ілба, апякла сваёй гарачынёй, сваім каханнем.

Ён абняў яе, прыгарнуў да сябе:

– Як ты прайшла сюды? Як цябе пусцілі?

Яго здзіўленню і радасці не было канца.

– А я не адна, са мной Алена. Пазнаеш?

Толькі цяпер заўважыў княжыч за спінай жонкі дзяўчыну, сваю служанку.

– Пазнаў. Гэта ж Алёна, нарачоная Рыгора Амуліча.

Алёна падышла да Вітаўта, нахілілася:

– Вітаю цябе, княжа, здароўя і жыцця табе на доўгія гады. Хай Бог паможа табе выстаяць.

– Уратуй, Гасподзь! – прамовіў вязень, перавёўшы позірк на жонку. Усё не верыў, што яна перад ім.

Тым часам Алена разгарнула белы ручнік і паклала перад Вітаўтам ежу – смажаную куру і глечык з чырвоным віном. Вязень згаладала накінуўся на пачастунак. Ён еў, а жонка расказвала яму пра навіны, якія чула. Ад куры засталіся толькі косці.

Дакрануўся да глечыка, зрабіў некалькі глыткоў.

– Ягайла злітаваўся, дазволіў праведваць цябе. Спытала, ці доўга ты тут будзеш знаходзіцца, не адказаў, адвёў вочы. Абяцаў, што праз кожны дзень магу праведваць цябе. Паслязаўтра зноў прыйду.

У дзверы пастукаў ахоўнік, папярэдзіў, што жанчынам час пакінуць вязня. Ганна хуценька пацалавала Вітаўта, перахрысціла яго тройчы, прамовіла:

– Памажы, Божа!

Зноў Вітаўт адзін, зноў цішыня вакол, але прыход жонкі ўсяліў у яго нейкую надзею. Пасля яды і фізічныя сілы прыдаліся.

"Ганна, Ганна, мой верны анёл-ахоўнік! Цябе мне паслаў Вышні, мы невыпадкова сустрэліся і пабраліся. Няўжо ты не здолееш пераламаць жорсткае сэрца Ягайлы, напомніць яму, як Кейстут, узяўшы яго ў палон, дараваў жыццё? Няўжо не аддзячыць тым жа?.."

У Вітаўта два захапленні былі ў жыцці: паляванне і жанчыны. А калі тое сумяшчалася, то шчаслівейшым чалавекам адчуваў сябе. Прызнацца самому грэх, але калі ў яго душы пасялялася каханне, калі ў сэрца западала чарговая каханка, то мог нават падчас вайсковага паходу на ворага адлучыцца і скакаць да прыгажуні. Таму калі не стала Марыі, жалобу насіў не доўга, праз год пабраўся з Ганнай, дачкой смаленскага князя Святаслава Іванавіча.

Пад вечар прыйшоў да яго стрыечны брат. Убачыўшы, у якім стане Вітаўт, уздрыгнула сэрца ад жалю. Некалі ж у дзяцінстве разам бегалі па палях і лясах, у дружбе вечнай кляліся, абяцалі аддаць адзін за аднаго жыццё.

Знясілены голадам і холадам, ужо не верачы ў сваё вызваленне, Вітаўт не быў падобны да ранейшага воя, упэўненага, спрытнага і вёрткага. Голас ціхі, прыглушаны, прыніжаны.

– Вялікі князь, выпусці мяне адсюль. Ніколі не буду нічога прадпрымаць супраць цябе. Калі вернеш Трокі, пасялюся там назаўсёды і выязджаць нікуды не буду. Не буду прэтэндаваць ні на які сталец. Пісьмова тое пацвердзіць магу. Верай і праўдай табе служыць буду. Ад слоў сваіх, ты ведаеш, я ніколі не адмаўляўся.

– Ведаю. І заўсёды ў табе цаніў тое.

На развітанне яны абняліся. Ягайла здзівіўся, як схуднеў брат – адныя скура ды косці.

– На ўсё свой час, – прамовіў дрыготкім голасам стрыечны брат.

За ім зачыніліся дзверы. Не ведаў Вітаўт, радавацца ці засмучацца ад пачутых слоў. Хацелася верыць у лепшае.

Ад Ягайлы настойліва патрабавалі смерці Вітаўта. Напачатку маці Ульяна, за ёй брат Скіргайла, і ўдава Вайдылы князёўна Марыя… Як надакучлівыя мухі гудуць над вухам, быццам яму нічога не каштуе адабраць жыццё ў брата. Адабраць можна, а потым дажываць свой век і караць сябе за братазабойства? Вагі сумлення то апускаліся, то падымаліся. А потым спыніліся на адным узроўні – дзюбка супраць дзюбкі. Што і хто мог зрушыць вагі і ў які бок, невядома.

Атрымаўшы згоду ад Ягайлы, князёўна Марыя пасылае ў Крэва кашталяну Прокшы вестку, патрабуючы, як найхутчэй расправіцца з Вітаўтам, бо Ягайла ў любы момант можа перамяніць сваё рашэнне і адпусціць вязня.

Нездарма на Ганну Гасподзь усклаў абавязкі анёла-ахоўніка. Ішла паўз драўляную сцяну, несла свае новыя строі, каб прымераць, ды пачула выпадкова, пра што гаварылі два воі між сабою.

– Як думаеш, ці хутка выйдзе з цямніцы князь Вітаўт, не чуў?

Другі зарагатаў, цішэй прамовіў таварышу:

– Скажу табе так. Калі князь вялікі Вітаўт яшчэ тут трохі пасядзіць, то яго чакае лёс ягонага бацькі.

Па целе пракаціліся дрыжыкі трывогі. “Дзейнічаць, неадкладна дзейнічаць”, – загадала сама сабе Ганна.

Вечарам ахоўнік, адсоўваючы засаўку, загрымеў дзвярыма.

У склеп да Вітаўта завіталі Ганна і Алена. Падаліся нейкімі ўзбуджанымі, насцярожанымі. Абняла Ганна Вітаўта, пацалавала.

Восень на вуліцы, прайшліся першыя замаразкі, з дрэў зляцела першае кволае лісце. Холадна і ў склепе, але Вітаўту не далі ніякай адзежы, каб не мерзнуць. Пакарміўшы вязня, Ганна адразу пачала з галоўнага.

– Мой любы Вітаўт, слухай мяне ўважліва. Ты павінен цяпер пераапрануцца ў адзенне Алены, а яна ў тваё.

– Навошта? – здзівіўся князь такой прапанове. – Яно цяплейшае?

– Ты не так зразумеў. Мы разам з табой выйдзем адсюль, ты будзеш у адзенні Алены, ніхто з ахоўнікаў нічога не западозрыць.

– Алена застанецца тут замест мяне? Яе ж пазбавяць жыцця. Не, я не хачу такой ахвяры. Не магу я так, не магу.

Да Вітаўта падышла Алена. Паклала яму рукі на плечы.

– Мой любы княжа! Я слугавала табе ўсёй душой, я неаддзельная ад цябе, як і твая Ганна. Ведаю, што мяне пакараюць смерцю. Мая смерць не адаб’ецца на жыцці княства, а калі цябе пакараюць, то гэта будзе азначаць, што гісторыя павернецца ў іншы, непажаданы бок. Гэта будзе вялікае няшчасце для ўсёй Літвы. Уцякай, князь!

– Не магу, Алена, аддаваць цябе на здзекі, – упарта адмаўляўся вязень. – Бог мне таго не даруе, бо выйдзе, што я цябе забіваю.

– А цяпер паслухай праўду, мой князь. Табе ніхто не казаў, але Ягайлавы жывадзёры задушылі ў цямніцы твайго бацьку – мудрага Кейстута. Я служу табе, але найвышэйшае маё слугаванне маёй радзіме. Я буду шчаслівая, калі аддам сваё жыццё за Літву. Ты, ператварыўшыся з вязня ў вольнага чалавека, зробіш дзеля яе столькі добрага і вялікага, што памяць пра цябе застанецца на стагоддзі. Таму дазволь і мне прыняць у гэтым удзел. Калі любіш Літву і яе народ, то паслухай мяне: уцякай адсюль!

Вітаўт нахмурыўся, пачуўшы такое, паглядзеў на жонку, на Алену. Разанула балюча паведамленне, скаланула ўсё. Паслаў думкава праклёны Ягайлу, уздыхнуў, схіліўшы галаву. Доўгія валасы схавалі твар, слёзы капалі на калені…

– Яшчэ слухай, княжа. Мой нарачоны хацеў абараніць твайго бацьку, і яго адразу рассек меч ягайлавага ката. Навошта мне маё жыццё без Рыгоркі майго? Я разам з ім мёртвая, жыцця мне без яго не трэба. Ніколі я, халопка, не загадвала табе, княжа, але цяпер слухай мой загад: зараз жа распранайся і пераапраніся ў маё адзенне! Ідзі разам з князёўнай, а я тут застануся замест цябе.

Вітаўт здаўся. Не хацеў, але мусіў выканаць першы і апошні загад сваёй вернай служанкі: скінуў з сябе адзенне, аддаў Алене. Яна, адышоўшы і адвярнуўшыся ад Вітаўта, хуценька скінула сваё, аддала Ганне. А яна прынесла ўжо Вітаўту.

Адзенне чорна-шэрае, доўгае да пятаў, прасторнае, не аблягала цела, а развявалася, калі прайшоўся па вязніцы. А валасы такія ж, як і ў Алены: Ганна спецыяльна папрасіла, каб яна, ідучы да Вітаўта, распусціла косы, каб схаваць твар. Каб так схаваў твар і вязень.

– Пара, Вітаўт, пара, – прашаптала ціха Ганна, – не трэба, каб вартаўнік падышоў да дзвярэй.

Князь наблізіўся да сваёй збавіцелькі-служанкі. Яна плакала. Плакала ад радасці, што ўгаварыла княжыча памяняцца жыццямі. Плакала і ўсміхалася, гледзячы ў вочы чалавеку, які для княства быў магутнай постаццю. І яна ведала, якая далей дарога выпадзе князю – вялікаму князю Вялікага Княства Літоўскага. Яна была яшчэ і вяшчункай, чараўніцай, мудрай жанчынай.

– Дзякуй, Алена, і даруй!

Пацалаваў у лоб, наклаў на яе крыж.

Яна ў сваю чаргу перахрысціла яго, але ўжо тады, калі ён адыходзіў ад яе, – у спіну, і на дарогу, па якой ён пайшоў, па якой выправіў яго Бог.

Прайшлі няспешна паўз ахоўнікаў.

Над замкам кружыў вялізны чорны птах, нешта пракрычаў, узмахваючы крыламі. Яго ўбачылі ахоўнікі, напужаліся, на калені сталі, пачалі маліцца.

Князёўна ішла першай, за ёй, як і належыць служанцы, ішла "Алена". Вітаўт апусціў галаву, каб валасы прыкрылі твар, схавалі яго. Вартавыя нават і не зірнулі на іх, бо ведалі жанчын, якія праведвалі вязня, чулі іх крокі. Нехта патушыў факелы, і стала зусім цёмна, і вартавыя зусім не бачылі жанчын.

Вітаўт, як і Алена, невысокага росту, без барады, валасы звісалі да плячэй. Крокі па падзямеллі, здавалася, былі гучнымі і ўпэўненымі, а Вітаўту здавалася, што так грукае і б'ецца яго сэрца.

Ноч на дварэ, буйныя зоркі пераміргваюцца ў небе. Ганна, каб супакоіць хваляванне мужа, гаворыць нешта пра ноч, пра надвор'е, спецыяльна, каб вартавыя чулі яе спакойны голас.

– Тут, – спынілася Ганна, прашаптала, паказала на вяроўчыну, якая абвіла цагляны выступ муру, – спускайся, там цябе будуць чакаць. Перайдзі роў, на беразе цябе сустрэнуць… З Богам, князь!

Агледзеліся, каб не ўбачыла іх чыё вока, і тады Вітаўт, ухапіўшыся за вяроўку, ступіў за выступ сцяны. Спускаўся ўсё ніжэй і ніжэй, адчуваючы, што нехта падтрымлівае яго лёгкай рукой, аж пакуль ногі не крануліся зямлі. Вада халодная, сцюдзёная, па шыю, але Вітаўт, разграбаючы рукамі водарасці, ішоў і плыў да берага. Холаду не адчуваў, прадчуванне волі саграваля яго. Ды нехта і памагаў яму брысці па смярдзючай твані, вада нечакана зменшылася і стала ўжо да кален, і дно сцвярдзела, не слізгалі ногі…

На беразе нехта падаў яму руку і дапамог ускараскацца наверх.

Вышэй стаялі коні з вершнікамі – ваўкавыскімі воямі, якія па загадзе Ганны прыскакалі да берага. Падвялі князю каня. Нагу ўсунуў у стрэмя, падскочыў і сеў у сядло. Перад тым як крануцца, агледзеўся, прыгледзеўся да шэрых муроў змрочнага замка. Недзе там стаіць Ганна і назірае за ім, не адрывае позірку. Не вытрымаў, кінуў словы ў шэрае прадонне неба:

– Ты не перамог мяне, крыважэрны забойца Ягайла! Мы яшчэ сустрэнемся з табой!

Праз хвіліну цемра паглынула вершнікаў. Нейкі час яшчэ было чуваць тупат капытоў, а потым яны сціхлі, і запанавала вакол мройная цішыня. Цішыня вечнасці, якая спусцілася на абшары Вялікага Княства Літоўскага…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пакручастыя выгібы гісторыі – каб зваяваць Маскву, князі звяртаюцца да Ордэна, каб змагацца з Ордэнам, Маскву просяць памагчы… Так, Крэўская ўнія была выгадная Масковіі, і тое разумелі ў княстве. Калі ў ВКЛ заставалася б, як і раней, дзяржаўная праваслаўная вера, то невядома ў які бок павярнулася б гісторыя і каму тое было б на карысць.

Увялі ў княстве каталіцкую веру – і што? Праваслаўнае насельніцтва апынулася ў нераўнапраўным становішчы. І гэта было на руку Маскве. Яна выкінула лозунг – дапаможам праваслаўным у ВКЛ! І пачала актыўна ўмешвацца ў жыццё дзяржавы.

Княства апынулася ў аблозе: калі каталіцызм стаў рухам польскай экспансіі ў княства, то праваслаўе рабілася полем барацьбы Масквы «за братоў праваслаўных». Нешта трэба было рабіць і неадкладна.

Вітаўт не мог процістаяць націску каталіцызму, хаця і сам на той час быў католікам, але не мог ігнараваць і праваслаўе, да якога належала большая частка людзей княства, і ён пайшоў на адчайны крок – аб'явіў, што Вялікае Княства Літоўскае з'яўляецца самастойным і незалежным. А гэта азначала, што праваслаўная царква аддзелена ад Маскоўскай мітраполіі. Ён паслаў (1408) полацкага епіскапа Феадосія ў Канстанцінопаль для прызначэння яго мітрапалітам праваслаўнай царквы ў княстве. Праўда, яму было ў тым адмоўлена. Але Вітаўт бачыў, што паміж праваслаўем і каталіцызмам разгараецца барацьба, і ведаў, што тое будзе не на карысць дзяржаве, таму пайшоў на новы смелы крок – аб'яднаў хрысціян шляхам уніі.

У 1416 годзе ствараецца самастойная праваслаўная мітраполія з цэнтрам у Навагародку. Узначаліў яе балгарын Грыгор Цамблак. Вітаўт забараніў маскоўскаму мітрапаліту аб'язджаць праваслаўныя епархіі княства. Унія сарвалася і мэта не была дасягнута. Потым Цамблак памірае, а Вітаўт не прызначыў яму пераемніка. Вітаўт зноў пайшоў на прымірэнне з Масквою, не хацеў з ёю сварыцца. Маскоўскі мітрапаліт зноў пачаў раз'язджаць па княстве, пачаў валодаць епархіямі ВКЛ. Дрэва, якое магло расцвісці і даць найдаражэйшыя плады для дзяржавы, было ссечана пад корань, і таму не змог народ вырвацца з раздвоенасці і рэлігійнага разладу, – зноў вярнуўся ў змрочнае мінулае. Можа таго не мог дараваць сабе і Вітаўт, хто ведае, але факт застаецца фактам – гісторыя не выйшла на прамы абсяг, а адправілася зноў па пакручастых дарогах і сцежках…

Але ніхто не абвергне таго факта, што палітычная дзейнасць Вітаўта вызначалася шматграннасцю, мела дзяржаўны, дыпламатычны, вайсковы і рэлігійны кірункі. Гэтаму шляху ён не здраджваў да апошніх гадоў жыцця, а быў ён ўжо ў сталым і паважаным узросце.

Адносіны з Масквой? І светлыя, і змрочныя перыяды спадарожнічалі абедзвюм дзяржавам. Дачка Вітаўта Сафія была жонкай маскоўскага князя Васіля Першага. Калі ён памёр у 1425 годзе, то завяшчаў апеку над сваім дзевяцігадовым сынам Васілём дзеду Вітаўту. Таму ўсе ўспрымалі Вітаўта як гаспадара Маскоўскага княства. Каб поўнасцю і цвёрда даць ВКЛ самастойнасць, яму, Вітаўту, неабходна атрымаць каралеўскую карону. Ён быў ужо блізка каля яе – у 1428 і 1430 гадах, але тыя, хто быў не зацікаўлены ў гэтым, усё зрабілі, каб таго не адбылося…

Любіў вялікі князь Вітаўт паляванне, пра ўсё забываўся, калі чуў адчайны брэх сабакаў і іх скавытанне, гукі горнаў і ражкоў, да вар'яцтва і бяспамяцтва любіў гэтую забаву…

"Наладзілася гаспадарскае паляванне ў Белавежскай пушчы.

Зубры, адчуўшы небяспеку, раўці пачалі, рогі тупыя настаўлялі то на аднаго паляўнічага, то на другога… Адзін, маладзейшы з зуброў, каня рогам пад бок пырнуў, ад чаго Вітаўт ледзьве не зляцеў на зямлю, але ўтрымаўся ў сядле… Злосна вылаяўся, але не адчуў небяспекі, яшчэ большы азарт авалодаў ім. А гончыя аж заходзіліся ў брэху, на зубра кідаліся, у сцёгны ікламі ўпіваліся.

– Беражыся, князь! – крыкнуў здалёку лоўчы, рукамі замахаў, прыўстаў у сядле. – Ззаду!..

Вітаўт пачуў голас, развярнуў каня, і гатовы быў сустрэць звера. Зубр быў раз'юшаны – у яго сцягно ўпілася паляўнічая дзіда, і кроў сцякала долу, задраў галаву, і пачуўся яго магутны рык. У гэты момант і ўпілася вострая дзіда ў кадык зубра, пранізала наскрозь шыю. Зубр захліпнуўся крывёю і апусціўся на пярэднія ногі, паваліўся на бок.

Вялікі князь узгарэўся яшчэ большым азартам. Аглядаўся, куды яшчэ накіраваць каня, каб зноў здабыць перамогу. Убачыў: пад магутным дубам, які раскінуў свае галіны ўшыркі на сотню крокаў, стаіўся і раздумваў, што рабіць, зубр. Бачыў, што яго браты ляжалі, скрываўленыя, на зямлі, напітваўся гневам і сілай, каб абараніць сваю годнасць, адпомсціць чалавеку за здзек з іх… Таму стаяў і чакаў, не нападаў, адчуваючы, што пад дубам найлепш адбівацца ад паляўнічых. Медзяная поўсць на ім перакатвалася па ўсім целе, потым стала крывава-чорнай, быццам нехта паласаваў яго вострымі мячамі ці калоў дзідамі.

Нейкі момант Вітаўт разважаў, з якога боку лепей падступіцца, каб зубр не прыпяў яго да дрэва, асцерагаўся, рыхтаваўся сам і пад'юджваў каня, каб той па першым яго загадзе кінуўся наперад. Зграя гончых, убачыўшы, што паляўнічы рыхтуецца да атакі, накінуліся на чырвонага волата.

І ў той жа момант, калі зубр павярнуў галаву, каб адбіцца ад сабак, ударыў нагамі па баках каня. Той зразумеў каманду і адным скокам даляцеў да звера. Вітаўт праткнуў горла зубра.

Пачуліся радасныя воклічы памагатых і слуг вялікага князя, яны падбеглі да Вітаўта, памаглі яму злезці з каня, віншавалі з перамогай. А ён упіваўся радасцю, што так удала скончылася паляванне – аж пяць зуброў паклаў на зямлю.

Зайгралі музыкі – зазвінелі лютні, ударылі ў барабаны, падпяваў усім паляўнічы ражок. На прасторны луг выйшлі танцоры і танцоркі, пабраўшыся за рукі, утварылі круг…

– Слава Вітаўту! Доўгіх гадоў жыцця! Віват, віват, віват!

Паляўнічая эйфарыя спала з Вітаўта, і ён ператварыўся са звычайнага паляўнічага ў князя. Адкінуў ад сябе зброю, слугі накінулі на яго чырвона-карычневую світку, перапаясалі блакітным пасам, падвялі да княжацкага крэсла, усадзілі ў яго.

– Слава Вітаўту!

Ён падняў руку і забараніў узносіць здравіцу ў яго імя. Паляванне прайшло годна і цяпер працяг яго павінен быць вясёлым і гучным. Тут жа аднекуль з'явіліся сталы, іх прыставілі адзін да аднаго ў адзін рад, а сталоў было мо з дваццаць. Распалілі вогнішча, на якім адразу ж пачалі рыхтаваць смажаніну, і салодкі пах разлягаўся па прасторнай паляне.

За стол уселіся ўсе, хто быў на паляванні. З аднаго боку паселі прыдворныя і радцы князя, з другога астатнія – кухары, музыкі і танцоркі, канюшыя і дваровы люд…

Князева крэсла перанеслі да агульнага стала – у цэнтры, і ён сеў на пачэснае месца. У вялізных чопах варыўся на ўсіх салодка-горкі крупнік: усім даспадобы частаванне гарачым хмельным напоем з мёдам і духмянымі зёлкамі з Белавежскай пушчы. На сталы насілі і насілі варанае зубрынае мяса, ад якога ішла пара і разносіўся пах, што ў кожнага сліна не ўмяшчалася ў роце, цэлыя горы на сталах, і кожны клаў сабе ў місы колькі хацеў. Ні ў чым не было абмежавання.

Вяселле почату – княжацкай світы – разгаралася з новай сілай, гучней і гучней гралі музыкі. Не ўпіваліся, чаго вельмі не любіў вялікі князь, але і не сумаваў ніхто, падвяселены салодкім напоем, толькі адзін чалавек не ўзяў і кварты крупніку – летапісец Янэт. У сваёй кайстры ён трымаў тастамент, у якім потым ўнясе свае ўражанні і ад палявання, і ад таго, што адбывалася пасля. Адно што ён любіў і мог сабе дазволіць – кіслы, настоены на грушах-дзічках і белавежскіх зёлках, бярозавік, які заўсёды

вазілі ў дубовых бочках. Яго таксама любіў ужываць пасля балявання і вялікі князь.

І потым Янэт у сваім “Дзённіку караімаў”, куды ўпісваліся мемуары княжацкіх целаахоўнікаў ды і іх навучальнікаў – інструктараў, напішуць і пра той дзень, пра тое здарэнне… Дзённікі тыя, рукапісы, дарэчы, захаваліся ў Публічнай бібліятэцы Буэнас-Айрэса. Сшытак дзясяты, на сто саракавой старонцы.

Як толькі віначэрп пачаў абыходзіць удзельнікаў застолля і мерыўся наліваць зноў у кубкі хмельнага крупніку, як здарылася нешта неверагоднае. Спачатку Вітаўт нахмурыўся ад нечаканасці, нейкі момант ацэньваў сітуацыю, а потым узяў сябе ў рукі.

– Усім сядзець і нікому не ўставаць! – падаў спакойна каманду.

Усім засталося толькі назіраць, што адбывалася на іх вачах. А адбывалася наступнае. Знекуль з неба ўпаў на зямлю вялізны птах, распластаўшы крылы. На ногі стаў, стаяў цвёрда. Крылы потым падабраў пад сябе. Агледзеў усіх, пераводзячы позірк чырвона-жоўтых вачэй з аднаго на другога. У гэты ж час, не губляючы часу, не паслухаўшыся вялікага князя, яго загаду, восем ваяроў-караімаў, узяўшыся за рукі, князя абступілі. Яшчэ пяцёра ім на плечы ўскочылі. І стварыўся жывы шчыт-засцярога, які засланяў вялікага князя ад страшыдла. Усе выцягнулі з похваў мячы, ашчэрыліся імі, выставіўшы лёзы.

– Дык гэта ж бацян! – усклікнуў спакойна вялікі князь. – Фенікс! Загад мой – птушку не чапаць, бяды ёй не чыніць!

Але воі хлеб свой дарэмна не елі – не зрушылі з месца, мячы не апусцілі долу, назіралі, што будзе рабіць невядомая і дзівосная птушка.

Страціўшы цікавасць да почату – грамады князевай, на мяса зубровае нават і не зірнуў, а адразу пашыбаваў, перавальваючыся з боку на бок, няўклюдна і вялікую смагу маючы, да чана з густым месівам падышоў. Галаву туды з чырвоным чубам апусціў, пачаў спаражняць яго. Бачачы, што Вітаўту нічога не пагражае, воі “знялі засцярогу”, пачалі ўжо збоку назіраць, што будзе адбывацца далей.

Фенікс не адышоў ад чана да тае пары, пакуль усё не выхлябтаў. Крупнік яму, мусіць, вельмі спадабаўся. У рэшце рэшт, скончыўшы апаражняць чан, падняў галаву, павярнуўся зноў да людзей, але глядзеў на ўсіх ужо лагодна і добразычліва.

Найперш да дудара падышоў, узяў з яго рук дуду, да дзюбы паднёс, паспрабаваў іграць. Ды не атрымалася ў яго тое, толькі свіст бязладны атрымаўся. Аддаў назад разгубленаму музыку. Паспрабаваў зацягнуць

нейкую мелодыю, і зноў жа нічога не атрымалася. Першым засмяяўся Вітаўт, за ім следам яго і чэлядзь.

Хістаючы галавой, фенікс паспрабаваў зрабіць крок наперад, ды згубіў раўнавагу, паваліўся на зямлю. Нешта казаў праз сон, песні літоўскіх вояў пачаў заводзіць, ды неяк перакрыўляў іх, як здзекаваўся. Здзіўляўся люд – адкуль фенікс мог ведаць тыя песні?

А потым чорны бацян заснуў, прымружыўшы вочы.

– Што рабіць з ім? – спыталі ў вялікага князя.

– Анічога. Шкоды не чыніць. Праспіцца – паляціць у свае ўладанні. Мы ж працягнем весялосць – перабяромся на бліжэйшую паляну, не будзем парушаць сон гэтай дзівоснай птушкі. То яна мяне вызваліла з Ягайлавага палону.

Пачулі незразумелыя гукі на ўзболатку. Схадзілі, паглядзелі.

– Вялікі князь Вітаўт, – прыйшлі здзіваваныя караімы, – там птушаняты бацяна. Вылупіліся з жалезных яек.

– Птушаняты? – усміхнуўся князь. – Добра. Прыручыць іх трэба. Нам памочнікамі будуць. Для дзяржаўных патрэбаў. Гэтыя птушкі ад Бога. – І, звяртаючыся да сваіх сакратароў і дарадцаў, прадоўжыў: – Крыжацкім ваякам у даўнія часы азадкі гэтыя птахі падсмажвалі. Чытаю па памяці: “Лето 1290 з благославенства божъего немцам в каршель натолкали, дабы не покушалися гнезды ботяновы россkидать, ища потравы утробам своим ненасытным”. Пра гэта я прачытаў у прыпісцы да “Наваградскага Евангелля”. Скажу вам яшчэ, любыя мае мужы вучоныя, што тагачасныя кніжнікі вельмі цудоўна разумелі, што знікненне гэтага фенікса-бацяна можа наклікаць на нас няшчасці і беды – зямля парушыцца, рэкі высахнуць і зальюцца крывёю гэтых божых птахаў. Калі слаўны Гедымін пісаў свае пасланні, то ён таксама пацвярджаў: “Жывёлу і птушку біем памяркоўна, каб і прырода да нас талеранцыю мела. Вот, скажам, бацян, або фенікс (batsian sive phaenix), птушка бязладная быццам, але мусім дбаць, каб жыла і яна, бо бязладдзе ейнае ёсць часткай суладдзя агульнага”. Усё зразумелі, сябры мае?

– Зразумелі, вялікі князь, будзем шанаваць фенікса, не дадзім яму загінуць.

Пазней пад Вільняй быў змайстраваны адмысловы гадавальнік гэтай дзівоснай птушкі. Іх кармілі лепшымі стравамі, і птушкі раслі, так бы мовіць, не па днях, а па гадзінах.

І пазней, калі войскі Рэчы Паспалітай Сцяпана Батуры вызвалялі Полацк ад маскоўскага непрыяцеля, у 1579 годзе, чарада прыручаных

феніксаў лётала ў небе над сталіцай Вялікага княства: “дождж і непагода ўвесь час дапамагалі асаджаным так адмыслова, што просты жаўнер прыпісваў гэта няйнакш як якім-небудзь чарам…” Таму і прыйшла думка выкарыстаць феніксаў для разгону хмараў.

Сакратар караля Райнгольд Гайдэнштайн паведамляў: “Кароль загадаў, каб баявыя птахі ляцелі да полацкіх сценаў і не адляталі да тае пары, пакуль апошняя хмурынка не растане ў нябёсах”.

Пра тых птахаў, якія лятали над Полацакам, сведчыць і гравюра ва “Універсальнай хроніцы” Себастыяна Мюнстэра (Базэль, 1545). Не мог жа ён проста так намаляваць іх, значыць, засведчыў сам факт існавання дзівоснага фенікса. За што мы ўдзячны яму.

А ў гаспадарыча Уладзіслава Вазы быў нават персанальны фенікс (personal phaenix). Прыручаная птушка слухалася яго як верны цюцька, разумела яго мову і загады. І выконвала іх бездакорна. Што цікава, калі ён сабраўся на сакрэтную экскурсію ў Маскву, то самога, у выніку геапалітычнага поспеху свайго бацькі ды пры дапамозе крылатага стварэння, абралі і пасадзілі на тамтэйшы велікакняжацкі сталец. Было тое ў 1610 годзе. Але птушка, на вялікі жаль, пражыла на свеце не стагоддзе, як звычайна, а трохі меней, чымся Уладзіслаў уладарыў на Маскоўшчыне. Чаму? Прычына банальная: баяры пілі моцныя напоі разам з птушкаю, спаілі яе. Наўмысна тое зрабілі, каб загубіць фенікса, ці не, ніхто не ведае. Але Уладзіслаў у гэтым убачыў дурны знак і загадаў строга разабрацца з фактам здзеку з птаха.

Фядотка Марозаў, адзін з вінаватых у тым злачынстве, цынічна ўсміхаючыся, заявіў: “Слабовата есть королевская птица, коль нас перепити не в силах…”

Але мы вымушаны вярнуцца назад, у часы княжання вялікага Вітаўта.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**8**

…Без двух гадоў чатыры дзесяцігоддзі княжыў Вітаўт (1392–1430). Гэты час лічыцца найвялікшым дзяржаўным ўздымам Вялікага Княства Літоўскага: незвычайная вайсковая магутнасць, палітычная стабільнасць, пашыраная тэрыторыя. Як і раней, так і пры ім, галоўным дасягненнем Вялікае княства вызначалася як Беларуская Дзяржава.

Так сталася, што ўсе вышэйшыя пасады займалі беларусы, з іх у асноўным і складалася акружэнне Вітаўта. Пра тое сведчыць спіс яго кагорты, якая ўдзельнічала разам з ім на Салінскіх перамовах. Гэта калі ён

рашыў замацаваць свой саюз з Ордэнам з-за таго, што Польшча варожа адносілася да яго.

Дык вось – 13 кастрычніка 1398 года пасольствы сустрэліся каля ракі Дубіса – Салін. Хто быў з Вітаўтам? Князі Уладзімір, Юры Пінскі, Міхаіл Заслаўскі, Аляксандр Старадубскі, Іван Гальшанскі і Іван Друцкі. Усе беларускія князі, ніводнага літоўскага ці іншага каго – вось хто былі ў яго дарадцамі і да каго ён прыслухоўваўся і цаніў смелую думку і параду.

І што самае галоўнае і адметнае – сам вялікі князь Вітаўт і ўвесь яго двор карысталіся ў паўсядзённым і палітычным жыцці выключна русінскай, што азначала – беларускай мовай. І на ёй вялося дзяржаўнае справаводства. Гэта і падкрэсліваў слынны Максім Багдановіч, які пацвярджаў, што дзяржаўнае жыццё Вялікага Княства Літоўскага праходзіла ў беларускіх нацыянальных формах.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось як падае кароткія звесткі пра Вітаўта БСЭ, 1971 год:

“Вітаўт (1350–27.10.1430), князь гарадзенскі, трокскі, вялікі князь літоўскі (1392–1430), сын Кейстута. Узначаліў барацьбу ВКЛ супраць польскіх феадалаў, якія імкнуліся выкарыстаць Крэўскую ўнію 1385 і каранацыю Ягайлы для захопу літоўскіх, украінскіх і беларускіх земляў. Праводзіў палітыку цэнтралізацыі і ўмацавання асабістай улады.

У выніку кампраміснага Астраўскага пагаднення (1392) з Ягайлам літоўска-беларускія феадалы атрымалі большую самастойнасць, а Вітаўт прызначаны пажыццёвым гаспадаром – вялікім князем.

Каб умацаваць дзяржаву, уласнае становішча і разарваць унію з Польшчай, двойчы (1429 і 1430) рабіў захады прыняць каралеўскі тытул і карону, але гэтаму перашкаджалі магнаты Польшчы. У ВКЛ пасадзіў незалежна ад Русі мітрапаліта.

Вітаўт значна пашырыў тэрыторыю дзяржавы. У 1404 далучыў Смаленск. У 1408 пасля вайны з Маскоўскай дзяржавай вызначыў мяжу з ёй па рацэ Угра і Ака. Уключэнне Паўднёвай Падоліі дало выхад ВКЛ у Чорнае мора.

У Грунвальдскай бітве 1410 года ўзначальваў войскі Літвы, Полацка, Віцебска, Пінска, Ваўкавыска, Смаленска, Старадуба, Мазыра, Кіева і іншых, якія былі асноўнай сілай у разгроме немцаў.

Вялікае Княства Літоўскае пры Вітаўце дасягнула найбольшых памераў і магутнасці».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

# IV. КРУШНІКІ

## 1

Антон Клімовіч перагарнуў апошнюю старонку рукапісу Веранікі. Чамусьці яна не паставіла свой подпіс пад матэрыялам. Нават не схавалася пад псеўданімам. Але тое ўжо не мела значэння. Мусіць, прыйшлося ёй добра пасядзець у архівах і ў бібліятэках, каб здабыць звесткі пра слаўнага мужа Вялікага княства. Пашкадаваў толькі, што пра Вітаўта не расказвалі на ўроках гісторыі ў школе, як, дарэчы, і ва ўніверсітэце, дзе ён вучыўся. Усё скіравана было на расейскіх дзеячаў, ды і то аўтары кніг ці падручнікаў хлуслівa і пагардліва ставіліся да гісторыі роднага краю… Добра было б, каб Вераніка выдала асобнай кніжачкай «Загадку Вітаўта».

Падумаў, калі калі будзе гаварыць з дзяўчынай, то і папросіць яе глыбей падаць падзеі, не баяцца, што нейкія эпізоды герояў таго часу могуць быць не на карысць агульнаму партрэту ці біяграфіі слыннага дзеяча…

Летапісец выйшаў з «падполля», пакінуў сваю бярлогу адзінотніка. Да ад’езду ў Менск заставалася і не так шмат часу, таму рашыў апошнія ночы пераначаваць у роднай хаце, ды сабраць сваю дарожную валізу, скласці туды рэчы, паперы, розныя дробязі.

– Бывай, мая схованка, дзякуй за добрыя сны, за добрыя спадзяванні!

Падалося, што ўтульны кут адказаў яму ўздыхам. А мо то і вецер-свавольнік ускочыў у шчыліну франтона, прабегся па зляжалым сене, якое растрос ён перад тым, як спусціцца па драбінцы, яшчэ больш раскудлаціўшы яго.

…Калі пайшоў у краму купіць хлеб, сустрэў Насту Кружнову – таксама нешта набыла, цэлую сетку набрала ў дадатак да хлеба. Развіталася з Марынай, прадавачкай, паўнагрудай жанчынай з доўгімі косамі, кіравалася да выхаду. Убачыла, што Антон стаіць апошні ў чарзе, падышла, павіталася.

– І ты па хлеб?

– Так, маці паслала.

– Калі на Менск? – пацікавілася як бы між іншым, пераклала сетку з адной рукі ў другую.

– Заўтра ці паслязаўтра. А ты?

– І я таксама. А слухай, – ускінула дугі-броўкі, пільна зірнула яму ў вочы, – а давай разам паедзем – паслязаўтра, га?

Падумаў трохі, пракруціў у галаве сітуацыю, звёў усё ў адзін клубок, адказаў:

– Можна, але я буду ведаць пра ад'езд толькі заўтра. Як перадаць?

– Сястрычку сваю адашлі да мяне ці сам зазірні, калі будзе час. Дарэчы, а ты чым думаеш ехаць – аўтобусам ці цягніком?

– Мо лепей аўтобусам, бо на поезд трэба яшчэ да Калінкавічаў дабірацца. Ды і квіткі ці яшчэ будуць…

– І я люблю аўтобусам, – як бы ўзрадавалася дзяўчына, весела паглядзела на яго.

– Добра, дамовіліся, – пагадзіўся Антон, і ў гэты час прыйшла да яго чарга, сказаў ужо Марыне: – Булку чорнага хлеба, рыбную кансерву, кіло цукру і бутэльку ліманаду.

Прадавачка ўсё паставіла перад ім, ударыла спрытна костачкамі на дроціках лічыльнікаў, адкінула некалькі назад, прамовіла:

– З цябе тры рублі і восемдзесят пяць капеек.

Выклаўшы з кашалька названую суму, спакаваў ежу ў сетку. Узяўся за пяцелькі, зняў з прылаўка. Людзі падыходзілі, купіўшы нешта, адыходзілі, разглядалі паліцы, на якіх стаялі тазікі і боты, каструлі і чыгункі, ляжалі сякеры і косы… На сцяне нават вісела некалькі карцін – шышкінскія «Мішкі», Айвазоўскі «Дзявяты вал»… Але тое ўсё не трэба было Антону, ён адразу ж і выйшаў з крамы, падаўся дадому.

Ідучы, падумаў, чаму падлабунілася да яго Наста, што хоча разам з ім ехаць у Менск. Простае супадзенне, ці і да сустрэчы планавала сумесную паездку. Але тут жа выкінуў тое з галавы, рашыў не прыдаваць таму ніякага значэння – захацела, няхай едзе, мо і сапраўды ўдвух весялей будзе ў дарозе.

А дома навіна – брат прыехаў з Менска.

– Здаў дакументы? – удакладніў Антон, павітаўшыся, паставіў сетку з пакупкамі на лаўку.

– Здаў. Сказалі, каб чакаў выкліку. А ты калі на Менск?

– Мусіць, паслязаўтра.

– А мо і мяне паклічуць за гэты час?

– Думаю, што не, ты ў другі паток пападзеш.

– Мо і так.

Прыйшлі з фермы маці, Зоська і Наталля.

– То ты прыехаў ужо, Петрык? – без асаблівага здзіўлення папыталася маці.

– Вось толькі што прыйшоў з аўтобуса.

– Усё добра?

– Здаў дакументы, цяпер буду чакаць выклік на экзамены.

Да Антона падышла Зоська, дакранулася да рукі:

– І ты з'едзеш, і Пятрусь, а мы з кім застанёмся?

– Як з кім? Тата з маці, ды і Зміцер з Андрэем у прыдачу. Дзе ён, дарэчы?

– У Турбінку да сябра пайшоў, хутка прыйдзе.

З вуліцы падыходзіў да веснікаў гаспадар, адсунуў знадворку засаўку, адчыніў дзверы.

– Вечар добры ўсім, – стомлена павітаўся ляснік, падышоў да лаўкі, скінуў з сябе амуніцыю, – амаль уся сямейка, бачу, сабралася.

Цяжка ўздыхнуўшы, сеў на лаўку. Абапёрся спінай да дошкі веранды, з хвіліну пасядзеў, а потым, нагнуўшыся, скінуў з ног боты, стаў падэшвамі на цёплую зямлю.

– Нахадзіўся? – спачувальна спытаў Антон, сядаючы побач.

– Не тое слова, сын, набегаўся, як воўк. Ляснічы сёння папрасіў падсочку паглядзець ва ўсіх хлопцаў, а яны ў розных канцах лесу. Жывіца ідзе добра, сонца добра выганяе яе са ствалоў. І па падсочках план, і па галінках план, і па шышках… Ніяк не абыдуцца без таго плана.

Бацька ўжо як бы выказваў сваю крыўду. Толькі цяпер, здаецца, убачыў Петруся, і ён спытаў, калі прыехаў.

– Колькі ж вучыцца, калі паступіш?

– Пяць гадоў, як і Антону.

– Вывучышся, мо ляснічым станеш, – усміхнуўся бацька, – нашаму Вітальевічу акурат прыйдзе час ісці на пенсію. Вось і заменіш яго, і мне палёгка будзе.

– Добра, бацька, кіламетраў на пятнаццаць зменшу табе дыстанцыю, – паабяцаў Пятрусь тым жа тонам, – чаму ж не ўважыць роднага бацьку?

На ганак веранды выйшла гаспадыня, агледзела ўсіх, папыталася:

– Так, хто найбольш з вас масла любіць? Прызнавайцеся…

Пятрусь, зразумеўшы, да чаго пытанне, падняў, як школьнік, руку, выгукнуў:

– Я люблю, маці!

– Ну, то бяры маслабойку, папрацуй трохі.

Сын вынес у двор прыладу, усеўся на ўслончык, паставіў маслабойку на кавалак шырокай дошкі, узяўся за канец кія. Паціху апусціў яго ўніз,

слухаючы, як ходзіць прымацаваная да кія крыжавіна, наколькі густая смятана, падняў, зноў штурхнуў да канца. Выбраўшы патрэбны рытм, пачаў аднастайна шоргаць кіем, стараючыся, каб не перабольшаць, каб у дзірачку не выцякала смятана і не лілася на зямлю.

Ён любіў гэтую працу, любіў сам працэс – спачатку кій з крыжавінай хадзіў вольна, без супраціву, а потым усё цяжэй і цяжэй. Любіў, неўпрыкмет ад маці, правесці пальцам па кійку са смятанай і пакласці на язык. Гэта ўжо была і не смятана, але і не масла яшчэ. Кісла-салодкі прысмак сыроваткі, з кропелькамі масла…

– Шурх-шурх, – то апускаў, то падымаў Пятрусь кій, – шурх-шурх…

А праз хвілін пятнаццаць ён клікаў ужо маці, каб яна давяла ўсё да канца. Каб, зняўшы вечка, зліла сыроватку ў даёнку, каб дастала з прадаўгаватай высокай бочачкі жоўтую, як сонечка, ладную грудку пахкага масла. Пятрусь з дзяцінства любіў намазаць добры акраец хлеба тым маслам, пасыпаць соллю, адкусіць на поўны рот… Зажмурыць вочы ад асалоды і задавальнення і ведаць, што такога наедку – хлеба са свежым маслам – смачней нічога ў свеце не было…

Тым часам Антон займаўся бульбай. Яе ўжо накапала ў агародзе Наталля, прынесла і паставіла кошык перад братам. Сама села побач, пачала пасабляць яму, спрытна шкрэбла вялікія бульбіны, кідала ў вялікую белую каструлю.

Сонца ўжо асядала за шчыкі далёкага лесу, налівалася слабай чырванню, укрывалася счырванелай коўдрай з мяккіх воблакаў; дзень сцішваў сваю хаду; з поля ўжо вяртаўся статак – спачатку калгасны, а пасля яго, праз кароткі прамежак часу, і людскі.

Маці падаіла і прынесла ў хату вядро з малаком, працадзіла праз марлю, пераліўшы ў эмаліраваны посуд, абвясціла:

– Так, дзеці, пара вячэраць. Сядайце за стол.

Наталля зняла з газавай пліты бульбу, высыпала яе ў вялікую міску, якая стаяла пасярод стала. Пад столь узнялася пара. Запахла маласалёнымі гуркамі, смажанінай, кропам і цыбуляй…

Пашчасціла – купілі апошнія два квіткі на Менск. І не бяда, што на заднім сядзенні, затое ў куточку, дзе ніхто ім не замінаў. Антон сеў каля акна, а Наста прымасцілася побач – з левага боку. А ўсіх, разам з імі, пяцёра пасажыраў, і не цесна нават, адносна прасторна. Важкія торбы кіроўца паставіў у багажны адсек, што знаходзіўся ўнізе, а з сабою ў салон узялі толькі самае неабходнае, што магло спатрэбіцца ў дарозе.

– Усе прыйшлі? – падняўся з крэсла кіроўца, паглядзеў у салон.

– Здаецца, усе, – нехта вымавіў няпэўнае, замоўк. Людзі ціха гаманілі, не звярнулі ўвагі на пытанне.

Каб пераканацца, што ўсе месцы занятыя, вадзіцель прайшоўся па праходзе, дайшоў да апошніх сядзенняў, прамовіў:

– Здаецца, усе.

Але яшчэ нейкі час аўтобус маўкліва стаяў на стаянцы. Ці то час яшчэ не падышоў адпраўкі, ці кіроўца пісаў нейкія паперы. У яго графік, ні абганяць час не трэба, тым больш адставаць.

– Камандзір, калі у сталіцу прыбудзем? – спытаў нехта з пасажыраў.

– Па графіку павінны быць а пятай гадзіне, – адказаў вадзіцель аўтобуса. – Так што наперадзе каля шасці гадзін язды. Дазваляю спаць, драмаць, прызнавацца ў каханні сваім прыгажуням, але забараняю піць гарэлку. Пачую ці ўбачу тое, адразу ж выселю з аўтобуса, нават у глухім лесе. Усім зразумела?

Амаль хорам адказалі:

– Панятна!

Кружнова паглядзела на Антона:

– А ты?

– Што – ты?

– У каханні прызнавацца будзеш?

– Раз дазваляе вадзіцель, то і прызнаюся, – адказаў на жартаўлівае пытанне Антон. – Прызнавацца – не кахацца.

Тым часам запрацаваў рухавік «Ікаруса», кіроўца колькі разоў націснуў на акселератар, правяраючы гатоўнасць, плаўна крануліся з месца. Аб’ехаўшы рад аўтобусаў, вырулілі улева, выехаў на галоўную, якая вяла са станцыі Мазыр. Далей быў нахіл, і каціліся ўжо ўніз, дзе пачынаўся жылы масіў – вуліца Пралетарская, на якой знаходзілася буравая кантора; далей паўз сярэднюю школу, да якой прыклеілася імя «Сталінская», за бібліятэкай кіроўца павярнуў аўтобус направа – на вуліцу Куйбышава, зноў каціліся па нахіленай. Паказалася Прыпяць з металічным мостам, якія злучаў два берагі, уз’ехалі на яго. Праехаўшы мост, аўтобус набраў хуткасць, і ўжо за акном аж да Калінкавічаў толькі мільгацелі кустоўі, бярозы і сасновы лес.

За Калінкавічамі аўтобус выбіўся на бальшак і ўжо ўпэўнена трымаў курс на Бабруйск, Асіповічы, Мар’іну Горку. Аўтобус злёгку гайдала, закалыхвала, і пасажыры паступова пачалі кляваць носам. Схіліла галаву і Наста, а потым непрыкметна і паклала галаву на плячо Антону.

«Чаго ўвязалася за мной? – недаўмяваў хлопец. – Сумна адной ехаць, ці дарогі не ведае? Дык ехала ж не раз – і цягніком, і аўтобусам. А там, як прыедзем у Менск, трэба праводзіць да інтэрната, не пакінеш адну…»

Думкі чапляліся адна за адну, нараджаліся новыя, потым і яны адыходзілі некуды ўбок, знікалі. То чуўся голас айца Максіма, які падахвочваў яго да сустрэчы, яму на змену прыходзіў Сірыус, і голас яго быў спакойны, ураўнаважаны, пераканальны. То дзед Міхась з'яўляўся – з важкім молатам, стоячы каля камінка, а потым яны разам з Ігнатам нясуцца па лабірынтах падзямелля…

Не заўважыў, як і яго ахапіў сон, і ён ужо сваю галаву прыставіў да Насты. І далей яго некуды панесла, ці не ў галактыку, што ён даганяе Ігната, ці Ігнат яго, не зразумець. І аднекуль з зоркавага воблака выплыла Яніна, у нейкай празрыстай кашулі, бы блакітным воблакам ахутана, рукі расставіла, бы крылы… Падлятае да яго бліжэй, вочы ў вочы, кладзе свае рукі-крылы яму на плечы, як падахвочвае да нечага. Яна ўсміхаецца і чакае ад яго нейкіх дзеянняў. І ён здагадаўся, што яна ад яго хоча. Абняўшы яе, прытульвае да сябе, і ловіць яе вусны, упіваецца ў іх, хаця, памятаў, што яна і блізка не падпускала чамусьці яго, адштурхоўвала нават ад сябе. А цяпер… А цяпер яна сама прымусіла абняць яе і апаліла яго гарачымі вуснамі. Нешта зварухнулася ў ім, прачнулася, і ён ужо не ведаў, што будзе рабіць праз хвіліну… Асмеліўся дакрануцца рукой да яе грудзей, але, дзіўна, яна не адпрэчвала, а яшчэ бліжэй тулілася да яго.

Калі ж пацалунак давёў яго да найвышэйшага ўзрушэння, ён прахапіўся. Ён цалаваў не Яніну, а Насту, якая ўжо стагнала, тулячыся да яго. Антон здзівіўся, злёгку адхінуўшыся ад яе, не ведаў, чаму так атрымалася, і невядома, хто першы з іх падахвоціўся да гэтага. Наста глядзела яму ў вочы, усміхалася. У яе ружовіліся шчокі, гарэлі вусны.

– То ты мне ў каханні прызнаўся? – смяялася ўжо яна, вярнуўшыся ў ранейшы стан. – Ты так заўсёды на дзяўчат накідваешся?

Яе ўжо душыў смех, яна бачыла разгубленасць хлопца і, не хочучы надаваць сабе сур'ёзнасці, старалася зрабіць так, каб і Антон аднёсся да гэтага з усмешкай.

– Я ж не каршун, каб накідвацца! – знайшоўся Антон. – Мы ж спалі, хто злучыў нашыя вусны?

– Бог і злучыў, – прамовіла ўжо сур'ёзна. – Што, нясмачнаю падалася, мо ў цябе і смачнейшыя вусны былі?

Прапусціў яе гуллівы папрок міма вушэй, усё яшчэ быў ва ўладзе сну і гэтага нечаканага пацалунку.

Суседзі спалі. Жанчына спераду задрала галаву на сядзенні, трохі прыадкрыла рот. А за ёю, прытуліўшы галовы адно да аднаго, спала маладая пара.

Яны ніколі не сустракаліся на адзіноце, ніколі не цалаваліся. І ў думках Антона не было цалавацца з ёю. Тады як усё тое атрымалася? Няўжо ён першы, уявіўшы, што перад ім Яніна, падсвядома адгукнуўшыся на яе покліч, паляцеў да яе.

– Але ты не мяне цалаваў, браце Антоне, не мяне, – уздыхнула яна.

– А каго ж? Тут больш нікога няма.

– Ёсць, і не адна. Ты Яніну цалаваў, ёй шаптаў пяшчотныя словы, каханай нават называў. Ці не так? Мо адмаўляцца будзеш?

Не ведаў, як адрэагаваць на яе словы, ды і ахвоты не было. Але тое, што прамовіла дзяўчына, яму не спадабалася.

За акном пачало ўжо ссутоньвацца, сонца даўно схавалася за небакрай.

Яна ўжо зноў весела размаўляла з ім, але гаварыла ціха, каб не пабудзіць суседзяў і тых, хто сядзеў наперадзе. Здзекавалася ўжо з яго, пасміхалася, аддаляючыся ад яго, робячыся гуллівай, несур’ёзнай, жартаўлівай.

– Азарычы! – парушыў спакой у салоне кіроўца. – Хто ў мяне ўтраіх выходзіць?

– Мы, мы, – прахапілася і спахапілася жанчына. – Вы на аўтобусную станцыю паедзеце?

– Так, на станцыю.

Прахапіліся і астатнія пасажыры, пачалі аглядацца, глядзець у акно, намагаючыся разабрацца, дзе яны знаходзяцца. Пачуўся нечы смех, зноў ажыў салон, загуў, бы пчаліны вулей.

Пад’ехалі да стаянкі. Кіроўца гучна абвясціў, каб усе пачулі:

– Стаім дваццаць хвілінаў. Можаце гуляць, можаце зазірнуць у кавярню, тут каву добрую гатуюць.

– Сходзім? – прапанаваў Антон. – Даўно каву піў.

– Давай. Наблізім сябе да цывілізацыі.

Кавярня знаходзілася на другім паверсе.

Выбралі столік у куточку, каб не быць на відавоку. Наведвальнікаў было няшмат, амаль усе сталы пуставалі. Падышла афіцыянтка, спытала, што будуць заказваць.

– Віно будзеш? – зірнуў на спадарожніцу Антон.

– Трохі.

– Тады сто грамаў гарэлкі, фужэр сухога віна для паненкі. Па бутэрброду з сырам і каўбасой і кавы.

– Распушчальнай?

– Не. Сапраўднай. І яшчэ мінералкі халоднай. І можна хутчэй, бо мы з менскага аўтобуса.

– Добра, праз хвіліну ўсё прынясу.

Дзяўчына адышла, яны засталіся адны. Наста ўжо не смяялася, стала сур'ёзнай, нават строгай. Глядзела па баках, вывучала абстаноўку. Звярнула ўвагу на карціну, што вісела паміж вокнамі на сцяне. Жоўтаежоўтае поле са збажыной, на пярэднім плане бярозы. І ўдалечы лёгкае мроіва туману.

– Як быццам мастак маляваў поле, якое за маімі агародамі. І бярозы падобныя да нашых.

– Харошы малюнак, – падтрымаў яе Антон, – і мне ён кінуўся ў вочы адразу, як селі тут.

Афіцыянтка стрымала слова – праз якіх тры-пяць хвілінаў яна паставіла перад імі заказ.

– Калі ласка, адразу рахунак, – папрасіў Антон, пакуль дзяўчына яшчэ не адышла.

– Ну, што Настасся Валер'еўна, – падняў кілішак, падахвоціў падняць і фужэр, – давай за пачатак вучэбнага года, за добрую дарогу.

Дакрануліся краямі, ад чаго пачуўся слабы «дзінь», ён выпіў да дна кілішак, яна – палову фужэра. Зажаваў бутэрбродам. У кавярню зайшоў кіроўца. Падышоў да стойкі, папрасіў кавы. Агледзеўся. Убачыўшы Антона і Насту, кіўнуў ім, усміхнуўся. Антон адказаў кіўком галавы.

Дапілі рэшту. Антон наліў мінералкі сабе і спадарожніцы, выпіў адразу сваё. Прыйшла афіцыянтка, паклала перад хлопцам паперку. Ён прачытаў яе, дастаў з гаманца дзясятку.

**2**

У Менск, як і абяцаў кіроўца, прыехалі раніцай.

Ужо ўзышло сонца, кідала свае чырвона-жоўтыя прамяні ў акно, будзіла пасажыраў. Сама быў сон, хаця і не такі глыбокі, як дома, але і таго было дастаткова кожнаму, каб за гэты кароткі час трошкі прыдбаць сілы, настроіць сябе на працоўны лад.

Наста спала. Але не на плячы ў Антона, а схіліўшы галаву ў яго бок і прыхінуўшыся шчакой да высокага сядзення, пакрытага белай сурвэткай. Не будзіў яе, няхай даглядае свае дзявочыя сны. Як і Антону ёй дасталося ў вёсцы, кожны дзень хапала працы, з раніцы да вечара памага-

ла бацькам, каб, з’ехаўшы, быць спакойнай, што сваю долю ў дапамогу дома яна ўнесла.

Яна прахапілася сама, павярнуўшыся да Антона, прымружыла вочы – промні сонца білі ў твар.

– Прыехалі ўжо? – спытала, папраўляючы косы, прычасалася.

– Прыехалі. Пад’язджаем. Ты цяпер куды?

– У інтэрнат, афармляцца трэба.

– Цябе правесці?

– Навошта? Сумка не цяжкая, а тралейбус ідзе амаль пад самы інтэрнат. А ты куды?

– Таксама ў інтэрнат. Але мне бліжэй.

Аўтобус спыніўся на аўтобуснай станцыі. Кіроўца адкрыў адсекі багажні, каб кожны забраў свае рэчы.

Антон правёў Насту да прыпынку, які знаходзіўся насупраць цэнтральнага ўвахода ў чыгуначны вакзал, чакалі патрэбнага нумару.

– Звані, калі што, – амаль абыякава прамовіла спадарожніца.

– І ты таксама, тэлефон жа ведаеш.

– Ведаю.

Яна і да гэтага ведала, але ніводнага разу не пазваніла. Як і Антон ёй. Не было важкай прычыны, а проста пераразвоньвацца ні ёй, ні яму не хацелася.

Падышоў тралейбус. З яго доўга выходзілі людзі, накіроўваліся на чыгуначны вакзал. Калі выйшаў апошні чалавек, павярнулася да яго, з усмешкай прамовіла:

– То бывай. Дзякуй, што прызнаўся ў каханні. Аж яшчэ вусны мае гараць…

«Во аса, нават і пры развітанні джыгануць-падкузьміць хоча, перасмешніца…»

– А мне прызнацца, што пра зіму дазнацца, – не вытрымаў, рашыў гэтак жа і адказаць, і на твары састроіў ухмылачку.

– То я і бачу, таму аддзячу на здачу. Пасля такога прызнання і сватоў звычайна засылаюць. Ты не думаў пра тое? Толькі да мяне ці і да Яніны?

– За двужэнства за краты саджаюць.

– А я і не ведала…

Во і пагаварылі. І не зразумець, ці то жартавалі так, ці па-крушніцку пабалаболілі, калі няма пра што пагаварыць. Але ім было пра што пагаварыць, ды хавалі галоўнае за пустымі словамі, ведаючы, што не той час, не той, не прыйшоў ён яшчэ, не саспеў…

Тралейбус крануўся з месца, набраў хуткасць, а Антон яшчэ нейкі час стаяў на прыпынку, гледзячы ўслед тралейбусу. Паехала Наста, пакінуўшы ў яго душы недаўменне і загадкавасць. Чамусьці быў упэўнены, што паміж ім і дзяўчынай нічога нарадзіцца не можа, бо ў ёй не было ніякай загадкі, і ён не мог адкрыць у ёй нешта новае і цікавае, бо з дзяцінства на відавоку, усё пра яе вядома, і што ніводнага разу ні яе пагляд, ні нейкія дзеянні не кранулі яго сэрца, не ўспыхнуў ніякі агеньчык, ніякі промнік. Мо каб не са сваёй вёскі, ды каб пра яе да гэтага нічога не ведаў, асляпіла сваёй нечаканасцю ці здзівавала яго чым-небудзь, а так…

А праз хвіліну ён ужо і забыўся пра яе, выкінуў з галавы. Трэба было вырашаць свае клопаты і праблемы, уключацца ў вучэбны рытм жыцця, настройвацца на напружаныя дні, семестры, залікі і экзамены, паходы ў бібліятэкі і архівы…

На вахце прывіталася Марыя Пятроўна сваёй заўсёднай усмешкай.

Хлопцы яшчэ не з’явіліся, ён прыехаў першы.

Ад няма чаго рабіць заваліўся ў ложак. Была магчымасць паспаць яшчэ колькі гадзін, навярстаць сон. Нейкі час ляжаў з расплюшчанымі вачыма, а потым вейкі наліліся цяжарам, цела ахутала цеплыня і зняможанасць, сплыло, гайдаючыся, некуды наваколле, і ён перайшоў у іншае вымярэнне.

Сярод ночы дзверы адчыніў адзін жыхар пакоя, за ім другі. Толік Кутаў, убачыўшы, што Антон спіць, як пшаніцу прадаўшы, паглядзеў на Віцьку Бойка, прыставіў палец да губ. Юрка Герасіменка ўваліўся ў пакой пад раніцу. У руках важкая сумка. Павітаўшыся, дастаў з валізы пляшку самагонкі і паставіў на стол, вымавіў:

– Частуйцеся, чыстая, як сляза.

А хлопцаў доўга ўгаворваць не трэба, адразу паналівалі ў шклянкі, закусвалі салам з цыбуляй, якое Герасіменка паспеў нарэзаць за той час, як сябры налівалі ў шклянкі яго напой. Налілі і яму. І Антону налілі, але будзілі не адразу, а калі самі пачаставаліся і прыкусілі. Падключацца да іх кампаніі асаблівага жадання не было, але яны паднялі такі гармідар, што паўтарэнне сну не намячалася. Усё ж выпіў сваю порцыю, прыкусіў гурком, толькі тады, як бы ўбачыўшы хлопцаў, прывітаўся. Яны зарагаталі:

– Во, і нас убачыў, а то ад сноў сваіх не мог адарвацца. Цікавыя сны сніліся?

– Фантастычныя. Але вас у тым сне не было.

– Ну і няхай! – ускінуў рукі Толік Кутаў. – А то сапсавалі б табе ўвесь сон.

Антон кісла ўсміхнуўся. Яшчэ трохі пасядзеў ля стала, а потым падняўся, падышоў да свайго ложка.

– Вы тут гуляйце, а я сны свае дагледжу. Дужа стаміўся, таму адаспацца хачу.

– Ну і адсыпайся, – не прыставалі больш да яго сябры, – толькі не забывай, летапісец, падрабязна апісваць свой сон, потым нам дасі прачытаць. Цікава, як там людзі жывуць у снах.

– Добра, раскажу.

Накрыўшыся з галавой, пастараўся дагнаць свой сон, адключыўся ад галасоў сяброў, стаў глухім і абыякавым да навакольнага жыцця. Нырнуў у глухату і немач, адключыўся ад усяго зямнога…

«Хлопцы больш і не чапалі мяне. Мабыць, зразумелі, што са мной яны піва не зварацць, сабутэльнік з мяне нікудышны… Але яны гудзелі да самага ранку, пакуль не скончыліся запасы Герасіма, так мы яго звалі. Потым заваліліся ў свае ложкі і захраплі. Тады і я адправіўся на сваю Планету сну. Мяне трошкі пагайдала-палюляла на чароўных хвалях спакою, і нехта накрыў млява-прахалодным прасцірадлам, ды яшчэ нейкую мелодыю-калыханку зайграў, да вуха падставіўшы нябачны дынамічак.

Здаецца, доўга і не спаў. Але, як аказалася, да дванаццаці я быў ва ўладзе сну. Агледзеўся па баках: сябры-алкаголікі мірна спалі на сваіх ложках, хто хроп, задраўшы галаву, а хто пасвістваў носам, унурыўшыся ў падушку…

Рады быў, што не ўзяў лішку за сяброўскай бяседай, так бы цяпер пакутаваў ад галаўнога болю… А так, дзякуй Богу, што ўтрымаў мяне ад глупства, бо вунь трэба ў пару адрасоў схадзіць, парашаць свае клопаты.

Найперш я адправіўся ў выдавецтва “Навука і тэхніка”. У прыёмнай сядзела бялявая жанчына гадоў сарака, запытальна паглядзела на мяне.

– Скажыце, калі ласка, з якім вы пытаннем?

– Я хачу пабачыцца з дырэктарам выдавецтва. Месяцаў тры назад я ехаў у тралейбусе з адным цікавым чалавекам. Разгаварыліся. Ён расказваў цікавыя факты пра падземныя цывілізацыі. Сказаў, што збіраецца рукапіс прынесці да вас, у выдавецтва. А сам сышоў на адным з прыпынкаў, а на яго месцы ляжаў вось гэты рукапіс. Потым я з’ехаў у вёску, прачытаў яго. Мне ён падаўся вельмі цікавым. Ну я і падумаў, што мне трэба абавязкова прынесці рукапіс, каб не прапала марна праца. А я вучуся на гістарычным факультэце ўніверсітэта…

Антон скончыў сваё можа і занадта доўгае паведамленне, уздыхнуў. Глядзеў на сакратарку, чакаў, што яна параіць зрабіць.

– Вы маглі б пакінуць у мяне і я перадала б, але… Выбачайце, а як вас завуць?

– Антон Клімовіч.

– Антон, дырэктар цяпер заняты. Пасяджэнне вядзе. Але яно даўно пачалося, хутка павінна скончыцца. Як вы маеце час – хвілінаў пятнаццаць-дваццаць, то можаце пачакаць.

– Дзякую, я пачакаю. Можна тут у вас пасядзець?

– Можна. Вунь пад фікусам і сядзьце. Можаце чытаць, калі ёсць што, а не дык вунь часопісы на століку.

– Не, у мяне ёсць чытво, дзякую.

Пад фікусам было добра сядзець. Я не замінаў бялявай сакратарцы, якая лагодна паставілася да мяне, дастаў з партфеля кніжачку з вершамі Уладзіміра Караткевіча, адгарнуў першыя старонкі.

Праваслаўны або каталіцкі,
Ці які там твой будзе парог, –
Яе разам з матчынай цыцкаю
Даў табе ў твае вусны бог.
Пі, і ведай: гіне ў пракляццях
І з дзярма павек не ўстае
Той, хто выплюнуў цыцку маці
Або злосна ўкусіў яе…

На стале сакратаркі зазваніў тэлефон і яна падняла слухаўку.

– Алё, слухаю вас… Так, так, добра я перадам Язэпу Паўлавічу, не хвалюйцеся…

Зноў цішыня. Нейкі мужчына, элегантна апрануты, мо і супрацоўнік выдавецтва, зайшоў у прыёмную, спытаў пра дырэктара. Жанчына адказала, зноў паглыбілася ў свае клопаты – нешта пісала асадкай на паперы.

Грукнулі дзверы кабінета дырэктара, адразу адтуль пачалі выходзіць людзі. Перагаворваліся між сабой, прапускаючы наперад жанчын, потым і самі ставалі ўпобачкі, працягвалі распачатую гутарку. Антон падняўся з крэсла, адышоў убок, чакаў, калі ўсе супрацоўнікі выйдуць з кабінета. Іх назбіралася чалавек з пятнаццаць. Калі выйшаў апошні і прычыніў за сабою дзверы, сакратарка, гледзячы на хлопца, прамовіла:

– А цяпер смела заходзьце, не бойцеся, дырэктар чалавек спакойны і спагадлівы, выслухоўвае ўсіх, хто да яго прыходзіць.

У дзверы не стукаў, бо ведаў, што стукату яго гаспадар кабінета не пачуе – двайныя дубовыя, ці пад дуб, дзверы.

– Ці можна да вас, Язэп Паўлавіч?

Дырэктар стоячы дапіваў шклянку вады. Дапіў, паставіў на стол, сам сеў у крэсла, паглядзеў на наведвальніка.

– Праходзьце, сядайце.

Антон сеў збоку стала, дастаў з партфеля рукапіс, паклаў на стол.

– Язэп Паўлавіч, адбылося вось што…

Ён паўтарыў тое ж, што казаў і ў прыёмнай. Растлумачыўшы ўсё, падаў тэчку дырэктару.

– У мяне будзе спакойнай душа, калі я гэты рукапіс аддам вам. А вы ўжо рабіце з ім, што хочаце. Я ў вёсцы прачытаў яго. Спадабалася. Але аўтар так хутка вылузаўся з тралейбуса, што я не паспеў з ім як след пазнаёміцца. А каб не пакінуў свайго прозвішча на вокладцы, то я не ведаў бы і як яго завуць. Але я запомніў тое, што ён збіраўся рукапіс прынесці вам, і вы быццам з ім дамаўляліся, што вы і заказалі яму гэтую тэму…

Гаспадар кабінета ўзяў у рукі тэчку, паклаў перад сабою. Развязаў матузкі, разгарнуў. Прагледзеў адну старонку, другую, трэцюю… Загарнуў.

– Ну, дзякую, што прынеслі рукапіс. Але я не памятаю, каб каму заказваў ці прасіў напісаць пра падземную цывілізацыю. Я азнаёмлюся асабіста, прачытаю, а потым будзем думаць з рэдкалегіяй, што рабіць далей. Як з вамі звязацца?

– Для чаго?

– Вы нам прынеслі такую працу, а пра сябе нічога не пакінулі, каардынаты ж нейкія ёсць у вас?

– Ёсць… Я вучуся на гістарычным, а інтэрнат мой знаходзіцца на Змітрака Бядулі. Тэлефон на вахце…

Язэп Паўлавіч запісаў на аркушыку настольнага календара мой адрас і тэлефон.

– І другое пытанне, Язэп Паўлавіч. Выпадкова пазнаёміўся ў сталоўцы са студэнткай гістарычнага факультэта, на завочным вучыцца, Вераніка Беразоўская. Яна напісала ці то аповесць, ці то даследаванне «Загадка Вітаўта». Пра вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага. Як памагла яму служанка вызваліцца з палону, аддаўшы яму не толькі сваё адзенне, а і сваё жыццё. Яе пакаралі смерцю за тое. Рукапіс яшчэ трэба трохі дапрацаваць, і яна зробіць тое. Дык у мяне пытанне: ці падыдзе такая тэма для выдавецтва. Няхай не асобнай кніжкай, а разам з некім…

Дырэктар усміхнуўся, гледзячы на хлопца, адсунуў на край стала аддадзены рукапіс.

– Дзіўна – вы аддалі мне рукапіс аднаго чалавека, хадайнічаеце за другога. А самі вы што-небудзь пішаце?

– Пішу, але размова не пра мяне. Вераніка сама прыйдзе да вас, і вы з ёй самі будзеце весці гутарку. Гэта, так бы мовіць, мае даўгі. Першы – выпадковы, а Беразоўская сама прапанавала, каб я прачытаў і даў ацэнку. Я яе яшчэ не бачыў, але скажу, што «Загадка Вітаўта» мне спадабалася. Напісанае будзе цікавым для чытачоў. А вам спадабаецца ці не, я не ведаю, вашая ацэнка – не мая.

Язэп Паўлавіч пацiснуў плячыма:

– Тэма цікавая. Няхай прыносіць, але яшчэ раз папрацуе над рукапісам. А калі будзе «ў тэме», то ёй дапамогуць нашыя спрактыкаваныя рэдактары і карэктары.

– Вялікі дзякуй, Язэп Паўлавіч! У мяне на душы палегчала.

Гаспадар кабінета выйшаў з-за стала, падаў руку:

– Быў рады з вамі пазнаёміцца, Антон. А калі і вы напішаце задуманае, прыносьце, будзем разглядаць. Поспехаў! Будзьма! Да сустрэчы!

– Да сустрэчы! – адказаў я радасна, пацiснуў руку. Яна была моцная і касцістая, сціснула маю як след.

У прыёмнай шчыра падзякаваў сакратарцы, дадаў, што мне спадабалася сустрэча і сам гаспадар падаўся чалавекам дабрачым і ўважлівым.

– Вы не памыліліся, Антон! Да сустрэчы!

Быў час, і я падаўся да берага Свіслачы. Выбраў вольную лаўку і накіраваўся да яе. Яшчэ па-летняму лашчыла твар сонейка, а ад ракі патыхала прахалодай. Я прымружыў вейкі, прызадраў галаву, абапёршыся спінай да парэнчаў.

Мо з паўгадзіны я сядзеў у такой паставе, ні пра што не думаючы, ні пра што ні марачы. Рэдка калі выпадалі такі хвіліны спакою і суладнасці, калі нічога не прыгнятала, ні турбавала, і сэрца працавала спакойна і рытмічна.

Калі ж выпраміўся, калі паглядзеў папераду сябе, то ўбачыў, што па возеры ці рэчцы плавалі качкі, даставалі з дна нейкі наедак. Дзеці кідалі ім кавалкі хлеба, радаваліся, бачачы, як яны наляталі і навыперадкі хапалі пачастунак…»

## 3

«Вось і пачалася вучоба! Апошнія віражы заключнага года вучобы. Мы павінны ўжо думаць сёння, куды нас накіруюць на працу ў будучым годзе. Для каго гэта праблема, але толькі не для мяне: я паеду толькі ў сваю вёску Крушнікі, там буду выкладаць гісторыю роднага краю і су-

светную гісторыю. Нехта з хлопцаў ажаніўся, каб застацца ў Менску пры жонцы, каб займець працу ў нейкай установе, на любой пасадзе, на любой зарплаце…

Але хлопцы жаніліся не проста так, абы ажаніцца, выбіралі сабе жонак не з ніжніх слаёў грамадства, а “вярхоў”. З паралельнай групы Пецька Кісялёў пабраўся з дачкой палкоўніка КДБ, яго сябар, Зміцер Глушкоў, гледзячы на яго, паклаў вока на дачку сакратара райкама партыі Партызанскага раёна. Хлопцы відныя, так бы мовіць, без заганаў, любая пойдзе, але не любую выбіралі яны, як і іх сябры, а багатых і знатных, у якіх уплывовыя бацькі, якія і пракладуць перад імі далейшую жыццёвую дарогу. Усе ведалі, што каханнем мо там і не пахла, а яно і не адыгрывала галоўную ролю ў такіх стасунках – галоўнае зачапіцца, кінуць якар у тым месцы, дзе жыццё будзе трывалае і надзейнае.

То потым ужо, калі агледзяцца, калі насыцяцца дабротамі прыдбанага жыцця, калі перастануць неспакойна біцца хвалі ракі аб бетонныя берагі, калі адыдуць убок праблемы і неўладкаванасці, яны пачынаюць кідаць позірк і на тых, хто можа запасці ў сэрца, нарадзіць каханне і жарсць… І тады пачнуць рвацца самыя моцныя вяроўкі, якімі былі яны прывязаны да жонкі, ламацца тыя платы і агароджы, якія аддзялялі мужоў ад навакольнага свету, тады выплывала горкая праўда жыцця – жаніцьба не прыносіла жаданага дабрабыту і шчасця. Пачалі ад безвыходнасці заглядаць у чарку, начаваць у каханак, прызнаючыся ім у каханні, а дома спрэчкі і сваркі з-за рэўнасці і п’яных выхадак мужа…

Але тое будзе пазней, а цяпер мы маладыя і прыгожыя, моцныя здароўем і духоўнай сілай, верым у пабудову светлай будучыні, што абгонім і перагонім тую злашчасную Амерыку, што мы зможам перавярнуць свет і камуністычную сістэму з ног на галаву…

На калідоры нашага інтэрната (на спецыяльным месцы) можна было убачыць такія незразумелыя аб’яўкі: 1+2 (24) ці 2+1 (25). Альбо 2+2 (44) ці 3+3 (54). Не разумееце, што гэта такое? О, гэта цікавая рэч! Тут не кожны савецкі разведчык расшыфруе гэтыя сімвалы. Тлумачу для недасведчаных, толькі я вам таго не тлумачыў. Прыкладам, вы сексуальны гігант, і вас не задавальняе секс з адной дзяўчынай, вам трэба дзве. Тады гэта аб’яўка для вас. Калі вы з сябрам хочаце пабыць з адной прыгажуняй, якая, у сваю чаргу, не можа насыціцца адным каханкам, то для вас падыходзіць 2+1. Ну а далей пайшло паняцце “групавуха”. Калі з аднаго боку трое і з другога. А потым усё перамешваецца, як вінегрэт. Атрымліваюць ад такога спалучэння кайф прафесіяналы. Ну а далей няма мяжы фантазіі. То ўжо з

другой сферы, з другіх тэорый і фантазій, хто лепш і мудрагелісцей прыдумае. І гэта ўсё для таго, каб абвергнуць паняцце "ў СССР сексу няма!"

Недзе знізу чуваць воклічы перадачы "Кабачок 13 крэслаў". Выпендрываецца пані Моніка пад фанаграму…

У канцы калідора на сцяне вялікі партрэт Генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Брэжнева. Твар генеральнага разумны, спакойны, улагоджаны, як і ўся краіна ўлагоджана шчаслівым жыццём.

А калі ў пакоі адчыніць фортку, то з бліжэйшага жылога дома гучыць голас Алы Пугачовай, якая не хоча браць на сябе адказнасці стварэння свету, а сцвярджае, "што гэты сусвет прыдуманы не намі, гэты свет прыдуманы не ёй…" Альбо папракне таго-некага, які ў нейкім пакоі не дацягнуў да вышэйшай асалоды каханкі, – "а ты такі халодны, як айсберг ў акіяне…"

Вахцёрша цётка Матруна Мінаўна, падышоўшы да нейкіх дзвярэй і пачуўшы стогны і крыкі асалоды і задавальнення, накладзе на сябе крыж і ціха адыдзе, каб не замінаць кайфу маладых. Яна хацела забраць у камсамольскай актывісткі пятай групы Нэлі Ульянавай спісы тых, хто засеміцца заўтра, ды не атрымалася. Актывістка праяўляла актыўнасць на любоўным фронце, прамаўляла ці выкрыквала нейкае выступленне, задыхваючыся на доўгай дыстанцыі сексуальнага кросу… О, Нэлечка магла даць форы любой дзяўчыне з любога факультэту, яна ўсё любіла рабіць прафесійна і аддана.

Ці ўдзельнічаў я калі ў гэтых оргіях, спытаеце вы? Можна, я не буду адказваць на вашае пытанне? Як казаў мой адзін знаёмы паэт, "замнём для яснасці". А калі вам так цікава, то спытайцеся ў маіх сяброў. Яны ўсё скажуць. А мо і не скажуць, хто ведае… Заадно праверым, ці сябры яны мне.»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«А мы ж жылі згодна ідэалогіі Савецкага Саюза і партыі камуністаў. Сем дзесяцігоддзяў віселі над намі аблокі гэтага хлуслівага пастулата. На XXII з'ездзе КПСС, калі я яшчэ і вучыцца не пачаў ва ўніверсітэце, – у 1961 годзе, – на нас зваліўся маральны кодэкс будаўніка камунізму. Дванаццаць пунктаў, якія мы павінны былі выконваць кожны дзень. А я ўжо чытаў Біблію, і кодэкс напомніў дзесяць запаветаў Госпада. Людзі смяяліся з кодэкса, казалі, што лепш надрукавалі б Божыя запаветы і прымушалі выконваць. Дык не, перавярнулі ўсё з ног на галаву, як здзек утварылі з Святога Пісання, заявілі – народнасць, ідэйнасць і канкрэтнасць.

І агульныя словы – адданасць справе камунізму, добрасумленная праца ў імя грамадства, клопат кожнага аб захаванні багацця краіны, высокая свядомасць грамадскага абавязку, калектывізм і сяброўская ўзаемадапа-

мога, чалавек чалавеку – сябра, таварыш і брат, маральная чысціня асобы, непрымірымасць да несправядлівасці, кар'ерызму; дружба і братэрства ўсіх народаў СССР, нецярпімасць да ворагаў камунізму, братэрская салідарнасць з працоўнымі ўсіх краінаў і ўсіх народаў…

Ды гэта мы павінны вывучыць амаль на памяць, пры любым выпадку ўжываць тыя патрабаванні, каб паказацца стойкім барацьбітом за светлую будучыню.

Нехта, ці не Бярдзяеў, казаў, што "сацыялізм хоча авалодаць усім чалавекам, не толькі яго целам, але і душой яго. Пры гэтым выступае з патрабаваннямі, якія прапаведуе Царква". Аматар памахаць рукамі і біць абцасам па трыбуне балабол Мікіта Хрушчоў аж голас сарваў, крычучы: "Цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме! Нашыя мэты зразумелыя, задачы вызначаны, за працу, таварышы!.." Больш за тое, той жа Мікітка выказаў сцвярджэнне, што канчатковая пабудова камунізму адбудзецца ў 1980 годзе. Во як! І не раней, але і не пазней. Пад Новы год. Каб з наступнага, першага года, мы сталі ўсе шчаслівыя.

Мы пачалі жыць у 1977 годзе. Тры гадочкі ўсяго засталося да запаветнай светлай будучыні. Хутчэй бы пажыць ужо пры камунізме. Такая лафа імперыялістам і не снілася! Канстытуцыя, якую прынялі, у гэтым годзе афіцыйна замацавала ідэалогію Савецкага Саюза – "марксізьм-ленінізьм". Агульнавядома, што любая ідэалогія ў свеце да сябе на службу заклікала самыя ілюстратыўныя прагрэсіўныя складнікі цывілізацыі – культуру і навуку. Таму савецкая ідэалогія і культура былі непарыўна звязаны між сабою, бо сацрэалізм быў афіцыйным ідэалагічным рухавіком ва ўсіх культурных і сацыяльных сферах СССР.

"Народнасць, ідэйнасць, канкрэтнасць" – мастацтва павінна быць зразумелым савецкаму народу, не супрацьстаяць савецкай ідэалогіі, усяляк ухваліць і апяваць подзвігі і дасягненні простага працаўніка – калгасніка і рабочага, не даваць спуску любому ворагу, асабліва заходняму, бо ён, вораг, пагражаў сваім буржуйскім кулаком пастаянна і адусюль. І таму ў савецкім падручніку чорным па белым было напісана: "Метад сацыялістычнага рэалізму прадвызначае глыбокую сувязь твораў мастацтва з сучаснай рэчаіснасцю, актыўны ўдзел мастацтва ў сацыялістычным будаўніцтве".

Але ідэалогія савецкай дзяржавы дала збой: чым большыя яна будавала сцены і загародкі, заганяла за краты і заганяла кляпы ў рот, невядома адкуль узяліся ў нашай краіне і смелыя людзі, сумленныя пісьменнікі і мастакі, якія жылі не па маральным кодэксе будаўніка камунізму, а па запаветах Вышняга. І пры тым горача любілі сваю радзіму – як вялікую,

так і малую. А на метад сацрэалізму яны проста не звярталі ўвагі, – што мёртвае, тое нежывое…»

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«У адзін з днёў, калі выдалася “фортачка” ў некалькі гадзін, рашыў праведаць Вераніку, аддаць ёй “Загадку Вітаўта”. Але перад гэтым не абмінуў сталоўку “Сузор’е”, дзе некалі працавала дзяўчына.

Чарга невялікая, і я за колькі хвілінаў паставіў на свой паднос стандартны абед, разлічыўся, пайшоў да далёкага століка. Расставіў усё, пачаў есці. І расольнік, і шніцаль падаліся мне смачнымі, як і кампот, якім запіў абед.

І ў гэты ж самы момант падсела да мяне былая працаўніца сталоўкі спадарыня Вераніка. Я здзівіўся, гледзячы на яе.

– Не чакаў, Антон, мяне?

– Не чакаў сустрэць тут, але накіроўваўся да цябе. Рукапіс прыхапіў з сабою.

– А ты тут чаго? – спытаў у дзяўчыны.

– У госці прыходзіла, тут жа сяброўкі мае засталіся.

– Праведала?

– Так, вольная цяпер.

– Тады пайшлі на свежае паветра, пагаворым.

– Пайшлі.

Мы выйшлі на вуліцу, сонца сустрэла нас сваімі цёплымі промнямі; снавалі туд-сюд прахожыя, некалькі жанчын кацілі перад сабою каляскі з немаўлятамі.

– Куды накіруемся? – спытаўся я ў Веранікі.

– А тут сквер ёсць недалёчка, пасядзім на лаўцы.

– Добра, пайшлі.

Завярнулі за вугал Пратасевіча, прайшлі трохі, потым перайшлі шырокую вуліцу. Вераніка выбрала лаўку пад павіслымі нізка над зямлёю галінамі ліпы, пайшла ў той бок.

Сядзім, маўчым. Вераніка ці то сумная, ці так засяроджаная, яна нечым змянілася пасля таго, як бачыліся апошні час. Нават голас перамяніўся, у ім з’явіліся ноткі ўпэўненасці і спакою.

– Як прайшлі вакацыі, Антон?

– Нічога. Касіў з бацькам, перавозіў сена дадому. І спаў у адрынцы на свежым і пахкім сене. Любата! І там чытаў твой рукапіс.

– Ну і як?

Я адказаў не адразу. Можна было адказаць коратка адным словам, але не хацелася спрашчаць, зводзіць да простага адказу.

– У мяне быў і другі рукапіс “Падземныя цывілізацыі”, што забыўся адзін чалавек, які сядзеў побач са мною ў тралейбусе. Ён казаў, што збіраўся аднесці яго ў выдавецтва. Дык я сам аднёс яго туды, пазнаёміўся з дырэктарам. Ды заадно і пра твайго “Вітаўта” завёў размову. Сказаў, што ты сама прыйдзеш да іх з рукапісам.

– Я зразумела, што “Вітаўт” табе спадабаўся? – ухапілася Вераніка за нітачку, якую я пачаў размотваць.

– Спадабацца можа дзяўчына, а рукапіс… Адзін толькі ў ім недахоп.

– Які? – дзяўчына глядзела на мяне.

Я ўсміхнуўся, каб не напалохаць адразу яе сваёй заўвагай:

– Чаму ён такі сціслы, ты пакінула па-за ўвагай іншыя дэталі, якім можна было надаць вагу.

– А, гэта, – супакоілася Вераніка. – Навошта ж размахвацца адразу на раман, калі я і апавяданне не асвоіла. Баялася пашыраць яго, каб не згубіць асноўны сэнс і ідэю.

– Факт выратавання сам па сабе цікавы, і чытаецца з цікавасцю, але ж напрошваецца і другое – і Вітаўт, і Ягайла асобы супярэчлівыя і жорсткія, і не ганьбуюць нічым, каб дабіцца сваёй мэты. Над імі стаіць Кейстут, стары князь Кейстут, мудры і мяккі душой, даверлівы і справядлівы, і не яго віна, што папаўся ў мярэжы хітраспляценняў сваіх сяброў і недругаў…

Не ведаў, што далей тлумачыць ці падказваць, і не з рукі было вучыць яе нечаму, наводзіць крытыку. Яна ўпэўнена пачувалася ў гэтай тэме, і таму, мусіць, ёй не складала асаблівай цяжкасці вярнуцца да “Загадкі”, асэнсаваць яе, паглыбіць і даць ёй ідэйнае гучанне.

– Так, я згодна. Але ж гэта першая спроба, і таму не было ўпэўненасці. Дык ты раіш вярнуцца да “Вітаўта”?

– Абавязкова. Ёсць жа шмат летапісаў, дакументаў, не ў нас, дык у той жа Варшаве, у Вільні.

– Я была там, Антон.

– Была? – падзівіўся я шчыра. – А я думаю, адкуль такая дасведчанасць і глыбіня. Малайчына. Я вельмі хацеў бы, каб ты давяла гэтую працу да канца. Ты проста абавязана яе дарабіць. А потым і схадзіць у выдавецтва. Дырэктар мне падаўся чалавекам, які любіць гісторыю нашага краю, і таму добразычліва паставіцца і да тваёй працы.

Я аддаў ёй тэчку. Вераніка засунула яе ў свой партфель.

– Я падумаю, Антон. І дзякую, што знайшоў час прачытаць. І за парады дзякую.

– Ды дробязі гэта ўсё. Цябе цікавяць часы Вітаўта і Ягайлы, мяне ж – Канстанціна Астрожскага. Так што мы пішам асобныя старонкі нашай

гісторыі, збіраем у адну вялікую кнігу, і гэта ўжо наш абавязак давесці ўсё да лагічнага канца.

– Мо і так, але я не задумвалася над гэтым, – адказала ці то задумліва, ці то згаджаючыся са мной, – проста яно жыве ўва мне, а чаму, не ведаю…

– Значыць, падсвядома. Бо мы – нашчадкі літвінаў, і таму яны кіруюць нашымі шляхамі і думкамі.

Зноў між намі маўчанне. Я пакутую ад таго, што не ведаю, як прадоўжыць размову з Веранікай, але ўжо не пра Вітаўта, а пра тое, які лёс нас звёў на адной сцежцы. У яе паводзінах не было гульні ці якога-небудзь намагання ступіць на маю сцежку жыцця, наблізіцца да мяне, дакрануцца да патаемных бакоў, завалодаць нейкімі маімі пачуццямі, скіраваць сваю ўвагу на яе… Я ж не стараўся гэтага рабіць, а яна не спрабавала зрушыць з мёртвай кропкі нашыя адносіны. Са мной размаўляла не жанчына ці дзяўчына, а будучы вучоны, якога нічога не хвалюе і не турбуе ў жыцці акрамя той сферы, у якую яна ступіла. І было ёй, мусіць, не васямнаццаць-дваццаць год, а значна больш, нашмат старэй за мяне, больш мудрэйшай і паглыбленай у сябе.

Калі б я асмеліўся ды нечакана пацалаваў яе хаця б у шчаку, яна, мусіць бы, абурылася, здзіўлена акруглiла б свае вочы колеру пераспелых сліў, ды яшчэ нагаварыла б процьму абразлівых словаў. Яна была халодная і непадступная, строгая і мэтанакіраваная ў сваіх памкненнях. Вераніка ведала, так бы мовіць, сабе цану і ведала, у якім кірунку ёй трэба крочыць. І ніхто не здолеў бы скіраваць у іншы бок яе шлях.

Маўчанне нашае зацягнулася. Я не знаходзіў слоў, каб парушыць яго, прадоўжыць наш дыялог, а яна, мусіць, не заўважала гэтага і думала пра сваё, радуючыся, што не перабіваю яе думкі.

Яна маўкліва падсунулася бліжэй да мяне, паглядзела ў мае здзіўленыя вочы. Усміхнулася, нахілілася да мяне і пацалавала ў шчаку. Зноў жа – не як каханка, не як дзяўчына, якая жадала прадоўжыць нашае яднанне, а як чалавек, які падзякаваў мне за добрыя адносіны да яе. І нічога больш. Адвярнулася, глядзела папераду сябе, прамовіла ціха:

– Дзякуй, што паверыў у мяне. Гэта для мяне было вельмі важна.

Я ж не здзівіўся яе нечаканаму парыву ці жаданню, не ўзрадаваўся, не засмуціўся. Ведаў, што гэта цнатлівы і ўдзячны пацалунак. І не больш за тое. У душы не нараджалася тое трымценне, калі адчуваеш побач каханага чалавека, якога дамагаешся, з якім хочацца сустрэцца зноў і зноў. Ад дзяўчыны сыходзіў і не холад, але і не цеплыня, простая фізіялагічная тэмпература цела ў «трыццаць шэсць і дзевяць». Жаданні ў ёй ці то драмалі, ці яна прыглушыла іх на нейкі перыяд, ашчаджаючы свой час,

баючыся патраціць яго на непатрэбшчыну. Ва ўсялякім разе мне здавалася, што я так разумеў яе душэўны стан.

– Вераніка, мы яшчэ ўбачымся? – асцярожна спытаў, гледзячы на яе.

– Можа і ўбачымся. Як Бог дасць. Усё ў руках Ягоных.

Голас у яе спакойны, ціхі, які і бывае ў тых, хто ўпэўнены ў сабе, ведае, куды ідзе, што будзе рабіць праз гадзіну, пяць, а то і заўтра-паслязаўтра… На твары ні іскрынкі ўсмешкі, ні жартаўлівых слоў, суцэльная сур’ёзнасць і перакананасць.

– Добра, – пацвердзіў я, – як Бог дасць. Што наканавана, тое і будзе, што запраграмавана, тое і здарыцца. А што жадаецца, тое можа і абысці бокам альбо праляцець над галавой.

Яна не каментавала мае словы, нават не здзівілася таму, што я прамовіў, быццам казаў і не да яе, не для яе, а да некага іншага. Зноў жа, тое мяне не кранула, не пакрыўдзіла, наадварот, мне спадабалася, у якім кірунку пайшла нашая размова. Гэта ж не ў аўтобусе разам з Настай ехаць, чуць яе жарцікі і падколкі, не ведаючы, як і адказаць на іх. Тут усё зразумела і без ніякіх намёкаў.

– Тады – пойдзем?

– Пайшлі.

– Якім транспартам паедзеш?

– Дваццатым тралейбусам.

Мы падышлі да прыпынку, сталі чакаць.

– Ты нейкі сумны, Антон, – упершыню ўсміхнулася дзяўчына. – Хто ж таму прычынай?

“Жарцікі Насты?”

– Табе здаецца, Вераніка. Звычайны настрой, так бы мовіць, дзелавы і працоўны. Мусіць, яшчэ не ўвайшоў у сталічны рытм жыцця пасля вясковай цішыні і паветра.

Падышоў тралейбус. Паглядзеўшы развітальна на мяне, прамовіла:

– Будзьма!

– Будзьма!

Не “да сустрэчы” ці “пабачымся”, а проста сярэдняе “будзьма”, якое ні да чаго не абавязвае і нічога не абяцае. Яна нырнула ў ланцуг людзей, якія пачалі тоўпіцца перад расчыненымі дзвярыма, і растварылася ў грамадзе, не пакінуўшы мне ніякай надзеі і спадзяванняў.

Я ж паехаў у адваротны бок».

**4**

Як жа я без цябе, бабулечка Аўдоля?

З таго часу, як зразумеў, што ты самы блізкі для мяне чалавек, акрамя бацькоў маіх, то і прыкіпеў да цябе душой. Амаль штодня бегаў да цябе, каб пагрэцца тваім цяпельцам, цяпельцам тваёй душы.

Маці жартавала, радуючыся, што я так люблю сваю бабулечку:

– То мо ты, сынок, і зусім да бабулі перабярэшся жыць? І дня пражыць без яе не можаш.

– Не магу, мама, не магу! – шчасліва ўсклікваю я, і на душы радасць, і на душы весялосць. – Як і без дзеда Міхася.

Я не хлусіў. Так яно было і насамрэч.

У бабулі светлыя вочы, ад якіх разбягаюцца промні-зморшчынкі, глядзіць, як заглядвае ў душу, як найвялікшы лекар, які валодае цудоўным дарам – словам сваім не толькі вылечваць ад любой хваробы, а і папярэджваць ад яе, прадухіліць…

Яна ласкава ўсміхаецца, маўчыць, глядзіць на мяне, нешта шукае ўва мне і на мне, пра некага думае, параўноўвае, мусіць, мяне з некім тым, пра якога я не ведаў і не чуў. Бабуля мяне вылучае з ланцуга пакаленняў, адводзіць мне нейкае месца ў нашым родзе, мо і вызначае, кім буду заўтра і паслязаўтра, якое месца мне адведзена ў жыцці, ці апраўдаю я надзеі і яе, і бацькоў маіх…

Я толькі не разумеў аднаго: хата бабулі Аўдолі і дзеда Міхася знаходзілася ў адным канцы вёскі, а кузня, у якой працаваў каваль амаль штодня, знаходзілася на другім канцы. Каб дайсці да яе, то кавалю трэба было патраціць паўгадзіны, калі не болей. Але, як я памятаю, дзядуля на тое ніколі не наракаў, наадварот, казаў, што тая дарога, якой ён крочыў да кузні, яму падабаецца: за той час яму ўдаецца «думы перадумаць», як ён казаў, бо калі ён браўся за кавальскі молат, не да думак яму было. Я разумеў і не разумеў яго.

Дзедавай хаце за сто гадоў, а мо і болей. Ліхалеццці розныя перажыла – і першую імперыялістычную, і пераварот бальшавіцкі, і грамадзянскую вайну, і апошнюю, якую Гітлер са Сталіным развязаў…

Ды што дзіўна: абышлі яе віхуры і пажары. Як зачараваная была. У вайну ў хаце немцы жылі, афіцэры. Дык тыя афіцэры нейкія дзіўныя былі. Не злыя, не жорсткія. З бабуляй ветліва размаўлялі, а то цукерак прынясуць ці шакаладзінкі ў бліскучай абгортцы, то з тэрмаса, які ім прывозілі штодня з Асаўца, дзе была кухня, бульбу гарачую з мясам.

З цягам часу хаціна ад старасці пачала апускацца ў зямлю. У свой час дзед прыпадняў хату мо на паўметра, паставіўшы яе на новы фундамент, і яна «вырасла», засвяцілася вокнамі, наноў нарадзілася. Але я таго часу не памятаю, бо тады яшчэ не нарадзіўся, як і маці мая.

Хата стаяла воддалеч ад дарогі, за вішняй, якая кожным годам, увесну, апранала беласнежны вэлюм, бы нявеста, прыцягвала да сябе пчол, і яны гулі зладжаным аркестрам з раніцы да вечара.

У двары, абапал дарожкі, што вяла да дзвярэй сенцаў, цвілі астры і вяргіні, браткі і «коцікі», рамонкі і флёксы… Аўдоля любіла кветкі, і любіла даглядаць іх, лічыла, што гэта жывыя душы, якія сышлі з неба, і таму да іх трэба і адносіцца, як да жывых людзей.

Другую бабулю Антон таксама любіў, але не так. Сам не ведаў, чаму. Не мог тое растлумачыць, хаця ніхто ў яго не дапытваўся пра тое.

Бабуля Варвара жыла не ў Крушніках, а ў далёкай вёсцы – Балажэвічах, што знаходзілася каля Прыпяці. Жыла бабуля адна, аўдавела, калі па паляшуцкіх вёсках гуляў трыццаць сёмы год. Схапілі тады шмат людзей, шмат з якіх вёсак. Нкусаўцы арыштоўвалі іх, вывозілі ў невядомым кірунку, і потым іх след знікаў, растапраўся ў часе.

Адзін чалавек, значна пазней, пасля вайны ўжо, завітаў да Варвары. Свайго прозвішча не называў і не гаварыў, хто ён і адкуль, хаця Варвара прызнала ў ім свайго далёкага нейкага родзіча. Папіўшы з конаўкі вады, сеў за стол. Маўчаў доўга. А потым, не гледзячы на яе, а ў вакно, прамовіў:

– Сказаць вам хачу вось пра што… Вашага Кірылу расстралялі там, у сутарэнні мазырскага храма. І бацьку майго, Казіміра, расстралялі там… Кірылу абвінавацілі ў тым, што ён польскі шпіён, бацьку майго ў тым, што ён кепска казаў пра савецкую ўласць… Калі будзеце ў Мазыры, абавязкова зайдзіце ў храм і памаліцеся за іх, і за ўсіх тых, каго пазбавілі жыцця ў тым сутарэнні.

Незнаёмец не адрываўся ад акна, баяўся сустрэцца з ёю позіркам.

– Скуль ты, чалавеча? І хто ты? Тутэйшы ці не?

Госць маўчаў. Нахмурыўся. Як скамянеў. Сядзеў як прывід, з'явіўшыся невядома з якога часу, і можна было падумаць, што і ён знаходзіўся сярод тых, у каго стралялі, і што гэта ён, не могучы па нейкай прычыне адправіцца ў той, патойбаковы, свет, бадзяецца па зямлі і не можа ніяк супакоіцца.

– Крыві там было столькі, што даходзіла да краёў галянішчаў хромавікаў, і яны слізгалі, падалі, самі рабіліся падобнымі да расстраляных… А потым мыліся доўга пад струменямі гарачай вады, пасля гэтага выпіва-

лі па некалькі шклянак гарэлкі і абціралі сябе адэкалонамі і духамі. Для гэтага ў кожным кабінеце было гэтага дабра па некалькі вядзер…

Голас металічны, словы як цагліны, бухалі і кláліся ў суцэльны рад нейкага падмурка, які мог быць апірышчам невядома для якога будынка ці помніка.

Госць не належаў ні да ваенных, ні да грамадзянскіх, і невядома, дзе ён мог служыць ці працаваць.

Не глядзела на яго і Варвара. Нахіліўшыся, глядзела сабе пад ногі. Вестка госця яе не ўзрушыла і не абрадавала. Боль прытупіўся даўно, не аціх, але час ад часу напамін пра Кірылу стукаўся ў сэрца, смылеў болем, а потым прападаў… Калі ж перапынак задоўжваўся, ён прыходзіў у сны.

Яна не чула, як незнаёмец падняўся з лаўкі, як нячутна дайшоў да дзвярэй і ўзяўся за клямку, выйшаў у сенцы. Перад тым, як пераступіць парог, ён усё ж зірнуў на жанчыну. Не сустрэўшыся з яе позіркам, прычыніў дзверы.

Калі ж яна схамянулася, калі ж хацела пра нешта спытаць у госця, яго не стала, растварыўся, знік, як і не сядзеў перад ёю хвіліну назад.

Пра тую сустрэчу з незнаёмцам расказала яму аднойчы бабуля, калі начаваў у яе.

Дзявочае прозвішча бабулі Аўдолі – Гаршэня. Бацька яе, Кандрат, усё жыццё ганчаром быў, вырабляў макотры ды гладышы, глечыкі ды гаршчыкі… І пасяліўся ён некалі трохі ўдалечыні ад вёскі, бо зусім побач з селішчам гліняны кар’ер знаходзіўся. А гліна была найвышэйшага гатунку ці якасці – чырвоная, аднародная, тлустая.

І пяцёра дзяцей, што нарадзіліся адно за адным, памагалі бацьку. Нагрузіўшы воз з коптурам, пераклаўшы кожны глечык ці гладыш саломаю, вазіў гаспадар свае цуды-вырабы на мазырскі ярмарак. Не грэбаваў ён і скрыгалаўскім кірмашом, але да яго дарога была трошкі даўжэйшай.

А потым аднойчы Аўдоля, серадольшая сярод сваіх братоў і сясцёр, папрасіла бацьку:

– Татачка, а можна я сама выраблю што-небудзь?

Ганчар не здзівіўся, толькі абрадаваўся, адказаў:

– Ну, рабі, пакажы, чаму ты каля мяне навучылася…

Аўдолька і паказала, што прыдумала. Глечык адмысловы адштукавала, да лебедзя падобны з выгнутай шыяй і дзюбай. Доўга і не сядзела, на вачах у бацькі і вылепіла. Ён бровы ўгору ўзняў ад здзіўлення:

– Ого, Аўдолька! Я так не зраблю. Малайчына!

І адразу «лебедзя» ў печ гарачую пасадзіў, каб абпаліць яго, загартаваць, прыдаць належны выгляд.

Праз гадзіны тры дастаў адтуль, яшчэ гарачага, паставіў на дошку, каб астываў. А «лебедзь» выглядаў чырвона-агністым, нават дзюба ў яго засталася чырвонай. Радаваўся бацька, але найбольш радавалася Аўдолька, якая ўпершыню самастойна дакранулася да тайны бацькавай прафесіі…

І на рынку бацька заказаў вялізную цану «Лебедзю». Людзі падыходзілі да яго, здзіўлена паглядалі на дзівосную птушку, а пачуўшы, колькі каштуе тое цуда, адыходзілі. Не па кішэні ім было, не па кішэні. Але Кандрат Гаршэня ў кулак пасмейваўся, ведаў, што на ўсё Палессе мазырскае не знойдзецца такой другой выштуканкі, думаў пра сябе: «Нічога, нічога, значыць, не тыя купцы падыходзілі, сапраўдныя яшчэ не падышлі…»

А той, сапраўдны, падышоў пад вечар, калі ўсе паціху пачыналі ўкладвацца, каб адправіцца ў адваротны шлях. А «лебедзя» Гаршэня не спяшаўся пакаваць, у апошнюю чаргу рашыў яго абгарнуць саломай, ды мяшкамі абгарнуць, – лічыў ён першую спробу Аўдолькі самай дарагой, самай адметнай.

– Што за рэч такая? – падступіўся нечакана ззаду незнаёмец. – Птушка не птушка, казка не казка, не зразумець…

Чалавек, што падышоў, быў юнаком. Вясёлы, шапку на патыліцуапусціў, зух ды і толькі. Усміхаўся, не зводзіў вачэй з дзівоснай і казачнай птушкі.

– Не ведаю, хлопча, бо гэта не я яе вылепіў.

– Як не ты? А хто ж? – паглядзеў на Гаршэню юнак.

– Ды то мая дачушка Аўдолька, – паказаў на дзяўчынку, што стаяла побач з возам. На ёй сукенка з вышытымі ўзорамі-арнаментамі, пояском падпяразаная, а каса звісала да пояса. – Вось у яе і пытайся, што яна сатварыла…

Тады ён позірк свой скіраваў на дзяўчыну. Сустрэўся позіркам. У вачах нешта ўбачыў, адно яму і бачнае. Забыўся ўжо, чаго і падышоў да воза, што хацеў.

– Хоць і скажу, хлопча, табе, як называецца, да не па кішэні табе купіць гэта. Тата мой цану ведае, ні паўкапейкі табе не спусціць. Ты ведаеш, які ён у нас скнарны? Зімой лёду ў яго не дапросішся.

І зноў Гаршэня здзівіўся з дачкі: яна ўжо не выглядала дзіцёнкам, а дзяўчынай, жартавала, пацвельвалася з хлопца, ведаючы, што ён не купіць яе глечык-барыльца.

– І я ж такі скнара, як і твой бацька, у мяне летам вады не выпрасіш, – настроіўшыся на яе мелодыю, падтрымаў размову хлопец, але стараўся гаварыць сур’ёзна, – дык што ж ты, Аўдолька, хочаш за сваю цацачку?

– Якую цацачку?! – абурылася дачка Гаршэні, – за цацкамі ў краму ідзі, а ў нас тут зусім іншае… Гэта – «Цар-лебедзь» называецца. З яго мож-

на і віно піць, і квас, і будучыню, і мінулае, і ўсё будзе ў асалоду. Крылы якія ў яго, паглянь, адно што ўзляцець не можа. А мо некалі і ўзляціць.

Юнак зарагатаў, адступіў крок назад, пакланіўся ёй.

– Даруй, даруй, гаспадыня «Царыцы-лебядзіцы», не хацеў пакрыўдзіць. Купіць хачу тваю прыгажосць. Называй цану.

Аўдоля паглядзела на бацьку, але цану назвала ўтрая большую, чым даваў перад гэтым бацька.

– Назаву, назаву… Прадавалі мы яе за восемсот рублёў, а табе напалову зменшым – забірай за чатырыста. Не больш і не менш.

Хлапчына неяк зніякавела крутануў галавой, паглядзеў на Гаршэню, зноў на гаршэчніцу позірк перавёў.

– Ну, што збаяўся? – заўсміхалася Аўдолька, хацела ўжо сказаць тую, бацькаву, цану.

– А я, Аўдолька, думаў, што ты ў разоў пяць больш мне кошт выставіш. А ты так танна прадаеш свае вырабы. Калі б і дзевяцьсот сказала, усё роўна купіў бы. Запакуй мне дзівосную птушку, каб я яе дадому занёс.

А яна не сыходзіла з месца, уражаная пачутым, думала, што госць здзекуецца з яе, прыдурваецца, згаджаецца, а нізавошта не купіць «Лебедзя».

Не паверыў яму і Гаршэня. Стаяў, не ведаў, што рабіць. Чакаў развязкі.

Хлопец выцягнуў з унутранай кішэні гаманец, разгарнуў яго, дастаў некалькі банкнотаў. Пачаў падаваць Аўдолі па адной, адначасова і лічачы:

– Сто, дзвесце, трыста, а вось пяцьдзясят, дваццаць, дваццаць і дзесяць. Здаецца, так?

У далонь дзяўчыне клаліся грошы, а яна ўсё не верыла, што так яно ўсё адбываецца насамрэч. Яе жарт абярнуўся для яе нечаканым, але такім добрым бокам.

Грошы аддала бацьку. Той спаважна паклаў іх у кішэню, зашпіліў яе на гузік. Вось тады толькі, апамятаўшыся, узялася гаршэчніца за пакаванне свайго «Лебедзя». Ужо злавіла сябе на думцы, што ёй стала і шкада развітвацца.

– А скуль ты будзеш, добры чалавек, і як завуць цябе? Мо калі завітаю да цябе, і яшчэ чаго-небудзь куплю.

– Ды з Буды мы, Гліннай Буды, ведаеш такую вёску?

– Ведаю. Некалі быў у вашай Будзе. Прыгожая мясціна. Там дуб у вас пасярод вёскі стаіць, высокі і стары.

– Так, так. А завуць мяне Кандрат, Кандрат Гаршэня. Ну а дачку як зваць, ты ведаеш.

– Ведаю – Аўдоля. А я – Міхась. Кавалі мы з бацькам. Калі што выкаваць трэба, зробім.

Хлопец паклаў запакаванае ў свой рэчавы мяшок, прымацаваў за спіну. Паглядзеў, развітваючыся, на Аўдолю і яе бацьку, радасна прамовіў:

– Да сустрэчы. Думаю, што ўбачымся. Абавязкова ўбачымся.

Калі дзіўнаваты хлопец адышоў ад іх і пакіраваў сваёй дарогай, Кандрат абняў дачку, прытуліў да сябе:

– Дык ты, Аўдолька, не толькі выдатная гаршэчніца, а і цудоўная гандлярка! З табой толькі і ездзіць на ярмарак. Мае гаршкі не прадаліся, а твой «Лебедзь» варты ўсіх гаршкоў, што я прывёз. Вырабіш яшчэ лебедзяў, дачка?

Яна, шчаслівая, усміхалася, адказала:

– Колькі заўгодна! І не толькі лебедзяў, а і іншых дзівосных птушак, хоць і самога фенікса.

Гаршэня адчуў і зразумеў, што сённяшні дзень прынёс яму нешта новае і значнае, ён падараваў яму адчуванне існасці і значымасці, верыў, што цяпер яно ўсё павярнулася да яго лепшым і ўдалым бокам, што новае нараджэнне гліняных дзівосаў належыць ёй, Аўдолі. Яна валодала нейкім чароўным дарам творцы, дырыжорам мелодый, якія нараджаліся ў нябёсах і далятала да зямлі.

…У Буду яны вярнуліся позна вечарам.

**5**

– Во, і летапісец наш з’явіўся! – усклікнуў Толік Кутаў, рукі выкінуў угору, быццам здаваўся ў палон абставінам. – Чарніла прынёс?

Антон паклаў на ложак пустую чорную тэчку, адказаў:

– Я даўно не пішу чарнілам, а шарыкавай асадкай.

– Ды нам усё роўна, чым ты пішаш, а фугас ты павінен быў прынесці, бо ў нас гаручае скончылася.

– Чаго ж вы адразу ўсё выжлукцілі? Не маглі расцягнуць на колькі месяцаў?

– Не маглі, Антон, не маглі. Калі каляснікі гараць, то трэба тушыць пажар, каб самому не згарэць.

Не, хлопцы не былі падобныя да алкаголікаў, у запой яны не ўваходзілі, але калі дабіраліся да слоікаў з самагонкай, то пілі да тае пары, пакуль не паказвалася дно. Калі не было грошай, каб купіць чарніла, хлопцы збіралі капейкі і адпраўляліся ў піўніцы, дзе мінчукі розных узростаў і прафесій апахмяляліся кожную раніцу пасля ўчарашніх п’янак.

Там хлопцы пазнаёміліся з кандыдатамі навук, прафесарамі і слесарамі, пісьменнікамі і паэтамі, у якіх калаціліся рукі і нядобра гарэлі вочы. Быў

аднойчы разам з імі і Антон, убачыў тое відовішча, убачыў і жахнуўся. Паміж імі вяліся такія інтэлектуальныя размовы, што дзіву даешся. Калі паміж сабою вядуць размову выпівохі і абмяркоўваюць побытавыя праблемы, хто з кім пабіўся, дзе знайсці грошы для чарніла, то ў гэтых высокаадукаваных людзей пра квантавую механіку, пра гісторыю паэзіі Францыі, пра мастакоў-мадэрністаў, пра вялікіх князёў Літоўскага княства… Стаяў бы і стаяў бы каля іх, слухаючы размовы. Там усё было перамешана – філалогія і гісторыя, мастацтва і паэзія, вышэйшая матэматыка і фізіка.

– Антон Кулон, фізік, – стаў побач з ім яго аднагодак, злёгку асалавелы, з лагоднай усмешкай, – а ты хто, ніколі цябе тут не бачыў, навічок?

– І я Антон, толькі Клімовіч, будучы гісторык. І тут мы ўсе сябры, усе імкнёмся да аднаго – збіць пасля ўчарашняй п’янкі боль і гудзенне ў галаве. І ў цябе баліць?

Антон заўсміхаўся, паглядзеў на субяседніка:

– Не, у мяне не баліць. У сяброў баліць. З імі і завітаў, у адным пакоі жывём. У студэнцкім інтэрнаце.

– Вось і пазнаёміліся, Антон, – падаў Кулон руку, паціснуў Антонаву. – А ты не здзіўляйся гэтаму асяродку. Тут табе і народны ўніверсітэт, і акадэмія, і духоўная семінарыя. Праўда, тут няма ніводнага святара, іх абыходзіць «зялёны змій», умеюць вымаліць у Госпада непрыманне гэтай поскудзі. А мы… Мы, дружа, апускаемся і апускаемся на горкаўскае дно, і не можам спыніцца, як і не можам выпрасіць у Бога дапамогі, каб адвёў ад нас гэтую бяду. Ды і, калі шчыра, то і не хочам, не жадаем, нам і так цудоўна, бо прыходзім сюды ў антыхрам, дзе таксама прападаюць і знікаюць усяленскія праблемы і клопаты, на душы нашыя спускаецца лагода і асалода, спакойнасць і задаволенасць. Ты скуль родам, Антон?

– З Мазыршчыны, мае Крушнікі ад Мазыра ў сарака кіламетрах.

– О, зямляк! А я з Рэчыцы. Трымай краба, Антон, – зноў падаў руку Кулон. – З землякамі і пітво смачней. Табе заказаць яшчэ куфаль?

– Не, дзякую, я і так другі ўжо п’ю.

– Ну, глядзі, калі што, дык я частую.

За спінай нехта пачаў чытаць вершы. Пафасна, ускідваючы рукі, памагаючы сам сабе дэкламаваць.

– Гэта Мікола Федзюковіч, паэт. Чуў пра такога?

– Чуў, чытаў, мне падабаецца, як ён піша.

– А за столікамі сядзяць Яўген Крупенька, Лёнік Шугалей, Сяргей Аладзьеў, Кім Хадзееў – дысідэнт і легенда Менску. Потым, калі яшчэ калі зазірнеш сюды, я цябе пазнаёмлю з імі. Цікавыя хлопцы, таленавітыя, і півакі адмысловыя… Мы мацуем дванаццаты пункт маральнага кодэкса

будаўніка камунізму – братэрская салідарнасць паміж людзьмі і народамі. Вось і ты падключайся да гэтага.

Кулон ужо жартаваў, адпіваючы патроху ад свайго куфля. Усе смяяліся з таго кодэкса, выдумвалі розныя анекдоты, жарты. Атмасфера «цёплай кампаніі», Антону спадабалася. Адно хіба насцярожвала яго – празмернае ўжыванне алкаголю і залішняя разняволенасць, якая межавала з безадказнасцю. Але пра тое Антон не сказаў свайму новаму сябру, не захацеў псаваць той атмасферы, якая нарадзілася за кароткі час наведвання…

– Ды што вы ўсё пра Пушкіна – геній, геній! – хлопец з чорнай барадой паглядзеў на сваіх сяброў. – Таленавіты афрыканец, настыра страшэнны, так, узнёс на вышыні і расейскую паэзію, і расейскае слова, саму расейскую мову. Ён яшчэ быў і контрразведчык, на цара працаваў. Прыдумалі з царом нейкую дуэль на Чорнай рэчцы, быццам бы Дантэс у яго страляў, і быццам бы памёр ад страты крыві. Як хавалі, ніхто яго не бачыў, бо труну закрылі. Быццам бы пахавалі ў Міхайлаўскім, але, калі хацелі зрабіць эксгумацыю, то касцей яго не знайшлі. Нашчадкі паэта хацелі даказаць, што яны праўнукі паэта…

– І дзе ж ён падзеўся, калі так?

– Вынырнуў у Францыі. Стаў Аляксандрам, але ўжо Дзюмой.

– Ну і што ты хочаш гэтым сказаць? – адпіўшы піва, спытаў Мікола Федзюковіч. – Чым ён, скажы, табе не падабаецца?

«Барада» ўсміхнуўся, узяў за вушка куфаль, але не піў, нават не адрываў ад стала.

– Але ж Пушкін паказаў сябе як махровы манархіст, і заўзяты прыхільнік і апалагет крывавага расейскага каланіялізму, пры тым люта ненавідзеў нацыянальна-вызваленчыя рухі і антыфеадальныя рэвалюцыі, закалоты. Ды не толькі на межах Расеі, а і ў ва ўсім свеце! Як ён аднёсся да пугачоўскага паўстання, памятаеце? А да так званага «польскага закалоту»? А да Вялікай французскай рэвалюцыі?

Зразумеўшы сур’ёзнасць моманту, пітакі не перабівалі яго. Антон сам здзівіўся, як барадач смела накідваўся на расейскага паэта. Зрынуць з п’едэстала хоча? Першы раз чуў такія размовы, цікава, што ён яшчэ скажа…

– Якое жалаванне атрымліваў паэт і ад каго? Так, ад цара, таму і адрабляў сумленна «царову міласціну». А ён жа меў самы маленькі чын «двара яго імператарскай вялікасці камер-юнкер, тытулярны саветнік». Камер-юнкер! Смех сказаць. І не прабіўся вышэй, хаця дужа стараўся даказаць, што цар і добры, і разумны, і душэўны. Дзяржавін дык да міністра высунуўся, а быў жаўнерам. А Жукоўскі? Напалову турак, невядома ад каго

нарадзіўся, знайшлі каля ганку — падкінуў нехта, а стаў выхавальнікам і сябрам цэсарэвіча.

Адпіў усё ж ад кварты, цокнуў языком, выцер тлустыя губы, агледзеў прысутных.

– Дык і пісаў таленавіта… Казкі якія!

– Так, таленавіта, ніхто не адмаўляе. Казкі, кажаш. А вазьмі адну з іх, напрыклад, пра мёртвую царэўну і пра сем волатаў. Чым займаліся «богатыри», у якіх пасялілася царэўна? Напомню:

Возвращалися толпой с молодецкого разбоя…
Братья дружною толпою выезжают погулять,
Серых уток пострелять…

Паляўнічыя яны, значыць, усё па законе, праўда? Ну хай страляюць, але далей…

Руку правую потешить,
Сорочина в поле спешить,
Иль башку с широких плеч
У татарина отсечь…
Или вытравить из леса
Пятигорского черкеса…

Не вытрымлівае Руфік Аліеў, татарын, таленавіты архітэктар:

– Дык яны, бандыты, забойцы!?

– Так, Руфік, па Пушкіну яны дадатныя героі, малайцы, «честны молодцы».

Руфік устаў над сталом, агледзеў усіх:

– Сябры, каму аддаць бясплатна «честного молодца» Пушкіна? Калі ён мне хоча адсекчы галаву, а чаркеса выманіць з лесу, навошта мне такі паэт.

Ніхто не адгукнуўся на яго прапанову, і Аліеў сеў на сваю калодку, пакрыўдзіўся.

Прамоўца працягваў:

– Але да апошніх дзён сваіх ён заставаўся адданым цару і самому царызму, тым самым найрэакцыйнейшым сілам, якія ў той час існавалі. Хіба не так, хлопцы?

– Ну, так, Пятро… Сябраваў з Міцкевічам.

– Што?! – абурыўся ўжо Пятро, як не ўскочыўшы з лаўкі. – Сябраваў?! Люта ненавідзеў! Пушкін пісаў пасквілі і паклёпы на палякаў, якіх тады без жалю рэзаў і калоў расейскі штых, пісаў панегірыкі таму разбою, на-

ват цара падахвочваў на гэта. Прачытаць, як ён адгукаўся аб геніяльным паэце Міцкевічу.

– Прачытай, дружа, цікава.

…чистый огонь небес
(Меняя как торгаш) и песни лиры
(В собачий лай безумно) обращая.
Печально слышим издали его
И молим Бога, да прольёт он кротость
В его озлобленную душу…

У Бога моліць, каб Міцкевіч укленчыў перад крывавым сусветным катам, у якога рукі па локці ў народнай крыві. «Свободолюбец» Пушкін абазваў вялікага Міцкевіча «врагом», который ядом стихи свои, в угоду черни буйной наполняет», «издали до нас доходит голос злобного поэта…» А ты «сябраваў». Харошае сяброўства, скажу табе.

Хлопцы маўчаць, нават піва піць перасталі. Уперыліся ў сталы, быццам там шукаюць адказы на свае маўклівыя пытанні. І да іх дайшла чарга абурацца пасля Аліева «свабодалюбцам»-афрыканцам…

– О, як Пушкін ненавідзеў нас і палякаў, абзываючы іх «кічлівыя ляхі», абяцаў, што «славянские ручьи сольются в русском море», Расея можа ўсіх паставіць на калені і, звяртаючыся да Еўропы, махаючы кулаком, пагражае:

Вы грозны на словах – попробуйте на деле!
Иль старый богатырь, покойный на постеле
Не в силах завинтить свой измаильский штык?
Иль русского царя уже бессильно слово?
Иль нам с Европой спорить ново?
Иль русский от побед отвык?
Иль мало нас?..
Так высылайте ж к нам, витии,
Своих озлобленных сынов:
Есть место им в полях Росии,
среди нечуждых им гробов…

– Гэта ўжо цынізм, – уздыхнуў архітэктар Жэня Багалюбаў, – ніколі не задумваўся над такімі пытаннямі. Мы ж ведалі яго як дэмакратычнага паэта, свабодалюбівага, а аказваецца, што ён самы звычайны рэакцыйны шавініст. Тады я зразумеў, «адкуль растуць ногі» цынізму ў яго «Барадзінскай гадавіне»:

Ступайте ж к нам: вас Русь зовет!
Но знайте, прошеные гости!
Уж Польша вас не подведёт:
Через её шагнете кости!..

– Жах! – нехта ўсклікнуў у дальнім кутку.

– Народы змагаюцца за вызваленне царызму, Сувораў топіць у крыві беларусаў, а яму за тое аддаюць Кобрын, спее паўстанне Валовіча і потым Каліноўскага, якога падтрымліваюць Герцэн і Чарнышэўскі, а Пушкін рыгае ванітамі накшталт:

…ваш бурный шум и хриплый крик
Смутил ли русского владыку?..

Спрэчка ці дыспут набіраў сілу, вельмі хацелася даслухаць да канца, але хлопцы паклікалі Антона, яны ўжо стаялі каля выхада. Дапіўшы да канца бурштынавы напой «жыгулёўскага», адставіў убок:

– На жаль, мне пара, хлопцы клічуць.

– Давай, цёзка і зямляк, убачымся.

Паціснулі адзін аднаму рукі, змацавалі сяброўства паляпваннем па плячы.

– Будзьма!

Таму цяпер, пачуўшы ўмольны покліч аб дапамозе, Антон зразумеў, што тварылася на душы ў Толіка. Але трымаў да апошняга, як чакаў нечага, каб яго жэст выглядаў выбухам няхай не бомбы, а хаця б гранаты.

– Каб хаця грамчык хто падаў на апахмелку, я б таго расцалаваў бы і на руках насіў! – узмаліўся Толік. – Божа, пашлі мне такога чалавека!

«Значыць, хлопцы дайшлі ўжо да ручкі, – падумаў Антон, пачуўшы ўмольны голас сябра. – Прыйдзецца ратаваць, бо тут прамаруджванне можа абярнуцца непажаданым бокам, – падумаў як сапраўдны алкаголік пра сваіх сяброў, якім неабходна тут жа хуткая дапамога.

Антон моўчкі дастаў з-пад ложка свой чамадан. Асцярожна, каб не шчоўкнуць металічнымі замочкамі, адкрыў яго. Дастаў, загорнутую ў газету «Камуніст Палесся», пляшку карчоўкі, паклаў яе на стол. Таго не бачыў Толік, ён ашчаперыў рукамі галаву і глядзеў некуды ў падлогу. Думаў вялікую думу, і таму ў гэты момант быў глухі і няшчасны.

Нейкі момант марудзіў, не ведаючы, як абвясціць нечаканую вестку, лёг на ложак.

– Талян!

Сябра маўчаў, не падымаючы галавы.

– Талян, ты чуеш мяне? – ужо грамчэй прамовіў Антон.

Толік глыбака ўздыхнуў, адказаў:

– Чую, а што?

– Бог пачуў тваю малітву, паслаў табе такога чалавека.

А той і забыўся, пра што прасіў колькі хвілінаў назад.

– Ты пра што, табе абы паздзекавацца з сябра.

– Толік, толькі што заходзіў у наш пакой нейкі чалавек, паклаў на стол для цябе падаруначак.

Хлопец не рэагаваў, у хлопца маркотныя думкі віталі ў галаве, і ён не прыдаў значэнне абвестцы сябра па пакоі. Тады Антон яшчэ больш настойліва ўказаў азімут Толіку:

– На стале для цябе ляжыць паўлітра, паспытай, мо нясмачная.

Не верачы пачутаму, сябар ускочыў з крэсла, зірнуў спачатку на Антона, а потым перавёў позірк на стол. Не паверыў убачанаму. Крадком, выгнуўшы спіну, як кот краўся злавіць мыш, так малады выпівоха падкрадаўся да газетнага пакуначка. Асцярожна абхапіў рукамі, як правяраў усё роўна змесціва, тут жа разгарнуў раённую «брахалаўку», і перад яго вачыма заблішчэла таямнічым святлом такая жаданая, такая неабходная, такая выратавальная пляшачка самагону, што ён нават праслязіўся, пацалаваў бачок пляшкі. Не вытрымаў, адкаркаваў пластмасавы корачак, учапіўшыся ў яго зубамі, выплюнуў на стол, паднёс да губ гарлавінку пляшкі. Каўтнуў раз, другі, трэці, пяты… Адняў ад рота, уцягнуў у сябе паветра, не мог аддыхацца…

– Ох, не гарэлка, а спірт… Ой як добра.

Пачуўшы тое, прачнуліся ці прахапіліся астатнія, здзіўлена глядзелі на Толіка. Яму адразу стала добра, і ён ужо закусваў – загрызаў сухарыкам, радуючыся, што вырваўся з бяспамяцтва.

Але Юры піў не з гарла, а наліў сабе палову шкляначкі, дрыжачымі рукамі паднёс яе да рота. Акурат тры глыткі, як і меркаваў, як і хацелася. Але закусваць не было чым, ужо і сухарыка на стале не бачылася. Наліў столькі ж у шклянку, панёс да ложка, дзе ляжаў сябар, штурхануў пад бок:

– Прачніся, Віцька, палячыся, вярніся на белы свет.

Хлопец паслухаўся, падставіў адкрыты рот да шклянкі, і Юрык уліў туды напой, як у пусты слоік. Віцька зноў адкінуў галаву на падушку, тут жа захроп. Лёг і Юра на ложак, за ім Толік.

Калі ўсе паснулі, Антон загарнуў у газеціну пляшку, схаваў зноў у чамадан. Закрыў на замочкі. Не замыкаў, ведаў, што ні ў кога не было звычкі шураваць па чужых рэчах. За ўсе гады ніколі нічога ні ў кога не прападала.

Ляжаў, думаў, разважаў…

А аднойчы дзеля цікавасці пайшоў у бібліятэку, папрасіў казкі Пушкіна.

«Нашыя стасункі з Антонам Кулонам прадоўжыліся. Мусіць, нечакана для абодвух. Выйшаўшы з кінатэатра “Кастрычнік”, дзе паказвалі “12 крэслаў”, сутыкнуўся лоб у лоб з Кулонам. Ён здзіўлена паглядзеў на мяне, а я на яго.

– Ты? – глядзіць на мяне Кулон, усміхаецца.

– Я, – адказваю.

– Ты куды кіруеш?

– Нікуды.

– Пайшлі да Кіма ў госці, – прапаноўвае ён, – Кім заўсёды любіць гасцей. Кім – гэта “хадзячая энцыклапедыя”, ён мае такія мазгі, што заменіць універсітэт ці навуковую лабараторыю, гэта адмысловая Акадэмія вольных мастацтваў.

– Кім – гэта імя ці прозвішча? – не ўтрымаўся, удакладніў у яго.

– Імя. Бацька ў яго апантаны антысаветчык, а імя свайму сыночку прыдумалі ў гонар Камуністычнага Інтэрнацыянала моладзі, што скарочана – КІМ. У трыццатыя і ранейшыя гады было модным даваць дзецям рэвалюцыйныя імёны – Ленінід, Рэўмір – рэвалюцыя міра, Акцябрына, Веліор…

– У мяне сябар, што жыве ў Гомелі, Веліор – Вялікая Акцябрская рэвалюцыя.

– Во, бачыш! – падтрымаў мяне Кулон. – Дык вось, калі грымела па ўсёй краіне “справа дактароў”, ён, студэнт філфаку БДУ, папрасіўшы слова, выйшаў на трыбуну і сказаў, што не дактары вінаватыя, а сам Сталін, гэта ён забойца. Атрымаў дзесяць гадоў.

– Ого! – усклікнуў я, зацікавіўшыся адразу гэтай асобай.

– Вось табе і “ого-го”! А сядзеў ён у турме КДБ, а цяпер “амерыканка”. Сам Кім не падазраваў, якое шчасце падаравалі яму ўлады. У сутарэннях той установы знаходзілася велізарнейшая бібліятэка з унікальнымі кнігамі, якіх не знойдзеш ні ў бібліятэках, ні ў кнігарнях. Шмат кніг там знаходзілася забароненых. А Кім быў кніжным фанатам, мог праглынуць за ноч таўшчэзны том. Ён чытаў па дыяганалі любую кнігу – хоць навуковую, хоць мастацкую. Спытай потым у яго, што ён чытаў, мог расказаць па памяці цэлыя старонкі. Унікальны чалавек! Ён перачытаў тысячы і тысячы кніг. Ніколі нічога не запісваў, трымаў усё ў памяці. Дапоўнілі яго “вучобу” сукамернікі. А гэта былі тыя, хто меў навуковыя ступені кандыдатаў і дактароў навук, навукоўцы і пісьменнікі, мастакі і

архітэктары, – уся творчая інтэлігенцыя. Ён заўсёды паліў праз муштук цыгарэты “Памір”. Яго нідзе не бралі на працу. Але ён і не меў у ёй патрэбу, бо знайшоў яе нечакана і лёгка. Не меўшы сам ніякай ступені, ён напісаў хлопцам адзінаццаць кандыдацкіх і дзве доктарскія дысертацыі. Хочаш, ён і табе напіша кандыдацкую, га? Праўда, не за проста так, але за нейкую капейчыну, дык як?

Я, здаецца, пачырванеў ад такой увагі да мяне, нешта толькі прамовіў у адказ:

– Час пакажа…

Мы крочылі па тратуары, а Антон апантана расказваў пра свайго лепшага і надзейнага сябра Кіма Хадзеева. Апавядаў пра такія падрабязнасці, што мяне здзіўкі бралі. Мы выйшлі на вуліцу Кісялёва, і праз сотню метраў Антон усклікнуў:

– А во і дом яго – нумар сямнаццаць, а жыве ён у кватэры дваццаць чатыры. О, слухай, я і забыўся, трэба ж пропуск купіць, каб завітаць да яго.

– Які пропуск?

– Так мы называем чарніла. У цябе знойдзецца на пляшку віна?

У мяне акурат было трохі грошай.

– Знойдзецца.

– Тады пайшлі сходзім у бліжэйшую краму і атаварымся.

Падняліся на патрэбны паверх. Я думаў, што трэба будзе званіць у дзверы, каб гаспадар упусціў нас, а тут, аказваецца, зусім інакш – Антон павярнуў ручку, злёгку піхнуў абабітыя карычневым дэрмацінам дзверы, і яны гасцінна расчыніліся перад імі.

Першае, што кінулася ў вочы ці правільней у нос, дык гэта цыгарэтны дым, які быў замешаны на паху кількі і кіслай капусты, піва і таго ж чарніла, якое мы прынеслі і далучылі да агульнай скарбонкі.

– О! – усклікнула нейкае бялявае дзяўчо з доўгімі косамі, што закрывалі яе твар, прымаючы падарунак, не выпускаючы з рукі цыгарэту, – жывём, браткі, жывём! Ты малаток, Антон!

У пакоі размясцілася чалавек пятнаццаць-дваццаць. Усе нападпітку, развесялелыя і асалавелыя. Астатнія на нас не звярнулі ўвагі, абыякава махнулі рукой, як падзякавалі за тое, што прыйшлі не з пустымі рукамі.

Антон прабег позіркам па ўсіх, не знайшоў таго, каго шукаў, адчыніў дзверы на кухню, дзе ўсё таксама ўсё плавала ў цыгарэтным дыме, як у тумане.

За сталом сядзела двое – малады хлапец і, мусіць, гаспадар кватэры.

– Кім, вітаю цябе, – зайшоў да іх Кулон. – Я са сваім сябрам завітаў да цябе. Антон Клімовіч, на гістарычным факультэце вучыцца.

Гаспадар падаў руку, назваўся:

– Кім.

Хаця Кім і хлопец ладзілі размову пры пляшцы “Вермута”, у якой заставалася меней паловы, Кулон паставіў між імі і наш “Агдам”.

– Цудоўна! – адобрыў Хадзееў. І, не пытаючы згоды, наліў у дзве шклянкі – больш чым па палове – чырвонай вадкасці, паказаў, каб частаваліся.

Антон, не марудзячы, ухапіў шклянку ў руку, выпіў нагбом, крактануў. Потым позіркам запрасіў, каб і я прыклаўся да шклянкі. Я адмоўна пакруціў галавой. Ён адышоў ад стала, падышоў да падваконня, абапёрся на яго азадкам, скрыжаваў рукі на грудзях. Я ж, убачыўшы побач з сабой зэдлік, сеў на яго.

– Так што, Генрых, на гэтым мы і скончым нашую размову, – паклаў сваю руку на Генрыхаву Кім, – думаю, што ўсё атрымаецца добра, толькі ўважліва аднясіся да маіх правак.

– Добра, спадар Кім, – прыўзняўся юнак, беручы са стала зборнічак вершаў, – дзякую, што памаглі, і даруйце, што адабраў у вас час.

– Нічога, хлопча, нічога, часу выдзеліў нам Бог дастаткова, толькі трэба ўмела выкарыстоўваць яго.

Генрых выйшаў з кухні, і мы засталіся ўтрох.

– Ну, што, мае дарагія, – звярнуўся да нас абодвух “хадзячая энцыклапедыя”, як казаў Антон, – з чым завіталі да мяне? Праблема якая, не ладзіцца што?

Антон ужо сеў на крэсла, што стаяла каля стала.

– Ды не, Кім, праблемаў ніякіх няма. Захацелася проста завітаць да цябе, пазнаёміць цябе з маім сябрам, палешуком Антонам-Тонікам Клімовічам. Не дысідэнт, але жыццё сваё будуе не па маральным кодэксе, жадае глыбей разабрацца ў глыбінных працэсах быцця.

Хадзееў пільна, мо і задужа, прыгледзеўся да мяне. Як быццам пранізаў мяне сваім духоўным рэнтгенам, стараючыся промнямі высвеціць усе клетачкі майго арганізма, прасвятліць усяго мяне, каб даведацца, хто я, ці можна мне давяраць і весці са мной гутаркі на розныя тэмы.

– Чаго не п’еш, Антон Клімовіч? – амаль строга спытаў у мяне Кім.

– Не навучыўся, – пацiснуў я плячыма, не адводзячы позірк ад яго, слаба ўсміхнуўся, – галава дурэе ад гэтага.

– У нас галовы баляць ад перапітага, а ў цябе ад недапітага. Дзіўна. Але што ж зробіш, табе, як кажуць, відней.

Ён зноў разліў віно па шклянках, па той жа мерцы, мне ўжо не прапаноўвалі, не прымушалі. Закусвалі сыркамі, парэзанымі на дробненькія кавалачкі. Маўчалі.

– Як вучоба ідзе, Антон?

– Нічога. Апошні курс.

Зноў забулькала чарніла, але ўжо нават і менш за палову налівалі, зноў жа не прапаноўвалі мне выпіць. Тое мяне радавала.

– Кім, – звярнуўся да Хадзеева Кулон, – ты мне нядаўна прадыктаваў вялікі спіс літаратуры, які я павінен асвоіць у сваім жыцці. Я спытаў у цябе, што трэба прачытаць з шэдэўрам сусветнай літаратуры, для таго, каб мець права называць сябе ўсебакова развітай асобай. Я пачаў пацíху асвойваць. Мне падумалася, прама цяпер, а ці не змог ты цяпер і Клімовічу скласці “кандуіт разумнага чалавека”. Я чалавек дакладных навук, а ён бліжэй да гуманітарыяў, гісторык.

Кім зажаваў выпітае сырком, задумаўся. Адказаў не адразу, а праз колькі хвілінаў.

– А сам Антон таго жадае?

І ён зноў пільна паглядзеў на мяне. Можа і залішне пільна, бо адчуў, як маленькія мурашкі пачалі бегаць па ўсім целе.

Мне нічога не заставалася рабіць, як адказаць на пытанне дадатна. Хаця я і не прасіў Кулона, каб ён звярнуўся да Хадзеева з такой прапановай. Значыць, удружыць мне хацеў, ведаючы і адчуваючы, што мне цесна ў акадэмічна-ўніверсітэцкіх рамках і канонах. Я ўжо быў удзячны яму за яго клопат, мне ніхто і ніколі не аказваў такую дапамогу, правільней, даваў кірунак у жыцці.

– Добра, запісвай, бо не запомніш.

Я раскрыў сваю тэчку, дастаў адтуль агульны сшытак, паклаў перад сабою на стале. Але Кім не спяшаўся дыктаваць. Зноў наліў у шклянкі чырвоную вадкасць – яшчэ меней, чым перад гэтым…

– З чаго пачаць? З антычных паэтаў Авідыя і Вергілія. Абавязкова вывучыць лісты да Луцылія Анэя Сенэкі. Пачынаючы з ліста першага, у якім ён вылучае тэму “ўжывання часу для ўдасканальвання душы”. У дваццаць чацвёртым – “супраць страху перад будучыняй”. А ў лісце 83 прачытай, як ён адносіцца да п’янства. Усе лісты ў яго выдатныя, але да названых аднясіся з вялікай увагай.

Дыктаваў ён павольна, даючы мне магчымасць паспець запісаць. І тым часам не забываўся капнуць кроплю-другую ў “малянкоўскія” шклянкі. Ён дыктаваў па памяці геніяў розных краінаў і народаў, ніводнага разу не збіўшыся, не папраўляючы самога сябе падчас нейкай памылкі.

Я здзіўляўся не толькі яго памяці і эрудыцыі, а і з таго, як ён вядзе размову. Яму мог бы пазайздросціць любы выкладчык нашага ўнівера, пераняць уменне даводзіць слухачу свае думкі, навучыцца яго перакана-

нальнасці, глыбіні і разнастайнасці ведаў… Такіх людзей я не сустракаў, мо ніколі і не сустрэну. Як я быў удзячны Антону Кулону! І ўжо ніяк не шкадаваў, што ён мяне амаль сілком зацягнуў у “кімаўскую акадэмію”.

– Ну а з сучасных… Распуцін і Бялоў, Васіль Быкаў і Віця Казько, Мікола Ермаловіч і Генрых Далідовіч. Спіс можна доўжыць, але ты сам павінен выбраць тых, хто бліжэй табе, хто табе даспадобы.

Спіс літаратуры перайшоў ужо на другую старонку.

У зале нехта затрынькаў гітарай. Нехта заспяваў, ці не сам гітарыст. Потым пачулася песня “Чуть помедленнее, кони…” Уладзіміра Высоцкага.

– Антон, а можа мне збегаць у гастраном, пакуль не зачыніўся? – асцярожна пацікавіўся я ў Кулона.

Кім маўчаў. Але паглядзеў на Антона.

– А грошы хаця ёсць?

– На “Агдам” знайду.

А недзе каля поўначы ў зале стала ціха. Мы і не чулі, як сышлі госці, ніводзін не застаўся. Дзверы зноў жа ніхто не зачыняў, мог яшчэ нехта прыйсці, каб заначаваць.

Мы засталіся ўтрох. Я не ведаў, што будзе далей, дзе буду начаваць, бо вось-вось павінен спыніцца рух гарадскога транспарту. А пешшу мне ісці далекавата, як і Кулону.

“Ат, як будзе, так і будзе, – махнуў я рукой на свае перасцярогі, – не выганяць жа мяне вуліцу…”

**6**

Мінула ўжо і поўнач, перайшло і на трэцюю гадзіну, а гаспадар і не думаў класціся спаць, і нам ніякага намёку не даваў, каб пакінулі яго аднаго. Мне надзіва было хораша і ўтульна, ніколі не быў у такой кампаніі, як у Кіма.

Бачачы, што я пачынаю крыху стамляцца, Кулон прысунуў да мяне маю шклянку, якая так і стаяла некранутая, прапанаваў мне:

– Антон, Тонік, выпі сваю порцыю, ты ж нас, выходзіць, не паважаеш.

На гэты раз я ўжо не ўпарціўся, мне ўжо і самому, калі шчыра, захацелася каўтнуць гэтага напою. Хаця мне лепей было б выпіць чарачку самагонкі, яна мяне больш дакладна прывяла б у норму. А віно… Сок нейкі кіслы, сапраўды чарніла. Але агдамчык пабег у страўнік, маўчаў, не падаваў прызнакаў жыцця, а потым рэха падскочыла да скроняў, шпыранула колькі разоў і змоўкла. Стала хораша на душы. Я з асалодай слухаў, пра што гаварылі Кім і Кулон. Яны па-ранейшаму былі бадзёрыя і гаваркія, і

словы іх ліліся як з крынічкі вада, чыстая вада, сцюдзёная, падмацаваная кроплямі “Агдама”.

Апусцела і гэтая пляшка, Кулон паставіў яе пад стол – пусты посуд, як вядома, не павінен стаяць на стале. Тады Кім як усё роўна апамятаўся, прыслухаўся і, не пачуўшы галасоў ў зале, падняўся і расчыніў дзверы.

– Гэ, хлопцы, а чаму мы ў цеснаце на кухні бавім час, – абрадаваўся ён, – пайшлі ў залю.

І мы перабазіраваліся на новае месца.

Тым часам Кім на газавай пліце ўскіпяціў ваду, у заварнік насыпаў цэйлонскай гарбаты, заліў кіпнем. Тады толькі прыйшоў да нас і разваліўся на канапе. Дзіўна, але спаць не хацелася.

– Сябры мае, – зноў азываецца Хадзееў, – хто мы ёсць з вамі на гэтым белым свеце?

– Людзі, – спакойна прамаўляе Кулон, – а хто ж яшчэ?

Кім круціць галавой, як быццам атрасае з сябе здранцвеласць ці санлівасць, не згаджаецца:

– А тое яшчэ даказаць трэба, Кулончык. Даказаць. Хм… Людзі. Але якія?

Ён ідзе на кухню і прыносіць тры кубкі. Потым прыносіць заварнік і разлівае кіпень. Па пакоі паплыў прыемны пах. Значыць, Кім у цэйлонскі збор дадаў яшчэ нейкія зёлкі – ці не зверабой і мяту? Кожны з нас узяў свой кубак. Гарбата настаялася, і колер, і пах найадметнейшы. Мусіць, Кім разбіраўся ў гэтым.

Асцярожны, каб не апячыся, робім першыя глыткі. Смаката! Куды таму чарнілу да гэтага напою!

– Дык вось, – працягвае зноў Кім, – хоць мы і людзі, але невядома якога гатунку. І першабытныя “особи” былі таксама людзьмі. Так што пераходзім мы да асноўнай тэмы нашых універсітэцкіх заняткаў – “Гістарычныя падставы ўзнікнення беларускай нацыі. Нацыяналізм – найвышэйшы ўзровень адчування сябе беларусам”. Ці будуць іншыя прапановы па тэме?

– Не, – згаджаюся я.

– Тэма злабадзённая, і таму патрабуе асвятлення.

– Сёння Антон Кулон абараняе сваю кандыдацкую па дадзенай тэме. Прашу, шаноўны аспірант, прасвяціць нас з Клімовічам па гэтай тэме.

Кулон нейкі час маўчыць, дакранаецца губамі да краю фарфоравага кубка, задумваецца.

– Дзякую, мой шаноўны апанент, што вы даручылі мне такую адказную тэму. Пастараюся выкласці яе грунтоўна і коратка. Я пастараюся

выкласці свой погляд на гісторыю беларускай нацыі, якая фармавалася стагоддзямі, і яе працэс, на вялікі жаль, не завяршыўся і сёння.

Твар у Кулона сур'ёзны, засяроджаны. Каб не сядзеў, а стаяў, то ён бы і сапраўды выглядаў абаронцам гэтай тэмы. І таму па ім нябачна, што перад гэтым піў віно, што выпіў яго не адну пляшку, голас цвёрды, упэўнены, не пазбаўлены логікі.

– Чаму – не завяршыўся? – устаўляю я свае "тры грошыкі", не баючыся, што на мяне за перабіўку ён можа пакрыўдзіцца.

– А таму, што гэта вынікае з тых праблемаў і недарэчнасцяў, якія нам усе вядомы. Як вы ацэньваеце сённяшні стан мовы і культуры? Заняпад. І – знішчэнне. Самае страшнае і агіднае, неразуменне неабходнасці беларускага нацыянальнага мыслення дэманструе сама ўлада нашай дзяржавы. Тое і даказваць не трэба. Колькі сёння знішчана беларускамоўных школ, дзіцячых садкоў, як праходзіць сёння адукацыя падрастаючага пакалення? На якой, скажыце, мове? На чужой, не нашай. Хто мне запярэчыць? Аніхто.

Кулон дапіў сваю гарбату і таму сам сабе наліў новую порцыю. Каўтнуў колькі разоў, паставіў на стол.

– Скажу высокім штылем. Беларуская нацыя, як і кожная нацыя, ёсць вынік эвалюцыйнага пераходу нашага этнасу ў якасна новы стан – нацыю. Калі прымяніць рэтраспектыву, то шлях фармавання нашай нацыі я падзяліў бы на некалькі этапаў ці прыступак. А іменна – утварэнне этнасу, якое пачалося тысячы гадоў таму. Абазначым гэта як пачатак. Далей – развіццё і завяршэнне фармавання этнасу ў пятнаццатым-шаснаццатым стагоддзях, ужо, дарэчы, з адметнасцямі беларушчыны. Ну а сярэдзіна і канец дзевятнаццатага стагоддзя – пачатак утварэння нацыі. Мяркую, што яе фармаванне прыпадзе на канец гэтага стагоддзя і пачатак наступнага. А ўжо завяршэнне і паўнавартаснае існаванне беларусаў як нацыі, думаю, завершыцца яшчэ да сярэдзіны наступнага стагоддзя.

– Дай Бог, – пажадаў я. – Бо на сёння няма ніводнага падручніка па гісторыі нашага краю, каб ён быў праўдзівы, незалежны ні ад Усходу, ні ад Захаду. Каб ён быў наш, адметны, цікавы, дасканалы.

– Згодны з табой, – пагадзіўся Кулон. – І таму ў гэтым рэчышчы неабходна разабрацца, калі мы сталі незалежнымі. Волю нам даў кастрычніцкі пераварот ці тады, калі мы прагналі фашыстаў са сваёй зямлі? А можа зусім узяць той час, калі мы былі адной з трох галін старажытнага ўсходнеславянскага племені, а цэнтрам была Кіеўская Русь?

– Не, Антон, не падыходзіць такое. Бо ўвесь наступны пасля Кіева перыяд, а ён доўжыўся аж да акупацыі Рэчы Паспалітай Расеяй, Паўночна-

ўсходнія славяне, якія ўтварылі Масковію, а пасля і Расейскую імперыю, і заходнія славяне, што аб'ядналіся ў Вялікае Княства Літоўскае, – жылі сваім вольным і незалежным жыццём. Я думаю, што менавіта на гэты перыяд і прыходзіцца асноўная частка нашай гісторыі, калі праходзіў час фармавання этнасу, ішлі працэсы асіміляцыі, змяшэння крыві, ну і, як вынік, фармаванне нацыянальнага характару і – нацыі. Тут наслойваецца і яшчэ адна тэма – "славянскае братэрства"…

Кулон засмяяўся:

– Ну і ты туды, хлопча! Ды ніякага славянскага братэрства-брацтва не існуе, як і не існуе адзінага славянскага племя. Ёсць толькі група моў, якія яднаюцца ў групу славянскіх моў, як тыя ж раманскія мовы, напрыклад…

Тут ужо не вытрымаў і Кім, пастараўся выказаць сваю думку:

– Так, беларускі этнас блізкі да літоўскага (балцкага) і ўкраінскага. Менавіта нашая супольнае паходжанне і ўзаемаўплыў найбольш відавочныя. Калі возьмем украінцаў, то мы з імі некаторы час былі адзіным народам – падчас ВКЛ. У нас адны і тыя ж нацыянальныя героі, старабеларуская – а ў Украіне лічаць, што яны стараўкраінская – мова, адныя казкі і песні, паданні і замовы. А вось падзел этнасу распачаўся і не так даўно – з часоў Рэчы Паспалітай. І таму ўкраінцы лічаць, што Статут Вялікага Княства Літоўскага напісаны "ўкраінскаю моваю", мы ж лічым, што беларускай. А гэта даказвае, што мова тады ў нас была адна, праўда, дыялекты розныя. А вось пазней і сфармаваліся дзве розныя мовы і дзве нацыі – беларуская і ўкраінская.

Гадзіннік паказваў ужо трэцюю і чацвёртую гадзіну, а мы таго не заўважалі, нам вельмі хацелася разабрацца і з нацыяналізмам, і з мовай, і з этнасам.

– Кім, а як быць расейскім – рускім – этнасам? Гэта ж нешта іншае, ці не так? У іх не відаць на гарызонце такога месца як Полацк ці Кіеў, вакол якіх будавалася будучая руская нацыя. Няма, і ўсё тут! У часы Кіеўскай Русі? Так, Суздаль, Ноўгарад. Цвер, так? А пазней ўжо, недзе ў другім ці трэцім стагоддзях такім цэнтрам стала Масква. Калі палітычная геаграфія Еўропы і Азіі значна змяніла свае абрысы. А потым нечакана маскоўскае царства патрабуе ставіцца да яе як да галоўнай славянскай усходняй дзяржавы, нават прысвойвае сабе саманазву – Трэці Рым. Ці не смешна, панове? І потым ужо аж да канца васямнаццатага стагоддзя дзве буйныя славянскія дзяржавы – Княства і Масковія – спадкаемцы Кіеўскай Русі пачынаюць змагацца за сваё лідарства ва ўсіх галінах да тае пары, пакуль ВКЛ пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай, на вялікі жаль, не атрымае паразу…

Ужо чацвёрты і пяты раз Кім Хадзееў ідзе на кухню, адтуль прамаўляе свае довады і думкі, зноў прыносіць гарбатнік і ставіць на стол. Потым разлівае ў кубкі.

– Браткі, – узбуджаным голасам даводзіць Кулон, – Беларусь з'яўляецца сэрцам Еўропы, і нашая культура не нейкая, часовая ці пераходная, памежная культура паміж Еўропай і Азіяй, паміж Польшчай і Расеяй, не, яна цалкам самастойная культура, якая здолела зрабіць значны ўплыў на заходнія рэгіёны і ўсходнія, на поўдзень і на поўнач. Этнічныя беларусы, а іх тысячы, ўвайшлі ў гісторыю іншых краін, сталі іх сімваламі і нацыянальнымі зоркамі. Той жа Адам Міцкевіч, наш суайчыннік, стаў класікам польскай літаратуры, Фёдар Дастаеўскі – геній рускай літаратуры, Гіём Апалінэр стаў французскім паэтам, а Ігнат Дамейка – нацыянальны герой Чылі. Праз іх, як і праз тысячы іншых, мы бачым твар Беларусі…

Мы не заўважалі часу, мы можа нават і не адчувалі, дзе знаходзімся. Нас яднала агульная ідэя, нас аб'ядноўваў агульны этнас і нацыяналізм. Мы гаварылі на роднай мове, мы адчувалі сябе беларусамі і недзе літвінамі Княства.

Мы прыйшлі да высновы, што беларусы захавалі найстаражытнейшыя рысы і адметнасці, унікальны генатып. А калі Кім дастаў знекуль з глыбіняў кніжнай шафы трохпалосны штандар, мы з Кулонам запляскалі ў ладкі. То быў бел-чырвона-белы старажытны нацыянальны сцяг. Менавіта такія колеры аздабляюць вопратку найвышэйшых царкоўных чыноў, біскупаў у Беларускай Праваслаўнай Царкве.

А ў першыя стагоддзі, калі было прынята хрысціянства, існавала сімфонія дзяржавы і царквы. І гэта быў адзіны арганізм, бо – гэтая бел-чырвона-белая гама з царкоўнага жыцця накладаецца на ўсё культурнае і грамадскае жыццё старажытнай Беларусі.

І нідзе ў свеце – нідзе! – няма болей такой краіны – як праваслаўнай, так і каталіцкай, – дзе б царкоўныя і дзяржаўныя сімвалы супадалі! Толькі Беларусь – толькі! – мае такую ўнікальную гаму!

Таму мы смела можам сцвярджаць – бел-чырвона-белы сцяг з'яўляецца адным з найунікальнейшых, найхарашэйшых і наканаваных Госпадам сімвалаў!

На белай плашчаніцы чырвоная кроў Хрыста. Тыя ж самыя колеры – белы, чырвоны і белы. Тады спее новы сімвал – Ісус Хрыстос і Беларусь.

Хто зможа разарваць гэтую лучнасць?

…Ісус Хрыстос, наш Збаўца, нарадзіўся ў Галілеі, у той мясціне Палесціны, дзе спрадвеку жылі не габрэйскія плямёны-хананеяне. А яны былі арыйцамі, і яны прадстаўлялі каўказскую, белую расу.

Недзе за тысяча трыста гадоў да Нараджэння Хрыста пачаліся войны за права жыць на тэрыторыі Галілеі рознымі плямёнамі, і гэтую спрэчку распалілі прышлыя габрэі.

У 772 годзе да Нараджэння Хрыста асірыйскі цар Саргон ушчэнт разбіў царства Ізраіля, а пасля гэтага выселіў рэшту разбітых габрэйскіх плямёнаў, і ў Палесціне засталося толькі калена Юдава – ў Юдзеі. І Галілея стала найчысцейшай ад семітаў. Прарок Ісая называў гэтую зямлю "Галілея паганская". І ў тыя часы прыйшлі туды народы з Поўначы. Біблія той факт тлумачыць так: "І было да мяне слова Госпада: сын чалавечы! Звярні твар твой да Гога ў зямлі Магог, князю Рота, Мацеха і Фувала" (Іезекіль 38, 1–2). А даўно людзі ведалі, што гэтыя людзі ("Гог з зямлі Магог") былі скіфы. Яны прыйшлі з Поўначы і былі продкамі людзей з белай скурай, індаеўрапейцаў. У Галілеі яны нават заснавалі горад – Скіфопаль. Гісторыкі сцвярджаюць, што скіфы былі продкамі народаў у Шумерах, усёй Малой Азіі і славянскіх плямёнаў – "русаў", якія пазней аб'ядналіся ў дзяржаву Кіеўская Русь…

Таму маецца шмат падстаў, калі праглядаецца пашыранае сярод праваслаўных вернікаў меркаванне, што Дзева Марыя сваё паходжанне мае не ад габрэйскіх плямёнаў, а ад нашчадкаў скіфаў, то-бок – ад старажытнарускай народнасці. Скіфопаль знаходзіўся ўсяго ў дваццаці мілях ад Назарэта. Адметна, што ў гэтай мясцовасці людзі гаварылі на арамейскай мове, выхоўваліся ў рэчышчы грэчаскай культуры і арыйскіх народаў. Так што сцвярджэнне, што беларусы арыйскі народ, не пазбаўлена падстаў.

Такім чынам, рабіў свае высновы будучы кандыдат усіх навук Антон Кулон, зыходзячы са шматлікіх гістарычных фактаў, мы міжволі прыйдзем да галоўнай высновы – зямное паходжанне Ісуса Хрыста можа мець найбеспасярэднейшае дачыненне да нашых продкаў скіфаў-славянаў, а, значыць, і да нас, беларусаў, бо "белыя русы" найбольш чыстае і старажытнае адгалінаванне плямёнаў, што складалі насельніцтва Кіеўскай Русі.

І далей сцвярджаў ужо Кулон: наш бел-чырвона-белы сцяг сімвалізуе збаўчую ахвяру Хрыста, укрыжаванага на Галгофе, гэта ягоная святая кроў на чыстым, беззаганным стварэнні шостага дня – чалавеку, створанага на вобраз і падобнасць. Выпадковасць тут выключаецца, бо Беларусь мусіць быць абранніцай Божай. Наша краіна не толькі геаграфічны цэнтр Еўропы, яна – галоўнае – цэнтр хрысціянства.

Кім сцвярджаў, што гісторыя Беларусі павінна быць нацыянальнай. Бо гэта гісторыя беларускага этнасу, беларускага народа, беларускай расы і беларускай нацыі. І гісторыя яе налічвае тысячы гадоў, і пачатак яе ад абвяшчэння незалежнасці Полацка і Турава ў X–XI стагоддзях. І як

нам прыемна і ўсцешна, калі адчуваеш гонар ад таго, што мы належым да народа, на календары якога дзяржаўная незалежнасць адлічвае свой час тысячы гадоў. Мы стварыліся і нарадзіліся яшчэ тады, калі не было і слова такога – Масква-Масковія.

Вялікае Княства Літоўскае (у які раз цвердзім і даказваем тое!) было дзяржавай з выразным беларускім характарам, беларускай культурай і дзяржаўнай беларускай мовай. Больш за пяць стагоддзяў існавала княства (ад заснавання Навагрудскай дзяржавы каля 1240 года да падзелу Рэчы Паспалітай у канцы ўжо XVIII стагоддзя) і з’яўлялася адной з наймагутнейшых еўрапейскіх дзяржаваў. Яна геаграфічна сягала ад Балтыйскага да Чорнага мора. Беларусы засялялі тэрыторыю сучаснай Беларусі, Віленскага краю (цяпер Літва), Смаленскай і Бранскай абласцей да Мажайску, Цверы, Каломны (пад Масквой), Беластоцкага ваяводства (Польшча) і часткі Чарнігаўскай вобласці (Украіна). А Калінінградскую вобласць засялялі ў асноўным беларусы.

Мы гаварылі і не стамляліся, мы з’ядналіся ў адным рэчышчы і кірунку, яшчэ і яшчэ раз даказваючы сваю годнасць, сваю прыналежнасць да старажытнай гісторыі. Згаджаліся, што Вялікае Княства Літоўскае з’яўлялася беларускай дзяржавай. Бо і ўсе каралі княства, пачынаючы ад першага князя Міндоўга, карысталіся беларускай мовай не толькі ў справаводстве, але і ў звычайнай гутарцы. Яна ніколі не змешвалася-перамешвалася з мовай жамойтаў і аўкштайтаў – базавым этнасам сучасных літоўцаў. Мова “Літвы” Сярэднявечча – беларуская і толькі беларуская, а літвін – гэта толькі назва беларуса тых часоў. Уся нахабна прысвоеная гісторыя сучасных літоўцаў належыць не суседняй краіне Літве, а Беларусі. Як жа прыкра і сорамна адчуваць, што наш спрадвечны герб Пагоня – герб нашай суседняй краіны – Літвы і наша сталіца Вільня чамусьці (нават у нас!) завецца Вільнюсам. І сорамна яшчэ ад таго, што нашая краіна, якая яшчэ ў трынаццатым-шаснаццатым стагоддзі паспрыяла таму, што ў сусветную цывілізацыю прыўнесла беларускую культуру далёка на Захад, а ў наш час без усялякіх на тое падстаў страціла сваю гістарычную назву, якую “падабралі” ў сучаснай Літве, размешчанай насамрэч на паўднёвы захад ад тэрыторыі сапраўднай, летапіснай Літвы, што месцілася ў басейне сярэдняга цячэння Нёмана…

Таму напрошваецца выснова: менавіта беларусы прынеслі хрысціянства сваім суседнім паганскім народам жамойтам і аўкштайтам, прынеслі разам з ім еўрапейскую культуру і ў літаральным сэнсе “вывелі з лесу”. Толькі ў канцы XIX стагоддзя жыхарам планеты стала ведама пра

існаванне літаратурнай літоўскай мовы і наогул пра існаванне літоўцаў і Літвы ў сучасным сэнсе – як неславянскай і небеларускай дзяржавы…

Яшчэ не напісаная праўдзівая гісторыя Беларусі і яе тытульнай нацыі. Яна яшчэ напішацца без аглядкі на Маскву, Польшчу і Літву, нават без аглядкі на Еўропу. І выбіта залатымі літарамі – "ВКЛ – толькі беларуская дзяржава!" Наперадзе цяжкі час, час пераацэнкі жыцця нашага ў спалучанасці з іншымі народамі. Нашу Беларусь любіць Бог, і Ён папусціў безліч розных неправавых правіцеляў, здраднікаў, срэбралюбаў і юдаў. Ён даў нам цяжкі шлях выпрабаванняў і спакусаў, і таму мы павінны несці гэты крыж, каб прайсці шлях пакутаў, – і толькі потым мы можам атрымаць "безумоўную асалоду", і толькі тады зможам стаць добрай і сапраўднай хрысціянскай краінай…

Антон Кулон адкінуў галаву на спінку крэсла. Ён стаміўся ад напружанасці і апантанасці. Прымружыў вочы, доўга не расплюшчваў іх і цяжка дыхаў. На яго твары выступілі буйныя кроплі поту. Сапраўды, ён у гэты вечар абараніў з гонарам сваю дысертацыю, назва якой была "ВКЛ".

– Хлопцы, – уздыхнуў Кім, апусціўшы галаву, – як апанент будучай дысертацыі Антона Кулона падвяду вынік сённяшняй размовы ці дыскусіі. Памятаеце, што сказаў Мураўёў-вешальнік, павесіўшы слаўнага сына нашай зямлі Кастуся Каліноўскага? А ён сказаў наступнае – калі не знішчыў упарты народ і яго мужыцкую мову расейскі штых, то давершыць расейскі поп, чыноўнік і расейскі настаўнік, які будзе засланы ў кожную школу. Думаеце, ён гэта сам прыдумаў? Не, Каця Другая, расейская царыца. Яна ў 1796 годзе загадала са злосцю і пагардай да нас: «"Великое княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, а народ её – белорусами, чем на века привяжем ее к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но и саму память про самих себя". Як вам пастаноўка такога пытання? "Самую памяць пра саміх сябе…" На службе крыважэрнай Кацярыны і стаяць сённяшнія чыноўнікі і святары расейскай праваслаўнай царквы.

Мы не падтрымалі яго, але і не абверглі. Моўленае ім і так сядзела балючай стрэмкай у нашых сэрцах, вярэдзіла душу ўсе гады.

Ужо за акном лязгалі аб рэйкі колы трамваяў, бліскалі маланкі на дратах ад дотыку да іх тралейбусных "вілак".

А мы сядзелі і не ведалі, якую трэба знайсці прычыну, каб разысціся…»

## 7

«Нехта пачаў тармасіць мяне за плячо. Настойліва, патрабавальна.

– Прачніся, Тонік! Што з табой? Захварэў? Дык я хуткую выклічу да цябе…

Голас да болю знаёмы, але сон так сціснуў мяне ў сваіх абдымках, што мне не ўдавалася расплюшчыць вочы. Я мармытаў нешта незразумелае, просячы, каб адсталі ад мяне, не перабівалі мой салодкі сон…

Але тармасенне за плечы перарасло ў мардабіццё. Нехта ўжо біў па шчоках, то па адной, то па другой.

– Ану, уставай, хіба так сустракаюць свайго брата. Я ледзьве адшукаў цябе, а ты, мусіць, напіўся да бяспамяцтва і не можаш адысці…

Калі ж на мой твар з гарбатніка палілася вада, я прахапіўся. Доўга не разумеў, што адбывалася, хто так здзекуецца з мяне, а калі ўбачыў, што побач са мной сядзіць мой родны брат Пятрусь і ўсміхаецца, зразумеў недарэчнасць становішча.

– Ты? – не паверыў сваім вачам, паспрабаваў прыўзняцца, але Пятрусь прычавіў мяне рукой да ложка, як бы забараняючы ўставаць, каб даведацца пра мой стан. – Даўно ты ў мяне?

– Ды з паўгадзіны. Ледзьве адшукаў, дзе ты жывеш. А сябры твае дзе?

– Мусіць, на занятках.

– А ты чаму прапускаеш вучобу?

– Такога са мной амаль ніколі не было, – прызнаўся я. – А тут…

– Што здарылася, Тонік? П’янтосам стаў? Пілі ўсю ноч?

Пятрусь здагадаўся наліць у шклянку вады, падаў мне. Я адпіў палову, больш не хацелася, бо мяне і не даймала смага. Проста злёгку балела галава. З непрывычкі. Амаль ніколі я не ўдзельнічаў у такіх дыскусіях, як у Кіма. Віно на мяне амаль не падзейнічала, і хмель, калі ён і быў у галаве, даўно выветрыўся.

– Мо я за півам збегаю? – стараўся ўвайсці ў маё становішча брат.

Я кісла і вінавата ўсміхнуўся:

– Ды не, Пятрусь. Піва тут ні пры чым.

Я ўжо поўнасцю прыйшоў да памяці, скінуўшы не толькі рэшткі сну, а і млявасць, лёгка падняўся і сеў на ложак. Потым устаў, насунуў штаны, сеў на крэсла. Пакінуў ложак і брат.

– Усю ноч мы правялі ў размове. Гаварылі пра мінулае, сённяшняе і заўтрашні дзень. П’янкі не было. Шклянка віна, не болей. А прыйшоў дадому

раніцай, як людзі і горад даўно прачнуліся. Колькі цяпер? Адзінаццаць? Ну а я каля сямі лёг спаць…

Я і не апраўдваўся, а толькі гаварыў для таго, каб растлумачыць сітуацыю, каб брат не падумаў, што я “сышоў з рэек”.

– Во, пра галоўнае я і не спытаў. Паступіў?

– Паступіў.

– Ну, віншую. Інтэрнат далі?

– Ага. І нас чацвёра ў пакоі. Вось надарыўся вольны час да абеду, рашыў адшукаць цябе. Ты аказаўся на месцы. Вось я запісаў тэлефон і адрас майго інтэрната, няхай будзе…

Пятрусь паклаў на стол паперку з нумарам тэлефона.

– Дык што, я пабег? – падняўся з крэсла Пятрусь. – Праведаў, ведаю, дзе ты жывеш, ты ведаеш, дзе я жыву… Будзеш спаць далей?

– Ды не, ёсць клопаты. Правесці?

– Ды не, не заблукаю, – засмяяўся брат. – Да сустрэчы?

– Убачымся.

Мы абняліся, нейкі час не адрываліся адзін ад аднаго, адчуваючы духоўнае і кроўнае яднанне. У нашых сэрцах была радасць, што мы разумеем адзін аднаго, што будзем бачыцца часцей.

Пятрусь зачыніў за сабою дзверы, патэпаў па калідоры, а я яшчэ доўга сядзеў за сталом, не тушачы ў сабе радасць сустрэчы з родным чалавекам, аж пакуль нехта не пастукаў у дзверы…»

**8**

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усё, здаецца, ішло ладком.

Не нагрувашчваліся на мае плечы нечаканыя клопаты, а калі нешта і набягала, то я іх стараўся адразу вырашыць, каб не вярэдзілі душу і сумленне; уцягнуўся даўно ў гарадское жыццё, але не мог прыжыцца ў ім.

Мусіць жа, так пачуваліся ўсе тыя, хто вырваўся з вёскі – вучыцца ці працаваць, – а карані засталіся там, у мінулым часе…

…Ці засталіся?..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## 9

…Цётка Ганууся, як усе – старыя і малыя – за якую гадзіну абабегала ўсю вёску. На яе ўскладзена адказная дзяржаўная задача – тэрмінова разнесці позвы з ваенкамата ўсім, каму прадпісана з'явіцца на прызыўны пункт раённага ваенкамата.

– Во, вам апошняя, пятнаццатая, – гэпнулася на лаўку каля хаты паштарка, глуха выдыхнуўшы з сябе паветра, – усіх праведала.

Яна падала паперку Настассі, спытала:

– Для Антона. Ён сам дзе?

– Дзе ж яму быць – у школе.

– Распішыся, галубка, – падала жанчына Настассі разгорнуты сшытачак, – што ўручыла, асабіста ў рукі.

Наста ўзяла сшытак, знайшла радок «Антон Клімовіч», паставіла подпіс. Аддаючы назад, трывожна спытала:

– Куды яго клічуць? Ён жа служыў у арміі.

– У партызаны, галубка, у партызаны. На зборы. Там напісана – на два тыдні. Заўтра прыбыць у ваенкамат. Калі ж хто не з'явіцца, прыедуць і сілай забяруць.

– Так строга, цётка Ганууся?

– Стражэй і быць не можа.

*«Позва. Радавому запасу Узброеных Сілаў СССР Антону Клімовічу. Вам неабходна тэрмінова з'явіцца ў Мазырскі гаррайваенкамат. Вы прызываецеся на ваенныя зборы – на пятнаццаць сутак. Ваенкам… 10 траўня 1986 года…»*

Паштарка ўсё яшчэ ніяк не магла аддыхацца ад прабежкі такой хуткай і доўгай дыстанцыі. Ніколі такой доўгай не была дарога па вёсцы, калі спакойна разносіла газеты ды часопісы, то і зусім не адчувала, што яна можа быць доўгай.

– Можа гэта неяк звязаны з Чарнобылем, цётка Ганууся? – страх і трывога пашыліся пад грудзі Насты, пільна глядзела на паштарку.

А яна ўжо, узяўшы ў рукі дужку-грабянец, расчэсвала свае ссівелыя косы, закруціла на шыі гуглю. Паклала рукі на калені, апусціла галаву, зноў цяжка ўздыхнула.

Паштарка была босая. Яна заўсёды хадзіла босая, аж да першых маразоў не абувалася. Таптала і сухія дарогі, і гразкія, калі лілі праліўныя дажджы, і ўсё ёй не было калі – як усё роўна баялася спазніцца, а куды, і сама не ведала. Ёй здавалася, што людзі і дня не могуць пражыць без свежых газет і лістоў, што яна чалавек на вёсцы незаменны і адказны.

Так прыблізна пра яе і пісала і раённая газета «Камуніст Палесся». І цётка Гануся ганарылася гэтым, хаця працаваць яна пасля той публікацыі стала і не лепш, і не горш…

– Усё цяпер звязана з Чарнобылем, – адказала запознена паштарка, увабраўшы і выдыхнуўшы паветра. – Мы як пахрысціліся тым Чарнобылем. А што там радзіва кажа? Слухаеце хоць?

– Калі слухаем, калі не слухаем. А яно нічога і не кажа, музыка і музыка. А Амерыку глушаць, мо яны праўду кажуць…

Паштарка паднялася, распраміла плечы, крактанула, толькі тады ўзяла паштарскую сумку і накінула вочапку на плячо. Развіталася, пайшла, ужо спакойным крокам, далей. Цяпер ёй спяшацца не трэба было, павольна перастаўляла ногі, і ў такт хадзьбе хісталася за спінай шэрая сумка…

Наста глядзела ёй услед, а пра сябе падумала: «Божа! Усё ішло добра, ладна, і на табе – выбухнуў Чарнобыль. І пранізаў кожнага – чалавека, жывёлу, птушку…»

На душы было гнятліва і горка, нейкае цяжкае прадчуванне авалодвала ёю, напаўняла ўсю яе істоту.

Калі ж пад вечар прыйшоў Антон, падала яму паперку, прамовіла:

– Заўтра табе, як і чатырнаццаці хлопцам Крушнікаў, трэба з’явіцца ў ваенкамат. Заўтра ты станеш «партызанам».

І заплакала. Антон абняў яе, прытуліў да сябе, нічога не казаў.

Яна і так чула тое, што ён не прамаўляў у адказ.

«Пракляцце шлю на цябе, Чарнобыль!…»

Антон запіша такую першую фразу пра тыя падзеі. Ды яшчэ падкрэсліць тройчы чорным чарнілам, як жалобнай рамкай абвядзе.

«Пракляцце табе, Чарнобыль! Пракляцце! Інакш і не скажаш, бо ты прынёс ахвяры і смерці, хваробы і нядужасці, расчараванні і горыч… Ты як жывы, але нябачны, цябе ні рукой пакратаць нельга, ні позіркам дакрануцца. Ты амаль і паху не маеш, і смярдзіш неяк адмыслова. Ты як помнік мінуламу, помнік камуністычнаму здзеку з людзей, з зямлі, з усяго жывога.

На табе і скончылася эра Чорнага Вялікага монстра, спрута, пачвары, на табе застыў час, эпоха, сусвет. Ты раздзяліў нас на дзве паловы, рассек вострым мячом ад галавы да ног, стварыўшы зноў нейкага невядомага чалавека, і ці чалавек атрымаўся на гэты раз? Ты, чалавек, хацеў быць разумнейшым за Вышняга, хацеў перарабіць таго, каго Ён стварыў, а хто атрымаўся? Мы пра сябе сёння сказаць не можам, скажуць пра нас наступныя пакаленні, скажуць і здзівяцца, можа нават і жахнуцца, але ці

накладуць на сябе крыж, адкараскаўшыся ад нас, невядома… Толькі часу тое пад сілу ўбачыць і зразумець…

Нас сабралі на плошчы мазырскага ваенкама. Мы, людзі розных узростаў, але не аднагодкі, як калісьці нас збіралі першы раз і напяльвалі на нас вайсковую форму.

Мы – дарослы народ, сямейнікі, якія маюць дзяцей, але яшчэ далёка да ўнукаў, мы толькі ўвабраліся ў мужчынскую сілу і моц, спазналі бацькоўскія пачуцці да сваіх дзяцей – дачок і сыноў – мы ж цяпер кінутыя атамнаму монстру, які з вялікім жаданнем разявіў сваю пашчу, каб праглынуць нас…

– Шыхтуйся! – падае каманду той маёр, які перапісваў нас у свой сшытак. – Зважай!

Мы вяла прымаем каманду “смірна”, абыякава глядзім наперад, глядзім у пустэчу, далей тоўстай цаглянай сцяны, якая адгарадзіла ваенкамат ад свету і людзей. Мы бязвольныя, але падпарадкаваныя агульнай камандзе чарнобыльскага часу.

– Вольна!

Маёр Кліменка, які падсеў да нас па дарозе, родам з Калінкавічаў, мае гучны голас, увесь падцягнуты, гнуткі, быццам выступае на страявым пасту, глядзіць на наш бязладны строй, і яго голас гучыць неяк нязвыкла і ненатуральна.

– Партыя і савецкі ўрад паставілі перад вамі адказную і вялікую задачу – прыняць удзел у ліквідацыі аварыі на чарнобыльскай станцыі, дзе адбыўся пажар, і яго трэба ўсімі сіламі тушыць. Але вашая задача заключаецца не ў тушэнні, не, гэтым займаюцца пажарнікі, вы будзеце забяспечваць дапамогу ўнутраным службам. Гэта ваш пачэсны абавязак – паслужыць справе савецкага народа і роднай камуністычнай партыі. Генеральны сакратар Міхаіл Гарбачоў сказаў, што…

Над нашымі галовамі каркаюць крумкачы, як быццам прадвяшчаюць нам нялёгкія дні, і не толькі дні, а і ночы… Ніхто не ведае, што чакае нас заўтра, што накаркалі груганы, якія кружаць над намі.

Нас пераапранулі ў вайсковую форму, толькі яна трохі адрознівалася ад той, у якой мы хадзілі на тэрміновай службе. Замест пілотак “кацялкі” з брылём. Хоць ад сонца прыкрывае вочы.

Што сказаў Генеральны, я не чую, як і не чую, пра што картава крумкаюць крумкачы, я ўвогуле нічога не чую, нават не адчуваю, бо я ніхто, не чалавек і не груган, я бесцялесны і мо нават і нябачны, і ніхто цяпер не можа дастукацца да мяне… Бо я не тут, не на ваенкаматаўскім пляцы, я недзе ў вышыні, мо на воблаках, а мо і ў падзямеллі (чаму мяне туды

кідае калі-нікалі, быццам я там згубіў нешта важнае і значнае), і таму сам сябе не разумею і не адчуваю.

– Ты што, п’яны? – штурхае мяне ў грудзі маёр і глядзіць пільна ў вочы. – Паспеў ужо намазацца?

– Мы без гэтага не можам, нам толькі дай набрацца ды пахмяліцца, а астатняе нам па барабане, і палачак нават не трэба, і так цыганачку адаб’ём…

Я нясу несусветную абракадабру, а маёр не адрываецца позіркам ад мяне, не разумее, чаму я такі, чаму лапачу абы што і не ўсміхнуся. Побач са мной стаіць Янка Журба, які ўсяго як год назад “дэмбельнуўся”, злёгку штурхае мяне пад бок, каб вывесці з дэбільнага стану, але я не рэагую на яго тычкі, стаю і ўсміхаюся, гледзячы ў зрэнкі вайскоўца.

– Наркаман, – зрабіў выснову маёр Андрэй Кліменка і адышоў ад мяне, адстаў.

Нешта хацеў сказаць Янка Журба, за локаць мой узяўся, ды тут прагучала каманда:

– Усім у аўтобус!

Ён жа, Янка, і сеў побач са мной. Але не загаворваў са мной, а проста, прыхінуўшыся галавой да спінкі сядзення, з сумам пазіраў за акно. Куды нас збіраліся везці, нам не сказалі, а ўжо ў аўтобусе перадавалі адзін аднаму: “У Кіеўскую вобласць вязуць”.

Везлі нас, як высветлілася, пад саменькі рэактар. Ну не пад яго, дык блізка ад яго – у Араны, што ў якім кіламетры быў ад рэактара. Выгрузілі нас як нежывых. Пакуль ехалі па забруджанай зоне, надыхаліся радыяцыйнай поскудзі напоўніцу. Калі выйшлі і зноў пашыхтаваліся, то мы хісталіся з боку на бок. Не сонна-п’яныя былі, але ж і не цвярозыя. Не наркаманіліся, але радыёпылоты надыхаліся. Яна адразу пранікла ў нашыя лёгкія і ў нашыя мазгі праз крываносныя сасуды.

А маёра Кліменку як быццам нічога не брала – аддаваў дакладныя каманды, правяраў людзей, робячы пераклічку. Голас бадзёры, упэўнены, быццам прывёў нас на страявы плац, каб правесці страявую падрыхтоўку і паказаць камандзірам, як мы навучыліся лоўка маршыраваць.

– Ну, чаго вы так раскіслі? – дапытваўся афіцэр, аглядаючы разладжаны гурт “партызанаў”. – Напіліся дарогай, ці што? Я ж забараніў ужываць спіртное, хто пранёс гарэлку ў салон?

“Каб ты трасцы напіўся, – стомлена падумаў я, – ніхто не піў, бо ніхто і не браў яе, гарэлку ці віно, з сабою ў дарогу”.

Маёр нешта хацеў і яшчэ сказаць, ды захістаўся, адышоў і абапёрся аб сценку будынка, у якім мы павінны былі жыць. Яго званітавала, і ён, нахіліўшыся, рыгануў на зямлю. А потым у яго з носа пайшла кроў.

Аказалася, што пайшла кроў і ў Янкі, майго суседа, і ў некаторых іншых. Яны яшчэ на адчулі таго і размазвалі крывавыя раўчакі па твары. Янка абапёрся на мяне, шукаючы рады. Я падхапіў яго пад пашкі і зацягнуў да лаўкі, паклаў на яе.

– Задзяры галаву, Янка, і кроў спыніцца.

Ён тое і зрабіў. Але я выцер яму твар насоўкай, выкінуў яе ў сметніцу, якая стаяла побач.

Маёр адышоў хутка, адразу ж памыў твар пад мыцельнікам, і ўжо стаяў зноў бадзёрым перад намі, хіба што не ўсміхаўся. Але яго бадзёрасць была не такой, як перад гэтым, а больш сцішаная, памяркоўная, ён проста выконваў сваю працу, аддаючы каманды і размяшчаючы нас на начлег – на часовае месцажыхарства.

Праз дзень маёр некуды знік, мусіць, па стане здароўя яго перавялі ў іншае месца, альбо адправілі зноў у Калінкавіцкі ваенкамат. Мы ж засталіся на месцы.

Ніколі б не мог падумаць, якую нам падсунулі прафесію. З настаўніка гісторыі я ператварыўся ў прачку. Мы мылі вайсковае адзенне – верхняе і ніжняе. Менавіта тое адзенне, якое насілі тыя байцы, якія аказаліся ў горшым стане, чым мы – яны скідалі графіт з даху станцыі, знаходзячыся там не больш за тры хвіліны.

Нехта з нашых здагадаўся тайна пранесці дазіметр (за пляшку пазычыў на паўгадзіны ў дазіметрыстаў-землякоў) у пральню.

Крушнічанін, Пятро Юніцкі, які прыбыў разам са мной на пральны пункт, за галаву хапіўся, паказаў мне:

– Глянь, Антон, стрэлкі б'юцца аб сценачку, не хапае ім прасторы. Тут тысячы і тысячы, паадпадаюць у нас, братка, нашыя члены, з чым да жонак вернемся…

Лепей бы мы і не мералі тую радыяцыю – не толькі наш мужчынскі гонар "выпаў у асадак", а і мазгі перакруціліся ў галаве, пачалі плавіцца ад думкі: "Хто мы, і што тут робім? Хто і для чаго паслаў нас сюды? На смерць? На подзвіг? У імя чаго – подзвіг? Хто нас пасылаў? Хай бы ён разам з намі тут шчыраваў – без аніякай засцярогі, у баваўняным адзенні, якое пранізвае не толькі радыяцыя, але і спякотны жар, пранізвае кожную клетачку нашага цела, кожную веначку і сасудзік… Мы ж кінуты сюды не на здзек, а на смерць. І дурню неадукаванаму зразумела, што мы безабаронныя, мы расхрыстаныя перад усімі радыяцыйнымі смяротнымі вятрамі. Мы павінны даць жыццё наступным пакаленням, а ў нас яны забіваюць той працяг, працяг генафонду нацыі і свайго роду.

Тыя, хто пасылае нас у гэтае пекла, самыя звычайныя забойцы, савецкія забойцы. Забівалі сталінскія нкусаўцы як ворагаў народа, без суда і віны. Яны забіваюць нас і цяпер, а мы самі ўжо забіваем тых дзяцей, якіх не народзім. Божа, за што нам такое? Мы не хочам быць забойцамі сваіх жа дзяцей!.. Пракляцце мы шлем табе, Чарнобыль!"

Баляць галовы больш і больш, нас хістае ўбакі, мы як на палубе вялізнага карабля без парэнчаў і апірышчаў, і нас вось-вось сустрэчная хваля змые, як гаўно, як друз, а ў дадатак ужо ў кожнага адкрылася кровацячэнне, і сцякаюць на шыю чорна-чырвоныя змейкі, а потым яны паўзуць далей – на грудзіну, на жывот, сцякаюць ужо і капаюць на зямлю… Камандзірыначальнікі мяняюцца, а мы не мяняемся, нас няма кім замяніць, мы прывязаныя да нябачнага калочка нябачнай вяроўчынай, як маладыя бычкі перад забоем. Мы на "працоўнай чарнобыльскай вахце", мы падстаўляем сябе промням пачварнага монстра, і ніхто не схавае нас ад яго смяротных абдымкаў і дыхання.

А машыны прывозяць і прывозяць новае бруднае ад чалавечага поту і чарнобыльскага пылу салдацкае адзенне, і мы яго апускаем у чаны, засыпаем мыльныя рэчывы, круцім, палошчам, вымаем, сушым, каб потым складаць адзенне ў пукі і каробкі, каб адправіць па прызначэнні назад.

Побач са мною неадступна топчацца Янка Журба, за ім Валянцін Крупа і Сямён Юніцкі, Віталь Кашаед і Анатоль Кашэвіч, Янка Драпеза і Эдуард Юніцкі… Як толькі не загналі сюды ўсіх маіх крушнічан, якіх некалі нкусаўцы арыштоўвалі і адпраўлялі на той свет, – паўвёскі адправілі як злейшых ворагаў народа. І цяпер мы ворагі, і цяпер мы вінаватыя, і цяпер мы быдла, чарнобыльскае мяса і кроў… І няма нам ніякага даравання, ніхто не заступаецца за нас, можа, і сам Бог адвярнуўся ад нас за нашую бязбожнасць, за нявер'е ў Яго. Кожны атрымлівае тое, што хацеў атрымаць. Вось і мы маем, таму і напоўніцу глытаем і глытаем атрутныя джалы пачвары.

Мы падаем на зямлю, і ніякая сіла нас не можа падняць, бо і той, хто хацеў бы памагчы, падае побач з намі. Усё хістаецца перад вачыма, ды толькі наперадзе, недзе ў праёме дзвярэй, стаіць Наста і крычыць нема, бачачы, як мы ляжым адзін каля аднаго і не разумеем, што з намі адбываецца.

Нехта адабраў ад нас адчуванне часу і нашага становішча, і мы, ап'янелыя і аблашчаныя ласкаю рэактара, тупа глядзім перад сабою вырачанымі вачыма, звар'яцела ўсміхаемся, пускаючы з рота сліну. Нехта ў рот напіхаў нам мусова медзяныя пятакі, і мы смокчам іх, як карамелькі, і сліна медзянага прысмаку сцякае, як жуйка ў каровы, на падлогу, на нашыя грудзі. А мы не адчуваем гэтага, бо мы ідыёты, мы вар'яты, мы – пустэча

ў гэтым жыцці. І, гледзячы адзін на аднаго, здзіўляемся, як лёгка адбываецца ператварэнне чалавека ў дэбіла.

Нас нехта сцягвае ці выцягвае з пральні і кладзе на ложкі, а доктар у белым халаце, раздаючы нейкія пілюлі і запіхвае іх скрозь сціснутыя зубы ў рот, супакойвае:

– Нічога страшнага… Нічога, пройдзе. Перамена клімату, у вас перыяд адаптацыі…

Не, мы не сімулянты, мы сумленна аддаём свой доўг радзіме – магутнай радзіме СССР, якая абераже нас ад хваробаў і няшчасцяў, падлечыць і вылечыць, зноў верне ў рады актыўных будаўнікоў камунізму, – слава роднай КПСС і савецкаму ўраду, яе кіраўнікам слава, слава сакратарам цэка! Пасылалі ў Афган – вярнуліся ў цынкавых трунах, пасылаюць нас на Чарнобыль, мы вернемся таксама, але не ведаем у якім стане, – жывымі ці нябожчыкамі.

– Ура! – крычыць, ачомаўшыся Янка Журба, заўтра заканчваецца наш тэрмін – заўтра два тыдні, як мы тут. – Дадому вернемся, хлопцы!

Але яго ніхто не падтрымлівае, бо не адчуваюць ніякай радасці. Яна вытраўлена з нас, як быццам перасохла крынічка, і вада болей не журчыць, не льецца праз край.

– Антон, паглянь! – кранаецца майго пляча Янка і глядзіць некуды ўверх, у неба. – Што гэта?

Незразумелае відовішча. Мо ў нашых вачах ужо галюцынацыі, бо такога мы не бачылі. Ляціць самалёт, ляціць прама на шэрыя воблакі, але яго абганяе нейкі здаравенны птах, махае даўжэзнымі крыламі, разяўляе дзюбу і глытае тыя воблакі. Глядзяць і астатнія хлопцы, не адрываюць позірку. Нехта з іх наклаў на сябе крыж, шэпча малітву.

Тое дзейства доўжылася мо з хвілінаў пяць. Потым некуды знік самалёт, зрабіўшы над намі круг, паляцела гіганцкая птаха некуды за Прыпяць, у густыя лясы, растварылася ў шызым тумане…

– Што за дыназаўр такі? – пытаецца ў некага Журба, у голасе трывога і страх.

– То птушка фенікс, – адказваю я яму, – нашая палеская птушка, якая аберагае чалавека ад няшчасцяў.

– І нас абераже?

– І нас. Толькі, наглытаўшыся тых атрутных аблокаў, наўрад ці яна сама застанецца ў жывых…

Мы маўчым. Кожны думае пра сваё. А мо і не думаем зусім, бо і думак у нашых галовах, пранізаных смяротнай радыяцыяй, быць не павінна.

Раніцай прыйшоў да нас прадстаўнік ваенкамата. Разгарнуў тоўсты сшытак, падступаецца да кожнага, патрабуе:

– Распішыцеся.

– За што распісацца, таварыш капітан?

– За тое, што тэрмін вашых збораў скончыўся, але па новым указе зноў працягваецца. Яшчэ на тыдзень. А тады вы вольныя, вяртайцеся да сваіх жонак і нявест.

Мы ж "партызаны", мы – народ паслухмяны. Нам загадай – мы выканаем. За партыю камуністаў жыццё пакладзём. Партыя – наша сонца і шчасце. Таму нам сонца не трэба, нам партыя свеціць. Перадапошнім падпісаў Журба, я пасля яго.

Усе панурыя, невясёлыя. Абяцалі адно, падсунулі другое. Як спявалі некалі: "Палучы, дзярэўня, трактар, распішысь за самавар…" І мы за тое ж распісаліся. Янка хінецца да мяне, як што расказаць хоча, падзяліцца нечым патаемным. Але ўсё не выпадае часу і магчымасці, нам і разагнуцца няма калі, на перакур часу амаль не даюць, хаця я чалавек некурашчы, ці няпалячы.

Янка стамляецца больш і хутчэй за ўсіх, яго пастаянна хіліць у сон і з носу, як і раней, цякуць крывавыя раўчакі. Яму б у шпіталь ці ў лякарню, ды пад кропельніцы, каб памянялі ці амаладзілі кроў, а яму ніхто такую раскошу не прапаноўвае…

Праляцела і яшчэ два тыдні. Ніхто не крычыць "ура", бо і радасці мы ўжо не адчуваем, што пазбавімся ад пральных путаў. Нам ужо "да фені" ўсё на свеце, як і нашае жыццё. Але раніцай ваенкаматавец зноў разгортвае той чорны сшытак са спісам "партызанаў", прымушае распісацца кожнага. Праз паўмесяца тое ж самае, потым зноў… Так прайшоў месяц, другі, трэці…

– Ды што гэта за здзекі?! – не вытрымаў Пецька Прэзаў, калінкаўчанін, вырваў той сшытак з рук маёра, шпурнуў некуды ў парог, ускочыў з месца, голас надрыўны, роспачны. – Вы што нас сюды на катаргу замест уранавых руднікоў закінулі? Ды пайшоў ты, сука ваенкамataўская, на х… са сваімі загадамі! Вон адсюль!

І сеў на табурэтку, галаву рукамі абхапіў, здаецца, ён плакаў, бо больш ужо гаварыць ці крычаць не мог.

У сваю чаргу вызверыўся і маёр, падступіўшыся да яго, вочы вырачыў ад здзіўлення, зароў яшчэ грамчэй, чым хлопец з Калінкавічаў:

– Ты што, б…, выпендрываешся тут перада мной, пад трыбунал захацеў?! Дык я гэта мігам арганізую. Ты што, забыўся, ё… тваю ….., што вы тут усе на ваенным палажэніі?

– Ведаем, ведаем, але ж мы не ведаем, колькі мы тут глытаем радыяцыі, – не вытрымаў я і падышоў да маёра. – Трыбуналам пужаеш? А мы хіба не пад трыбуналам цяпер? Га? Мы ж тут за кратамі, хаця і нябачнымі, хто нас засудзіў на смерць?!

– Тут амаль няма радыяцыі! – заявіў ваенкаматавец. – Вось у мяне дазіметр, даказаць магу.

Ён дастаў з сумкі невялічкі прыбор, паклаў на зямлю. На табло высвецілася невялічкая доза радыяцыі – 0,2 рэнтгена.

– Ну, што я казаў, фон нармальны.

– Затое ты не нармальны, маёр! – выходжу я з сябе. – Мы мералі ўчора сапраўдным дазіметрам, тут нельга нават гадзіны знаходзіцца. Так што ты засунь сваю піскалку ў жопу!

Маёр не прывык да такога абыходжання, ніхто, мусіць, яму ніколі не пярэчыў, таму ў яго адняло язык і ён ротам хапаў паветра, каб адказаць мне. Але мы “партызаны”, нам законы не пісаны, намі не пакамандуеш, мы ўмеем і агрызацца. А не, дык і ў морду можам заехаць кулаком, нам ужо нічога страшней не будзе…

Маёр, скрыгатнуўшы зубамі, каб не нарвацца на яшчэ большы супраціў, пакінуў нас. Але ў нашых душак палёгкі не было, яшчэ большая гнятлівасць авалодала намі. Нам раздалі карткі па ўліку радыеактыўнага апраменьвання. У маіх руках аказалася картка радавога Івана Журбы. Прабегся па старонцы. Напісана наступнае:

*“18.08.86–0,2 рэнтгены, 06.09.86–2,2 рнг, 27.09.86–5,6 рнг, 17.10.86–8,3 рнг, 05.11.86 –12,6…” Подпіс у картачцы паставіў камандзір 1-га ўзвода капітан Калінкавіцкага ваенкамата Агуновіч…*

Лухта якая! Падман! Ганьба тым, хто падмяняе адныя паняцці другімі. Ці гэта метад савецкай улады – падманваць людзей?

– Мы смяротнікі з вамі, хлопцы! – роспачна крыкнуў Сяргей – хлопец з Калінкавіцкага раёна. – І ніхто не адкажа, калі мы ляжам у труну… Служу Савецкаму Саюзу? Але ж мы – не штрафбат!..

– Мы – заложнікі! Заложнікі савецкай сістэмы і часу!

У нас атрымлівалася нешта накшталт невялічкага мітынгу. Толькі Янка Журба сядзеў на падлозе і прыхінуўся патыліцай да сцяны, як быццам драмаў. Мо ён і не чуў, пра што мы гаварылі, каго праклінaлі, каму жадалі праваліцца ў апраметную…

Па твары хлопца цяклі слёзы, і ён сам быў як нежывы, як і не сярод нас…

Я прытуліў яго да сябе, як мог, пачаў супакойваць:

– Янік, не перажывай, мы вернемся дадому. Матуля цябе дачакаецца, брат дачакаецца, дзяўчына дачакаецца…

– Калі і дачакаецца, то і што з таго?..

Галава безжыццёва схілілася і ўпала мне на плячо».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**10**

…Калі скончылася нашае зняволенне, а гэта так насамрэч і выглядала, бо тэрмін налічваў не першапачатковых два тыдні, а цэлых… пяць месяцаў. Амаль паўгода!?

Ніхто, мусіць, такі час не знаходзіўся ў зоне. Ды ў якой зоне! Смяротнай! Толькі нам выпала такое «шчасце».

Той жа капітан ваенкамата, падпісваючы нам дакументы, выдаў падпісаныя ім карткі. І там значылася: «25.11.86–16,7 рнг, 13.12.86–19,8 рнг». Вось з такім «багаццем» радыяцыі мы і павінны вярнуцца да мірнай працы.

– А як нам дабірацца дадому? – падышоў я да капітана, калі той збіраўся пайсці да «газіка», каб пакінуць нас.

– На адзінаццатым нумары, хлопцы, на адзінаццатым, – усміхнуўся Агуновіч, – вы таго заслужылі…

Вось табе і аддзячылі. Вось табе адслужылі і заслужылі. Адно што ордэнаў нам не выдалі, хаця мы асабліва і не разлічвалі на іх.

Камандаванне ўзяў на сябе мой аднавясковец – Язэп Крупа.

– Разбіваемся на тры групы, – пачаў ён размеркаванне. – Першымі пойдуць тыя, хто слабей здароўем, за імі – «сярэднякі», трэція – здаравейшыя. Мы самыя апошнія пойдзем. Першым будзе ісці цяжка, пагэтаму мы, як апошнія, будзем падбіраць іх па дарозе. Я думаю, што мы сустрэнем спадарожную, якая будзе рухацца ў бок Мазыра.

Янка Журба разам з сябрамі доўга ішоў пешшу. Стаміўшыся, пасядалі на халодную зямлю. А ўжо быў снежань. Яны ўжо і не «галасавалі» спадарожным, рукі стаміліся падымаць.

– Куды шлях трымаеце, хлопцы?

Каля іх спынілася грузавая машына, і вясёлы хлопец выглядваў з кабіны. Не дачакаўшыся адказу, загадаў хлопцам:

– Калі нам па дарозе, залязайце ў кузаў. Мне потым на Менск…

Хлопцы ўсталі і, хістаючыся, пайшлі да грузавіка. Ускараскаліся наверх, пападалі на днішча.

Потым, пад’ехаўшы да абяцанага павароту, кіроўца спыніў грузавік.

Вось тут я і дагнаў Янку Журбу. Радасна абняліся, і пайшлі пешшу далей. А потым кампанія распалася. Хто сеў у спадарожную, хто адстаў, спасылаючыся на стому, і мы засталіся толькі з Янкам.

Вось і Мазыр. Толькі ён быў недзе збоку, свяціўся слабымі агнямі. Мы ішлі, абняўшыся, падтрымліваючы адзін аднаго, бо ў нас падкошваліся ногі. Не чулі і не заўважылі, як каля нас спынілася міліцэйская машына, як нас падхапілі пад рукі і павалаклі да машыны.

– Алкашы…

– Хлопцы, мы не п'яныя… Мы – ліквідатары, з Чарнобыля пешшу ідзём, са збораў, нам нават машыны ніякай не далі.

– Вось праспіцеся ў выцвярэзніку, тады не будзеце трызніць Чарнобылем. Ліквідатары хрэнавыя…

Нас груба, як палянякаў, закінулі ў «варанок»…

Толькі раніцай разабраліся, што да чаго, узяўшы нашыя дакументы, пахіталі толькі галовамі, адпусцілі. Але не папрасілі нават прабачэння за начны хапун, не далі нават транспарт, каб адвезці хаця б Янку на вуліцу Аўражную…

Праводзіў я Янку Журбу дадому. Маці ледзьве прызнала ў ім сына. Валеры абняў брата, заплакаў, убачыўшы, у якім ён стане.

Праз дзень работнік ваенкамата прынёс новую позву – ужо для Валеры, брата Янкі.

– Не аддам сына! – загарадзіла сабой Марыя Сямёнаўна хлопца. – Не пушчу. Вунь што з першым зрабілі…

– За невыкананне загаду – пад трыбунал, – уздыхнуў вайсковец.

– Не пушчу-ууу! – у роспачы закрычала маці і тут жа, непрытомная, упала на падлогу…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І трэба ж…

Прызыўнікоў да месца збораў рашылі везці на грузавой машыне. Рэзервісты заўпарціліся, адмовіліся «грузіцца» на машыну. На іх наставілі рулі аўтаматаў: як эсэсаўцы некалі заганялі вяскоўцаў на тупарылыя машыны. Сядзелі на голай падлозе, нічога нават не падсцялілі. Ні тэнтаў над галавой, ні лавак, каб сядзець. А марозік ужо за дзесяць градусаў, прабіраў наскрозь…

І трэба ж… Іх прывезлі туды, дзе пяць месяцаў мы былі вязнямі, дзе апраменьваўся брат Валеры – Янка. На той жа самы пральны перасоўны ваенны пункт – камбінат. Адно што Валеры стаў не пральшчыкам, а качагарам. Там хоць цёпла было, але ніяк не мог адысці ад прастуды: усе хлопцы загрыпавалі. Памералі радыяцыю ў качагарцы – «жывы рэактар».

І ўсіх адразу пяршэнне ў горле, кроў з носу, галавакружэнні. Пілі гарэлку, але і яна не дапамагала.

На сцяне чорным мазутам нехта напісаў: «Ты забойца, Чарнобыль!..» І подпіс *ІЖ*. «Дык гэта ж Янка пісаў, брацік мой! – усхвалявана падумаў Валеры Журба. – Іван Журба».

Дадому Валеры вярнуўся ажно ў траўні 1987 года – дзевятнаццатага.

Першую ноч ніяк не маглі нагаварыцца.

– Ты як, Янік? Здароўе як?

– Кепска. З кожным днём усё горшае.

– А дактары?

– Што дактары… Ім забаронена звязваць маю хваробу з Чарнобылем. Пра апраменьванне ніхто і словам не намякае… А ты сам як?

– Так, як і ты. Слабасць, галавакружэнне, бесперапынна з носу цячэ кроў.

– Калі я сядзеў у паліклініцы ў чарзе да доктара, – цяжка дыхаючы, расказваў Янка, – сядзеў побач са мной нейкі дзядзька. Паглядзеў на мяне, моўчкі дазіметр падставіў да пляча. Калі нешта запікала, паказаў мне. На экране выскачыла страшэнная лічба… «Ты, хлопча, як чарнобыльскі рэактар», – прамовіў ён і адсунуўся ад мяне. Параселі на іншыя месцы і другія людзі. Я як пракажоны, як ізгой, ад мяне ўсе шарахаюцца як ад страшыдлы…

І заплакаў Янка, не могучы больш гаварыць. Паклаў яму на плячо Валеры галаву, абняў. Паміж імі ўсталявалася гучнае маўчанне, звон Чарнобыля гудзеў у іх душах і сэрцы, ціснуў на вушы, адбіраў розум і свядомасць…

Калі маці чарговы раз хацела завесці сына ў мазырскую паліклініку, узяла з шафкі медыцынскую картку, прачытала на апошняй старонцы: «Мамачка, любая, не старайся… Мне ўсё роўна жыць засталося мала. Мяне забіў Чарнобыль!..»

Марыя Сямёнаўна праплакала ўсю ноч.

Янка прапанаваў каханай пабрацца. Дзяўчына згадзілася. Зацяжарыла нават. А калі ён пакрыўся струпамі, з носа цякла, не пераставала, кроў, калі ён ужо хадзіць не змог, адразу зрабіла аборт. Ведала: здаровым дзіця не народзіцца…

Янка Журба памёр. Марыя Сямёнаўна хадзіла ў ваенкамат – прасіла дапамогі пахаваць сына. Не далі. Тады яна прыйшла ў ваенкамат, трымаючы ў руках сякеру. Так і зайшла ў кабінет ваеннага камісара Анатоля Андрэйчанкі. У яго і намеснік акурат знаходзіўся – Іванчанка, які непа-

срэдна адпраўляў Янку на зборы… Замахнулася… Скруцілі жанчыну, вар'яткай прызналі…

А яна плакала, лежачы ўжо, звязаная на падлозе, выла як параненая ваўчыца:

– То вы Яніка забілі-іі, то вы яго ў Чарнобыль пагналі, вы-ыыыы… А цяпер і пахаваць не даяце-еее… Будзьце вы ўсе…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пазней, апраўдваючы званне «летапісца», якое мне прысвоілі сябры, я занатую ў асобным сшытку пра Чарнобыльскі год і падзеі наступнае:

«Савецкія ідэолагі самую буйную катастрофу ў гісторыі мірнага атама назвалі чамусьці "аварыяй". Хіба можна так назваць выбух у Хірасіме? А Чарнобыль у шэсцьсот разоў пераўзышоў яго па магутнасці забруджвання наваколля.

Калі ў першыя гадзіны на станцыю прыбылі спецыялісты-атамшчыкі і пажарныя для ліквідацыі здарэння – і іх назвалі ад гэтага «ліквідатарамі», то і яны не ведалі нічога пра тое, ці бяспечныя дозы радыеактыўнага заражэння. Стаяла простая задача патушыць пажар пасля выбуху, каб полымя не перакінулася на суседнія энергаблокі, каб Чарнобыль сваімі рукамі не ахапіў увесь зямны шар…

Доза радыяцыі, якую атрымалі пажарныя, была "зашкаленай" – каля 1000–2000 Р і вышэй. Чацвёра пажарных пражылі пасля гэтага толькі два тыдні… Дваццаць чатыры чалавекі з аператыўнага персаналу 26-га красавіка загінулі адразу. Дваццаць сёмага красавіка пажарныя разлікі з гарадоў Ірпеня і Бровараў, Баярак і Іванкова, самога Кіева займаліся адкачкай вады з ніжніх узроўняў станцыі аўтацыстэрнамі і ПНС. Ад вады зыходзіла радыяцыя 200–500 Р і вышэй.

А ў траўні здарыўся яшчэ адзін пажар, пра які мала хто ведае. У дзве гадзіны ночы (з 22-га на 23-е) ў памяшканнях чацвёртага атамнага энергаблока станцыі нечакана адбыўся (паўторна) пажар. А саркафаг над рэактарам яшчэ не быў дабудаваны, і таму выпраменьваў вялікую радыяцыю. Полымя ахапіла галоўныя цыркуляцыйныя насосы і кабелі высокага напружання.

Падпалкоўнік Уладзімір Максімчук кіраваў зводнай групай пажарных разлікаў-ліквідатараў, узначальваў разведгрупу. Ён сам першы, не ўзгадняючы ні з кім свае дзеянні, нырнуў у зону пажару. Удакладніў месца пажару і ўзровень радыяцыі – 250 рэнтген у гадзіну. Ліквідатар мог там знаходзіцца толькі шэсць-восем хвілінаў. Максімчук некалькі разоў адпраўляўся ў тое пекла, разам з ім і іншыя ліквідатары. Ліквідавалі пажар толькі раніцай, папярэдзілі паўторны выбух рэактара.

318 пажарнікаў змагаліся той ноччу з агнём і радыяцыяй, усе атрымалі высокія дозы радыяцыі. Сорак трапіла ў шпіталь, у тым ліку і Максімчук. Але што дзіўна тое здарэнне – ліквідацыя паўторнага пажару – была строга засакрэчана. Пасля цяжкай хваробы Уладзімір Максімчук 22 траўня 1994 года памёр. Пасмяротна ўжо яму прысвоена званне Героя Расійскай Федэрацыі.

Мы, хто меў прымачы, напружвалі слых, каб пачуць праўду пра Чарнобыль не з савецкіх радыёстанцый, а з замежных – “Голас Амерыкі”. Хаця і глушылі “чужыя галасы”, але мы нешта пачулі… Увесь свет жыў у трывозе за жыццё беларусаў і ўкраінцаў, а ў нас гулянні, фэсты, музыка і песні.

Святкуем Першамай. Першы сакратар кампартыі Украіны, праводзячы парад, узяў з сабою ўнукаў, паказваючы, што нічога страшнага ў Чарнобылі не адбылося. А потым, калі атрымаў адстаўку, скончыў жыццё самагубствам.

**11**

…У выніку выбуху “атамнай чарнобыльскай бомбы” адбыўся выкід радыеактыўных рэчываў – ізатопаў урану, плутонію, ёду-131 (перыяд паўраспаду восем дзён), цэзію-134 (два гады паўраспад), цэзію-137 (22 гады), стронцыю-90 (28). Як і ад чаго ўсё тое здарылася?

На 25 красавіка запланавалі спыніць чацвёрты энергаблок. Для чарговага планава-папераджальнага рамонту. Падчас такіх момантаў праводзіліся розныя выпрабаванні абсталявання. Калі праводзілі раней такія эксперыменты, яны заканчваліся няўдала. І ўсё ж і на гэты раз рашылі правесці – а раптам пашанцуе. А раптам… На табло 1:23:39. І ў гэты ж момант спрацаваў сігнал аварыйнай засцярогі АЗ-5. Аператар націснуў кнопку пульта – безвынікова: рэактар не заглушыўся. Праз дзве секунды паўторны сігнал з АЗ-5. А потым пачуліся розныя сігналы, якія сведчылі пра тое, што рэзка пачала ўзрастаць магутнасць, адразу ж выйшлі са строю сістэмы рэгістрацыі. Адбылося некалькі магутных udaраў – выбухаў. А калі на табло высвеціліся зялёныя лічбы 1:23:47–1:23:50, рэактар аказаўся поўнасцю разбураным.

Разбурэнне мела выбуховы характар, і ў навакольнае асяроддзе былі выкінутыя тоны і тоны радыеактыўных рэчываў. Катастрофа на ЧАЭС параўноўвалася з Апакаліпсісам. Яна – самая буйная катастрофа за ўсю гісторыю атамнай энергетыкі як па колькасці загінулых і тых, хто апраменіўся, так і па эканамічных стратах…

А хто палічыць духоўныя страты?

І ці магчыма іх падлічыць? Наўрад ці…

Дарэчы… Радыеактыўныя аблокі вецер гнаў у кірунку Масквы. Агулам і тэрмінова прынялі рашэнне: каб не дапусціць прышэсце воблакаў на сталіцу, неабходна тыя аблокі развярнуць і пусціць у іншым кірунку альбо знішчыць. Лётчыкі пачалі здзяйсняць аперацыю, але не давялі яе да канца. Перад імі невядома адкуль з'явілася агромністая птушка, якая лецела паперадзе іх, і пачала паглынаць тыя воблакі. Так, так, менавіта глытаць, бо дзюба разяўлялася нават шырэй за тое воблака. Не ўсе авіятары засталіся жывымі пасля той аперацыі, але тыя, хто выжыў, з жахам успаміналі пра тое, што яны бачылі перад сабой.

У складзе той эскадрыллі быў і спрактыкаваны Клім Алегаў. Ён расказваў: "Было очень страшно от осознания непонятности происходившего. Нам ведь толком что к чему не объяснили, тем более пришлось ужаснуться, видя, как эта птица пожирала тучи, словно старалась опередить нас".

Птушка фенікс захінала родную зямлю – Палессе – ад жудаснай бяды, абараняла і яе жыхароў. І ўсяго жывога – як у вадзе, так і на зямлі. Абараніўшы, яна пасялілася ў нетрысках Палесся, дзе не ступала нага чалавека, каб цяпер мы ўжо абаранілі яе і вылекавалі. Яна загоіць свае раны і ўзнясецца ў неба, стане зноў нам памагаць…»

Я схаваў свае нататкі, каб потым некалі звярнуцца да іх, калі прыйдзе час. Не ведаю, якая пара, але чарнобыль, думаю, да канца не даследаваны, як і Вялікая Айчынная… Хто хавае праўду і для чаго, мы не ведаем. Як і не ведаем, што нас чакае заўтра.

А што чакае ўчора, тое можа прыйсці заўтра, а заўтрашняе мроіва можа адгукнуцца ўчора. Гэта ўжо як каму даспадобы. Але нічога не стаіць на месцы: яно альбо робіць крок наперад, альбо адыходзіць назад. Паўтараецца ў мінулым, як і паўтараецца ў будучыні. Толькі невядома, як разабрацца і адрозніць будучыню ад учарашняга. Сённяшні дзень – гэта заўтра, ці ўчора? Гледзячы, якое вымярэнне прыкласці да гэтага. Зноў жа – тых вымярэнняў існуе некалькі. І ўсе сапраўдныя. Мы можам жыць заўтра і думаць, што пражываем учарашні дзень, а можам жыць і ўчора, думаючы, што мы знаходзімся ў будучыні.

Так тлумачыў мне мой дзед-каваль Міхась, лётаючы-пералятаючы з аднаго вымярэння ў другое. Я не перапытваў, не ўдакладняў, хаця ніяк не мог даўмецца, на чым грунтуюцца яго думкі, як і тыя дзеянні, у якія ён кідаў мяне. А ён ведаў, што я яшчэ не да канца ўсведамляў і разумеў яго нябесна-зямную-падзямельную адысею, а мо і антлантыду, хто ведае,

таму і не прыспешваў да разумення і прымання яе, чакаў. Верыў толькі, што заўтрашні дзень наступіў учора, проста я яшчэ не пачуў таго голасу, які клікаў мяне і запрашаў у свае ўладанні… Але каваль быў перакананы, што я пачую той голас, зразумею яго, прыму ў сваё сэрца і буду сваім чалавекам у чароўным валадарстве, дзе можа вольна пачувацца кожны чалавек…

Заўтра, учора, сёння…

«Што ўчора, што заўтра, што сёння?..

У якім стагоддзі ці тысячагоддзі я жыву? Усё перакруцілася, перавярнулася, перайначылася. Пераплялося і сплялося ўсё ў адзін клубок, колерам памянялася, душы нашыя як быццам засталіся ў нашым целе, але і яны неяк перамяніліся, стукаюць у скроні і дапытваюцца, чаму мы не скідаем свае скуры, у якія загарнуліся, чаму не скінем пялюшкі, якімі нас абвілі тыя, хто хацеў нашае пакоры?

Леглі спаць з адным настроем, а прачнуліся з іншым, выглянулі ў акно, а тым ужо не толькі заўтрашні дзень, а і новая эпоха…

Сніўся мне сон: нехта піхнуў мяне з вялізнай гары, і я не змог утрымацца, паляцеў уніз, зачапіўся рукамі за нейкую караняку, але не ўтрымаўся, невядомая сіла панесла мяне ўніз…

Божа, што творыцца ў свеце? На нашым, бліжэйшым свеце, не чужым, не далёкім… Пачатак года – каля Віленскай тэлевежы страляніна. Літвіны не хочуць быць пад ігам магутнага эсэсэсэра. Паўлаўская рэформа як тое злое полымя спаліла тое, што мы накапілі. Прыйшлося аддаваць савецкія рублі – 50 і 100, мяняць іх на новыя. Аддалі і адчулі сябе жабракамі – нас абрабавалі. То гаварылі пра забастоўкі за мяжой (чаго ім не хапае?), а ў нас раптоўна пачаліся забастоўкі шахцёраў – і гэта аніяк не вяжацца з савецка-бальшавіцкай ідэалогіяй.

Глухія ўдары шахцёрскіх касак па булыжніках – новая мелодыя новых сімфоній раэлій часу. Агульнае стварэнне мелодыі, а не адзін кампазітар.

У сакавіку людзі, якія паверылі ў дэмакратыю, узарваліся абурэннем, і яно дасягнула апагея – вось-вось выбухне вайной. Каб патушыць пажар, зрабілі манеўр – рэферэндум за СССР. Усе хацелі жыць шчасліва, але на старым месцы, у СССР. Амаль усе паднялі рукі “за”. Але тое ўжо нічога не азначала, крыгаход набіраў моц, і рака ўзарвался, хлынула ў акіян…

А за акіянам што робіцца! Старэйшы Буш наладжвае “Буру ў пустыні” і пагражае Садаму. Адмяняецца апартэід у ЮАР. У Самалі прыйшла канчатковая і безаблічная анархія… А ў Югаславіі пачынаецца грамадзянская вайна…

А ў нас, у лагеры сацыялізму, перанітаваным калючым дротам, выбухнула вялікая жнівеньская рэвалюцыя. Паверыць нельга ў тое. Дзевятнаццатага жніўня ўладу бярэ ў рукі гэкачэпэ, і ў Маскву ўваходзяць танкі.

Усе ўключаюць тэлевізары, хочуць пачуць "праўду" пра падзеі, а там кіруе працэсам Чайкоўскі – "Лебядзінае возера" па ўсіх каналах. Як і пра Чарнобыль праўду гаварылі – скокі і футбол, ды яшчэ на брагінскім стадыёне, побач з рэактарам…

Гарбачоў, якога арыштавалі ў Фаросе, вымаўляе самую кароткую і вядомую на ўвесь свет фразу: "Мудакі!" Народ спявае песні, і радасна-ўзбуджана ўзводзяць барыкады. А дваццаць першага жніўня Ельцын зрынуў путчыстаў, а заадно і помнік крываваму Дзяржынскаму. Над Крамлём узвіваецца расейскі трыкалор.

Ленінград скідвае з сябе назву кіраўніка бальшавіцкага перавароту і робіцца Санкт-Пецярбургам. Кіраўнікі трох рэспублік у Белавежы падпісваюць пагадненне аб заснаванні нейкага новага стварэння ці ўтварэння – СНД: Саюз Незалежных Дзяржаў…

Перад Новым годам Гарбачоў адракаецца ад улады – ідзе ў адстаўку, і магутны эсэсэр застанецца толькі ў нашай памяці…

З глузду з'ехаць можна, пераждыўшы гэтыя падзеі.

Учора мы жылі ў асэсэр, а сёння ў эсэндэ. Як вам такое падабаецца?

Мне яно падабаецца, я да гэтага пераходу быў гатовы даўно, яшчэ з тых часоў, калі мы на кухні Кіма марылі пра свабоду і незалежнасць.

А ў нас 19 верасня 1991 года адбылася значная падзея: гістарычная сімволіка – Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг – прызнаны дзяржаўнымі сімваламі. Тады, як разваліўся саюз паняволеных рэспублік, Вярхоўная Рада Беларусі 12-га склікання – парламент, які быў абраны на часткова свабодных выбарах, і было прынята такое рашэнне.

Бо раней бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня" служылі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі – першага дзяржаўнага ўтварэння, якое і абвясціла сваю незалежнасць ад іншых краін і стала выкарыстоўваць азначэнне "беларускі". Людзі ўпершыню, а хто і не ўпершыню, убачылі наш гістарычны сімвал – герб "Пагоня": ваяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі, і вядомы ён з глыбокай старажытнасці. І выкарыстоўваўся ён у якасці дзяржаўнага герба Княства Літоўскага, старажытнай беларускай дзяржавы, вялікі князь Віцень карыстаўся ім у канцы XIII стагоддзя, ім жа ўпрыгожаныя ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі Літоўскай метрыкі і Статутаў.

Падчас усіх вырашальных бітваў на палях змагання ад Грунвальда да Оршы Пагоня лунала на сцягах беларуска-літоўскага войска.

Пасля Люблінскай уніі Пагоня мела аднолькавую вагу, як і польскі белы арол, таму змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу. Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі, калі Беларусь падпала пад уладу Расеі, Пагоня засталася гербам беларускіх губерняў. Бел-чырвона-белы сцяг у сённяшнім выглядзе, у адрозненне ад Пагоні, мае непасрэднага канкрэтнага аўтара.

Сцяг стварыў у 1917 Клаўдзій Дуж-Душэўскі. Створаны ім сцяг упершыню быў узняты вясной 1917 года на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу, а Дуж-Душэўскі з'яўляўся супрацоўнікам гэтага таварыства. Бел-чырвона-беларускую стужку (пасачак) насілі вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб сярод усіх пазнаваць сваіх. А ў снежні таго ж года ў Менску, калі праходзіў Усебеларускі з'езд, бел-чырвона-белы сцяг адзінадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. З таго часу ён і стаў лічыцца Дзяржаўным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Калі ў верасні наведаў Менск – быў на канферэнцыі настаўнікаў-гісторыкаў, – то нам раздавалі на плошчы бел-чырвона-белыя сцяжкі. Дарылі іх усім, хто падыходзіў. Ніхто не абыходзіў таго, хто раздаваў іх. Колькі іх было пад сталом невядома, але мне здавалася, калі б і мільён людзей знаходзілася на плошчы, хапіла б кожнаму.

Падаравалі сцяжкі і мне. Адразу, узяўшы ў рукі, адчуў прыліў невядомай радасці, невядомага ўзрушэння, невядомай да гэтага часу ўзнёсласці. Мне як быццам падаравалі маю сілу, маю ўпэўненасць, маю будучыню. І ўсе твары, што бачыў наўкола, мне падаліся знаёмымі і блізкімі, больш за тое, у кожным я ўбачыў свайго брата ці сястру.

Дзіўнае то было пачуццё, незабыўнае, яно ўзнесла мяне над плошчаю, над людзьмі, над дамамі, і падалося мне, што зваліўся з п'едэстала той ідал, які выдаўжыў сваю руку над людзьмі, стараючыся іх зноў зацягнуць у свае сатанінскія мярэжы…

Усё кулялася. Пераварочвалася, перайначвалася. Нехта кіраваў мною, маімі паводзінамі. Скіроўваў мае думкі ў нейкае іншае, невядомае, але цікавае рэчышча, надзяляючы мяне незвычайным уменнем і сілай супрацьстаяць нейкім іншым сілам, якія яшчэ мелі магутныя чорныя крылы, і хацелі зноў завалодаць сусветам…

Я нымраў ва ўсход і захад, чырвань і бель мяняліся і прымалі новыя фарбы, але бел-чырвона-белае неба над намі адкрывала перад людзьмі

шлях да Бога. Шлях сілкаваў поступ, акрываўлены смерцямі слынных правадыроў, белізной бінтоў, якімі былі перавязаны свежыя раны…

Дзівіўся сам сабе, як я раней не бачыў такіх межаў, якія і не былі межамі, а відовішчамі змаганняў з чужынцамі, супрацьстаянне таму, што нас хацелі перарабіць і перахрысціць нанова, і невядомая ўзнёслая музыка ці мелодыя ўлівалася ў нашыя сэрцы, бальзамам клалася на нашыя душы. Гэтае пачуццё не дадзена адчуць тым, хто не баяўся страціць сваю радзіму, здрадзіць пралітай крыві тых, хто змагаўся за нас, сённяшніх, верачы, што іх кроў святая і акропленая Госпадам.

Божа, як перадаць гэтае пачуццё і ўзнёсласць! Слоў такіх няма і не існуе ў свеце. А можа іх і не трэба, тых слоў, бо радасць не мае голасу і слоў, душа прамаўляе іх да Бога маўкліва і шчыра, і таму маўклівасць той радасці гучыць моцна і ўладарна, падпарадкоўваючы сабе Сусвет і Маўчанне, як і яны падпарадкоўваюць нашыя думкі і радасць да агульнага вянка найвышэйшай асалоды і задаволенасці.

Доўга яшчэ не апускаўся я да людскога натоўпу, сузіраючы, новымі ўжо вачыма, сусвет і наваколле, людскі натоўп і зладжаную нечаканую імпрэзу, якую ніхто не арганізоўваў, а таму і не разганяў…

Людскія твары свяціліся як маленькія сонцы, вочы кожнага выпраменьвалі дабрыню і спадзяванне на лепшае, і кожнаму большага шчасця, здаецца, і не жадалася, не мроілася, адно сэрцы шматмільённай грамады зліваліся ў агульны такт: “Мы выжывем, мы выстаім, мы адстаім сябе і наш пладлівы агарод! Божа, памажы!..”

Прыехаўшы дадому, я прымацаваў той сцяжок да вугла сваёй хаты… Стаў, так бы мовіць, беларусам нашай новай дзяржавы. У душы радасць і ўзнёсласць. А на фасадзе вясковай рады, дзе працавала жонка, вывесіў вялікі сцяг, які па разнарадцы прыслалі раённыя ўлады. Павесіў, і ён адразу ажыў, як птушка фенікс замахаў пад ветрам сваімі крыламі, спрабуючы ўзляцець у неба, каб абараніць нас ад нейкай навалы, усяляючы ў нас новыя спадзяванні і мары…

А ў кастрычніку мы з Настай выправіліся ў лес.

А разам з намі Гром і Жуча…

І нечакана сустрэлі на сваім шляху ў лесе Яніну…»

# V. ВЯЛІКАМУ ГЕТМАНУ АДДАНЫ

## 1

Ён праваліўся ў багну. Мяккую і пульхную багну. Яна абняла яго, як каханка, як жаданая жанчына, спавіла з ног да галавы, шаптаць пачала нешта ласкавае і пяшчотнае, люляла яго, закалыхвала, зачароўвала таямнічымі словамі, абяцаючы яму няйначай рай незямны, рай дзівосны, у якім ён не быў ніколі, не наведваўся. Слоў не разумеў, але здагадваўся, што яны прызначаліся толькі для яго, і падрыхтаваныя, мусіць, даўно, мо і сотні гадоў таму… Але дзіўна – словы клаліся лагодна на душу, супакойвалі, настройвалі на добры лад, забіралі трывогу і незразумеласць, сцішвалі ўнутранае трымценне, адпрэчвалі ўсялякі недавер ці здзіўленне, – і ён паддаўся чарам невядомага становішча, прыняў умовы, якія дыктаваліся яму… Разумеў: нічога іншага не заставалася рабіць. Ён знаходзіўся ў палоне. І таму павінен падпарадкоўвацца. Адно невядома толькі – якія акупанты ўмяшаліся ў яго асабістае жыццё, што без яго згоды і жадання, паланілі яго. Хто яны – тыя агрэсары? Добрыя ці злыя? І што чакаць ад іх – пакарання ці памілавання?

Страху, калі ляцеў у апраметную, не адчуваў, хіба здзіўленне і здранцвеласць падступіліся да яго, непаразуменне нават, што такое магло з ім адбыцца; адчуванне, што ляціць у бяздонны калодзеж не пакідала яго, разумеў хіба, што толькі і заставалася яму чакаць, калі ён пляснецца аб нейкае дно, калі яно ёсць і насамрэч, а дно тое ці паверхня акіяна, ці нейкая глеба – цвердзь; тое напамінала яму падарожжы па космасе з новым сябрам Ігнатам, калі заходзіў у кузню… Яго падзенне ці палёт доўжыўся і секунду, і дзве, і ўжо хвіліну ён знаходзіўся ці то ў бязважкасці, ці то ў здранцвенні, як быццам вагаўся – ці то ўзляцець, як і раней сягаў, ці рынуцца ў невядомасць – уніз… Хаця і там, унізе, пад зямлёй ён паспеў пабываць, туды ж вяла дарога з дзедавай кузні. Але цяперашняе яго перамяшчэнне не было падобным да ранейшых падарожжаў і палётаў, можа ён і не перамяшчаўся зусім, то сусвет праносіўся паўз яго, але ў якім кірунку, невядома…

Нечыя рукі ці нябачная сіла апусцілі яго на нейкі ложак, усцелены жытнёвай саломай. Ён як ляцеў, растапырыўшы рукі, стараючыся ўхапіцца за нейкую галіну, і не сустрэў яе, так і лёг на саламяную пасцель. Нават не

адчуў, што лёг, быццам ляжаў вось у такім становішчы ўвесь час, таму і аднёсся спакойна да свайго новага стану. Нейкі час не мог хіба паварушыцца. Не таму, што асцерагаўся нечага, баяўся, а таму, што яго не слухалася цела: не адчуваў рук і ног, галаву чуў, але не мог ёю паварушыць. А ён і не стараўся, калі ўжо на тое, прыспешыць бег часу… Бо памятаў словы каваля, дзеда свайго: «Ніколі не падганяй падзеі». Ён і не падганяў. Калі адчуў, што па правай руцэ пачала пульсаваць кроў – ударыла ў пальцы, быццам паклаў хто ў далоню жарынкі, паварушыў пальцамі. Паслухаліся. А потым «ажылі» і ногі, уздрыгнулі, запульсавала ў венах кроў.

«Жывы, – адзначыў пра сябе, – але на якім свеце знаходжуся – на тым, ці на гэтым?»

Ажыло не толькі цела, а і слых, зрок: ён ужо бачыў перад сабой нейкую шэрую сцяну з пляскатых, абчэсаных склюдам, бярвёнаў, шчыльна падагнаных адно да другога. На вялізным цвіку, убітым у сцяну, вісела нейкае шэрае адзенне, побач начэплена на другі цвік чырвонага колеру хламіда, а ля самай сцяны, у кутку, прыткнулася адзенне з рыцарскіх даспехаў.

«Дзе я? Куды трапіў? Гэта тэатральнае адзенне і даспехі, ці адзенне таго часу, да якога яны належаць? Што са мной сталася? Я – чалавек ці нейкая іншая істота? Якая? А мо я ў гасцях у свайго дзеда-каваля?»

Ён паглядзеў на рукаў сваёй кашулі. Помніў, што апрануў баваўняную сарочку, паверх яе накінуў вязаны шарсцяны швэдар, які звязала Наста. Швэдра не было. Не было і сарочкі. І гадзінніка на руцэ не было. Згубіў? Як жа цяпер сачыць за часам? Апрануты ён быў у нейкае незразумелае адзенне: ці то ў плашчы быў, ці ў нейкай незразумелай накідцы. Шаўковай накідцы светла-блакітнага колеру. Ён яшчэ не бачыў усяго сябе, але вызначыў па адной толькі руцэ ці рукаве.

Уставаць не спяшаўся. Нешта замінала, разважлівасць ці што іншае. Нехта падказваў, каб заставаўся ў такім становішчы яшчэ нейкі час. Мусіць, адчуў, што не ўсё яшчэ цела стала дужым, і ён здатны стаць на ногі. У скроні пачалі мкнуць калючыя іголачкі, нагадваць, што пачалі дзейнічаць мазгавыя сасудзікі. Мозг яшчэ быў галодны, і таму неабходна даць яму сілкаванне. Сам не ведаў, хто яму падказваў пра такія рэчы, з медыцынай ён ніколі звязаны не быў.

Ён прымружыў вочы, набраў у грудзі паветра.

Прыемная цеплыня разлілася па ўсім целе, супакоіла яго, ахутала спакоем і разважлівасцю. Захацелася спаць. І ён не адпрэчваў ад сябе гэтае жаданне, падпарадкаваўся яму.

Зноў праваліўся, але на гэты раз у спакойны і глыбокі сон.

Адключылася свядомасць, вушы перасталі чуць навакольныя гукі, толькі вочы, якія ў сне сталі відушчымі і пільнымі, ацэньвалі ўбачанае ў новых колерах і ракурсах, і як у тым падарожжы па космасе, бачылі ўсё наўкола, быццам ён спрэс меў па акружнасці галавы зрокавы перыскоп…

І ён – зноў жа! – не паддаўся здзіўленню, не ўзрушыўся, не ўзрадаваўся і не напалохаўся.

Ён нараджаўся нанова, перараджаўся нават, рабіўся іншай істотай, з іншым адчуваннем існавання, свайго прызначэння ў нябёсах.

Ён яшчэ не ведаў і не зразумеў самога сябе.

Як і не ведаў, не зразумеў, што адбылося насамрэч з ім, ды і не толькі з ім, а і з тым жа сусветам…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**2**

Вялікі гетман, прымружыўшы вочы, падстаўляючы твар нябёсам, маліўся. Маліўся апантана, моўчкі, у душы прамаўляючы словы да Госпада. Прасіў дапамогі, каб перамагчы ненавіснага ворага, які ніяк не можа адчапіцца, кіпцюры свае вострыя хоча запусціць у цела княства.

Паходная каплічка Канстанціна Астрожскага стаяла ў нізінцы, на прагалку паміж высознымі дубамі і гаем. Ніхто не мог набліжацца да яе да тае пары, пакуль вялікі гетман перастане маліцца.

Перад гэтым у лазняках птушыныя хоры пераклікаліся між сабою, падаючы воклічы на розныя галасы, а тут і яны прыцішэлі, як бы ўслухоўваліся ў трывожны час, які нараджаў невядомыя падзеі. Усё цішэй і цішэй чулася птушынае шчабятанне, а потым і зусім сціхла. І было бачна ўжо, як, аб'ядноўваючыся ў жывыя хмары, пералятаці з месца на месца груганы, але адсоўваліся падалей ад гэтых мясцінаў, дзе размясціліся харугвы княства…

Канстанцін Астрожскі стаяў на каленях. Як скамянеў, не рухаўся, і не чуваць яго ні ўздыху, ні выдыху, рукі сашчэпленыя на грудзях, прамаўляючы малітву, нават не накладаў на сябе крыж, як бы баючыся зварухнуцца. Ён нічога не чуў, што тварылася навокал. Не чуў лязгату мячоў і дзідаў атрадаў, што знаходзіліся непадалёку, не бачыў, як ваяры, бачачы, што на іх насоўваюцца чорныя хмары маскоўцаў, з трывогай глядзелі ўбок вялікага гетмана, чакаючы яго каманды на наступ.

Аддзеламі лёгкай конніцы, якая мела і лёгкае ўзбраенне, камандаваў вядомы ў краі палкаводзец Юры Мікалаевіч Радзівіл (пазней ён стане Гетманам Вялікім Беларуска-Літоўскай дзяржавы), а асобнымі аддзеламі

конніцы кіраваў Іван Сямёнавіч Сапега. Юры Сямёнавіч Алелькавіч, слуцкі князь, камандаваў сваім апалчэннем. Трохі воддалеч размясціліся польскія аддзелы, якімі кіравалі Войцэх Сампалінскі і Януш Сярчоўскі. Пераглядаліся, хмурыліся, уздыхалі, але не выказвалі незадаволенасці ці трывогі.

Яны ўскоквалі на коней, спадзеючыся, што пачуюць каманду да наступу, ды яна не чулася зусім, і толькі коні нецярпліва пераступалі з нагі на нагу, ды стрыглі вушамі… Зноў саскоквалі на зямлю коннікі, расчаравана гледзячы ўбок капліччкі, на выхадзе з якой маўкліва маліўся Канстанцін. Ніяк не разумелі воі, чаму не хвалюецца іх Галоўны Ваяр, бо вунь на гарызонце чорнай вужакай разгараецца чужынскае войска, перад якім, здаецца, не выстаіць ніякая сіла.

А ён марудзіў, як бы знарок марудзіў, не адчуваючы небяспекі. За тыдзень яшчэ да гэтага дня вярнуўся з другога берагу Крапіўны Змітрок Кульгавы, і адразу ж папрасіўся да гетмана. Кульгавы ён быў ад нараджэння, левая нага пашкодзілася пры родах, ніякія дактары потым не маглі яе выправіць. Але спрыту яго мог пазайздросціць любы ваяр. Змітрок мог сярод белага дня растварыцца сярод травы ці вербалозу, праваліцца скрозь зямлю, а з’явіцца ў зусім іншым баку. Ніхто не мог пераняць яго здольнасці і ўменне, і ніхто не ведаў, як яму тое ўдавалася рабіць.

– Бяда, вялікі гетман, бяда, – укленчыў Змітрок, галаву схіліў да самай зямлі.

– Устань, – уладарна загадаў Астрожскі, – не наклікай бяду. Расказвай, што цябе так напалохала.

Кульгавы няспешна устаў, але галавы адразу не падымаў, не асмельваўся глядзець у вочы Канстанціну.

Не спяшаўся і адказваць на пытанне вялікага гетмана. Які ён быў спрытны і ўвішны ў рухах, у словах ён свайго спрыту не праяўляў. Астрожкі, ведаючы яго нораў і характар, не падганяў, чакаў, калі яго лепшы лазутчык і шпігун раскажа пра тое, што ўдалося яму высветліць.

– Вялікі гетман, мне ўдалося пра ўсё разведаць, – набраўшы ў грудзі паветра, прамовіў Зміцер, пры гэтым падняў галаву і ўжо зірнуў прама і смела ў вочы Канстанціну. – На нас сунецца вялізная аграмада маскоўцаў. Я стараўся падлічыць, якое ў іх войска. Выходзіць яно так, што недзе блізка каля ста тысяч. Можа меней, а можа і болей. І гарматы ў іх, і конніца спраўная, і пораху хапае…

Канстанцін усміхнуўся, перапытаў:

– А можа ты са страху так павялічыў іх войска, Зміцер?

Той адмоўна пахітаў галавой.

– А цяпер давай сядзем за стол, – прапанаваў Астрожскі. – Трошкі падрабязней раскажаш мне.

Вялікі гетман паклаў перад хлопцам скрутак шэрай паперы, разгарнуў яе, прыціснуў па рагах камянюкамі. Побач легла і вялікая, з залачоным эфесам, шабля вялікага гетмана.

– Зможаш намаляваць мне і паказаць, дзе яны атабарыліся, дзе асноўныя войскі.

Замест адказу Кульгавы, дастаўшы з-за пазухі, паклаў перад галоўным вайсковым камандзірам складзены ўчацвёра свой аркуш паперы. Быў ён шэра-чорны, зашмальцаваны, як непатрэбная анучына – для ворага, каб не зразумелі нічога, калі б злавілі. Разгарнуў. Астрожскі ўбачыў нейкі незразумелы малюнак, які слаба напамінаў ільва. Нічога не разумеючы, паглядзеў на Кульгавага, чакаючы тлумачэнняў.

– Ільва бачу, Змітро, больш нічога…

– Вось я і маляваў ільва, каб ніхто не здагадаўся, калі мяне зловяць, пра намаляваны план. Вось Дняпро, а вось рэчка Крапіўна, вось даліна, узгорак, гэта грыва звера, а далей, дзе зубы, і знаходзяцца маскоўскія палкі…

Канстанцін Астрожскі ўсміхнуўся, пахітаў галавой:

– Ну і хітрушчы ты, хлопча, ільва ён намаляваў… Харошы леў, скажу табе, дзякуй за мастацтва…

А далей ужо Зміцер падрабязна і дакладна распавёў Астрожскаму пра распалажэнне маскоўскага войска. Паказваў, дзе знаходзіцца засада, дзе склады пораху, дзе размясцілася артылерыя…

Доўга тады яны гаварылі ў намёце, ніхто не чуў іхняе размовы. Хітрым і асцярожным быў і Канстанцін Іванавіч Астрожскі. Таму і хаваў свае намеры, свае планы ў будучай бітве. Калі ж аддаваў якія загады, то яны не адпавядалі сапраўднасці. Тым самы ён правяраў, ці дайшлі яго загады да варожага вока. Быццам бы і не, але ніколі нельга нічым рызыкаваць, асабліва людскімі жыццямі…

– Ідуць, набліжаюцца… – чуліся яшчэ больш устрывожаныя галасы, але ніхто не мог падысці бліжэй да Астрожскага – яго загад выконваўся строга і бездакорна…

Вялікі гетман звяртаўся да сваіх вояў заўсёды на роднай для іх мове, як і малітвы ўзносіў да Бога. І дабіваўся, каб літургіі ў храмах ды манастырах вяліся толькі на роднай мове, – тады яны хутчэй далятала да вушэй Вышняга, тады Ён і аказваў ім тую дапамогу, пра якую прасілі.

«Ойча наш, які жывеш у нябёсах, ды свяціцца імя Тваё, ды будзе воля Твая і на зямлі, і ў небе… Хлеб дай нам на кожны дзень, і даруй грахі нашыя, як і мы даруем вінаватым перад намі…»

Пасля гэтых слоў Канстанцін Астрожкі наклаў на сябе крыж, схіліўся ў паклоне, крануўся лбом зямлі, загаварыў ужо ўголас:

– Перад намі чужынец, Госпадзе, хціўы і жорсткі чужынец, які хоча праліць нявінную кроў. Мы не на чужой зямлі змагаемся, імкнучыся захапіць чужыя землі і рабоў для сябе, мы сябе абараніць хочам ад маскоўскай навалы, памажы нам, Божа, у нашым змаганні, памажы пакараць ворага, злітуйся з нас!.. Святая заступніца нашая Багародзіца! Мы шануем Цябе, як і Сына Твайго ўсхваляем, сёння Твой дзень нарадзінаў, і мы просім у Цябе заступніцтва і дапамогі ў нашай перамозе над ворагам, хочам зрабіць Табе падарунак. На Цябе спадзяёмся, перад Табой укленчваем і ўмольваем: памажы нам, дай сілы ў змаганні.

І зноў знерухомеў ваявода троцкі, староста браслаўскі, звянігародскі і вінніцкі, маршалак валынскі і староста луцкі Канстанцін Астрожскі. Усё яшчэ ніяк не даходзіла яго малітва да Госпада, і ён ведаў пра тое, бо не адгукнуўся яшчэ Вышні, не падаў ніякага знака. Ён заўсёды падаваў той знак, нават у самы апошні момант, нават тады, калі вораг пераступаў ужо дазволеную мяжу… Бог ведаў, калі даць адказ, і тое ніколі не было запозна. Але на гэты раз, мусіць, Бог вельмі прамарудзіў, бо вунь ужо за пагоркам і вершнікі з дзідамі паказаліся, галёкаюць нешта пагрозлівае, над галовамі ўзняўшы шчыты і мячы…

«Так, Госпадзе мой, Уладар Сусвету, я пацярпеў чатырнаццаць гадоў таму паразу ў сечы, што адбылася на рацэ Вядоршы. Бо малады быў, дурны, неспрактыкаваны, невядома на што паспадзяваўся. А яно вунь як абярнулася, і людзей загубіў, і сябе ганьбай пакрыў… Ведаю, слаба і мала маліўся Табе, Валадару мой, Заступнік мой! Шэсць гадоў я правёў ў вязніцы маскоўскага князя Васілька III, – падумаць толькі! – шэсць гадоў. Колькі карыснага мог бы зрабіць для сваёй дзяржавы, дык ногі звязалі тоўстымі вяроўчынамі, быццам стаенніка спуталі, ахоўвалі, як самага злоснага ворага. Угаворвалі прысягнуць на вернасць маскавецкаму князю, залатыя горы абяцалі. Не паддаўся на ўгаворы, заўпарціўся. Але аднаго разу падказаў мне Гасподзь: “Загінеш няскораным, лепш хітрасць праяві, і жывым застанешся і славу непераможнага сабе вернеш”. Паслухаўся я парады Вышняга, прысягнуў на вернасць Васільку. Калі ж мне потым пачалі дазваляць свабодна рухацца, улучыў момант і ўцёк з ненавіснай мне Масковіі. Радыя дужа мне былі мае сябры і таварышы, а з цягам часу і пасаду мне вярнулі – я зноў стаў найвышэйшым гетманам. Дзякуй Табе, Божа, дзякуй Табе!..»

Вялікі князь літоўскі і рускі Жыгімонт Казіміравіч вырашыў асабіста пераканацца ў баяздольнасці свайго войска, таму неадкладна выехаў на

тыя землі, дзе павінны былі пачацца ваенныя дзеянні. Хаця ў данясеннях і рапартах, якія даводзілася яму чытаць і выслухоўваць, не адчувалася трывогі і занепакоенасці, але ён сам, як заўсёды, рашыў пераканацца на свае вочы. Ён меў на мэце і каардынаваць дзейнасць войска Вялікага Княства Літоўскага і яшчэ польскіх аддзелаў – ён жа быў адначасова і каралём польскім.

Перад гэтым меў размову са сваім звездаром – Гаўрылам Савошам. Ён ніколі сам не трапляўся на вочы, знаходзіўся ў сваёй хаціне, а часцей праводзіў гадзіны на даху пад адкрытым небам. Начамі там прападаў, гледзячы на неба.

Не так часта, але і не рэдка звяртаўся да яго вялікі гетман.

І цяпер вось, перад рашаючым момантам, паклікаў Гаўрылу да сябе. Не тлумачыў яму, чаго паклікаў, той і сам ведаў. Ён заўсёды ведаў, з якой нагоды хочуць яго бачыць. Капюшона з галавы не здымаў, так і стаяў перад Канстанцінам.

– Так, мой гетман, – схіліў у пакоры галаву звяздар, – час спрыяльны выбраў. Наступны тыдзень будзе на тваім баку…

Астрожскі толькі кіўнуў у знак разумення галавой, і звяздар, кіўнуўшы ў адказ, павярнуўся і пакінуў пакоі вялікага гетмана.

Агульнае войска мелася сабрацца пад Менскам. Пад канец спякотнага ліпеня ён прыбыў у Менск. Агледзеў войска. І пасля агледзінаў выказаў сваю незадаволенасць. Аказалася, што польскія аддзелы падцягваліся да агульнага збору вельмі марудна, а большая частка жаўнераў дык і зусім засталася ў Берасці. У загадным парадку ён адсылае туды ліст і вымушае іх як найхутчэй прыбыць на поле змагання. У той жа дзень кароль перамяшчаецца ў Барысаў, дзе зноў наладзіў агляд войска. Яму паказалі перапіс усіх жаўнераў. А вораг паспеў ужо захапіць Смаленск, і рухаўся ўжо далей – у кірунку Белай Русі. Жыгімонт сабраў рушанне Вялікага Княства Літоўскага колькасцю ў восемдзесят тысяч чалавек. Аддзяліўшы асобнае войска ў трыццаць тысяч вояў, прызначыў над ім камандзіра – гетмана найвышэйшага Канстанціна Астрожскага. Сам жа вялікі князь застаўся ў Барысаве з войскам у чатыры тысячы чалавек, у асноўным з польскіх земляў.

Адбыўся першы бой паміж беларускімі і перадавымі палкамі маскоўцаў. Як толькі Канстанцін Астрожскі пераправіўся на левы бераг Беразіны, і пачалося змаганне. Канстанцін, прадбачачы наступныя крокі баёў, перад гэтым правёў тактычную артылерыйскую стральбу, адразу нанёсшы вялікія страты ворагу.

Дваццаць сёмага жніўня маскоўскія палкі былі разбіты ўшчэнт і страцілі ў тым баі больш як 1300 чалавек. Не даючы апамятацца ворагу, князь Астрожскі адразу ж на наступны дзень разбівае маскоўскае войска ля ракі Бобр, а ў першыя дні верасня атабарыўся каля ракі Друць. Канстанцін даручыў правесці баі з маскоўскімі палкамі аддзелам Івана Сапегі. Тры маскоўскія палкі атрымалі паражэнне і страцілі некалькі соцень вояў, і шмат узялі ў палон…

Моліцца, моліцца найвышэйшы гетман, просячы дапамогі ў Бога, верачы цвёрда, што ніколі не пакідаў яго Вышні, заўсёды адгукаўся, даваў тое, што прасіў князь…

«Ну, што, маскоўскі ваявода Іван Чаляднін? Табе вялікі князь Васіль III аказаў вялікі гонар – даручыў камандаваць усімі сіламі. Дык што, вымушаны быў адступіць са сваёй зграяй заваёўнікаў за Днепр? Так, адступіў, не вытрымаў націску нашых вояў.

І ты ўжо выбраў лепшае, як ты думаў, месца для наступнага, галоўнага бою, – левы бераг Дняпра. Ды не ведаеш ты, ваявода, што ад Дняпра сіла чароўная сыходзіць, у кожнага майго воя ўліваецца, а для цябе гэтая рака чужая, не родная… Добрую мясціну выбраў, нічога не скажу, стратэг ты добры, і сам чалавек ты разумны, ды з чорнымі намерамі ты рушыў да нас, а калі з чорнымі, то і атрымаеш тое, да чаго імкнуўся. Так, удалае месца паміж Воршай і Дуброўнай, ды і рака побач – Крапіўна, ды і поле вялікае. А вы на ўзгорку атабарыліся – каля вёсак Пугайлава і Рукліна. Злева ад вас, ад лесу, рака Днепр з вёскай Рукліна. Вы прыкінулі так – пакінем для Канстанціна свабодную прастору ў лукавіне Дняпра, што на левым беразе. А я, браткі мае, думаю трошкі інакш. Ты, ваявода Чалядзін, мяне там чакаеш, чакаеш, каб даць генеральную бітву вашай кампаніі, а можа і ўсёй вайны, якую вы распачалі. А як жа – у вас сіла, вашае войска ўтрая большае за маё, так што вам і карты ў рукі, і ўзнагароды на грудзі за перамогу, што тысячы ў рабства возьмеце, рабы на вас працаваць будуць. Вы любіце рабоў, самі працаваць лянуецеся ці не ўмееце. Ну, ну давайце, наступайце, пераможныя песні спявайце!… Крапівы вы атрымаеце па голым азадку, а яшчэ нешта большае за крапіву прыдбаеце. Вы ж хацелі гэтага самі, вы нас вымусілі такія падаруначкі вам прынесці на залатым сподку».

Ужо нервуюцца Юры Радзівіл і Іван Сапега, разам з імі Юры Алелькавіч. Крыху воддалеч ад іх стаіць летапісец – Антон Клімовіч, трымае праз плячо скураную сумку з рознымі атрамантамі, здаецца, не прымае ніякага ўдзелу ў тым, што адбываецца. У яго свая задача, яго зброя – бачыць усё і нічога не прапусціць міма вушэй і вачэй, а потым зафіксаваць на паперы.

«Не хвалюйцеся, дарагія мае дружыннікі, і нічога не бойцеся… Хіба ж нам баяцца на роднай зямлі? Хай вораг баіцца, і мы ім дапаможам у іх боязі, паможам. Колькі, хлопчыкі, ад нас да Дняпра, якая нас раздзяляе адлегласць? Правільна, адна вярста, лічыць умееце. Ці зможам мы ў імгненне вока разгарнуць на гэтым пляцы свае сілы? Так, можам… Тады яшчэ скажыце мне, родненькія мае, а ці ёсць нам куды адступаць? Што, няма куды? Дык што нам рабіць? У рэчку кідацца тапіцца, ці будзем кідацца апантана на ворага? На ворага? Вось і ўсё, вось такі мой адказ, дарагія мае. З Богам! Рушылі!..»

Калі вялікі гетман пакінуў каплічку і з усмешкай падышоў да камандзіраў, па ўсіх палках і злучэннях пракацілася ўзбуджэнне. Канстанціну Астрожскаму падвялі каня, але ён не ўскочыў на яго.

Агледзеў усіх, хто знаходзіўся побач і воддалеч ад яго стаўкі, угледзеў у агульнай грамадзе русявага хлопца з сумкай праз плячо, усміхнуўся, крыкнуў яму:

– Летапісец Антон, у бой не ўстраваць, шабляй і дзідай не махаць, табе і так працы хопіць… Май пільнае вока і чуйнае вуха!

Антон Клімовіч схіліў галаву, прымаючы загад-параду вялікага Гетмана.

– І нічога не прапусці, хлопча, такой падзеі, якая адбудзецца сёння, ніхто яшчэ на свае вочы не бачыў і ніколі не ўбачыць.

Вялікі гетман глядзеў на сваіх ратнікаў. Яны глядзелі на яго. Чакалі. І слоў, і дзеянняў. Добрая звычка была ў вопытнага камандзіра – у патрэбны момант словам узбадзёрыць вояў сваёй дружыны, у кожную душу і сэрца кінуць зярнятка надзеі і ўпэўненасці, перакананасці, што Бог падтрымлівае іх у святой барацьбе. Інакш нельга. Прамаўчаць – сябе зняславіць і пасеяць у душах змагароў няверʼе.

Глядзіць Канстанцін на ўсіх, кожнага бачыць, чуе, як бʼецца ўсхваляванае сэрца кожнага, як пульсуе па венах гарачая кроў, як наліваюцца сілай рукі і ногі, прага барацьбы нараджаецца ў кожным… Паўсюль над галовамі вояў сцягі розных памераў і вымпелы з выявай Княства і Хрыста, і ўсё на фоне герба дзяржавы, а коннікі прымацавалі да спінаў бел-чырвона-белыя сцяжкі, невялічкія, лёгкія, каб не заміналі падчас сечы.

Каб чула яго паболей ратнікаў, каб голас далятаў да самых апошніх радоў, Канстанцін Астрожскі ўскочыў на каня. Прыўзняўся ў страмёнах, выпрастаўся. Пакруціў галавой па баках, пераканаўся, што чакаюць ад яго галоўных слоў.

Юры Алелькавіч нервуецца, бачачы, як на далёкім узгорку нараджаецца шэрая хмара – маскоўцы насоўваюцца, пaглядае на сваіх сяброў-

камандзіраў, але яны ўсе глядзяць на Канстанціна, як быццам і не адчуваюць небяспекі.

– Дарагія мае і родныя браты і дзеці, дзеці радзімы нашай Вялікага Княства літоўскага! – грамавым голасам абвясціў пачатак свайго звароту да дружын і атрадаў, і голас яго ўзвысіўся да нябёсаў, рэхам паскакаў над галовамі, пераскокваючы ад аднаго палка да другога. – Не дае спакойна нам жыць маскоўскі князь Васілько, крыві нашай напіцца хоча, зямлю нашую адабраць, жанчын нашых прыгажунь паланіць, вяроўкамі залыгаць ды ў сваю Масковію пагнаць. Ці дапусцім мы гэта, воі мае?

– Не-еее! Не-ееееe!.. – узнялі над сабою ратнікі дзіды і мячы.

– І я кажу – не! Сёння нас чакае вялікая перамога. За намі Дняпро, нам адступаць няма куды, мы ж не дапусцім, каб нас вораг утапіў у нашай жа рэчцы. Нам застаецца толькі наперад, толькі здабыць сабе перамогу. Яны прыйшлі да нас з мячом, няхай і атрымаюць яго ў адказ. Не мы на іх напалі, не мы ваюем з імі пад Масквой, а яны на нашай зямлі хочуць зняволіць нас. Не пужайцеся, што ў іх сіла вялікая, вунь яны ўжо, як зладзеі, крадуцца за пагоркам, мы моцныя не колькасцю, а той сілаю, якую дае нам родная зямелька. Вы героі, бо абараняеце яе ад ворага, а яны захопнікі, і таму праўда і моц на нашым баку. А цяпер святыя айцы дабраславяць нас на вялікую бітву, каб Бог памог нам у святым змаганні.

Да вояў выйшлі праваслаўны святар Міхаіл і ксёндз Павал. У руках невялічкія вядзерцы са святой вадой. Абходзячы шыхты, абмакваючы мачыла ў святой вадзе, махалі імі над галовамі вояў, прамаўляючы:

– Госпадзе, памілуй, Госпадзе памілуй, Госпадзе памілуй! Вярні жывымі і здаровымі рабоў Божых воінства справядлівага, дай ім перамогу ў святой барацьбе! Госпадзе памілуй!..

Дабраславіўшы, вярнуліся і сталі ў апошнім радзе, дзе яны выбралі сабе месца.

Агледзеўшы ўсіх, вялікі гетман Астрожскі, выцягнуў з похваў вялізны меч, прыўзняў яго і выставіў перад сабой, быццам пракладаў кірунак свайму войску, крыкнуў загадна:

– З Богам! Наперад на маскоўцаў! Цяпер пара на сечу!

## 3

Галоўны маскоўскі ваявода Іван Андрэевіч Чаляднін недалюбліваў самастойнага ваяводу – князя Міхайла Іванавіча Булгакава-Голіцу. Нейкая чорная кошка прабегла паміж імі.

Іван Чаляднін меў характар наравісты, пыхліва паводзіў сябе, любіў, калі перад ім пакорліва згіналіся ў паклоне, ліслівa заглядалі ў вочы. Любіў

слухаць плёткі сваіх падданых пры двары, сам любіў наплесці пра каго-небудзь з тры карыты…

Міхайла Іванавіч чалавекам быў маўклівым, горда насіў сваю русявую галаву, глядзеў наперад, і яго быццам не хвалявала, што тварылася наўкола. Пра Чалядніна не гаварыў ні кепскага, ні добрага. Віталіся, абдымаліся пры сустрэчы.

Нечакана паклікаў іх у свае палаты вялікі князь Васіль III. Разам з іншымі баярамі паклікаў. Сядзелі на лавах баяры, гладзілі бароды, на цара паглядалі, чакалі, што скажа, чаму так нечакана склікаў баярскі сход.

Расчыніліся дзверы і з іх на сярэдзіну Гранавітай палаты выйшаў вялікі князь, схіліў перад баярамі галаву, пакрочыў далей да свайго ўзвышку, дзе аздоблены дарагімі камянямі, стаяў княжацкі сталец.

Заціхлі баяры, рукі на калені паклалі. Маўчалі.

– Чаго склікаў я вас, баяры? – папытаўся ў іх, пераводзячы позірк на кожнага, свідраваў кожнага позіркам, быццам правяраў, хто адданы яму, а хто ў сэрцы і крыўду затаіў. – Вялікае Княства пагражае нам вайной, землі нашыя захапіць хоча. Жыгімонт армію збірае, хоча на Маскву накіраваць. Трэба правучыць непрыяцеля, ды не толькі правучыць, а разграміць іх і бізунамі да Крамля прыгнаць, як скаціну якую. Хачу пачуць слова ад ваяводы Івана Чалядніна, калі мы можам выступіць на Княства.

Усе павярнуліся ў бок ваяводы. Той няспешна падняўся, сашчапіў пальцы рук на жываце.

– Ведаем мы, Вялікі князь, пра намеры Жыгімонта. Хачу сказаць, што войска ў іх слабое. Яны не змогуць набраць воінаў больш за дзесяць тысяч. Мы ж можам набраць і трыццаць, і сорак…

– А чаму не больш, ваявода Іван? – прыўскочыў у крэсле вялікі князь.

– Можам і больш, але на тое ваш, вялікі князь, патрэбен дазвол.

– Дазваляю.

– І вось што яшчэ. Войска Княства можна пабіць за адзін дзень і невялікімі сіламі. Ім няма чым абараняцца, тым больш ваяваць. Вы навучаеце вайсковым справам баярскіх і іншых дзяцей, добра навучаеце, сам бачыў. Дык давайце мы згрупуем войска з такіх хлопцаў, халопаў не браць, бо яны і пісаць не ўмеюць. Такія ратнікі лёгка разаб'юць паганцаў, і ім дастанецца слава пераможцаў. Як мяркуеш, ваявода Іван?

– Слушна кажаце, мой гаспадар! – адобрыў Іван князеву думку. – Гэта будзе прыгожая перамога. І заадно моладзь загартуецца ў такіх змаганнях.

– Іх спачатку навучыць трэба ваяваць, – не вытрымаў, уставіў заўвагу Міхайла Іванавіч Булгакаў-Голіца, які вельмі не любіў, калі хто наперад лез, вылузваючыся са скуры. – І там ёсць мацакі, якіх адразу і не адужаеш. Дачуўся я, што вялікага гетмана Астрожскага далучылі да ваеннай справы.

Васіль III схамянуўся, накіраваў указальны палец на Міхайлу:

– О, дарэчы, пра Астрожскага. Даў прысягу на вернасць мне, а сам уцёк у свае княства. Гэта ты, ваявода Іван, вінаваты, што ён вылузаўся з нашай пасткі…

Ваявода згадзіўся:

– Так, вялікі князь, вінаваты. Ён папрасіў размяць косці на коніку, я і паверыў яму. А ён і даў драла, я і не зразумеў, што ён уцёк.

– Уцёк, уцёк, – перакрывіў ваяводу Васіль III, – вось і вярні свой гонар, прывядзі да мяне ўцекача Канстанціна, тады і змыеш віну з сябе.

– Прывяду, слова ваяводы даю, – ужо цішэй, без ранейшага пафасу, адказаў Іван Чаляднін.

Вялікі князь больш не дакараў ваяводу, а падтрымаў Міхайлу Булгакава-Голіцу:

– А Міхайла Іванавіч праўду кажа. Хаця і навучаны збольшага баяры маладыя ды іх дзеці, дзеці дваран і людзей вайсковых, але без асаблівай напругі, без жорсткасці і прынукі, а вы іх у сечы праверце, убачыце, што яны нічога пакуль нявартыя. Вы кажаце, што халопаў не трэба браць на вайну. Але хто ж тады будзе на сваіх плячах слупы цягаць ды працаваць сякерамі? Дзеці баяр? Яны ж на салодкім выхоўваліся, пернікі ды медавуху любяць. А мужык… Ён – і вол, і конь, цяглавая і рабочая сіла. Няхай мужык і не ваюе, а спраўна выконвае чорную работу.

Маўчаць баяры, думу думаюць. Тыя, хто ва ўзросце, зразумела, на вайну не пойдуць, а вось іх дзеці ды ўнукі…

– Такое вось маё рашэнне, – перарваў кароткае маўчанне Васіль III. – Над войскам стануць галоўныя ваяводы – баярын Іван Андрэевіч Чаляднін ды баярын князь Міхаіл Іванавіч Булгакаў-Голіца. Галіцыны мужна змагаліся з ворагам, вось няхай іх нашчадак і прадоўжыць славу сваіх прашчураў. Так, Міхайла?

– Так, так, вялікі князь Васіль, – пагадзіўся баярын. – Папытацца хачу, князь мой, а ці браць артылерыю на гэтую вайну?

– Артылерыю? – перапытаў тут жа Васіль III. – Навошта яе браць? Толькі замінаць будзе. Навучыце ратнікаў трымацца ў сядле ды махаць шаблямі, трымаць цвёрда ў руках дзіды, і таго будзе дастаткова, каб перамагчы Жыгімонта. Я ведаю, што земскае апалчэнне шляхты Вялікага Княства Літоўскага вельмі марудна збіраецца, ды не хоча шляхта ваяваць з намі. Не спяшаюцца далучыцца да войска ні шляхта з Літвы, ні польскія жаўнеры. А хто з жаўнераў падышоў, дык яны засталіся ў Берасці…

– А жамойты?

– А жамойцкай шляхце дык і зусім не да вайны, яна бароніць свае межы з Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі. Няма спадзявання ў Жыгімонта і Астрожскага на ўкраінскую шляхту. Яна бароніць свае землі ад набегаў крымскіх татараў. А ў войску Астрожскага, што гуртуецца ў Менску, дзе і знаходзіцца сам вялікі князь Жыгімонт, польскай конніцы і пяхоты не больш за чатыры тысячы. Астрожскі камандуе толькі беларускім войскам, з усіх беларускіх паветаў. Так што такая цяпер абстаноўка. Нам няма чаго доўга марудзіць, навучым нашых ратнікаў ваяваць, і адправім паланіць войска Княства, бізунамі прыганіце іх да мяне.

– Прыгонім! – паабяцаў дружна вялікі сход баяр.

**4**

Пад Антонам конь ладны, малады, увесь аж ільсніцца. Меч у похвах, але вялікі гетман забараніў вымаць яго без патрэбы.

Хто празваў коніка Ветрам, Антон не ведаў, бо натуру ён меў спакойную, не лез наперад, але і не адставаў, калі коннікі перасоўваліся з месца на месца. Во і цяпер – усе стаеннікі нецярпліва пераміналіся з нагі на нагу, іржалі, матляючы галовамі, а Ветрык, так ласкава ўжо называў свайго памочніка Антон, апусціў долу галаву і застыў у такой паставе. Быццам ведаў, што у сечы ён удзелу прымаць не будзе, і таму як бы вінаваціўся перад сваім гаспадаром, нават не скуб сакаўную траву, што расла перад яго носам.

– Нічога, Ветрык, нічога, не перажывай, – ласкава ляпаў далонню па шыі Антон, – і мяне не пускаюць у сечу, у нас другая з табой сеча, таксама адказная… Ты ўжо тут не падвядзі мяне, будзь ласка, мы павінны з табой у імгненне вока пералятаць з аднаго боку на другі. Кожны з вояў ваюе сам па сабе, а нам з табою трэба за ўсіх змагацца, усё бачыць, усё разумець… Сам вялікі гетман сказаў, што такую сечу больш нікому не ўдасца ўбачыць…

Вецер падняў галаву, прыслухаўся да наваколля. Усе рушылі наперад, а яму гаспадар каманды не падаваў, па баках не стукаў ботамі, на нацягваў лейцы, і таму цуглі не ўядаліся ў зубы…

– Спакойна, Вецер, спакойна… То не нас паклікалі, то Канстанцін разам з ваярамі рушылі наперад. І ты ўзірайся, Вецер, пільна, праз нашы вочы будуць глядзець на гэтае відовішча нашыя нашчадкі. А ім хлусіць нельга, падман яны заўважаць адразу.

Да Антона на лёгкім коніку прыскакала невядомая ваярка, косы па плячах распусціла, ногі ў страмёнах, маладымі белымі зубамі хваліцца:

– Ці хопіць у цябе, Антоне, чарніла, каб апісаць гэтую сечу?

– А ты хто? І ты ваюеш супраць маскоўцаў? Не бачыў цябе раней? – дзівуецца Антон, не адводзіць ад яе позірк, адарвацца не можа, так прыцягвае да сябе. – Як бацькі цябе называюць?

– Навошта табе пра тое ведаць?

Бачыў Антон – вакол вялікага гетмана згуртаваліся воі, кінуліся ў сечу, не даюць ворагу падысці да Канстанціна, атуляюць яго, адганяюць маскоўцаў. Ды і сам Канстанцін як той волат – узмахне мячом, некалькі галоў падаюць, як гарбузы сцелюцца па полі, накіруе доўгую дзіду на супастатаў – злятаюць са сваіх сёдлаў царскія коннікі…

Усё прыкмячае летапісец, занатоўвае пакуль у памяці сваёй, каб потым, як усё скончыцца, зачыніцца ў сваёй келлі і выкласці ўсё на пергамент ці паперу. Усё для гэтага гатова, чарніла ў яго адмысловае, ніколі не змыецца, нават і ў ваду трапіўшы. А зварот Астрожскага да ратнікаў Антон занатаваў у сваёй памяці да кожнага слова, памяць у яго была адмысловая.

Хоць і не так доўга працуе Антон Клімовіч летапісцам, але ўжо шмат папер напісаў, усё складаў адно да аднаго ў вялікую кнігу.

«Маскоўскі князь Васіль III зноў аб'явіў Вялікаму Княству вайну. Лёгка, здавалася яму, паланіў Смаленск. Маскоўскаму ўладару мроілася ўжо, што так лёгка і зямлю палешукоў зваюе, ды яшчэ наважыўся падумаць, што беларускае войска пугамі, як статак быдла, да маскоўскай брамы прыгоніць. Во пыха ў князя, во якая неймаверная ненажэрнасць. Ды ці ёсць што ў галаве яго замутнёнай першымі поспехамі ў войнах? Крычаў захапілі? Амсціслаў? Дуброўну? Цяпер табе, князь, і Менск наш падавай? А ці не падавішся ты?

Я сам, на свае вочы, бачыў, як рыхтаваўся да бітвы Астрожскі. Ночы не спаў, скакаў ад адных раздзелаў да другіх, падганяў, прасіў, умольваў паскорыць падрыхтоўку.

Я не разам, а следам за князем Канстанцінам наведваў тыя месцы, дзе ён быў, не замінаў яму. Ды і не любіў ён, калі летапісец знаходзіўся побач, ён павінен, як казаў гетман, быць нябачным.

Перад самай бітвай, уначы, Астрожскі падышоў да Дняпра. Загадаў усім маўчаць, ніводнага агеньчыку не запальваць, каб не выдаць сябе. Свае аддзелы пераправіў на другі бераг ракі. Тут жа прыйшла выведка і сказала вялікаму гетману, што наперадзе знаходзілася расейскае войска, і расцягнулася яно ўздоўж ракі на некалькі вёрстаў.

– Добра, хлопцы, добра, дзякуй за добрую працу! – пахваліў гетман і адправіў іх па сваіх месцах. – Цяпер частку конніцы адпраўляйце ўброд, – загадаў ён камандзірам вершнікаў.

І яны бязгучна пераадолелі перашкоду, выйшлі на лугавіну, скрозь акружаную ліпамі і ясакарамі.

Углядаецца ў цемру Канстанцін, усё бачыць, за вярсту бачыць, зрок у яго як у беркута.

– А цяпер для астатняга войска бочкі ў ход пускайце.

Сотні адмысловых майстроў скатвалі з узбярэжжа зашпакляваныя і прасмаленыя дзёгцем бочкі. Тыя, хто стаяў унізе, лавілі іх у вадзе, прывязвалі адну да адной, а да іх новыя мацавалі. Атрымліваўся мост. Ніводнага грукату, ніводнага гуку, ніводнага слова ніхто не вымавіў… Усё рабілі ў поўнай цішыні. Кожны ведаў сваё месца, кожны ведаў, якая ў каго задача па навядзенні начнога сакрэтнага моста.

Гэтак жа ціха той мост і разабралі – "масты для адступлення арміі былі спалены". Так казаў воям гетман.

Пра ўсё тое ведаў ваявода Чаляднін, назіраў, усміхаўся толькі. Яму раілі разбамбіць тую пераправу, але ён не пагадзіўся:

– Ну разаб'ю я частку яго войска, але ж у яго застанецца другая палова… Невядома яшчэ, як мы з імі будзем… Думаць трэба, думаць і думаць…»

Досвітак восьмага дня верасня пратрубіў нячутную абвестку – усё гатова для сечы, вялікі гетман Канстанцін!

Мне ўжо трэба было засведчыць: направа ад гетмана стаяла беларуская конніца. Пасярэдзіне – са стрэльбамі-ручніцамі – у чаканні сечы стаялі пехацінцы. Злева знаходзіліся польскія конныя дружыны. Пяхоту прыкрывала частка гарматаў. Астатнія свае гарматы Канстанцін Астрожскі прыхаваў «падарунак» маскоўцам…

Звіняць мячы і дзіды, іржуць коні, устаючы на дыбкі, крычаць воі, махаючы мячамі…

Умее змагацца з ворагам вялікі гетман, наперад ведае і прадчувае, як будзе паступаць яго супраціўнік. Вунь два гады назад, у канцы красавіка, на Цярнопальшчыне, пад вёскай Лапушна, пацярпела паразу войска крымскіх татараў. Злучыліся вялікалітоўскае і польскае войска, і далі бой татарам.

Саюзнікі прывялі на поле бітвы каля шасці тысяч вояў. Улілося каля дзвюх тысяч вялікалітоўскага, разам з валынскім рушаннем, чатыры тысячы польскай кавалерыі і адна рота польскай пяхоты разам з дзвюма гарматамі. Камандзіры – вялікі гетман літоўскі Канстанцін Астрожскі і вялікі гетман каронны М. Камянецкі. Татараў жа было каля дваццаці тысяч. Не чакаючы асноўнага пачатку, татары перайшлі ў наступленне. Прамарудзіў Канстанцін, прамарудзіў… Польска-літоўская войска панесла цяжкія страты. У баі ўдзельнічалі Міхаіл Вішнявецкі з сынамі, Ян Радзівіл Барадаты, Пётра Кміта Сабенскі, асабліва вызначыўся ў тым баі Ян Тарноўскі…

Не засмуціўся Канстанцін Астрожскі паразай, і ў тым жа годзе, набраўшы войска з Літвы і Русі да 25 тысяч, пад Вішняўцом перакопскіх татараў патапіў у крыві. І змагаўся з ім зноў Міхаіл Вішнявецкі з сынамі і князь Андрэй Збаражскі, а татарскі цар Менглі-Гірэй уцёк з малой дружынай…

Чарговая маскоўска-літоўскай вайна… Каля 20 тысяч татараў, якія вялі тры малодшыя прадстаўнікі роду Гірэяў, не атрымаўшы дазвол ад хана Менглі-Гірэя, зайшлі далёка ўглыб Рускага ваяводства ў Польшчы. Сталі кошам у ваколіцах Буска і выслалі чамбулы да Перамышля. Убачыўшы пагрозу незалежнасці, Жыгімонт Стары даручае кароннаму гетману М. Камянецкаму з дворнымі харугвамі даць адпор крымскім татарам. На дапамогу паслалі вялікалітоўскія сілы на чале з Канстанцінам Астрожскім.

З Падолля рухаліся старосты Ланцкаронскі і Твароўскі.

Аб'явілі паспалітае рушанне.

Адбылося некалькі сутыкненняў з чамбуламі. Злучанае войска раптоўна выступіла 26 красавіка на вялікі татарскі лагер паблізу Вішняўца. Загінула пяць тысяч татараў, і саюзнікі ўзялі трафей – дзесяць тысяч коней, адабралі нарабаванае, і што, самае галоўнае, вызвалілі шаснаццаць тысяч палонных. Казалі потым, што быццам бы загінулі ўсе татарскія кіраўнікі – тры ханы і зяць Менглі-Гірэя…»

Антон прачытаў тыя летапісы. Іх пісаў яго папярэднік – дзяк Янка Замановіч. Дазволіў вялікі гетман Астрожскі яму пазнаёміцца з тымі летапісамі-запісамі.

Татары тады мелі дваццаць тысяч войска. Столькі ж мае сёння Канстанцін Астрожскі. Затое ў цара Русі цяпер траха восемдзесят тысяч. Пра што думае вялікі гетман, сустракаючы такую арду, на што спадзяецца?

Але нельга летапісцу сумнявацца ў вайсковай мудрасці вялікага гетмана, наадварот, трэба верыць у яго неперамажнасць.

Прачытаў Клімовіч, што пісаў пра князя Канстанціна летапісец:

«Року 1509. Псков князь Московский взял. Князь Констентин на Кропивне реце Москву побил 80 тысечей на день Рожества Пресвятые Богородицы и церковь там казал поставити…»

«Року 1514. Жигимонт кроль Польский, не малое войско выправивши так з Литвы, як и з Польщи, до Вифлянт послал и оных кус обе зголдовал; и теперь под послешенством кроля Полского суть. Тогож року великий князь Московитский Смоленск облег и 12 недель добывал, з дел стрелял, которых мел около трех сот; и взял Смоленск. Того же року наши побили Москву на Орши».

Антон ведаў, што маскоўскі вялікі князь Васіль Іанавіч зажадаў падпарадкаваць сабе землі Вялікага Княства. Яшчэ да гэтага, у 1505 годзе,

падчас падрыхтоўкі да вайны з Сігізмундам цар Васіль Іанавіч, заручыўшыся падтрымкай нямецкага імператара Максіміліяна, паспеў падысці да Смаленска. У яго было трыста гармат. Шэсць тыдняў трымаў аблогу, пасля ўзяў яго прыступам. І ўжо са Смаленска паслаў 80 тысяч вояў у Вільню. Ён, цар, верыў у несумненную перамогу, таму следам за войскам паслаў вазы з жалезнымі ланцугамі для будучых палонных. Рыхтаваліся грунтоўна. Звер ужо прадчуваў паразу слабога праціўніка, пах крыві п'янка кружыў галаў.

Дачуўшыся пра тое, Сігізмунд прыйшоў у шаленства, асабліва тады, калі яму данеслі, што вораг накіроўваецца на Менск.

– Не бываць таму! – ускіпеў правіцель, нахмурыўся, звёўшы бровы на пераноссі, галавой пакруціў. – Васілько хоча Менск пакарыць? А д'ябла смажанага ён не жадае атрымаць? Ноччу выступаем!..

Сігізмунд І, кіраўнік Княства, сабраў усе літоўскія войскі, далучыў да іх палякаў, нават тую ж арду перакопскіх татараў угаварыў стаць пад сцягі Княства.

Сабраўшы сваё войска і наёмнае, польскае ды татарскае, паскораным маршам падаўся на Менск. Дайшлі хутка, бо войска было добра накормленае, у баях яшчэ не знясілела, ды і коні як след атрымалі падмацунак. Але ў Менску доўга не забавіліся, адразу на Барысаў пакіравалі, дзе і быў прызначаны агульны збор з рэвізіяй усяго войска.

Сігізмунд не сказаць, каб застаўся задаволеным пасля агляду агульнага войска, але трыццаць тысяч конніцы і тры тысячы пяхоты ўсялялі нейкую надзею.

– На Маскву рушым! У сваім жа гняздзе схопім яго за горла! – прыйшла нечакана рызыкоўная думка да Сігізмунда. – У зародышы яго здушыць трэба. Рыхтавацца да паходу!

Летапісец Антон Клімовіч ведаў пра ўсё тое падрабязна. Пра тое сведчыў летапісец Бельскі, які ў сваіх допісах не займаў нейкі адзін бок, а апісваў праўдзіва і канкрэтна.

Прамовіў загад аб рушанні на Масковію Сігізмунд не ў гарачцы, не ў злосці і крыўдзе на маскоўскага цара. Ім адно кіраваў клопат пра родныя землі, якія не павінны быць аддадзеныя захопнікам.

Неўзабаве ў Барысаў прыбыў пасол папы Джновані Пізо. Адразу ж папрасіў аўдыенцыі ў Сігізмунда. І хаця быў заняты неадкладнымі клопатамі пра рушанне, неахвотна дазволіў паслу пераступіць парог палаткі.

– Мой валадар, прыміце самыя шчырыя словы хвалы вашым добрым клопатам і пажадання добрага здароўя ад яго светласці Леона Х, – схі-

ліўся ў нізкім паклоне пасол, капелюхом махнуўшы каля ног, выпраставўся. – Да вас я прыбыў па хадайніцтве нямецкага імператара Міксіміліяна.

– І што імператар? – уперыўся вачыма ў пасла Сігізмунд.

– Максіміліян звяртаецца да вас з просьбай – пазбегнуць вайны з маскоўскім гасударом. Ёсць на тое прычыны, пра якія пакуль што гаварыць нельга. Але ў пройгрышы вы не будзеце.

Сігізмунд склаў рукі на грудзях, кісла ўсміхнуўся, спытаў:

– А ў выйгрышы? Каму дастанецца выйгрыш – Васільку?

Пасол пасур'ёзнеў, пацісну плячыма – пра тое імператар нічога не казаў, а яму самому рабіць высновы не выпадала.

– Так, дарагі Джновані, я ўважліва выслухаў цябе, а цяпер ты паслухай мне. Перадай папе, што я вельмі ўдзячны яму за параду, але, на вялікі жаль, не магу прыняць яе. Бо ведаю добра, хто такі мой вораг. Маскоўскі князь чалавек пыхлівы і ганарлівы, і таму ніхто не паверыць, што ў маёй дзяржаве можа наступіць мір, дзякуючы яго дабрыні, толькі вайной можна яго прымусіць прыйсці да міру. Як ён з намі размаўляе, так і мы з ім. Ён іншых слоў не разумее.

Пасол зноў пацісну плячыма, незадаволена сціснуў губы. Схіліў галаву, паказваючы, што час аўдыенцыі скончыўся.

Раніцай адслужыў Сігізмунд у касцёле Барысава імшу, доўга маліўся стоячы на каленях. Прасіў у Госпада перамогі над маскоўскім князем.

Прыйшоўшы ў сваю стаўку, аддаў камандзірам аб'яднанага войска:

– Рушым на Маскву! Іншага шляху ў нас няма! Наперад!

Пазней Антон будзе ў Варшаве, будзе чытаць польскія летапісы. Яму цікава было прачытаць, што пісаў летапісец пра тую падзею – выступленне Сігізмунда з Барысава. А прачытаў ён наступнае:

«Войскі рухаліся з незвычайнай радасцю, спявалі песні. Усе былі ўпэўнены, што наперадзе іх чакае перамога, бо над галовамі вояў лёталі зграі груганоў і каркалі неяк весела і ўзнёсла… Вої, якія верылі ў прымхі, лічылі гэта знакам несумненнай перамогі».

Іншыя ў карканні чорных птушак убачылі іншае. Прадказальнікі, гледзячы на зоркі, таксама ўбачылі не тое, што хацеў Сігізмунд. Вагаліся цвярозыя розумы і звездары, але на паўдарозе да Масквы, калі спынілася войска на чарговы прывал, не вытрымалі, да Сігізмунда падступіліся. Абступілі яго намеснікі і вайсковыя начальнікі, а гаварыць даручылі самаму мудраму і чалавеку ў гадах, не раз пакрамсанаму варожымі мячамі, Рычарду Войскаму.

– Ты мудры і вялікі, разумны і прадбачлівы, – пачаў сваю прамову Рычард, – але выслухай нас…

Сігізмунд выдаўжыў перад сабою руку, падняў даланю, забараняючы далей гаварыць, прамовіў:

– Не буду слухаць! Бацька з таго свету папярэдзіў мяне, каб не ішоў далей, каб вярнуўся ў Барысаў і адтуль назіраў за ваеннымі дзеяннямі. І кіраваць сечай будзе не такі, як я чалавек, а спрактыкаваны ў баях, сапраўдны Ваяр.

Усе радасна загулі, заўсміхаліся.

– Слава Сігізмунду! Слава! – пачуліся адабральныя воклічы.

– Раніцай, як войска адпачне, вяртаемся на Барысаў.

Пра такое распараджэнне ў хуткім часе даведаўся Васіль Іанавіч, тут жа загадаў сваім баярам накіраваць войскі пад Барысаў і стаць абозам каля ракі Беразіны.

Двойчы накінуліся ваяры маскоўскага князя на палкі Сігізмунда, ды не па сілах было скарыць аб'яднанае рушанне. Адступілі да Дняпра. Думалі, што пагоніцца за імі Сігізмунд, пачне перапраўляцца па рэчцы, а тут яны і кінуць свае свежыя войскі, каб патапіць вояў у плыткай рацэ.

Было такое жаданне ў кіраўніка Вялікага Княства, ды нешта стрымлівала яго, не пускала наперад, вагаўся, сумняваўся, баючыся зрабіць нешта не так, што потым ужо і не паправіш. Не ведаў, якое прыняць рашэнне.

І ў гэты ж час з'явіўся на светлыя вочы Сігізмунда перабежчык-здраднік маскоўскага князя Міхайла Глінскі, з дапамогай якога перад гэтым маскоўцы захапілі Смаленск. Не адпрэчыў яго ад сябе Сігізмунд. Міхайла расказаў пра планы і колькасць царовага войска. Усялілася ў сэрца надзея і ўпэўненасць. А потым з'явіўся і каронны князь Ян-Труба-Свярчкоўскі, за ім князь Канстанцін Астрожскі, які не так даўно збег з маскоўскага палону…

Вось тады і зусім пераканаўся Сігізмунд, што яго маруднасць можа прывесці да бяды. І тады толькі пакінуў Барысаў, рушыў да Дняпра…

Усё ведаў летапісец Антон Клімовіч, а гэтыя дзеі разгортваліся на яго вачах.

**5**

1507 год, сакавік… У Маскву прыбылі паслы Вялікага Княства Літоўскага. У нізкім паклоне перадалі Васілю III грамату, у якой афіцыйна паведамлялі, што на трон у княстве ўзышоў Жыгімонт I.

Уважліва прачытаўшы ліст, Васіль III усміхнуўся задаволена:

– Гэта добра, вельмі добра. Можа мы цяпер наладзім добрыя адносіны з вашай краінай. Што яшчэ сказаць мне хочаце, паважаныя пасланнікі Княства?

– Светлы князь Васіль III, – выступіў наперад Янка Парамошна, – нагадаць хочам табе, што вялікі князь Васіль II і вялікі князь Казімір IV яшчэ ў 1449 годзе склалі «Вечны мір» – дамову на вечную дружбу, па якой два бакі абавязаліся не адбіраць адзін у аднаго землі, і што Казімір і Аляксандр не парушылі ў той дамове ніводзін пункт, а вось Масква, на жаль, парушыла.

Васіль III ледзь прыкметна спахмурнеў, твар скамянеў:

– І што ж вы хочаце?

– Наш валадар перадае табе ягонае патрабаванне – неабходна вярнуць Літве яе гарады і землі, якія незаконна захапіў Іван III.

Яшчэ больш пахмурнеў Васіль III, але стрымліваў сябе, стараўся не выйсці з раўнавагі ад такога нахабства.

– Што яшчэ?

Праўдзівасць дзеянняў каралёў Казіміра і Аляксандра была вядома ўсяму свету, а вось Сігізмунд яшчэ раней звяртаўся да вялікага князя Васіля саступіць літоўскія гарады і воласці, землі і водныя прасторы, якія дасталіся яго бацьку падчас папярэдніх войнаў. Але і гэта не ўсё – патрабаваў вызваліць усіх палонных Княства – і ўсё для таго, каб кроў хрысціянская не лілася болей, бо каралі па праўдзе сваёй спадзяюцца на Госпада. Патрабаванне паслоў выглядала няйнакш як пагроза, выглядала яно так: у выпадку нязгоды выканаць патрабаванні будзе аб'яўлена вайна.

– Яшчэ якія патрабаванні?

– Вашыя войскі нядаўна захапілі чатыры смаленскія воласці, а дарагабужскія памешчыкі прыгнятаюць літоўскіх памежнікаў.

Тут ужо Васіль пасміхнуўся, пахітаў галавой, адказаў: «Ну что вы, мои дорогие! Мы городов, волостей, земель и вод Сигизмундовых, его отчин никаких за собой не держим, а держим с божиею волею города и волости, земли и воды, свою отчину, чем нас пожаловали и благословил отец наш, князь великий, и что нам дал Бог, а то прародителей наших и вся Русская земля наша отчина… Как отец наш, и мы брату нашему и зятю Александру дали присягу на перемирных грамотах, так и правили ему во всем до самой его смерти. А с Сигизмундом королем вашим, кстати, нам перемирья не было. Если же Сигизмунд, как вы говорили, хочет с нами мира и доброго согласия, то и мы хотим с ним мира, как нам будет пригоже…»

Хлусіў Васілько, ой як хлусіў, гэтаму даўно навучыўся. Найбольш за ўсё ён жадаў працягваць заваявальную палітыку свайго папярэдніка – бацькі свайго. Галоўнай яго марай быў літвінскі горад Смаленск.

– Вы тут, шаноўныя, няпраўду кажаце. Ніхто не заваёўваў Смаленск. Смаляне самі выступілі з прапановай, каб мы іх абаранілі ад князёў літоўскіх.

– Мы так разумеем, светлы князь, што не ідзеце ні на якія саступкі? – удакладніў спакойным голасам Янка Парамошна.

– Гэта вы самі не ідзяце на саступкі. І тое нам не падабаецца.

Дыпламатычныя перамовы ў Маскве скончыліся безвынікова.

А тое азначала, што Княству неабходна рыхтавацца да вайны з усходнім суседам.

Вялікае Княства Літоўскае ўступіла ў хаўрус з Інфлянтамі і Крымам. Жыгімонт хацеў адваяваць Севершчыну, таму сабраў амаль чатырнаццаць тысяч паспалітага рушэння, якое ўзначаліў Станіслаў Кішка. Ды не спаў у шапку маскоўскі гаспадар – сам першы пераступіў мяжу Княства. На Беларусь уварваліся, бы драпежныя звяры, два агромністыя злучэнні. Адно з іх з боку Вялікіх Лукаў, а другое – з Дарагабужа. Як ненажэрныя вусені пачалі пустошыць і рабаваць Літву-Беларусь, найперш землі, што знаходзіліся вышэй і ніжэй Беразіны.

А гэта азначала толькі адно – распачалася вайна, ужо трэцяя…

Пра тое даведаўся кароль і вялікі князь Жыгімонт, калі знаходзіўся ў Кракаве. Непрыемна апаліла яго вестка, падумаў пра сябе: «Зноў кроў пральецца… Бараніць Айчыну, не праліўшы крыві, не атрымаецца».

Сабраў у сваёй рэзідэнцыі Станіслава Глябовіча, Ольбрахта Гаштольда, гетмана Станіслава Кішку.

– Ну, што мае родныя, зноў у сёдлы прыходзіцца сядаць ды мячы ў рукі браць? Зноў Васілько напаў на нашыя землі – вайна распачалася.

Маўчалі ваяры, хмурыліся, загадзя ведалі, што праз нейкі час у бойку з маскоўцамі кінуцца.

– Ты, Станіслаў, павінен цвёрда абараняць Полацк. Ні пры якіх умовах не аддаваць маскоўцам. Гэта наш фарпост.

– Зразумеў, мой кароль.

– Смаленск будзе ўтрымліваць Ольбрахт Гаштольд. Нялёгкая задача перад табою, вельмі нялёгкая. Ну а весці рушанне і наладзіць абарону Менску даручым Станіславу Кішку. Я ж 18 траўня прыбуду ў Вільню, пасля гэтага распачнём агульныя і рашучыя дзеянні.

Калі ж сам манарх прыбыў у Вільню, каб абвясціць аб агульным выступе войска, аказалася, што маскоўцы самі пакінулі землі Вялікага Княства Літоўскага.

Як заканчвалася лета, Станіслаў Кішка з конніцай падышоў да Друцка. Яго гарнізон славіўся паасобнымі харугвамі, пагэтаму яны, адпачыўшы

пасля пераходу, адразу кінуліся заваёўваць маскоўскае памежжа. Адразу ж захапілі чатыры невялікія гарады. Абазначылі свае новыя межы і адразу ж вярнуліся на зыходныя пазіцыі. З іх узялі прыклад татары, якіх хан паслаў на Севершчыну, вярнуліся дадому. У іх была важкая прычына вярнуцца – Крыму пачалі пагражаць нагайцы.

А восенню таго ж года ваяводы Я. Захар'ін і В. Холмскі нечакана напалі на Оршу. Але атрымалі рашучы адпор ад жыхароў горада. Зразумеўшы, што горад так проста яны не возьмуць, ды даведаліся, што харугвы паспалітага рушання ішлі на Падняпроўе, адступілі хутка на свае межы. Але ў паветры патыхала не спакоем і мірам, а вайной…

Яшчэ б нейкі час зацішша працягвалася, ды як толькі пачаўся наступны год, князь Міхаіл Глінскі падняў мяцеж. Вайсковую навуку ён атрымаў у Нямеччыне, быў адукаваным чалавекам, смелым і адважным. Практыкаваўся на службе ў войсках Маскіміліяна I Габсбурга, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі. У Літве Міхаіл даволі хутка зблізіўся к вялікім князем Аляксандрам, стаў найбагацейшым мясцовым магнатам: яму належала Падляшша ў Лідскім павеце ды горад Тураў. Міхайла нават дапамог Аляксандру стаць каралём Польшчы, стаў яго намеснікам.

Меў выключны талент, і таму падтрымаў сваіх братоў Івана, Васіля ды Фёдара ў іх узвышэнні. Яны разам і нарадзілі востры канфлікт паміж Міхайлам і старымі літоўскімі арыстакратамі. Тайную групоўку ворагаў роду Глінскіх узначаліў гарадзенскі ваявода Ян Юр'ін Забярэзінскі, ці Забярэсскі.

Князь Міхаіл у 1506 годзе разграміў ушчэнт татараў падчас бітвы пад Клецкам, што паклала канец частым набегам крымскіх татараў на землі Вялікага Княства Літоўскага. Так што меў непахісны аўтарытэт.

Аляксандр, даведаўшыся пра перамогу, узрадаваўся, павіншаваў князя, а праз тры дні адышоў да пана Бога. Шляхта асцерагалася, што вярнуўшыся, Глінскі захопіць уладу. Але Міхаіл Львовіч прысягнуў на вернасць Жыгімонту. Тады ваявода Забярэзінскі нашаптаў Жыгімонту, што князь Міхаіл і яго брат Іван заяўлялі ў прыватных размовах, што зневажаюць яго вялікасць. Паклёп адыграў сваю ролю, і Жыгімонт прагнаў Міхайлу са сваіх давераных асоб.

Пакрыўдзіўшыся, Міхаіл прасіў караля разабрацца з паклёпам праз суд. Жыгімонт адцягваў, не хацеў наладжваць суд.

Тады Міхайла наважыўся на крайнія меры. Сабраўшы сем сотняў вершнікаў свайго войска ўварваўся ў загарадны маёнтак Забярэзінскага, які знаходзіўся непадалёк ад Гародні, адсек таму галаву.

Пасля гэтага адкрыта выступіў супраць Жыгімонта.

Ён сабраў ужо больш як дзве тысячы чалавек, спаліў жорсткім агнём Слуцкую і Капыльскую воласці, акрамя гэтага разграміў гарады Мазыр і Бабруйск. А калі паспрабаваў абкласці Слуцк, гарнізон горада адбіў усе спробы захопу.

І далей пачало ўсё разрастацца… Васіль разгарнуў свой плацдарм наступу аж па трох кірунках. Палкі Данілы Шчэні рушылі з Ноўгарада, Якава Зара'іна-Кошкіна з Масквы ўзялі кірунак на Смаленск. Трэцяя армада, якую ўзначаліў князь Васіль Іванавіч Шамяціч, спяшалася ўжо на дапамогу Міхайлу Глінскаму. Маскоўскі князь раіў яму, каб разам з Шамяцічам «здабываў найбліжэйшыя да сябе гарады, а далёка з ёю не хадзіў, справу рабіў бы не спяшаючыся» да тае пары, пакуль з Масквы не падыдзе асноўнае войска.

Таму і вырашылі ісці на Менск, перад гэтым адправіўшы туды перад сабою загоны – атрады лёгкай кавалерыі, а потым яшчэ глыбей у Літву, наладзіць там паніку з тым, каб перашкодзіць збору войскаў. Тыя загоны падступіліся нават да Вільні – бачылі іх на чатырнаццатай вярсце ад Вільні і за сем ад Наваградка, разбілі свае намёты нават пад Слонімам.

Толькі тады падалі голас вайсковыя горны аб небяспецы, толькі тады, зразумеўшы сваю маруднасць, аб'явілі мабілізацыю ратнікаў і рыцараў.

Першым сабраў сваіх вершнікаў Гетман Астрожскі. І ў траўні ён здолеў разбурыць і знішчыць гняздо бунтаўнікоў у Тураве.

Рушанне пачало збірацца ў Лідзе. Праз Берасце спяшаўся з Кароны і Жыгімонт, ён сабраў каля чатырох тысячаў войска з палякаў.

Калі ўсе сілы прыйшлі ў прызначанае месца, Жыгімонт сабраў военачальнікаў. Доўга не тлумачачы, кароль абвясціў:

– Княства ў небяспецы! Таму я прыняў рашэнне, каб аб'яднанымі сіламі кіраваў вялікі гетман Канстанцін Астрожскі. Усе згодны са мной? Ёсць тыя, хто не давярае вялікаму гетману?

Усе маўчалі, тым самым выказаўшы сваю падтрымку і згоду.

І калі ўжо дваццатага чэрвеня Астрожскі ўвайшоў у Менск, Глінскі пачаў адступаць на ўсход, у кірунку Барысава.

12 ліпеня 1508 года маскоўцы даведаліся, што войскі Княства падыходзяць да Оршы. Глінскі абяцаў любыя грошы, каб толькі маскоўскія ваяводы не ўхіляліся ад бітвы з войскамі Княства, тыя чамусьці не падтрымалі мяцежніка і бунтаўшчыка. Яны адышлі на бяспечныя рубяжы.

Маскоўцы заўсёды баяліся ўступаць ў бойку на адкрытым месцы, не рызыкавалі войскам, яны ўмелі заваёўваць замкі і спустошваць безабаронныя землі. І таму калі трынаццатага ліпеня Жыгімонт накіроўваўся да Оршы з шаснаццацітысячным злучэннем Вялікага Княства Літоўскага і

Кароны, маскоўцы спешна адступілі, пераправіліся на левы бераг Дняпра і размясціліся ў густым лесе.

А на правым беразе спыніліся войскі Астрожскага. Побач – ратнікі М. Фірлея з палякамі. Пад прыкрыццём ночы ваяводы ціха паднялі свае палкі і рушылі ў бок Дуброўны, пасунуліся далей на паўднёвы ўсход, да Мсціслаўля. Там разрабавалі і спалілі пасад. Пасля рушылі на Крычаў. Так і не сустрэліся ваяводы з Канстанцінам, разышліся ў розныя бакі.

Жыгімонт выдыхся, не меў ужо болей моцы і сілы працягваць вайну. А Васіль III стаміўся ад вайны, яна абрыдла яму. Таму пагадзіліся на перамір'е.

І дзевятнаццатага верасня 1508 года ў Крэмль прыбылі каралеўскія паслы. Гэта полацкі ваявода Станіслаў Глебавіч, маршалак Ян Сапега і яшчэ некалькі чалавек. Доўга дамаўляліся, і толькі восьмага кастрычніка пагадзіліся скласці «вечны мір» – бестэрміновы – паміж Масковіяй і Літвой.

Летапісец Антон Клімовіч знаёміўся і знаёміўся з запісамі папярэднікаў, здзіўляўся і абураўся, як паводзілі сябе маскоўцы. «Вечны мір» паміж дзвюма дзяржавамі пратрымаўся нядоўга – усяго чатыры месяцы. Маскоўцы захапілі ў 1510 годзе Пскоў, а праз два гады ў Маскву паведамілі крымскія «доброхоты», што паход крымскіх царэвічаў стаў вынікам той дамовы, якую заключылі паміж сабой Менглі-Гірэй і Жыгімонт.

Васіль у тую хлусню паверыў, і гэта стала сур'ёзнай падставай для таго, каб разарваць мірныя адносіны і дамову скасаваць. Ён тут жа пасылае Жыгімонту грамату, выказваючы свой гнеў і папрок у падбухторванні Менглі-Гірэя супраць Масквы.

У сярэдзіне лістапада з Масквы на захад рушылі галоўныя сілы на чале з Васілём III, а з ім і ваяводы – Д. Шчэнь, А. Растоўскі, І. Варатынскі і іншыя. Шэсць тыдняў яны трымалі горад у аблозе, білі па ім з гарматаў, штурмавалі колькі разоў. Войскі Рэпніна пустошылі землі аж да Менска і Віцебска. Не ўзялі, але страцілі шмат жывой сілы: у студзені загінула каля дзвюх тысячаў маскоўцаў. Прыйшлося Васілю адвесці свае войскі. Але летам зноў падаліся на незаваяваныя землі.

Максіміліян I, хаўруснік Масквы, прыслаў для паходу «аддзел пяхоты, гарматы і некалькі італьянцаў, якія мелі вопыт у аблозе замкаў». Глінскі тым часам наняў рэйтараў у Сілезіі і Чэхіі.

А пад самай Оршай Канстанцін Астрожскі, маючы невялікія сілы, здолеў разбіць дапаможны корпус маскоўскіх ратнікаў, які трымаў шлях на Смаленск. І Васіль III вымушаны быў у лістападзе зняць беспаспяховую аблогу, адначасова адклікаўшы з-пад Віцебска і Полацка палкі Міхайла

Глінскага. А яны паспелі спустошыць землі ў тых мясцінах, забіўшы шмат людзей.

А ў лютым 1514 года Масква зноў наліваецца крывавай смагай і аднадушна прымаецца рашэнне аб трэцім ужо смаленскім паходзе.

Да маскоўскага князя прыязджае адмысловы пасол ад Свяшчэннай Рымскай імперыі. Імператар Максіміліян разам з Васілём III утвараюць ваенную кааліцыю еўрапейскіх дзяржаў супраць Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай. Далучыцца да імперыі ды маскоўскай дзяржавы меркавалі Данія і Брандэбург, Саксонія і Валахія, і ў дадатак – Тэўтонскі ордэн.

Ужо тады ў гарачых галовах саюзнікаў, якія сабраліся ў Маскве, выспяваў план падзелу Польшчы і Вялікага княства Літоўскага.

Рушылі войскі да Смаленска напрыканцы траўня (8 чэрвеня) 1514 года. На гэты раз Васіль узяў у паход братоў – Юрыя і Сямёна, а трэцяму брату Дзімітрыю загадаў застацца ў Серпухаве, каб у выпадку чаго бараніць паўднёвыя межы ад крымчакоў. Андрэй, чацвёрты брат, застаўся ў Маскве: маглі здзейсніць набег татары, таму ён атрымаў даручэнне не пусціць іх у Маскву.

А напрыканцы ліпеня пачалася аблога Смаленска…

Вораг перакрыў усе дарогі да горада. Трыста аблогавых гармат пачалі бесперапынна абстрэльваць горад. Смаляне цвёрда стаялі на сваіх пазіцыях. А вось на трэці дзень… У Васіля ў наймітах служыў замежны пушкар Стэфан, які славіўся прыцэльным і трапным стрэлам. У яго распараджэнні была вялізная пішчаль, якая і праславіла яго як трапнага пішчальніка.

Так сталася, што ён з першай спробы патрапіў у гармату, якая знаходзілася на крапаснай вежы. Зараджаная гармата ўзарвалася, і ўсе, хто знаходзіўся побач, загінулі.

А потым ужо Стэфан падрыхтаваў дзясяткі гармат меншых калібраў, зараджаных камянямі, пакрытых свінцовай абалонкай. Па яго камандзе «Плі!» адначасова выбухнулі зараджаныя гарматы. І тыя камянюкі паляцелі на гарадскія сцены, на версе іх знаходзілася шмат ваяроў і апалчэнцаў…

Бачачы такое, ведаючы, што можа адбыцца далей, на мост выйшаў праваслаўны ўладыка Варсанофій. Трымаючы перад сабою вялізны крыж, звярнуўся да вялікага князя:

– Вялікі князь Васіль, мы просім у цябе перамір'я да наступнага дня. Пабойся Бога, не знішчай невінаватых людзей.

У адказ на заклік Варсанофія Стэфан загадаў:

– З усіх бакоў і з усіх гармат абстраляць горад!

На наступны дзень Васіль III накіраваў у Смаленск сваіх ваяводаў і дзякаў, даручыў ім перапісаць усіх жыхароў і прывесці да прысягі «быць за вялікім князем і дабра яму жадаць, за караля не думаць і дабра яму не жадаць».

Да вечара ўсіх сялянаў перапісалі і прывялі да прысягі.

І толькі тады намеснік Юрый Салагуб загадаў адчыніць галоўную браму, і ў першы дзень жніўня Васіль III разам з уладыкам Варсанофіем урачыста ўступіў у Смаленск.

Васіль сваёй уладай абвясціў статутную грамату смаленскім князям, баярам і мяшчанам, прызначыў намеснікам баярына князя Васіля Шуйскага. Наладзіў для ўсіх багаты абед. Юрый Салагуб адпрасіўся ў князя, зажадаў вярнуцца да Жыгімонта. Яго з лёгкасцю адпусціў вялікі князь. А калі ж Салагуб вярнуўся ў Вільню, яго абвясцілі здраднікам і адсеклі галаву.

Далей звесткі таксама цікавыя. Васіль III прапанаваў смалянам, якіх захапіў, два шляхі. Адзін – гэта застацца ў яго на службе, а другі – з'ехаць да караля. Першыя атрымаюць па два рублі (новая хата па тым часе каштавала каля 50 капеек), а тым, хто зажадаў пераехаць у Маскву, дадуць пад'ёмныя і права захаваць за сабой маёмасць.

Маскоўскія ваяводы пасля капітуляцыі Смаленска пачалі імкліва рухацца далей у землі Беларусі. Васіль III спяшаўся падмацаваць свой поспех у захопе Смаленска – захацеў як паболей захапіць тэрыторый суседняй дзяржавы. Меркаваў, што Жыгімонт не паспее ўмацавацца і выставіць супраціў… І тады ж акупаваў Мсціслаў, Крычаў, Дубоўну…

Не чакаў Васіль, і таму нямала быў здзіўлены, калі яго войска сустрэлася каля Беразіны з перадавымі атрадамі Жыгімонта I. Вырашыў не рызыкаваць і адступіў, вярнуўся назад, да Оршы.

Можна нагадаць у гэтай сувязі пра Міхайлу Глінскага, пра якога гаварылі раней. Ён чакаў княжацкі падарунак пасля падзення Смаленска: нейкі горад, два ўдзелы, абяцаны Васілём. Думаў, што князь аддасць яму Смаленск. Ды не такі дурны быў князь, каб такі ключавы горад аддаць ненадзейнаму чалавеку. І адмовіў Глінскаму. Міхайла моцна пакрыўдзіўся і тайна ўступіў у перамовы з Жыгімонтам.

Узрадаваўшыся, Жыгімонт таемна перадаў Міхайлу ахоўную грамату. Яму трэба было ноччу пакінуць свой атрад і збегчы ў Оршу. Ды адзін з яго блізкіх слуг, даведаўшыся пра тое, наведаўся да князя Міхайлы Голіцы і расказаў пра ўцёкі свайго гаспадара. Папярэдзіўшы пра тое ваяводу Чаляднiна, Голіца паскакаў па ўказанай слугой дарозе, той жа ноччу схапіў уцекача. А як наступіла раніца, злучыўся з атрадам Чаляднiна. І яны далей ужо разам даставілі Глінскага ў Дарагабуж – у стаўку Васіля III. Не ўпіраўся, бо грамата даказвала яго пераход на службу караля. Тут жа

перайшоў у праваслаўе. Жыццё яму захавалі, але пасадзілі ў маскоўскую вязніцу. Там ён адседзеў дванаццаць гадоў.

Так, захоп Смаленска стаўся вялікай стратэгічнай перамогай Масковіі, але Васіль доўга не мог скарыстацца такім поспехам – Жыгімонт у кароткі тэрмін здолеў сабраць магутныя сілы.

Летапісцы запішуць:

«Того ж року князь московский, осадивши жо вязеня Глинского, а учувши о малом войску при кролю Жигимонте в Борисове, зараз послал до оного войска своего, которого был выправил 80 000 на пустошене Литвы, абы просто до Борисова на Жигимонта…»

Гэта «Хроника Литовская и Жмойтская». Так пачынаўся аповед пра адну з самых бліскучых бітваў у гісторыі беларускага народа.

…Калі летапісец зазірнуў у кавальскія амбары, здзівіўся, як там зладжана ішла праца. Стукат молатаў, шыпенне пары, калі апускалі кавалі дзіды ці паліцы ў начоўкі з вадой, гучныя размовы, выкрыкі майстроў – усё змяшалася, злілося ў адзіны мажорны гул, суцэльную мелодыю падрыхтоўкі да бітвы.

Кіраваў усім старэйшы каваль, які быў і ростам вышэйшы за ўсіх, меў кужэльную бараду да пояса. Рукі, трымаючы трохпудовы молат, лёгка падымалі яго і апускалі на кавадла.

Гатовыя мячы з бліскучымі лязамі адносілі і складалі ў адну аграмадністую гару, і чалавек, што стаяў там, адзначаў на берасцяной шыльдзе, колькі зброі вырабілі кавалі…

Нешта ўздрыгнула ў ім, калі падышоў да галоўнага каваля. Пазнаў у ім каго-некага, ды баяўся памыліцца. Спытаў:

– Як зваць цябе, чалавеча?

Каваль, не адымаючы молата ад кавадла, паглядзеў на госця:

– Дзям'ян я, а гэта ўсе мае памочнікі. А ты, мусіць, летапісец?

– Так, галоўны каваль, пагэтаму і абыходжу ўсіх, гляджу, як рыхтуюцца ўсе да бітвы з маскоўцамі.

Ён перастаў размаўляць з госцем, зноў за молат узяўся. Яго памочнік паклаў на кавадла пляскатую жалязяку – і молат Дзям'яна з глухім выбухам расплюскаў метал. Каб не перашкаджаць, летапісец адышоў ад кавалёў, падаўся да харугваў лёгкай конніцы, дзе ваяры рыхтавалі амуніцыю.

## 6

Сеча распачалася.

Загрымелі на розныя мелодыі баявыя бубны, турыныя рагі, трубамі-сурмамі абвясцілі пачатак самай грознай і вялікай бітвы спаміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масковіяй.

На атрады Астрожскага, якія стаялі пасярэдзіне ўсяго войска, адразу ж накінуліся маскоўскія ратнікі. Яны вылучылі сярод змагароў вялікага гетмана. Ды як не вылучыць яго – у срэбным адзенні, са шчытом на грудзях, у сталёвай касцы з паўлінавым пяром, а ў руцэ булава.

Першая атака маскоўцаў як хутка пачалася, так хутка і захліпнулася.

Так і другая, хаця адбывалася яна трошкі даўжэй…

Магло падацца, што Канстанцін хаваўся за спінамі сваіх вершнікаў, якія не падпускалі да яго злых ворагаў. Ды нечакана ён сам на даўганогім жарабцы вырваўся са сваіх жа радоў і кінуўся наперад.

Не крычаў, не падаваў голасна каманды, а толькі жэстыкуляваў. Камандзіры глядзелі на яго жэсты і потым, разумеючы іх сэнс, перадавалі ўжо яго загады.

Некалькі скокаў каня аддзялялі вялікага гетмана і коннікаў цара.

– Акружыць! Захапіць у палон! – паказваў на Канстанціна Чаляднін, прадчуваючы блізкую перамогу – паланенне Астрожскага. – Раз быў у палоне, зноў няхай пабудзе.

І сам першы рынуўся ў атаку, пачаў махаць направа і налева мячом.

Бачыў, як, пагардліва гледзячы на яго і ўсміхаючыся, стаяў на месцы вялікі гетман. Не ўцякаў, хаця бачыў, якая арда насоўваецца на яго і яго войска, не рухаўся з месца.

Ды што гэта – Астрожскі не толькі не думаў адступаць, а, наадварот, ускінуў булаву над галавой і павёў сваю конніцу ў рашучы наступ, чым здзівіў і ашаламіў маскоўскага камандзіра.

Воі за камандзірам – у агонь і ў ваду.

«Хопіць аднаго разу мяне паланілі, – падумаў Канстанцін, – другога разу не будзе. Не падарую вам такой радасці».

Коннікі абагналі ўсё ж свайго камандзіра, урэзаліся ў варожыя шыхты, і тады ўжо з усёй апантанасцю і ярасцю накінуліся на праціўніка. Яны працавалі дзідамі і шаблямі, прыкрываючы грудзі залатымі шчытамі з выявай Княства, за спінамі бел-чырвона-белыя сцяжкі.

Нечакана справа падступіліся варожыя вершнікі, паспрабавалі акружыць Канстанціна, ды ён, злаўчыўшыся, апусціў на галовы траіх блі-

жэйшых сваю булаву, а чацвёртага дзідай праткнуў, быццам здрока надакучлівага.

З-за ўзгорка вынырнула падмацаванне маскоўскім воям, наўскач паткнуліся на сярэднія атрады. І тады нехта з конніцы Астрожскага на расейскі манер спалохана крыкнуў з усёй сілы:

– Ребята! Спасайтесь, кто как может, нам не одолеть московского царя!

Воі спынілі сваіх коней, нацягнулі лейцы, коні сталі на дыбкі, заіржалі, бы незадаволеныя былі, што не далі ім магчымасць далей урэзацца ў сечу.

– Назад! Наза-ааад! – крыкнуў той жа чалавек.

І коннікі Вялікага Княства развярнулі коней, па камандзе ўжо самога гетмана пачалі адыходзіць. Чаляднін не паверыў у такую ўдачу, у такую хуткую перамогу, даў каманду свайму войску дагнаць і знішчыць коннікаў, якія кінуліся ўцякаць. Маскоўская конніца з гігіканнем і радаснымі воклічамі адразу ж кінулася ў пагоню.

– Го-го-го! – чуліся радасныя воклічы. – Бежит Литва, так ей, так! Герои, вперёд!

Астрожскі разам з вершнікамі стараліся як найхутчэй даскакаць да бліжэйшага лесу. Там было выратаванне і – перамога.

Канстанцін скакаў наперадзе. Не спыняючы скакуна, зноў падняў булаву над галавой. І тут жа яго конніца рэзка раздзялілася на дзве часткі. Адна з іх павярнула ўправа, а другая – у левы бок. Знікла конніца, растварылася ў хмызняках і лесе. Маскоўцы разгубіліся, не ведаючы, за кім і ў які бок працягваць пагоню…

Ды тут з зараснікаў, замаскіраваных голлямі, ударыла нечакана артылерыя, якую прыхаваў і падрыхтаваў для такога выпадку вялікі гетман. Гарматы адначасова «выплюнулі» дзясяткі ядраў. Пярэднія рады вояў, разарваныя ядрамі, пападалі на зямлю. Ляцелі ў паветра чырвоныя пырскі, маскоўцы клаліся адзін на аднаго, і ўтварылася вялізная гара трупаў…

Другі раз ударылі гарматы, трэці, чацвёрты…

Спачатку маскоўцы, якія скакалі ззаду, нічога не зразумелі, ашаломлена глядзелі на крывавае месіва, якое яшчэ дрыгалася ў канвульсіях, параненыя крычалі і стагналі, прасілі дапамогі… Ачомаўшыся, зразумеўшы, што не перамога іх напаткала, а параза, кінуліся на ўцёкі.

Астрожскі прадбачыў тое, для пагоні за ворагам вылучыў асобныя палкі. І яны гналі акупантаў болей чым пяць міль, ужо ў спіну ім кідалі вострыя дзіды і спіцы, а дагнаўшы, секлі без жалю… Гналі б і далей, ды ноч, што насунулася раптоўна, пачала хаваць дарогі і саміх ворагаў. А яны і самі, не бачачы перад сабой дарогі, то незнарок у Днепр ці Крапіўну траплялі, тапіліся, не могучы выбрацца адтуль, то ў дрыгву ўскоквалі, а

то у глухія лясы ўбіваліся ды не ведалі, як вырвацца назад з лясных нетрыскаў…

Сама зямля помсціла ім за здзекі…

Летапісец потым запіша, што пад Оршай знайшлі сваю смерць больш як сорак тысяч захопнікаў.

Дзесяць ваявод трапіла ў палон.

На той час Васілько знаходзіўся ў Смаленску.

Дачуўшыся пра такую паразу яго войска, загадаў павесіць на гарадскіх валах усіх тых, хто жадаў вярнуць свой горад у межы Вялікага Княства Літоўскага. Збаяўся, што воі вялікага гетмана і да Смаленска дапнуць, адной ночы ўцёк у Маскву. А пра што марыў? Бізунамі прыгнаць войска Княства пад крамлёўскія сцены.

Пасля летапісцаў і пазней даследчыкі будуць сцвярджаць: Аршанская бітва-сеча засталася і застанецца ў гісторыі роднага краю як адна з буйнейшых у Еўропе XVI стагоддзя.

На рэчцы Крапіўне царскія ваяводы пацярпелі паразу, а ўсе гарады, якія былі імі захопленыя, вызвалілі.

А крымскія татары, даведаўшыся пра перамогу вялікага гетмана, некалькі гадоў баяліся ісці вайной на Княства.

А пазней у гонар сваёй перамогі гетман Канстанцін Астрожскі за ўласныя грошы пабудаваў у сталіцы дзяржавы Вільні праваслаўныя храмы святой Тройцы і святога Мікалая.

Яны стаяць і сёння.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

**7**

Дзіўна, але калі Антон Клімовіч прышпорыў каня, той імгненна паскакаў наперад. Заіржаў радасна, што прыйшла і яго пара далучыцца да агульнага руху, галаву ўскінуў. Тое, што ён віхром ляцеў па пазіцыях ратнікаў Княства, было зразумела, Антон бачыў, як змагаліся воі, але калі ён пераскочыў канавы і яміны, апынуўшыся ўжо на тэрыторыі маскоўскіх гарнізонаў, здзіўленню летапісца не было межаў:

«Дык вось чаго цябе назвалі Ветрам! – зразумеў летапісец, радасна аглядаючы панараму сечы. – Ты ж лётаеш хутчэй за вецер, цябе ніхто не дагоніць».

Убачыўшы яго ды яшчэ без зброі, маскоўскі ваяр узняў ужо меч, каб накінуцца на Антона, ды конь з разгону пераскочыў конніка, узняўшыся

над яго галавой, далёка ад яго апусціўся на зямлю. Аказваецца, у каня па баках выраслі крылы, і ён лёгка ўзмахнуў імі, летучы ў паветры.

«Дык ты і лётаць умееш, – радасна адзначыў летапісец, – паспяваеш пабыць на самых цікавых месцах…»

Калі праносіліся паўз расейскія рады, пачуў з боку вояў Астрожскага вокліч: «Ребята, спасайтесь, не одолеть нам врага!..» Ведаў Антон, то сакрэтны план Канстанціна, ніхто з вояў ніколі не мог у роспачы крыкнуць такія словы, нават пад страхам смерці.

А потым пад Смаленскам апынуліся, каля самай стаўкі цара маскоўскага.

Васілько III сядзеў у задуменні ў крэсле з высокай спінкай, чакаў вестуноў з Аршанскай сечы, мусіць, думаў, колькі яшчэ бізуноў нарыхтаваць, каб войска Княства прыгнаць да сцен Крамля… А потым, убачыўшы, што непадалёк ад яго гарцаваў бялявы конь, танцуючы на адным месцы, а на ім сядзеў невядомы вершнік, без зброі, ды яшчэ ўсміхаўся, спахмурнеў. За плячыма сумка, за спінай на дрэўку бел-чырвона-белы сцяжок. Ніхто не бачыў летапісца, адзін хіба Васілько, як прывід узнік перад ім, ды яшчэ з крыламі па баках каня, як бы што прадвяшчаючы нядобрае…

Тады ўжо маскаль нахмурыўся, хацеў накласці на сябе крыж, ды рука анямела, як хто камень да яе прывязаў. І ўстаць, падняцца са свайго трона не мог, прывязаў яго нехта нябачнымі вяроўкамі.

І баяўся, і не баяўся нечаканага вершніка, бо ў таго і палаша не было, і дзіды, якой бы мог праткнуць яго, адно што ўсміхаўся нядобра, зневажальна, як стрэлы з лука шпурляў у яго… Васілько і рады быў бы ўцячы ад позірку незнаёмца, ды падняцца не мог, хацелася крыкнуць свайму вернаму ахоўніку Валатану, ды ў горле камяк даўкі застраг, і сківіцы нават расшчапіць не мог…

Шмат вёрстаў абскакаў Вецер, шмат чаго ўбачыў на свае вочы летапісец. Потым ужо, зачыніўшыся ў сваёй келлі, апісваў усё да драбніц.

Былі ў Антона памочнікі, яны працавалі паасобку, не ўзгадняючы нейкія дэталі і факты з галоўным летапісцам. Такі быў загад Канстанціна Астрожскага. Бо кожны павінен апісваць тое, што прыкмеціў, што занатаваў у сваёй памяці – у зрокавай і духоўнай.

Падглядзім разам з вамі, што напісаў Антон у сваіх нататках.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не ўтрымаўся і перапісаў сабе ў сшытачак старонкі з летапісу, які адшукаў у архіўных сховішчах Варшаўскай бібліятэкі. «Старонкі з рыцарскага эпасу». Дужа яны мне спадабаліся, насаладзілі душу.

З якое прычыны нарадзіўся гэты твор? З нагоды перамогі трыццацітысячнага (можа і ў 35 тысяч, як сцвярджаюць іншыя даследчыкі) войска Вялікага Княства Літоўскага над 80-тысячным войскам княства Маскоўскага 8 верасня 1514 года на Крапівенскім (рэчка Крапіўна) полі пад Оршай.

«Пахвала пану Віленскаму, старасту Луцкаму і Брацлаўскаму, маршалку валынскай зямлі, Вялікаму Ваяводу, слаўнаму ды Вялікаразумнаму гетману, Князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму:

У год 7023 (1515), 2 індыкта, месяца жніўня першага дня (*1 верасня 1514 года – тут і далей удакладненні мае*) вялікі князь маскоўскі Васіль Іванавіч (Васіль III Іванавіч (1479–1533) – вялікі князь маскоўскі (з 1503), сын Івана III Васільевіча Каліты і Сафіі Палеалог. Вёў войны з Вялікім Княствам Літоўскім у 1507–1508 і 1512–1522 гадах, жадаючы скарыць паўночна-ўсходнія і паўднёвыя землі Княства), маючы ненажэрную ўтробу ліхвяра, пераступіўшы дамову і крыжацалаванне, з меншага на большае зло, – падаўся і пачаў здабываць некаторыя гарады, бацькаўшчыну і дзедаву спадчыну вялікага ды слаўнага гаспадара Жыгімонта (Жыгімонт I Стары), караля польскага і вялікага князя літоўскага, рускага, прускага, жамойцкага ды іншых.

І ўзяў Васіль Іванавіч вялікі слаўны горад Смаленск, бо няма горшага для чалавека, як прагнуць чужое маёмасці, як ціхмянаму і лагодліваму нялітасціва і нядобра чыніць. Гэты вялікаслаўны кароль Жыгімонт сваё слова, дадзенае князю маскоўскаму, трымаў непарушна і неадступна ва ўсім, але бачачы яго вераломства і хочучы бараніць бацькаўшчыну, Літоўскую зямлю, узяўшы Бога на дапамогу і сваю праўду чуючы, са сваімі князямі ды панамі і з харобрымі і выдатнымі віцязямі са свайго каралеўскага двара пайшоў супраць Васіля Іванавіча, памяняўшы слова прарочае, што Госпад ганарыстым не спрыяе, а пакорлівым міласць і дапамогу пасылае.

І, прыйшоўшы, стаў у Барысаве на вялікай рацэ Беразіне насупраць свайго непрыяцеля, вялікага князя маскоўскага, і адправіў свайго вялікага ваяводу, слаўнага ды вялікаразумнага гетмана князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага (паходзіў са старажытнага магнацкага роду, што браў свой пачатак яшчэ ад тураўскіх князёў), пана віленскага, старасту луцкага, брацлаўскага ды іншых, маршалка Валынскае зямлі, з некаторымі магнатамі, князямі ды роднымі панамі сваімі і з выдатнымі ды харобрымі воямі літоўскімі, і рускімі са свайго двара.

А ў той час прыехалі да вялікага караля Жыгімонта на дапамогу ляшскія паны і дваране славутыя, рыцары Кароны Польскае і ўсе супольныя, узяўшы Бога на дапамогу і ўзброіўшыся наказам гаспадара свайго караля Жыгімонта, дзёрзка рушылі супраць вялікага мноства людзей князя маскоўскага. Калі ж тыя, будучы ў той час на друцкіх палях, пачулі пра сілу літоўскую, то адступілі за вялікую раку Дняпро.

Узгадайма слова вялікага Ніфанта, які піша да верных хрысціянаў: “Таямніцу цара захоўваць належыць”, інакш кажучы: гаспадарову справу патаемную не гожа ўсім раскрываць, але пра ўчынкі і мужнасць добрага ды смелага чалавека гожа ўсім абвяшчаці, каб потым іншыя гэтаму вучыліся і смеласць мелі. Так і ў наш час надарылася нам бачыць такога добрага ды смелага стратылата – князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, найвышэйшага гетмана літоўскага.

Спачатку з Божаю дапамогаю, па загадзе і наказе гаспадара свайго, вялікага караля Жыгімонта, зрабіў неабходную свайму войску падрыхтоўку, па-братэрску любоўна і клапатліва яго аб’яднаў і пашыхтаваў. І як прыйшоў ён, слаўны ды вялікі гетман князь Канстанцін Іванавіч, ды нялёгка будзе перайсці шлях водны, то як багабоязны муж і спраўна ваенны прымчаўся да царквы жыватворнае Тройцы і да вялікага цудадзейцы Хрыстовага святога Міколы і, упаўшы на калені, пamaліўся Богу. А прыгадайма ўчынкі і смеласць мужнага Антыёха (слуга Аляксандра Македонскага. Калі Аляксандр перамог індыйскага валадара Пора, прызначыў намеснікам у Індыі), вялікага гетмана цара Аляксандра Македонскага, які войску персідскаму раку Арсінар перайсці загадаў, дзе першы ваяр сквасіўся, а астатні як посуху перайшоў. Так і князь Канстанцін пярэднім людзям плысці загадаў, а астатнія ўжо як па бродзе перайшлі. І так спешна на вялікім полі Аршанскім насупраць маскоўцаў пашыхтаваліся.

О вялікія і выдатныя віцязі літоўскія, прыпадабніліся вы сваёю мужнасцю харобраю да македонцаў, справаю і навукаю князя Канстанціна Іванавіча, другога Антыёха, гетмана войска македонскага. І паказаў сябе князь Канстанцін адважным рыцарам і верным слугою свайго гаспадара разам са шматмагутнымі воямі літоўскімі, якія, не шкадуючы сябе, памкнуліся на вялікую сілу варожую і ўдарылі, і мноства людзей з войска маскоўскага пабілі, і восемдзесят тысяч усмерцілі, а іншых жывымі ў палон узялі: найвышэйшага ваяводу і гетмана маскоўскага войска князя Міхаіла Іванавіча Булгакава-Галіцу, брата ягонага князя Дзімітрыя, Івана Андрэевіча Чаляднiна, князя Івана Дзімітрыевіча Пронскага, Дзімітрыя Васільевіча Кітаева, Данілу Андрэевіча Плешчава, Івана ды Уладзіміра Сямёнавічаў, князя Барыса Рамаданаўскага, князя Івана Сямёнавіча

Старадубскага, князя Пятра Пуцяцкага, князя Сямёна Янавіча ды іншых, чые імёны тут не ўпісаныя, бо не змесцяцца.

Так сваёй вернаю службаю свайму гаспадару, вялікаму каралю Жыгімонту, радасць прынёс, а самае галоўнае – царкву Божую хрысціянскую і многіх мужчынаў і жанчын ад маскоўскага гвалту абараніў. Тут спраўдзілася слова святога айца Яфрэма: "Моцны знямогся, а здаровы расхварэўся, а радасны заплакаў, а заможны страціў". Як мне, грэшнаму, бачыцца, цяпер усё тое сталася з вялікім князем маскоўскім Васілём.

Успомнім словы Ісаі, сына Амосавага, што прарочыў пра апошнія дні, азарыўшы Духам Святым, кажучы так: "За памнажэнне злосці людзей і многія іх няпраўды кроў іхняя пральецца моцным патокам, харобрыя і ганарлівыя ад мячоў загінуць, адзін справядлівы ратнік пагоніць несправядлівых сто, а ад ста пабяжыць тысяча, і целы іх будуць на з'ядзенне звярам, і косці іх на агляд усяму жывому".

Цяпер жа тым прароцтвам адарыў Бог князя Канстанціна Іванавіча, найвышэйшага гетмана літоўскага, што ягоным кіраўніцтвам ды падрыхтоўкаю войска, яго смелага сэрца і рукі сяганнем – людзей князя маскоўскага пабілі, і целы тых забітых звяры і птушкі ядуць, косткі па зямлі валочачы, а патопленых у водах рыбы клююць.

О, прачэсная мудрая галава, як цябе назваць ды ўсхваліць!? Беднасцю мовы маёй і слабасцю розуму майго не магу дамысліцца, якую славу і пашану ўзнесці справе тваёй чыннасці: мужнасць твая роўная мужнасці цара індыйскага Пора (валадар Індыі), якому многія цары ды князі супраціўіцца не маглі. Ягоныя ж справы і слава твар тваёй велічы паказваюць. Гэтак жа міласцю Божаю і шчасцем вялікаслаўнага гаспадара Жыгімонта, караля і вялікага князя, вы справаю рук сваіх такому моцнаму пану, вялікаму князю маскоўскаму, адпор далі, і з харобрымі рыцарамі, выдатнымі віцязямі, з князямі, ды з панамі, ды з дваранамі гаспадарскімі Вялікага Княства Літоўскага і Рускага, разам з вялікаслаўнымі і шляхотнымі рыцарамі, панамі-палякамі, з усімі тваімі добрымі ды вернымі як адзін памочнікамі паказалі мужнасць добрых вояў, і шмат замкаў дзяржаўных ды местаў слаўных Вялікага Княства Літоўскага вы супакоілі. За тое ты, вялікаслаўны гетмане, варты вялікага і высокага ўшанавання ад свайго гаспадара. Роўныя вы вялікім харобрым рыцарам горада слаўнага Родаса (горад на аднайменным востраве ў Міжземным моры, блізу паўднёва-заходняга ўзбярэжжа Турцыі; старажытная грэчаская калонія ў Малой Азіі), якія сваёй мужнасцю шмат замкаў хрысціянскіх ад паганскіх рук убаранілі. Вашай мужнаю стойкасцю супраць такога моцнага пана заслужыў ты славу і пашану, гэтаю паслугаю гаспадару свайму, вялікаму каралю Жыгімонту, радасць прынёс. За такі ўчынак варты ты

не тое што ў тутэйшых вялікіх гарадах дзяржаўных панаваць, але і самім Божым горадам Ерусалімам валодаць. Моц тваёй мужнасці ад усходу да захаду чутная будзе, ты не аднаму сабе, але і ўсяму княству Літоўскаму вялікасць славы ды мужнасці ўчыніў. Яшчэ дадам пра тваю смеласць і адвагу: прыпадобніўся ты да сына Раваава Авія, што ваяваў з дзесяццю каленамі ізрайлевымі і выбіў у іх за адзін дзень пяцьсот тысяч самых моцных людзей. І ты ягонае справы спадкаемцам стаў: не за адзін дзень, але за тры гадзіны восемдзесят тысячаў маскоўцаў пабіў. Таксама мужнасцю і харобрасцю падобны ты да Тыграніса*, цара армянскага, пра якога мудры філосаф Фрол Лівійскі піша: "Прыйшоў Тыграніс, цар армянскі, і біўся з Антыёхам, і перамог войска ягонае, і яго самога з горада выгнаў. Тады ж уцёк Антыёх у Персію".

Так і ты, галава сумленная і вельмі мудрая, учыніў бітву з вялікім князем маскоўскім Васілём і пабіў ягоных людзей, і самога яго з горада Смаленска выгнаў. І вялікі князь Васіль ад цябе ўцёк у маскоўскую старану, у свае ўсходнія гарады, а з сабою і ўладыку смаленскага Варсанофія звёў з Смаленска ў Маскву. Князь жа Канстанцін, знаходзячыся пад Смаленскам і адтуль вяртаючыся, узяў тыя гарады, што ўжо служылі вялікаму князю маскоўскаму: Мсціслаў, Крычаў, Дуброўну, і загадаў ім па-ранейшаму служыць Вялікаму Княству Літоўскаму, а сам падаўся ў літоўскую зямлю да гаспадара свайго, вялікага караля Жыгімонта.

Пачуўшы, што прыехаў князь Астрожскі з усімі сваімі воямі літоўскімі і рускімі, выдатнымі віцязямі, кароль прыняў іх з вялікаю пашанаю ў сваім сталічным горадзе Вільні 3 снежня, у дзень святога прарока Сафонія. Няхай будзе гонар і слава на векі вечныя вялікаслаўнаму гаспадару, каралю Жыгімонту Казімеравічу, які адолеў праціўніка свайго – вялікага князя маскоўскага Васіля, а гетману яго выдатнаму, князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму, дай Божа, здароўя і шчасця большага, як цяпер. Пабіў ён вялікую сілу маскоўскую, каб так яму біць моцную раць татарскую, праліваючы кроў іх басурманскую…»

І раз, і дзесяць, і сто разоў я ўслых перачытваў гэтую паэму, і яна, як малітва, улівалася ў маю душу і сэрца. Гэта была сапраўдная малітва Госпаду, які даруе людзям грахі іх і дорыць сілу слаўную, непераможную. І падумалася: вось каб у школе, некалі, калі нас, вучняў, прымушалі вучыць на памяць бязглуздыя тэксты творцаў, няхай і вялікіх, але чужых

* Магчыма, Тыгран II Вялікі (95–56 да н. э.) — цар Вялікай Арменіі. Вызначаўся смеласцю і выключнай настойлівасцю ў абароне незалежнасці сваёй краіны ад Рымскай імперыі.

для нас, ды здагадаліся нам даць адну-адзіную малітву – паэму пра слаўнага князя Канстанціна Астрожскага, – то было б дастаткова, каб у нашых душах прачнулася пачуццё уласнай годнасці і пачування сябе беларусам.

Тады б ніхто і ніколі не вытравіў бы з нашых душ думкі і высновы, мы былі б стойкія і моцныя ў сваёй вытрыманасці і перакананасці, што мы адметныя, мы не прыніжаныя і не загнаныя ў чужое ярмо, мы – вольныя. І мова ў нас адна, беларуская, і на ёй звяртаўся да мужных вояў слаўны Канстанцін, каб зразумелі яго заклік і загад дасканала і бясстрашна рушылі ў бой супраць маскоўцаў.

Паўтаруся: шмат якіх малітваў мы ўзносім да Бога, але адну з іх – «Пахвалу слаўнаму князю і вялікаму гетману Канстанціну Астрожскаму», – мы павінны ведаць на памяць, і штодня паўтараць яе ўсё жыццё. Пасля таго, як прачытаем «Ойча наш»… І тады ж увальецца ў нас сіла Божая, і не будзем мы ніколі хістацца, як быльнёг пад ветрам, і не будзе ніколі над намі гаспадара чужога і ненавіснага, стаўшы як быццам нам «старэйшым братам», які ніколі ім насамрэч і не з'яўляўся, – а будзем даваць жорсткі адпор яму, як некалі даў слаўны ваявода. І ніхто нас ніколі не пераможа, не зняволіць, не адбярэ духоўнае і матэрыяльнае багацце, не паставіць на калені…

– З Богам! – выгукнуў ваявода. – Наперад да свайго вызвалення!

А песня пра тыя падзеі і сёння жыве:

Ой, у нядзельку параненька
Ўзышло сонца хмарненька,
Узышло сонца над борам,
Па-над Сялецкім таборам.
А ў таборы трубы йграюць,
Да ваяцкае парады зазываюць.
Сталі рады адбываці,
Адкуль Оршы здабываці:
А ці з поля, а ці з лесу,
А ці з рэчкі невялічкі?
А ні з поля, а ні з лесу,
Толькі з рэчкі невялічкі.
А ў нядзельку параненьку
Сталі хлопцы-пяцігорцы
Каля рэчкі на прыгорцы:
Гучаць разам з самапалаў,
З сяміпалых ад запалаў,
Б'юць паўсоткаю з гарматаў.

Масква стала наракаці,
Места Оршу пакідаці.
А як з Оршы уцякалі,
Рэчку невялічку пракліналі:
«Бадай ты, рэчка, сто лет высыхала,
Як наша слава тутака прапала.
Бадай высыхала да сканчэння свету,
Што нашай славанькі ўжо нету».
Слава Оршы ўжо не горша.
Слаўся, пан Астрожскі!

Ды не ўсё сказана пра той слаўны час! І праз стагоддзі не ўсё будзе апяяна і расказана, бо кожнае імгненне славай вайсковай ахутана, у ганаровы вянок яны ўплятаюцца, не ўсе і імёны пакуль вядомы. І таму я, які атрымаў званне летапісца ад самога Канстанціна Астрожскага, вымушаны і абавязаны дадаць некалькі старонак да ранейшых, каб не збядніць значнасць і час таго перыяду…

Перад гэтым вымушаны паўтарыцца. Войска Вялікага Княства Літоўскага, як вядома, падпарадкоўвалася вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму Жыгімонту Казіміравічу.

Складалася яно з прадстаўнікоў абедзвюх дзяржаў.

У паходзе да Оршы і ў самой бітве пад камандаваннем князя Канстанціна Астрожскага прымалі ўдзел каля трохсот тысяч чалавек. У іх меліся гарматы. Лёгкую конніцу ўзначальваў Юры Мікалаевіч Радзівіл, польскіх нанятых вояў – Януш Свярчоўскі. А Войцэх Сампаліньскі быў за камандзіра ў надворнага каралеўскага войска і аддзела паноў.

Аснову і моц узброеных сіл Княства складала паспалітае рушэнне, якое паклікана было напярэдадні ваеннай кампаніі. Кожны шляхціч, які валодаў зямельным надзелам, абавязаны быў несці ваенную павіннасць.

На той час была выдадзена вядомая акруговая прызыўная грамата Жыгімонта. Яна ўбачыла свет 24 траўня 1514 года і заклікала выступіць у паход на дапамогу Смаленску.

Цікавая грамата, гістарычная! Чытаем: «…были наготову на службу нашу на войну, и держали кони сытыи и зброи чистыи», Вызначаўся і тэрмін, у які павінна прыбыць земскае апалчэнне: «кождый со своим поветом, тогож часу, ничего не мешкаючи на кони восседали и до Менска тягнули, на рок, на день святого Ивана». Грамата скіравана была «до князей, земян, бояр и панов» канкрэтных паветаў.

З абшараў Вялікага Княства Літоўскага планавалася сабраць харугвы пералічаных адміністратыўных адзінак:

– Віленскае ваяводства: ваявода Мікалай Мікалаевіч Радзівіл;

– Гарадзенскага і Ковенскага паветаў з Троцкага ваяводства: ваявода і надворны маршалак Рыгор Станіслававіч Осцікавіч;

– Жамойцкай зямлі: стараста Станіслаў Янавіч Гаштольд;

– Валынскай зямлі: маршалак Канстанцін Іванавіч Астрожскі;

– Дарагічынскага і Бельскага паветаў з Падляскага ваяводства: віцебскі і падляскі ваявода Іван Сямёнавіч Сапега;

– Берасцейскага павета: берасцейскі стараста Бры Іванавіч Іллініч;

– Уладзімірскага павета: уладзімірскі стараста Андрэй Аляксандравіч Сангушка;

– Наваградскі павет: ваявода Ян Янавіч Забярэзінскі;

– Камянецкі павет: князь Сямён Чартарыйскі;

– Гарадзенскі павет: ваявода Юры Мікалаевіч Радзівіл Геркулес;

– Менскі павет; Пінскае княства: пінскі князь Фёдар Іванавіч Яраславіч;

Ваяры ўсходніх тэрыторый, прыгранічных паветаў, якія не пералічаны, раней за ўсіх, яшчэ да пачатку бітвы, рушылі на абарону.

Яшчэ ў 1502 годзе на сойме, які праходзіў у Наваградку, вялікі князь Аляксандр разам з панамі-радцамі ўстанавіў норму – адзін узброены вершнік з дзесяці службаў – 20–30 сялянскіх двароў. А на Віленскім сойме 1511 года вырашылі, што адзін вершнік павінен выстаўляцца не з дзесяці службаў, а з дзесяці дымоў.

Адшукаліся дакументы, якія маглі належаць да 1513 года. Яны сведчаць пра верагодную колькасць вершнікаў, якіх маглі выставіць гарады Княства: Менск павінен быў паставіць у войска 20 узброеных вершнікаў, Гародня – 20, Берасце – 150, Ліда – 30, а Слонім, Ваўкавыск, Наваградак – па 20.

Дарэчы, пра Ліду. З гэтага горада пайшло на бітву шмат якіх людзей, і ўсе яны праславіліся на палях змаганняў з маскоўскім ворагам. Але адно імя стаіць асобна, нават не асобна, а ў першым радзе. Гэта жалудоцкі дзяржаўны князь Васіль Палубінскі (Палубенскі). Яшчэ ў сярэдзіне чэрвеня 1514 года (за тыдзень да заканчэння тэрміну збораў войска) жалудоцкі дзяржаўца прыйшоў са сваім коштам колькасцю ў 50 вершнікаў. Да яго аддзела быў далучаны больш чым паўтысячны атрад, і князь Палубінскі са сваімі войскамі адным з першых з'явіўся ў раёне будучага змагання. Згодна перапісу 1528 года, ён выстаўляў 43 вершнікі, а гэта амаль супадала з ягоным аддзелам ў 50 вершнікаў, якіх ён прывёў перад самай бітвай.

Князі Палубінскія… Жыхары Лідчыны павінны памятаць сваіх слынных прадстаўнікоў таго часу. Князі, валодалі Мажэйкаўскім ключом, і прозвішчы, якія існуюць у гэтым краі, паводле адной з версій, паходзяць ад лідскіх Палубнікаў. Выводзіліся паводле ўласнага радаводу ад Андрэя

Альгердавіча, тое ўскосна і пацвярджаецца тым фактам, што бацька гэтага слыннага героя Андрэй Палубінскі пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры побач з кіеўскім князем Уладзімірам Альгердавічам. «Непрызнанага» ці «выпадковага», няхай сабе і князя, побач з сынам вялікага князя літоўскага наўрад ці дазволілі б пакласці. Значыць, заслужыў, значыць, «жывата свайго не шкадаваў дзеля сваёй Айчыны», і пра яго мы павінны ведаць, ведаць і шанаваць, у рэшце рэшт – ганарыцца!

Дык хто ж ён – князь Васіль Андрэевіч Палубінскі? Гады жыцця – нарадзіўся каля 1480, не стала 4 сакавіка 1551 года. Намеснік уладзімірскі (15015–07), дзяржаўца любашанскі і цяцерынскі (1515–16), дзяржаўца жалудоцкі (1516–35), каняўскі і дубіцкі (1527–29), маршалак гаспадарскі з 1521 года, староста мсціслаўскі і радамаскі з 1535 года. Валодаў маёнткамі Гарадзішча, Яблынь, Глыбокае, Круглае (сёння гарадскі пасёлак Круглае ў Магілёўскай вобласці), Палюбічы і Мажэйкава.

Лёс не лашчыў князя. У лютым 1509 года быў арыштаваны. За што? Зносіўся са «здрадцамі» Глінскімі. І тое падалося падазроным. Разам з ім былі арыштаваны князь Ольбрахт Гаштольд, князь Аляксандр Хадкевіч, стайнік Мартын Храбтовіч.

Толькі ў траўні 1511 быў вызвалены з-пад арышту. Пасля яго і астатнія былі вызвалены і апраўданы. І гэта не наклала адмоўны адбітак на іх сэрцы. Князь Васіль Палубінскі і астатнія, хто быў увязнены, не спазніліся на вялікую бітву з маскоўцамі пад Оршу.

Ну і на заканчэнне як заключэнне. Князь Васіль Палубінскі перажыў свайго сына Льва Васільевіча, якога пахаваў у Кіева-Пячорскай лаўры. Пазней і сам быў там пахаваны. Так што адзначым такі факт: у лаўры спачывае не толькі гетман найвышэйшы ў бітве пад Оршай князь Канстанцін Іванавіч Астрожскі, а і паўтысяцкі ў той жа бітве Васіль Андрэевіч Палубінскі. Вечная ім Слава!

Ну і яшчэ, – Палубінскія – гэта, бадай, адзіны беларускі род, князі трох пакаленняў якога спачываюць у лаўры.

**8**

Паклікаў Антона да сябе гетман Астрожскі вечарам, – тады, калі сонца, напрацаваўшыся за дзень, клалася на сваю пуховую пярыну, каб адпачыць.

Канстанцін перад ім з'явіўся не ў прывычным адзенні і не пры амуніцыі, таму Антон ледзьве пазнаў яго. Астрожскі на сябе накінуў блакітны ці то халат, ці палярыну, а ногі ўсунутыя ў нейкія пасталы. Быццам і не

вялікі гетман быў перад ім, а звычайны прасталюдзін, праўда, не нізкага саслоўя.

– Сядай, хлопча, сядай, – прапанаваў гаспадар жытла, паказаўшы на лаву, а сам тым часам разліў па келіхах медавуху. – Не саромся, Антон, пачувайся смела. Пасмакуй напой, які рыхтуюць мае верныя памочнікі і кухары.

Зайшла ў пакой жонка гетмана князёўна Таццяна, прывіталася з госцем, заўсміхалася, як бы выказваючы сваю прыхільнасць, паставіла гліняную місу з яблыкамі і ігрушамі. Трымалася годна, паглядзела на Канстанціна, але не пачула ад яго ніякіх просьбаў, адышла.

Разам з ёю зайшоў у пакой і сын Ілля. Павітаўся, паклаў на стол перад госцем ручнік і вялікую кварту. І ён моўчкі пайшоў следам за маці.

Антон не ведаў напачатку, як паводзіць сябе, думаў, што на сур’ёзную размову паклікаў вялікі гетман, таму гадаў у думках, пра што будзе дапытвацца ў яго Непераможны. Калі з летапісамі, то яны амаль скончаны. Усё сабрана ў адну кайстру, усе разам вывелі асноўную лінію сюжэта апошніх гадоў, каб пакінуць яе як галоўную і потым даць на прагляд галоўнаму военачальніку. Усе ведалі, што ён хлусні не любіў і баяўся высокіх слоў усхвалення кагосьці і чагосьці. Калі нейкі пісарчук пераходзіў межы дазволенага і ўзносіў некага да нябёсаў, Канстанцін адмоўна хітаў галавой і ўшчуваў таго, хто такую напісаў хлусню. Строга папярэджваў, караў, і калі той не выпраўляўся, праганяў зусім з кагорты летапісцаў.

Антон зрабіў колькі глыткоў, прымружыў вочы, быццам і сапраўды ацэньваў гатунак і смак медавухі. Патрымаў апошні глыток у роце, пракаўтнуў яго. Па целе пракацілася бадзёрасць, у скроні кальнулі маленечкія іголачкі. Здаецца, ніколі ў жыцці не піў такога боскага напою.

– Дзякую, вялікі гетман Канстанцін! Медавуха выдатная! Сілы прыдае.

– Во-во, – усміхнуўся добразычліва Астрожскі, – правільна заўважыў – сілу дае, а не тлум у галаве… Больш ніхто ў свеце не вырабляе такога напою, адзін толькі чалавек ведае сакрэт яе вырабу. Яшчэ мой прапрадзед Даніла Астрожскі, які жыў сто гадоў таму ў Валыні, ведаў сакрэты прыгатавання гэтага напою. А потым перадаў гэты сакрэт сыну свайму, Фёдару. Фёдар прымаў удзел у разгроме Тэўтонскага ордэна падчас Грунвальдскай бітвы, удзельнік гусіцкіх войнаў. А на завяршэнні жыцця свайго стаў інакам Кіева-Пячэрскай лаўры, і імя сабе ўзяў – Фядосій. Прылічаны да святых.

– Сапраўды непаўторны напой.

Гаспадар зноў адпіў са свайго залачонага кубка. Такі ж залачоны кубак быў і ў Антона.

– Летапісная праца скончана, Антон?

– Так, мой гаспадар, скончана, толькі застаецца аформіць усё правільна, пераправерыць старонкі, а потым сшыць у адзіную кнігу, – Антон ужо агойтаўся ў пакоях вялікага гетмана, таму гаварыў з Пераможцам спакойна і разважліва. Абстаноўка да таго абавязвала. – Заўтра можам даць вам на прагляд.

– Добра, пагляджу, што вы там напісалі, – зноў заўсміхаўся Канстанцін Астрожскі, – калі ж з мяне вы зрабілі анёла, усім вам крылы паабразаю, каб вы высока не лёталі…

Вялікі гетман жартаваў, і таму Антон адрэагаваў на словы гетмана спакойна, душа не трымцела перад вялікім чалавекам, не было ніякага ўнутранага страху, боязі. Наадварот, адчуваў сябе нязмушана, як не на роўных. Да гэтага сваімі паводзінамі вымусіў вялікі гетман.

– Абразайце, калі заслужылі, – годна адказаў летапісец.

– А пра Васіля Палубінскага, слаўнага князя, паўтысяцкага, не забыліся? Адважны ваяр, мудры і таленавіты.

– Не, вялікі гетман. Не абышлі ўвагай, як і ўсіх герояў.

– Ну а цяпер пра галоўнае, мой летапісец, – пасур’ёзнеў гаспадар, – пра цябе асабіста. Ведаю, што ты залётная птушка, што ты не з нашага часу. Прыляцеў з будучыні. Ведаю, што вы шануеце памяць пра нас. Мы вам удзячны за тое. Ты ў нас знаходзішся ладны адрэзак часу. Там, дзе ты жывеш, твая адсутнасць вымяраецца дзесяццю гадамі, у нас жа ты знаходзішся тры гады, тры месяцы і тры дні… Больш мы цябе не маем права затрымліваць.

Антону захацелася нешта сказаць, але Канстанцін строга забараніў тое рабіць – выставіў наперад растапыраную далонь.

– Ты аддана служыў мне, і я павінен табе выплаціць вялікія грошы. Хоць і азалачу цябе, але золата ты не зможаш данесці да сваёй вёскі – яно растворыцца ў часе.

Летапісец толькі ледзь заўважна пахітаў галавой, разумеючы, пра што кажа вялікі гетман.

– Таму дзякую табе за службу, дзякую, што праўдзіва апавёў пра нашае жыццё.

Антон згодна кіўнуў галавой, прыклаў руку да грудзей з левага боку.

– Ты ні пра што не хочаш папытацца ў мяне? – паглядзеў пільна ў вочы Антону. – Пэўна ж, і сам думаеш, як апынуўся тут у мяне.

Летапісец не адвёў позірк, адказаў:

– Значыць, так трэба было… Бог паслаў мяне да цябе.

– І Гаўрыла, – дадаў Канстанцін Астрожскі, – то я папрасіў яго пра гэта. Табе прыйдзецца даследаваць гэты час, таму табе не трэба будзе

корпацца ў архівах і дакументах, бо ты сам стаў сведкам сённяшніх падзей. Калі што было не так, не трымай на мяне крыўду.

– Я ўдзячны табе за гэта, вялікі гетман, – прызнаўся пасланнік будучага часу. – Дзякую за такую ласку, не кожны мае такую магчымасць…

Канстанцін Астрожскі, падалося Антону, мяняўся з твару. То ён выглядаў як дзевяностагадовы чалавек са стомленым позіркам, а то раптоўна рабіўся юнаком, і вочы яго свяціліся нейкім таямнічым агнём. Такія перамены не здзіўлялі летапісца, бо ведаў, што цяпер Канстанцін пражывае некалькі сваіх жыццяў: ён жыве і ў мінулым часе, і ў будучыні.

Антон ведаў больш: праз нейкі час Канстанцін закахаецца і народзіцца нанова. Фізічна і духоўна. Ён і сам не паверыць, што ў свае гады можа перажыць каханне, якое так ніколі не трымаў у сваім сэрцы.

Тая нечаканая і ўзнёслая гісторыя адбудзецца праз восем гадоў пасля знамянальнай гістарычнай бітвы пад Оршай – у 1522 годзе…

Увесь час гетман Астрожскі хваляваўся пра тое, што старэйшае пакаленне не пакідае пасля сябе спадкаемцаў, асабліва адзінаверцаў. Ушчуваў тых, хто не клапаціўся пра тое. «Паўтарыце сябе ў маладых, – не раз гаварыў і военачальнікам, што былі ва ўзросце, і цывільным вяльможам. – Ім, праваслаўным, належыць заўтрашні дзень. А потым і яны перададуць сваё майстэрства і веды наступным… І Бог будзе спрыяць нам у нашых паходах.»

Войска моцнае толькі тады, калі ім кіруе спрактыкаваны палкаводзец. Таму Канстанцін Астрожскі заўсёды марыў выхаваць палкаводца-адзінаверца. Бо бачыў – вакол яго на вялікіх вайсковых пасадах, ды і не толькі вайсковых, а і цывільных ужо амаль і не засталося праваслаўных. Такі рэлігійны ўціск і несправядлівасць вельмі прыгняталі і празмерна абцяжарвалі душу князя. І ён не хаваў сваёй незадаволенасці. Ён далёка глядзеў наперад, рыхтаваў будучыню. І маліўся штодня, прасіў Бога, каб Ён дапамагаў Вялікаму княству, апекаваў яго. Верыў: толькі асабістая малітва да Бога прынесла яму славу, прынесла перамогі, бо як жа гэта можна зразумець, як можа малымі сіламі перамагчы такую магутную маскоўскую арду.

І заўсёды памятаў прыпавесць, ці гісторыю пра Давіда і Галіяфа. Калі цараваў Саул, іўдзеі ваявалі з філістымлямі. Як і Канстанцін ваяваў з маскоўцамі.

Пазней, калі яго дарадцы і нават ворагі разбіралі, асэнсоўвалі як стратэгію, тую перамогу пад Оршай, параўноўвалі Канстанціна з Давідам. Астрожскі толькі ўсміхаўся і адмахваўся рукой: «Давід быў хлапчук, а я сталы муж, няўдалае параўнанне…»

Канстанцін-Васіль Астрожскі… Антон ведаў, што ён нарадзіўся ў Тураве. Там прайшло яго дзяцінства, там увабраўся ў юначую сілу. Памёр бацька, і яго выхоўвала маці – Аляксандра Сямёнаўна з роду Алелькавічаў. Атрымаў выдатную дамашнюю адукацыю, выхоўвалі яго ў праваслаўных традыцыях. Калі стаў паўналетнім, пабраўся з Сафіяй Тарноўскай – з роду галіцкіх магнатаў і графаў. А ўжо ў дваццацісямігадовым узросце атрымаў пасаду старасты ўладзімірскага, праз пяць гадоў стаў кіеўскім ваяводам.

Сучаснікі сцвярджалі: хаця афіцыйна вышэйшым ктытарам у Кіеўскай метраполіі лічыўся кароль, на самай жа справе Канстанцін Астрожскі з'яўляўся найбольш значнай і ўплывовай асобай сярод вернікаў і міранаў, якая як найлепш уладкоўвала і ўзмацняла царкву. Нават Канстанцінопальскі патрыярх Ерамія ІІ, высока ацэньваючы пабожныя дзеянні і памкненні князя ў адносінах да царквы, у сваіх граматах называў яго захавальнікам і паборнікам ладу ў царкве на ўсіх паўднёва-заходніх землях Вялікага Княства Літоўскага. На тых тэрыторыях, якія падпарадкоўваліся Астрожскаму, заснаваў і пабудаваў больш як шэсцьсот цэркваў і дваццаць манастыроў, а пры іх шпіталі і школы.

Калі ж вялася падрыхтоўка да заключэння Берасцейскай уніі, ён быў сярод абаронцаў праваслаўнай царквы найбольш уплывовай і аўтарытэтнай асобай. А як палка ён выказваў сваю нязгоду з афіцыйнай палітыкай Рэчы Паспалітай! Не аднойчы заяўляў пра тое на сойме польска-літоўскай дзяржавы, смела і рашуча звяртаўся з пасланнямі да караля, жыхароў Рэчы Паспалітай, праваслаўных епіскапаў.

Ён пакінуў добры след пасля сябе, калі ўдзельнічаў у праваслаўным саборы 1596 года, які праходзіў у Берасці. І быў не толькі актыўным удзельнікам, а і непасрэдным арганізатарам правядзення сабору, які быў адначасова і ўніяцкім – пад кіраўніцтва Нікіфара Кантакузіна, пасланніка Канстанцінопальскага патрыярха. Але калі была падпісана ўнія, князь усе сілы аддаваў падтрымцы і развіццю праваслаўя.

Таму і марыў аддаць сваю карону і булаву таму, хто належаў да праваслаўя. І ён ведаў, хто будзе працягваць яго справу.

У Канстанціна Астрожскага быў спадкаемца – сын Ілля. Хаця той і ўдзельнічаў у баях і сечах, але не здольны быў здабыць, як бацька, славу на марсіянскіх палях: хваравіты быў, мяккі душой. Больш балі любіў і паляванні, чымся арэну бітвы, з-за чаго і засмучаўся бацька.

Гетман вельмі любіў маладога слуцкага князя Юрыя Алелькавіча. Астрожскі апекаваў маладога і не ў меру гарачага Юрыя Слуцкага. Аберагаў яго ад нечаканай ці заўчаснай пагібелі. Юры Алелькавіч заўсёды

знаходзіўся побач з гетманам, на вялікую адлегласць не аддаляліся адзін ад аднаго, – такое было патрабаванне Канстанціна. Колькі разоў здаралася, што Юры кідаўся на ворага, які імкнуўся напасці на гетмана. Было не раз, што і гетман адбіваў Юрыя ад зграі ворагаў, якія акружалі яго ў сечы.

Невядома, ці то малады слуцкі князь Юры Алелькавіч разам з маці Анастасіяй запрасілі да сябе ў госці гетмана, ці Астрожскі сам надумаўся праведаць іх і правесці «каранацыю» маладога князя, увёўшы яго ў вышэйшую іерархію ваеннага ўладарства, і таму яго шлях ляжаў да свайго ўлюбёнца.

Прыезду гетмана нецярпліва чакалі. Іх госць быў не абы хто, а высакародны і слынны пераможца гетман Канстанцін Астрожскі. Гэта яго ў маладосці называлі «рыцарам круглага стала караля Аляксандра», найбліжэйшы сябар яго і мудры дарадчык. Адным словам, палкаводзец. На яго рахунку каля сарака пераможных бітваў, не кажучы ўжо пра апошнія ваенныя сечы, паход на крымскіх татараў.

Асабліва чакаў прыезду гетмана малады князь. У яго з Канстанцінам існавала асобая духоўная сувязь, якую нікому разарваць не па сілах. Алелькавіч мог, не задумваючыся, аддаць за яго сваё жыццё. І не раз даказваў тое на полі бою.

Мітусіліся кухары, рыхтуючы найлепшыя стравы для найлепшага госця, усе апраналіся ў найлепшыя строі, ва ўсіх прыўзняты настрой. Рыхтаваліся як да свята, хаця гэта і сапраўды было свята, – не кожны дзень у замак прыязджаюць такія знакамітыя госці.

На верхавіне высокага дуба зайграў ражок – працягла, а потым каротка, быццам перад пачаткам бою падаваў знак вястун. Значыць, ён убачыў, што падымаецца на ўзгорак світа шаноўнага госця.

Пачуў той гук і Астрожскі, усміхаецца радасна, адчуў у душы ўнутранае хваляванне. Прыемна адчуваць, што ёсць такія верныя і адданыя сябры, як Алелькавіч. Яму і толькі яму выпадзе гонар быць спадкаемцам і пераемнікам рыцарскай славы гетмана.

Вялікай пашаны і павагі заслугоўвае маці Юрыя – князёўна Анастасія. Яна рана аўдавела, і таму сын быў пазбаўлены мужчынскага апекавання і выхавання. Князёўна і сама не раз удзельнічала ў баях супраць ворага, знаходзілася на баявым кані побач з мужам. У баявых латах ніхто не мог убачыць у ёй жанчыну, бо яна валодала мячом і дзідай не горш за ваяроў, а некаторых і пераўзыходзіла ў ваенным майстэрстве. Лепшага выхавацеля і педагога ў ваеннай справе юнаму князю і не знайсці. Вось і збіраўся гетман шчыра падзякаваць ёй за такое вайсковае апякунства над сынам, ад сябе і ад усяго княства выказаць пашану і ўдзячнасць, абняць, пацала-

ваць, прытуліць да свайго сэрца князёўну. І сказаць ёй, што яна найлепшая і ганаровая Маці Айчыны.

Зноў падаў голас ражок, салаўём радасным пачаў залівацца, і адгукаўся ў сэрцы палкаводца душэўным прылівам, трапяткім прадчуваннем радасных хвілінаў ад сустрэчы…

Адчыніліся галоўныя дзверы – дубовыя, высокія, скаваныя металічнымі пласцінамі, – апусціўся памост з тоўстых прасмаленых бярвёнаў, абчасаных, шчыльна падагнаных адно да аднаго. Усё весялей і весялей падаваў голас нябачны музыка сваім ражком. Недзе збоку выбухнула гакаўніца, і ў паветра, шыпучы, паляцела ракета і выбухнула рознакаляровым феерверкам… Наступны выбух – і новы букет колераў у паднябессі.

Па цэнтры двара стаяў вялізны стол, накрыты белым абрусам, па краях вышыты чырвонымі і зялёнымі нітамі, на ім стаяла некалькі глечыкаў медавухі, кубкі вялікія і маленькія, на падносах печыва і садавіна…

Як толькі жарабец грацыёзна ступіў у двор, несучы на сабе вершніка, тут жа прагучала:

– Слава вялікаму гетману Астрожскаму! Вялікаму гетману слава!

І так выгукалі некалькі разоў, пакуль Канстанцін не наблізіўся да людзей.

Ён лёгка саскочыў са стаенніка, перадаў лейцы канюшаму, зрабіў крок наперад і схіліў галаву у знак вітання.

– Вітаю вас, мае дарагія! Вітаю цябе, шаноўная князёўна Анастасія і князь Юры! Усіх вас вітаю, добрыя людзі!

Найперш ён падышоў да князёўны Анастасіі. Узяў яе за плечы, пацалаваў тройчы ў шчаку.

– Дзякуй табе, Анастасія, за сына, што выхавала для княства такога выдатнага воіна!

– Табе дзякую, княжа Канстанцін, што шануеш яго, апякуеш. Што сваю моц і талент перадаеш яму.

Побач стаяў Юры, шчасліва паглядаў, як вітае гетман маці, і вочы ў яго свяціліся радасцю і павагай да госця.

Пасля гэтага Астрожскі падышоў да княжыча, абняў і моцна прыціснуў да сябе, прамовіў:

– Рады за цябе, княжа Юры, рады. Засумаваў па табе, вось і з’явіўся. Размова ёсць да цябе сур’ёзная, я хацеў бы…

Але гетман не дагаварыў, спатыкнуўся на паўслове… Не мог адняць рук ад Алелькавіча, як прыраслі да яго, прыклеіліся. На гетмана глядзелі дзівосныя вочы невядомай дзяўчыны, яны як магніт прыцягнулі ўвагу старога ваякі. Дзяўчына ўсміхалася, куточкі яе вуснаў ледзь-ледзь уз-

дрыгвалі, а вочы выпраменьвалі такую энергетыку, такую прыцягальную сілу, што гетман разгубіўся, зніякавеў…

Праз колькі бітваў і змаганняў прайшоў князь Астрожскі, тысячы разоў нападаў і адбіваўся ад ненавіснага ворага, забіваў тых, хто імкнуўся забіць яго, стрэлы ад арбалетаў і лукаў адскоквалі ад яго панцыра, ламаліся, а тут…

І тут аналогія. Прыпавесць і тут паўтарылася. Дзяўчо няйначай хлапчанём Давідам з’явілася перад ім, а ён, мусіць, быў тым Галіяфам, які ўяўляў сябе непераможным. Не каменьчыкам з прашчы, а праніклівым позіркам ды сакаўнымі вуснамі яна пранізала яго нябачнай стралой, ды не ў лоб стрэліла, а ў самае сэрца.

Гетман атрымліваў паразу на полі бою, нават і не здагадваючыся пра тое, не асэнсоўваючы напачатку тое, не ўсведамляючы, што здарылася. Адбыўся нябачны бой, у якім не было ні ворагаў, ні воінаў, ні гармат, ні арбалетаў.

Але з-пад ног гетмана пачала выслізгваць зямля.

Нарэшце Астрожскі адняў рукі ад княжыча і не ўтрымаўся, каб не папытацца ў Юрыя:

– Дарагі княжа Юры, скажы мне, будзь ласкавы, а што гэта за дзяўчо ў белым адзенні і з даўгой касой стаіць за тваёй спінай і ўсміхаецца? Хто яна?

Нават і не абарочваючыся, Алелькавіч здагадаўся, пра каго ішла гаворка, патлумачыў:

– Хіба ж не пазнаў, вялікі князь? Ты яе апошні раз бачыў тады, калі ёй было дванаццаць гадоў. Цяпер ёй васямнаццаць. То ж мая сястра – Аляксандра.

Зразумеўшы, а то і пачуўшы, здагадаўшыся, што размова ідзе пра яе, дзяўчына сумелася, і яе твар стаў у колер пялёсткаў маладой чырвонай ружы. Апусціла галаву, глядзела пад ногі, зразумеўшы, што нельга ёй так пільна глядзець на гетмана, непрыгожа і не па-дзявочы цікаўна. Апамяталася, ды позна, грэх цнатлівасці дабраўся і да яе сэрца.

Вялікімі намаганнямі, перастаўляючы набраклыя цяжарам ногі, пайшоў да прыгажуні. Яна ўжо не глядзела яму ў вочы, а толькі на яго грудзі, на аксамітны мундзір з бліскучымі гузікамі, баялася ўздыхнуць.

– Вітаю і цябе, шаноўная князёўна Аляксандра, – з цяжкасцю вымавіў словы збянтэжаны гетман, – прыемна, што на зямлі княства растуць такія прыгожыя кветкі.

І пацалаваў тройчы, адчуўшы, як пунсовасць шчок апаліла яму вусны. Шчокі яе зардзеліся яшчэ больш, вось-вось успыхнуць агнём.

Дзяўчына маўчала, нічога не прамовіла ў адказ.

Нехта дыхнуў гарачынёй у самае вуха, прашаптаў:

«Я не дакараю цябе, мой каханы, так ужо заведзена на зямлі. Усё, што ты рабіў, ты заўсёды рабіў правільна…»

«То ты, жонка мая Таццяна Гальшанская?»

«Я, княжа, я, і я сярод вас, назіраю, як адбываюцца падзеі. І я радая, што ты пачынаеш крыху адтайваць душой. Гэта неабходна, гэта трэба княству…»

Гетман і выгляду не падаў, што размаўляе з нябожчыцай. Такое з ім было не першы раз. Ён умеў размаўляць з памерлымі, душы блізкіх людзей заўсёды знаходзіліся поруч. Ён з імі размаўляў, нават прасіў парады ў адказных момантах жыцця. А тут яму сама Таццяна параіла, што рабіць, адобрыла яго дзеянні. Адчула, што гетмана напаткала вялікае і палкае каханне. Ніколі за час шлюбнага жыцця яна ні ў чым не магла папракнуць князя, выказаць сваю рэўнасць – не было на тое прычын.

Таццяна пайшла з жыцця некалькі месяцаў таму. Гетман аўдавеў.

З жонкай яны жылі ў павазе і разуменні, пяшчотна ставіліся адно да аднаго. І сына свайго Іллю выхоўвалі разам, стараліся зрабіць так, каб ён вырас разумным і здаровым нашчадкам.

Разам займаліся фундацыямі праваслаўных храмаў і манастыроў, разам штогод ездзілі да пячэрскіх інакаў, каб яны падзяліліся з імі сакрэтамі мудрасці і божага супакаення.

Жыццё сваё праводзіў у паходах і змаганнях, трапляў у палон, узлятаў на алімп славы, але ніколі не задумваўся над тым, ці існуе на свеце каханне. Чуў пра яго, апавядалі яму не раз пра высокіх людзей у сваёй краіне і за межамі яе, але то «ў некага», у байках і анекдотах, а ў самога… Ёсць жонка, ёсць сын, а каханне… Павага і давер адно да аднаго – вось і ўсё каханне. Ці гэтага не дастаткова, каб адчуваць сябе шчаслівым?

Але ў гэтыя хвіліны, калі дзявочы позірк пранізаў яго зачарсцвелае ў баях сэрца, раптам падумаў: «Дык ці быў такі жар, пякуча-салодкі боль і ўзнёсласць з жонкаю? Мусіць жа, не, бо то была толькі павага, узаемадавер, разуменне адно аднаго, толькі не каханне. Абавязак праваслаўнага хрысціяніна перад сям’ёй і Богам». Жарсць, выбух, палкае жаданне ўпусціць дзяўчыну ў сваё сэрца, авалодаць ёю, зліцца з яе сэрцам…

«Не перажывай, мой любы князь, гэта не грэх – кахаць. Тое ўсё ад Бога, а ты заўсёды прытрымліваўся Божых запаветаў…»

«Добра, Таццяна, будуць лічыць тваю згоду як дабраславенне, каб потым не пакутаваць за свой учынак. Ды я ж стары сівы грыб, а яна дзіцё, ды і яшчэ невядома, ці пачуе мой вокліч… Зіма сустрэла вясну…»

«Ты ж столькі перамагаў у сечах, не адступай і тут…»

А потым паклікалі гетмана да стала, налілі яму кубак медавухі. Усе развесяліліся, пачалі гучна размаўляць, а група дзяўчат у вышыванках, стоячы воддаль, пачалі спяваць «вітальную». Папераду іх сядзеў музыка, трымаючы на каленях ці то гуслі, ці цымбалы, удараў па струнах касцянымі палачкамі, падладжваючыся мелодыяй пад спеў хору.

Князёўна падстаўляла ў глінянай місачцы гетману мачоныя рыжыкі і баравічкі, вяндліну ды каўбаскі на агні вэнджаныя, уюноў смажаных…

– Каштуйце, мой князю, – усміхалася гаспадыня, сама далікатна беручы з міскі баравічкі, акуратна да рота падносіла, на гетмана ласкава пазірала, – такіх страў вы нідзе не пакаштуеце…

– Згодны, згодны, мая добрая Аляксандра. Смачней страў я сапраўды нідзе не каштаваў, – не хлусіў гетман адпраўляючы чарговы баравічок у рот, а не-не ды кіне позірк на князёўну.

Але панначка старалася не сустракацца позіркам з госцем, рабіла выгляд, што шукае на стале страву, у іншы бок адварочвалася. Чырвань з твару сышла, яна пачувалася годна і ўпэўнена, і калі да яе загаворвалі сяброўкі, пра нешта дзявочае казалі, яна разам з імі весела смяялася, паказваючы рад першаснежных зубоў.

З другога боку стаяў малады княжыч, падліваў у кубак гетману медавуху, сабе дадаваў, і разам адпівалі патроху, прысмоктваючы, цокаючы языком.

А вечарам… А вечарам, калі ўсё аціхла, калі засталіся адны – Анастасія Слуцкая і яе сын Юры Алелькавіч, – і падступіўся гетман да клопату, які нарадзіўся нечакана ў гэтым замку.

– Ехаў я да вас з адной місіяй, а раптам нарадзілася новая, нечаканая… – гетман уздыхнуў, утаропіўся ў падлогу, думаючы, як лепей усё абставіць, абдумваў кожнае слова, што вымавіць маці і сыну. Ніколі не падбіраў словы, яны заўсёды ліліся плаўна і годна, і ўсе разумелі яго і ўхвалялі яго прамовы, а тут нечакана разгубіўся. – Не ведаю, як вы аднясецеся да яе.

Маці з сынам пераглянуліся, не разумеючы ніякаватасць гетмана. Ён у гэты час не быў падобны да смелага ваяра і палкаводца, да нейкага іншага быў падобны. На юнака хіба, які ўпершыню закахаўся і баяўся самому сабе прызнацца ў тым. Князёўна Анастасія не здагадвалася, толькі Юры губляўся ў здагадках, адно не ведаў, радавацца таму ці засмучацца…

– Веку я ўжо немаладога, шаноўныя мае, сівы дзед, удавец, – працягваў Канстанцін, усё яшчэ не падымаючы галавы, але стараўся прыдаць упэўненасць свайму голасу. – Але гэтаму старому чалавеку жыхарка вашага замка – Аляксандра – параніла сэрца. Так, падумаеце вы, розніца гадоў,

ды яна яшчэ дзіцё супраць мяне, але я хачу спытаць у вас – ці дазволіце вы ёй стаць маёй жонкай? Я ў вас прашу яе рукі.

На гэты раз ён падняў галаву, паглядзеў на княгіню, а потым і на яе сына, якому збіраўся перадаць булаву Палкаводца.

– Што скажаце мне, дарагія мае? Чакаю ад вас адказу.

Сын і маці пераглянуліся. Не чакалі, што яно так усё павернецца. У сям'і ніколі не было прымусу, ніхто нікому і ніколі не загадваў. У душы Анастасія Слуцкая была радая, пачуўшы прызнанне гетмана, ведала, што любая нявеста Вялікага Княства Літоўскага была б радая стаць спадарожніцай такога чалавека, але як да гэтага паставіцца сама Аляксандра? За нялюбага маці не аддасць прымусам сваю дачку, потым, калі што не так, усё жыццё вінаваціць сябе будзе.

– Шаноўны гетман, князь Канстанцін, – звярнулася да Астрожскага маці Аляксандры, – нам прыемныя твае словы, твая прапанова, але вырашаем не мы. І як маці я не маю над ёй уладу. Давай, княжа, паступім так: няхай сама Аляксандра і дасць табе адказ. Яна спытае ў свайго сэрца, як ёй быць, і мы пагодзімся з ёю.

– Добра, я згодны, – паглядзеў на Анастасію гетман, – адразу ж ёй і скажыце пра тое. Ідзіце да яе. Скажыце, што я прашу ў яе рукі.

Маці і сын выйшлі з залы, пакінуўшы гетмана аднаго са сваімі думкамі.

А гетману было пра што падумаць. У яго душы перамяшалася і радасць, і боль, здзіўленне і жарсць, каханне і роспач. Яму шэсцьдзясят два, ёй – васямнаццаць. Ці было на свеце ў каго такое дзіва – дзед у дзяўчынку закахаўся, зіма вясну сагрэць сабралася… Ужо над сабою князь пасміхаўся, каб, атрымаўшы адмову, не дужа вялікім болем сэрца адгукнулася.

Вечнасцю цягнуліся тыя хвіліны, калі чакаў прыходу Аляксандры з маці і братам. Гулка білася сэрца, паколвала ў скроні. Канстанцін нерваваўся, раз-пораз церабіў бараду, то прыгладжваў яе, то кудлаціў. Паціраў пакаты лоб, уздыхаў. Ад хвалявання на ілбе выступілі бісерынкі поту, і ён выцер яго шаўковай хусцінкай…

Расчыніліся дзверы суседняга пакоя, куды пайшлі маці з сынам.

Першай ішла княгіня, за ёй дачка Аляксандра, а апошнім крочыў Юры. Анастасія, як зайшлі ў гасцёўню, адышла ўбок і прапусціла паперад сябе дачку. Яна, не спыняючы хады, кіравалася ўбок госця, на яе твары люстравалася ўсмешка, і яна была ўжо не падобная да дзяўчаці, якой выглядала перад гэтым, а з гонарам несла сябе, паклаўшы тоўстую касу на грудзі. Усмешка яе сталася іншай, з адценнем хітрынкі і гарэзлівасці, дзявочай цнатлівасці, у куточках вуснаў затоенасць і гонар.

Спынілася, нахіліла галаву, такім чынам вітаючыся ўжо з князем не як звычайная дзяўчына, а абраная, якая мела права так паводзіць сябе. У адказ і князь падпарадкаваўся ёй, адказаў такім жа жэстам.

Аляксандра зрабіла адзін крок наперад, другі. Гетман не рушыў з месца. Не таму, што не ведаў, як паводзіць сябе, а проста не меў сілы ступіць ёй насустрач, думаў: калі прыйшла з адмовай, то яму найлепш не рухацца з месца, каб не выглядаць смешна ў сваім памкненні.

Юры і Анастасія засталіся стаяць на месцы, не пайшлі следам за ёю.

Падышоўшы бліжэй да Канстанціна, зірнула, напаўжартоўна, напаўсур'ёзна спыталася ў гетмана:

– То пра што хацеў папытацца ў мяне шаноўны князь і гетман Канстанцін?

Напачатку Астрожскі збянтэжыўся, не чакаючы, што так будзе паводзіць сябе князёўна, але потым, узяўшы сябе ў рукі, ступіў наперад, узяў дзяўчыну за рукі і, падрабляючыся пад мелодыю, з якой яна пачала, і, гледзячы ў яе блакітныя вочы, папытаўся:

– Шаноўная Аляксандра, ці не згадзілася б ты стаць маёй жонкай?

З твару Аляксандры адразу зляцела ўсмешка і хітрынка знікла, і зноў ператварылася яна ў іншага чалавека, што ведаў, якую адказнасць збіраецца ўзваліць на свае плечы.

Голас змяніўся, з унутраным прыдыханнем звярнулася да палкаводца:

– Слаўны князь Канстанцін Астрожскі! Ніколі, нават у самых прыгожых сваіх дзявочых снах не магла ўявіць такога найвышэйшага шчасця – стаць вашай жонкай. Я з радасцю аддаю вам сваё сэрца.

Гетман здзівіўся, не верачы ў пачутае, пастараўся адразу і засцерагчы нявопытнае дзяўчо ад магчымага расчаравання:

– Але ж князёўна такая маладая, а я чалавек, пасечаны ў бойках, снег на маёй галаве, не юначага ўзросту.

– Таму і даруйце мне маю маладосць і неразумнасць, мой слаўны гетман, але я пастараюся быць вартай вас. Больш за тое, я вам падарую сына і дачку, і назавём іх Канстанцінам-Васілём і Соф'яй.

– Адкуль ведаеш, каханая? – асмялеў канчаткова Канстанцін, – ты – чараўніца?

– І ёю магу быць, я далёка наперад бачу.

Канстанцін абняў нявесту, прытуліў да сябе, пацалаваў у скроню. Анастасія і Юры, гледзячы на іх, шчасліва ўсміхаліся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## 9

Шлюб славутага палкаводца Вялікага Княства Літоўскага Канстанціна Астрожскага і князёўны Аляксандры Алелькавіч адбыўся ў 1523 годзе.

Ім Бог падараваў сем гадоў шчаслівага жыцця. Здарылася так, што князь Астрожскі, знаходзячыся ў Вільні, баронячы сталіцу дзяржавы, стаў ахвярай чумы, якая чорнай касой касіла жыцці еўрапейцаў. Лекары нічога не маглі зрабіць, і гетман адышоў у лепшы свет.

Дваццаць шэсць гадоў было тады Аляксандры. Апрануўшы жалобнае ўдовіна адзенне, яна прысвяціла сябе выхаванню дзяцей, як і прадказвала-абяцала гетману, нарадзіла яна яму Канстанціна-Васілія і Соф'ю. Матуляй называлі Аляксандру не толькі сын і дачка, так звяртаўся да яе і пасынак Ілля, якога яна любіла не менш за родных дзяцей, хаця той быў і старэйшы за за князёўну.

І калі стане Антон-летапісец студэнтам, прачытае ў архіўных запісах:

«У 1530 годзе Кіева-Пячорская лаўра прыняла цела славутага беларускага палкаводца і вялікага паборніка праваслаўя Канстанціна Астрожскага.

Ён знайшоў прытулак побач з многімі святымі і праведнікамі – годны сярод вартых.

Канстанціна Астрожскага аплаквала ўсё Вялікае Княства Літоўскае, па ім сумаваў праваслаўны люд суседніх зямель, але найвялікшай стратай сталася канчына гетмана для яго жонкі Аляксандры Алелькавіч. Яна падчас пахавання мужа ў Кіеве прынесла абет бясшлюбнасці…»

## 10

Праводзіў Антона маўклівы звяздар Гаўрыла. І з ім выйшла з хаты дзяўчына з даўгой касой. Нешта знаёмае ўбачыў Антон у яе твары, некага нагадвала яна яму: ці то ў мінулым яна крочыла з ім па жыцці, ці то ў будучыні павінна з'явіцца і стаць яго спадарожніцай.

Дакранулася злёгку да яго локця:

– Ты пакідаеш гетмана?

Ён прымружыў вочы, упіўся ў яе позіркам:

– Так, пара мне… Як імя тваё, і адкуль ты тут?

– Яніна я, далёкая родзічка гетмана, з Альшанаў, пагэтаму і Альшанская.

– Вось яно што, а я гадаю, дзе б гэта мы маглі з табою бачыцца.

– Вось і ўбачыліся. На сечы бачыліся з табой.

– А-а…

– Пайду і я з вамі.

– Пайшлі, весялей будзе.

Калі Антон выйшаў у двор, убачыў сваю Жучу. Яна стаяла каля плота, нецярпліва круцячы галавой, чакала, калі гаспадар падыдзе да яе і павядзе ў заўтрашні дзень.

На высокім ганку стаялі гетман Канстанцін Астрожскі і княгіня, княжыч Ілля. Калі Антон азірнуўся, яны ўсе разам памахалі яму развітальна рукой.

Антон прыклаў руку да грудзей, нахіліўся ў паклоне, памахаў ім у адказ. Падумаў: яшчэ сем гадоў яны пражывуць у згодзе і лагодзе, а потым у іх лёс умяшаецца неспадзяванка…

Адчынілася брама, і яны, перайшоўшы пясчаную дарогу са слядамі колаў вазоў, ступілі на зялёны мурог.

Паперадзе ішоў Гаўрыла, не скідаў з галавы капюшон. Калі падышлі да ўскрайку поля, спыніўся, прапусціў іх папераду сябе. Рукі ў яго былі сашчэпленыя, на жываце, як і раней, глядзеў пад ногі. Мусіць, на неба ён глядзеў толькі ноччу, калі загараліся на ім светлячкамі зоркі.

– З Богам! – нарэшце глуха прамовіў ён. – І нікуды не збочвайце, зоркі пакажуць вам шлях. І Яніна пойдзе разам з вамі, яна добра ведае тутэйшыя дарогі.

Адказу не пачуў.

Наперадзе лагчына з невысокім кустоўем, па зямлі шчодра слаўся густы туман. Жуча нахілілася, каб ухапіць сакавіты жмак травы, глуха дзынкнуў на шыі медны званочак.

Перад тым, як пайсці за рагуляй і нырнуць у густое малочнае марыва, Антон Клімовіч азірнуўся. Ні Гаўрылы, ні дамоў і храмаў Вільні на неабсяжнай прасторы не ўбачыў: усё схавалася ў кудлатай шэрані.

– З Богам, Жуча! – паўтарыў Антон Гаўрылавы словы і паляпаў злёгку па азадку карову.

– З Богам, – прамовіла і Яніна, стаўшы побач з рагуляй з другога боку.

І толькі пасля гэтага яны выправіліся ў дарогу.

…Антон, пазнаўшы, адгукнуўся на бацькаў голас, не паварочваючыся да яго:

– Так, я.

– Ну й дзяла, – уздыхнуў скрушна-радасна бацька, не адымаючы рукі ад сынавага пляча, – з мёртвых уваскрос…

Сын, не адрываючы позірк ад жонкі, не чуў бацькавых слоў, а калі і пачуў бы, то не зразумеў бы іх сэнс: не для яго яны прамоўленыя, не для яго прызначаліся…

Усталявалася працяглая і гнятуча-незразумелая цішыня…

Ніхто не ведаў, як сябе паводзіць, як рэагаваць на тое, што адбылося на вачах усіх. Пераглядаліся недаўменна, але ніхто з вясельнікаў не мог вымавіць і слова. Чалавека і не пахавалі, але ж і ў жывых не лічылі. Толькі ў памяці застаўся. А тут раптоўна з'явіўся.

Наста, набраўшы поўныя грудзі паветра, выдыхнула яго, раскрыла рот, хапала зноў паветра. Але ў яе расплюшчыліся вочы, і яна ўжо бачыла, хто схіліўся над ёю. Усміхалася нават, гледзячы на Антона, не верачы, што ён перад ёю, падтрымлівае яе адной рукой за шыю.

– Ты? Божачка, ты? – прамовіла яна радасна, гледзячы яму ў вочы. – Памажы мне ўстаць, Антон.

Жанчына прыўзнялася, абаперлася рукой аб падлогу, устала. Яе падтрымліваў Антон, асцерагаючыся, што зноў пахіснецца. Тады яна адвяла яго руку, прамовіла:

– Я ўжо ачомалася, Антон, не хвалюйся.

Стаўшы на ганку, на апошняй прыступцы, радасна абвясціла:

– Што засумавалі? У нас радасць вялікая ў сям'і – дачка выходзіць замуж, і Антон вярнуўся. Так што гуляйце, госцікі дарагія, ешце і піце, і раздзяліце радасць з намі!

Нехта ўключыў магнітафон і з дынамікаў вырвалася мелодыя полькі – «паміж Польшчай і Расеяй полька беларуская!»

Радасць у душы Насты, узбуджанасць, трымцела ўсё цела, месца сабе не знаходзіла. Убачыла, што на вуліцы, ля веснікаў, стаяла Жуча, чакала, калі ёю зоймуцца гаспадары. Як жа яна забылася на яе? Спахапілася, заспяшалася да рагулі. Трэба ж яе у хлеў завесці, на ранейшае месца. Але ж там стаіць ужо іншая – Зорка, але яна пакуль на пашы. Нічога, памесцяцца ўдвух, хлеў прасторны, месца хопіць абедзвюм.

Каб не весці карову праз двор, дзе былі госці, павяла вакол сядзібы, з другога боку. І вяла яе, трымаючы за шлейку з медным званком, шаптала ёй радасныя словы, усміхалася, прытулілася да шыі, абняла, не ўтрымалася ад пяшчоты, якая нахлынула на яе, падступілася.

Званок дзынкнуў, напомніў пра сябе. Ён падаўся ёй нейкім дзіўным, іншым, не такім, як яна памятала раней. Вырабіў яго некалі дзядуля Міхась – каваль. Яна ўзяла яго ў рукі, прыгледзелася пільна.

На баку, кранутыя часам і сівой сінечай, бачыліся выпуклыя лічбы – 1514. Яна не зразумела, што яны азначалі, не здзівілася, падумала, што распытае пра ўсё ў Антона, ён і патлумачыць, што да чаго. Ды здалося ёй яшчэ, што званочак не медным быў, а неяк таямніча пераліваўся чырвона-памаранчавым колерам, – ці не золатам ён адсвечваў?

Жуча спакойна стала на прызначанае ёй месца, працягвала жваць жуйку, глядзела ў шэрую сцяну.

Наста вярнулася да гасцей. Не магла паверыць, што перад ёю сядзіць Антон. Яго акружылі бацька і маці, дачушка з жаніхом.

І так ёй радасна і шчасна было глядзець на іх, што яна, прыхінуўшыся плечуком да вушака дзвярэй веранды, не адрывала позірку ад свайго мужа. Чула толькі, як у грудзях радасна тахкала сэрца…

Гэтак жа гулка і неспакойна тахкала сэрца і ў грудзях летапісца.

**11**

Яна падала мне тоўсты сшытак, які я некалі сам жа падараваў ёй. Некалі я прасіў яе напісаць на яго старонках нешта такое, каб мяне зацікавіла, альбо нешта сваё, пражытае ці падслуханае ў некага. Што-небудзь, але каб толькі напісала. Мне хацелася ўбачыць радкі і словы, напісаныя яе рукой. Быццам па тых літарах я мог зразумець яе душу ці адчуць біццё яе сэрца. Але мне так хацелася чамусьці.

– Табе, летапісцу, думаю, спатрэбіцца, – дадала яна, – няхай будзе ў тваім архіве.

І зноў, як заўсёды, знікла ў шэрым мроіве, ахутаўшы сябе туманам. Яна была, і яе няма, яна з’яўляецца і знікае, хаваючыся за наміткаю часу, пералятаючы, як і я, з аднаго часу ў другі, з аднаго вымярэння ў іншае. Неразрыўныя мы з ёю, знітаваныя, і нікому не разарваць нашую сувязь.

Сшытак я схаваў, каб потым, калі прыйдзе жаданне азнаёміцца з ім, застануся самотным і нырну ў старонкі часу.

Той час надарыўся. Праз паўгода. Сама, не дачакаўшыся, калі вазьму ў рукі сшытак, загадала азнаёміцца з ім. І я паслухаўся. Кінуўшы ўсё, забіўшыся ў нетрыскі маўклівага бору, адшукаўшы ладны пянёк, прымасціўся на ім…

«Дарагі мой Антон, – пачыналася першая старонка яе допісам, – добра, што я нарадзілася не ў суседняй імперыі, а на зямлі Вялікага Княства Літоўскага. Мусіць, так Богу было заўгодна. То калі было б так, то мы не толькі ніколі не зразумелі б адно аднаго, а і сталі ворагамі. Ды не, жартую, ворагамі мы не сталі б, але не мелі б таго духоўнага яднання, якое дае сілы чалавеку наш край…

Ты ў хуткім часе будзеш пісаць свой трактат ці кнігу пра тое, як не любіў і зневажаў усходні сусед нашую родную Літвінію, як стараўся залыгаць яе ў ярмо, адабраць ад яе святое мінулае, нават умяшаўся і ў рэлігію – мы маліліся Вышняму як уніяты, на роднай мове, а нас падагналі

пад праваслаўе, прымушаючы маліцца на Масковію. Але як казала мая бабулька Настасся, прымус – што гадзюкі ўкус.

Я не буду гаварыць пра сёння, нават не пра дваццатае стагоддзе, ты пра гэта і сам добра ведаеш, я пра іншае. Возьмем усяго два стагоддзі – васямнаццатае і дваццатае. За гэты час расейская дзяржава ў жорсткіх войнах знаходзілася амаль сто трыццаць гадоў. Сто трыццаць! Жах! Як жа трэба ненавідзець чалавецтва і асабліва нашую краіну!

Толькі ўсяго семдзесят два гады існаваў мір.

З тых ста трыццаці агрэсіўных і захопніцкіх гадоў толькі пяць можна назваць абарончымі. І тое з нацяжкай, бо нашы прашчуры стараліся адваяваць захопленыя чужынцам тэрыторыі і таму нападалі на Масковію.

Існавала такое вайсковае заданне для заваёўнікаў: «Неабходна, згодна з патрабаваннем цара Аляксея Міхайлавіча, на Захадзе працягваць жорсткую і непрымірымую барацьбу, маючы на мэце захапіць у Рэчы Паспалітай Беларусь і Украіну».

А чым увогуле было занятае Маскоўскае княства, то-бок царская і імперская Расея на заходнім кірунку раней за васямнаццатае стагоддзе? Ты пра гэта задумваўся калі, пане Антоні? Задумваўся, мусіць, але не ўдумваўся, ці не так? Вось пагэтаму я і надумалася аблегчыць працу тваіх мазгоў, даю табе гатовыя звесткі. Я нічога не прыдумвала і не дадумвала. Праўда, прыйшлося пакорпацца ў розных архівах і сховішчах. Здзьмухваючы пыл стагоддзяў, ну і начхалася я там уволю. Жартую, пяройдзем на сур’ёзны тон.

Я ўсё склала па парадачку, прытрымліваючыся храналогіі і энцыклапедычнай праўдзівасці, каб нічога не прапусціць і нідзе не схлусіць. Дык што, паехалі? З чаго пачнём? Вось з таго 1500 года і пачнём. Чым ён адметны? Чорная метка на ім. У тым годзе расейскія войскі ў жорсткім змаганні захапілі Гомель. Гамельчукі не чакалі, што на іх нападзе ўсходні сусед, мо таму і не падрыхтаваліся як след. У іх не было вопыту барацьбы, таму доўга і не пратрымаліся.

На працягу наступных гадоў Маскоўскае княства працягвала вайну супраць Вялікага Княства Літоўскага.

Прыгожае мястэчка Мсціслаўль не аднойчы асаджалі расейскія войскі – і ў 1500, і двойчы ў 1502, і двойчы ў 1508, у 1514, 1535 гадах. А што нарабілі захопнікі ў Оршы! Для гараджан былі чорнымі гады 1500, 1507, 1519, 1561, 1562, 1564.

На той час і амаль на тыя ж гады расейскія ваяводы здзяйснялі беспаспяховыя асады Віцебска.

Тыя ж расейскія ваяводы спустошвалі ваколіцы Койданава – у 1506 і 1534 гадах. Не акупавалі ваяводы, дык усё роўна яго захапілі, ужо ў наш час, камуністы, перайменавалі яго на свой капыл – стаў імем крывавага ленінца Дзяржынскага.

На тыя ж гады прыпадаюць крывавыя напады на Свіслач, бандыцкія паходы расейскіх войскаў на Беларусь і ў прыватнасці на Полацк, Чачэрск.

З 1507 да 1508 гады Маскоўскае княства намагалася захапіць землі ВКЛ. Двойчы асаджвалі Крычаў – у 1535. А перад гэтым і ў 1507–1508, 1514 разбуралі і забівалі мірных жыхароў.

А 1508 год. Міхайла Глінскі і князь В. Шэцячыч, узначаліўшы расейскае войска, трымалі аблогу Менска, але іх агрэсія не ўвянчалася поспехам.

З 1512 і да 1522 гады войскі Маскоўскага княства не спынялі сваю захопніцкую вайну супраць ВКЛ. На тыя ж гады прыпадае аблога Браслава.

Ды колькі можна было цярпець такі здзек прагавітага да крыві суседа! І тады на абсягі гісторыі выходзіць Орша. Ты, Антон, выдатна ведаеш пра той час, як і я ведаю, бо мы былі разам на тых палях змаганняў. А ў летапісах запісана так: "1514 год. Параза войскаў маскоўскіх ваяводаў пад Воршай. Саракатысячная армія Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтва гетмана Канстанціна Астрожскага ўшчэнт разбіла 80-тысячнае войска Маскоўскага княства, калі яно намагалася захапіць тэрыторыю Беларусі". Вось так, атрымала, так бы мовіць, па зубах.

Але ў той жа год вораг аблажыў Барысаў. Спрабавалі яго асадзіць і праз пяць гадоў, потым у 1539 годзе. Разбурылі ўшчэнт Друю, спалілі ў 1515 годзе Браслаўшчыну, асадзілі і ўзялі Крэўскі замак праз чатыры гады. У тым жа годзе, двойчы, вораг спрабаваў узяць Менск, аблогу ўзначалілі расейскія князі В. Шуйскі, М. Гарбаты, С. Курбскі ды М. Кісліца.

Мазыр апынуўся ў аблозе расейцаў у 1534 годзе. Мазыране здаліся, не маглі супрацьстаяць агрэсіўнаму націску расейскіх войскаў. Але сёння мазыране не адзначаюць гэты чорны дзень, бо па версіі савецкіх ідэолагаў гэта самі мазыране папрасіліся да маскоўцаў. Хто гэтаму паверыць?

І працягвалася без перапынку вайна супраць Вялікага Княства Літоўскага. Разбураны расейскімі войскамі Рагачоў, працягвалася асада Радомлі, Копысі, Петрыкава, Навагрудка, Шклова і Турава. Нікога не шкадавалі, нішчылі і гарады, і іх жыхароў.

Масква яшчэ падбухторвала і орды крымскіх татараў. І яны здзяйснялі спусташальныя набегі на нашыя землі, пачынаючы яшчэ з 1497 года. А потым з 1500 года, як здаўся ў палон Мазыр, амаль кожны год аж да 1539 года, спустошвалі Беларусь.

Летапісцы занатавалі шмат звестак, якія даказваюць, што тысячы і тысячы людзей нашага краю, спустошанага ворагамі, гналі ў маскоўскі палон. Маскоўцы з дапамогай крымскіх мусульманаў на крыві літвінаў імкнуліся на нашых землях вярнуць сваю, як яны лічылі, праваслаўную “отчизну”, на якую яны не мелі абсалютна ніякага права. Па той простай прычыне, што Маскоўскае княства не было правапераемнікам княства Полацкага, бо падчас існавання Полацкай краіны такога паняцця – Маскоўскае княства – увогуле не існавала. Не існавала!

І сёння ўсходні сусед пад выглядам абароны праваслаўя і расейскага саслоўя, якіх невядомым ветрам занесла ў чужыя краіны, пачаў іх абараняць, быццам яны самі прасілі пра тое. А тую мову і культуру, якая існавала ў дзяржаве, нішчыць, навязваць сваю, чужую для тытульнай нацыі.

Божа, Божа, як магло стацца такое, як толькі і вытрымлівала мая краіна такі крывавы ціск і войны, ніхто ў свеце не мог стрываць такое. Кожная бітва супраць літвінаў, кожны год – крывавыя раны на целе Літвініі. Яны балюча крывяняць, мо і загаіліся б, ды сусед зноў і зноў рэжа па жывому мячамі, словамі і дзеяннямі. Божа, абарані маю радзіму, захіні ад ворага, які ўвесь час прыкідваецца нашым добразычліўцам і братам. У сям’і старэйшы брат заўсёды абараняў малодшага, слабейшага, а тут наадварот… Ніякаму розуму і глузду тое не паддаецца, таму і кажуць пра яе кіраўнікоў – з глузду з’ехаў…

Але я вымушана доўжыць спіс злачынстваў ворага, каб тады, як адбудзецца Божы суд, абвінаваўцы мелі на руках доказы нечалавечых адносінаў агрэсараў да нашых людзей.

Орша, Дуброўна і Мсціслаўль асаджаны войскамі Івана Жахлівага. Праз год асаджаны і спалены ім жа Лепель, асада і штурм Полацка. Мясцовае насельніцтва знішчана, хто застаўся ў жывых і быў здаровы, звязаўшы вяроўкамі, пагналі ў маскоўскі палон.

Іван Жахлівы ў 1564 годзе наладзіў аблогу Мсціслаўля, Крычава, Радомлі, Магілёва, Оршы, Дуброўны, Копысі, двойчы асаджалі Езярышча.

Захоплены расейцамі ў 1576 годзе Гомель, але яго вярнуў у склад ВКЛ Юры Радзівіл. А праз два гады князь Сярэбраны, пра якога выпушчана мільёны кніг – ухваленне яго подзвігаў, спаліў Магілёў і Шклоў. Магілёўцы, няўжо вы і сёння пакланяецеся гэтаму крыважэрнаму князю, яшчэ не павыкідалі кнігі пра яго са сваіх і дзяржаўных бібліятэк? Не? А дарэмна. А ў 1616 годзе расейскія войскі спалілі дазвання Сураж.

У 1633 годзе вораг напаў на Полацк, ды абламаў свае крыважэрныя іклы. Але Мсціслаў здаўся расейцам.

А цяпер, Антон, я мушу звярнуць асаблівую ўвагу на прамежак часу з 1654 да 1667 гады. Чым яны адметныя? Гэты перыяд для нашай краіны стаўся самым крывавым і спусташальным. Чаму? Расея найбольш жорстка пачала весці вайну супраць ВКЛ і ўжо супраць Польшчы.

У першы ж год царскія войскі асадзілі і штурмавалі Дуброўна, дваццацітысячнае войска ворага асадзіла і ўзяла Віцебск, ворагу здаўся Магілёў, князем А. Трубяцкім спалены Клецк, а пазней Нясвіж, асадзілі Ляхавічы, ды не ўдалося іх спалюндраваць, як праз два гады не ўдалося захапіць Быхаў. А на аблогу яго былі кінуты яшчэ і ўкраінскія казакі.

Жорсткая асада расейскімі войскамі Гомеля, Віцебска, Чачэрска і іншых гарадоў Беларусі. Штурм і захоп Барысава, беспаспяховы штурм Слуцка. Расейскі ваявода Д. Валконскі спаліў Менск. А пасланцы Багдана Хмяльніцкага – казакі Залатарэнкі – саюзнікі цара Аляксея Міхайлавіча – спалілі Бабруйск. Адначасова з гэтым быў асаджаны Лідскі замак – і тут пастараліся казакі Залатарэнкі і князя А. Хаванскага. Узяты Навагрудскі замак. Асада Чачэрска. Пад Ляхавічамі войскі ваяводы Хаванскага наткнуліся на моцны супраціў войска ВКЛ і пацярпелі паразу.

А ў 1661 годзе паўсталі гараджане Магілёва. Праявіўшы мужнасць і адвагу, загараючыся помстай, паказалі на што здольны – захапілі ў палон расейскіх ваяводаў. Тады ж адбыўся і антырасейскі пераварот у Дзісне.

Праз тры гады ўкраінскія казакі і расейскія войскі асадзілі Пінск.

На працягу ажно трынаццаці гадоў вялася вайна Расеяй на знішчэнне краіны і людзей. Вайна вялася жорстка і цынічна – забівалі старых і дзяцей, жанчын і калекаў. Хто заставаўся ў жывых, вывозілі ў Масковію. “Вывозілі” – мо і няправільна, звязаўшы кожнага беларуса, цягнулі, як быдла, да заваёўніка.

Гэтая так званая любоў да брацкага народа абышлася для нас вельмі дорага. Каля двух мільёнаў жыццяў кінута на алтар супраціву. Загінуў тады кожны другі беларус. Гэта было страшней за любую чуму, любую іншую эпідэмію, і гэты жах, гэтае знішчэнне народа нашай краіны дабраславілі расейскія царкоўныя іерархі. Вялікае Княства Літоўскае ўжо не магло падняцца з кален, абяскроўленае, вынішчанае Расеяй дашчэнту, не магло ўжо аказаць супраціў. Расея, пачала смела і жорстка абжываць “отчизну”.

А мы гэта абазначым і сцвердзім так: з гэтай пары і пачалася акупацыя і каланізацыя Паўночна-Заходняга краю, якая доўжылася тры стагоддзі, доўжыцца і сёння. Няхай не расейскім штыхам, але духоўна, эканамічна і рэлігійна. Ваюе Пётр I са Швецыяй (1700–1724), праводзіць на тэрыторыі Беларусі тактыку выпаленай зямлі, – зноў гіне каля мільёна беларусаў.

У 1708 годзе цар спальвае Віцебск, Дуброўна, Оршу, Магілёў, Мсціслаль, Быхаў, адступаючы на Украіну і дзясяткі іншых гарадоў. Гіне Ляхавіцкі замак, цар не мілуе нікога.

Крыважэрнае і жорсткае васямнаццатае стагоддзе! Новыя і новыя выпрабаванні выпадаюць нашай дзяржаве. Не вытрымлівае люд, паўстае супраць насілля і рабаўніцтва, але тут жа расейскі меч і агонь накідваюцца на паўстанцаў. Усё тоне ў рэках крыві. Найбольшай жорсткасцю вылучаўся святлейшы князь Аляксандр Сувораў. У яго не толькі рукі ў крыві, а ён па самае горла быў у ёй, піў яе, любіў яе смак. І нічога светлага ў ім не было.

А напрыканцы таго ж стагоддзя расейцы зноў прыносяць на Беларусь крывавыя падзеі.

У 1772 годзе адбываецца духоўны тэрарызм. Расея ўмешваецца ў сацыяльнае і эканамічнае жыццё Вялікага Княства Літоўскага. Подкупам і шантажом, хітрасцю ды ліслівасцю, беручы ў памочнікі царкоўных іерархаў, дабіваецца таго, што адбываецца бандыцкі падзел Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстрыяй ды Расеяй. А што ў выніку? Так, адбылося самае жахлівае, што можна прыдумаць: ад Беларусі была адарвана, яе акупаваная ўсходняя частка і далучана да Расеі. Далучана? Ды не, накінутае ярмо, зацуглянае, падатлівае, маўклівае…

А потым адбываецца і другі падзел Рэчы Паспалітай і ўжо захоп Расеяй цэнтральнай часткі Беларусі. Ды апетыт імперыі ўзмацняецца. 1795 год прыносіць трэці падзел і адбываецца захоп ворагам заходняй часткі Беларусі.

Каця II, што лічылася асветнай расейскай імператрыцай, з гонарам абвесціць, што для поўнага ўдушэння жыхароў, захопленых заходніх земляў, неабходны ўсяго тры рэчы. Падкрэслівала – што не зрабіў расейскі штых, тое зробяць расейскі чыноўнік, расейская школа і праваслаўная вера.

Гэтыя “тры рэчы” маюць, як ні дзіўна, сілу і сёння. Засталося толькі замацаваць пратакольна – “законна і па волі народа” за Расеяй “отчизну”. І дабівацца таго, каб беларусы выкінулі з памяці і са свайго ўжытку прозвішчы Тадэвуша Касцюшкі ды Кастуся Каліноўскага, якія змагаліся супраць крыважэрнай Расеі.

Але ўсё да пары, бо кроў людская – не вадзіца, яна мае цудадзейную сілу. Хто дабіваўся свайго на людской крыві, той яе і атрымае.

Вось такія думкі, пане Антоні, такія звесткі і мае меркаванні…

Дапамагла чым табе? А мо ты і сам ведаў пра тое, калі ўмееш пералятаць са стагоддзя ў іншыя стагоддзі? Калі ж не, то няхай гэта будзе табе проста напамінкам пра белыя плямы нашай гісторыі.

Да сустрэчы на арбітах часу. Яніна – твая спадарожніца».

Каб сказаць, што для мяне яе тэкст стаў адкрыццём, дык яно будзе няпраўдай. Збольшага ведаў, але тыя факты не былі прыведзены ў адпаведны храналагічны спіс, цяпер жа ўсё стала на сваё месца. За што і ўдзячны ёй…

…Лес маўчаў.

Маўчалі птушкі.

Маўчаў і вецер, не гушкаў галіны дрэваў. Але тая цішыня не палохала мяне і не здзівавала. Ведаў, што і лес калі-нікалі спіць, адпачывае і не жадае, каб і птушыныя галасы парушалі спакой. Маўчаў і я. Мне добра сядзелася на старым дубовым пні, нішто не замінала маім думкам, і я не адчуваў самотнасць. Наадварот, сярод дубоў і бяроз пачуваўся спакойным і сваім, здавалася, што толькі б мне крыкнуць на ўвесь лес, ды не толькі крыкнуць, а і спытацца: «Як жывеш, дружа Лес?», абавязкова пачуў бы адказ.

Але я не хацеў парушаць яго спакой. Няхай іншым разам, калі вершаліны будуць перагаворвацца, а птушкі будуць расказваць дрэвам гісторыі. Тады і я ўмяшаюся ў іх гоман-перагудку, выдаючы сябе за свайго, бо ў лесе я ведаў усе патаемныя сцяжынкі, ведаў, якое дрэва хворае і патрабуе лекаў, і мяне не баяліся ні ваўкі, ні лісіцы, ні барсукі… І яны цяпер не паказваліся – пахаваліся. Мусіць, не ведалі, што я знаходжуся ў іх царстве…

Я тут чуў цымбалы ветру, яго мажорныя і мінорныя мелодыі. Ды не пад любым дрэвам аднолькавыя песні спявалі вятры. Калі сядзеў у бары, то чуліся шчымлівыя ноткі мінору. Пошум у вершалінах ствараў драматургічныя творы. Дзіўна: сасновы бор сугучна распавядаў мне пра сівыя стагоддзі і тысячагоддзі, расказваў, якія бітвы адбываліся ў гэтых мясцінах, хто перамагаў, а хто атрымліваў паразу.

Кожнае дрэва – гэта антэна, якая, прымацаваўшыся да зямлі, урастае ў яе ўсімі сваімі каранямі і сасудамі, прымае ад зямлі сігналы, інфармацыю, папярэджанні, перакідваючы ўсё гэта мелодыяй вечнасці. Адсылае гэта ўсё ў космас, у іншую інстанцыю, каб зафіксаваць на нейкіх нябачных прыборах і стужках, каб потым, калі чалавек расшыфруе свой геном і геном космасу, расшыфруе і тое, што старалася данесці Зямля да жыхароў.

Калі ж клаўся на зямлю пад бярозамі, зажмурваў вочы, настраў унутраны слых, то адразу раствараўся ў новых мелодыях, у новых адчуваннях, у новым вымярэнні. Лістота бяроз спявала і апавядала мне пра каханне. Не толькі пра маё, але і пра тысячы і мільёны іншых людзей, пра каханне князёў і каралёў, вялікіх гетманаў і ваяводаў, пра людзей, якія штодзённа абраблялі зямлю да сёмага поту, каб пракарміць сябе, і якім не было чу-

жым паняцце кахання і любові. І так бы ляжаць мне і ляжаць, слухаць і слухаць шчымліва-салодкі голас нябачнага аркестра, дырыжорам якога быў сусвет і сам Бог.

Ніхто не мог сказаць, якія музычныя прылады стваралі апафеоз вечнасці, іх налічваліся сотні, а мо і тысячы, а мо і мільёны… Але яны так гучалі, што ніводзін не вылучаўся, хіба зрэдку, каб падкрэсліць велічнасць мелодыі, вятрыска асобна ад усіх на некалькі імгненняў выбіваўся з агульнага хору. І ён пранізваў сэрца, ён люляў душу, абвалакваў сэрца мройным туманам, шчырасцю і каханнем, уздымаў чалавека над зямлёй. Не расплюшчваў вочы, стараўся адчуць незямное пачуццё, аддаляючыся, прыўзнімаючыся над зямлёй, і я верыў у тое, і так яно было насамрэч, бо я не кранаўся спінай да зямлі.

«Ты б лётаў не толькі ў сне, – шаптала мне мелодыя, – а вось так, як цяпер, і пералятаў бы з аднаго месца на другое, з аднаго кантынента на другі… Ды што гэта! Калі б ты штодня прыходзіў сюды, дыхаў гэтым паветрам, слухаў вось гэтыя мелодыі, якія пранізваюць цябе і напітваюць Боскай сілаю, то ты і жыў бы не адно стагоддзе, а некалькі… Шкада, што чалавек не ведае пра гэта, не хоча ведаць, не чуе, што зямля і неба кажуць яму. Чароўныя гукі сусвету пастаянна стукаюцца ў сэрца чалавека, запрашаюць яго да дрэў, каб ён пачуў і ўслухаўся ў актавы кахання…»

Каб не парушыць суладдзе голасу і цішыні, я маўчаў, бо ведаў, што адным сваім словам адказу магу разбурыць усё. Ці то я рабіўся мудрэйшым, ці нехта падказваў мне, як паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі, але мне прыйшлося падпарадкоўвацца абставінам.

Я сам сябе апускаў на зямлю. Апускаўся асцярожна, спакваля, не спяшаючыся, аж пакуль не адчуў дотык маладой травы і пульхнай паверхні планеты.

Цяпер ведаў: дрэвы мае сябры і лекары, мой аркестр, мая лякарня, мая адкрытая планета і космас. Калі ж мяне будзе супыняць няўпэўненасць альбо ваганне, калі захачу распачаць нейкі клопат, то я сюды прыйду, каб набыць сілу і ўпэўненасць, імпэт і надзею. Я ўжо ведаў, якія месцы прызначаны для мяне, каля якіх бяроз і сосен, дубоў і ясакараў прылягу і далучуся да голасу вечнасці і разумення сусвету.

Паклаўшы сшытак ў свой настаўніцкі партфель, нішком устаў з саморобнага крэсла.

Азірнуўся па баках, быццам каго выглядаў ці чакаў сустрэць. Нікога не ўбачыў, ды і не хацеў я ў гэты момант каго сустрэць. Мне па душы была адзінота на цішыні. Толькі слаба далятала да мяне развітальная мелодыя

ветру ў голлі, якая і запрашала мяне абавязкова прыйсці на гэтую выспу, на гэты цудадзейны ўзлесак.

Пастаяўшы яшчэ нейкі час, у адказ кіўнуў згодна галавой, – і пакіраваў павольным крокам напрамкі на сонца, якое слаба чырванелася ў густым голлі акурат над маімі Крушнікамі.

Падалося мне, што ў вёску я вяртаўся іншым, праўда, не зразумець якім чалавекам.

## 12

У першы дзень, калі ён вярнуўся і трапіў на вяселле, калі ўбачыў усіх сваіх, а найперш Насту, калі абняў дачку і сына, дарослых ужо, – адчуў, што ў яго пачала кружыцца галава, усё паплыло перад ім, загайдалася. Не з усімі яшчэ пабачыўшыся, не абняўшыся з імі, папрасіў жонку:

– Наста, адвядзі мяне на ложак… Ногі чамусьці не трымаюць. Спаць дужа хочацца. Блага мне.

Яго адразу ахутала мройнае воблака ці той самы туман, які забіраў яго да сябе, – і ён ужо нічога не чуў і не бачыў, адно звінела ўвушшу, быццам ён узляцеў зноў некуды ці то на нябёсы, ці апусціўся ў падзямелле, з якім быў ужо знаёмы. Ды хісталася перад ім паветра, сатканае з ультрамарыну, жоўтай квецені неабдымнага лубінавага поля, а за спінай чулася іржанне коней і стукат іх капытоў. Ён спаў і не спаў, а мо толькі драмаў, напаўсілы паглыбіўшыся ў наваколлі сну, але на душы адчуў палёгку, тое невядомае, што сціскала грудзі, некуды знікла, пакінуўшы яго ў спакоі…

Не чуў, як да яго прыходзілі бацька з маці, сядзелі сын і дачка, думаючы, што ён прахопіцца, але, не дачакаўшыся, пакінулі яго ў спакоі. Сын паехаў у Берасце, дзе працаваў галоўным ляснічым у Маларыцкім раёне, а дачка паехала ў Менск – на вучобу, асвойвала медыцынскую навуку.

Спачатку Наста не ведала, што рабіць, – знаходзіцца пры ім ці ісці на працу, але мясцовая доктарка з медпункта супакоіла, сказала, што ён можа спаць і двое, і трое сутак. У яго адбылося нервовае патрасенне, і таму ён сам павінен вярнуцца да свайго звычайнага стану.

Наста не вытрымлівала, прыбягала дадому, але бачыла, што на стале стаяла некранутая ежа, і з ложка ён не падымаўся…

Як павярнуўся на правы бок да сцяны, так і ляжаў, ціха пасопваючы носам.

Прачнуўся толькі на трэція суткі.

Здзіўлена агледзеўся вакол, але адразу ўсвядоміў, дзе ён знаходзіцца. Толькі тады падаўся да прыбіральні, бо ўжо болей трываць не мог.

Вярнуўшыся, зноў лёг. Але ўжо не спаў, няўцямна пaглядаў у столь. І думак у яго галаве не было ніякіх, ён як бы перастаў думаць, разбірацца ў сабе, асэнсоўваючы свой стан.

Прыйшла пад вечар і Наста. Убачыўшы, што ён ляжыць з расплюшчанымі вачыма, узрадавалася, усклікнула:

– Во, дзякуй Богу, прачнуўся!

– Колькі ж я спаў, жонка?

– Больш як трое сутак.

Не здзівіўся, толькі кіўнуў галавой.

– Як пажарны дрыхнуў. Цяпер ужо вечар?

– Так, надвячорак, з працы я прыйшла.

Збольшага агойтаўшыся, але яшчэ не прывыкшы да свайго стану і становішча, не падымаючыся з ложка, спытаў:

– Да мяне хто прыходзіў?

– Так, прыходзіў бацька твой з маці, але ўбачыўшы, што ты спіш, пакінулі цябе ў спакоі. Потым, калі прыйдзеш у сябе, калі будзеш гатовы сустрэцца з усімі, паклічам у госці. Так я ім сказала.

– Добра.

Наста сядзела побач, глядзела на яго, усё не магла паверыць, што перад ёю Антон, што размаўляе з ёю. Напачатку, як убачыла яго, падалося, што гэта і не ён зусім, а нейкі іншы, другі чалавек, адно што голас пазнавала, а аблічча… Яна вунь як асунулася за дзесяць гадоў, як не было яго, а ён і не перамяніўся ні кропелькі, якім застаўся ў памяці, такім і прадстаў перад ёю…

– За гэты час, як мяне не было, шмат вады ўцякло. І што ж новага ў нашых Крушніках, хто жывы і здаровы, а каго мо і няма ўжо?

– Так, Антон, шмат чаго адбылося і перамянілася… Усяго і не раскажаш. Пра каго ты хочаш пачуць?

– Старшыня калгаса Жаўтоўскі…

– Наш Мікола Апанасавіч пайшоў, як кажуць, на павышэнне – кіруе раённым сельскагаспадарчым упраўленнем… Замест яго прызначылі новага – Цімафея Замошскага. Неблагі чалавек.

– Зразумела…

Маўчалі. Антон паправіў падушку пад галавой, уздыхнуў.

– Бабуля Аўдоля?..

– Тэпае, дзякуй Богу, – уздыхнула і Наста, – і дзядуля твой нічога – у кузні днюе і начуе. Невядома, што ён там і выштукоўвае, хаця і не чуваць, як ён молатам б’е па кавадле.

– Я ведаю, што. Меч выкоўвае залаты, які ваяру трэба.

– Якому ваяру? – паглядзела на яго жонка.

– Абаронцу нашаму. Вершніку, што адбіўся на штандары нашага Княства.

Яна амаль нічога не зразумела, толькі здагадвалася, але перапытвацьудакладняць не стала.

– А брыгадзір Антончык, што прасіў мяне падсабіць падчас жніва?

– Пераехаў з сям'ёй у Мазыр. Узяў участак на станцыі Мазыр, хату збудаваў. На бетонным заводзе працуе. Штовосені грыбы збіраць прыязджае… А жонка ў паліклініцы медсястрой.

– А Нікіфар Пятровіч, твой начальнік?

– Раённымі прафсаюзамі кіруе ўжо колькі гадоў.

Антон усміхнуўся:

– Усіх павышаюць, толькі цябе абмінулі. Маглі ж старшыніхай зрабіць, колькі ж гадоў на тым месцы.

– Добра яшчэ, што не пасадзілі.

– Чаго?

– А з-за цябе. Падазравалі, што ты не знік, а гэта я цябе забіла ў лесе. Але доказаў не знайшлі…

– Во яно як…

– А цябе пракурорша дык да ворагаў народа аднесла. За тое, што ты на Крапівенскім полі быў разам з Муштэнкам…

– Знайшлі ворага, – хмыкнуў Антон, кісла ўсміхнуўся. – А самі яны хто?

Зноў маўчанне. Ціха ў хаце. Пачулася на вуліцы гудзенне рухавіка машыны. Недзе забрахаў сабака.

– А як Серафімачка, Макаркава каханачка?

– Ды як табе сказаць, не пры нас кажучы, з галавой у яе нешта… Каго не стрэне, то горшчык золата прапаноўвае. Месяц у лякарні, два месяцы дома… Бяскрыўдная, усім усміхаецца, быццам яна самая шчаслівая жанчына на зямлі.

– Можа яна і сапраўды шчаслівая, ды мы пра тое не здагадваемся. Брацiха як твая – Анюта?

– Ды нічога, дзякуй Богу, паправілася. Тады, як ты знік, Макар яе мухаморамі накарміў. Думаў атруціць, са свету зжыць, бо дайшла зусім, амаль на тым свеце ўжо была, а выйшла наадварот усё, вылечыў ён яе, ад смерці, аказваецца, выратаваў. Але ў кэпэзэ два месяцы адседзеў… Мусіць, Серафіма і падвучыла яго тое зрабіць, хто ведае…

Зноў усталявалася маўчанне.

– А ўчастковы – Ладзік Гарчук?

– Намеснікам цяпер у начальніка міліцыі ў Мазыры. Гадоў пяць ужо…

– Я слаба помню вяселле, якое адбылося. Як у мройным тумане мне ўсё бачылася – і людзі, і рэчы. Абдымаўся з усімі, а з кім, не памятаю. Ці былі браты мае і сёстры?

– Былі, былі. І Пятро, і Зміцер, і Андрэй… І сястрыцы твае былі Наталка з Зоськаю. Як ты пайшоў адразу да ложка, мы дамовіліся так – у наступную суботу, калі ты прывыкнеш да новага жыцця, яны ўсе з'едуцца, і мы наладзім вясёлую вечарыну ў гонар твайго вяртання. Мы так усе рашылі. Добра, Антон? Ты як, не супраць?

Уздыхнуўшы, адказаў:

– Няхай будзе так. Айцец Максім у храме?

– Так, прыходзіў да цябе, малітву за здароўе чытаў.

Яна вагалася, сціскала пальцы, гледзячы пад ногі, прамовіла з цяжкасцю:

– Я вельмі вінаватая, Тонік, перад табою.

Антон сеў на ложку, звесіўшы ногі.

– Не будзем пра тое, не будзем, Наста.

Са шчакі скаціліся дзве слязінкі, упалі на рукі.

Антон глядзеў у падлогу, не бачыў таго.

– Мо паснедаеш?

– Добра. Як пагалюся і ўмыюся. Ты мне вось што скажы, Наста. Ідучы паўз твой будынак, убачыў, што не стала таго сцяга, што я некалі вывесіў. Бел-чырвона-белага сцяга. Вісіць той, які быў пры БССР. Але цяпер, здаецца, няма такой краіны, а ёсць Беларусь. Ці мы зноў вярнуліся ў савецкі час? Што адбылося? Мо які пераварот адбыўся? Растлумач.

– Так, Тонік, амаль што пераварот. Той сцяг, што ты павесіў над нашым будынкам, забаранілі. Прывезлі гэты, як людзі кажуць, балотны, і загадалі прымацаваць. А ў Менску, што вісеў над урадам, парвалі на шматкі, і Пагоню кранам сарвалі і скінулі… Па тэлевізары ўсё паказвалі, як быццам народу даказвалі, што яны павінны жыць па старых законах і ў мінулай дзяржаве.

– Гэта бесчалавечна, – выдыхнуў з болем з сябе паветра. – Гэта ж дарога назад… Значыць усё, што мы рабілі, адраджэнцы рабілі, усё ўпустую… Жах.

Ён абхапіў галаву рукамі, бо пачуў, як тоненькія іголачкі пачалі ўпівацца ў скроні.

Наста рашыла пацвердзіць яго думкі:

– Безумоўна, жах. І краіна падзялілася… Адныя, хто імкнецца ў заўтра, а другія туды, назад, да Сталіна, да Берыі… І вераць сённяшняму кіраўніку дзяржавы, вераць, што толькі пры ім шчасліва жывуць беларусы.

Ён доўга не ўставаў з ложка.

А потым выйшаў у двор і доўга мыўся пад мыцельнікам.

І ўжо за сталом, калі заканчваў снеданне, села насупраць яго Наста.

– Антон, мне здаецца, што званок у Жучы не той, што быў да гэтага.

– Як не той? – адарваўся ён ад яды. – Падмяніў хто?

– Не ведаю. Я прыгледзелася, і падаўся ён мне не медным. Звініць глуха. З золата ён выраблены. І лічбы нейкія на ім.

– Якія лічбы?

– 1514…

– Я і не заўважыў тое. Гэта ж год Аршанскай бітвы на Крапівенскім полі… То, выходзіць, мне такі падарунак зрабіў вялікі гетман Канстанцін Астрожскі.

– Мо з кіло важыць залаты званочак.

– Ого! Цэлае багацце!

– Што рабіць будзем, Антон? Заявіць мо ўладам? Закон так патрабуе.

– Закон? – перапытаў кісла Тонік. – А дзе ён, той закон? А з намі яны законна абышліся – з табой, са мной? У мяне свой закон – кавалю аднясу. Там золату месца. Яно з мінулага, таму не можа належаць сучаснасці, тым больш уладам. Я ж не ўкраў яго і не знайшоў. Не іхняе яно. Не іхняе. І не маё.

Наста пагадзілася:

– Мо ты і правільна кажаш. Табе відней.

Яна, адкрыўшы тую таямніцу, не здзівілася, не ўзрадавалася, пагадзілася з летапісцам. Ведала, што там, дзе золата, тым больш калі яно невядома адкуль прыйшло, будуць адныя няшчасці і праблемы. А яна наглыталася тых праблем з коптурам.

Маўчалі. Думалі кожны пра сваё.

Думалі пра тое, як жыць далей, як зноў наладжваць адносіны.

**13**

Антон Клімовіч выпаў з часу. Выпаў з жыцця. І не на тым ён свеце, і не на гэтым. Той час адрынуў ці выпхнуў яго адтуль, а на гэтым не ўспрымаюць яго, месца свайго знайсці не можа.

Чужым ён стаў, бо адстаў у часе. Мусіць, і для Насты ён не той, кім быў.

Яе словы, кінутыя бяздумна, тады, падчас узбуджанай і беспадстаўнай рэўнасці, ажыццявіліся. «Ды знікай, калі табе так хочацца! Мо мне жыць лягчэй стане» – выдыхнула з сябе нейкі боль, паслала словы некаму ў вушы, і яны даляцелі, трапілі акурат па прызначэнні.

Мо яна потым і адумалася, спахапілася, ды было позна, сама ж і наслала на абодвух разлучэнне, а яго выправіла ў мінулае, ды не на дзень-два, а на цэлых дзесяць гадоў. І таму аказаўся ён на дзесяць гадоў маладзейшым за яе.

Усё перайначылася, перамянілася. З ног на галаву перакулілася.

У школу на працу не бралі. Хаця дырэктарам васьмігодкі быў яго вучань – Стась Клімашэўскі. Хаваючы вочы, адказаў, што сярод вучэбнага года на працу ўзяць не можа, мо, хіба, з наступнага, і то калі дазволіць райана.

Калі паехаў у Мазыр у раённы аддзел адукацыі, каб спытаць, чаго яму адмаўляюць у працы, то Краўчанкі, загадчыка, на месцы не было. Прыняла яго намесніца, падзівілася, калі ён расказаў пра сябе. Сказала, што не памятае такога гісторыка, як ён.

– Што ж мне рабіць? – спытаў ён у яе. – Я ж без працы. А вось мая працоўная кніжка, якая даказвае, што я з’яўляюся настаўнікам Крушніцкай васьмігадовай школы.

Святлана Пятроўна, так звалі загадчыцу, Праваручка, здзіўлена разглядала запісы ў працоўнай кніжцы, не ведала, як ёй быць.

– У нас цяпер і гісторыя выкладаецца не так, як дзесяць гадоў таму, – уздыхнула, вяртаючы яму шэрую кніжачку. – Тады яе напісалі бэнээфаўцы, скажона напісалі, а цяпер вучоныя напісалі правільна, згодна з апошнімі ўказаннямі прэзідэнта. Але не ў гэтым справа. Вы проста аказаліся дыскваліфікаваным настаўнікам.

– А дыплом? – паклаў Антон перад ёю, разгарнуўшы, дакумент, які сведчыў, што ён скончыў БДУ гістарычны факультэт. – Ён таксама дыскваліфікаваны?

Праваручка нават не ўзяла дыплом.

– Што ж мне рабіць? – зноў спытаўся ў яе гісторык. – У суд падаваць на вас, ці што?

– Падавайце, – пацiснула яна плячыма, – калі суд абавяжа аднавіць вас на працы, то мы вымушаны будзем даць вам працу. Але не гісторыка.

Ён моўчкі пакінуў яе кабінет.

Спусціўшыся па прыступках, разважаў, у які бок ісці. Наперадзе, праз дарогу, у цэнтры сквера стаяў манумент, на якім стаяў доўгія гады ідал, паказваючы, куды яму ісці. Паказваў на будынак, з якога ён толькі выйшаў.

«Я там ужо быў, – адказаў ідалу Антон, – там нічога не дабіўся. Значыць, ты паказваеш шлях у тупік. І там я быў. Значыць, трэба самому шукаць выйсце з гэтага становішча і шукаць шлях, па якім павінен ісці…»

Калі прыехаў дадому, Наста, зірнуўшы на яго, усё зразумела. Але ўсё роўна спытала:

– Выхадзіў што, Антон?

– У іх выхадзіш, – уздыхнуў, сеў на канапу. – Я ж для іх не існую. Мяне няма ў жывых.

– Мо ў Менск з’ездзіў бы, у міністэрства адукацыі, да міністра дабіўся?

– Да міністра? А для яго, што, я жывы стану?

Жонка нічога не адказала, сціснула вусны.

– Есці хочаш?

– Не, пазней хіба.

Устаў з канапы, падышоў да дзвярэй. Адказаў на яе маўклівае пытанне:

– Прайдуся трохі. Мо да дзеда Міхася зазірну. Засумаваў па ім.

Выйшаў у двор. Доўга не раздумваў, куды ісці. Ведаў, куды пойдзе. Ой, як доўга ён не наведваў кузню дзядулі! Як яна там? Мо струхлела за гэты час, і ў паміне яе ўжо няма. Ды не, мусіць, Наста ж казала, што каваль там днюе і начуе.

Прыцягвала яго кузня, клікала, грукалася ў сэрца. І ён падаўся на яе покліч…

Але перад тым, як выправіцца ў госці да дзеда, у хлеў зазірнуў.

Абняўшы Жучу, зняў з яе шыі шнурок са званочкам. Ён глуха дзынкнуў. Загарнуў у хусцінку, паклаў у саквояж.

Рагуля працяжна ўздыхнула, быццам адчула нейкую палёгку, мусіць, цяжка ёй было насіць той дарагі і важкі груз, з радасцю пазбавілася яго.

**14**

Але ён не спяшаўся ісці ў адведкі.

Нешта затрымлівала яго, не пускала.

Жонка, убачыўшы, што можа пакінуць яго аднаго, пайшла на працу. І ён застаўся адзін. Сядзеў, прыхінуўшыся да сцяны, разважаў. На душы спакойна, ніякія трывогі не падкатваліся да яго. Ён успомніў, што вёў запісы, пісаў нешта накшталт дзённіка, успамінаў. Захацелася пераглядзець іх, зноў адчуць подых мінулага, апынуцца сярод сяброў – сваіх аднакурснікаў, пасядзець побач з Кулонам і Халдзеем, стаць пад дубінкі паліцыянтаў камуністычнага рэжыму паблізу Курапатаў…

Усе свае кнігі, канспекты, тэчкі і іншае некалі пазвязваў у пукі, склаў на гарышчы хаты за комін. Склаў на паліцы, каб не дабраліся да іх мышы. Для пэўнасці абклаў з бакоў галінкамі палыну і мацярдушкі.

Па драбіне падняўся на гарышча. Агледзеў сховішча з усіх бакоў: здаецца, усё было цэлае, і нават палын ляжаў некрануты, быццам учора паклаў яго туды.

Пук, перавязаны суровай тоўстай ніткай, ляжаў скраёчку, – як ведаў некалі, што найперш ён будзе «гартаць» студэнцкія гады. Зняў, паклаў на самаробны столік, што быў прымацаваны пад акенцам, якое выходзіла на вуліцу.

Развязаў матузкі. Зверху і ляжаў канспект па гісторыі Беларусі. Здзьмухнуўшы пыл, пагладзіўшы рукой агульны сшытак з сіняй вокладкай, разгарнуў яго. З канспекта вылецеў і ўпаў пад ногі, складзены ў чатыры столкі, аркушык паперы.

Летапісец пазнаў яго, пазнаў і ўзрадаваўся, салодкая цеплыня ахінула сэрца. «Няўжо? Няўжо гэта той ліст, які згубіўся, які я шукаў і не мог знайсці? Значыць, сапраўды сябры не бралі яго, тады дзе ж ён быў, калі не было яго ў канспекце? Адкуль жа ён цяпер з’явіўся?»

Узяў у рукі. Але разгортваць не спяшаўся. Прыгледзеўся, убачыў у куточку аркуша маленькую пазнаку – бел-чырвона-белы сцяжок. То ў яе, Яніны, быў такі блакнот, і яна тады, падчас лекцыі, паклала яму аркушык у яго канспект. Нешта напісала, а што, ён так і не ведаў. Таму і не прачытаў тады, што ён знік. А цяпер во паперчына ў яго руках.

Пачуў, як неспакойна затахкала сэрца. Перад вачыма ўзнік вобраз Яніны. Яна ўсміхалася, загадкава глядзела на яго праз прызму і туман часу. Маўчала. Чакала. Чаго? Калі ён разгорне яе ліст?

Павольна разгарнуў яго. Не здзівіўся, убачыўшы чысты аркуш. Успомніў, як казала яму: «Толькі хукнеш на старонку – і на ёй адразу ўбачыш напісаны тэкст».

Паднёс да вуснаў. Пацалаваў напачатку, а потым, прымружыўшы вочы, хукнуў і раз, і другі, і трэці… Расплюшчыў вочы, пачаў углядацца ў белае поле паперы. На ёй пачалі сеяцца літары і словы, – быццам ён апусціў фотапаперу ў праяўляльнік, і адразу ж пачаў праяўляцца фотаздымак.

Напачатку праявіўся фотаздымак Яніны. Прыжмурана адно вока, брыво ўскінута, слабая ўсмешка. Падалося, што яна па-змоўніцку падміргнула яму.

Пад здымкам пачаў пакрысе праяўляцца і тэкст. Не ўвесь адразу, а радок за радком. Як пісалася, так і паўтаралася:

Каханы мой і не каханы,
Цябе кахаць я не магу…
Служу табе заўжды аддана,
Заўжды табе дапамагу.
І не шукай мяне ніколі,
Бо заўжды побач я з табой.
Імкнёмся мы з табой да волі,
І кожны дзень ідзём у бой.
Я – твой анёл, твая ахова,
Твайго імкнення адкрыццё,
З табой заўжды ўлада слова, –
І так усё тваё жыццё.

Не ведаў Клімовіч, пісала Яніна тады, як сядзела побач за студэнцкай лавай, ці яшчэ раней, калі прагульваліся з ёю па ціхіх вулачках старога горада. Верш просценькі, але за простымі словамі праглядалася нешта больш значнае і глыбокае, якое яшчэ трэба асэнсаваць і зразумець. Ды і не верш гэта насамрэч, а зашыфраванае пасланне, якое яшчэ трэба разгадаць. Мо для гэтага яшчэ не прыйшоў час, не стварыліся ўмовы, не наладзілася ўстойлівая сувязь з космасам і са сваім унутраным светам.

Летапісец зноў склаў аркуш у чатыры столкі, паклаў у сшытак. Звязаў пакунак і паставіў на ранейшае месца. Некалі ён расшыфруе загадкавае пасланне, дастукаецца да сэнсу, і яму адкрыецца новае бачанне свайго жыцця, сваёй будучыні.

Абапёршыся рукой на франтон, глядзеў у акно. Вёска як быццам памянялася, стала іншай, не такой, як ён глядзеў на яе дзесяць гадоў таму. Тады і дрэвы былі нейкія ніжэйшыя, нават непрыкметныя, а цяпер вымкнуліся ў неба, схавалі дахі хат і хлявоў. Іншымі сталі Крушнікі, перарадзіліся, перайначыліся…

Яшчэ раз акінуў вокам гарышча, пераканаўся, што ўсё стала на сваё месца, што не парушыў суладдзя рэчаў, – пайшоў да драбіны, каб спусціцца.

Ішоў па вуліцы, убачыў, што насустрач яму, яшчэ ўсміхаючыся здалёк, крочыла Серафіма. Неяк імпэтна размахвала рукамі, як быццам дапамагала самой сабе ў хадзьбе. Яшчэ не падышоўшы да яго крокаў з дзесяць, усклікнула:

– То ты, Тонік? Добры табе дзянёк!

– І табе Серафімка! Як жывеш?

– Ды добра жыву, весела, радасна. Адным словам, лепш за ўсіх.

Вочы яе гарэлі нейкім таямнічым бляскам, і ў іх боязна было глядзець, але Антон Клімовіч прымусіў сябе не хаваць вочы і не апускаць іх долу, наадварот, не адводзіў позірк.

– Як ты, я ведаю, – жанчына засмяялася, паглядзела сабе пад ногі, на гумавыя боты свае паглядзела, – у гасцях быў. Але не гасцяваў, на службе знаходзіўся. Пісарам ты быў, ды не простым пісарам, а вялікім, пра славу вялікага чалавека расказваў. Бітву з маскоўцамі ты апісваў. Хораша напісаў. Улагодзіў душу Васіля Канстанціна.

«Адкуль яна пра тое ведае? – дзівіўся Антон. – Можа і яна там была разам са мной, ды я не прыкмеціў яе? Падыходзіла ж нейкая жанчына з глечыкам, паіла мяне малаком, ветліва ўсміхалася, мо гэта ты і была, Серафімка?»

– За тое ён і згодны быў заплаціць золатам, ды і сам жа сказаў, што ты не прынясеш яго сюды, бо яно растане, бы лёд. Але не растаў званочак Жучы, які ты нясеш у скарбніцу да каваля. Не захацеў займець сабе багацця, вяртаеш яго ўладальніку і часу. Правільна робіш, Тонік.

Голас у Серафімы ціхі, спакойны, і ў вачах ужо лагоднасць, і нейкім іншым чалавекам яна падалася яму, мо і не з гэтага часу, мо і не з мінулага, а зусім з іншага вымярэння і жыцця.

– А можа б ты забраў ад мяне і горшчычак з золатам, га, Тонік? – умольна паглядзела яна на яго, як упрошвала, спакушала, прапаноўвала. – Муляе мне яно душу, замінае, і ніяк не магу яго пазбавіцца. Мо і мае хваробы ад таго золата. Пад дубам ён закапаны, а ў мяне пачуццё, што пад грудзьмі нашу, як гадзюка запаўзла ў маю душу. Каб забраў, то я спакойная была б.

Ён адмоўна пахітаў галавой:

– Не, Серафімка, дзякую. Золата яшчэ нікому шчасця не прынесла.

– Так, нікому, – пацвердзіла скрушна, – вось і мне не прынесла… Каб жа мой Генадзь не прывёз гэтае золата, то і жывым бы застаўся, мусіць, а так… Значыць, шмат смерцяў на тым золаце, а ён мо пра тое і не ведаў…

– Не ведаў, Серафіма, і ў гэтым не яго віна. І куды ж ты ідзеш з кветкамі?

– На могілкі. Пакладу іх да помніка Юніцкім. Я ж з іх роду. У гэты ж дзень іх іх арыштавалі як польскіх шпіёнаў і потым пазабівалі нкусаўцы… Памалюся за душы нявінна забітых.

Яна ўздыхнула, нахіліла галаву.

– Ну то пара табе ўжо, ідзі да свайго дзядулі. І ад мяне, Тонік, кланяйся яму.

Серафіма як не пакланілася яму ў пояс, нахілілася, адвярнулася ад яго. І так з нахіленай галавой пайшла па вясковай вуліцы, ніводнага разу

не азірнуўшыся. А ён доўга глядзеў услед, шкадуючы аднавяскоўку, успамінаючы, якой прыгажуняй яна некалі была, усе заглядаліся на яе. Ад той прыгажосці і следу не засталося, амаль бабулькай зрабілася жанчына, адно вочы напаміналі пра яе маладыя гады ды голас яшчэ, які застаўся тым жа, што і некалі.

Спусціўся ў прырэчнае нізоўе, дзе ў трыснягах хавалася рачулка, знікала ў асацэ, віхляла між кустоўя. Крочыў берагам, не заходзячы ў мокры мурог, кіраваўся абранай сцежкай.

Неба над Крушнікамі азарылася нейкім таямнічым святлом, афарбавалася ў жоўта-смарагдавыя колеры, аздобілася купчастымі зеленкаватымі воблакамі.

Недзе там, на даляглядзе, нябачны лятак прачырыў белую лінію, павёў яе далей і далей, быццам разразаў неба на дзве палавіны. На адной палавіне, што спадала да гарызонту, адбіваліся сляды ад капытоў лёгкіх і хуткіх коней, чуўся іх тупат, а ваяры трымалі над галовамі бліскучыя мячы. Адно бачны толькі кудлатыя грывы тых коней, ды во што яшчэ – ляцяць з-пад капытоў бліскучыя стрэлы, – залатыя падковы высякаюць з камянёў вечнасці іскры-знічкі. Ад іх, мусіць, і загараліся ў нябёсах зоркі.

На верхняй палове, адразу за белай вузкай паласой, вымалёўваліся дзіўныя відарысы – ці то людзей, ці нябесных насельнікаў, і сярод іх выдзяляліся святыя, прарокі і вешчуны. І яны ўсе жывыя – ходзяць па небе, перамаўляюцца, накладаюць на сябе крыж. І Антон падумаў: «То за нас яны моляцца, просяць у Вышняга заступніцтва».

Стаяла незвычайная цішыня.

Нават голасу птушак не чуваць, як пахаваліся.

Мінуў адну выспачку з высокай купай лазняку, потым другую. Пазнаваў і не пазнаваў мясціну, па якой крочыў неаднойчы. Ведаў, што не заблукаў, што нябачная сцежка прывядзе яго ўсё ж да ўзгорка, унізе якога, на схіле, і знаходзілася Міхасёва альма матар. «Ну няхай мяне сустрэне не кузня, дык хоць тое, што засталося ад яе. Хоць нейкі ж след павінен застацца, якая патарчака ці рэштка фундаменту, аснова».

Калі ж агінуў і трэці вербалоз, вачам не паверыў: пад разгалістым дубам, галіны якога амаль датыкаліся да зямлі, атулілі сваімі лапінамі дзедаву кузню, шырокае лісце густа ўкрывала дах. Тарганулася нешта ўсярэдзіне, салодкая цеплыня разлілася па целе: «Няўжо? Няўжо дзедаву забудоўку не кранаў ні час, ні вятры, ні дажджы? І ці жывы хоць сам каваль? Ды як ён можа быць жывым, калі яму цяпер больш за стагоддзе?.. Мо Наста хлусіла, што ён у кузні, баючыся зрабіць мне балюча?»

Дык гэта яшчэ не ўсё. На лаўцы, што прытулілася да дашчанай сцяны з правага боку ад дзвярэй, сядзела дзяўчына, трымала ў руках кнігу. Яе адразу Антон і не прыкмеціў: злілася колерам свайго адзення з дошкамі, усторч прыстаўленымі адна да адной. Падышоў бліжэй і яна, адарваўшыся ад чытва, узняла галаву.

– Ты, Яніна? – падзівіўся летапісец. – Адкуль ты тут?

– Адтулека, скулека і ты. Не чакаў?

Не ведаў, што адказаць.

– Ты ж з'яўляешся заўсёды нечакана.

– Я з'яўляюся тады, калі неабходна. Да каваля ў госці? – перавяла на іншае.

– Так.

– Сёння шаснаццатае лістапада.

– Гэта ж дзень каваля…

Дзверы закладзены на металічную перакладзіну, чулася, што ў кузні нехта быў. Адтуль даносіўся слабы покліч молата аб кавадла. У прабоі вялізны замок, але не заржавелы, бачна было, што ім карысталіся, нават нехта заліваў у яго машыннае масла. Пакратаў – дужка лёгка выскачыла з адтулінкі.

Зняў замок, павесіў на вялізны цвік, што прымацаваў некалі каваль пад брылём даху, адкінуў канец засаўкі ад дзвярэй.

Яніна стаяла побач. Трымала ў руках кнігу, на вокладцы якой, паспеў прыкмеціць, намаляваны вершнік з мячом над галавой, – назірала, што рабіў Антон.

Расчыніў насцеж дзверы, але не рашаўся пераступаць парог. Нечага вагаўся. Паглядзеў на Яніну, быццам у яе пытаўся дазволу зрабіць першы крок. Яна ж маўчала, безуважна гледзячы на яго.

Стоячы на месцы, гукнуў у цемру прачыненых дзвярэй кузні:

– Го-го, ты тут, дзед Міхась?

Нешта гухкнула ў глыбіні кузні, потым дзынкнула, быццам упала са стала вядро і пакацілася з грукатам па падлозе, і тады даляцела вясёлае да вушэй гасцей:

– Тут я, тут, Антоне, летапісец ты мой дарагі! Чакаю цябе, чакаю, унуча! Ты ж не адзін, а са спадарожніцай сваёй?

– Так, мы з Янінай.

– Тады заходзьце! Гасцям я заўсёды рады.

Але першым Антон не пайшоў – прапусціў Яніну Альшанскую.

Сам жа затрымаўся яшчэ на нейкі час.

Перад тым, як пераступіць парог, азірнуўся. Быццам хацеў запомніць надрэчны краявід, баючыся, што і на гэты раз можа з ім развітацца надоўга.

Ён да ўсяго быў гатовы.

Да яго ног краўся-сцяліўся шызым малодзівам празрысты туман…

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Партал пазнаў і прыняў іх, і яны ўвайшлі ў яго як у родную хату.

Для іх зноў пачынаўся новы перыяд іхняга існавання на планеце. І ў Сусвеце.

Антону Клімовічу і яго анёлу-ахоўніку Яніне Альшанскай неабходна было зноўку пражыць і перажыць, невядома якое па ліку, чарговае жыццё.

*2010–2015*

# ЗМЕСТ

Свой водгук на кнігу можна даслаць аўтару на яго e-mail:
bar-anatol@yandex.by ці 5-1943@tut.by

**16+**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Бароўскі** Анатоль

**Кузня**
*Подступы да рамана*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Вольга Калацкая
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Вольга Калацкая

Падпісана да друку 12.06.2018. Фармат 60×84 1/16.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 23,33. Ул.-выд. арк. 22,62.
Наклад 150 ас. Зак. 241.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.